ББК 84 Бел 7
К 21

Прадмова М. Стральцова

Мир романа «Пуща», который вошел в избранные произведения,— природа. А герои — лесничие, егери, охотники. Жизнь в лесу, в лесной деревеньке оказывается не такой уж спокойной, как кажется поначалу. Здесь существуют конфликты между любовью и предательством, совестью и душевной слепотой.

Повести, которые включены в этот том, лирические и в то же время драматические произведения о любви и чувстве долга.

Карамазаў В.

К 21 Дзяльба кабанчыка: Выбранае/Прадм. М. Стральцова.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 560 с., 1 л. партр.

ISBN 5-340-00366-3

Свет рамана «Пушча», які ўвайшоў у выбраныя творы,— прырода. А героі — леснікі, егеры, паляўнічыя. Жыццё ў лесе, у лясной вёсачцы аказваецца не такім спакойным, як здаецца напачатку. Тут існуюць канфлікты паміж каханнем і здрадаю, сумленнем і душэўнаю слепатой. Героі твора жывуць не толькі ў свеце сваіх праблем, але і складаных праблем жывой прыроды.

Аповесці, уключаныя ў гэты том, лірычныя і ў той жа час драматычныя творы аб каханні і пачуцці адказнасці.

К $\frac{4702120200-044}{М\ 302(03)-88}$ 107—87

ББК 84 Бел 7

ISBN 5-340-00366-3

# ВЯСЁЛКА І СТРЭЧНЫ ВЕЦЕР

Я — пра Віктара Карамазава, чалавека, лёгкага на хаду,— падарожніка, журналіста, паляўнічага, не чужога і яшчэ шмат якім захапленням. Этнаграфіі і гістарычнаму краязнаўству, музычнаму фальклору і прыкладному мастацтву — не ў тым сэнсе, што збірае калекцыі, пашпартызуе запісы песень ці абпальвае ды палівае, паводле свайго не боскага, а чалавечага занятку, гладышы ды гаршчкі. Проста гэтым усім ён жыве, як натура ўражлівая, асоба дынамічная ды мабільная... Дальбог, ледзь не сказаў — аўтамабільная, згадаўшы чамусьці ягоную «Ніву», сваячку сціпламу якому-небудзь «казлу», ці як яго там яшчэ, асуджанаму на селавыя ды лясныя дарогі, на глыбокія катавіны, пясок ці гразюку ў слату. А мо нават і сваячку рупліўцу і шчыруну каню, якога можна прывязаць да любой штакеціны ці да прыдарожнага дрэва, падкінуць якой канюшынкі ці шчуплага, зляжалага сянца, а самому падацца ў тлум, да грамады чалавечай. Гэта машына-трудзяга, не дзеля шыку нейкага ці паказухі, гэта адзін з сучасных сродкаў пазнання жыцця, а то і прылада працы, як, напрыклад, пішучая машынка ці дыктафон. Гэта той выпадак, калі даброты «цывілізацыі», рэчы не засланяюць чалавеку жыцця, не ператвараюцца ў «прычындалізм» (можа, гэтак перакласці тут рускае «вещизм»?), а служаць узбагачэнню душы і пазнанню навакольнага свету.

Зайздросная гэта якасць — надаваць духоўнасць, асэнсаванасць рэчам. Гэта не менш важна, як і талент жывой, ненатужнай цікавасці да самога жыцця, да адметнай шурпацінкі ў самім чалавеку, якую Леанід Ляонаў, вялікі знаўца розных прафесійных ды псіхалагічных рарытэтаў, здаецца, удала назваў «пупырышком» — накшталт мецінкі нейкай ці радзімкі, якой пазначаны чалавек і якой кідаецца ў вочы і запамінаецца стрэчнаму, ну а мастаку — тым болей. Але гэта не вонкавая прыкмета нейкая, а своеасаблівы выдатак выключнай любові да сваёй справы і прафесіі, якая, паводле Ляонава, нешта накшталт «прываднога паса», што лучыць чалавека з самім грамадствам,— на карысць як самой асобе, так і супольнасці людской. Прафесія — гэта не толькі веды, але і майстэрства, і спосаб рэалізацыі асобы, і па-

цвярджэнне яе годнасці, права заявіць свае дзейсныя адносіны да жыцця.

Мне невыпадкова згадаўся тут Ляонаў. Думаецца, што Карамазаў, задумваючы сваю «Пушчу», безумоўна, раіўся з ягоным «Рускім лесам», пра што, дарэчы, напісаў і сам у пранікнёным эсэ «Калінава сіла». Паслухайце: «...свет Ляонава, ягоны лес маюць, здаецца, шмат ад майго роднага лесу, ад маёй Лімені, Ліменшчыны. А таму мне і радасна, што ад Пусташы ў жыццё пайшло гэткае шчодрае святло..., бо гэта як бы падказвае, што і ад Лімені ў жыцці светла».

Вядома, Карамазаў напісаў сваю «Пушчу» не толькі таму, што меў перад сабой творчы прыклад такога пісьменніка, як Ляонаў. Тут усё складаней. Зробленае мастаком такога ранга, як аўтар «Рускага лесу», любога іншага празаіка ў роўнай ступені можа як натхняць, так і абяззбройваць,— і дзе гарантыя, што табе наканавана не першае, а другое? Ляонаў быў наватарам, ён апярэджваў час, ён прабіваўся да «экалогіі» праз мастацтва, а цяпер — іншае, цяпер, можа, найпершая і найцяжэйшая задача, як в гэтай балючай усім нам «экалогіі», што душыць не толькі наша маральнае ды эстэтычнае пачуццё, але і самы празаічны, паўсядзённы быт,— як з гэтай абрыдлай «экалогіі» зрабіць «мастацтва»? І сапраўды, як? Можа, такі вось ход думкі прывёў Карамазава да ягонай «Пушчы», надаў яму смеласці ўзяцца за раман.

Не хачу, каб падалося, што ўся справа ў тым, каб напісаць абавязкова раман, хоць гэтая раманная спакуса ў нашым пісьменніцкім асяроддзі, што ні кажыце, ёсць. Раман існуе, пра яго пісалі, гаварылі, гавораць і, пэўна, будуць яшчэ гаварыць хаця б у сувязі з іншымі задумамі пісьменніка, сведкамі рэалізацыі якіх нам давядзецца, маем спадзяванне, яшчэ быць. Адно зразумела і бясспрэчна: мастацкі і грамадзянскі вопыт, няхай, можа, і не заўсёды пераканаўча рэалізаваны ў менавіта раманных формах, непрыдумана карамазаўскі, арганічны, ён тое, што караніцца ў аснове ягонай творчай і чалавечай асобы, знаходзячы сабе рухомае, дзейснае грамадзянскае і грамадскае, этычнае і эстэтычнае выяўленне. Не проста так, не дзеля акрасы пішу я гэтыя, блізкія нават паводле гучання і трохі ўзнёслыя словы.

Карамазаў празаік надзвычай сучасны, і самае дарагое ў гэтай ягонай, па-свойму таксама дарагой рысе тое, што ён падрыхтаваны, як не кожны сённяшні празаік, да творчай трансфармацыі сучаснага матэрыялу ўсім сваім жыццёвым і асабовым вопытам: выхаваннем, уласцівасцямі ўражлівай, артыстычнай паводле складу свайго натуры, любоўю да чалавечага ўмельства ў любой галіне, няхай нават і ў такой, здавалася б, далёкай ад літаратуры, ды яшчэ з філалагічнай адукацыяй, галіне, як тэх-

ніка. Гэта таксама карамазаўская «сучаснасць», якая так добра адпавядае спробе сучаснага чалавека захаваць у сабе ўнутраную гарманічнасць насуперак напорнаму наступу нашага тэхнічнага веку. Захаваць не праз адмаўленне даброт машыннай цывілізацыі, а «варожасць» тэхнікі, тэндэнцый да аўтаматызацыі духоўных і душэўных працэсаў нейтралізаваць сваёй уладай над імі, ачалавечыць іх, зрабіць працягам свайго духоўнага свету. З ворага зрабіць памочніка і сябра.

Колькі сёння ёсць у нас «аматараў прыроды», што дратуюць лугавіны і лясы, засмечваючы іх хлорвінілавай хіміяй, бутэлькамі ды бляшанкамі, аматараў нагрузіцца дабротамі лесу, не адыходзячы далёка ад уласнага легкавіка,— і ў ход ідзе якое-небудзь «цывілізаванае» прыстасаванне, каб адным махам абдзерці ягадны куст, каб успароць у вадзе жывот жывой рыбіне. Колькі сёння ёсць «аматараў» пракаветнасці, у сапраўднасці не столькі абаронцаў традыцый ды хавальнікаў гістарычнай народнай памяці, колькі драпежнікаў пад засенню «экалагічнай» ці якой іншай моды, сучасных мяшчан з вялікай здольнасцю сацыяльнай і грамадскай мімікрыі.

Карамазаў не піша сучаснай ідыліі, хоць любімы герой ягоны — звычайна чалавек добры, уражлівы, трохі летуценны нават. Такія Іван з аповесці «Дзень Барыса і Глеба», Арсен з «Бярозавых венікаў», Пракопчык са «Спіралі», Валошка з рамана «Пушча». Але ён і актыўны, гэты герой, не столькі, можа, ва ўчынку, калі разумець яго як пастаяннае напрошванне на канфлікт,— актыўны ўсім ладам і сэнсам сваёй жыццёвай, маральнай пазіцыі, наяўнасцю нечага цэльнага, глыбока чалавечнага і прыгожага ў натуры. Герой звычайна вельмі добра «закампанаваны» ў прыродзе, пастаўлены ў сувязь са сваім жыццёвым вопытам, прафесійным заняткам. Карамазаў любіць чалавека, які калі не цвёрда стаіць на зямлі (гэта не тое слова, неяк не ў характары не тое каб героя, а не ў характары самога пісьменніцкага падыходу), дык ведае, як быць у згодзе з гэтым светам, са сваёй душой, са сваёй прафесіяй, якая не проста сродак заробку, а сродак пазнання нейкіх жыццёвых каштоўнасцей, без якіх ні ў працы, ні ў адпачынку не будзе добра пачувацца чалавеку.

Ціма, Князь з аповесці «Дзень Барыса і Глеба», вунь як упэўнена ступае па зямлі — пры сваім стракатым гальштуку і заліхвацкім капелюшы, а хіба пазайздросціць яму вясковец Іван, сціплы працаўнік і добры, немітуслівы ў жыцці чалавек? А якой нікчэмнай, напрыклад, можа выглядаць ягоная жыццёвая «філасофія» побач з сапраўднай рабочай гордасцю Пракопчыка са «Спіралі»: не, ён не хлюст, не бяздумны энтузіяст нейкі, а чалавек, для якога праца стала не толькі патрэбай, але і сродкам выяўлення сваёй асобы, сваёй жыццёвай пазіцыі — без

пастаяннай хапатлівай думкі пра гэта, а проста працоўнай і маральнай нормай.

Нечым дарагое мне ў Карамазава апавяданне «Прыліпала». Мо інтанацыяй сваёй, вельмі натуральнай, мо выбарам героя, мо таму, што яно з ранніх, тых, што шчасліва і неяк адразу раскрываюць нам не толькі душу пісьменніка, але і значаць жыццёвую лапінку — матэрыял, на якім найбольш раскрываецца пісьменнік — праз выбар героя і ягоную дапасаванасць да аўтарскага пошуку як у жыцці, так і ў самім сабе...

Слухай, гэта ж не так даўно, здаецца, мы і пачыналі, дарагі мой сябра Віктар!

У тым апавяданні чуецца ды згадваецца мне збержаная акалічнасцямі ды чалавечай руплівасцю лясная лапінка прыроды — верагодней за ўсё, што ў Чэрыкаўскім заказніку, які так добра выхадзіў ды вывучыў пісьменнік — у тых мясцінах, вобраз якіх з дзяцінства запаў і ў маё сэрца. Ёсць, вядома, ёсць сувязь паміж душой чалавека і характарам, вобразам акаляючай яго прыроды. І там, і тут як бы нябачная нейкая прысутнасць рухомай і няўлоўнай субстанцыі, што абзываецца то ва ўчынку чалавека, то ў абліччы ягоным, то ў зажуранасці ягонай або вясёласці. «Расплюшчыўшы вочы, я разгледзеў над сабой месяц, убачыў надзіва вузкія пёры аблокаў. Празрыстыя, нібыта марлевыя, воблакі распаўзаліся па ўсім небе, і яно нагадвала зямлю, такую ж белую ад туману. Нібыта і тут, вакол капы, і там, вакол месяца, слалася адна і тая ж стыхія, а берагі ў іх былі таксама адны: круг лесу».

Так і наша пісьменніцкая стыхія: берагі ў яе адны — жыццё, родная мясціна, чалавечы лёс, што тчэ намітку нашых дум і парыванняў.

І ранні карамазаўскі герой, як той Сярожка-«прыліпала» — спагадны сам і такі даверліва-чуйны да чужой спагады і ласкі,— ахінуты таксама наміткай аўтарскага любавання, нават расчуленасці ягонай,— толькі не сентыментальнасці, не. Проста «намітка» тая сатканая найбольш з валаконцаў пачуцця, якое апярэджвае развагу, ці хоча так адгарадзіцца ад яе хоць на нейкі час: у маладосці мы ўсе трошкі рамантыкі. Хвала таму, хто не забываецца на тую рамантыку маладосці, хто бярэ ўспамін аб ёй у «ожесточающую зрелость», як сказаў некалі Гогаль. Такому чалавеку лягчэй жыць, бо чалавека з верай, з марай цяжэй зламаць жыццёвым выпрабаваннем, цяжэй зрабіць з яго нечалавека. Бездухоўнасць, бяспамятнасць пра «другую стыхію» — вялікае зло і вялікае паражэнне чалавека.

Сталы празаік Віктар Карамазаў гаворыць пра гэта ў цудоўных сваіх, строгіх паводле як мастацкай фактуры, так і паводле спосабу выяўлення аўтарскіх адносін апавяданнях апошніх год,

сярод якіх «Дзяльба кабанчыка», «Галуба», «Гарадскія», «Галапагосы» варта аднесці да лепшага, што было напісана ў гэтым жанры нашымі навелістамі за апошнія гады. Тут Карамазаў і адчуў сябе і рэалізаваў у дастатковай і ўражлівай ступені сапраўды сталым майстрам.

Яны вастранадзённыя, гэтыя апавяданні. Мне здаецца, што яны не былі б напісаны Карамазавым без ягонага вопыту нарысіста, без вопыту мэтанакіраванага, у сацыяльна-маральным аспекце, вывучэння жыцця. Іменна вывучэння. Тут якраз той выпадак, калі гэтая зацяганая фраза не выклікае ўнутранага супраціўлення, калі яна дарэчы і пішацца без усялякай натугі, бо сапраўды празаік ніколі не цураўся аналітычных і публіцыстычных магчымасцей слова, а вопыт нарысіста і эсэіста набываў упарта і паслядоўна, ставячы яго нароўні з іншым клопатам празаіка-мастака. Успомнім ягоныя «Руны мараны» пра паездку ў Карэлію, «Векавое» — пра нашы палескія лясы галоўным чынам, хоць і не толькі пра гэта, цудоўную «Вясёлку сярод зімы» — пра неглюбскіх вясковых ткаляў,— колькі гэтаму аддадзена часу, душэўнага парывання, шчыравання над словам!

У «Дзяльбе кабанчыка» па-мастацку жорстка і надзіва навочна, з выдатным пранікненнем у матэрыял пастаўлена праблема (зноў я чамусьці не баюся зацяганага азначэння) — укаранёнасці чалавека ў жыцці — укаранёнасці маральнай, духоўнай у першую чаргу, праблема адвечнай спадчыннасці нашага чалавечага абавязку, без якой мізарнее, абрастае поўсцю чалавечая душа, наліваецца жывёльным лоем.

У «Гарадскіх» — ці не тое ж. Нядаўнія вясковыя хлопцы, цяпер гараджане, як і тыя, што з'ехаліся ў вёску на дзяльбу матчынага кабанчыка, падмеліся на лета пасвіць калгасных кароў, і мы разам з аўтарам жахаемся таму, як нечувана скора выпетрала ў іх нешта (што?): любоў да сялянскай працы, да грамадскага набытку, як мала засталося людскога ў душах іхніх.

У «Галубе», гэтым трапятліва стрыманым паводле інтанацыі, скупа і проста напісаным (бадай адно дыялог) апавяданні пра вясковую кабету, жыццё якой бадай што адны страты — мужоў, дзяцей, надзеі — і якая не пахіснулася ўсё ж перад жыццём, не скамянела сэрцам, найбольш выразна паўстае цудоўная якасць прозы Карамазава: яе душэўная пранікліваць і разам з тым датклівасць, расхінутасць перад чалавечай душой пры тактоўным адчуванні меры — псіхалагічнай і мастацкай. Не менш цікава, напрыклад, і тое, што аўтар тут, сам таго, можа, не хочучы і пра тое не здагадваючыся, выкарыстаў па-свойму матыў чэхаўскай «Душачкі» — але на якім новым матэрыяле і з якімі новымі высновамі!

У «Галапагосах» перад намі таксама адзінокі, пакрыўджаны лёсам стары, начны дзяжурны ў кацельні, але ж летуценнік і чалавек з вялікім запасам жыццёвай мудрасці і жыццёвай трываласці і веры.

Людзі гэтыя не толькі дакор і папрок персанажам з апавяданняў «Дзяльба кабанчыка» і «Гарадскія», яны папрок і сумленню нашаму, заклік да грамадзянскай і маральнай актыўнасці і адначасова разумнае выхаванне нашага пачуцця.

Харошы, па-харошаму круты разгон узяў празаік Віктар Карамазаў на жыццёвай сваёй і творчай дарозе, над якой яму зырка свеціць вясёлка не толькі летам, але і сярод зімы. Не супыняйся, браце,— ідзі і імчы: так маладзіць душу стрэчны вецер!

*Міхась Стральцоў*



# Частка першая
# ЗІМА

## АБНОВА

### 1

Юрась не спаў.

Шырока адкрытымі вачыма ён глядзеў на сіняе начное акно, а чуйнымі, нібы ў аляняці, вушамі лавіў кожны ўздых, кожны шоргат за дашчанай перагародкай, на печы, дзе з боку на бок, таксама доўга не засынаючы, цяжка варочалася баба Юста. Юрась ведаў, што яна не хутка стоміцца ўздыхаць да варочацца, можа пракачацца, не звёўшы вачэй, да самага світанку.

На прасценку не змаўкала радыё. Позняй гадзінаю з малой пашарэлай скрыначкі цадзілася ледзь жывая музыка — нанач радыё не выключалі, бо на досвітку яно будзіла, усіх ставіла на ногі.

Каторы раз пачуўшы з печы незагойнае «о-ох!», хлопчык сцяўся, быццам вінаваты перад бабай Юстаю, стаіўся пад мяккай ватовай коўдраю. Крыху паляжаўшы, крадком, ледзь дыхаючы, нагамі сапхнуў з сябе коўдру, звесіў ногі з канапы на яшчэ цёплую падлогу, з хвілінку прыслухоўваўся і, упэўнены, што глухава-

тыя бабчыны вушы яго не чуюць, пачаў апранацца.

Звечара лёг першы снег, іскрыўся пад ясным, з поўняю, небам — у хаце было светла. Юрась апрануўся, на дыбачках падкраўся да парога, сцягнуў [illegible] вешалкі, ласінага рога, мяккую бабуліну фуфайку — тое, што трапілася пад рукі,— сунуў яе пад паху, нячутна адчыніў, як толькі ён адзін мог адчыняць, лёгкія, філёнкавыя дзверы і выскачыў у сенцы. За дзвярыма лягчэй уздыхнуў — на душы павальнела,— ускінуў на плечы фуфайку, засунуў рукі ў рукавы, цапнуў за цемя — дзе шапка? Але ў хату вярнуцца нават не падумаў: не бяда і без шапкі.

Кумільгам, ні разу не скавытнуўшы, у ногі кінулася Мальва — Юрась ледзь не паляцеў.

— Пайшла ты!..

Дарога ляжала падсінена-белая, мяккая, хоць бокам кацiся: мроістая віднота праменіла не толькі ад снегу, што жаданай абноваю абляпіў зямлю, дрэвы, платы, стрэхі, ганкі, але і ад месяца, які даўно не ззяў гэтак зырка, ад зор, што абсыпалі неба, ад іскрыстага пылку, які ледзь прыкметна сеялі не то зоры, не то дрэвы. Юрась ішоў насляпкі, калі задзіраў твар угару, глядзеў у неба, дзе іскрыліся сняжынкі і зоры,— сняжынкі падалі яму на твар, казыталі шчокі, вочы, чапляліся за павекі. Юрась часта міргаў, жмурыўся, адкрываў рот і ротам, языком спрабаваў лавіць сняжынкі. Яны казыталі і язык, аж весела рабілася. Прысеўшы пасярод дарогі, набраў снегу поўныя прыгаршчы. Снег быў не халодны, свежы, нібы раніншяя вада пад рукамыйнікам. Юрась прыклаўся да яго шчакою, заплюшчыў вочы.

Мальва забегла далёка ўперад, але вярнулася. Жартуючы, ён абсыпаў яе снегам, а яна, бліскаючы жаўтлявымі, што начныя ліхтарыкі, вачыма, атрэслася і выпрасталася ля хлопчыка, ды тут жа яўкнула, падскочыла. Ён падумаў, што яна легла на штосьці вострае, мо які камень пад снегам, і аж сам скалануўся ад болю — вось калі пачуў ледзяны холад спіною, пад кашуляю. Адразу, як і Мальва, ускочыў на ногі.

Зноў пайшлі. Далей.

Мальва трусіла паперадзе. Зрэдку яна спынялася, азіралася на хлопчыка, пачынала енчыць, лізаць ладную, з казінае вымя, хворую цыцку, якая, можа, балела, а можа, мерзла. Юрасю было балюча думаць, чуць і бачыць гэта — ён любіў Мальву. Неяк бацька супа-

койваў, што з часам цыцка падбярэцца, паменее, ды яна не менела, і ўжо ні Юрась, ні бацька не маглі прыдумаць, як пасобіць Мальве. Не варта было доўга трымаць пад ёю цельпукаватых аблавухіх сысункоў. Бацька тады казаў, каб адняць іх ад Мальвы, ды Юрась у слёзы кінуўся, пашкадаваў разлучаць сучку з малымі. Ці ён ведаў, што гэтакая трасца прычэпіцца?

Юрась і Мальва мінулі доўгі бульвар, дзе раслі парадзелыя старасвецкія ліпы, перасеклі пустую базарную плошчу, потым Варшаўку, па якой ужо і машыны не бегалі — позна,— завярнулі за школу і выганам, снежнай роўняддзю, далей пагналі свае сцежкі. Злева пад месяцам ззяла разложыстае сівое поле, а справа пачалася цагляная агароджа, за якою чарнелі яшчэ мала абсыпаныя снегам саўгасныя майстэрні.

Ля прахадной бухаў нагой аб нагу, валёнкам аб валёнак, каб не скалець, вартаўнік у доўгай парусінавай бурцы, ускінутай паверх кажуха.

— Гэй, малы! — хрыпатым, прамёрзлым голасам гукнуў ён. Заўважыў Мальву, і голас адразу памякчэў: — Га-а, сучачка прывяла? Дзела яснае. Ву-унь шыбка жаўціць у Пятровіча.

Пакінуўшы Мальву на дварэ, Юрась увайшоў у майстэрню. Ля ўвахода адразу ўбачыў такарны станок, за станком — гару ўсялякага ламачча, жалезных абрэзкаў, зверху на іх ляжала трактарная гусеніца. Ціша, вусціш, халадэча, мабыць, не меншыя, як на дварэ, стаялі тут. Пахла саляркаю, цаглянай прэллю, сырасцю. Юрась на дыбачках прабраўся паміж станком і ламаччам, зірнуў на нізкую дашчаную загародку: там, ля варштата, на тоўстай калодзе сядзеў бацька — спаў, пахропваючы, узваліўшы галаў на рукі, над якімі скамечыўся вялізны аркуш паперы, чарцёж. Юрась узрадаваўся, што бацька побач, цішком падышоў бліжэй, каб пабудзіць, ды раптам сэрца сціснула іншае пачуццё: шкада зрабілася бацькавага сну.

За сцяною скавытнула Мальва — звала да сябе.

— Тата?!

Шырокія плечы сцепануліся, галава цяжка, нібы чыгунная, прыўзнялася, вузкія пачырванелыя вочы ўставіліся на Юрася:

— Ты чаго тут, сын?

— Пайшлі дадому.

— Га-а!..— нібы цяпер толькі ўспомніў, што недзе ёсць дом.— Пойдзем, сынок. Пойдзем.

Вялізная цёплая далонь лягла на Юрасёву галаву.

— Без шапкі?

— Уставай, тата...

Юрась мог прызнацца бацьку, чаму ён без шапкі, як лоўка абхітрыў бабу Юсту, але маўчаў, нібыта баяўся рот раскрыць, уважліва сачыў за бацькавымі парэпанымі, чорнымі ад жалеза рукамі, якія нетаропка збіралі інструмент, згортвалі чарцяжы, сачыў і дзівіўся, чаму бацька гэтак марудна збіраецца, усё роўна як не рады ісці дадому, як не хоча ні есці, ні спаць палюдску. Але вось ён павярнуўся да Юрася, узяў яго за плячо, весела міргнуў яму і павёў за вялізны прэс — за прэсам стаяла тая самая машына, якая ўсе вечары забірала бацьку ў Юрася, у бабы Юсты, у Мальвы.

— Гэта яна, сынок. Мая звада.

Юрась ведаў, як прывязаўся бацька да сваёй машыны, хоць яшчэ невядома, калі яе зробіць і ці ўдасца яна яму, ці пасадзіць яна ў зямлю хоць адно лясное каліва. Можа, яшчэ не ён яе даканае, а яна яго, як кажа баба Юста. Ды і што гэта за машына? Жалезная ржавая рама, нарог, тупарылы, як морда ў бульдога, колы пад рамаю, скрыня бляшаная, ланцуг, быццам [illegible] бензапілы, толькі [illegible] рэдкімі зубамі, таўсцейшы і доўгі. Не, такая тэхніка Юрася не ўражвала, і бацька гэта заўважыў — спытаў:

— Не падабаецца?

Язык не павярнуўся сказаць праўду — няпэўна павёў плечуком.

Бацька ўсміхнуўся, зусім не зазлаваўшы, моўчкі сабраў на машыне анучы, выцер аб іх рукі, потым зняў са свае галавы кудлатую заечую шапку і нахлабучыў яе, вялізную, нібы капа, на Юрасёву малую галаву, на самыя вочы. Юрась адмахнуўся, заўпарціўся — не любіў, калі яго глядзелі ды шкадавалі, як малога,— аднак бацька настояў, і яны мірна выйшлі з майстэрні.

Дарога дадому здалася весялейшаю, як з дому да майстэрні. Можа, што з галавы дарэшты выветрылася млявая санлівасць, а можа, таму, што побач тупаў бацька, ля якога, што ні кажы, і смялей, і думкі ўсплываюць іншыя: не пра Мальву, не пра бабу Юсту, яе охі-ахі, а пра ўсю гэтую раскрылую на бяскрайні абсяг ноч, яе жаданую ўладу над душою. Можа, гэта былі нават не думкі — бясконцы светлы настрой, але такога настрою Юрась даўно не адчуваў, бо даўно не

ведаў гэтакай мяккай дарогі, гэтакага белага, нібы з новага снегу вылепленага, месяца, нетаропка-лёгкага снегападу, калі ўсе сняжынкі, здаецца, можна заўважыць і палічыць. Кожная падала не адна, выскубвала з неба срабрыстую нітку, цягнула яе аж да зямлі, нібыта сшывала той ніткаю зямлю з небам, і Юрасю здавалася, што гэтымі белымі ніткамі шылася сённяшняя абнова, тая белая чысціня, што атуляла не адны дамы ды вуліцы, але і Юрася, бацьку, Мальву. Ажно ў грудзях замірала. Было радасна, што на вуліцы цішынярцішыня, што Мальва трухае нячутна, як у сне, што ніхто нідзе — ні блізка, ні далёка — не падае ані голасу, ані шолаху.

І яшчэ здавалася Юрасю, што бацька і Мальва адчувалі на гэтай дарозе тое самае, што адчуваў ён.

Свята?..

Ах!.. Дзіўныя ночы наведваюць зямлю, людзей і звяроў.

Калі падышлі да хаты і бацька шырака расхінуў веснікі, спачатку нагою адгробшы ад іх белую пуховую наспу, Юрась нават пашкадаваў, што ля веснікаў дарога скончылася, што цяпер ён зноў ляжа ў цёплую пасцель, тоўстымі сценамі хаты адгародзіцца ад свае самай вялікай радасці — ад першага снегу.

Але... не бяда. Спаць у гэтакую ноч ён усё роўна не будзе, а снег ад яго нікуды ўжо не збяжыць. Заўтра — усяму працяг. І снегу, і святу...

## 2

Звычайна Валошка ўставаў раней за ўсіх у хаце, калі б ні клаўся, рана ці позна. Босы, у майцы, адно штаны ўсцягнуўшы, яшчэ не асвяжыўшыся на дварэ, ён усаджваўся на кухні ля акна, прачыняў фортку і пад ёю закурваў.

Сёння з раніцы пачаў даймаць моцны сухі кашаль, і, каб не бухаць, нібы ў трубу, у хаце, каб без пары нікога не пабудзіць, ён на босыя ногі надзеў валёнкі, накінуў на плечы леснікоўскі кіцель з зялёнымі пятліцамі і выйшаў у сенцы.

Па спіне сыпанулі дрыжыкі. Прасунуўшы рукі ў рукавы і зашпіліўшы кіцель на ўсе блішчастыя гузікі, Валошка прымасціўся на краі ўслона, застаўленага вёдрамі, паўміскамі, чыгунамі, выкурыў адну цыгарку, ад

яе прысмаліў другую, курывам сагрэўся і якраз тады пачуў у хаце матчыну буркатню. Падумаў: «Цяпер пачне ўшчуваць, нібы малога».

Хатнія дзверы якраз адчыніліся, і маці, нават не глянуўшы на сына, ціха, неяк бокам, балюча перастаўляючы хворыя ногі, з чыгуном у руках, апранутая ў доўгі, з закасанымі рукавамі, стары сынаў кіцель, які даношваўся дома ўсімі, хто хацеў, у валёнках, абвязаная шарсцяной шэрай хусткаю, пераступіла парог, падышла да ўслона, з вядра ў чыгун, бразгаючы медная конаўкай, пачала наліваць ваду. Правая рука насіла над посудам конаўку, то пустую, то поўную, а левая трымала чыгун, учапіўшыся ў брыж, і Валошка доўга не зводзіў вачэй з матчыных рук: шэрыя ад вечнай работы, яны за апошнія гады ўсохлі, паменелі, як і ўся яна, скура на руках патрэскалася. «Старэе. Надта хутка старэе». Па руцэ бачыў, як таяла, нікла матчына жыццё. «Але ж трэба яшчэ мадзець. Ой трэба! Пакуль Юрась малы. Сама разумееш, мама. Старая гаспадыня ў хаце, вядома, не тое, што маладая, не тая ўпраўнасць, але зусім без жанчыны не стаіць ніводная халупа. Пуста, калі няма жанчыны. Пуста і холадна. Невыносна».

Маці наліла чыгун, нервова бразнула конаўкай аб услон — паставіла конаўку — і тады загаварыла:

— Адразу за курыва? Варухніся хоць дзіця пабудзіць.

— Хай паспіць.

— Трасца ганяе вас па начах.

Яна падалася ў хату, і Валошка, бухаючы, аж у грудзях усё скаланалася і балела, устаў з услона, пайшоў за ёю следам.

Юрась ужо сядзеў на канапе ў белых трыкатажных споднiках і белай сарочцы, тулiў голаў у плечы, калаціўся ад ранішняй свежасці.

З кухні ў прачыненыя дзверы сачылася, ляжала праз усю падлогу, жаўтлявая жылка святла. Ад дзвярэй, ад шчыліны ў іх, святло сеялася па ўсёй хаце, і ў гэтым кволым святле, ды яшчэ ў белых споднiках, сын выглядаў зусім худзенькі, спалатнелы, нібы які прывід. Але цяпер Валошкава сэрца не зайшлося ад таго, што сын хударлявы, як ніводнае іншае дзіця на вуліцы, усё роўна як хворы, цяпер Валошка іначай падумаў: «Была ноч калгатная, хадня ў майстэрню і з майстэрні, запаўнач леглі, а сын не заспаўся, сам успароўся, рупіцца пра новы дзень, школу, напамінаць яму

не трэба. Дык хіба ў ім мала жыцця? Не, выгляд бывае падманлівы».

— Ну што, сын? Не выспаўся? — бацька спытаў строга, як папракаючы за начныя паходы.

— А мне болей не хочацца.

Юрась шустра ўсхапіўся з канапы, за якую хвіліну ўсцягнуў на сябе і штаны, і кашулю, абуў валёнкі, страсянуў бялявым злямчаным чубам і гайсануў у сенцы.

«Увесь у матку. Шустры, бялявы, вачаняты блакітныя. Уражлівы, як і яна была. Душы — цераз край. У мяне — хіба ростам удасца. Даўганогі, даўгашыі». Каўнер кіцеля здаўся цеснаваты, душыў, асабліва як кашляў, і Валошка расшпіліў яго, ды рэзка, ажно гузік адскочыў. Зусім скінуў кіцель. Знайшоў гузік пад сталом, на падаконніку — шпульку з чорнымі ніткамі, іголку, сеў на ўгрэтую сынаву пасцель і пачаў прышываць.

Зноў хлябнулі дзверы: старая ўнесла ў хату скавараду, на якой цыўкалі скваркі з яечняю, смажаныя на газавай пліце ў сенцах, бо печ яшчэ толькі распальвалася, а ўжо блізіўся час выпраўляць хлопца ў школу.

— Юрась!

— Што, бабуля?

— Сядай за стол. Да школы вады прывязеш...

Старая ставіла ў печ чыгуны — сабе, кабанам, суччы,— а Юрась, малаком запіваючы яечню і бульбу, насцярожана зіркаў спадылба то на бацьку, які вадзіў іголку з ніткаю, прышываючы гузік, то на бабу, еў хапатліва, смачна прычмокваючы, ажно вушы хадуном хадзілі. А вушы вялікія, нібы ў старога дзеда. Валошка паглядаў на іх і ўсміхаўся: «Во надзяліў бог вушамі! Але... хай, якія ёсць».

Прышыўшы гузік, уторкнуў іголку ў шпульку, паклаў яе на падаконнік, дзе ўзяў, зноў апрануў кіцель — спытаў:

— А ты, мама, на каго злуеш?

Вілы моцна шаргатнулі па загнеце.

— Ат, Мішка! Калі тое було, што разам, сямейна, вячэралі ці снедалі? Мірна, як добрыя людзі...

Горай за ўсё, што, ведаючы сваю віну перад маці, Валошка не мог рабіць, як ёй хацелася,— не мог сам сабе адсекчы дарогу ў майстэрню, да машыны. Спрэчкі ўпіраліся ў адно: дома не заседжваўся, мала рабіў ля двара і амаль усе хатнія клопаты ляжалі на спрацаваных матчыных руках. Чатыры гады назад, як без па-

ры памерла Вера, яшчэ маладая Валошкава жонка, адышла, мала хварэўшы,— за месяц высушыў грудны рак — жыць засталіся ўтраіх, і ўвесь гэты час маці, нямоглая, з апошніх сіл даглядала яго, Міхаля, адзінага свайго сына, хлебнічка, вачэй не спускала з Юрася, адзінага ўнучка, вяла гаспадарку, хоць гаспадарка была невялікая, не як у іншых ляснічых: дзесятак курэй з пеўнем, два кабанчыкі-кормнікі ды Мальва. Раней, першы год пасля жончынай смерці, Валошка, дзе б ні быў, спяшаўся дадому, сэрца гнала да сына, да маці, адно ля іх знаходзіла супакой — хоць нейкі. Але бяда, як бяда ўсіхная, глушылася работаю, замывалася часам, боль астываў, улягаўся, і неўзабаве ў галаве ажыла даўняя мара зрабіць машыну, каб сама жалуды ў зямлю садзіла. Некалі гэтую машыну ён задумаў дзеля Веры, якая садзіла лясы ў лясніцтве, а пасля ўжо — дзеля памяці аб Веры. Машына ўдалася, летась ёю жалуды высявалі па ўсім лясгасе, і тая ўдача падахвоціла сабраць такую «самаходку», каб садзіла сасну ды елку. Рабіў — зноў Вера ў вачах стаяла, бачыў яе вечна шурпатыя рукі, чорныя ад зямлі ды жалезнага меча, пад які высаджвалі саджанцы, чуў яе словы: «Калі ўжо, Міша, нашым бабскім рукам разумныя машыны пасобяць? З усіх бакоў гудма гудуць маторы, усё чыста робяць, а лес содзім рукамі». Ён тады супакойваў: «Будуць машыны». І хоць яны неўзабаве сапраўды з'явіліся, ды не вельмі абрадавалі: дзе гладка садзілі, а дзе як пройдуцца — усе дрэўцы ў зямлю ўтопчуць, з каранямі і верхавінкамі ўпляжаць, балюча глядзець. Зноў жанкі нясуць па разорах цяжкія мечы, за машынаю следам хваінкі-ялінкі падымаюць, перасаджваюць, пад добры настрой здзекліва нарагочуцца з цуду-тэхнікі, а няма сілы ды ахвоты рагатаць — клянуць і машыну, і машыніста. Вось тады надумаў Валошка сваю змайстрачыць: а раптам лепшая атрымаецца?

Згадаўшы Веру, замоўк — на душы зрабілася брыдка ад пустых спрэчак з маткаю. Але тая ўжо завяла катрынку — круціла:

— Ты, Мішка, не бачыш, што мяне валакушы не валакуць? Вачэй у цябе нямашака?

«І чым яе супакоіць?..»

— Ну... вось закончу машыну...

Слухаць не захацела.

— Ат! — страціўшы ўсякую надзею, махнула рукою.— Чула гэтую абяцанку. Быў прыкіпеў да адной,

цяпер да другой. Машыны твае... Што з іх маеш? Падзяку? За падзяку і хвігу не купіш.

— Ды зразумей ты...

— Не хачу, Мішка. Цярпела, ды ўжо людзі смяюцца. Ляснічы без дроў зімуе. Недацёпа які, ці што?

— Дровы, кажу, заўтра будуць.

А старая — з новай бядою:

— Вунь кабаноў снегам закідала. Страха свіціцца, нібы рэшата. Хоць бы дзіркі заканапаціў.

Адбіла ахвоту і да яды, і да пітва. Дзеля нейкага парадку, без радасці, як павіннасць адбываючы, сеў за стол, з гладыша ў кубак наліў кіслага малака, лыжкаю чарпануў з паўміска затоўчанай салам бульбы. Еў таропка, ужо без лішніх слоў, абы хутчэй. Ды і маці як выгаварылася. Цяжка, з нейкім скрыпам у горле, уздыхнула, шапатнула апошняй сілаю:

— Даруй ім, божухна. Бо не ведаюць, што робяць,— мільгатнём перахрысцілася ў качарэжнік.

Валошка ўсміхнуўся:

— Па святым пісанні, мама... каму мала даруецца, той мала і любіць.

Старая ані словам не адказала.

Валошка еў і глядзеў у кухоннае акно, праз яго чуў, як Юрась грымеў на двары вялізным, на чатыры вядры, бітонам, рыпеў і хлябаў варотцамі хлява, першы раз пасля лета выцягваючы на снег санкі, усё тое нібыта бачыў, хоць у акне відаць быў адно белы сад, электрычны провад ад хатняй сцяны на слуп і на провадзе — надзьмуты, як хворы, снягір. Птушка сядзела ціха, але лапкамі пераступала з месца на месца, і снег з проваду пакрысе асыпаўся, лёгкі і дробны, церусіў у шыбу.

Валошка еў, не перастаючы кашляць. Маці маўчала-маўчала і зноў прычапілася:

— Бухаеш, як у бочку.

— Нічога. Пройдзе.

— Усё табе — нічога. Хоць бы маліну піў, калі да доктара дарогі не ведаеш. Як заварыла чыгун маліны, дык і стаіць нечапаны. Падбел з трыпутнікам заварыла — у шайку выліла.

— Ну, не цяпер піць. На ноч трэба.

— Як учора напіўся. Пакуль грудзі сарвеш, бухаючы. Яшчэ не стары, а ўжо... І дзе нахапаўся?

Валошка не сказаў — дзе. А ведаў: у майстэрні, як у хляве, і шыбак няма, штодзень б'юцца, і дзверы не

падагнаныя. Днём іх там рэдка і зачыняюць. Скавышы гульма ходзяць.

Ляснулі веснікі.

«Юрась? Па ваду паналокся».

Валошкава душа яшчэ мацней занудзілася, просячыся на свяжак, на чысты снег. Хутчэй дапіў малако, вымеў са скаварады апошнія скваркі, што засталіся ад сына, і ўсхапіўся з-за стала. З пячуркі дастаў сухія анучы, пацёр іх у руках, каб памякчэлі, сеў на парог, накруціў анучы на ногі, абуўся ў ялавыя боты. Зняў з рога ватовую суконную куртку з белым каўняром з кажушыны, накінуў на плечы, на галаву насунуў белую заечую шапку — пайшоў з хаты.

Над аблітымі шызай смугою стрэхамі заседзеўся сцьмелы месяц. За яго зачапіўшыся, на небе млосна выпрасталася аблачына, доўгая і ружаватая, нібы маладая жанчына ў чыстай пасцелі.

Валошка з ганка дацягнуўся рукою да маладзенькай, што расла ля плота ў гародчыку, вішанькі, страсянуў яе — у твар з голля пасыпаўся лёгкі іскрысты сняжок.

Сонца ўжо ўставала. Сівыя дымы навокал падымаліся ў неба з комінаў, пунсавелі, купаліся ў кволым сонечным ззянні.

Цеплынёю дыхалі платы і хатнія сцены — па іх угару, як з тых комінаў, плыла белая пара. З-пад першага снегу паравала яшчэ не скаваная маразамі зямля, і гэтае ўпартае змаганне цеплыні з холадам здзіўляла Валошку.

Углядаючыся ў першую снежную раніцу, ён доўга стаяў на ганку. Тут нічыіх слядоў яшчэ не было і звання, акрамя кацiных. Свая кошка з надыходам халадоў заўсёды позна адсыпалася на печы, і з раніцы на ганку слядзілі суседскія каты, яе кавалеры, не такія лежні.

Юрасёвы сляды кіравалі з двара, ад веснікаў, у завулак: фіялетавыя, нібы чарнільныя плямкі на белым вучнёўскім сшытку. Яны вялі за сабою два вузкія паралельныя шнурочкі ад санак, таксама фіялетавыя, і малыя плямкі сабачых слядоў.

Але Мальва наслядзіла болей за ўсіх. Толькі на ганку яе не было, а так — усюды. Збэрсала снег і пад ганкам, і пад веснікамі, і пад плотам, жаўтлявыя дзірачкі ў снезе папакідала.

Па слядах Валошка бачыў, які настрой сёння ў катоў, у Мальвы, у Юрася. Каты сумныя. Сядзелі на ад-

ным месцы. Два каты. А Мальва вясёлая, лётала, месца сабе не знаходзячы. Юрась ішоў нервовы. Спыняўся, таптаўся на адным месцы, аглядаўся, хапаў рукою снег — еў, свавольнік. Рады і ён, вядома. Снегу рады.

Валошка вынес з сянец галень, замёў ганак, кінуў галень пад лаўку і падаўся завулкам. Свае сляды пячатаў побач з сынавымі — не хацеў затоптваць свежы сынаў шнурок.

З-за плота ў канцы завулка весела выскачыла Мальва. Гарэзна сунула дападны нос у снег і пагнала ў ім перад сабою лёгкую разору, закружылася, вынюхваючы пад снегам у яшчэ цёплай зямлі мышыныя норы, выбеліла і морду, і вушы. За ёю з-за таго самага плота паказаўся Юрась і побач з ім, плячо ля пляча, Дзімка, сын дырэктара лясгаса Зімаўца. Хлопцы вучыліся ў адным класе, у шостым, сядзелі на адной парце, сябравалі з першага класа, нават раней, сяброўства не рвалі, як сваё парвалі іх бацькі, і вось, упрогшыся ў вераўчаныя лейцы, дружна валаклі санкі, на якіх ляжаў бітон з вадою. Твары ў абодвух румяныя, у спраўнейшага Дзімкі шчокі ажно агнём палалі.

— Можа, пасобіць?

— Не-э!..— звонкім рогатам, нейкім птушыным шчабятаннем, сыпанулі дружбакі.

Вада ў бітоне бухала то ў дно, то ў века. За бітонам на санках ляжаў пузаты, напханы кнігамі і сшыткамі Дзімкаў партфель, выкачаны ў снег.

Валошка спыніўся і не зводзіў вачэй з вузкай сынавай спіны, з ніжэйшай і шырэйшай Дзімкавай, глядзеў услед хлопцам, пакуль яны разам з санкамі і Мальваю не схаваліся за веснікамі.

Скрыжаванне дзвюх асфальтовак (шырэйшая, Варшаўка, ішла высокім берагам Сажа праз увесь Гарадок, з захаду на ўсход, а вузейшая перасякала Сож, шылася ў лес) усяго метраў за дзвесце ад Валошкавага дома, ад ракі — таксама рукою падаць, а за ракою, цераз поплаў, пачыналася Лісанская пушча. Леснікі, якія жылі ў райцэнтры, штораніцы збіраліся да скрыжавання і ўжо адсюль спадарожнымі машынамі дабіраліся да лясной канторы. Гэтак дабіраўся і Валошка.

Калі ён з'явіўся на скрыжаванне, тут яшчэ не было ні сваіх, ні чужых. Адразу прамчалі два парожнія, адзін за адным, МАЗы — галаснуць не паспеў. Стары

расхлябісты ЗІС сам прытармазіў — з кабіны, апусціўшы ў дзверцах шкло, высунуўся круглява-белы, нібы наліўны летні яблык, твар.

— Пятровіч?! Падвезці?..

Валошка бачыў галасістага малайца ўпершыню, аднак не знайшоў нічога дзіўнага ў тым, што хлопец пазнаў яго,— ляснічага ў пушчы ведалі амаль усе, асабліва шафёры. Падзякаваўшы, ехаць адмовіўся, бо надумаў дачакацца каго з леснікоў.

На матацыклеціку прытарахцеў Генка Вайцюк — малады памочнік ляснічага. Пад востранькім, як у іншай дзяўчыны, носам — жоўты машок, хоць сам Вайцюк думаў, што гэта ўжо сапраўдныя вусы, а вочы хуткія і наіўныя, аднолькава ўважлівыя да любой дробязі жыцця, без разбору.

Ліха тармазнуўшы, ажно задняе кола падгопнула, ён спыніўся каля Валошкі, нібы артыст, выставіў нагу на тратуар.

— Не думаў, Пятровіч, што ў Лісань збірацеся.

Валошка загледзеўся на блішчасты, добра наглянцаваны Вайцюкоў чаравік, спытаў, не адводзячы ад яго вачэй:

— А ты куды на сваім драндулеце?

— На работу. Куды ж яшчэ?

— Па чаравіках — як да дзевак.

Валошка быў высокі, стройны, нібы малады афіцэр, сядзець перад ім на крэсле ці матацыкле, калі ён стаяў, Вайцюку было заўсёды няёмка, а тут — яшчэ гэтыя чаравікі, і ён сумеўся, хутчэй зняў нагу з тратуара, паставіў на падножку матацыкла.

— Я, Пятровіч, прывычны да чаравікаў. У любыя маразы. Грукачы на нагах цягаць мала ахвоты.

— Што ж... Хазяін — барын.

Зразумець Валошку было не заўсёды проста, асабліва маладому, не абстралянаму жыццём зайцу, бо Валошка часцяком кідаў намёкамі, неўпрыкмет пакепліваючы, а глядзеў на ўсё ў самы корань, глыбока — сказа як быццам мала, а разумей шмат,— і цяпер Вайцюк зноў гэта адчуў, не ўцяміў, што адказаць,— маўчаў.

— А чаму ж ты не думаў, што я збяруся ў Лісань?

Няхітрае пытанне ажывіла Вайцюка:

— Учора званіў дырэктар. Казаў, вам трэба сядзець у майстэрні, канчаць сваю машыну. Вясна блізка.

— Што блізка, я сам ведаю. Газуй!

За Вайцюком спынілася леспрамгасаўская лятучка:

— Пятровіч, падвезці?

І ўжо думка чакаць каго з леснікоў адступіла перад настойлівасцю, з якой душа прасілася ў лес, у пушчу — белую, чыстую, новую. «Як жа ты, Генка, не мог здагадацца, што я павінен быць сёння ў пушчы? Малады — зялёны».

Да Лісані шляхам чатыры кіламетры, а наўпрост якія два, не болей. Улетку, калі цераз Сож цягалі вымашчаны на дубах — вялізных плытагонніцкіх лодках — паром, Валошка ахвотна хадзіў на работу пехатою. Паромам пераплыве Сож і лугам, па травах,— у Лісань. Зімою, калі рака хавалася пад лёд, таксама хадзіў. Але не цяпер. Яшчэ не ўсюды стала-замерзла рака, разабраны паром на беразе закідала снегам, пеша можна было шыбаваць адно цераз мост — доўгая песня.

А так карцела прайсці лесам, па снезе! Доўга не ўседзеўшы ў лятучцы, Валошка на паўдарозе спыніў машыну.

Хіба гэта малая радасць: дачакацца першага, з лёгкім марозікам, снегу, не праспаць першую белую раніцу, апынуцца ў лесе і нетаропка, нікуды не спяшаючыся, чарціць на бялюткай нерушы свой першы зімовы след, зноў і зноў, ужо нейкі дзесяты раз спыняцца і заміраць, слухаць галодны крык ненажэрнай сойкі, якую зіма будзе доўга і жорстка прывучаць да працы хоць на сваё валлё, заглядзецца на ранішнюю гульню сініц па алешніках, як яны весела абмалочваюць з галін леташнія пупышкі, і сённяшні белы пух, або ісці, ісці і нечакана здзівіцца, што нейкі руплівы чалавек ужо справіўся пахадзіць тут, раней за цябе пакінуў наброд, прыбіцца да чужых слядоў і па іх вывучаць, што за чалавек быў, куды ішоў, што шукаў, а калі яго сляды ўдасца прачытаць — адчуць, што ён зусім не чужы табе, што ён гэтакі, як ты, свой у лесе, што па лесе яго вадзіла нечакана, за адну раніцу, памаладзелая душа, тая радасць, якая зараз водзіць цябе.

Вось яліна і сляды чалавека пад ёю. На свежым снезе свежая жаўтлявая луска ад шышак. І шышка — выцерабленая, у снег рыльцам зарытая. Другая, такая ж, трэцяя. Ля самай яліны снег разгрэбены. Вавёрчына кладоўка? Разгалістыя, нібы яловыя лапы ў мініяцюры, слядкі вядуць ад яліны далей, і ты зноў у пагоні за імі, ужо не думаеш, што некуды трэба спя-

шацца, недзе чакаюць людзі, работа — на ўсё забыўся.

Але — дзе вавёрка?.. Можа, на дубе?

Дуб кашлаты, магутны — у чатыры рукі не абхопіш. Ні халады, ні вятры яшчэ не абмялі з яго звонкае, нібы шкляное, хоць ужо чэзлае, лісце. На дубе дуплянка. Нізкая, ды не падскочыш. Валошка шубнуў у дуплянку шапку, і адтуль выскачыла сама звада — вавёрка. Прыцялася да ствала, стаілася, вачанятамі лыпае на чалавека, вусамі варушыць, фуркае, як палохае. Валошка падняў выкачаную ў снезе шапку і зноў замахнуўся. Вавёрка скокнула па дрэве яшчэ вышэй, зноў прыцялася да дуба, учапілася ў яго лапкамі, быццам не за сябе, за дуб баялася, згатовілася бараніць. Святая гатоўнасць — у прагных вавёрчыных вачанятах і грозных вусах, у напружаных лапках. Разумніца! Старымі дубамі Валошка сам даражыў. Мала засталося дрэў з дуплянкамі, а мала дуплянак — мала вавёрак, зводзяцца пугачы, совы, усе тыя звяркі і птушкі, якім дуплянка — лепшая хатка. «Дык трымай жа свой дуб, вусатая...»

Вавёрка вадзіла Валошку вакол дуба, пакуль ён не шаснуў у яміну. Вылез — атросся, агледзеўся: яміна знаёмая. Пад снегам ляжала калёсная каляіна, а яміна якраз на краі каляіны, і аднойчы, у летнюю вечаровую шэрань, вяртаючыся з Лісані разам з Вераю, ён паклаў тут набок калёсы. Тады ў іх у Лісані была бульба, сотак трыццаць. Яны з бульбы і вярталіся — абіралі каларадскіх жукоў. Выкуліліся з воза пад куст — конь стаў. Ён да каня падскочыў, ірвануў цуглі, замахнуўся, каб урэзаць са зла па храпе, быццам конь быў ва ўсім вінаваты, але пачуў залівісты Верын смех з яміны — руку апусціў і каня пашкадаваў. Падышоў да жонкі, а яна, помніцца, ляжыць у яміне і праз смех кажа: «Во, хоць ёсць дзе выпрастацца, не як на тым возе. Хоць адпачну».

Валошка ўбачыў яе, як жывую. У яміне пад кустом — вясёлую. І тут жа — у хаце, ля акна на ложку: доўгая жаўтлявая каса на апалых грудзях, белыя рукі на касе, танклявыя пальцы то сплятаюць касу, то расплятаюць. А другая каса, такая ж доўгая і жаўтлявая, ляжыць на белай падушцы ля галавы. Сумныя жалобныя вочы ўставіліся ў акно. За акном снежань без снегу — ніводнае сняжынкі,— усё шэрае, мокрае, гнілое. І шэпча Вера: «Зноў дождж. Калі ўжо ціскане мароз, выпадзе снег?..»

Каб тады выпаў снег, белы ды чысты, як сёння, то, пэўна, і жонка пажыла б яшчэ, бо яна вельмі любіла снягі, маразы, ясныя зімовыя дні. Чакала іх. Але снег лёг пасля Новага года. Ужо — на яе магілу...

Пушча маўчала.

Валошка выбраўся з глушэчы на знаёмую, схаваную пад снегам лісанскую дарогу, выйшаў да гаёчка, адкуль была відаць канцавая хата Лісані — кантора, і спыніўся: спыніў пошчак чорнага дзятла, самца. Дзяцел быў адмысловы музыка. Ён выбраў высозную сухадрэвую яліну і з такой сілаю сыпануў пошчак, ажно снег з яліны пацерушыўся. Музыка іграў амаль без перадыху, нібы радаваўся сустрэчы з дрэвам, якое, здавалася, у сваім ствале, быццам у саборным аргане, яднала асобныя гукі ў адну густую пушчанскую мелодыю. Слухаючы, Валошка сам напаўняўся музыкай, адчуваў, што яна ўсю раніцу ціха жыла ў ім, і ні спрэчка з маці, ні горкі ўспамін пра жонку не маглі разбурыць, пагасіць яе.

Блішчалі вокны канторы, а Валошка ўсё стаяў, слухаў пушчу, яе і сваю душу ў дзятлавым пошчаку, які цяпер то замаўкаў, то паўтараўся.

Але вокны настойліва звалі да сябе, у звычайную будзённую работу, і ён рушыў да іх.

Ішоў ціха, нібы нёс паўнюткія суды жывой вады, нёс і баяўся, каб не разліць, не данёсшы.

## ЛІСАНЬ

### 1

А што такое — Лісань?

Адны кажуць, што вёска, другія — што хутар. А ёсць людзі, якія нічога не скажуць, адно плячмі паціснуць альбо пачнуць даказваць, што цяперашняя Лісань — ні тое ні сёе...

Між тым, выгляд Лісань мае пэўны: у трох хатах жывуць, пяць хат пустуюць, стаяць з зашытымі вокнамі, нібы ім на свет белы глядзець забаронена, ды некалькі дворышчаў непрыбраных (хаты гаспадары раскідалі па суседніх вёсках), ды яшчэ, наводшыбе, кантора лясніцтва, ды сушня недалёка ад канторы — вось і ўсё.

На хаты бедна — бедна і на людзей. З раніцы да

канторы збяруцца леснікі, усялякі іншы люд, што прыязджае па лес, тады тут пачуеш рогат і анекдоты, адны ўволю нагаворацца, другія наслухаюцца. А як сконычыцца рабочы дзень, як ад канторы разыдуцца ды раз'едуцца, тады ўжо сумота ды заціш наваляцца на Лісань — хоць начной савою крычы. Апусцее вёска. Хадзі па ёй біты вечар — жывой душы не спаткаеш. Бо, зноў жа, усяго тры жывыя хаты. У адной, бліжэйшай да канторы, жыве дзед Гарох, які ў лясніцтве і конюхам, і вартаўніком, і ў сушні ўпраўляецца — сушыць шышкі, сасновыя ды яловыя, насенне ад іх у бляшанкі збірае; у другой хаце, суседняй, жыве Насця Голубева, звенавая на лесапасадках і памочніца дзеду Гароху ў сушні; трэцяя хата затулілася ў самым канцы Лісані, ані акном на яе не глядзіць, як завошта на вёску і на людзей у крыўдзе, ліпамі ды шыракалістымі клянамі абставілася, і жыве ў той канцавой хаце Алесь Мураўка. Гадоў яму за пяцьдзесят, але ўсе завуць Лесікам, як малога, як усё жыццё яго заве Мураўчыха — матка, жанчына нелюдзімая, сварлівая, жорсткая хоць да скаціны, хоць да сына. Лесік у матку не пайшоў, ён душою чысты і добры, узяў душу ад бацькі, які яшчэ да вайны збег ад Мураўчыхі, нібы ад катаргі, не вынес яе ржавай натуры, а ў вайну зноў з'явіўся ў пушчы і загінуў ад выпадковай кулі пад самай Лісанню.

Жыць з гэтакай маткаю Лесіку не соладка, горка склаўся і ўвесь яго лёс. Ён не ведаў ні жонкі, ні дзяцей, нават жанчыну, пэўна, блізка не ведаў, бо пры сваёй лагоднай натуры, пры залатым сэрцы, меў хваробы, якія звычайна адпуджваюць жанчын: мала што гарбаты, дык яшчэ гадоў дзесяць назад зведаў абласную псіхіятрычку і ад таго часу штогод ездзіў падлечвацца. А хваробы зноў жа з-за маткі. Малы быў — скінула з печы, і ён выцяўся аб брыж услона; да псіхіятрычкі дайсці — пасобіла вечнымі згрызотамі. Не зважаючы на інваліднасць, Лесік рабіў у Гарадку на пажарні, тры дні аддзяжурыць — чатыры дома, а дома не сядзеў склаўшы рукі, стараўся прырабляць у лясніцтве: вязаў венікі, мётлы, збіраў жалуды, бярозавік, насенныя шышкі, церабіў хваёвую лапку на лесасеках. Днямі завіхаўся ў Гарадку ці ў лесе, а хату вартавала матка. На людзей Мураўчыха вачэй не паказвала, у работу нідзе асабліва не ўпрагалася, бо састарылася, ды і вечная латрына. Дзед Гарох таксама не маладзён, гадоў семдзесят у сваю торбу набраў, мог, як яна, хваро-

бамі ды пенсіяй адгарадзіцца ад усіх, ад усяго лясніцтва, але ён быў не той панароўкі: пра пенсію гаворкі не заводзіў, а да работы — што клешч да цела.

Малалюднай, як цяпер, Лісань раней не была, хоць і вельмі шумнай яе таксама не памяталі. Некалі да рэвалюцыі ў вёсцы жылі дваровыя людзі пана Васінеўскага: аканом, падляснічы, наглядчыкі жывёлы, пастух, прачкі, конюх, фурман, якія мелі свае хаты, сем'і. Тут быў рабочы двор, або — чорны, з усімі гаспадарчымі пабудовамі. І яшчэ быў скацінны двор, наводшыбе Лісані, дзе стаялі фермы, канюшня, карэтная для вазкоў і экіпажаў. Гэта — ля таго месца, дзе цяпер жылі Мураўкі. А дзе жыў пан — то быў чырвоны двор, крокаў за трыста ад Лісані ў сасновым бары, на высозным беразе доўгага, мабыць, з вярсту, возера, якое цяпер павузела, пакарацела, памялела, зарасло раскаю, трыснягом, але выгляд усё яшчэ мела даволі прыгожы і называлася, як раней, Панскім. На чырвоным двары стаяў дом пана — на адзін паверх, але вялікі, мураваны, белы, з адкрытымі верандамі, парадным ганкам на калонах, з лесвіцамі да возера, у якім пан разводзіў белых і чорных лебедзяў. Былі ў пана і ворыўныя землі, і заліўныя лугі па Сажы за возерам, але найбольшым яго багаццем была пушча, якая называлася Васінеўшчынай, а цяпер — Лісаншчынай: пятнаццаць тысяч дзесяцін бароў і гаёў. Праўда, уся пушча (цяпер яна належала яшчэ аднаму лясніцтву, акрамя Лісанскага, а да рэвалюцыі — яшчэ двум панам) была намнога большая — гектараў тысяч пад дваццаць пяць.

Калі заглянуць у глыбейшую гісторыю, нават не ў пачатак нашага веку, які на памяці старых людзей, а недзе ў другую палову васемнаццатага, дык Лісанню, самой вёскай, яшчэ і не пахла — на гэта паказваў малы, курганкоў трыццаць, магільнік і адсутнасць далёкіх паданняў пра вёску,— але пра пушчанскія карабельныя дубы і сосны слава яшчэ адтуль хадзіла паміж людзей. У той далёкі час пушча належала графу Пацёмкіну, якому царыца Екацярына II даручыла будаваць на Чорным моры ваенны флот, і, пэўна, па волі самой гісторыі пушча з'явілася асноўным пастаўшчыком карабельнага лесу для Херсонскага адміралцейства.

За Васінеўскім пушча была ўжо не тая, што за Пацёмкіным, старых дубоў не засталося, а бары памаладзелі ўдвая. І гэта не толькі таму, што лепшы лес не-

калі сплыў у Чорнае мора — хоць лес і сякуць, але ж ён і расце,— не толькі таму, што, як расказвалі людзі, Васінеўскі быў нікуды не варты гаспадар, карцёжнік і бабнік, зямлі і лесу не ведаў і не любіў, ахвотна прадаваў яго з кораня, спадзеючыся гэтак вырвацца з бяды, утрымацца ад разарэння. У той час, пасля адмены прыгоннага права, панскія гаспадаркі сыпаліся па ўсёй Расіі, і разам з імі ўсюды нішчыліся лясы — апошняя апора маёнткаў. З кожным годам у лісанскага пана драбнелі фермы, статкі, ён збыў псарню, звёўся з лепшых коней, палеткі ўгнойваў горш і горш, ураджаі атрымліваў усё меншыя (сам-тры, сам-пяць), памалу запускаў ворыўныя землі, бо яны не вярталі затрачанага. Гулялі цэлыя аблогі, глушыліся дзікім кустоўем, бярэзнікам. Пан спрабаваў прадаваць аблог мужыкам, але тыя купляць баяліся, нават калі маглі купіць. Між тым і пан на гэты продаж глядзеў з асцярогай, бо калі мужык падыме аблог, моцна сядзе на яго, то і нашто яму пан? Спрабаваў здаваць аблог у арэнду, але арэндатар толькі браў ад зямлі, нічога не даючы ёй, бо яна — не свая. Зямля радзіла год-два, спачатку засеяная лёнам, потым — жытам, а на трэці год — пуста, і яе зноў кідалі.

Праўда, гаспадар маёнтка меў шляхетны гонар і выгляду, што бяднее, не падаваў — яшчэ на пачатку імперыялістычнай вайны закатваў балы, хоць ужо не з тым шыкам. Непадалёку ад Лісані, у Пагарэлішчы, і цяпер жыў былы панскі фурман і ляснік Кулаш, яму набегла за восемдзесят, а галаву ён па-ранейшаму меў светлую, добра памятаў той панскі шык, і пад настрой, дзе-небудзь у лесе ці лузе, у Лісані ці Пагарэлішчы, стары ахвотна ўспамінаў былое. Тое, што расказваў каму-небудзь аднаму, пасля хадзіла па людзях, па ўсёй пушчы, бо каму не цікава ведаць мінулае сваёй зямлі, што і як на ёй рабілася?

Дык вось Кулаш казаў, што да Васінеўскага часта наязджалі суседнія паны: маладзейшы родны брат Радзівон, таксама Васінеўскі, маёнтак якога стаяў вышэй па Сажы, сусед Панятоўскі, самы бедны з паноў, князь Абаленскі, багаты палац якога ззяў на процілеглым баку Сажа,— жыў князь больш у Пецярбургу і за мяжою, а сюды наведваўся адно ўлетку. Паны палявалі, балявалі, гулялі ў карты, спрачаліся пра палітыку. Зрэдку ў Лісані бываў і ляснічы пана Абаленскага, малады чалавек з вышэйшай адукацыяй, які стаяў у

князя на трохтысячным гадавым акладзе. Лісанскаму пану мець дарагога ляснічага было не па кішэні — ён меў за пяцьдзесят рублёў падляснічага і леснікоў, якім плаціў па дваццаць рублёў,— і Абаленскі дазваляў свайму ляснічаму рабіць падрабязны план Васінеўшчыны, лясную інвентарызацыю, ацэньваць лесасекі, пасабляць лісанскаму аканому выгадна складаць кантракты з купцамі лесу.

Апошнія за панам гады памятаў і дзед Гарох, але мала. У Лісані, на чорным двары, ён нарадзіўся, бо яго матка — бацьку Ягоравіч не памятаў — даглядала панскую жывёлу, даіла кароў, а ён хадзіў за жывёлаю малым пастушком, пасабляў матцы. Тыя гады ён успамінаў неахвотна. Затое любіў згадаць пазнейшае жыццё Лісані, калі пана, як казаў Ягоравіч, турнулі «па спіне мяшалкаю», а ў яго белым доме размяшчалася школьная камуна, дзе вучыліся рэвалюцыяй ратаваныя ад галечы і невуцтва дзеці беднаты. Панскі дом мужыкі ў семнаццатым спалілі, а камуна яго, як магла, аднавіла. Ад пана засталася сякая-такая скаціна, і яе глядзелі па-ранейшаму Ягоравіч з маткаю.

Тут, мабыць, самае месца сказаць, што дзед Гарох, ці проста Гарох — як каму,— мае прозвішча Заржэцкі, а яшчэ яго завуць Тамашом, Тамашом Ягоравічам. Прозвішча ведае адно бухгалтар — успамінае, складаючы якую-небудзь ведамасць,— Тамашом Ягоравічам або, на мясцовы лад, Ягоравічам завуць ляснічы ды рознае іншае начальства, сваё і прыезджае, а Гарох — усяму простаму люду, хоць гэта і мянушка. Гарохам старога ведаюць, скрозь, па ўсіх вёсках, на ўсіх пушчанскіх сцежках. Ды і сам стары прызвычаіўся да мянушкі — не ўяўляе сябе без яе. Ёсць у Лісані хата Гарохава, буслы Гарохавы, студня Гарохава, груша Гарохава і яшчэ шмат іншага — Гарохавага. А знайшла мянушка старога нешта адразу пасля вайны. Вярнуўся Ягоравіч з партызанкі — пуста ў хаце, як на магільніку: жонка пры немцах памерла, а сын Коля, адзіны сын, загінуў — яшчэ не было семнаццаці. Вясна гукае кожнага аратага-сейбіта: зямліцу засявай, хоць тую малую, што ля хаты, у агародзе. А чым засяваць? У хаце ні бульбіны, ні макавіны — не пажывішся. Удалося раздабыць гарнец гароху — ім і адсеяўся. Вырас гарох сцяною. Скасіў яго Тамаш Ягоравіч, высушыў, палушчыў, сабраў цэлы мех — усю зіму адзін гарох еў ды пакрэктваў. Бывала, ідзе па Лісані, рукі — у кішэ-

ніх, гароху — поўныя кішэні, ды смажанага, духмянага. Ідзе ды храбусціць, людзей частуе. А што з дзіравых кішэняў сыплецца пад ногі, тое гусі падмятаюць чысценька. Куды Ягоравіч — туды і табунок белапёрых. Сваіх не меў — чужыя. Ён у кантору — яны следам падыдуць пад ганак, гергечуць; ён у сушню — яны пад дзвярыма чакаюць; дамоў вернецца — ужо ля веснікаў, будуць гергетаць, пакуль не сыпанеш. А надышла новая вясна — зноў пусціў соткі пад гарох. І завёў на гады завядзёнку: ніякага іншага зярнятка не сеяў, акрамя гароху. Вось адкуль і мянушка — Гарох і Гарох.

Але ўсё гэта — цяпер. А тады, пад крылом школьнай камуны, ён не быў ні Гарохам, ні нават Ягоравічам, быў проста Тамашом. У камуне вучылі не толькі грамаце, яшчэ вучылі араць і сеяць, касіць і будаваць, даглядаць скаціну, садзіць, секчы, сплаўляць лес, камунары самі шылі сабе боты і кажухі, адным словам — жылі са свайго мазаля. А Тамаш — пры скаціне. Пад яго наглядам былі каровы, цяляты, свінні, коні, ад маткі навучыўся іх лячыць. Калі гады праз чатыры камуна выселілася з Лісані, ён тут застаўся, бо заставаліся камунарскія каровы ды коні — іх перадавалі леспрамгасу, які атабарыўся ў Лісані. Матка ў той год утапілася ў Панскім возеры, а Тамаш адразу прывёў з Ялоўкі жонку, пачаў рабіць у леспрамгасе. Як чалавека пісьменнага, навучанага ў камуне грамаце, яго паставілі майстрам на лесарасрацоўках. Але душа не магла жыць без коней, кароў, і ён вярнуўся да скаціны. Ад кароў ды свіней, праўда, леспрамгас неўзабаве адмовіўся, але пры конях Ягоравіч застаўся.

Калі ў Лісані стаяў леспрамгас, вёска разраслася. Тады тут хапала і хат, і людзей, і людскога гуду. Але пасля вайны, недзе ў сорак сёмым, леспрамгас разам з прыстанню перакінулі вышэй па Сажы. Ягоравіч і тады не пакінуў Лісань — застаўся пры лясніцтве. Што зрывацца з месца, дзе нарадзіўся, якое наседзеў, калі ў леспрамгасе ўсё роўна коней пачалі выжываць машыны? У лясніцтве таксама коней няшмат, затое тут іх ніхто не выжывае.

На жыццё Ягоравіч не наракаў. Як ні цяжка было, як яно ні ламалася, але жыў у роднай вёсцы, і ўсё было б добра, калі б не глухая адзінота. Ні жонкі, ні дзяцей — сырая зямелька ўсіх забрала. Вось з гэтым не мог зміръіцца. Быў, праўда, час, што здавалася, пачаў

звыкацца. Пазалетась, калі прывёз з Гарадка ходзікі, павесіў іх на сцяну ля печы. Сам спаў на печы, і ходзікі побач, ля галавы, цікалі, нібы жывыя, а праз кожную гадзіну адчынялася над стрэлкамі акенца, з яго высоўвалася зязюля і кувала, часам доўга кувала — гледзячы, якая гадзіна. Стары ляжаў, слухаў і радаваўся, што не адзін у хаце, што побач жывая душа. Наслухаецца, супакоіцца і тады засне. Спіць, пакуль зноў зязюля не пабудзіць. Цэлы год гэтак удваіх пражылі. А летась, неяк узімку, зязюля не пабудзіла старога, і ён спаў, пакуль не развіднела. Сапсавалася, як скрычалася. Зняў са сцяны ходзікі, загарнуў у газетку, паклаў у авоську і панёс у Гарадок да майстра. Той пакруціў у руках, палясқатаў усярэдзіне жалезкаю, разы са два дзьмухнуў туды ды і вярнуў староме: «Няма запаскі, малой плямбачкі». Пасля стары зноў бываў у майстра, пытаўся плямбачку, а яе ўсё не было. Ужо надумаў купіць новыя ходзікі, ды такіх, каб з птушкаю, у краму больш не завозілі. Сказалі, што іх перасталі выпускаць. І зноў ночы ў хаце пайшлі халодныя, мулкія, без сну і супакою, без аніводнага жывога голасу. Качаючыся на печы, стары чакаў, калі паяснее над лесам, у вокнах. Не дачакаўшыся яснаты, спаўзаў з печы, адразу — у валёнкі ці ў боты, выходзіў на двор і прыслухоўваўся да гукаў, якія былі ці якіх не было ў прыродзе, у пушчы і вёсцы. Калі ж пачынала світаць, ён абыходзіў вуліцаю лісанскія хаты, спыняўся ля кожнага ганка, падыходзіў да кожных дзвярэй, мацаў замкі, ці трывала вісяць, прыглядаўся да зашытых дошкамі вокан, заглядаў у пустыя, зарослыя травою двары, у перасохлыя калодзежы, падоўгу прыслухоўваўся, быццам спадзяваўся пачуць нейкі жывы голас; далятаў гук ветру ці марозу — тады нервова торгаў галавою, ставіў вуха насустрач гуку і зноў доўга слухаў; ідучы далей, прыглядаючыся да кожнага плота, да кожнай сцежкі, да кожнага дрэва і куста, ва ўсім шукаў нейкую перамену, навіну. Закончыўшы абход, доўга стаяў на выгане. Пачмыхае, прынюхаецца да паветра, якое звычайна плыве на выган ад хат. Цёплым дымам, жылым духам даўно не пахла, і дзед Гарох, зноў углядаючыся ў вокны і коміны Лісані, думаў, перабіраў у памяці, калі з якой хаты апошняя душа з'ехала, перасялілася да сваякоў ці ў зямлю, а пачуўшы пах жывога дыму, пачынаў дыхаць глыбей, гучней, адкрываў рот, лавіў той салодкі дым і ўжо вачэй

не зводзіў з Насцінага коміна, які, нібы курэц, пускаў зацяжку ў неба.

Вяртаючыся з выгану, дзед Гарох думаў: якая ж сіла гэтак пажартавала з Лісані? Нічым не абдзяліў бог вёску: навокал пушча, прыгажэйшай за якую нідзе няма блізка, тут табе і Сож, поўны рыбы, і азёры, дзе таксама хапае рыбы, і заліўныя лугі, і крыніцы чыстыя, і зямлі пад сады-агароды сярод лесу ўдосталь, грыбоў і ягад поўна — а вёскі ўжо няма, людзі яе пакінулі. Маладыя параз'ехаліся па гарадах, да вучобы ды гарадской работы, старыя — за дзецьмі следам, а каторыя перасяліліся ў шумнейшыя вёскі, у Гарадок. Вядома, рукам давай работу. Быў леспрамгас, прыстань — людзей хапала. А лясніцтву леснікоў шмат не трэба. Калгаса таксама няма блізка. Усё лясы ды лясы. Пушча. Але... душа дзеда Гароха, які ў Лісані нарадзіўся, нідзе, акрамя як у Лісані, не працаваў, які толькі ў Лісані быў згодны памерці, ніяк не магла пагадзіцца з тым, што гэтак прыціхла вёска.

Дзед Гарох заварочваў да канюшні, каля яе пад сцяною спыняўся, слухаў, ці яшчэ спяць Малы і Машка. Машка звычайна маўчала, а Малы як чуў дух старога: пачынаў соўгаць храпаю ў вядро, што вісела на сцяне каля ясляў з сенам,— вядро дзынкала. Тады дзед Гарох спяшаўся да хаты. Ля веснікаў, праўда, яшчэ спыняўся, глядзеў у Насціна акно — яе хата стаяла побач. Акно было чырвонае — у печы гарэў агонь. І Насця ля печы ўвіхалася — была відаць яе рухавая постаць. Сумныя думкі дзеда Гароха раставалі, на душы лягчэла, і ён весялей ішоў у хату. Цяплей апранаўся, як на работу, лез на печ, на пяколку знаходзіў таўстую, з бярозавага кораня піпку, якую пасмоктваў на печы звечара, перад сном, над сталом выбіваў з яе ў далонь гар, начыняў зноў тытунём з капшука, які яму пашыла Насця, закурваў і кіраваў да канюшні. Там, у канюшні, адчыняў вароты, здымаў са сцяны аброць, накідваў на Машку — Малы слухаўся без аброці,— браў вядро, якім званіў конь, і ўтраіх яны тупалі да студні, што на Трасцінцы, чысцюткай, з самых глыбіняў пушчы, рачулцы. Тут дзед Гарох пускаў павады, выцягваў паўнюткае вядро вады і першаму даваў піць Малому: не таму што пястун, хоць і гэта праўда, а таму, што наравістая Машка, напіўшыся, магла занатурыцца і пайсці абы-куды, абы не стаяць на адным месцы,— бяжы, лаві птушку за хвост.

Пакуль коні пілі, Ягоравіч, папыхваючы піпкаю, не раз думаў — адкуль у Машкі наравістасць? Здаецца, кабылка разумная, прыгожая, далікатная, да свайго чалавека прывязлівая. Мабыць, што метыска. Як яна з'явілася ў Лісані, стары памятаў. Гэта Валошка, стаўшы ляснічым, надумаў завесці такіх коней, каб і праехаць з ветрыкам, весела, і ў рабоце каб цягавітасць мелі. А былі тады ў лясніцтве, як і ў леспрамгасе, коні вялізныя, нібы танкі, цяжкія, ненажэрныя, «бельгійцы» ды «немцы», навезеныя з Германіі,— іх Валошка і леснікі не любілі, хоць Ягоравіч іх не крыўдзіў — усё жывыя душы. Сілу тыя коні мелі, а ў вазку — дурнаватыя і маруды, як на ляжнёўцы ў крывалах. Недзе ў суседнім раёне Валошка і змяняў двух ардэнаў на адну малую кабылку, манголку. Тая кабылка таксама нікому асабліва не спадабалася: шустрая, праўда, гарачая, нібы вар, але прабяжыць — і ў мыле, мокрая, на доўгі бег, на вялікую дарогу сілы ў яе не ставала. А ў плузе ды на тралёўцы таксама работнік з яе быў не надта. Можа, што стараватая? Вось і казалі: «Змяняў ляснічы шыла на мыла». Але Валошка далей глядзеў. Ён злучыў манголачку [redacted] бельгійцам — нарадзілася Машка. І вось Машка здзіўляла і радавала. Ад маткі ўзяўшы кроў мангольскую, была яна з маладосці вясёлая, разумная, гарачая, на адным месцы ўстояць не магла, запражэш — бяжыць і бяжыць, рыссю любы вецер абганяе, а ў галоп уляжа — душа камянее. І сілу, цягавітасць мела — ад бельгійца. Яна і ў плуг, яна і ў тралёўку, а ў вазок запражэш — дзесяць вёрст па любым марозе ляціць, нібы птушка, і нават спіна не пабялее, не пацямнее — пацінa не выступіць, іней не кране.

Коні пілі, а дзед Гарох думаў ды прыглядаўся да наваколля, да канторы: ці не з'явіўся там хто? На дзвярах замок — значыць, нікога яшчэ няма. Глядзеў на пушчу, на дарогу, якою вось-вось хтосьці быў павінен прыйсці-прыехаць. Бывала, што на нейкі міг забываўся на коней. Машка гэта тут жа заўважала: ускідала над вядром галаву, і яшчэ з яе кіслай губы сцякала зіхаткая, нібы раса, вада, а кабыла тупымі зубамі ўжо хапала Малога за шыю, чорным вокам касіла ўбок — куды б шыбануць?

«Стой, шэльма!» — нязлосна гыркаў стары на Машку, лавіў аброць і сам пачынаў піць з вядра.

Калі звечара Ягоравічу выпадала чарка, тады ўранні вада пілася доўга, як Малому ці Машцы.

Сёння пад раніцу старому прыснілася, быццам ён стаіць над Белай крыніцай, якая непадалёку, на выгане, і бачыць, як валяцца дубы, кладуцца на снег ціха, без аніводнага стогну, тут жа снегам замятаюцца. Жудасна зрабілася дзеду Гароху. Падалося, што зямля канае, што ён сам вось-вось паваліцца з дубамі разам. Прахапіўся ад сну мокры, задыханы, нібы хто за ім гнаўся. Прыслухаўся. Нешта ў лесе сапраўды гахнула, як дрэва аб зямлю. Споўз з печы, падышоў да акна. За шыбаю — цемень, ціша. Пастаяў, прысмаліў піпку, зацягнуўся нашча дымком, але ніякага ляснога гуку ўжо не чуў. Дачакаўся, пакуль пачало світаць, тады апрануўся і падаўся да коней.

Сон пра дубы, трывога за іх не пакідалі нават пры конях, дзед Гарох павёў іх не да студні, з якой паіў звычайна, а далей, да Белай крыніцы, што паравала з-пад снегу ў дубах.

Усюды ляжаў снег, мяккі і белы, усё навокал памаладзела, павесялела, моцнага марозу не адчувалася, але крынічнае вока ад берагоў узялося лядком, і дзед Гарох, стаўшы на калені, рукамі абламаў слабы лядок, каб коні маглі напіцца, бо вядром тут вады не зачэрпнеш, ды і вядра не ўзяў.

З дымнай крыніцы коні пілі ахвотней, як з вядра, і, пакуль пілі — дзед Гарох глядзеў на дубы. Яны тут, у вячыстай дуброве, здаўна раслі, як на гонкі бор гледзячы, ад карабельных сосен узяўшы і вышыню, і чысціню ствалоў, і шатры ў іх пачыналіся высака, ажно пад самым небам, адкрываючы воку раўнюткія, нібы пад рэйку, ствалы, не ствалы, а калоны, на якіх трымалася неба.

Дуброву дзед Гарох памятаў з дзяцінства. Тады яна была гусцейшая, як цяпер, бо маладзейшая. Ля Белай крыніцы пачыналася, а цягнулася на багатую вярсту, аж за Пагарэлішча. Ёй набягала гадоў сто пяцьдзесят, але асобныя дубы, як Святы, з-пад каранёў якога бруіла Белая крыніца, мелі век удвая большы. Дзед Гарох памятаў, як у васемнаццатым, у пятроўку, самую галадоўку, калі выдавалася засуха і надта гарэла пушча, лісанцы вынеслі ікону Георгія Пабеданосца, хадзілі з ёю вакол Святога дуба і Белай крыніцы, вымольвалі ў неба дажджу. Ікона была вялікая, прыгожая, з залатым абкладам. Георгій сядзеў на белым кані ў чырвонай, быццам полымя, бурцы, з доўгім кап'ём у руцэ і тым кап'ём наскрозь працінаў гада-змея, які звіўся ля

капытоў. Вёска шанавала Георгія болей, як іншых святых, заўсёды святкавала яго вясновы дзень (быў яшчэ і восеньскі Георгій, якога адзначалі не гэтак дружна). Дзень выпадаў па новым календары на шостае мая, калі худобу першы раз выганялі на пашу, бо Георгій — той жа Юр'еў дзень. Хоць час быў вельмі гарачы, самая пасяўная, працавалі ад цямна да цямна, але надвечар ікону заўсёды выносілі да Белай крыніцы, мылі яе і свае твары крынічнай вадою пад дубам, пасля неслі ваду па хатах, пырскалі ёю па сценах, падлозе, у покуці — яна нібыта лячыла ад хвароб, берагла ад бяды. Маладыя да ночы спявалі, скакалі, жартавалі — усяго хапала.

Напаіўшы коней і сам, як заўсёды, напіўшыся, дзед Гарох павёў сваіх рысакоў да канторы.

Начальства не паказвалася, а без начальства стары не ведаў, ставіць коней назад у канюшню ды цягнуцца на сушню, паліць печ, альбо збірацца ў якую дарогу. Гэтакай белай, светлай, нібы свята, раніцай не прываньвала ні сушня, ні кантора, хацелася аднаго — запрэгчы Малога ў лёгкі вазок ды разагнацца па белым лесе хоць куды, абы ехаць і ехаць.

Да ламаты ў вачах нагледзеўшыся на белую зямлю, на яе белае ззянне, каб супакоіць вочы, дзед Гарох перавёў позірк на цёмнае акно канторы. Там, нібы ў люстры, бачыў сябе з піпкай у роце і Машку. Кабыла варочала галаву да Малога, жадала волі, але гаспадар не пускаў. Ён доўга глядзеў у акно на сябе — нярослага, кволага, хліпкага, нібы грыб-пазняк,— сам сабе не падабаўся. Ажно плюнуць захацелася. І... плюнуў:

— Шэльма!..

Толькі раскрыў рот — піпка мякенька вывалілася ў снег. А ён быццам і не заўважыў. Глядзеў у акно на свой абутак, яшчэ мацней дзівіўся:

— Глянь ты на яго, Машка! Ну, снарадзіўся! Ну, шэльма! Стары попаўзень. Чакае лясьнічага...

На адной назе быў мяккі валёнак-катанак, на другой — бот-грукач, і дзед Гарох разрагатаўся, аж прысеў, успамінаючы, як раніцай на адну нагу надзеў бот, а другой назе бота не знайшоў ні ля парога, ні пад лаўкаю — усцягнуў валёнак. Думаў, што адвернецца за хлеў, прыйдзе назад у хату. Але, забыўшыся, гэтак і бryndаў па вёсцы ўсю раніцу. «Га, шэльма: бот і валёнак!» Сам сябе пасарамаціўшы, толькі цяпер, крэкчучы, падняў піпку, здзьмухнуў з яе снег, пакачаў у

далонях, падсушыў, пасмактаў. Яна ўжо не дыміла. Сунуў яе ў кішэню кажуха і хутчэй павёў коней пад страху, каб паспець прывесці сябе ў парадак, пакуль няма начальства.

Учора надвечар па навіслых над пушчаю хмарах, па ветры з-за пушчы — гэтакі вецер заўсёды наганяў дождж ці снег,— па шэрхлай зямлі дзед Гарох бачыў, што ўначы можа выпасці пароша, а то і добры снег, і ў сушні, вакол яе таксама, навёў поўны парадак. Дзесяткі два кошыкаў леташніх палушчаных шышак занёс на гарышча, астатнія ссыпаў пад плот, на гарышчы шышкі прыкідаў тырсаю, пяском, каб цяплынь у хаце даўжэй трымалася, змяшаў гліну [redacted] мякінаю, навеянай ад хваёвага насення, абмазаў печ, дзе палопалася, пусціла шчыліны, выкінуў спалены і ўмазаў новы каласнік, там-сям лучынамі залатаў рассохлыя барабаны ў каморах, пасшываў барабаны мяккім дротам, каб з іх шышкі не сыпаліся.

У сушні дзед Гарох рабіў столькі зім, колькі даглядаў у лясніцтве коней, як [redacted] леспрамгаса пайшоў, і ўжо гэтак прызвычаіўся да яе густога чэрствага духу, што не адрозніваў яго ад свежагаляснога водару. А сёння ледзь адчыніў дзверы, як у нос чухнула сухім паветрам — ажно ў горле запяршыла. Стаяў на парозе, кашляў, а потым схамянуўся, што выстуджвае сушню, хутчэй прычыніў і загаварыў сам з сабою: «А фу ты, якенны злы дух! Што ў карчме, матка-боска». Патрос галавою, ачмурэлы, падышоў да печы, спытаў печ, расшпільваючы на грудзях кажух: «Ну, а ты?.. Ухаладала, баба лядашчая. За ноч усё цяпло выхукнула ў неба. Не сорамна табе?..» На новы каласнік наклаў бярозавых і дубовых, уперамешку, дроў, падсунуў пад іх смаляк, запаліў у печы, зазірнуў у камору, дзе пад столлю віселі сушыльныя барабаны.

Учора надвечар стары добра напаліў печ, і ў каморах нават цяпер яшчэ было душна. Шышкі ў барабанах за ноч пасохлі, павыкідалі насенне — яно густа ўслала шэрую падлогу. Яловым венікам стары змёў насенне ў савок, з саўка — у бляшанку, выцягнуў з барабанаў дашчаныя застаўкі — апусцелыя ад насення шышкі порсткім дажджом шухнулі на падлогу. Узяўшыся за шуфель, выгрузіў іх з каморы, перакінуў у засек, выгараджаны паўз усю глухую сцяну хаты, барабаны засыпаў свежымі, поўнымі зярнят шышкамі, на доўгае кручча пазашчэпліваў адну і другую каморы,

каб даўжэй трымалася цяпло, падварушыў качаргою дровы ў печы, увапхнуў туды яшчэ дзве палкі, зачыніў дзверцы і падышоў да акна. Ніякай іншай работы сабе не прыдумаўшы, падаўся ў лес, каб паглядзець, што і як у ім змянілася пад першым снегам.

Пахадзіўшы па лесе, вярнуўся, а кантору ўсё не адчынялі. Тады зноў заглянуў у сушню. Падклаў у печ дроў і на калодзе задрамаў. Праз сон чуў, як нехта блізка шоргаў гальнём, абмятаў ногі ад снегу, як знаёмым голасам азваліся дзверы.

— Вы тут, Ягоравіч?

Стары таргануў галавою, аж у карку кальнула, расплюшчыў вочы, намогся ўстаць з калоды, але заўважыў Насцю: стаіць на парозе — кажушок нараспашку.

— Ты, дзеўка?.. То і добра, што гэта ты.

— Ну, слава богу, што пазналі.

Хустка і кажушок на ёй былі белыя ад снегу, усё роўна як Насця стаяла недзе пад дрэвам, з якога ён сыпаўся. А твар свежы, крамяны, вясёлы. Стары падумаў: «Ад першага снегу ўсё свяжэе ды маладзее: зямля, лес, бабы».

Загледзеўся — не адразу заўважыў:

— Дзверы, дзеўка!

Насця вінавата схамянулася:

— Ой, праўда! Як зімы не прызнаю,— хутчэй, моцна хлябнула дзвярыма.

— Во! Цяпер — дзела яснае. Будзе гамонка.

— Ды... я па справе, Ягоравіч.

— Пасядзі без справы.

Насця прайшла, села да стала на ўслончык, з бляшанкі ўзяла шчэпаць зярнят, перасыпала з далоні на далонь, моўчкі пазіраючы на старога. Той на калодзе зноў пачынаў драмаць, але заварушыўся — дастаў з кішэні піпку, з печы выцягнуў галавешку, прыкурыў, пусціў струмень дыму ў печку. Насця зноў завяла сваё, адчуўшы, што цяпер — самы час:

— Я са слязою да вас, Ягоравіч. Скрыні з-пад саджанцаў ляжаць у Асечы. Снегам пазасыпаныя. Можа б, каня далі? Не на сабе ж цягнуць? Ужо Валошка лаяў за скрыні. Не хачу, каб зноў.

Стары любіў павадзіць за нос:

— А дзе была да снегу? — выняў піпку з рота.

— Да снегу яны ў галаве не стаялі.

— А я пра што? І я пра Ярому. Цьфу ты!.. Сёння ж, дзеўка, святы Мікола. Зімовы. Сёння шостае?.. Па ста-

рым календары. Га? Шостае снежня. Што на Міколу людзі робяць?

— Гарэлку п'юць,— выпаліла Насця і захвалявалася, што стары зараз пакрыўдзіцца, каня не дасць.

Але старому спадабаліся яе словы.

— Дзела яснае,— заўхмыляўся, казычучы чорным кіпцем чырванаваты, як з холаду, нос.

І тут ужо яна хапанула цераз край:

— А вам, Ягоравіч, што Мікола, што Іване, абы пляшка ў кармане. Ці не так?

Дзед Гарох спахмурнеў — сінім агнём дыхнула піпка. Ажно ў грудзях у Насці заняло.

За акном зарыпеў снег — прайшоў ляснічы. Убачыўшы яго белую заечую шапку, стары ўсхапіўся з калоды.

— Вы куды? — нясмела спытала Насця.

Стары моўчкі зашпільваў кажух, а Насця ўжо стаяла каля акна, спіною да старога, ліпла тварам да мутнай шыбкі, шоргаючы па ёй рукавіцаю — не зводзіла пагляду з Валошкі, які ішоў да канторы, мінаючы сушню. «Не завітаў»,— сумна падумала, нібы адчула абразу.

Нахлабучыўшы шапку, дзед Гарох падышоў да парога. Ужо за клямку ўзяўшыся, кінуў Насці:

— Пайду да Пятровіча. Куды ж яшчэ?

— Можа, і мне з вамі?

— Сядзі тут. Глядзі печ.

Ёй не хацелася гэтакай раніцай сядзець у сушні, карцела таксама падацца ў кантору, да людзей. Хоць паглядзець на Валошку. Сёння ён будзе не такі, як учора. У яго заўсёды мяняюцца настрой, размовы, твар, калі мяняецца надвор'е. Асабліва — у дзень першага снегу ці ў першы па-сапраўднаму вясновы дзень. Але не варта было гнявіць старога — і так не ў гуморы.

Дзед Гарох стаяў ля парога, і Насця, прыгледзеўшыся да яго ног, раптам зарагатала:

— Ой, Ягоравіч!.. Ну чыста Мураўчысін певень!

Стары не зразумеў, насупіўся:

— Што вярзеш?

— Ды якая ж гэта вярзяя? — Насця не магла стрымаць рогату.— Самі на сябе гляньце...

Адно тут стары ўспомніў, што збіраўся пераабуцца і забыўся, забавіўся з дубамі ды коньмі, а цяпер сапраўды падобны на пеўня Мураўчысінага, у якога ад роду адна нага белая, другая чорная. Гэтакім ён не мог

ісці да ляснічага, паказвацца яму на вочы. Але... шукаць бот ці валёнак? Дзе шукаць? У сушні? Дома? Намогся ўспомніць, дзе і як абуваўся і разуваўся, а Насця ўсё рагатала, духу не хапала суняцца. Ужо дзеду Гароху хацелася секануць вострым славечкам, каб замоўкла, ды нічога разумнага не прыйшло на язык, і ён гаркнуў:

— Дзе другі бот? Ці чуеш ты, шэльма!..

Рагочучы, Насця пасунулася ў камору і вынесла адтуль бот.

— Ну дзед Гарох!.. Дзед Гарох!..

Пасаромлены, узлаваны, ён вырваў у яе з рукі бот, хуценька сеў на парог, зноў сунуў піпку ў рот, заткнуў пад два верхнія зубы. Крэкчучы, пачаў сцягваць [redacted] нагі валёнак.

Пераабуваўся і думаў: «Што за галава? Чаму адзін бот ляжаў дома, а другі тут, у каморы? Яны ж, боты, як і ногі, адзін аднаго пільнаваць павінны». Успомніў, што ўчора ўвечары, як апусцела кантора, у сушню прыпёрся ляснік Рысеў і яны ўдвух выпілі цэлага паўлітра. Пілі — быў у ботах. Рысеў, пасядзеўшы з гадзінку, пайшоў дадому, у сваю Ялоўку, а ён забраўся ў цёплую камору дый выцягнуўся на падлозе. Зрабілася горача, бо печ напаліў моцна. Разуваўся. Мабыць, адзін бот скінуў, другі не паспеў — змарылі гарачыня ды гарэлка. Праспаўся — абуўся. І вось тады ці не трапіў пад руку валёнак замест бота? Бо валёнкі ў сушні ад леташняй зімы.

— Ну, шэльма!

Аддыхваючыся пасля рогату, цёплымі, нібы ад удзячнасці, вачыма Насця глядзела на дзеда Гароха:

— Вясёлы вы чалавек, Ягоравіч.

А той — ужо з усмехам:

— Гэтакая жытка, Насця. Не пражывеш, як рогатам пуп не нарвеш. Але... глядзі мне, дзеўка! — строга паківаў чорнай, што галавешка, піпкаю.— Каб Пятровіч не ведаў!

Насця засталася адна, але ёй здавалася, што дзед Гарох па-ранейшаму тут, побач. Гэтак не раз было: сядзіць адна ў сушні, чуе, як шышка пакнула на падлогу, з барабана вывалілася, а здасца, што гэта стары ботам грукнуў; вецер за акном шаргатне, па сцяне пакоціцца, а падумаецца, ці не стары шастае здубянелым на непагодзе плашчом; завые ў коміне — можа, стары штось шукае і не знаходзіць, злуе? Цяпер у печы за

дзверцамі гуў агонь, а думалася, што гэта Ягоравіч ціха, каб ніхто не чуў, лае за нешта Насцю, можа, нават за скрыні, кінутыя пад снегам у Асечы. Яна глядзела ў парог, дзе нядаўна сядзеў стары, і ўяўляла, нібы ён і зараз сядзіць там, маленькі і рухавы, сцягвае з нагі руды, абсмалены ля агню валёнак, прыгаворваючы сваё любімае «шэльма»; шапка з'ехала на патыліцу, шапчына вуха з доўгім матузом смешна тырчыць убок, тое самае, за якое ён звычайна сцягвае шапку з галавы, а на высокім паўкруглым, нібы засланка, картузе наўскасяк — чырвоная стужка, ужо і не чырвоная, а бурая, хоць Насця ўвесну прышыла яму навенькую, ад сваёй старой чырвонай кофты,— калі тая вайна адшумела, а партызанскую стужку на шапцы дзед Гарох усё яшчэ носіць. Гэтакі доўгі сядзіць перад Насцінымі вачыма, двума пярэднімі зубамі, вялізнымі, што разцы ў старога бабра, прыцінае муштук піпкі да падцятай ніжняй губы, чмыхае з носа дымам, пазірае то на нагу, якую ў той жа час пераабувае, то на яе, Насцю, касавурыцца, як яна ў чым вінаватая, а вочы хітрушчыя, усё навылёт бачаць.

І думае Насця, што без дзеда Гароха, без яго слова, усмешкі, душы, дзівацтваў, яна, мабыць, не пражыла б у Лісані і адной зімкі, не пасіліла б у пушчы ні сцюжы, ні самоты, што гэта яе шчасце — дзед Гарох. З кім яшчэ ў пушчанскай глухмені парагоча, як не з ім? З кім перакінецца цёплым слоўцам? Ля чые душы адвядзе сваю пакрыўджаную людзьмі і богам душу?

Уздыхае Насця, задуманая. Уздыхае ад гаркоты, якой наглыталася за адзінокае жыццё, але і ад шчасця, што хоць дзед Гарох побач.

## 2

Кантора ў Лісані малая, сенцы ды пакой, а ў пакоі — цяжкая, з шалёвак, на вясковы лад збітая шафа, заваленая бухгалтарскімі паперамі, шырокая лаўка праз усю сцяну, некалькі разгайданых крэслаў ды два старыя сталы — ляснічага і бухгалтара. Сталы стаяць так, што Валошка, сеўшы за свой, увесь час мае перад носам Ліду Радзюк, маладую ружовашчокую бухгалтарку, а тая — Валошку. Абодва сталы пры шырокім акне, а за акном — куст бэзу, раскідзісты ясень, дарога ў глыб пушчы і сама пушча. У акно відаць, хто ад канторы падаўся ў лес, хто ідзе ці едзе ў кантору, хто што

вязе, нясе. За спіною ў Валошкі грубка, заўсёды сухія, быццам порах, дровы звалены ў закуце паміж грубкаю і сцяною, у куце стоўпіліся качэргі, мятла, савок — для вугалля і смецця; за спіною ў Ліды — невысокі, як табурэтка, жалезны сейф, тая цяжкая, што скала, шафа і вешалка, на якой вісяць яе зімовае паліто, хустка, Валошкавы белая шапка і куртка з белым каўняром.

У хвіліну, калі дзед Гарох пераступіў парог канторы, Ліда блізарука схілілася над сталом, выпісвала кліенту лесарубны білет, і гэтак аддалася свайму занятку, што насустрач старому нават галавы не ўзняла, не глянула. Затое Валошка адразу праспяваў разгойданым крэслам — крутнуўся на ім, кінуў позірк у парог.

— Га, стары партызан! — не то здзівіўся, не то ўзрадаваўся, не то падкалоў.— Ну, пасядзі з намі, Тамаш Ягоравіч.— Сёння ён быў у фрэнчы ляснічага, металічныя жоўтыя гузікі аж ззялі, начышчаныя.

На лаўцы і крэслах сядзелі кліенты, лесвікі, тэхнікі, рабочыя, а хто і стаяў ля парога, бо не кожнаму хапіла месца, каб сесці. Усе ўважліва сачылі за ляснічым, лавілі кожны яго позірк, кожнае слова. Усім хацелася ўгадаць яго настрой, думкі, бо ўсе ведалі, што тут, у лясніцтве, яго ўлада на лес, які і цяпер, як спакон веку, даражэйшы за золата кожнаму селяніну. Зняўшы шапку, Ягоравіч прыстояў на хвілінку ля парога, агледзеўся ў змрачнаватым пакоі, заўважыў, што на сейфе, які за спіною ў Ліды, ніхто не сядзіць, і пастарэчы нехлямажа прашаркаў туды, у кут.

— Ну?.. Хто спяшаецца? — спытаў Валошка нетаропкім, глухім, як з-пад зямлі, басам, хмурным паглядам абвёў сваіх і чужых.

Усе прыціхлі. Але адзін смелы знайшоўся:

— Я, Пятровіч...

І тады — нібы гаць прарвала:

— Мне таксама!

— І мне... Далёка ехаць!..

Людзі пасмялелі, заварушыліся, пачалі прасіць, быццам у кожнага раптам не стала ані хвіліначкі лішняй, і ў гэтай гамане ляснічы ўважліва прыглядаўся да аднаго, другога, трэцяга, усіх сіліўся зразумець, хоць гаварыць ні з кім не спяшаўся, марудзіў, нібы знарок выпрабоўваў людскую цярплівасць. Настрой кліентаў — і калі яны маўчалі, і калі крычалі — яму быў не новы. За шмат гадоў работы ў Лісані ён добра вывучыў людскія натуры, адразу здагадваўся, хто з чым і па што

прыехаў, з якімі думкамі, хто будзе рады сумленна ўзяць свой законны лясок, пазначаны ў нарадзе, а хто хітруе, каб прыхапіць лішніцу, чужое,— усіх, адным словам, бачыў як аблупленых, і таму яго вочы то хмурнелі, то цяплелі. Нарэшце ён выбраў здаровага таўстагубага дзецюка з чырвоным тварам, які паціху, не адрываючыся ад крэсла, няўзнак падсоўваўся да Лідзінага стала і ўжо блізка падсунуўся, па-свойску ўзлокціўся на стол, нешта нашэптваючы Лідзе, лісліва, як маслам падмазваючы, глядзеў ёй у вочы. Валошка цярпліва сачыў за чалавекам, хвіліну-другую чакаў, што з яго будзе далей, а потым спытаў:

— У цябе, Салавейчык, таксама спешка?

Той не збянтэжыўся, адно галаву павярнуў да ляснічага, нават неяк узрадавана выпаліў:

— Спешка, Пятровіч.

— Ты ж мясцовы. Тут ёсць людзі, што здалёк прыехалі, а табе чатыры вярсты ўсёй дарогі да Лісані і з Лісані.

— Дык жа дома дзялоў, што на свінні гразі.

Валошка нешта падумаў — насупіў бровы.

— Па дровы прыехаў?

— Па дровы, Пятровіч.

— Руплівы, а дроў на зіму не прыпас? — сказаў і адразу ўспомніў ранішнюю размову з маці, што ў самога дроў пад паветкаю — кот наплакаў, усяго на тыдзень-два.

— Ёсць дровы, ды мала,— адказаў Салавейчык.— Яшчэ б мне з дзесятак бярозак.

— Пачакай... Два месяцы назад, у самы ліставей, помню, ты выпісваў дровы. Прасіў асіну. На лепшыя, казаў, кішэня пуставатая. Ці я штосьці блытаю?..

Салавейчыку выгадней было б адмоўчацца, ды дзе адмоўчышся, калі Валошка з цябе вачэй не зводзіць, нібы што жывое з душы выцягвае.

— Ну, выпісваў. Але ж зіма доўгая?

Ля грубкі залялскатала, загрымела — усе азірнуліся: там стаяў, люта ўтаропіўшыся ў Салавейчыка, сцяўшы зубы і нервова варушачы вуснамі, высокі, шырокі, буйны, з сухім шэрым тварам, пабітым зямлістай воспаю, Макар Курнопа — ляснік з Ялоўкі, а крокі за два ад яго ляжаў паваленьі табурэт і на табурэце — качэргі, мятла, савок. Курнопу ведала ўся пушча. Сумленны, працавіты, цвярозы селянін, ён за лес, за праўду-матку, нават за самую, здавалася, драбніцу праўды,

быў гатовы змагацца, як за што вялікае, святое. Чагочаго, а хлусні, асабліва той, што датычыла яго абходу, цярпець не мог — вось і ўзарваўся, ускочыў, ажно табурэт з-пад яго адляцеў да грубкі, у качарэжнік.

— Хай!.. Хай ён скажа, Пятровіч, як гарыць тая асінка ў печы?!. Маўчыць?.. Няма што казаць?.. А ён жа... мяне, бачыце, не знайшоў у лесе, як дровы браў. Без лесніка паблытаў асіну ■ бярозаю...

Валошка глядзеў на Курнопу, ківаў галавою, маўляў, разумею цябе, Макар, супакойся, садзіся. І калі Курнопа замоўк, паставіў на месца качэргі, мятлу і савок, падняў табурэт і зноў сеў на яго, Валошка перавёў пагляд на кліента — спытаў:

— Ляснік праўду кажа?

Салавейчык панура маўчаў.

— Давай свой нарад. Ну?!. Смялей!..

Узяў нарад і, не зірнуўшы ў яго, перадаў Лідзе. Тая паклала паперку перад сабою, макнула пяро ў чарніліцу, але не пісала, чакала, што загадае ляснічы.

Валошка доўга не думаў:

— Выпішы яму, Ліда, горкую асіну. Перш чым паліць у печы крадзеную бярозку, хай асінавым дымам комін прачысціць.

Нехта на лаве ціхенька, у кулак, хіхікнуў, а Салавейчыкавы нервы не вытрымалі:

— У мяне ў нарадзе бяроза!

— Бачу,— з ранейшым спакоем адказаў Валошка.— Але атрымаеш асіну. Каб дурных у лесе не шукаў.

— Ды я... я на вас напішу!

— Ведаю,— ■ горыччу ўсміхнуўся яму ў вочы Валошка.— Не ты першы пісарчук, не ты і апошні. Пішы. Але красці адвучым. Лес — не твая ўласная кішэня. Дзяржаўная! — раптам павысіў голас.— А ты разумееш, гражданін, што значыць дзяржаўная?!

Валошкавы словы адразу ахаладзілі Салавейчыка, ён звяў, апусціў галаву, замоўк, і ўжо самым большым яго жаданнем было хутчэй выйсці з канторы. Даставаў з кішэні грошы — рукі дрыжалі, як над чужымі. Таропка адлічыў рублі і капейкі — абы не чакаць рэшту. І толькі Ліда падала білет, як ён схапіў яго і, не пытаючыся, дзе браць дровы, у якога лесніка, шыбануў за парог.

— Хто наступны?..

Размова ляснічага з Салавейчыкам ахаладзіла

астатніх, і ўжо ніхто голасу не падаваў, быццам людзі адумаліся — а ці варта спяшацца?

Было чуваць, як за акном на белым кусце цінькалі сініцы, змяталі з куста снег, дзяўблі на галінках мёрзлыя почкі.

— Вось вы... Крупенін?.. Калі не падводзіць памяць,— звярнуўся Валошка да маленькага, з дробным шустрым тварыкам чалавека, які зашыўся ў цёмны кут, мабыць, знарок, каб яго да пэўнага часу не бачылі.

— Крупенін, Лявон Беніямінавіч,— вымушаны быў азвацца той. Ступаючы мякка, нібы босы, падышоў да стала, за якім сядзеў ляснічы, ветліва падаў нарад.— Шэсць кубікаў. На хатку. Пажадана таўстамер.

Хмурачы высокі, з глыбокімі залысінамі лоб і густыя чорныя бровы, Валошка доўга, уважліва чытаў нарад, нібы першы раз бачыў гэтакую паперу, потым адваліўся на спінку крэсла, марудна спытаў:

— Хату паднаўляеце?

— Новую стаўлю.— Вочы ў Крупеніна міргалі, нібы рабілася балюча глядзець на святло.

— Як новую? — ціха і шчыра здзівіўся Валошка.— Хата ў вас не старая?

— Гм-м-м,— Крупенін заміргаў яшчэ мацней.— Тую сваю хатку я адпісаў пляменніку. З нашай Савецкай Арміі прыкаціў. Выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Адслужыў. Жаніцца надумаў. Сірата. Хто пасобіць, як не родны дзядзька?

— Аб сіротах непакоіцеся? Добрая душа. Гадоў дзесяць назад, скажыце, вы будаваліся?

Крупенін павольна, гэтакім гусаком, выцягнуў з каўняра ватоўкі пачырванелую шыю, рэзка крутнуў галавою ўлева, потым, не меней рэзка, управа, нібы каўнер зрабіўся цесны — душыў.

— Ну-у... а што?

— Ды пасля вайны ўжо трэцюю хату ставіце — вось што! Я помню, як вы і тады казалі, што пляменнік у вас сірата, з арміі, выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Што жэніцца. Ці гэта ўжо другі пляменнік?

— Н-не!.. Я дакажу, таварыш ляснічы!

— Не варта. Дзе вы робіце? Як і тады, шафёрам?

Крупенін адчуў, што яму трэба шукаць нейкую іншую мову з ляснічым, не адмоўчвацца, не абараняцца, можа, рашуча паўстаць за сябе, за сваю правату — ніхто іншы не заступіцца.

— Я не лятун! — павысіў ён голас.— З работы на

работу не лётаю.— Памаўчаў, агледзеўся і раптам схітраваў: — Можа-а... Калі вам трэба машыну, дык я...

Валошка ўсміхнуўся, здзівіўся:

— Ну і шустры вы, Крупенін!

— А што? Я магу...

Глухаваты душою, ён не ўлавіў, што яго ласка абурыла Валошку, ды і не мог гэтага ўлавіць, зразумець, бо іначай, як Валошка, думаў, бачыў, адчуваў. А Валошка, абурыўшыся, зноў успомніў ранішнюю размову з маці, сваё абяцанне, што заўтра дровы будуць ляжаць на двары, падумаў з прыкрасцю да сябе, што дарэмна, мабыць, абяцаў, бо з машынаю яшчэ ні з кім не дамаўляўся і знайсці яе будзе не лёгка — з машынай заўсёды цяжка, бо сваёй няма, трэба ў некага клянчыць.

— Раней у вас быў ЗІС?

— А цяпер ЗІЛ, новенькі,— пахваліўся Крупенін.

— Што ж... Гэтакім цяглом не адну хату можна і паставіць, і прадаць, паставіць новую. Залатая жыла развароттліваму чалавеку. Ці не так?

Крупенін стаяў перад усімі, быў добра ўсім відзён, усе на яго таропілі вочы, і гэта яшчэ мацней бянтэжыла, ён губляўся, не ведаў, што казаць ляснічаму, людзям, якія калючымі позіркамі нібы распраналі яго дагала. І, не вытрымаўшы гэтага ўсеагульнага здзеку, ён раптам крыкнуў, як ад болю:

— Ды я... я па закону, таварышы!

Лоб у Крупеніна заблішчаў ад поту, раз-поразу ён шморгаў па ім рукавом фуфайкі.

— Нарад у вас на восем кубаметраў?

— Ну!.. На восем!

— І той раз быў на восем. А ўзялі?.. Васемнаццаць?.. Тады мы вашых дзяцей пашкадавалі. А як цяпер?.. Мабыць, ужо дзеці падраслі? Разумнейшыя за бацьку сталі?

— Я той лес купіў з рук.

— Ну... з чыіх рук — даказана. Я пытаюся пра гэтыя кубаметры,— Валошка патрос нарадам.— З чыйго фонду?

— Райвыканком даў. Сам таварыш Савін...

Валошка ўзяўся за тэлефонную трубку. У ёй хрыпела, шчоўкала. Паклаў, зноў падняў, набраў нумар міжгорада, папрасіў тэлефаністку звязаць са старшынёю райвыканкома суседняга раёна. Звязацца не ўдалося — Савіна не аказалася на месцы. Валошка ведаў, як бывае ў жыцці, калі нахаба прабіваецца да высока-

га начальства, як тое начальства, каб паказаць сваю велікадушнасць да простага чалавека, ахвотна падпісвае любую паперку, не ведаючы чалавека, не разабраўшыся, ці варты ён гэтакай шчодрасці. Валошка адчуваў, што і ў гэтым выпадку паперка «падмахнута» на скорую руку, старшыня райвыканкома не ведае Крупеніна, не здагадваецца, што восем кубаметраў лесу аддаў не таму, каму сапраўды варта было аддаць. І не хацелася кідаць тэлефонную трубку, не даказаўшы, не адкрыўшы Савіну вочы на Крупеніна. Папрасіў тэлефаністку перанесці размову на пазнейшы час.

А Крупенін, убачыўшы, што ляснічы супраць яго нічога не даказаў, з усмешкаю заўважыў:

— Дарэмная работа. Што Савін выпісаў, тое дадзіце. Сваім фондам ён камандуе. Ён у раёне гаспадар.

Валошка падумаў: «Сапраўды. Нарад на руках — дасі, ляснічы, лес. Хочаш ці не хочаш — дасі. Але ж...»

— Ладна, з вамі пазней,— адклаў нарад убок.

Закалаціўся Крупенін. Зноў выцягнуў з каўняра чырвоную шыю — зараз накінецца з кулаччам,— ды Валошка ўжо не глядзеў на яго.

Ля парога стаяла пажылая жанчына ў парудзелай плюшаўцы і стракатай хустцы. Месца, каб сесці, ёй не хапіла з-за дападных мужчын, і яна пераміналася з нагі на нагу, зморана, неяк журботна глядзела перад сабою ў адну кропку — у сцяну,— была спакойная ці абыякавая, нібы ўсе свае справы ў Лісані парабіла, а цяпер кагосьці чакала, думала пра вёску, дзяцей, карову, свіней — звычайны сялянскі клопат. Яе, ціхую, у канторы мала хто заўважаў, але Валошка заўважыў:

— Пасуньцеся, мужыкі. Пасадзіце жанчыну.

Яна нясмелым голасам аднекнулася — маўляў, пастаіць, нічога з ёю не зробіцца,— але месца на лаўцы, як сказаў ляснічы, знайшлося, і яна села, развязала хустку, адкінула з галавы на плечы, з палёгкаю ўздыхнула, далонню правяла па збялелых вільготных валасах. Каб лепей бачыць жанчыну, Валошка адсунуў сваё крэсла ад стала, павярнуўся да яе тварам, спытаў, адкуль прыехала, і выявілася, што яна з той жа вёскі, што і Крупенін,— вёска Сітнае,— а прыехала па чатыры кубаметры лесу на хату, якую збірае пяты год, ад вайны жывучы ў лазні. Валошка ўважліва слухаў жанчыну, з увагаю глядзеў на яе выцвілую плюшаўку, жаўтлявы твар, у той жа час заўважаючы, з якой непрыязнасцю яна кідала позіркі на Крупеніна.

— Чаму раней не будаваліся? — пацікавіўся.— Лес пасля вайны ўсім давалі. Бралі, хто колькі хацеў.

— Давалі ўсім, ды не ў кожнага сіла была, каб узяць.

— Ёсць муж?

— Калі б ён быў.

Схіліўшы галаву, жанчына моўчкі разглядала свае маслакаватыя шэрыя рукі, якімі абыякава перабірала махры хусткі, як нешта ўспаміпала, потым, цяжка ўздыхнуўшы, рэзка ўзняла галаву, нібы адчула, што ляснічы не зводзіць з яе вачэй.

— А-га! — Рукі на хустцы замерлі. Жанчына кінула пагляд на ляснічага і ціха, як яму аднаму, прызналася: — Уцёк, дурань, з фронту. Ужо вайна канчалася. Нашы наступалі. Пад Сітным часць стаяла. Прыпынілася і пайшла, а ён схаваўся ў пуні пад сячкарняю. Не вытрымаў вайну да канца, дужа жыць хацеў. А былі ж медалі, ордэны. Славу меў. Два дні дома пасядзеў — і як скрозь зямлю праваліўся. Спахапіўся, што свае засудзяць ці без суда... З таго часу ані почуту.

— А дзеці?

— Хлопчык памёр пасля вайны. Падарваўся на міне. А дзеўка са мною на ферме. Кароў доіць.— Памаўчала, адвярнулася, у сцяну вымавіла: — Муж-смуж, аб'еўся груш.

Цяпер Валошка здагадваўся, чаму гэтак ціхмана, не падаючы голасу, жанчына тулілася ля парога, нібы бяспраўная, вінаватая, не жадала, каб мужчыны пацінуліся на лаўцы, далі ёй месца, і чаму дагэтуль не мела людскае хаты, хоць вайна даўным-даўно адгрукатала. Маўчала, абы людзі мужам вачэй не калолі. А падумаць-паразважаць, дык няўжо яна ці яе дзеці вінаватыя за таго чалавека? Не, яе бяда была большая за беды жанок, чые мужыкі, па-мужчынску аддаўшы свой ратны доўг, леглі ў зямлю. Тыя жанкі хоць смела ў вочы людзям глядзелі, да тых была ўвага, спагада. А ёй? Ці паспагадаў хто-небудзь? І дзіва дзіўнае, як адважылася адкрыцца? Валошка ўжо шкадаваў, што распытваў, перад людзьмі разварушыў бяду, якую жанчына хавала, і ўжо, каб людзі, якія сядзелі вакол, хутчэй забылі тое, што яна тут паведала, спытаў — бліжэй да справы:

— А як жа вы лес возьмеце? Машына з вамі?

— Не. Я пасля прывязу. Раздабуду машыну і прывязу. А цяпер хоць выпішу.

— Ужо ж снег ляжыць. Праз дзень-два накідае, што і машына ў пушчу не праб'ецца.

Жанчына бездапаможна паціснула плячыма: не ведала, што на гэта сказаць.

— Ваш калгас імя Чапаева? — спытаў Валошка.

— Ага. Чапаеўка я.

Крупенін хіхікнуў у куце.

— Можа, вы, Крупенін, пасобіце суседцы машынаю? — Валошка зірнуў на яго.— Мне абяцалі, а ёй пасобце. Ну?.. Сёння ёй, заўтра сабе прывезяце. Ці сёння два рэйсы? Што маўчыце?

Крупенін спяшаўся прыкінуць: з аднаго боку, не блага даць згоду — ляснічы адразу і яму лес выпіша, не марынуючы, рука ў руку, як кажуць, але з другога боку — два рэйсы? Выжыльвацца? Ды пасля таго, як ляснічы дапёк пры ўсім народзе?

— Не!.. Скаты слабыя.

— Ну, а калі я вам, Крупенін, не адпушчу сёння лесу?

— Вярнуся ў Сітнае.

— Парожні?

— А які ж?..

Валошка напружана, быццам стрымліваючы сябе, падняўся з крэсла, сашчапіў за спіною доўгія збялелыя пальцы, хруснуў імі, пачаў хадзіць па пакоі, цяжка грукаючы ботамі.

Перад Крупеніным спыніўся, глуха спытаў:

— Хто вы такі? — І сам адказаў: — Вяртун!..

Гэта не было быццам ніякай абразай, але ў Валошкі гэта было, бадай, самае зняважлівае слова. Ім ён крыў чалавека, які чыніў гэтакі боль, як тая бязлітасная хвароба лясная, што выкручвала маладой сасне вяршаліну, высушвала яе, выкручаную,— дрэва канала на корані. Не жадаючы ўжо глядзець на Крупеніна, выказаўшыся і як быццам крыху супакоіўшыся, Валошка зноў сеў за стол. Тады з лаўкі ўсхапілася жанчына.

— Я сама, таварыш ляснічы! Вы мне выпішыце, а я ўжо сама як-небудзь прывязу тое дзерава.

Відаць было, што яна не жадала, можа, нават баялася карыстацца паслугамі аднавяскоўца.

— Тут, здаецца, ваш старшыня хадзіў? — спытаў Валошка.

Старшыня калгаса быў не раўня кліентам, што сабраліся ў канторы, якім карцела хутчэй атрымаць ле-

сарубны білет дый шыбаваць да сваіх дрэў, ён не спяшаўся, не хваляваўся, вельмі не думаў пра тыя кубаметры — лес браў калгасу, не пяць-дзесяць кубікаў, а ў дваццаць разоў болей, меў старшынёўскі гонар і самавітасць. Ён стаяў ля плота з цыгаркаю ў роце, грузна, больш як цэнтнерам, аблёгшыся на жардзіну, і глядзеў то на снег, то на жардзіну, баючыся, што яна пад ім абломіцца,— жардзіна яго хвалявала больш, як білет з рук ляснічага. Але, калі паклікалі ў кантору, ён выплюнуў цыгарку ў снег і, не марудзячы, падняўся на ганак, адчыніў дзверы. Адразу, ні на кога не зважаючы, пачаў корпацца па кішэнях, нарэшце знайшоў нарад і, толькі тады зірнуўшы, дзе ляснічы, падышоў да яго, падаў здаровую, што пранік, руку, паклаў на стол свой нарад і, азіраючыся вакол сябе, быццам яму нехта павінен паднесці крэсла, вымавіў:

— Сто семдзесят кубікаў. На кароўнік.

Валошка рашучым позіркам акінуў яго магутную постаць, даўжэй затрымаў увагу на мядзведжых лапішчах, якімі той абапіраўся аб стол, на буйной галаве і мясістым твары, спытаў:

— Хочаце ўзяць на корані?

Гэтак спытаў таму, што звычайна ўсе, хто меў тэхніку і рабочую сілу, імкнуліся браць на корані — хутчэй можна ўправіцца, калі сам з пілою, ды і выбраць можна лепшае дрэва. Але старшыня меў іншую думку:

— Марока лішняя. Ды і людзей няма. У калгасе цяпер адны старыя. Хай у мароз на печах сядзяць.

— Значыць, па гатовы прыехалі?

— Толькі так. Каб быў і спілаваны, і страляваны. Ускінуў на машыну ды газуй сабе.

Валошка і не ўгаворваў браць з кораня, бо такой выдачы сам не любіў: дзе кліенты валілі ды тралявалі — там пасля іх было шмат пустых паўлітраў і мала парадку.

— Добра. Атрымаеце гатовы. Заўтра адводзім дзялянку.— Валошка перавёў позірк на чубатага маладога тэхніка Падабеда, які самавіта сядзеў на лаўцы ў вайсковым бушлаце, з афіцэрскай скуранай сумкаю на калене.— Як, Сяргей? У сорак шостым квартале набяром? — Тэхнік згодна кіўнуў.— А з пілою пойдзе Клімаш. Чуеш, Клімаш?

— Чую, Пятровіч.

Здаровы, быццам шулак, Клімаш сядзеў на бензапіле каля парога, побач з Міцькам, сынам Макара Кур-

нопы, локцем соўгаў маладзейшага хлопца пад бачыну, гугніў яму ў вуха: «Ну, не маўчы!..»

Міцька не змоўчаў:

— А можа, я пайду, Пятровіч? Пілу навёў.

Валошка паглядзеў на Міцьку, і тое, пра што неаднойчы думаў, зноў завіравала ў галаве: «Добры ты хлопец, Міцька. Дзесяць класаў адолеў, дэсантнікам адслужыў. Набрыняў сокам, сілай. Косць шырокая. Башкавіты. Увесь у Макара. Але разумнага бацьку не слухаеш. Ён цябе гоніць у тэхнікум, а ты з пілою кінуўся ў калым, па вёсках бабам дровы пілуеш. Кудлы адгадаваў, звесіў на плечы, што дзеўка. Ужо з калымам, пэўна, суняўся, калі просішся ў лясніцтва? Ну, вазьму я цябе. Вазьму. Але спачатку залыгаю, як бацька не здолеў. Бо надта гарачы. Што вар. З рук цябе выпускаць нельга...»

Валошка нічога Міцьку не адказаў, зноў перавёў позірк на старшыню, а той, як апамятаўшыся, грукнуў сябе кулаком у грудзі, і ў вачах яго імгненна зніклі ранейшыя спакой, незалежнасць, упэўненасць у сваёй сіле.

— У мяне машына, таварыш ляснічы. Яй-богу, не магу паражняк ганяць. Калгаснікі што скажуць? Старшыня сам паехаў па лес і пусты вярнуўся. Га?..

Валошка паказаў на жанчыну ў плюшаўцы:

— Вось... Знаёмыя?

Старшыня глянуў — здзівіўся:

— Марусева?.. Ты чаго тут?

— Як чаго? Будуюся. Па лясок прыехала.

— На чым?

— На аўтобусе.

— Га!.. Аўтобусам лес павязеш?

Тут яна, ціхая-ціхая, і здзівіла ўсіх, нават Валошку:

— Чаму на аўтобусе? А ваша машына парожняя?

Замоўк, як мову яму адняло, а Валошка падумаў: «Малайчына, Марусева».

Старшыня, вядома, не чакаў, што тут, у пушчанскай канторы, далёка ад Сітнага, сустрэне сваю калгасніцу, але яшчэ большай нечаканасцю было апынуцца ў становішчы, калі трэба аддаць машыну, а самому трэсціся назад у вёску аўтобусам. Ды і дзе той аўтобус? Праўда, ён быў гаспадаром машыны, ён сам вырашаў, даваць яе ці не даваць. Мог адмовіць. Мог прыдумаць нейкую прычыну. Але разумеў, што пры людзях, на

вачах у ляснічага, у гэтых нечаканых абставінах газаваць назад паражняком, калі свая калгасніца не мае на чым везці лес,— таксама не можа. Што людзі падумаюць? Адразу знік настрой, змяніліся твар, голас. І Валошка адчуў, што старшыня ўжо нікуды не дзенецца, што адмовіць Марусевай ужо не зможа, машыну дасць, бо ён усё ж, пэўна, не кепскі чалавек. Не Крупенін. Не.

І ўжо Валошка распытваў Марусеву, быццам машына была ў яе ў руках:

— Вам куды лясок?.. На асаду, падлогу, столь?.. Колькі вокан, дзвярэй?.. Чатыры кубаметры мала. Хоць бы якіх восем, дзесяць... Пачакай, Ліда,— глянуў на бухгалтарку, потым у акно, дзе шустрыя сініцы страсалі з куста снег.— Выпісвай дзесяць. Чатыры нарадныя і шэсць безнарадных.

А Ліда не пісала. Яна глядзела на зорачкі ў пятліцах Валошкавага фрэнча і думала: «Вядома, ляснічы мае магчымасць выкраіць нейкія кубаметры. Але ж безнарадная выдача лесу забараняецца. Зімавец дазнаецца — будзе табе, Пятровіч, непрыемнасць. А дырэктар абавязкова дазнаецца. Бо тут — Крупенін. Ён кінецца начальству даказваць. Ён — такі...»

Усё гэта ведаў і сам Валошка. Але не мог зрабіць іначай.

— Што пісаць, Пятровіч? — перапытала Ліда.

— Я ж сказаў. Пішы дзесяць.

— А можа?..

— Пішы-пішы, Ліда. Я цябе разумею, але... пішы.

Іншае непакоіла Валошку. Ён заўважыў, што жыццё не прывучыла Марусеву браць верх над такімі, як Крупенін. Пасабляючы жанчыне, ставіў яе ў становішча новае, нязвыклае, нялёгкае і перад Крупеніным, і перад старшынёю калгаса. «Як ён, Крупенін, пасля ўсяго гэтага паставіцца да Марусевай? Ці даруе ёй сённяшнюю яе перамогу, яе выйгрыш і свой пройгрыш? Крупенін не з тых, хто лёгка даруе. Марусева ведае. Баіцца?..»

Валошка доўга не адводзіў позірку ад сініц за акном.

— Што ж, Ліда! Выпішы і Крупеніну.

Калі Крупенін пераможна, ужо ля парога, запіхваў лесарубны білет у кішэню новых дыяганалевых штаноў, Валошка яшчэ раз яго папярэдзіў:

— У вас восем кубаметраў. Помніце! Праверу і ў

лесе на машыне, і ў вёсцы. Прыеду ў ваша Сітнае, у сцяне замераю. Ужо нікога не правяраю, а вас, Крупенін, праверу.

Крупенін скрывіўся, пачухаў патыліцу:

— Дарэмна, таварыш ляснічы. Кожны чалавек жыць хоча. Быў час — набедаваліся.

— Бедавалі ўсе аднолькава. І жыць усе аднолькава хочуць. Усе жывуць, і вы жывіце. Хто вам не дае? Але па-людску, як усе. Не думайце, што лес — бяздонне. Закасвай рукавы ды грабі. Абы сіла.

— У Лісані хапае.

— Хапала некалі і ў вашым Мсціслаўскім раёне. Быў, ды сплыў.

— Не за нашым часам.

— Дзе — не за нашым, а дзе — за нашым.

Кантора пусцела. Леснікі і кліенты разыходзіліся, раз'язджаліся. З Падабедам і двума леснікамі на калгаснай машыне паехала ў лес Марусева. Паехаў і Крупенін, за Марусевай следам. У канторы засталіся Ліда, Валошка ды дзед Гарох. Валошка наклаў у грубку дроў, адчыніў юшку, падпаліў смалякі і сеў перад агнём на табурэтку, закурыў. Маўчаў, нешта думаў. Стары не адважваўся перапыняць яго думак, але споўз з сейфа. Валошка пачуў шоргат — спытаў, не глянуўшы на дзеда Гароха:

— Скажы, Ягоравіч, ці злуе на цябе Насця?..

Такога пытання стары не чакаў. Аж здзівіўся:

— А чаго ёй злаваць? Жартуе.

Тады Валошка азірнуўся на яго:

— Ох нажартуецеся вы мне!

— А што не так, Пятровіч? — Стары падышоў бліжэй, пачаў неспакойна расшпільваць і зноў зашпільваць гузік на кажусе.

— Не ведаеш — што?.. Леснікі шышкі не збіраюць, на сушню не вязуць, а ты баішся ім на мазоль наступіць. І Насця з табою жартачкі строіць. Цікава, чым вы, жартаўнікі, будзеце вясною лясы адсяваць?

— Пяцьдзесят кілаў сабралі.— Стары лягчэй уздыхнуў, бо яснейшая пайшла гаворка.

— Гэта сасны. А елкі?

— І па елцы план зраблю.

— А мне твайго плана мала.

— Можна два.

— Не пойдзе. Гэтак мы раней жылі. Абы план ці два. Можа, хопіць гнаць планы? Можа, інакш паду-

маем? Ты, Ягоравіч, стары лясун, ведаеш: адно дрэва дае шышку вялікую, зерне буйное, значыць, парастак праб'ецца буйны, да жыцця здаровы, а ў другога — зярнятка гарчыць і сохне, калі яшчэ дрэва на пні. Дык вось, на планы не забывай, а пра лес думай. Я зайду пагляджу, што ў тваіх сусеках. Насенне ці мышыны гарох.

— Мышыны, прабачце, на дрэве не расце,— рашуча абурыўся стары, бо Валошка яго дапёк, ды моцна.— Ляснік не вавёрка. На хваіну не загоніш. Асабліва гэтакага маладога, як я.

Стары перажываў, сердаваў, калі яго ўшчувалі за працу, бо гультаёў сам не пераварваў, усё жыццё рабіў, як лесу лепей. Ён ведаў, што Валошку даўно рупіла збіраць элітнае насенне, але з чаго сёлета выбіраць? Хай сасна і цвіла дружна, ды потым ліўні хлынулі, увесь цвет пазмывалі. Вакол Лісані хоць лес гусцейшы, вятры не разгуляліся. Спрабавалі накінуцца, ды разбіліся аб баравыя сцены. А суседзі на вясну выйдуць зусім без насення. Значыць, трэба тут, у Лісані, сабраць болей, каб усім, сабе і людзям хапіла.

Валошка прачыніў дзверы: на ганку курылі Вайцюк, Рысеў, Макар, Міцька. Гукнуў Рысева, але з Рысевым зайшоў і Міцька.

— Шышкі сабраў? — спытаў Валошка ў лесніка.

— Поўны хлеў, Пятровіч.

— Паедзеш на кані з Ягоравічам. Ён ад цябе шышкі прывязе, а ты пачынай прачысткі. Пакуль снег неглыбокі.

Тут дзед Гарох заікнуўся пра Насціны скрыні, ды Валошка ад яго адвярнуўся, уважліва разглядаў Міцьку, нібы хацеў штосьці спытаць,— Міцька гэта адчуў, сам спытаў:

— Як мне быць, Пятровіч? Можа, заяву назад вернеце?

Валошка дзівіўся на яго доўгія чарнявыя валасы.

— Баюся я цябе браць у лесарубы. Заблытаецца прыгожая грыва ў галлі, галаву пад дрэва зацягне, а мне за цябе адказвай. Па тэхніцы бяспекі доўгавалосых нельга пускаць у лес. Разумееш?.. Інструкцыя!

— Здзекуецеся? — пакрыўдзіўся Міцька.

— Ды і здзекі мае навошта табе цярпець?

— Ладна. Сёння спецрэйсам паеду ў Гарадок. Цырульніку на венік грыву скіну. Хай будзе па-вашаму.

— Вось тады прыходзь з пілою.

Калі Міцька, абрадаваны, выскачыў з канторы, стары зноў нагадаў пра Насціны скрыні, каб нейк з'ездзіць па іх, а Валошка паглядзеў на яго боты, узяў старога за плячо, павярнуў тварам да дзвярэй:

— Ідзём-ка, Ягоравіч, са мною.

Дзед Гарох не здагадваўся, куды вядзе ляснічы, што ад яго хоча, але слухмяна выйшаў на двор.

— Пастаў нагу на снег,— загадаў Валошка. Стары зрабіў, як загадана: снег ля плота ляжаў нярушаны, белы.— А цяпер леваю дай след.

Дзед Гарох даў і леваю. Але занепакоіўся:

— Што гэта вы задумалі, Пятровіч? Дзяржаўнай мяжы я нідзе не перайшоў. Ні разу на чужое не кваміўся. На чорных сцежках не замешаны.

А Валошка тады скрыні ўспомніў:

— Ад Рысева вяртайся Асечаю, па сценцы вальера. Там іх ускінеш. Наверх на мяхі.

Але навошта яму, старому, цяпер тыя скрыні? Нікуды яны не дзенуцца. Цяпер яго хвалявалі хітрыя Валошкавы петлі са слядамі: «Нешта ж задумаў? Не разблытаеш ягоныя петлі загадзя — абавязкова ўліпнеш у якую-небудзь гісторыю, пасмешышчам на ўсю пушчу станеш. Валошка можа падстроіць. Ой, можа!.. Шэльма...» І ён стаяў перад ляснічым — не варушыўся. Сцяты, натапыраны, усхвалявана лыпаў вачыма, нібы дзіця малое пасля шкоды. Усё роўна як жаласным выглядам хацеў абудзіць да сябе спагаду ў Валошкавай душы.

Валошка гэта адразу зразумеў, дабрэй усміхнуўся, але загадкавыя петлі, якія панаставіў, пакінуў, сказаўшы:

— Калі б ты, Ягоравіч, перайшоў дзяржаўную мяжу, твае сляды вывучаў бы не ляснічы, а пракурор. Дык ідзі запрагай Малога. Бяры Рысева і паганяй.

А сам падаўся да калгаснага старшыні, які адзінока стаяў каля плота, курыў, пэўна думаючы, як яму цяпер дабрацца да свае вёскі.

## 3

У лесе пачынала шарэць, калі дзед Гарох, вяртаючыся ад Рысева, пад'язджаў да Лісані.

У Ялоўцы ён не заседзеўся, выбраўся з яе недзе папоўдні, калі сонца, белае і чыстае, ледзь пацягнутае дымком, бліпчала на пушчу з яшчэ ладнаватае вышы-

ні. Але доўга ехаў. І не таму, што Малы слаба цягнуў воз ці дарога доўгая. Малы цягнуў лепш не трэба, і дарога не вельмі доўгая. Ад'ехаўшы ад Ялоўкі вярсты са дзве, стары неяк няўцямна, не думаючы, куды сморгае лейцамі, завярнуў на Вышку — голы грудок, дзе пры паншчыне стаяла высокая супрацьпажарная вышка са звонам. Тут яго сцежкі былі здаўна натораны, бо часцяком, бываючы ў Ялоўцы альбо дзе-небудзь яшчэ за Асечаю, у тым баку, ён заязджаў да Вышкі і запыняўся, бывала, што надоўга, калі не спяшаўся. Быў тут куток, які зазываў да сябе: удзірванелая наспачка і маладая рабінка. Пад наспаю [redacted] сорак першага, з ранняй восені, ляжаў салдат, акружэнец, якіх у той час нямала хадзіла па пушчы. Таго салдаціка Ягоравіч памятаў жывым. Хлопцы знайшлі яго на Сажы, у пячоры пад берагам. У скрываўленых штанах і гімнасцёрцы ён ніцма ляжаў на жаўкве, толькі ногі ў вадзе, па якой расплывалася крывавая рыжына. Ноччу яго перанеслі ў лес, і Ягоравіч усю ноч сядзеў пры ім, чакаючы фельчара з Гарадка, не зводзіў вачэй, а таму твар і ўрэзаўся на ўсё жыццё ў памяць — белы-белы: ці што сцёк крывёю, ці ад пароды сваёй літоўскай, ці ад поўні, якая ззяла яму ў твар скрозь галіны дрэў? Яшчэ помнілася, што быў ён зарослы, з рэдкімі вусікамі. Да раніцы дыхаў, трызніў, прасіў вады, глядзеў у начное неба светлымі, таксама як белымі, вачыма, [redacted] рота сачылася, не перасціхаючы, кроў. Запомніўся, можа, яшчэ таму, што быў маладзенькі, як Коля, сын. Сынавай магілкі стары не ведаў, вось і не забываў, даглядаў гэтую салдацікаву наспу пад Вышкаю. Адразу пасля вайны паставіў чатыры слупкі, звязаў іх жэрдкамі, каб нічыя нага не стаптала, зрабіў калонку з дошак, чырвонай фарбай памазаў, напісаў імя і прозвішча. І год смерці. Як было напісана на той дошцы, што ставілі яшчэ ў сорак першым. Пасадзіў рабінку, каб вечна гарэла чырвонае полымя. Дрэўца вырасла, ягады на ім штогод трымаліся, пакуль птушкі не склёўвалі. Сёння калатнуў, строс снег з галін — зноў успыхнула, зачырванела рабінка. Мабыць, дарэмна страсаў, бо праз колькі часу на падмёрзлую чырвань наляцела чарада снегіроў. Ён іх пужнуў, яны ўзляцелі, а ягады чырвоным дажджом пырснулі на белы снег. Пасядзеў — зноў птушкі прыляцелі. Цяпер спажыву не ўпусцяць. Хіба другі снег ляжа на рабінку, прыкрые хараство.

Дык вось дзе затрымаўся дзед Гарох. А потым — пакуль знайшоў пад снегам Насціны скрыні, пакуль парываў іх ад зямлі, бо ўжо ўмерзлі. Ад'ехаўшы ад Асечы, заўважыў, што шарэе. Але затое душа была спакойная, бо вяртаўся, усё парабіўшы. На розвалах ляжалі мяхі, па завязкі напакаваныя шышкамі, на мяхах — скрыні, а сам прымасціўся ў задку: адной рукою трымаў лейцы, другую засунуў пад кажух, дзе то варушыўся, то аціхаў жывы камячок — сабачка, якога ўдалося выклянчыць у Рысева.

Сабака ў старога вадзіўся заўсёды — як гэта жыць у лесе без сабакі? Як быў маладзейшы, хадзіў паляваць, дык і па два было адразу. А пазалетась звёўся. Ды як звёўся? Нейкі валацуга ўначы нячутна падкраўся і павёў Белага з двара. Белы быў з пароды сібірскіх лаек, рахманы рабы кабель, белы з чорным, да рук ішоў лёгка, браў любога звера, малога і вялікага, ніколі не губляўся і не баяўся, а галоўнае — пры хаце быў адзінай жывой душою, той разумнай душою, з якой можна пагаварыць. З паўгода дзед Гарох шукаў прапажу, распытваў у людзей — можа, хто бачыў? Бываючы ў вёсках, шнуруючы па пушчы, прыслухоўваўся да ўсіх сабачых галасоў, пакуль не адчуў, што назаўсёды страціў Белага, і тады надумаў узяць сабачку ад Валошкавай сукі. Ляснічы абяцаў, але абяцанага тры гады чакаюць. Узяць не ўдавалася, бо кожны раз нехта растаропнейшы пераймаў. Затое сёння ўгаварыў Рысева аддаць сабачку, а гэты ж таксама адной крыві з Мальваю — ад яе Рысеў трымаў сучку. Дзед Гарох ехаў і радаваўся, што пад кажухом яму ў руку тыцкаецца саплівая пыска, даверлівая і жаданая, лашчыў сабачку па галаве, спінцы, лапах, гадаў, як назваць свайго новага жыльца.

Аб чым не перадумаў за дарогу? Толькі заехаў у лес — і павяло на ўспаміны. Дарога ад Ялоўкі бегла кашлатым сасновым прыбарам, потым чыстым маладым борам, бярозавым гаёчкам, узболаткам, месцамі гэтак звужалася, што з пешым чалавекам не размінешся, не шаснуўшы ў неруш, і большую частку дарогі сядзеў на мяхах, падкурчыўшы ногі, а пакуль сядзеў, не варушыўся — бачыў той курганок і рабінку, яе чырвоны, нібы полымя, верх, атрэсены ад снегу, зноў і зноў скаланаўся ад думкі: як гэта ён, бацька, не ведае сынавай магілкі? Так атрымалася, што не ведае, хоць у адным атрадзе пачыналі ваяваць. Восенню, у самую

цемень, Коля і яшчэ старэйшы хлопец, шафёр з Гарадка, пайшлі на сувязь з закінутымі на другі бераг дэсантнікамі — і не вярнуліся. Ніхто не чуў, што з хлопцамі, і ніхто іх не бачыў.

Разважаючы сам з сабою, з пушчаю, дзед Гарох не заўважыў, як адбіўся ад воза. Малы пераваліў цераз узгорак, выехаў ужо на лісанскі выган, убачыў наперадзе сваю канюшню і спыніўся, чакаючы гаспадара. Стары нагнаў яго, выцягнуў з-пад меха лейцы, стаў ззаду на палазы, каб пад'ехаць, але пачуў машыну — яна гула зусім блізка. Ледзь паспеў завярнуць Малога пад дрэва — уступіў каляю,— як міма, вымятаючы з-пад колаў снег, пранёсся шустры дырэктараў «газік».

Валошка і Зімавец былі ўдвух, калі парог канторы пераступіў дзед Гарох. Як не знаходзячы, дзе стаць ці сесці, дырэктар хадзіў узад-уперад, парыпваў чорным скураным паліто на шырокіх дзябёлых плячах, а доўгі Валошка стаяў ля стала, сумна апусціўшы галаў, глядзеў на цыгарку, якую камечыў у доўгіх танклявых пальцах — не адважваўся закурыць, бо дырэктар не курыў і цярпець не мог курэцкага смуроду.

Дзед Гарох даў «дзяньдобры», яму ніхто не адказаў, і ён, адчуўшы сябе лішнім у высокай кампаніі, быў павярнуў назад, ды ў гэты час Валошка кіўнуў яму на лаву — стары падаўся ў цёмны кут і ўсеўся на сейф. Дырэктар непрыязна зірнуў на дзеда Гароха, нібы хацеў вымесці яго з канторы, але, сустрэўшыся позіркам са старым, адвярнуўся, падышоў да акна і моўчкі глядзеў у той бок, дзе цякла Трасцінка, дзе за Трасцінкаю пачыналася дуброва. Глядзеў спадылба, нешта таемнае думаў, жмурачы вочы, ажно сэрца ў старога захвалявалася — яму падалося, што дырэктар нядобра глядзіць на дубы.

— Тэк-тэк... Значыць,— загаварыў Зімавец,— машыну разгрузіце. Складзяце акт. Вышлем у суд.

Валошка нарэшце закурыў. Адчыніў фортку і, фукаючы ў яе сінім дымам, прызнаўся:

— Агейчыку я сам дазволіў прыбраць валежнік.

Зімавец рэзка павярнуўся да яго, злосна зірнуў у самыя вочы. Але Валошка прывык і да такога дырэктаравага позірку — не збянтэжыўся.

— Бачылі, які парадак у трыццатым квартале? Не лес, а парк. Агейчыкава работа. Мала таго што лес па-

чысціў, дык і мурашнікаў колькі рассяліў! Ляснік казаў... ці не дваццаць? А лес — чыстая сасна. Там і сасновая соўка, і падзеніца, і пілільшчыкі. Ён, Агейчык, разумна рассяляе. Вясною, як снег сыдзе, бярэ самы верх гнязда, з ядром, дзе цяпло, дзе збіраюцца маткі, разам з куклятамі, з рабочымі мурашкамі, і — у мех. І панёс. І знаходзіць для новай сям'і такое месца пад старым пнём...

Зімавец слухаў быццам з ахвотаю, быццам захапіўся Валошкавым расказам, але ўсё ж перабіў:

— На гэта ёсць лясная ахова!

Пасада дырэктара давала Зімаўцу права гаварыць з ляснічым крута — ён сам, ва ўсякім разе, гэтак лічыў,— ды Валошка быў упэўнены ў сваёй праваце, стаяў на сваім:

— Так. Але што яна, лясная ахова, не робіць? Наш ляснік ужо і зборшчык лапніку, і нарыхтоўшчык венікаў, і рабочы на пасадках, на лесасеках. На ім і шышкі, і смала, і звяры, і ўсякая трасца. А яшчэ ў яго галоўны клопат — догляд лесу, яго ахова.

— Вучыце, што леснікам рабіць? — рашуча спыніў Зімавец.— Не тая песня! Мяне гэтаму яшчэ ў інстытуце вучылі.

— Ну, я інстытут не канчаў.

— Шкада... А вашага Агейчыка я ведаю.

— Вы ведаеце ранейшага Агейчыка.

— Другі раз на свет нарадзіўся?

— Магчыма.

Са свайго жалезнага седала стары бачыў, што спрэчка паміж начальствам разгараецца, заходзіць далёка, дабром ды мірам, пэўна, не скончыцца, і ён кашлянуў, каб нагадаць, што яны тут не адны, што ў канторы ёсць трэці чалавек, на вачах у якога не варта гарачыцца, сварыцца. Хітрасць быццам падзейнічала — абодва прымоўклі. Але Зімавец быў надта гарачы, каб лёгка астыць. Памаўчаўшы, ён заўважыў, што пра абавязкі леснікоў і догляд лесу ёсць інструкцыі міністэрства, якія Валошка парушыў, пусціўшы Агейчыка ў лес на падчыстку. Тады Валошка адказаў, што ўсё ў жыцці старэе, інструкцыі таксама, што калі дваццаць гадоў назад кліентам не дазвалялі падчыстак, дык то быў іншы час, тады ў Лісані не выпадала дня і ночы, каб не ляскала сякера самавольнага парубшчыка, што цяпер людзі прывыкаюць да парадку і лес чакае новых інструкцый, якія б не толькі каралі браканьераў, але

давалі б ахове права давяраць сумленнаму чалавеку.

— Вы яшчэ не міністр,— з'едліва кінуў дырэктар.

— Вядома, я ляснічы,— не пакрыўдзіўся Валошка.— Маё рабочае месца не ў сталіцы, а ў пушчы. Але таму я лепей бачу, каму тут можна даверыць, а каму нельга.

— Лепей за каго?

— А хоць за міністра.

— Ну?!

Па тым, як Зімавец жмурыў вузкія прыпухлыя вочы, хадзіў па канторы, як стагналі пад яго цяжкім крокам маснічыны, як рыпела на дзябёлых плячах скуранoe паліто, ды і па тым, як упарта стаяў на сваім Валошка, дзед Гарох адчуваў, што выбух паміж імі адбудзецца куды большы, калі не суняць абодвух. «Але як ты, стары шэльма, укажаш начальству?» Пачухаўшы патыліцу, дзед Гарох набраў у грудзі паветра, каб зноў кашлянуць, ды раптам з-пад кажуха вылецела звонкае, захлёбістае:

— Гаў!.. Гаў!..

Нахабства!.. Дзед Гарох мігам сунуў таўсты палец у цёплую бяззубую зяпку, спалохана глянуў на дырэктара, на ляснічага: яны абодва ўставіліся на яго і ўжо глядзелі не тымі вачыма, якімі кусалі адзін аднаго,— іх вочы заблішчэлі мякка, хацелі ўсміхацца. На душы ў старога адлегла, і ён усміхнуўся ім таксама.

— Ну-ну, Ягоравіч, паказвайце.— Зімавец падышоў, лапнуў кажух, дзе нештачка варушылася.— Што там?

Тады дзед Гарох расперазаў папружку, страсянуў крысо кажуха, і з-пад ягоываліўся сабачка — усімі чатырма цупка стаў на падлогу.

— Вось яна, жывая душа! — радасна ўсклікнуў дырэктар і прысеў, паклаў руку на сабачую галоўку, пamацаў.— Добрая шышка на цемечку,— падняў вочы на Валошку.— Паглядзі...

Валошка прысеў побач, памацаў галоўку.

— Ёсць,— пагадзіўся.— Значыць, будзе ганяць.

— Усё ў яго ёсць,— разгаварыўся Зімавец, беручы сабачку за лапы.— Глядзі,— зноў да Валошкі,— лапы якія! Ух, ты-ы! Таўстыя, буграстыя. А грудзі, вушы!..

— Пароду відаць.

— Гончая. Факт. А кроў? Чыя кроў? — дырэктар звярнуўся да старога.

Той маўчаў.

— Хто матка? Тамаш Ягоравіч?..

Дзед Гарох баяўся прызнацца, дзе, у каго, ад чыёй сукі ўзяў сабачку, бо ўжо занепакоіўся: ці не лёг сабачка дырэктару на душу? Зімавец быў паляўнічы, падружэйных сабак разумеў, цаніў і, дазнаўшыся, што малое ад сукі Рысева — а ў Рысева сука ад Мальвы, гэта Зімавец ведаў,— мог сказаць: «Аддай мне, Ягоравіч, сабачку». І тады — як адмовіш дырэктару? У яго быў кабель ад Валошкавай сукі, але таго кабяля сапсавала Зімаўца жонка: закарміла, бычка разгадавала — кабель ацяжэў, прывык да людской спальні, раскошы, адвык ад лесу, непагоды, працы, голаду і па следзе ўжо далёка не гнаў, пойдзе і вернецца, след кінуўшы, задыхаецца.

Таму дзед Гарох адказаў хітра, не заікнуўшыся пра матку:

— Яшчэ малое, нядошлае. Не ўгадаеш, што з яечка вылупіцца. Ці жук, ці жаба?

Хітрасць пакуль удалася: сваё пытанне дырэктар не паўтарыў, бо наогул не меў прывычкі двойчы паўтарацьадно і тое ж, выпусціў сабачку з рук, і той даверліва залопаў лапамі па канторы, пайшоў соўгаць саплівым носам па нагах, па маснічынах, вынюхваць сукі ды шчыліны ў падлозе.

— Не бойцеся, Ягоравіч! Тое вырасце, што трэба,— казаў Валошка, які, пэўна, здагадаўся, адкуль сабачка.

— Бач!.. Ужо след шукае,— прыглядаўся Зімавец.

Яны стаялі пасярод пакоя, вачэй з сабачкі не зводзілі і не заўважалі, як ён, рухавы, з белым гальштучкам на грудзях і белымі лапкамі, зрабіў святлейшымі іх твары, сагрэў іх душы, позіркі, схіліў да пакладзістасці, зычлівасці. Дзеду Гароху гэта адразу кінулася ў вочы, бо ён збоку ўважліва глядзеў на начальства, глядзеў і дзівіўся, якія яны могуць быць мірныя, дружныя, калі забываюць, хто над кім камандзір.

За акном загуў грузавік. Пачуўшы, Зімавец схамянуўся. Скураное паліто зноў сярдзіта зарыпела ў яго на плячах.

— Дык я паехаў. Заўтра прашу да мяне.

— Якая нарада? — спытаў Валошка.

— У нас з вамі. З вока на вока.

Зімавец хлёстка шлёгнуў скуранымі пальчаткамі па далоні і, не кінуўшы больш ні слова, адразу, у адзін міг забыўшы і на дзеда Гароха, і на яго сабачку, выйшаў за парог.

Зімаўцоў «газік» шэрай птушкаю нырнуў у белы лес, а яшчэ праз хвіліну ў кантору гуртам уваліліся Агейчык — ён ішоў паперадзе ўсіх,— Вайцюк і Курнопа. Агейчык і Курнопа адразу паскідалі рукавіцы і шапкі, спыніліся каля парога, далей не пайшлі, а Вайцюк, не запыніўшыся, пачаў жвава, з прыскокамі, б'ючы нагой аб нагу, хадзіць па канторы — закалеў на марозе ў фарсовых чаравіках, хоць ужо і не на матацыкле ехаў: матацыкл, пэўна, недзе пакінуў.

— Ну, што скажаш, Дзямідавіч? — прыветна ўсміхаючыся, Валошка глядзеў на Агейчыка.

— Будзем разгружаць, акціраваць! — рашуча, як вырашанае, выбухнуў Вайцюк.

Валошка маўчаў, прыдзірліва глядзеў на Вайцюковы чаравікі, і Вайцюк, падумаўшы, што Зімавец, пэўна, не сказаў ляснічаму наконт Агейчыка, паспрабаваў растлумачыць:

— Факт браканьерства, Пятровіч. Безбілетная...

— Што ў кузаве? — перабіў Валошка.

— Буралом, вяршыннік.

— З твайго абходу, Макар?

— Не. З трыццаць першага. Дзе летась клапа знайшлі.— Курнопа наліваўся злосцю.— Чалавек пасабляе лес чысціць, а мы з ім...

Нібыта певень, падскочыў да лесніка Вайцюк:

— А вы чулі дырэктара?

— Сядзь! Не скачы,— асадзіў хлопца Валошка.— Спяшайся, як ловіш блох.

Валошка паважаў Курнопаву думку. У яго, ляснічага, неаднойчы бывалі сумненні, як і што рабіць, дзе праўда і дзе няпраўда, і ў такую хвіліну ён часта азіраўся: ці няма побач Макара? Аказваўся Макар побач — пытаўся: «А як ты, Макар, думаеш?» Валошку заўсёды карцела ведаць, што думае гэты чалавек пра зямлю, пушчу, пра кожнае жывое каліва, пра кожную жывую душу, пра справу, нейкі ўдалы ці няўдалы, свой ці не свой крок, бо гэты чалавек ведаў пушчу, як ніхто іншы. Цяпер Валошка адразу прыкмеціў, як вінавата, але і ўдзячна пазірае ляснік на Агейчыка — гэта ўзрадавала, бо Курнопа глядзеў нібыта яго, Валошкавымі, вачыма. І ён сказаў:

— Едзь дадому, Дзямідавіч. Не жмакай свае старыя рукавіцы. Галлё, якое назбіраў, вязі спакойна. Вось і Макар гэтак кажа. Дырэктару я заўтра ўсё растлумачу.

Калі ўдзячны Агейчык выйшаў з канторы, Валошка зноў пачуў, як грукалі адзін аб адзін Вайцюковы чаравікі — ці гэтак ногі закалелі, не маглі адысці, ці выдавалі сябе маладыя нервы? — перавёў на Вайцюка позірк і па яго твары заўважыў, што памочнік ляснічага не прызнаў мірнага абыходжання з Агейчыкам. У хлопца душа і рукі гарэлі разгружаць машыну, складаць акт, штрафаваць, як патрабаваў Зімавец, чакаў адно Валошкавага загаду, і тое, што загаду Валошка не даў, было яму, спрытнаму, незразумела.

Валошка паглядзеў на чаравікі, уздыхнуў:

— А ты, Гена, не хадзі гэтак зімою. Купі валёнкі, беражы ногі. Як бацька сына, прашу.

Вайцюк апусціў вочы:

— Валёнкі ў мяне ёсць.

— Дык насі. А то пушча цябе не зразумее...

Пайшоў Вайцюк не то пакрыўджаны, не то задуманы. Следам падаўся Курнопа. А Ягоравіча Валошка выслухаў і адправіў разгружаць воз. Застаўся адзін. Стаяў ля акна і думаў пра Вайцюка, як неаднойчы дагэтуль: «За якія такія заслугі Зімавец упёр цябе, зялёную страказу, памочнікам ляснічага? Дзе ён цябе, хлопчык, адшукаў? Пушча цябе ўсяго паўгода ведае. Ну, скончыў ты лясны тэхнікум. Малайчына. Працуй на здароўе. Але хіба табе адразу кіраваць? Вось пайду адсюль, і ты — ляснічы. Як будзеш камандаваць людзьмі, якія ўсё жыццё пражылі ў пушчы? На якой мове будзеш гаварыць з Курнопам, Марусевай, дзедам Гарохам, Агейчыкам? На мове загадаў, штрафаў, судоў? А хто людскую душу зразумее? Хто ім у лесе пасобіць, як не ты, ляснічы?..»

Сеў ля акна, падпёр галаву рукамі. Бачыў, як паехала машына з Агейчыкам і Вайцюком у кабіне, як Макар ужо далёка сігаў паміж дубамі, падумаў, што Макару яшчэ сігаць ды сігаць да сваёй Ялоўкі, гадзіны са дзве, ды ў цемень, бо сцямнее вось-вось. Потым бачыў, як дзед Гарох, пад'ехаўшы да сушні, пакінуў каня, зайшоў у сушню і нешта не выходзіў адтуль.

Пад акном сініцы нават у шэрань, надвячоркам, чубілі куст, ажно снег над кустом курэў.

## 4

Пакуль Валошка сядзеў ля акна, глядзеў, не запальваючы святла, на пашэрхлы лес, снег, куст без сініц —

ужо яны на ноч схаваліся недзе ў лясным зацішку,— дзед Гарох скінуў ля сушні мяхі і скрыні, вярнуўся назад. Убачыўшы, як ён пад'ехаў да канторы, Валошка ўзяў са стала замок, у якім тырчаў ключ з аборкаю, выйшаў на ганак і навесіў замок на дзверы.

Стары сабраўся падвезці Валошку дадому, а тым часам Насця цягала ў сушню мяхі з шышкамі: у адной кофце, не накінуўшы на сябе ні кажуха, ні хусткі, без рукавіц. Затрымаўшыся на ганку, Валошка не зводзіў вачэй з Насці, а краем вока заўважыў і сабачку пад кажухом у старога. Лёгка было заўважыць — кажух на грудзях тапырыўся, варушыўся.

— Будзеш вазіць, пакуль яму нос не адмарозіш,— прабурчаў, як невядома пра што і невядома каму.

— Хай прывыкае.

Дзед Гарох адхінуў крысо кажуха, і на свет божы высунулася цікаўная, з мокрымі вачанятамі, вусатая, што ў вавёркі, пыска.

— Вярні да Насці. Сабаку ёй пакінем.

На сані Валошка не сеў, падышоў да сушні.

— Што, Насця?.. Мужыкі, лайдакі, катаюцца, а маладзіца з мяхамі ваюе?

— Гэтак, Пятровіч, усё жыццё рабілася і робіцца. Мужык верхам на бабе... Ой!..

Ляпнула, як не падумаўшы, аж сама засаромелася сваіх слоў: мех валіўся з рук, яна зачырванелася і, каб хутчэй знікнуць з Валошкавых вачэй, зноў упля лася за мех, павалакла ў сушню. Валошка перакінуў цераз парог апошнія мяхі, зайшоў у хату, прычыніў за сабою цяжкія дзверы, агледзеўся. Насці нідзе не было.

— Дзе ты, Насця?

Заўважыў чырвоную з холаду руку — Насця стаяла за печчу, абдымала яе за рог. Валошка пачаў развязваць на мяху аборку.

— Праўду ж сказала. Чаго праўды саромецца?

— Выбачайце, Пятровіч. Язык... дурное мяса,— загаварыла, а вачэй з-за печы ўсё не паказвала.— Вы ідзіце адсюль. Я сама з мяхамі ўпраўлюся.

Рука, якою Насця абдымала печ, схавалася.

— Гоніш ад сябе?

— Ды не, не ганю. Але дзед Гарох вас чакае.

— А калі мне ахвота з табою пажартаваць?

— Ой, сёння не трэба. Іншым разам.

— Ну, хай іншым.

Ён развязаў мех, усунуў у яго абедзве рукі, зачэрп-

нуў прыгаршчы шышак, прасеяў паміж пальцаў, адну пакінуў, пакамечыў у далонях, вылушчыў з яе семя і ўжо злосна гукнуў:

— Насця?! Старога сюды!

Адразу забыўшыся на сваю гульню ў сарамяжлівасць, Насця пранеслася па хаце, адно вецер шугануў ад спадніцы, моцна грукнула дзвярмі, а вярталася рахманая, следам за старым, і ўжо не стары, а яна трымала на грудзях сабачку.

Валошка працягнуў далонь з насеннем насустрач старому:

— Што гэта?..

Дзед Гарох дужа не глядзеў, што ў ляснічага на далоні, сам узяў з меха, не выбіраючы, шышку. Яна была дробная, і насенне ад яе было дробнае, лёгкае, цьмянае. Паднёс да чырвонага (ад марозу, вядома) носа, нюхнуў, грэбліва зморшчыўся, паспрабаваў на зуб, плюнуў. Не было ў семені звычайнага смаловага духу, смаку, яно нічым не пахла, толькі гарчыла. Яшчэ раз выплюнуў гаркату, мацюкнуў Рысева, выцяў нагою мех — той кульнуўся, шышкі пырснулі па падлозе.

— От шарамыга гэты Рысеў! — абурылася Насця, таксама качаючы ў далонях шышку, беручы на язык насенне і плюючыся. Ёй хацелася выгарадзіць перад ляснічым дзеда Гароха, але і на Рысева яна не брахала, казала чыстую праўду.— Не жыў, калі не абдурыць. І каго? Свайго чалавека!

Валошка зазірнуў у камору, крутнуў барабан, паглядзеў, якім зеллем засыпаны. Нічога не сказаў. Ля ўслона падняў дзедаў валёнак, прыгледзеўся да падшытага лямца.

— Твой? — спытаў у старога.

— Ну, як быццам.

Насця, поўзаючы на карачках, ужо згрэбла з падлогі ў мех раскіданыя старым шышкі, узялася за хахол, каб перавязаць аборкаю, а Валошка кінуў валёнак пад услон, падышоў патрымаць мех, пакуль перавязвала, і на мяху сціснуў яе руку, сумна паглядзеў ёй у вочы. Аж рука Насціна дробненька задрыжала.

Ля парога крактануў дзед Гарох.

— Кажаш, свайго нельга абдурваць? — спытаў Валошка ў Насці, ледзь усміхнуўшыся куточкамі вуснаў.

— Нельга,— ціха вымавіла яна.

— А ў свайго вочы ёсць?

Насця не вытрымала пранізлівага Валошкавага па-

гляду, бо зразумела, што цяпер ён кажа не пра Рысева, не пра дзеда Гароха, ужо робіць нейкі намёк — апусціла вочы. Тады ён выпусціў яе руку, рэзка павярнуўся да дзвярэй і выйшаў за парог.

Калі ўжо ад'ехалі ад сушні, зашыліся ў хвойнік, Валошка парушыў маўчанне:

— Ці паліў ты, Ягоравіч, у сушні? Учора.

— А як жа?! Уранні, потым — як змяркалася.

— Другі раз добра паліў?

— Да самай ночы.

— І хто табе пасабляў?

Дзед Гарох пачаў здагадвацца, што Валошка дазнаўся, як учора ўвечары да яго ў сушню з'явіўся Рысеў і яны там цэлага паўлітра асушылі. Але як мог дазнацца? Ніхто ж не бачыў? Можа, дзе на падлозе корак ад пляшкі заўважыў? Ці пустую пляшку? Зноў жа: як можна па корку ці пляшцы ўгадаць, быў тут хто іншы ці не быў? Нельга ўгадаць. І не трэба выдаваць Рысева. Але — як салгаць? Каму-каму, а Валошку маніць — не дай бог. На чыстую ваду ўсё роўна выведзе. Не сёння, дык заўтра.

Доўга абдумваў, не спяшаўся адказваць, а Валошка не падганяў, хоць адказу чакаў — стары Валошку ведаў, як самога сябе.

— Ну!..— цяжка ўздыхнуў.— Заходзіў Рысеў. Убачыў святло ў акне, зайшоў пагрэцца.

— І добра пагрэліся?

— Ды мы, Пятровіч...

Але Валошку не цікавілі апраўданні.

— Помні, Ягоравіч. У Лісані ўжо адна сушня згарэла. Не па тваёй віне. Але вінаваты быў п'яны ляснік. Закурыў — і спаліў. Ты гэта ведаеш. Дык пі ў сваёй хаце. А вып'еш — сядзі дома. Не выпаўзай на снег. Не смяшы людзей. Бот валёнку не пара.

Дзед Гарох замоўк як мыла з'еўшы. Нервова пасморгваў лейцамі, ажно Малы пачаў азірацца, не ведаючы, што ён ад яго хоча.

— Як жа гэта вы?..

— А сам не ведаеш, які бываеш, калі сівуха ачмурыць? То кажух поўсцю наверх апранеш, авечкаю ныкаеш па лесе, то штаны... Цяпер валёнак з ботам абуў. Пару знайшоў.

Дзед Гарох замоўк — думаў: «От жа хітры, шэльма! Спачатку малое, нейкі след заўважыў, а па следзе ўсё, што яму трэба, разблытаў!» Яго заўсёды здзіўля-

ла, якi Валошка ўчэпiсты на дробязь. Бывае, зловiць вокам звычайную казюрку i доўга сочыць за ёй. Хто не шалопiць — дзiвiцца. А Валошка ў малым вялiкае бачыць. Iншы ў вялiкiм не раскапае анiгадачкi, а ён злавiў след на снезе i па iм чалавека вывернуў, нiбы апратку.

— Пятровiч?

— Ну?

— А калi вы мяне спiшаце, пайду на пенсiю, у чые тады рукi аддасце сушню? — раптам змянiў пласцiнку дзед Гарох.

Валошка яго хiтрасць зразумеў — адказаў суха:

— Насця заменiць.

За хвойнiкам дарога пакацiлася ў лагчыну, i там, у лагчыне, адкрылася роўнядзь прысожскiх паплавоў — прастора. Пры дарозе стаялi багуны, прысыпаныя снегам, высокiя i густыя, што каноплi, панура звешвалi доўгiя мяцёлкi на тоўстым гонкiм бадыллi, выглядалi з-пад снегу зялёнымi, лапушыстымi, буйнымi. Улетку, бывала, пакуль iх пройдзеш цi праедзеш, кiруючы ў Гарадок цi з Гарадка, захмеляць галаў, у вачах зробiцца мутна, а цяпер, узiмку, яны хоць таксама пахлi не мёдам, гаркатою, ды не гэтак моцна, мякчэй — цяпер iх дзяркаты хмельны водар асадзiлi мароз ды снег. Прытрымаўшы каня, Ягоравiч споўз з саней, наламаў венiк крохкiх ад марозу мяцёлак, паклаў у перадок, сабе пад ногi.

— Пятровiч? — зноў не вытрымаў.

— Ну? — без ахвоты адгукнуўся Валошка.

— А ў чые рукi аддасце коней? Малога i Машку?

Валошка нiчога не адказаў — спытаў:

— А цябе хто ганiць ад коней?

«Ды цi ў тым справа — ганiць, не ганiць?..»

— Шкада мне будзе аддаваць Малога ў чужыя рукi. I Машку шкада. Я iх выгадаваў. За сушню спакайнейшы. Сушня душы не мае. А ў Малога, у Машкi душа далiкатная. Ды i Насця ў сушнi свой чалавек. А за коней баюся. Цяпер коней не шануюць. Дзе вы таго чалавека знойдзеце, каб iх любiў? Можа... хiба Агейчык? У яго добры конь быў. Помнiце, якi гладкi, вясёлы...

У небе яснеў круглы месяц, цiша ахiнула дарогу, дрэвы, легла на снег, на пушчу, усё засынала, усё i ўсе, акрамя дзеда Гароха, Валошкi, Малога, ды яшчэ намёрзлыя санныя палазы не спалi, танклява рыпелi на ўвесь лес, як вострымi нажамi рэзалi дарогу — мароз

на ноч мацнеў,— рэзалі цішыню. Бегла дарога, па ёй беглі-таўкліся адна аб адну думкі ў галаве ў старога, асобна ад іх беглі Валошкавы думкі — пра таго ж дзеда, пра Насцю, Зімаўца, а яшчэ — пра Агейчыка: «Нельга даць яго Зімаўцу ў зубы. Што Зімаўцу? Ён хіба ведае, чаго яму, Валошку, каштаваў Агейчык? Ды і... ніхто не ведае...»

Валошка ўспомніў вясну. Не блізкую, але не надта і далёкую. Яшчэ паводка з лугоў не схлынула, ужо цяплынь разлілася, зямля набухала, паравала, нібы хлеб, падышоўшы ў дзежцы. Нахадзіўшыся па лесе, сам, што тая зямля, паруючы, ён завінуў у Лісань. Падняўся на ганак канторы і раптам заўважыў Агейчыкавага гнядка — выязджаў з лесу. На калёсах ляжала бярвенне, на бярвенні сядзелі Агейчык і Курнопа, а следам ішлі яшчэ двое. «Ага! — скеміў Валошка.— Злавілі, голуба!»

Каля канторы скінулі з калёсаў бярвенне, склалі акт, Агейчыку паказалі на ўсе чатыры бакі: едзь цяпер — куды хочаш, усё роўна суда не мінеш. Але ён не спяшаўся ехаць. Сядзеў на пустых калёсах, дымарыў цыгаркаю, як не жадаў вяртацца паражняком. Валошка спытаўся, чаму не едзе. Маўчыць. Кучмастыя бровы звёў у адну стрэшку, вочы пагрозліва тупіць, шыю набычыў, жаўлакі ганяе пад рудой шчэццю — быццам штосьці жорсткае задумаў. «Можа, падвязеш да Гарадка?» — жартам спытаў Валошка, не спадзеючыся, што Агейчык наогул якое-небудзь слова скажа яму цяпер, гэтакі злосны, зацяты. А той раптам паказаў на калёсы: «Садзіся, ляснічы. Правязу з ветрыкам, калі не баішся». І сеў: «Вязі». Агейчык наводмаш урэзаў па кані пугаю — шалёна сарваліся з месца, загрымелі калёсы.

Усё, што яны адзін аднаму казалі на той дарозе, не помнілася, але запомнілася, які быў нахабны Агейчык, як упарта ён даводзіў, што лес усіхны, што кожны чалавек можа ўзяць з лесу дзеравіну, якую захоча,— бралі спрадвеку, бралі ў вайну і пасля вайны. Цярпліва слухаў тую верзяю Валошка, спрабаваў даказаць адваротнае, але кожнае яго слова адскоквала ад чалавека, што гарох ад сцяны. І тады цярпенне лопнула — ускіпеў. Якраз да Сажа пад'ехалі. Загадаў спыніць каня. Агейчык спыніў. Валошка саскочыў з калёсаў. Агейчык таксама злез. Стаяць адзін перад адным — грудзі ў грудзі. Валошка да яго: «Скажы мне,

Агейчык, ці будзеш надалей лес красці? Праўду кажы, не ўвільвай. Ведаю кожны твой крок. Як крадзеш лес, як прадаеш. Большага злодзея ў Лісанскай пушчы няма. Яшчэ будзеш красці?» І хоць бы змоўчаў Агейчык. Ці схітраваў. Не. Чуў у руках сілу, ды яшчэ злосць сілу давала — напрамую, выскаліўшыся, у самыя вочы гаркнуў: «Буду!» І тады Валошка не стрымаўся, наводмаш пекануў яго ў твар. Такой размовы ад ляснічага Агейчык не чакаў. Тупа, нібы дзік, вочы вытрашчыў — глядзіць. Быў ён дужэйшы за Валошку, мог сагнуць у рог — абодва гэта ведалі. Але абодва стаяць. Маўчаць. Як разгубіліся. Памаўчалі, тады Валошка зноў пытаецца: «Дык будзеш вешаць на леснікоў свае парубкі? Будзеш пад мохам пні хаваць?» І Агейчык, назло Валошку, зноў: «Буду!» А Валошка яму: «Брэшаш, сабака! Не будзеш!» — і другі раз прыварыў, ды так, што твар Агейчыкаў ураз крывёю заплыў. Дзіва дзіўнае: Агейчык зноў не кідаўся на Валошку. У Валошкі ўсярэдзіне ўсё калоціцца, ногі аслабелі. Рукамі абапёрся аб калёсы, ціха сказаў: «Ідзі да вады. Памыйся». А пачуў: «Я ў суд паеду. За мардабой табе, ляснічы, адваляць на ўсю жалезку». Валошку гэта не кранула — паўтарыў: «Ідзі памыйся. У суд разам паедзем». Агейчык узяў у жменю распухлы скрывянелы нос і падаўся да вады. Доўга стаяў над вадою, а потым вярнуўся, сеў на калёсы, закурыў, узяўся за лейцы — кінуў: «Садзіся, ляснічы. Паедзем далей». Валошка не садзіўся. Тады Агейчык спытаў: «Скажы, ляснічы, а ты чаму не падаеш на мяне ў суд? Колькі разоў мог падаць — не падаеш. Ці шкадуеш маіх сямёра дзяцей? Маю хворую жонку шкадуеш?..» Агейчык сядзеў на калёсах, засланіўшы твар рукамі, трымаючы ў руках і лейцы, і распухлы нос, двума таўстымі пальцамі засланяючы вочы, а па пальцах паўзлі дзве слязіны — нечаканыя, чужыя. Не хацеў, каб Валошка бачыў іх,— пачаў прасіць: «Ідзі адсюль, ляснічы. Ідзі сваёй дарогаю».

Не праганяў — прасіў, маліў: «Ідзі...»

Ужо за мостам, узышоўшы на гару, Валошка азірнуўся: здрабнелай удалечыні кропкаю на ранейшым месцы стаяў гняды Агейчыкаў конь, а сам Агейчык усё сядзеў на калёсах.

Гадоў дзесяць назад адбылося гэта. З таго часу доўга ніхто не бачыў Агейчыка ў Лісані. Хадзілі чуткі, што жонка ачуняла і ён завербаваўся ў Карэлію на

лесасплаў. Пагаварылі — і забылі на чалавека. Але аднойчы...

Быў звычайны працоўны дзень. Як сёння, Валошка адпускаў кліентаў. Сядзеў на сваім крэсле, глядзеў у нарады, людзям у твары, прыглядаўся, прыпамінаў, дзе з каторым бачыўся, а потым глянуў у кут, якраз на тое месца, на якім сёння сядзеў Крупенін,— «Агейчык?!» Нічым з выгляду, ні тварам, ні целам, не змяніўся: крутаплечы, вочы жорсткія, адно апрануты лепей — новая барсучыная шапка ў руках на каленях, ватовае паліто, боты ялавыя, моцныя — хоць у дождж, хоць у снег. Устаў, падышоў. І Агейчык устаў. Нарад на дровы падае...

Стаяла ўжо восень, позняя. Сыпаў не то снег, не то дождж. Яны выйшлі з канторы. На Валошку — ні паліто, ні шапкі; і Агейчык з голай галавою, барсучыну ў руках камечыць, холаду не чуючы. Старая віна прачнулася ў Валошкавай душы: хацеў прасіць Агейчыка забыць сутычку ля моста, каб хоць цяпер, праз шмат гадоў, дараваў. Але той апярэдзіў. І — з чым? З тым самым: «Даруйце, Пятровіч. Навуку вашу век не забуду...»

Багуны скончыліся, але іх гаркавы водар яшчэ кружыў галаву, ёлка сушыў у горле. Цяпер, магчыма, ён ішоў ад веніка, што ляжаў у нагах, але дзеду Гароху здавалася, што водар пакінутых на балоце багуноў нябачнай аблачынаю зачапіўся за сані, за доўгую конскую грыву, за конскі хвост, за кажух, за сена, якое на санях, і тая аблачына плыве-едзе разам з імі, яны самі плывуць-едуць, ёю спавітыя. І адкуль, думалася, гэтакая моц, гэтакі трывалы дух жыве ў балотнай травіне? Яе і снег прыкідаў, і мароз прымарозіў, а яна ўсё яшчэ хмеліць. І якога толькі дзіва няма ў прыродзе? Што ні кветка, што ні травіна — то свой гоман, свой нораў, сваё жыццё.

Недзе блізка прарэзаўся і пакаціўся, б'ючыся аб дрэвы, доўгі, нібы сірэна, балючы, як перад смерцю, крык — не то звера, не то птушкі. Ажно конь тузануўся ў аглоблях, зблытаў роўны бег, зусім стаў.

— Но-го-о! — паказаў яму лейцы дзед Гарох.

Лейцаў Малы не цярпеў — зноў ірвануў наперад, але бег і азіраўся, усё роўна як баючыся.

Валошка заварушыўся за спіною ў старога, пера-

вярнуўся на другі бок і глядзеў туды, дзе быў Сож, луг, адкуль чуўся крык.

— Мураўка гукае. Лесік,— сказаў дзед Гарох, перахапіўшы Валошкаў пагляд.— З Гарадка вяртаецца.

— Яму зноў кепска? — спытаў Валошка.

— Заўсёды крычыць, як надвор'е мяняецца. На змену квадры. Ужо колькі чую яго галёканне, а не магу звыкнуцца.

Валошка і дзед Гарох доўга глядзелі ў той бок, дзе быў луг, дзе дзіка крычаў чалавек... Маўчалі.

## ВАЎКІ І АЛЕНІ

### 1

Была ноч, яшчэ не глыбокая, калі Андрэй Старапольны выйшаў з цягавітага, зморанага, як і пасажыры, абвеянага снегам, але ўсярэдзіне ўсё роўна ўтульнага, нібы абжытая кватэра, «Ікаруса». У аўтобусе ўсю дарогу было цёпла, і таму, як толькі Андрэй выскачыў на завірушлівы снег, яго працялі дрыжыкі. Ён хуценька зашпіліў лёгкае, не па зіме, рацінавае паліто, ускінуў на левае плячо рукзак, на правае — «іжаўку» ў новым скураным чахле, адышоў у цемень і агледзеўся.

Нават у самым цэнтры Гарадка, дзе магазіны і пажарня, кінатэатр і міліцыя, стаяла дзіўная цішыня. Гарадок хоць называўся райцэнтрам, але быў маленькі, з вялікую вёску, зацішны, скрозь драўляны, людзей у ім жыло небагата нават для райцэнтра, і ўсе, нібы ў вёсцы, спаць кладліся рана, гэтак жа рана пусцелі вуліцы і гасла ў вокнах святло. Заўсёды, калі Андрэй Старапольны выходзіў тут з мінскага экспрэса, сэрца пачынала шчымець ад сустрэчы з кожным знаёмым дрэвам, акном, ганкам, плотам, і кожным тэлеграфным слупам, густа абклееным аб'явамі, звычайна пісанымі на лістках і вучнёўскага сшытка старannай дзіцячай рукою альбо яшчэ больш старannай старэчаю — людзі ахвотна паведамлялі свету аб продажы хат, дроў, шафаў, ложкаў, кароў, коз, свіней. Тут, на роднай зямлі, Андрэя хвалявала ўсё, кожная аб'яўка на слупе, само паветра, якое нават цяпер, узімку, здавалася саладзейшае, як у вялікім горадзе; на поўніцу чуўся водар чыстага снегу, пячнога дыму і духу, кажухоў, бліз-

кіх хлявоў, конскіх рудых слядоў, нацярушанага на санных дарогах сена, дрэў і хат, прыхопленых марозам, і акрамя ўсяго іншага тут чулася цішыня і чысціня блізкай пушчы.

Усё тут было Андрэю сваім, бо ў Гарадку ён нарадзіўся і жыў у маленстве. І хоць пазней бацька перавёз сям'ю ў суседні райцэнтр, хоць не тут, а там прайшла школьная пара, але і ў пашпарце, і ў душы Гарадок застаўся кутам родным, мілым, самым хвалюючым, і не было той зімы, вясны, восені, таго лета, каб Андрэй сюды не наведаўся. Ён не меў тут сяброў дзяцінства ці юнацтва, небагата жыло радні — дзядзька з цёткаю ды брацянік, іх сын, з сям'ёю,— але затое жылі добра знаёмыя людзі, з якімі ён ахвотна бачыўся, праз якіх далучаўся да роднага гнязда.

Аўтобус, [redacted] якога выйшаў Андрэй, аддзяжурыў на раённым прыпынку свае пяць хвілін, дазволеныя раскладам руху, ды і паплыў, гудучы, далей у ноч, да наступнага прычалу, а тым часам Андрэй усё стаяў на раздарожжы, не ведаючы, куды ісці — налева ці направа? Направа, каля базару, жыў брацянік Васіль, дырэктар лясгаса Васіль Сямёнавіч Зімавец, а падаўшыся налева, у бок Сажа, можна апынуцца ў завулку, дзе Валошкава сяліба. Ужо колькі разоў за апошнія гады, прыехаўшы ў Гарадок, Андрэю даводзілася рабіць нялёгкі выбар паміж імі двума. Сваяцкая кроў, абавязак радні падказалі ісці ўправа, а ўпартая душа вяла ўлева. Брат крыўдаваў, калі Андрэй, прыехаўшы, ішоў не да яго, а да Валошкі, і ўсё ж часцей, нават прадчуваючы непажаданую братаву крыўду, Андрэй зварочваў налева. Цяпер, зноў думаючы, куды падацца, уявіў, як асцярожна пастукае ў братавы дзверы і, стаіўшы дыханне, будзе чакаць: ці пачулі? За дзень нацягаўшыся па лесе, брат будзе дрыхнуць, ужо і святло ў вокнах, магчыма, не блішчыць, бо калі спіць гаспадар, дык спяць і дзеці, і жонка; але праз якую хвіліну на стук у дзверы нехта падымецца — хутчэй за ўсё сам Васіль. Нізкаваты, плячысты, ледзь не на ўсю шырыню дзвярэй, ён сустрэне Андрэя нечакана слабым, як заспаным, голасам — «тэк-тэк, заходзь»,— босы пачне тупаць па кухні, у крыштальным графінчыку абавязкова выставіць на стол гарэлку ці падфарбаваны журавінамі «спірытус вініус», нальe з коптурам дзве крыштальныя чаркі, сабе і госцю, яны ахвотна дзынкнуць чаркамі адна аб адну, трымаючы іх за

танклявыя доўгія ножкі, вып'юць, закусяць ласінай каўбаскаю ці катлетамі з мяса дзіка, Васіль, вядома, пацікавіцца, з якой нагоды Андрэй прыехаў, ці надоўга, яшчэ што-небудзь спытае, а на душы ў Андрэя будзе млосна ад таго, што размова ў іх вялая, што ён не ў час пабудзіў чалавека, парушыў яго святы сон, яшчэ больш няёмка зробіцца, калі са спальні выгляне Люся, Васілёва жонка, а яна, пачуўшы галасы, падымецца абавязкова, раней ці пазней, бо Андрэю трэба даць пасцель,— што і як паслаць, Васіль не ведае. Дык — не, хай яны спяць спакойна. Радасці ў позні час ён ім не прынясе. Лепей заўтра ўбачыцца, днём.

Потым Андрэй уявіў сябе на Валошкавым ганку. Святла ў Валошкавых вокнах, мабыць, таксама ўжо не будзе, але Валошка адчыніць дзверы і сваё здзіўленне выкажа на поўны голас: «Га-а, хто прыехаў!», схопіць за плечы, страсяне, нібы грушу, павядзе ў хату. «Глядзі пад ногі, бо ў нас тут вечна... чорт нагу зломіць». У пярэднім пакоі, адразу ля парога, ён уключыць святло, распране, пасадзіць за стол. Калі ў хаце знойдзецца што выпіць, а выпіць у Валошкі не заўсёды бывае, дык абыдуцца без дарагіх крыштальных чарачак — іх у Валошкі ніколі не вадзілася,— разгавеюцца са шклянак, закусяць кіслай капустай ды салам — вядома, бядней, як у Васіля,— затое гаворку развядуць надоўга, на сон забудуцца, і душа Андрэева будзе спакойная, бо не адчуе няёмкасці за сваё позняе, на ноч гледзячы, з'яўленне. Тут яму будзе прасцей і вальней, як у брата.

Мароз мацнеў, сушыў паветра і дарогу, дубіў твар. Снег пад нагамі ляжаў сыпкі, нібы прысак. Зоркі ў небе мігцелі, дрыжалі ад холаду.

Андрэй мінуў бульвар — старасвецкія, з вялізнымі, па шапцы, дупламі, ліпы,— за бульварам — яшчэ адно скрыжаванне, калонку, з якой Валошкі бралі ваду. Звярнуў у завулак.

Увесь парад у завулку на адзін бок, а пасярэдзіне — самы высокі, вясёлы, на шмат вокан дом. У першым ад ганка акне, у прыхожай, яшчэ гарэла святло, ля плота стаяў запрэжаны ў розвалы конь — хрупаў, звесіўшы галаву, сена, якое ляжала пад плотам. Каня — Малога — Андрэй пазнаў адразу: круглы, як бочка, руды, з белай зоркаю на лобе, белыя калені, мяккая і доўгая, нібы лён, грыва. Убачыўшы Малога, Андрэй згадаў, як аднойчы ўвесну сярод ночы спяшаўся з Ва-

лошкам на ток цецерукоў. Ехалі пасля дажджу мокрым чорным лесам, цемень — хоць вока выкалі, нават тых дрэў, што пры дарозе, не відаць, а конь малады, гарачы, ляціць, нібы ў прорву, ажно душа ледзянее: вось нарвецца на дрэва — сам разаб'ецца і ездакоў паразбівае...

Андрэй узышоў на ганак. Ледзь абмёў гальнём снег з чаравікаў, як над Гарадком ударыў звон — басам. Бомкалі на пажарні. Можа, што-небудзь гарэла? Андрэй успомніў, што на пажарні і цяпер вісіць старадаўні, прыгожага ліцця звон, які ў даўнейшыя часы, калі ў Гарадку стаяла царква, вісеў на царкоўнай званарні, але не думаў, што той звон яшчэ звоніць. Спачатку, пачуўшы, ажно скалануўся: «Дзе я, у якой даўніне?», а потым здзівіўся і абрадаваўся, нібы звон вітаў яго ў родным Гарадку, вітаў па законах далёкіх продкаў, галасам немаведама якой даўніны.

У сенцах гарэла газавая пліта, салодка пахла свежай гарачай бульбай. Андрэй абрадаваўся, што людзі яшчэ нават не вячэралі, весела скінуў з пляча рукзак, прыхінуў да сцяны ля парога, паставіў у кут стрэльбу і прычыніў за сабою сенечныя дзверы. У паўзмроку зачапіў нагою лёгкае пустое вядро, яно загрымела, і з хаты пачуўся голас Юстыны Іванаўны:

— Юрась!.. Турні з сянец катоў!

Але тут Андрэй увайшоў у хату.

Старая стаяла ля печы ў паношаным сынавым кіцелі, абрэзнях-валёнках, хусцінцы, а ў руках — усё той жа чыгун, які трымала паўгода назад, калі Андрэй наведаўся апошні раз, яму нават падалося, што яна ўвесь гэты час, паўгода, не выпускала чыгуна з рук. Убачыўшы Андрэя і пачуўшы яго прывет, гаспадыня паспешліва паставіла чыгун на прыпеку, сцягнула з шастка ручнік, выцерла аб яго рукі.

— О, божухна! Хто прыехаў!

Па вачах, па голасу Андрэй з прыемнасцю пазнаў ветлівую, даўно знаёмую душу старой, а рука, якую яна падала Андрэю, здалася яшчэ больш шурпатаю, як раней, калянаю і чорнаю ад тых жа чыгуноў ды ад бульбы.

— Мішка!.. Ты глянь, хто ў хаце!

З залы выскачыў шустры, калматы, нібы верабей на ветры, белагаловы Юрась, за ім паказаўся рахманы Пятровіч. Юрась шмыгануў да бабы, а Валошка падышоў да Андрэя:

— Ну, здароў быў! Даўно не паказваўся.

— А сёння кот гасцей намываў,— уставіў Юрась, не адыходзячы ад бабы.

Андрэй узяў хлопца за хударлявае плячо:

— Расцеш?

Старая квола махнула рукою:

— Ат, з яго росту... Скура ды косці.

Юрась пакрыўджана адхіснуўся ад бабы, кінуў на яе хуткімі, нібы агонь, вачыма.

— Мяса на касцях нарасце. Абы косць,— сярдзіта і мудра, як дарослы, разважыў ён.

Андрэй устрэў паміж імі:

— Нешта ў Гарадку звон бомкае?

— Мураўка з небам гаворыць,— усміхнуўся Валошка.

— Ён яшчэ на пажарні?

— Яшчэ звоніць. Гарсавет забараніў, а ён бомкае. Махнулі рукою — бомкай. Зла гэтымі бомамі нікому не робіць. Абы не спаў на каланчы.

Валошка выйшаў у сенцы. Следам за ім падалася старая.

Андрэй зазірнуў у зальчык — Юрась ужо сядзеў на канапе ля тэлевізара. Сеў ля хлопца.

Зноў хлябнулі дзверы, нехта ўвайшоў у хату. Пачуўся яшчэ адзін знаёмы голас. Але — чый?..

— Япрук прыхварэў. Хі! Не згаладаў ён у вас, каб яго дрын ганяў. На лантух жадзён, вось і качаецца. Аб'еўся, шэльма.

— А выжлоўку ці глянулі? — спытала старая.

— А суку, шэльму, шкада.

— Лепш вы ёй пасобце.

— Ну... дзела яснае. Ужо вясною, як пацяплее. Шпрыц ды сываратку трэба. На лейцах мякенькіх падвесім...

І тут, як ашпараны, усхапіўся Юрась:

— Не дам Мальву!..

Бацька ўжо на парозе перахапіў сына:

— Куды ты?.. Не раві, што бабёр. Не малы.

Андрэй стаяў ля дзвярэй, але ні Пятровіч, ні дзед Гарох, ні старая не заўважалі яго — усе суцяшалі Юрася.

— Зраблю Мальве, як сабе,— казаў стары.

— Думаеш, яна ў лес не хоча? — казаў бацька.— Ёй трэба зайцоў ганяць, дзікоў падымаць. Такая парода. Яна ж у нас не дварняга, каб лежнем ляжаць.

Пакрысе Юрась супакойваўся, і тады дзед Гарох заўважыў Андрэя:

— Людцы добрыя! Ці ён... з неба зваліўся?..

Вочы ў старога пацяплелі, ногі памаладзелі — пайшоў да Андрэя насустрач, прытанцоўваючы, развёўшы ў бакі рукі.

— А таго шчупачка, Андрэй, я падсек усё ж! Не забыў, шэльму?.. Метровы, з хвастом адгрызеным. Як мы яго на Сінім возеры ўпусцілі — помніш?

Юстына Іванаўна знікла і хутка зноў з'явілася — ужо ў чыстым цёпленькім халаце, з белым настольнікам у руках. Накінула яго на стол. А Ягоравіч убачыў, што яна робіць,— рукі ўгару:

— Здаюся, Юста!.. Еду!

— Калі мы вас пусцім.

— Не! З гэтай работаю без мяне ўправіцеся. Андрэй, дзела яснае, госць, яго на покуць садзіце. А я заўсёды ў вас пад рукамі. Нібы тая мятла.

Але і Андрэй пачаў угаворваць:

— Калі ўжо, Ягоравіч, з вамі разам сядзелі?

Стары любіў паўпірацца:

— Дык ці мы паміраць сабраліся? Яшчэ насядзімся і настаімся. А цяпер... не, з марозным скрыпам пакуль давалакуся.

Дарога да Лісані была хоць недалёкая, ды начная, старому сапраўды варта было спяшацца, але, пакуль спрачаліся, пакуль ён адмаўляўся і гаспадар угаворваў застацца, Юстына Іванаўна выставіла на стол гарачую бульбу, яечню з салам, пляшку гарэлкі, і стары пакутліва заўздыхаў, доўгім носам пацягваючы ад стала цёплы бульбяны дух, расцвеліў падатлівую на знаёмыя спакусы душу — змоўк, як знясілеў. Падміргнуўшы Андрэю павесялелым вокам, Валошка накінуў на плечы фуфайку, пайшоў са старым ставіць каня ў хлеў.

Андрэй зноў падсеў да Юрася. Настрой у хлопца быў паганы. Андрэй разумеў яго, як і ўсіх Валошкаў, іх бяду з Мальваю.

У Пятровіча з Мальваю прайшлі лепшыя паляўнічыя гады, а ў Юрася — дзяцінства. Андрэй помніў, як гадоў дванаццаць назад, калі з Бярэзінскага запаведніка ў Лісань прывезлі на развод аленяў, з імі прыехаў малады бярэзінскі егер, і ён паабяцаў Валошку рускую гончую. Пасля Валошка прывёз ад яго не абяцаную гончую, а шчаня ад той гончай. Мальва адразу прыйшлася Валошку па душы, і ён не шкадаваў на яе часу,

сам вымуштроўваў. Паляўнічую навуку яна прайшла і ў Міны, вальернага егера, які шмат сабак паставіў людзям пад ружжо. Настаў час — маладая сука сябе паказала. Яна ад прыроды мела далёкае вока, чуццё ніжняе і верхняе, што рэдка даецца гончым, след трымала ўчэпіста, не збівалася нават на чарнаставе, адчувала нораў звера і гнала яго да перамогі. Мальву ведалі па ўсіх вёсках вакол Лісані і ў Гарадку, ахвотнікаў пераняць яе хапала, ды нікому не ўдавалася. Адно — што баяліся Валошку, а другое — што Мальва была верная гаспадару, з любога гону, які б далёкі і блытаны ён ні ляжаў, вярталася дадому. Бывала, знікне на дзень, на два, а на трэці ўсё роўна вернецца. Яна ахвотна хадзіла з Мінам, дзедам Гарохам, Зімаўцом — сваімі людзьмі,— кожную вясну давала прыплод, заўсёды невялікі, два-тры шчаняці, затое з усімі сваімі якасцямі. За кожнага сабачку Валошку совалі грошы, ды ён лягчэй аддаваў задарам, як за грошы. Праўда, не кожнаму. Выбіраў такога паляўнічага, каб ведаў і любіў сабаку.

Апошнія два гады Валошка не браў у рукі стрэльбы, і Андрэй здагадваўся: «Ці не таму што састарылася Мальва?..» Пра гэта ён спытаў за сталом, як паселі, і Валошка адразу паклаў відэлец на сподак, кінуў закусваць. Памаўчаў, потым устаў з-за стала і з суседняга пакоя прынёс фотаздымак. На ім былі зімовыя, пад снегам, лісанскія дубы, а пад самым таўстым Святым, з якога зеўралі вялізныя чорныя дуплы, закурваў, прываліўшыся да камля спіною, Ягоравіч. Ля ног ляжала Мальва, выпрастаўшы дужыя пярэднія лапы, паклаўшы на іх прыгожую, з вялікімі вачыма галаву. Перад Мальваю на баку ляжаў дзік. Андрэй успомніў: была гадоў шэсць назад зіма, снежная, марозная, калі ў Лісань на бульбяныя капцы валачыліся галодныя дзікі, быў выпадак, калі Мальва накінулася на іх сярод белага дня, брахала, аж залівалася, а Ягоравіч пачуў — і за стрэльбу. Свіння з маладымі выскачыла на сцежку, шаснула ў лес, а старога храка Мальва загнала пад дубамі ў снег — там яго дзед Гарох і паклаў. Валошку здымак нагадваў, пэўна, маладую Мальву — надта прыгожа яна, пераможца, ляжала. А Ягоравіч, узяўшы здымак у рукі, знайшоў у ім іншае, бо спытаў не пра Мальву:

— Скажы, Юста, ты сны чытаеш?.. Чорныя.

Старая таўханула яго ў плячо — побач сядзела:

— Ат, Тамаш! Ты заўсёды накаркаеш.

— Але ж, Юста, я не брашу... Значыцца, стаю ля Белай крыніцы, пад Святым дубам, а навокал ціша-ціша, дубы ціхенька набок кладуцца. Святы, дзела яснае, стаіць, а тыя — адзін па адным, адзін па адным...— Стары паглядзеў на Валошку, уздыхнуў.— Не, Пятровіч! Сон, можа, і брахня. Не ведаю. Але ж... калі дубы карчаваць, дык і Лісань — тым самым дрынам.

— Дзе тады жыцьмеш, Тамаш? — засмяялася старая.

— А як па-твойму, Юстачка? — абурыўся стары, аж з-за стала прыўзняўся.— Спі ў лапу, Гарох? Ляжачы дуб табе, шэльму, якраз спатрэбіцца. На дамавіну. Гэта хочаш сказаць?

— Навошта на дамавіну? Хіба ў дубовай цяплей? — пажартаваў Валошка.— Яшчэ Пётр Першы забараняў хаваць у дубовай. Спецыяльным царскім указам.

— Дык жа Пятра ўзнеслі на трон, прызналі Вялікім! Ён, дзела яснае, разумеў, што дубу цана о-го... высокая! — разгаварыўся стары.

— І мы разумеем. І мы не малыя.

— Мы казюркі, Пятровіч, калі вайною на дубы.

Дзед Гарох казаў хапатліва, шырокім ротам хлёбаючы паветра, нібы кепскі плывец у вадзе, хацеў выказацца і не паспяваў, захлынаўся ў словах, пачуццях. Нарэшце адчайна махнуў рукою. Тады ў размову ўмяшалася старая.

— А хто хоча вайны? Ты, Мішка? — спытала спакойна, але строга, нібы суддзя, адкінуўшы ўсе жарты.

Хмыкнуў Валошка:

— Хто ваюе?.. Ды сам Ягоравіч. У сне.

— Ну... ты мне — як на духу,— пачала насядаць старая.— Не ўвільвай. Грэх таіцца ад маткі.

Валошка задумаўся і маўчаў, доўга маўчаў, як не ведаючы, што тут сказаць, як разгубіўшыся перад грозным матчыным допытам, і тады з печы пачуўся яшчэ адзін голас справядлівасці:

— Чаго маўчыш, бацька?..

Усе азірнуліся на Юрася, які ляжаў жыватом на чарэні, падпёршы рукамі бялявую галаву, рашуча глядзеў са свае вышыні на бацьку. Баба Юста тропнула, як сядзела, ручніком па падале, быццам сцебанула ўнука, прыкрыкнула, каб не соваў носа не ў сваё проса. Затое відаць было, што сынава злосць і рашучасць спадаба-

ліся бацьку. Вочы яго заблішчалі, павесялелі. І ўжо, здавалася, аднаму Юрасю адказаў:

— Дубы стаяць. Пакуль што.

— Як гэта, Мішка, пакуль што? — абурылася старая. Адказ сынаў не задаволіў яе.

— А так,— паспрабаваў растлумачыць Валошка.— Праз год нам, леснікам, дадуць новы лесапарадчы праект, новую лесасеку. Што таксатары намалююць, тое лясгас зробіць. Валіць загадаюць — павалім, а скажуць, каб дубы стаялі,— ніхто іх пальцам не кране. Вось Андрэю кажыце. Можа, яго сябрукі будуць пушчу парадчыць? — Валошкавы вочы прасілі-малілі Андрэя.— Га?.. Заступішся?.. Лісанец усё ж...

І цяпер ужо ўсе не зводзілі вачэй з Андрэя, чакалі, што ён, лясны таксатар, скажа. Ад даверлівых паглядаў Андрэю спачатку зрабілася цёпла, потым кінула ў гарачыню.

— А навошта сябры?

— Як гэта — навошта?

— Ды я сам.

— З вуса́м?

— Не, праўда! Вось прыехаў. Мая партыя будзе пушчу парадчыць...

Валошка ажно падскочыў:

— Ды няўжо?!

І тут усё павярнулася на іншы лад — размовы, позіркі, твары. Юрась на печы замоўк, як след, можа, не разумеючы, што здарылася; прыціхла баба Юста, утаропіўшы ў Андрэя шэрыя лагодныя вочы, быццам чакала ад яго нечага большага; дзед Гарох варушыў танклявымі губамі, нешта меўся сказаць, ды не адважваўся; а Валошка ўсё зразумеў адразу, раней за ўсіх — тут жа, за сталом, абхапіў Андрэя, мацней, як першы раз, калі Андрэй пераступіў парог, нібы цяпер толькі па-сапраўднаму адчуў, які дарагі госць у хаце.

— Ну, дружа! Парадаваў!.. За дубы цяпер і вып'ем. За іх доўгі век. Але не як у нас водзіцца: кулень — гатова. Прыгожае слова, Ягоравіч! Вы гэта можаце.

Стары заёрзаў — не чакаў.

— Ды які з мяне гаварун? У мяне першае слова — пушча, другое — пушча. Я нічога не ведаю, акрамя пушчы. Тут дзела яснае, што цёмны, шэльма...

— Вось і прасвятлі нас пушчанскаю цемнатою!

— Ыйш, пад'ехалі!..— Дзед Гарох зноў весела заёрзаў, нібы на мулкім канторскім сейфе, але задумаў-

ся; было відаць, што ён ведаў патрэбныя словы і цяпер выклікаў іх з душы, з яе глыбіняў, на язык.— Ладна. Я так скажу. Ёсць у нас, Андрэй, вёска за Сажом. Усполле. Там лесу — і нос не чуе, і вока не бачыць. Дзела яснае. Адно ворыва, ды і тое — пясчанка. Дык вось, успольскі мужык прыехаў да лісанскага па лес ці па дровы. А лісанскі леснікуе. Зіма, а ён, шэльма, зусім лёгенька адзеты. Уставіўся ўспольскі на яго адзежыну, дзівіцца: «А братачка, дзе ж твая шубейка?» Лісанскі ў кулак пырскае ды і кажа: «А яна ву-унь на тым дубочку». Успольскі задраў галаву, глядзіць на дуб, нічога такога не заўважае — зноў пытаецца: «А шапка твая, братачка, дзе?» Зноў лісанскі пасміхаецца: «А ву-унь, на вяршыне дубочка». Той зноў глядзіць ёлупам. «А душа твая, братачка, не акалее, калі ты ўсю сваю адзежку дубу аддаў?» — пытаецца. Лісанскі зноў адказвае: «Не можа яна акалець. Бо душу маю грэе сам дубочак». Пачухаў успольскі патыліцу, не дапяў — зноў у роспыт: «А дзе ж, братачка, пасцелька твая?» Кажа яму лісанскі: «А пасцелька мая, мужычок-бедачок, пад тым самым дубочкам на мякенькім лісточку, на кругленькіх жалудочках. Там і гасцявая мая, там і вечная». Дык вось, Андрэй, якія мы, лісанскія-пушчанскія.

Замоўк — чуваць было, як гарэліца бяжыць-булькоча ды як парожнія шклянкі на стол: лоп, лоп... А душа сагрэлася — хіба не ўспомніш тыя дубы ў партызанку?

— З вас хто ведае, як нас немец у дубах прыпёр? У сорак другім. Улетку. Месца роўнае, круглае. Во, што донца.— Стары перавярнуў шклянку, чмокнуў яе ў донца.— Спераду і з бакоў паганец, а за спіною Сож. Кінься ў ваду — на вадзе зрашэціць.— З лыжкі гучна сербануў капуснага расолу.— Ты, Андрэй, Кулаша павінен ведаць.

— Не ведаю, але чуў.

— Дык у яго быў, можна сказаць, партызанскі лазарэт. Пагарэлішча — вёска глухменістая, дзела яснае, а кардон Кулашаў за вёскай у ельніку. Кулаш — лекар, самавука. Яшчэ на імперскай вайне фельчарскую службу спраўна нёс, за што Георгія прыляпілі. Як я па скаціне кемны, дык ён, шэльма, гэтакі па чалавеку.

Дзед Гарох прымоўк, пранізлівым паглядам абвёў усіх па чарзе, гадаючы, ці да кожнага дайшло, як ён і сябе добрым слоўцам не абмінуў,— гэта было ў яго на-

туры, каб няўзнак сябе паказаць у прывабным святле, пра іншага кажучы.

У сенцах грукнула, ляснула клямка — у хату, дыхаючы белым холадам, пацепваючыся, ускочыў Юрась. Калі ён пакінуў печ — Андрэй не заўважыў.

Стары зноў гучна сербануў расолу — смягла ў роце.

— Ну, снарадзілі мяне партызаны да Кулаша, каб узяў у яго двух нашых афіцэраў, акружэнцаў, у атрад прывёў. У Пагарэлішчы ўхайдокалі бычка, тры мяхі мяса наклалі, на спіны ўзвалілі. Ноч была. У дубы ўвайшлі — Мураўка прыбіўся. Даўно ў атрад меціў. Тут дзела яснае. Але куды было браць, шэльму? Малы, гадкоў трынаццаць, ды яшчэ на спіне тая купіна. А ён увязаўся, каб яго... не адчапіцца. Пакуль з ім дурманіліся, на немца наскочылі. Думалі, сіла ў немца плёвая. Трах-бах, стралянулі, самі — у гушчар. А немчуры — машына коптурам. Нам назад дзёру б даць — да Кулашавай хаты хвост не прывядзеш. Пакаціліся ў дубах, ляжым. Ноч і дубы — адзіная ахова. Маўчым. І паганец маўчыць. Віднаты чакае, каб нас пад сонцам узяць, цёпленькіх. Мураўка да мяне падпоўз, шэпча: «Дзядзька, я ўсіх схаваю».— «Дзе ж ты, шэльма, схаваеш?» — пытаюся. «А ў Святым дубе,— кажа.— Дзе я ад маткі хаваўся». А матка яго, Мураўчыха, што зварыуга — дзела яснае.

Юрась зноў забраўся на печ, улёгся жыватом на чарэнь, навастрыў вушы. Зноў голас падаў:

— А мы з Дзімкам хаваліся ў той дуб ад дажджу. Там — што ў пуні. Хоць лажыся.

— Ты, Юрась, ад дажджу, а мы ад смерці.— Дзед Гарох каторы раз сербануў расолу, бразнуў лыжкаю аб стол, уцёр далоняю вусны і, убачыўшы, што Валошка закурыў, дастаў з кішэні піпку, капшук з тытунём.— Значыцца,— працягваў казаць, набіваючы піпку тытунём,— першы да дупла ўскараскаўся Мураўка. Дарма, што гарбун, а пруткі, шэльма. Ну, як ён у дуб уваліўся, дык і мы за ім. Ён, дзела яснае, вяроўку адтуль звесіў. Пакідаліся ў дуб, а там чаго няма! Кажух, сякера, нямецкі аўтамат, бульба, сала на ўсю вайну. Пяць дуплаў, а ў іх зоры з неба зыркаюць. Пачалі зоры гаснуць, тады паганцы заварушыліся. Трах-бах, а нас — і след прастыў. Ух, развялі страляніну, каб іх дрын... Усляпкі! А мы, шэльмы, сядзім у кругавой брані, у вус не дуем. От яны шалелі! І стралялі, і маўчалі, і галёкалі.

Панавезлі аўчарак. Ды пакуль тыя аўчаркі — дождж шухнуў, сляды пазмываў.

— А колькі гадоў дубу? — спытаў Юрась.

Дзед Гарох пыхкаў піпкаю.

— Ну колькі б ты даў?

— Можа, тысячу?..

Валошка ўстаў з-за стала, падышоў да печы, нешта сказаў Юрасю. Той зноў саскочыў на падлогу, шыбануў у сенцы.

— А я табе, Тамаш, так скажу,— сашчапіўшы на каленях рукі, задумліва ўставіўшы светлыя вочы ў брыж стала, перахапіла гаворку Юстына Іванаўна.— Як можна?.. Стары чалавек!.. Хай бы гэтак Мішка казаў ці хто маладзейшы. А то — ты!.. Няма ў цябе бога ў душы. Сатана звіў гняздо...

— Юста!.. Юстына?! — жахнуўся дзед Гарох.

І Валошка здзівіўся:

— Ты што, мама?..

— А тое, што чуеце. Святы дуб! На Георгія Пабедаsuccessца, святамучаніка, бацюшка спяваў пад гэтым дубам. «Не ўбівай...» А вы?.. Той Мураўка — аўтамат у Святым дубе хавае?..

— То ж вайна, Юста! — дзед Гарох ускіпеў, піпкаю грукнуў аб стол, ажно іскры пырснулі.

Старая замоўкла, як адчула, што не тое сказала.

— Ты, Юста, можа, скажаш, што Георгій Пабеданосец не воін? — зноў узяў слова дзед Гарох.

— А што — святы мучанік?

— Я партызан. Наша пушча ўся партызанская. І скажу. Мне люба-дарага, што Георгій у чырвонай бурцы, як у агні,— на іконе. І на белым кані. А ў руцэ не аўтамат, дык меч. Брашу, піка вострая. І ён той пікаю праціна паганага змея-ворага. Святы, кажаш? А я шаную яго — воіна. І яшчэ люблю «Міколу з мечам і градам». Мікола ў адной руцэ горад трымае ці, можа, вёску, як маю Лісань, а ў другой руцэ меч і кажа паганцам: «Не чапайце зямлю маю, людзей маіх, бо галовы ўсім паздымаю!» Га, Юста?..

Разгубленасць і жах апанавалі старую. Яна нясмела адкрыла рот, каб спыніць дзеда Гароха, яго блюзнерства, але той быў у самай сваёй красамоўнасці і слова ўставіць не даваў, сам выступаў у ахвотку, то суючы ў рот ражок піпкі, каб дымком асвяжыцца, то не паспеўшы зацягнуцца, вымаў піпку з рота і зноў даказваў. Юрась хоць раней заступаўся за бабу Юсту, а

тут слухаў развесіўшы вушы, хапаў кожнае дзедава слова. Ды і Андрэю было радасна бачыць старога ў гуморы — павесяліць, здзівіць, насмяшыць ён мог.

Валошка рагатаў, падцяўшы жывот, усё падахвочваў:

— Дакажы ім, Ягоравіч!..

І дзед Гарох даказваў:

— А можа, ты, Юста, супраць Аляксандра Неўскага? — увесь выцягваўся да старой, торкаючы ёй пад нос куродымную піпку.— Таксама на белым кані! Арол, як наш партызанскі бацька камісар Пінчук, царства яму нябеснае. Герой!..

І тут, мала не праз слёзы, прарваўся голас гаспадыні:

— Ды што ты, бязбожнік, вярзеш?.. І хто ў тваёй Лісані жыў? Такія ж бязбожнікі, як ты сам. Ды як той Нікодым. Гэта падумаць! Звон спрадвеку вісеў у Гарадку на царкве, званіў каляды і вялікдзень, а ён завалок яго ў лес, на вышку ўспёр, пачаў званіць па разбойніках, якія пушчу палілі ды секлі!.. Святы звон — па разбойніках!..

— Вось ты, Юста, вярзеш. Па якіх разбойніках?.. На пажары людзей збіраў. Пушчу нашу, карміцельку, ратаваў...

— Ах!.. Даруй ім, божа.

Старая знемаглася спрачацца з упартым чалавекам: пляснула далонямі па каленях, заплюшчыла вочы і прыціхла. А дзед Гарох пачаў прагна і часта смактаць сваю піпку, аж шчокі ўвальваліся. Распаліў піпку, тады стрэльнуў на Юсту ваяўнічым позіркам, гатовы зноў даказваць — хоць да раніцы.

Павярнула за поўнач, калі Андрэй падняўся па ўсходах на гару ў пакойчык, які гаспадар называў галубятняю, і тут зразумеў, куды і навошта Юрась разпораз лётаў з хаты: круглая жалезная буржуйка стала напаленая, аж не даткнуцца, а на канапе ляжалі прасціна, падушка, коўдра. Крыху прачыніўшы фортку ў круглым, падобным на ілюмінатар, акенцы, Андрэй выбраў на кніжнай паліцы нумары «Лесного журнала» за далёкі шаснаццаты год, распрануўся і, не выключыўшы святла, нырнуў пад мяккую ватовую коўдру.

Пакойчык здаўся ўтульны, хоць нічога добрага ў ім

не было ні з мэблі, ні з рэчаў, акрамя кніг. Ламачына — стол, ды два рыплівыя крэслы, ды шырокая лава, заваленая, як стол і паліцы на сцяне, кнігамі, часопісамі, паперамі. Утульнасць надавалі таксама свежыя блакітныя шпалеры ды яшчэ фотаздымкі на сценах. Фатаграфіяй Валошка захапляўся, але тады, як быў час, і нічога, мабыць, ніколі не здымаў, акрамя пушчы, таму са сцен на Андрэя глядзелі куткі мілыя, знаёмыя — саграваліі: лісанскія дубы, летнія, сонечныя, і зімовыя, пад белым снегам, знятыя ў дружнай сямейцы, асобна стаяў Святы дуб па-над Белай крыніцай, яліны ў доўгіх зялёных спадніцах, вузенькая Трасцінка, над якою чорнымі стрэламі ўзляталі танклявыя вольхі, Лісань у створы дарогі, бязмежныя, гонкія сасновыя бары ў сонечным святле, зімовыя і летнія бабровыя плаціны і хаткі, лось з аграмаднымі, парасткаў на пятнаццаць, рагамі. Не ўсе куткі пушчы, якія былі на здымках, Андрэй памятаў, не ўсе і бачыў, але з усіх здымкаў на яго дыхалі знаёмыя ветры, сама пушча падступалася да канапы. І калі, нагледзеўшыся на здымкі, разгарнуў часопіс, калі на другой ці трэцяй старонцы прачытаў: «Привет Лесничему...», вочы, у згодзе з душою, ахвотна паплылі па радках, нібы па цёплых барознах, узараных даўным-даўно: «...исполнилось тридцать лет, как наш общий любимец, лесничий Дмитрий Михайлович Кравчинский, живет и работает в Лисине...»

«Лісіно?.. Амаль — Лісань... Ляснічы — любімец... Між іншым, беларус, з-пад Віцебска,— успомніў Андрэй.— Брат Сцепняка-Краўчынскага, нарадавольца...»

Дзверы ціхенька адчыніліся.

— Не спіш? — спытаў, пераступіўшы парог, Валошка.

— Збіраюся.

— Глядзі... Стары партызан успора да свету.

— З другім пеўнем?

— Каб не з першым. Ці пагасцюеш тут?

— Хутчэй — у Лісань.

— Парадчыць нас яшчэ рана? Ужо з вясны.

— Затое адпачываць ніколі не рана. Асабліва — таксатару. Улетку нам некалі.

— А цяпер камеральныя работы?

— Я свае зрабіў.

— Нешта хутка?

— А лета выдалася!.. Запарыўся. Лясы стракатыя...

— Ну... у нас не будзе лягчэй. Хоць Лісань і род-

ны твой кут. А можа, таму не будзе лягчэй, што родны.— Падумаўшы, Валошка спытаў: — У вашай першай экспедыцыі быў стары таксатар паляк Тадэвуш?..

— Памёр дзядзька Тадэвуш.

— Шкада,— уздыхнуў Валошка.— Мне казалі, што памёр, ды я не верыў. Сухоты?.. А я высылаў яму чагу бярозавую. Не памагла, значыць.

— Ты яго ведаў?

— Дзевяць гадоў, як Лісань парадчыў. Праз яго я таксатараў палюбіў. Раней думаў, што вы палітыкі і крыху леснікі. Што ўся ваша палітыка — апраўдаць пілу ды сякеру. А ён мне паказаў, што сапраўдны лесапарадчык — не проста таксатар. Вучоны? Так. Палітык? Так. Але ў іншым сэнсе, як я думаў. Дарэчы, Андрэй, у цябе ёсць сваё прафесійнае крэда? Не школярскае — сваё?

Валошка сеў да стала, сухім кулаком падпёр цяжкую галаву, задумаўся, але ўся яго ўвага была на Андрэю. Валошка глядзеў на яго ўпарта, як усяго чытаў, наскрозь. Андрэй ведаў, як Валошка можа чытаць чалавека,— разгубіўся пад гэткім позіркам: што сказаць? Тут не схлусіш. І сказаў — як было:

— Н-не... не задумваўся,— аж зніякавеў.

Той схмурнеў — не спадабаўся Андрэеў адказ. Скептычна, нібы на хлапчука, які пнецца ў разумнікі, глядзеў на яго, што думаў — паспрабуй здагадайся.

— А ў дзядзькі Тадэвуша яно было. Сваё, вынашанае. Ён казаў: «Маё крэда, пан ляснічы,— не абрабаваць сваіх прапраўнукаў». І яшчэ помню. Ляжым з ім пад Святым дубам, глядзім угару, у зялёнае голле, а ён кажа: «Як мне, пан ляснічы, спарадчыць тваю цудоўную пушчу, каб праз сто гадоў, усяго праз адзін абарот інтэлігентнай рубкі, вярнуцца сюды, вось гэтак разлегчыся пад Святым дубам і каб ніводная жывая душа не нагадзіла мне, помсцячы, з дуба на лысіну?»

— Я ведаю. Ён быў патрыётам лесу.

— Са сваімі зыходнымі пазіцыямі. Запомні!

І гэта ўжо была Валошкава пазіцыя — Андрэй адчуў.

— Скажы, Пятровіч, лісанскім дубам сапраўды пагражае сякера? — спытаў.

— А ты думаеш, стары так сабе... Ён у нас прарок. Хоць часта — і шэльма ці попаўзень, як сам кажа, і дзіця, і... артыст. У яго інтуіцыя! Хоць і не ведае, што вакол дубоў пляцецца, ды носам чуе.

— А ты ведаеш?

— Крыху. А крыху... як стары — носам чую.

— Ну і?..

— Неяк пасля.

Валошка ўстаў, шырэй адчыніў фортку. За акном шугаў вецер. Налятаючы з неасłоненага ні лесам, ні дамамі прастору, навальваўся на шыферны дах, грымеў, нібы камяні катаў па жолабах шыферын. Андрэй успомніў, што на вуліцы, калі ішоў, гэтага ветру не было. Пэўна, што дом стаяў на гары па-над Сажом — таму і вецер у стрэхах аж шалее. За Сажом — адразу пачынаецца пустое поле да пушчы, а ў полі вецер заўсёды, слабы ці моцны. Гэты, начны, якраз ляцеў ад пушчы, ні за што не зачапіўшыся, нідзе не абламаўшы крылаў, шугаў напрамкі ў вокны-ілюмінатары.

— Дубы — не самае балючае. З імі ўладзім,— сказаў Валошка.

— А што яшчэ?

Ля кніжнай паліцы Валошка ўзяўся складваць кнігі, якія ляжалі на лаўцы, паліцах, стале.

— Ты мне спачатку скажы. Лесапарадчанне — гэта што? — раптам павярнуўся да Андрэя з кнігамі ў абедзвюх руках.— Інвентарызацыя дрэвастою? Яго ацэнка? Вызначэнне тыпу лесу, паўнаты, узросту, біялагічных умоў росту? Рэкамендацыі па рубках догляду, узнаўленні?..

— На аснове навукі і лепшай практыкі. Як і што рабіць, каб, карыстаючыся лесам, не збядніць яго.

— Га-а!.. Не збядніць? Ну, а калі ён ужо бедны? Да нас збяднеў. Я да чаго вяду? Вось мы з табою паедзем па пушчы. Цяпер ці як снег сыдзе. Усю яе скалясім. Пакажу табе і суседнія лясніцтвы. Ты будзеш глядзець на бары, субары, дубровы — на сённяшнія, а я табе ў гэты час буду казаць пра мінулае пушчы. Ну, хоць пра тое, як дзвесце гадоў назад Херсонскае адміралцейства пачало будаваць першыя ваенныя караблі на Чорным моры, самыя буйныя па тым часе — фрэгаты, і як наша пушча, а яна была ў межах графства Пацёмкіна, якому царыца Екацярына даручыла будаваць флот, поўнасцю забяспечвала Херсонскія верфі лесам, будаўнічым і мачтавым. Адсюль, па Сажы і Дняпры, сплаўляліся лепшыя мачты-аднадрэўкі, грот-мачты, па сто дваццаць футаў вышынёю. Гэта метраў пад сорак хвоі, палітыя смалою, са стрыжаком ад кары да кары, дзе ўжо абалоні не бывае. Я табе раскажу пра

перапіску Пацёмкіна з купцамі Фалеевым, Краснагла-завым, Аржыцкім, Калпаковым, якім ён давяраў заключаць падрады, дагаворы на распрацоўку лесу, сплаў лесу ў Херсон. У тых паперах шмат цікавага пра нашу пушчу. І будзеш ты быццам пра адну пушчу чуць, а другую бачыць, хоць гэта адна і тая ж. І вочы твае будуць скакаць па барах: дзе тая саракаметровая мачта, хоць бы вокам адным, хоць бы на адзін міг яе ўбачыць — не ўбачыш нідзе. І калі твая душа не ачахла, галава не зленавалася, ты задумаешся: няўжо той лес ніколі не вернецца? Навекі кануў? Няўжо — навекі? А калі вярнуць карабельны бор?..

— І будаваць зноў фрэгаты?

— Не забягай.

— Не ўжо. Я хачу сказаць,— пачаў гарачыцца Андрэй, аж з-пад коўдры выскачыў, спусціў ногі и канапы на падлогу, сеў.— Карабельнаму колькі трэба расці? Не меней як сто пяцьдзесят? А ці разумна ўдвая павялічваць абарот рубкі? Фрэгаты сплылі...

— Адкінем фрэгаты. І абароты. Карабельны бор — гэта залацінка ў гісторыі пушчы. Зімаўца гісторыя не цікавіць. А цябе? Ну, адкінем гісторыю. Карабельная сасна — лепшая баравая сасна! Не супраць? Нават — ва ўзросце нашага абароту рубкі, маладая. А насенне? Якія ў нас матачнікі? Гэта хіба нашчадкі тых бароў? Часта не ўзнаўляем, а засмечваем пушчу.

— Вяртаць і ахоўваць эталоны лесу? Ты за гэта?

— Я хачу, каб пушчы хоць пакрысе, паступова вяртаць яе гістарычныя каштоўнасці. Лепшыя бары, дубровы, ельнікі. А дзе ў нас ліпавыя падлескі, гаі — адвечныя сувязныя паміж барамі і дубровамі, спадарожнікі здаровага лесу? Бярэзнік расце там, дзе ўчора шумеў бор. Дзе seклі яліну — ды якую яліну! — там сцяною высыпалі альха ды асіна. Шэрай альхі — сотні гектараў!

— Ты за лес без альхі і бярозкі?

— Не. Без альхі і бярозкі таксама не лес. Але... іх бяруць на дровы. Без чаргі. А за сасной, за ялінай — гадамі стаяць у чарзе. Ну... спі.

Андрэй пашоргаў нагой аб нагу і зноў нырнуў пад коўдру, улёгся. Але Валошка сам не спяшаўся ісці.

— Можаш мяне не слухаць. Але пушчу слухай.

— Гоман ветру ў хвоях? — пазяхнуў Андрэй.

— І гоман хвой. І Макара Курнопу. Гэта... гадоў паўтараста назад па праекце графа Канкрына, вядома-

га ляснога рэарганізатара, была створана першая ў Расіі сталая лясная стража. Абход, не меней як паўтары тысячы дзесяцін, пісаўся на сям'ю, а ў той сям'і былі гаспадар — начальнік стражы, брат ці дарослы сын — пешы стралок, маладзейшы сын — памочнік пешага стралка, астатнія сямейнікі — запасныя стралкі і малалеткі. Гэта ведаеш?

— Першы раз чую.

— Чаму вас у інстытутах вучаць? Дык вось... Уся сям'я на правах ваеннай каманды насіла вайсковую форму, за кожным замацоўвалася баявая стрэльба, мужчыны, як у арміі, галілі бароды, усе, нават малалеткі, праходзілі ў гарнізонах армейскую муштру, ведалі ружэйныя прыёмы. Нават існаваў «Цыркуляр воінскага статута для пяхотнай службы ляснай стражы». Я да чаго ўсё гэта? У Макаравай сям'і — ні стралкоў, ні зброі, ні муштры. Затое, як у тых стражніцкіх сем'ях, усе жывуць пушчаю. Жонка садзіць лес, старэйшы сын з бензапілою, ваюе дзялянкі, маладзейшы егерам у Асечы, дачка ў Мінску канчае лесатэхнічны інстытут. Самы малы, Толік, зусім яшчэ падшыванец, шышкі, нібы вавёрка, з хвой збірае, ясеневыя венікі вяжа, абход падчышчае — у школе ды ў лесе, дома не запыняецца. Дык вось яны пушчу ведаюць. З Макарам пагавары. У яго свае назіранні: дзе птушка гняздо пакінула, чаму — ведае, дзе як мяняецца махавіна, травіна, ручаіна. Чуе, як дрэва плача, і ведае — чаму.

— А дачка? — не вытрымаў Андрэй.

— Што дачка? І яна...

— Як зваць?

— Алёнкаю. Бялявенькая, уся ў матку.

Андрэй ведаў і Курнопу, і Алёнку. Учора раніцай, калі ад'язджаў з Мінска, яна праводзіла яго на аўтобус — гэтага Валошка ведаць не мог. Сухім калючым снегам мяцеліца канапаціла каменныя шчыліны горада, па гладкім абледзянелым асфальце валакла белыя касмылі, сляпіла вочы — людзі адзін аднаго не бачылі. Ён сядзеў у аўтобусе ля акна, а яна стаяла за акном на пероне, туліла ў каўнер твар. Ён не зводзіў з яе вачэй, яна — з яго. З-за снежнае каламуці ён не бачыў яе твару выразна, як яна, пэўна, ясна не бачыла яго, але белая каламуць рабіла яе светлай, лёгкай. Калі аўтобус ад'язджаў, яна спачатку ішла побач з аўтобусам, нібы прывязаная да шыбы, пры якой сядзеў ён, ішла і

махала рукою, а рука была ў рукавічцы, бялюткай, як шапачка, як увесь той завірушлівы ранак.

Вось і цяпер Андрэя падхапіла тая мінская завіруха, белы, быццам снег, успамін пра Алёнку. Быў адарваўся ад размовы з Валошкам, апынуўся ва ўладзе іншага настрою, але Валошкаў голас зноў вырваў з той завірушнай каламуці, дайшоў да Андрэя:

— Ну... спакойнай ночы.

Андрэй адчуў, як лёгка, нетаропка, не глушачы крокамі рыпення масніц, Валошка лесвіцаю спускаўся ўніз, як унізе, у сенцах, на хвіліну прыціх, бразнуў па вядры конаўкай — піў ваду.

Танклява каўкнулі дзверы.

Сціхла.

Андрэй разгарнуў часопіс. Старонкі — жаўтлявыя, перасохлыя, нібы скура на руках у старога.

Старонка за старонкаю — партрэты ляснічых, некралогі. Імёны, прозвішчы, словы развітання...

Ішла вайна. Ляснічыя таксама гінулі ў акопах, і рускі лес развітваўся з імі, сваімі сынамі. А яны — усе маладыя, здаровыя, вусатыя, у прыгожай форме афіцэраў ляснога корпуса. На іх — мундзіры з пятліцамі і гузікамі дарагой фірмы Буха, са знакамі Пятроўскай лясной акадэміі, Імператарскага ляснога інстытута і Ляснога дэпартамента, высокія фуражкі з кукардамі, пагоны, корцікі афіцэраў-ляснічых са стальнымі гравіраванымі клінкамі, белыя пальчаткі, лампасы шаўковыя. Адным словам — героі!

Пра іх і пісалі, як пра герояў і патрыётаў... лесу. Больш — лесу, чым вайны.

Андрэй устаў з канапы, выключыў святло, але не лёг, падышоў да адчыненай форткі. Угрэўшыся ў цёплым, ажно душнаватым, пакоі, ён з асалодаю адчуваў свежы павеў ночы. Яна дыхала яму ў твар здаровай марознай сухасцю.

У фортку ляцелі мяккія сняжынкі, прыветна кláліся на твар.

Валошкаў дом стаяў на самай кручы, над Сажом, і за форткаю перад вачыма ў Андрэя не было нічога, акрамя снежнага прастору, пушчы і неба. Сняжынкі, што ляцелі ў твар, пахлі хвояй.

Андрэй глядзеў у ноч, у цемень, спярэшчаную бялявымі ніцямі парошы, а бачыў у той цемені ўсе пушчанскія дарогі і сцежкі, азёры і балоты, рэчкі і крыніцы, партызанскія акопы і зямлянкі пад травамі і сня-

гамі; бачыў Лісань і дзеда Гароха, хоць ён быў зараз не там, а тут, пад адной з ім, Андрэем, страхою; бачыў Ялоўку і на яе вуліцы — Алёнку, хоць у гэты час яна была далёка ад пушчы — у Мінску; бачыў аленяў, нават — як яны раўнюткім шнурам брылі па Асечы міма егерскай хаткі...

## 2

Раніца ўзялася марозлівая, калючая. Санныя палазы рыпелі натужна, каляна, як рыпіць у руцэ навошчаная дратва.

Калі праехалі мост цераз Сож, ужо добра развіднела. Абапал дарогі, праўда, яшчэ зыбалася рэдкая падсіненая смуга, хавала абрысы паплавоў і небакрай, але сцяна сасновага бору наперадзе ўжо выяснела ў сваёй вечнай зяляніне і ў часовай белізне, густы частакол стромых ствалоў пунсовеў, раней за людзей улавіўшы цяплынь сонца, якое толькі ўзыходзіла.

Валошка і дзед Гарох ехалі ў Лісань на работу, а Андрэй — у вальеру, да Міны, егера, бо хацеў пасяліцца ў егерскай лесавушцы, пажыць у лесе, побач з аленямі. Нават валёнкі прыхапіў у Валошкі, каб смялей таптаць снег. Яшчэ ў Валошкавай хаце абуўся ў іх — чаравікі ўкінуў у рукзак.

Да вальеры Малы дамчаў на адным дыханні, амаль ні разу не збіўшыся [redacted] лёгкай рысі, на якую ўлёг яшчэ ў Гарадку. Ля вальернай брамы Андрэй з рукзаком і стрэльбаю выскачыў з саней, а Малы, не спыняючыся, [redacted] Валошкам і дзедам Гарохам памчаў далей — на лісанскую дарогу.

Пераважна лісцёвая Асеча — бярозы, асіны, дубы, шэрыя і чорныя вольхі, арэшнік,— перасыпаная яловым маладняком, па лагчынах вельмі густым, кудлатым, дзе-нідзе са старымі хвоямі, была абнесена высокай і доўгай, кіламетраў на пяць па крузе, жардзянай агароджаю, за якою жылі алені і стаяла егерская хатка. Асечаю месца звалася, мабыць, таму, што некалі тут паклалі багата лесу. Старажылы не памяталі таго часу, але памяталі балоты, што былі захапілі высераб. Адно праз шмат гадоў лес зноў вярнуўся, ды ўжо не хваёвымі шатамі, як раней, укрыў зямлю, а лісцвянай кашуляю. Асіны, бярозы, вольхі выпілі балоты — зноў закрасавала мясціна, багатая на ягады, грыбы, птушак, звяроў, утульная ўсім, асабліва аленям і чалаве-

ку. Па ёй гарэзліва пятляла вузенькая Трасцінка, усцяж абстаўленая бабровымі хаткамі ды плацінамі, адсюль брала кірунак на Лісань і ўжо там, за вёскаю, весела скачучы па карчах ды мораных дубах, якія дзенідзе тырчалі з яе дна,— вітала роднага бацьку — рахманы паўнаводны Сож.

Егерская лесавуха стаяла на ўзгорку пад дзесяткам высозных падгалых хвой, двума невялічкімі вокнамі глядзела на прагалак, затканы ружовым, нібы ранняй вясною, алешнікам, а яшчэ адным акном, з-пад страхі, хатка сачыла за прасекаю, што ад самай вальернай брамы вяла да кармушак, да Трасцінкі, раскідаючы ад сябе сцежкі па ўсёй вальеры. Дзе канчаўся прагалак, там узвышаўся стог сена, ад аленяў абнесены жэрдкамі, а за стогам над сіняй аслонаю лесу ўзыходзіла сонца. У той бок, да стога і сонца, вёў свежы Мінаў след, і Андрэй, не завітаўшы ў хату, пакінуўшы ля парога рукзак і стрэльбу, накіраваўся па слядах.

Дайшоў да стога — спыніўся і азірнуўся. З сонечнага боку хатка выглядала вельмі вясёлай, утульнай. Сонца зырчэла, і перад вачыма ў Андрэя жаўцелі круглыя бярвёны ў сценах, бліскучыя шыбы ў вокнах, над стрэхамі жаўцелі хвоі, пад хвоямі — стрэхі, а з коміна ледзь курэла жаўтлявая пара, і гэта не значыла, што цяпер хтосьці паліў печ,— у хатцы нехта начаваў, і комін яшчэ не астыў з начы.

Блізка зарыпеў снег — на вузкай сцежцы Андрэй заўважыў аленяў. Узняўшы галовы, яны шнурам, адзін за адным, паважна ішлі ў бок Трасцінкі, чуйна стрыглі доўгімі настабурчанымі вушамі — лавілі гукі раніцы.

На ўзгорку звонка крохнула мёрзлая галіна — там стаяў Барын, важак табуна. З занятай вышыні ён спакойна пазіраў па баках, уладарна, што цар, аглядаў абшары. Колькі разоў выцяў хвою магутным рогам, гукамі пасылаючы каманды свайму табуну. Барын быў самы стары з вальерных аленяў. Дзесяць гадоў назад яго, ужо тады немаладога, прывезлі з табуном у Асечу, і ён да гэтага часу не пакінуў вальеры, як пакінулі іншыя алені. З усіх тых першых перасяленцаў засталіся адно ён ды яшчэ такая ж старая алянуха Пані.

Андрэй гукнуў Барына. Той гайдануў рагамі, павярнуў галаву — круглае вока жыва бліснула і заззяла на сонцы кавалачкам самога сонца.

— Ну, здароў, Барын!

Алень уважліва глядзеў на Андрэя, як намагаўся

прызнаць у ім свайго чалавека. Не прызнаў. Адвярнуўся і пакрочыў з узгорка на сцяжыну, па якой вяла табун Пані.

Ідучы следам за аленямі, іхняй сцежкаю, Андрэй выйшаў да Трасцінкі. У гэтым месцы на рэчцы кожную зіму дыміла палонка. Цяпер, у маразы, каб палонку не запячатаў лёд, Міна прыкідаў яе галлём, а па галлі — сенам. Андрэй адкінуў сена, ссунуў галлё. За ноч мароз падтачыўся пад сянную шапку, зашкліў палонку слюдзянай скарынкаю, але не моцна, скарынка ўзялася танклявая, празрыстая, было відаць, як пад ёю зіхацела, бруіла вакол каменьчыкаў вада. Стаўшы наўколенцы, Андрэй праламаў лёд, рукамі адарваў яго ад берагоў і выкінуў на снег, потым сабраў з вады льдзінкі, сяніны і апусціў рукі ў палонку. З далоняў піў чыстую, нібы крышталь, ваду, сцюдзёную, ажно ледзянела ўсё ў роце і ў грудзях, піў і зноў апускаў рукі ў рэчку: рукі стылі, бурачковелі, ледзяная вада ажно сцягвала скуру.

На беразе Трасцінкі пад стрэшкаю стаяла кармушка, і Андрэй насмаргаў са стога сена, заклаў у драбіны. Алені далёка не пайшлі, збіліся ў блізкім ельніку, цікаўна высоўвалі адтуль галовы, сачылі за незнаёмым чалавекам, а выйсці да яго і да кармушкі не адважваліся. Андрэй павярнуў да Мінавай хаты. Ідучы, аглядаўся і бачыў, як алені па адным выходзілі з ельніку, як самыя смелыя першымі падышлі да кармушкі і ўжо выскубалі мурог з драбін.

Хатка была адчынена. Усё ў ёй выглядала па-ранейшаму, як год і два назад: у пярэднім пакойчыку пры акне стаяў няхітры, з таўстых дошак, стол, стаяла грубка, двое дзвярэй абапал грубкі вялі ў маленькія спальныя пакоі; ля парога — два вядры, адно з вадою, другое з бульбянымі лушпайкамі, кошык з бульбаю, паснуднік, і на ім, засланым старой, на дзірках, цыратаю,— чыстыя нажы, лыжкі, відэльцы ў слоіку; чыстыя паўміскі, сподкі, кубкі — на драўлянай сушылцы, змайстраванай Мінам, а на стале, што пры акне, за якім абедалі і вячэралі ўсе, хто тут бываў,— акраец чэрствага хлеба, пачак буйной шэрай солі, галоўкі цыбулі, буйна пасечаная на днушку малінавая заварка ў чай, электрычны ліхтарык і знаёмая «Вальерная кніга», у якую Міна дзень за днём пісаў адпушчаныя аленям корм, соль-лізунец, паваленыя на корм асіны. Апошні запіс: «Жалуды — 50 кіл., сена — поўныя кар-

мушкі, венікі — 30 штук». І далей: «Пані кульгае на правую пярэднюю. Баліць, як становіцца на нагу. На жалудах падпусціла да сябе. Узяў за капыт, а ў ім лядовая гулька, нарасць. Лёд з капыта выбіў. Пані павесялела, але на нагу прыпадае. Слабая. Цяжка пераносіць кіпучыя маразы. Баіцца глыбокага снегу».

У хатцы пахла смолкім дрэвам, сухмянай пячной гаркатою, хлебам, бярозавымі венікамі, нібы ў лазні, аўчынаю. Кажух вісеў на сцяне ля парога, побач з сядзёлкаю — яна пахла конскім потам.

Пры сцяне стаяла аблезлая двухкуркоўка.

Шафа — вузкая, высокая. На шафе — сякера. Андрэй зняў яе, паважыў у руцэ: лёгкая, ёмкая. Адчыніў шафу, а ў ёй, як раней, чаго няма! Патранташы, гільзы, пачкі з махоркаю — махорка чухнула ў нос дзяркатай гаркавасцю, аж заперхаў,— анучы, старыя боты, цвікі.

Андрэй скінуў сваё лёгкае паліто, апрануў цёплы Мінаў кажух, узяў жменю цвікоў, вялікіх і меншых, паклаў іх у кішэню, прыхапіў сякеру і выйшаў з хаты.

Ішоў паўз агароджу, пагрукваў абухам па жардзінах — тут яны трымаліся моцна. Дайшоў да лавушкі. Яе зрабілі ў клін, каб алень мог прайсці ў вальеру і не змог выйсці. Андрэй заўважыў, што куцец лавушкі надта шырокі — ад зямлі нехта абламаў канцы жэрдак: алень, можа, і не праскоча, а воўк — з ходу, нават з ношкаю. Ссек дзве яліны, абчасаў, адмераў па даўжыні і вялізнымі цвікамі прышыў да слупоў. Паглядзеў на сваю работу, убачыў, што не зашкодзіць яшчэ адна жэрдка, але тут пачуў рыпенне снегу — азірнуўся. За брамаю, што ў вальернай агароджы, убачыў каня і розвалы. І жанчыну — зашчэплівала веснікі.

«Мінава кабета? — падумаў Андрэй, ведаючы, што яна часцяком наведвалася з Гарадка да мужа.— Але чаму на кані? На чыім кані? На вальерным? А на якім тады Міна паехаў?»

Андрэй хацеў падысці, ды вырашыў спачатку закончыць работу. Ссек у гушчары яліну, абчасаў, канцамі прышыў да слупякоў. Ледзь апусціў сякеру, як яго паклікаў ласкавы жаночы голас:

— Андрэй?

Аж скалануўся: «Насця?!»

Кроў шыбанула ў галаў, апякла твар, а яна, адразу заўважыўшы Андрэеў неспакой, даўно ёй знаёмы, вольны, крыху ці не нахабна ўсміхнулася, падышла блі-

жэй, па-мужчынску моцна сціснула яму руку і трымала — яе рука была гарачэйшая за яго, аж паліла.

— Бач, які стройны парубак,— мірганула чарнявым вокам і цяжка, ажно грудзі пад кажухом падняліся і апусціліся, уздыхнула.— Эх, Андрэй!..

Хвалюючыся, ён шукаў, да чаго б прычапіцца паглядам, каб адвесці вочы ад Насці, душу суняць, але ні пра што іншае не думалася, як пра Насцю, пагляд не меў сілы адвесці — Насця гіпназавала, пазбаўляла волі і розуму. Усё ж апусціў вочы, утаропіў у снег, і тады вярнуў сабе ранейшую развагу, словы.

— А я гляджу... Конь... Жанчына... Падумаў, што Мінава жонка. Прыехала, а Міны няма.

— Параўнаў! Доўга думаў?

Яна прыжмурыла на яго вочы.

— А што?

— Кажу, параўнаў красу-бярозку [redacted] сухадрэвінай. Эх, Андрэй!.. А яшчэ сталічны чалавек!

У яе гаворцы, у кожным слове адчувалася гульня, Насці хацелася жартаў, кпінаў. Гэтакае з ёю здаралася, і ў гэтым Андрэй таксама пазнаваў ранейшую Насцю.

— Пайшлі ў хату,— запрасіў ён.— Халодна.

— Штосьці горача,— насуперак адказала яна.— Але пайшлі. Калі ёсць чым частаваць.— Нават у спіну лёгенька таўханула — маўляў, вядзі.

У хаце яна расшпіліла зграбна прыталены кажушок, аблямаваны па краях белай — сам кажушок быў чорны — аўчынаю, на плечы скінула з галавы стракатую хустку з кутасамі, загрэбла назад густыя чарнявыя валасы, якія прыгожа віліся, блішчалі, кольцамі звісалі на смуглявы лоб, на вушы; пад грудзьмі, якія шчыльна аблягала трыкатажная чырвоная кофта, склала рукі — стаяла гэтакая перад Андрэем, нібы перад люстрам, на яго глядзела, а быццам сабою любавалася. І ён на яе дзівіўся: Спачатку ўпотай, няўзнак, пасля ўжо адкрыта, не хаваючыся.

Але спахапіўся:

— Садзіся да стала, Насця. Не стой. Я чай пастаўлю. Пагрэемся.

— Са сталічным бублікам? — кпліва сморгнула ўгару броўкамі.

— Можа, і з бублікам.

Ён весела падхапіў з падлогі рукзак, высыпаў на стол сушкі, цукеркі, што засталіся пасля таго, як час-

таваў бабу Юсту і Юрася, цукар-рафінад, брыкецік масла, загорнуты ў бліпічастую фальгу, кансервы — усё, што ў рукзаку. Нават хлеб і батон. Насця ўважліва сачыла за яго тварам, усмешка не сыходзіла з яе вачэй. І дзе ж ты яе зразумееш — ухваліла ці ўпікнула:

— Што значыць гарадскі чалавек! А тут... абрыдлі нябрытыя морды. Гарэлкаю ды потам прагорклі.

— На каго ківаеш?

— А ўсе мужыкі ў пушчы такія.

— Ну... Не чарні мужыкоў. Частуйся.

Андрэй унёс дровы, сабраўся класці ў грубку, каб сагрэць чай, ды ў грубцы наткнуўся на чыгунок — дастаў, а ў ім якраз што трэба: з-пад накрыўкі тырчала пасечанае бадылле малінніку, курэла гарачая пара. Выставіў на стол чыгунок.

— Падабаешся ты мне, Андрэй.

— Чым жа гэта?

Яна сядзела за сталом на ўслоне, спіною прыхінуўшыся да сцяны, весела грызла сушку. Змоўчала. І ён, таксама моўчкі, наліў ёй і сабе чаю, сеў насупраць.

— Мне б такога...— раптам закашлялася, зачырванелася і адвярнулася. Ужо сама ўпотай, як раней ён, паглядала на Андрэя.

— Што з табою сёння, Насця?

— А я ўсягды такая,— прызналася, рагочучы. І тут жа сунялася, паспакайнела, глытнула з кубка, ужо неяк сумнавата дадала: — Даўно цябе не бачыла.

Белымі драбнаватымі, што ў ваверкі, зубкамі яна ахвотна грызла сушку і глядзела ўжо болей на яе, як на Андрэя.

— Ты не бойся мяне. Мала што кажу. Магу адно казаць, а ў галаве — другое. Можа б, я цябе і ўблытала ў сваю спадніцу, ды шкада мне тваіх гадочкаў. Дзіцё ты яшчэ, Андрэй. Чыстае дзіцё. Нават дзіва бярэ, чаму гэта ў цябе вусы прабіваюцца?

— Такі я малады?

— Здаешся гэтакі. Можа, што я старая?

— Дужа ты сёння адкрытая.

— А табе гэта кепска?

— Ды не...

Яна ўсё хрумсцела, тачыла аб сушку дробныя зубы. А чай не піла.

— Адкрытая, кажаш?.. Калі падалася гэтакай, дык не думай, не таму адкрытая, што ты мне чым-небудзь блізкі. Які ты мне блізкі? Мы з табою ад розных ма-

так, курэй разам не кралі. Проста душа мне твая прыглянулася. Чыстая яна ў цябе, як незамутнёнае шкельца. Іншыя...— уздыхнула,— не такія. Іншыя хітрыя, замкнёныя. Ці грубыя. Ці дурныя.

Гэтакі яе суд, адзін на ўсіх, здзівіў.

— А Валошка? — спытаў.

— Ён мой начальнік.

— Дык і што?

— Дык нічога.

Апусціўшы вочы, Насця слепа катала пальцам па пестале сухую крошку. Андрэю не хацелася, каб яна перад ім сядзела сумная, каб гублялася, як спачатку ён перад ёю губляўся, таму хутчэй адвёў размову ад Валошкі:

— Ці ўзяць дзеда Гароха... Душа-чалавек.

— Стары па-старэчы рыпіць.

— Міна маладзейшы.

— А ў Міны баба крыва. Дазнаецца, што Насця ў вальер прыязджала, збесіцца. І так глядзіць на мяне, як ваўчыца. А мне яе Міна кульгавы — ні ў галаве, ні ў рабрыне.

Адкінула галаву да сцяны, вочы ў столь уставіла, і на яе не таўстой і не танклявай, не доўгай і не караткавай, проста гожай, мяккай, гладкай шыі зацапліліся кволыя блакітныя жылачкі, адна — пад левым вухам, другая — пад правым. Яны беглі-сцякалі зверху ўніз, а ўнізе хаваліся пад ключыцамі, што былі відаць з-пад круглага выразу кофты, і такая ж блакітная, як тыя жылкі, ямачка хавалася паміж костачак, блакітная і мяккая, зваблівая, ажно Андрэю захацелася пакратаць яе пальцам. Ён засаромеўся свайго жадання — утупіўся ў стол, спытаў:

— Нешта чай не п'еш?

Яна моўчкі пасядзела, на яго не гледзячы, вабячы гожай шыяй, пасля рэзка адхінулася ад сцяны і ад нейкіх сваіх думак, зноў грызянула сушку, бліснула вачыма на Андрэя, асляпіла ўжо ці то гневам, ці то таямнічым жаданнем.

— А я такая, Андрэй! Мяне чай не сагрэе.

Ён усміхнуўся:

— Ну... гарачэйшага няма, Насця. Дурня зваляў, што не прыхапіў, як з Мінска ехаў. Не дадумаўся.

— Малады. Яшчэ паразумнееш.

Насця сумна глядзела ў акно. Андрэй таксама зірнуў туды: шыбы ззялі белай іскрыстасцю, а па той іс-

крыстасці, па шыбцы, спаўзала набухлая ружовая кропля.

— Ох, Андрэй! Чую цябе. Хочаш спытаць: «А як жа ты, Насця, з Васілём, з маім браценікам?..»

Андрэй сапраўды часта думаў пра ранейшую блізкасць Васіля і Насці, думаў хвалюючыся, з нейкай дзіцячай рэўнасцю.

— Ён табе не брат, Андрэй. У вас душы розныя. Прыкідваецеся, што браты. Я б твайго Васіля... пад гарачую руку... Я б яго... таўкачом свінячым...— Усміхнулася, як праз боль.

Ружовая кропля пагасла на шыбе.

Андрэй ведаў, што ад Насці, свавольнай і дзёрзкай, можна чакаць усяго, пацалунак і аплявуху, але такое — пра Васіля Зімаўца?!

— Як гэта, Насця?.. Вы ж некалі...

— Некалі ехалі, не туды прыехалі.

Усхапілася з-за стала, пачала зашпільваць кажух.

Ужо хустку на галаў накінуўшы, стоячы на парозе, раптам загаварыла зусім аб іншым:

— Узяў бы ты мяне, начальнік, у сваю таксатарскую каманду? Ля таксатара дзесятым падмяталам. Я б усё вам рабіла. І бабскае, і мужчынскае. Папаездзіла б з вамі па свеце. Можа б, дзе прыгледзела іншую долю.

Нечакана пра гэта загаварыла. Андрэй не ведаў, што адказаць. Але сказаў шчыра:

— У нас гэтакі свет, як тут. Лясы і лясы.

— А на халеру мне горад? — яшчэ раз здзівіла сваёй шчырасцю.

— Бывае, у такія балоты ўлезем! І — на ўсё лета. Нас камары таўкуць, а мы іх.

Узялася за клямку.

— Не хочаш? Дык я не набіваюся.

І выйшла за парог, дзвярыма ляснуўшы.

Самотна, пустымі вачыма глядзеў Андрэй на пустыя дзверы. Потым павярнуўся да акна: бачыў, як расплывалася тая ружовая сляза — мала не на ўсю шыбіну. За шыбаю бачыў ружовага каня, ружовую Насцю, бачыў, як яна падышла да розвалаў, закіданых ружовым сенам, як села ў іх і паехала па ружовай прасецы. Дзіўны быў стан: рыпенне настылых палазоў пачуў, чамусьці, пазней, тады, калі сплылі з вачэй і Насця, і конь, і розвалы.

«Чаго яна прыязджала? Можа, сапраўды хацела,

каб я забраў яе з Лісані, прыстроіў у лесапарадчую партыю? Што яна тут мае? Ні сям'і, ні любага чалавека побач. Хаціна дзіравая, кот ды парсюк — увесь нажытак! Але... як яна магла?.. На Васіля, свайго дырэктара... Мне, яго брату, у вочы... І зазлавала адразу...»

Андрэй ведаў, як упарта Васіль быў улёг за ёю. Усе тое бачылі. І ўсе чакалі — грымне вяселле. А бацькі не дазволілі ўзяць Насцю. Не спадабалася, што без пасагу, без дыплома. Павезлі сына ў Магілёў, там звялі з дачкою сваіх знаёмых. Тая была хоць і маладая, але ўжо з залатымі пярсцёнкамі, залатымі завушніцамі. Не, душою Люся, Васілёва маладзіца, неблагая. Ветлівая, памяркоўная, прыгожая. Хоць у залатых пярсцёнках, а да душы, здаецца, золата не прыкіпела. І ўсё ж — чаму Васіль лёгка адрокся ад Насці? Насцю ён кахаў. А Люсю тады яшчэ не ведаў. Сам сваю душу заглушыў? Ці гэтак можна? Пасля, калі ўжо Люсю ў Гарадок прывёз, хадзілі чуткі, быццам Насця скінула — ад Васіля. Гэта ўжо, мабыць, злыя нагаворы. А можа?.. Не, нагаворы.

Андрэй глядзеў у акно і зноў бачыў ружовыя развалы, ружовага каня, ружовую Насцю. Нешта распірала душу — тужлівае, пякучае. Шкадаванне да Насці?..

І раптам — у вачах: белая шапачка, белы каўнерык, твар беленькі, ясны...

«Алёнка?!»

Андрэй заплюшчыў вочы — каб не бачыць ружовай шыбы... розвалаў... Насці...

## 3

У вальеру Міна вярнуўся надвечар, і не адзін — з ім на санях сядзелі маладзенькі, з заечай губою, сагрэтай белым пушком, Сашка Курнопа, другі вальерны егер, і Марцыёнак, інжынер лясной аховы. Прыехалі не ў гуморы, маўклівыя, нудныя, і калі ўвайшлі ў хату, павіталіся з госцем, якога не чакалі, па тварах і гаворцы Андрэю цяжка было пазнаць, рады яны сустрэчы з ім ці не рады.

Міна быў рахманы, гадамі не малады і не стары, крыху старэйшы за Валошку, душу меў добрую і зычлівую да ўсяго жывога, адкрытую, і Андрэй адразу ўбачыў, што прыехаў Міна з нейкай гарыччу. Скінуўшы з плячэй на лаўку кажух, латка на латцы — яго новы кажух, дзень панасіўшы, Андрэй павесіў зноў на

сцяну,— Міна валюхаста, нібы мядзведзь, падышоў да пліты, працягнуў у цяплынь, трымаў над плітою рукі, стаяў маўклівы, пацепваючы круглымі, пад калматым шэрым світэрам, плячыма, і ўсё зіркаў на Сашку. Хлопец, не распранаючыся, адразу, як зайшоў у хату, гаспадарліва глянуў у пасуднік, у грубку наклаў дроў, запаліў іх, даліў чайнік вадою, паставіў на пліту, адкінуўшы камфоркі, схапіў ля парога два пустыя вядры і выскачыў за парог. Калі Сашка выйшаў, тады Марцыёнак усеўся за стол і панура маўчаў, як чакаў, каб яму падалі піць ці есці.

Маленькі, сухенькі целам і тварам, нібы таранка, ён быў нейкі вельмі зацяты, злосны, сядзеў і чухаўся пад кажухом, не скідаючы шапкі. Пакуль сядзеў, душою, было відаць, не адтаяў, не падабрэў, заікаючыся, напусціўся на егераў, што яны адлежваюць бакі, замест таго каб з першым святлом шукаць ваўчыны след; лаяў, што ў дзвярах зламаны замок і дзверы ў хаце вечна адчыненыя, калі ні прыедзеш,— Андрэй падумаў, што гэта ківок у яго бок, бо ён сюды з'явіўся без дазволу гаспадара, хоць і прывёз Валошка,— соваў высахлы нос у кожную дробязь егерскага жытла і ўсюды навучаў, як што рабіць. А калі Міна падсунуў шклянку гарэлкі — наліў з краямі,— Марцыёнак крактануў і пацішэў, змірыўся з парадкамі і непарадкамі. Пахрабусцеў салёным гурком і ўстаў з-за стала. Тут якраз Сашка ўнёс у хату вёдры з вадою. Паставіў іх на ўслон і, атрымаўшы ад Міны лёгкага штурхаля, без слоў зразумелага, выскачыў за дзверы следам за Марцыёнкам, каб адвезці начальства на шлях.

Міна сеў да грубкі, адчыніў дзверцы, выкінуў на далонь чырвоны вугаль, прыкурыў ад яго і шпурнуў назад у грубку.

— Бачыў ты камандзіра? — кіўнуў на дзверы.

— Падумаеш, вялікая шышка! — Андрэю Марцыёнак не падабаўся і раней.

— Не шышка? Ну... гэта табе. А мне і Сашку — шышка. Дагадзіць трэба. Галоўны ўсё ж па ахове. Такі ахоўнік, што ўсіх сабак перастраляў. У вёску як прыедзе — стрэльбу з пляча і пачынае чысціць. Як не на шворцы — капец...

На чайніку, пад параю, заскакала, ляскочучы, века. Міна сыпануў у вар малінавай сечанкі і сеў да кошыка, узяўся абіраць бульбу. Падсеў з нажом і Андрэй.

— А то за ваўкоў нас з Сашкам ганяе,— уздыхнуў Міна.

— Што, шмат ваўкоў?

— Ды... пасуцца. Тры гады не чулі, не бачылі, а сёлета ўжо са снегам двух аленяў ухайдокалі. Маладога спічака мацёры на гарбу вынес.

— Прагледзелі?

— А паспрабуй вымесіць гэтакі снег. Дзень у дзень сыпле. Дзе звер уначы наторыць, там раніца хвастом замяце. Гэтакая сёлета зіма. След не ляжыць. Учора лёжку высачыў — мацёры, мацёрая і пераярак. Але вечарэла, не паспелі абкласці. Паехалі, як пачало світаць, а хвігу з маслам! Пакуль я іх выслежваў, дык і яны мяне выследзілі.

— Во як! І ўжо не вернуцца?

— Будуць блізка хадзіць. Бо такога раю нідзе не знойдуць. Тут ім і сталоўка, і рэстаран.

Не, Міна ў вальеры не адлежваўся. Той-сёй з леснікоў думаў, што ў вальернага егера не жыццё, а маліна. Ссек аленям на спажыву якую асіну, заклаў у кармушкі сена, высыпаў жалуды, выкінуў венікі — і кладзіся на бакавую. Накарміў скаціну — добра, не накарміў — не падохне: усё ж не калгасная і не свая, хатняя. Нават Мінава жонка іначай не называла яго работу як блатною. Але гэтыя людзі не ведалі, як моцна балела Мінава сэрца за кожнага аленя. І не толькі таму, што алені, здаралася, гінулі. Было балюча, што ён, іх першы заступнік, не заўсёды быў мацнейшы ды хітрэйшы за воўка, не заўсёды мог абараніць мір і парадак у вальеры. Ды і за воўка сэрца балела, як за ўсё жывое. З воўкам — цэлая бяда, не меншая, як з аленем. І лютае зло на яго, здаецца, зубамі б грыз за аленяў, і ў той жа час...

— Я табе, Андрэй, так скажу. Ваўкам я таксама спачуваю. Што, калі іх парода драпежная. Без іх — якая пушча? Калі ўжо лісіца нікога не баіцца. Сама летась зарасла лішаем і зайца заразіла. Не, на кожнага лаўца павінен быць лавец. І воўка прырода не дарэмна выдумала. Яго ж у нас цяпер — два, тры... Хай бы пасліся. Але волі я ім не дам. Мне алень даражэй. Вось тут і жыві. Ловіш яго і ў той жа час шкадуеш.

— Атрутаю трэба,— параіў Андрэй.— І лягчэй браць, і душа гэтак не схварэе.

— Сыпаў. Ды яны хітрыя сталі. Не вельмі абду-

рыш. Пастаяць, памочацца на тваю хімію — і пайшлі шукаць свежыну.

За акном моцна, пад вялікім цяжарам, зарыпеў снег. Міна кінуў чысціць бульбіну, прыслухаўся — глядзеў у акно. Шыбы заплылі наледдзю, дрэвы і алені расплываліся за імі, трацілі строгасць абрысаў. Але Барына нельга было не пазнаць, бо ён да самага акна паднёс рагатую галаву, вадзіў мысаю па шурпатай намёрзлай шыбе, і шыба адтавала ад яго гарачага дыхання дзвюма блакітнымі пелькамі.

— Зірні ты на гэтую морду,— замілавана глядзеў у акно Міна, вузенька жмурачы вочы, нібы цікуючы на Барына ў тыя дзве пелькі, адхуканыя аленем.— Жалудоў клянчыць.

Алень капытом саўгануў у сцяну, адгукаючыся на голас, і Міна ўстаў з табурэткі, узяўся за шапку.

— А што з ім паробіш?..

Алені дружна, нібы вецер, шаснулі ад дзвярэй з гары, адно Барын застаўся ля хаты, глядзеў то ўслед табуну, то на Міну, які спыніўся на ганку, зашпільваў кажух. Барын адышоў ад вокан, але за табуном не спяшаўся, спыніўся паміж табуном і Мінам на адхоне, свой там і тут, матаў галавою, нібы ўлетку, адганяючы аваднёў. Магутныя разгатыя рогі то нагінаў да зямлі, як кланяўся Міну, то горда ўскідваў, як усёй пушчы паказваў сваю моц, і ў гэтую хвіліну можна было падумаць, што Барыну даражэй не ногі і не галава, а рогі, што ногі ды галава ў аленя дзеля таго, каб высока, з гонарам насіць найбольшую прыгажосць — рогі.

У хлеўчуку Андрэй і Міна ў два мяхі насыпалі жалудоў, панеслі, кожны па меху, да кармушак. Андрэй ішоў следам за Мінам, а Міна — за Барынам, паперадзе якога, выцягнуўшыся ў шнур, тупацеў увесь табун.

Звычайна Міна ездзіў на ноч у Малінаўку, дзе жыла сям'я, жонка і дзеці, а ранічкай зноў вяртаўся ў вальеру. Начаваў тут, у вальеры, часцей адзін Сашка, які яшчэ не меў моцнай хатняй прывязі — ні жонкі, ні дзяцей. Але сёння Міна не збіраўся дадому. Калі селі за стол вячэраць, ён сказаў, што, дачакаўшыся месяца, паспрабуе вабіць ваўкоў.

Андрэй абрадаваўся, што не аднаму начаваць. Падсунуў Міну рыбныя кансервы, каўбасу, але да іх егер не дакрануўся:

4*

— Мы тут ядзім, што ядуць алені. Адна ў нас з імі капуста, адна бульба. На булён налягаем.

Булён быў на скварках, смачны. Гэтакага смачнага Андрэй не еў зроду. Еў і хваліў, а дзядзька з Сашкам пазіралі на яго з-за круглых драўляных лыжак ды ўхмыляліся, радыя, што іх лясная страва па губе сталічнаму чалавеку. Твары ў абодвух былі чырвоныя яшчэ з марозу, як прыехалі, а цяпер ад гарачай стравы зрабіліся зусім бурачковыя. На абодвух Андрэй пазіраў з цікавасцю, думаючы, што ў горадзе гэтакіх чырванатварых здаравякаў не густа, там людзей хоць чым кармі — не той колер, нібы кроў не тая. Праўда, Сашка быў яшчэ малады, танклявы, сёлета скончыў дзесяцігодку, той відавочнай моцы, трываласці, якою мог пахваліцца Міна, не меў, ды і душа яго яшчэ не набыла Мінавай раўнавагі. Ён за ўсё хапаўся, усё хацеў рабіць сам: падаў на стол посуд, нарэзаў хлеб, наліў у міскі булён, паднёс Міну табурэтку. Калі сядзеў над булёнам, дык побач з міскаю з'явілася кніжка — лыжкаю працаваў, а вочы ўвесь час пасліся ў кнізе. Гэтакі, з ядою ды кнігаю, звесіўшы над кніжнай старонкаю востранькі нос і бялявыя валасы, седзячы тут, а душою аддаўшыся іншаму, далёкаму адсюль свету, ён Андрэю вельмі нагадваў Алёнку, бо гэтак і яна, яго сястра, любіла есці, чытаючы, бялявыя валасы і ў яе, і шыя гэтакая танклявая, і вочы сінія. Андрэй ведаў Макара Курнопу, ведаў яго сям'ю і дзівіўся, як Міцька ўвесь удаўся ў бацьку — абодва чарнявыя і магутныя, як Алёнка і Саша ўсім пайшлі ў матку. Андрэй глядзеў на Сашу, хоць гаворку вёў з Мінам, а думаў і пра Алёнку. У той жа час зноў бачылася Насця, у чорным кажушку наросхрыст, у чырвонай кофце, якая шчыльна аблягала грудзі, бачылася мяккая блакітная ямачка паміж ключыц — цяжка ўздыхаючы, як задыхаючыся, Андрэй адварочваўся ад Сашы, глядзеў на Міну.

Пакуль управіліся з булёнам, узышоў месяц. Першым яго заўважыў Сашка, бо першы адмалаціў лыжкаю — усхапіўся з-за стала:

— Ух ты-ы, выкаціў!

Андрэй з міскаю ў руках кінуўся да акна: расплывістая, з жаўтлявым водбліскам, поўня хутка плыла па небе.

— Збіраемся? — нецярпліва спытаў Андрэй.

Міна і ў акно не глянуў:

— Даядай булён. Ды чаю гарачага наверх. Ноч выдасца траскатная. Намерзнемся.

Ён не спяшаўся, быццам чакаў другой поўні ў небе, але Андрэй баяўся за гэтую: не пагасла б, пакуль за вячэраю адседжваюцца. За стол ужо не сеў, даядаў булён і піў чай стоячы. Міна, можа, чакаў, пакуль госць наесца ды нап'ецца, бо калі Андрэй паставіў на стол шклянку, тады і ён адразу ўстаў, падышоў да акна — глядзеў на лес, на неба, а потым закурыў, накінуў на плечы стары кажух і выйшаў на ганак. Хутка вярнуўся — загадаў апранацца.

Андрэй узяўся за паліто, ды ўспомніў, як цёпла і лёгка яму было ў Мінавым кажусе,— не ўтрымаўся:

— Можа, кажуха не пашкадуеце?

Міна зняў новы кажух са сцяны, падаў Андрэю:

— Мне і ў старым цёпла. Даношваю. А новы пад рукамі трымаю. Калі якое высокае начальства, дык не трэсці ж перад ім лахманамі.

Мароз браўся ўчэпісты, дрэвы перакідаліся сухімі, нібы з ружжаў, стрэламі. Адно гэтыя стрэлы ды рып снегу пад нагамі былі чуваць, бо вецер заснуў недзе ў гушчары, ніводная галінка не зыбала на дрэвах.

Маўклівай вартаю стаялі абсыпаныя снегам, ссінелыя яліны. Дарога таямніча вяла з вальеры. Поўня ўжо не жаўціла, як нядаўна, ад марозу заслюдзянела.

Ішлі без слоў.

Нарэшце Міна спыніўся:

— Ты, Сашка, зварочвай налева, да квартальнага капца. А ты, Андрэй, падапрэш плячом дубок, што на волаку.

Свой дубок Андрэй знайшоў лёгка. Маладзенькі, занадта танклявы, каб яго падперці плячом, але стаяў ён зручна: злева быў відаць волак, якім падаўся Міна.

Андрэй не варушыўся. Чуў, як недзе блізка рагамі аб дрэвы праляскатаў лось-валацуга, як звонка, нібы шкляны, затрымцеў сухі мёрзлы ліст на дубку — яго зачапіў крылом вецер з прасекі. А калі і гэтыя гукі заціхлі, пачуў сваё дыханне і спужаўся, нібы здрадніка,— з хвіліну зусім не дыхаў. Падалося, што моцнае дыханне можа падслухаць воўк, які будзе блізка бегчы, тады зверне альбо да Сашкі, альбо да Міны, каму другому на мушку, не яму, Андрэю, і ён зняў з пляча стрэльбу, узяў наперавес — уявіў мацёрага. У грудзях — бык, сівоццем абсыпаны, нібы снегам, правіла

тоўстае і доўгае, а вагою — кілаграмаў восемдзесят... не, роўна семдзесят тры. А чаму семдзесят тры, не болей і не меней? Некалі пад Лісанню Валошка загнаў у сумёт мацёрага, дубовым цэпам выцяў паміж вачэй, аглушыў, звязаў, жыўцом прывалок у кантору, і той воўк быў самы вялізны, якіх на Лісаншчыне калі-небудзь бралі,— роўна семдзесят тры кілаграмы. Каб чалавек жыўцом узяў мацёрага, ды яшчэ голымі рукамі, узброены ўсяго толькі цэпам,— гэтакі выпадак у пушчы быў, мабыць, першы і апошні. У той год снег ляжаў глыбокі, а Валошка стаяў на лыжах, вось і загнаў мацёрага ў сумёт, запарыў.

Зашумелі вершаліны: зноў вецер прачнуўся — прабегся па дрэвах. У вецер воўк асцярожны. Але... зноў ціха. Не, воўк не дурны, чуе, дзе вецер, а дзе чалавек. Каб толькі адважыўся бегчы нетаптанымі гушчарамі. Наўрад — глыбокі снег і гушчар ён абыдзе. Міна, вядома, разлічвае, што лёжка непадалёк ад Лісані і калі воўк пойдзе на яго голас, дык выскачыць абавязкова на шлях. Тады праб'ецца да вальеры. Будзе бегчы не снягамі, а волакам, дзе стаіць ён, Андрэй.

Волак затулялі елкі. Андрэй надумаў выйсці з-за іх, каб бачыць далей, улева і ўправа па волаку. Зрабіў крок, другі — стрэльба зачапілася за кашлатую лапу, прыгнутую снегам, і на галаву звалілася цэлая гурба. Абтроссся, выцерабіўся з ельніку і зноў затаіўся.

Чуў, як білася кроў у жылцы, казытала, ажно карцела тое месца паскрэбці, ды баяўся паварушыцца. Пачалі мерзнуць вушы, але і тады рукі не падняў, каб пагрэць. Прыўзняў плячо, прыхінуў вуха да цёплага каўняра, потым другое плячо прыўзняў, пагрэў другое вуха.

Завыў воўк. А можа — Міна?..

Андрэй сціснуў у руках стрэльбу, зірнуў налева, направа. Пад поўняю волак быў вельмі светлы, як днём. Ён асцярожна адступіў назад, пад яліну, у цень, але з волаку вачэй не зводзіў.

Выў сапраўды Міна. Першы голас і павінен быць Мінаў. Ён кліча да сябе ваўкоў, не яны яго.

І другі голас — Мінаў. Узяў высака, завельмі моцна, нібы адчуў, што паляўнічае шчасце блізка, ды надта хутка замоўк, як захлынуўся. Андрэй першы раз быў на гэтакім паляванні, але зразумеў, што песня ў Міны не атрымалася.

І... зноў?!

Цяпер ужо выў воўк. Андрэй чуў яго і ў Карэліі, на старажытнай Мурамшчыне, і на Байкале — пазнаў адразу. Але ж нейкі нясмелы? Завыў і захліпнуўся, зацяхкаў, што сабака.

Зноў ціша. Цяпер ужо не напятая, нібы струна, гатовая лопнуць, выбухнуць, а зняможаная, нейкая пустая, мёртвая.

Вушы зусім закалелі. І стрэльба ў руках пацяжэла. Андрэй ускінуў яе на плячо, прыляпіў рукавіцы да вушэй. Гэтак і стаяў, трымаючыся за вушы, пакуль не пачуў крокі.

Падыходзіў Міна.

— Няма клёву? — здаля спытаў Андрэй.

— Завысака ўзяў. Духу не хапіла, ядры яго... Налупіўся булёну. Ну... разрадзі стрэльбу.

Калі яны вярнуліся ў хату, Сашка ўжо сядзеў ля грубкі пры адчыненых дзверцах, чытаў кніжку.

— Во гэта абдурыў, сам сябе,— панура бурчаў Міна, стоячы пасярод хаты і не распранаючыся, збіўшы на патыліцу шапку і старанна чухаючы над вухам.

— Але ж пераярак азваўся? — Сашка адарваўся ад кніжкі, глядзеў на Міну.

— Малады. Дурны.

— А стары яго за каўнер — цап! Няшчасны, ажно забрахаў. Ці чулі? — Сашка закрыў кніжку.

Падышоўшы да прыпека, на якім стаяла лямпа, Міна зняў з яе закуродымленае шкло, у шафе знайшоў мяккую анучу, пахукаў на шкло і ў шкло, пачысціў яго ўсярэдзіне і звонку.

Сашка ўважліва сачыў за кожным яго рухам.

— Можа, хопіць? — спытаў.— Ужо не адгукнуцца. Ды і мы цяпер ведаем, дзе лёжка. У сёмым квартале.

— Там, у сёмым, яны і будуць цябе чакаць.

— А чаму і не? Дзебра — іх любовае месца.

Міна злосна высмаркаўся ў парог і выйшаў з хаты.

Адышоўшы ад ганка, ён апусціўся наўколенцы, зняў з галавы і падклаў пад калені шапку, вузкі канец шкла паднёс да рота, разы два ў яго хукнуў, адвёў руку са шклом убок, ускінуў голаў, на поўныя грудзі хапануў марознага паветра, рэзкім узмахам рукі зноў паднёс шкло да вуснаў, наставіў у вершаліны блізкіх хвой і, то згінаючыся, апускаючы шкло да снегу, то адкідаючы плечы назад, уздымаючы шкло, нібы горн, у неба, завыў жаласна, прагна, ажно мурашы сыпанулі

па спіне ў Андрэя — следам за Мінам ён выйшаў з хаты і стаяў на ганку, сачыў за егерам, за яго шаманствам. Міна выў мацней, як тыя разы, за дарогаю, выў доўга, на адным дыханні, раскаціста, з падвываннямі, а скончыў — пачуўся трывожны ляскат рагоў аб дрэвы, шоргат па ельніках, тупат: узнятыя на ногі нечалавечым Мінавым голасам, алені, як праз агонь, імчалі па гушчары.

Была ноч.

Андрэй ляжаў на мяккім пружыністым ложку, голым плячом адчуваў гарачую грубку, чуйна, нібы ўстрывожаны звер, прыслухоўваўся да шэпту вятрыска ў сценах і стрэхах, а душа ўзнімалася некуды высока, вольна плыла недзе над хатаю, над хвоямі, над Мінавымі і Сашкавымі снамі, над усёй Асечаю. Душа ляцела, напятая ветрам, нібы ветразь, чуючы сваю волю і ўладу над прасторам, але і з высознага прастору блізка адчувала зямлю, кожнае дрэва, кожную сцежку. Уваччу стаялі егерава лесавушка, хвоі, алені, конь, розвалы, у іх сядзела прыгожая жанчына — смяялася... «Насця?..» Ружовы конь, ружовыя розвалы, ружовая Насця... І, быццам збавіцелька ад усіх небяспечных спакус і чараў, уваччу з'явілася бялявая, злёгку блакітнаватая, нібы ранішні снег, дзяўчына. Пад пушыстай шапачкаю — твар свежы, ясны. «Алёнка!..»

На гары штосьці зашкраблося, заскакала, і Андрэй успомніў, як летась ля самага коміна, на гары, вавёрка зляпіла гняздо з пакулля — нацягала яго з хатніх сцен,— у цяпле зімавала, бяды не ведаючы. Лютая пара стаяла, маразы і мяцеліцы не суніміліся, калі Андрэй прыязджаў сюды і Міна паказваў гняздо — на гару лазілі.

Вакол коміна віселі доўгія пляцёнкі грыбоў, па касточкі было насыпана яловых шышак і жалудоў. Што сам Міна пананосіў з восені, а што — вавёрка.

Неўзабаве на столі аціхла. Жывая душа, якая там доўга шкраблася і скакала, пэўна, улеглася. Тады Андрэю пачулася, як вые воўк. Ці воўк, ці Міна?

Прыслухаўся: «Ублытала б я цябе ў сваю спадніцу, ды шкада мне тваіх гадочкаў. Дзіця ты яшчэ, Андрэй... А братца твайго, Васіля... таўкачом свінячым...»

Гарачы чай са шклянкі параваў Андрэю ў твар, чорныя жаночыя вочы ўставіліся на яго з белай пары,

плавалі ў ёй, а ён як не разумеў — чые яны: Насціны ці Алёнчыны? Было адчуванне, што яны абедзве з ім побач — абедзвюм быў рады.

За сцяною хтосьці салодка хроп. Міна? Ці Сашка?

А Насця — зноў уваччу. І ўжо не здзіўляўся Андрэй. Хіба яму аднаму яна мроіцца па начах? Не аднаму. Хто Насцю пабачыць, той ад яе не адчэпіцца і ў сне. Яна гэтакая — Насця. Іншае здзіўляла Андрэя: столькі мужчын, якім яна любая, а аднаго-адзінага, якога б назвала сваім, каханым, мужам,— няма. Чаму?.. Дзе ён?..

Зноў выў воўк. Блізка, нібы над душою стаяў. Адчуваў, пэўна, што Міна і Сашка шукаюць яго са стрэльбамі. Дык хто каго заўтра перахітруе? Чый будзе верх?

Крамяная поўня ўсплыла ў начное неба высака, ззяла з вышыні, змывала з пушчы шэрань, выбельвала і падсіньвала ручнікі прасек і дарог, абрусы палёў, лясныя кружалы.

Пад поўняю на адным з гэтакіх кружалаў, з усіх бакоў абнесеным лесам, сядзелі тры ваўкі: стары — паперадзе, старая і малады — адзаду.

Сумна сядзелі. Нібы чужакі ў чужой пушчы.

Пасядзеўшы, мацёры задраў галаву, утрапёна ўставіўся на поўню і завыў. Выў доўга, нудна, быццам штосьці вымольваў ад поўні. Але ўсяму жывому яна свяціла аднолькава і не жадала чуць слёзную песню старога галоднага воўка.

Мацёры ўсхліпнуў і замоўк. Ён раптам адчуў уладу адвечнага закону пушчы, якому ўсё жыццё вучылі звяры, людзі, галодныя зімы: адно ўласная сіла, хітрасць, прагнасць, якая не мае стомы і страху, дарацьжыццё. Сам, свая сіла — не што іншае.

І, ляснуўшы зубамі, ён панура падаўся ў яловы гушчар, павёў ваўчыцу і пераярага ў той бок, адкуль плыў цёплы дух жывога.

## СМЕРЦЬ АЛЯНУХІ

### 1

Аб прыездзе Зімаўца з абласнога партыйна-гаспадарчага актыву, на якім ён адседзеў два дні, дазналіся ў той жа вечар, бо ў малым райцэнтры, у лясной глушэчы, дырэктар лясгаса быў калі не першай і не дру-

гой асобаю, дык трэцяй ці чацвёртай напэўна, і кожны яго ад'езд, прыезд, кожны крок былі на вачах усяго раёна. А таму, калі, вярнуўшыся з Магілёва і з асалодаю, не ў дарозе, не ў халодных сценах гасцініцы, а дома, ля цёплага жончынага бока, адаспаўшыся, ён раным-рана з'явіўся ў кантору, там ужо чакалі. Не свае работнікі, свае яшчэ не прыйшлі,— кліенты.

Дзень выдаўся не для кліентаў, непрыёмны, ды і ахвоты гаварыць з імі Зімавец не меў, хоць і выспаўся,— не было настрою. Калі ён, той настрой, быў пасля Магілёва? Такога штосьці не помніў. Асабліва калі выклікалі па выніках гаспадарчага года, як цяпер, калі вярстаўся план наступнага года. Праўда, Зімавец яшчэ ніколі не хадзіў у апошніх, і цяпер на актыве хвалілі за хваёвую муку, праз муку лясгас не лаялі, што недавыканаў план асобных асартыментаў, такіх, як паркет і падтаварнік, але там, на актыве, удакладнялі кантрольныя лічбы на новы год — тыя лічбы не давалі спакою. Зноў непакоіла мука. Летась намалолі пяцьсот тон, болей, як усе іншыя лясгасы вобласці разам узятыя, план выцягнулі, хоць і цяжка, ледзь-ледзь, на новы год узялі на паўсотні тон болей — пад самую, як кажуць, завязку, хоць бы намалоць, але кантрольную лічбу скінулі, як снег на голаў, на сто тон большую, ды і тая здалася начальству малой — на актыве прасілі эканамічна абгрунтаваць ажно семсот тон! Усхапіўся, пачаў адбівацца — тады нагадалі і падтаварнік, і паркет, напомнілі, што новы прамфінплан лясгаса не дае росту па асобных асартыментах. А з чаго можа быць рост, калі тая самая, што і летась, сыравінная база, той жа транспарт, тая ж на заводзе тэхніка, тыя ж фінансы? Замоўк, далей на ражон не палез, спрачацца — марная работа. Не дакажаш. А пасля, ужо вяртаючыся дадому, шкадаваў, што не змог даказаць сваё. Аж прыкра зрабілася.

Цяпер, убачыўшы людзей, якія яго чакалі, падумаў: што з імі рабіць? Сказаць, каб прыходзілі ў прыёмны дзень? Але не тыя наведнікі, каб гэтак выправадзіць.

Пахдароўкаўшыся, запрасіў:

— Заходзьце.

Вось — дырэктар гарадской школы. Як ты яму не ўважыш, калі ў школе вучацца родныя дзеці? Дырэктар прасіў сотню кубаметраў лесу на будаўніцтва школьных майстэрань, на рамонт, лес хацеў узяць у

Лісанскім лясніцтве, каб далёка не ганяць сваю старую «палутарку». Для Лісані сто кубоў — не праблема: трэба дык трэба. Абы нарад.

Дырэктар пайшоў ад Зімаўца ў добрым настроі, а за ім адразу ў кабінет уваліліся галоўны інжынер гароднiна-сушыльнага завода і эканаміст прамкамбіната. Убачыўшы інжынера, Зімавец падумаў, што хутка, не паспееш агледзецца, зашуміць вясна, месяцы праз тры лясгас пачне нарыхтоўваць бярозавік, тады давядзецца шукаць посуд пад бярозы, а дзе яго возьмеш, як не на заводзе, у іх там ёсць бляшанкі — з-пад яблычнага павідла — і нікуды не дзенуцца, выпішуць з тысячу, калі цяпер лесам пасобіць. Праўда, заводу спатрэбілася ўсяго толькі тарная дошчачка. Тым лепш — гэтага дабра хапала. З вясны на мехустаноўцы стаялі станкі, прыдуманыя Валошкам, за лета ды восень яны засыпалі дошчачкаю склады — не паспявалі адгружаць.

Ну а з эканамістам было цяжэй. Хацелася і яму ўважыць — калі-нікалі камбінат рабіў паслугі лясгасу,— але той прасіўся са сваім лесам на пілараму, а пільня тры дні стаяла на рамонце — мянялі пілы, перасцілалі рэйкі,— за гэтыя дні сваім лесам абсыпаліся. Праўда, Зімавец добра не ведаў, што там, на пільні, цяпер рабілася. Паспрабаваў дазваніцца па тэлефоне — не дазваніўся. Пачухаў за вухам: што рабіць з чалавекам? Сказаў, каб прыйшоў пазней.

Усяго на два дні ездзіў у Магілёў, а было адчуванне, што адсутнічаў тыдзень, не меней, і без яго, дырэктара, на ўсіх эстакадах, дарогах, лесасеках панавалі ціша і пустэча, як у зачыненым кабінеце, усё ўсюды стаяла і ляжала на ранейшых месцах — як тут, у кабінеце, стаялі крэслы, стол, шафа, на шафе ляжала галава дзіка. Сухі пыльны лыч звесіўся з шафы, скаліў жоўтае кличча. Хто гэтую галаву прынёс — не помніў. Можа, калі і сам каго прасіў, каб прынеслі. Гадамі ляжыць. А навошта яна тут? Вунь у шафе кніжкі — яны спатрэбяцца, хоць няма часу чытаць; карта лясоў на сцяне хай вісіць — можа, хто на яе гляне; барометр на падаконніку патрэбны. А лыч?

Зімавец падышоў да акна: стрэлка барометра зноў паказвала на снег. Заклаўшы рукі за спіну, думаючы, дакуль сёлета будзе сыпаць ды сыпаць, прайшоўся па кабінеце.

На падлозе каля стала ўбачыў лічыльнікі — спыніўся над імі, падумаў, што гэтая рэч, малапрыкметная

і старая, можа, самая важная. Тры дні назад пакінуў лічыльнікі на падлозе, прываліўшы іх да тумбы пісьмовага стала,— гэтак і прастаялі, гаспадара чакаючы. Падняў, агледзеў, як дарагую штуку. Косткі ўжо лысыя. Не дзіва. Столькі галаве і рукам служаць — колькі ён, Зімавец, дырэктарам лясгаса. Ды яшчэ бацька пасля вайны на іх клацаў бухгалтарам у Лісані. А калі яго, маладога Зімаўца, паставілі дырэктарам, ён кожны дзень насіў лічыльнікі на работу і з работы. На рабоце яны былі патрэбныя таму, што прывык да іх, а дома, па вечарах, з імі пад рукою бацька вучыў лічыць, казаў, што немагчыма кіраваць гаспадаркаю, не ведаючы бухгалтарскую навуку, без яе будзеш сляпы, любы падначалены ахмурыць, абкруціць. Бацька любіў казаць, што добры гаспадар падобны на пеўня, за якога няма істоты больш пільнай ні сярод птушак, ні сярод звяроў, бо певень ніколі не спіць, заўсёды на варце, а таму гаспадар, які не ведае бухгалтэрыі,— не певень, а мокрая курыца. Гэтыя словы Зімавец запомніў добра і вось цяпер, агораўшы бацькаву навуку, сам мог праверыць кожнага бухгалтара, эканаміста, ляснічага, цяпер ужо яго ніхто ў фінансах не абвядзе вакол пальца.

Зімавец сеў за стол, паклаў лічыльнікі пад правую руку, хлёстка адкінуў дзве косткі — два дні адлучкі.

Зазваніў тэлефон.

З лічыльнікаў рукі не зняў, трубку ўзяў левай, і з гэтага часу ледзь паспяваў то браць трубку, то зноў класці. Званкам не было канца: прасілі дровы, будаўнічы лес, падтаварнік, пілавачнік, гарбыль, з суседняга раёна пыталіся хваёвую муку, з Данбаса — рудстойку, з Малдавіі — вінаградны кол. Можа, з гадзіну тэлефон не змаўкаў, усё тарабаніў, а калі замоўк нарэшце, Зімавец пачуў, як за дзвярыма, у прыёмным пакоі, кароткімі прыглушанымі чэргамі, нібы кулямёт, застракатала пішучая машынка. Паклаў палец на кнопку, хітра схаваную на тумбе пісьмовага стала — каб ніхто не бачыў,— і дзверы адчыніліся: увайшла Полькіна, сакратарка. Ветліва, неяк вінавата паздароўкалася, павіншавала з прыездам, усміхнулася, як кожнай раніцы ўсміхалася, і маўчала, чакала, што загадае дырэктар. Даўно не маладая, сакратаркаю рабіла яшчэ пры ранейшым дырэктары, з якім ёй у свой час прыпісвалі «шуры-муры», і Зімавец яшчэ тады, працуючы галоўным лясніччым, меў намер «сплавіць» яе, стаўшы

дырэктарам, узяць у сакратаркі маладую прыгожую дзеўку. Дырэктарам стаў, а Полькіну не «сплавіў» і маладую дзеўку, сваю мару, на яе месца не ўзяў. Быў малады, не жанаты — таемныя сувязі з прыгожай сакратаркаю вабілі, а выбіўся ў начальства — пачаў асцерагацца размоў, каб не прыпісалі яму тое, што прыпісвалі папярэдняму дырэктару.

Гэтак думаючы, пакуль Полькіна стаяла на парозе, Зімавец адчуў перад ёю, пажылой жанчынаю, нязвыклую для сябе няёмкасць, патрэбу сказаць хоць адно цёплае слова, але такога слова не знайшлося, і ён папрасіў гукнуць Шамрына.

Начальніку планавага аддзела лясгаса прабіў ужо час на пенсію, ды ён усё яшчэ пыліў па канторы доўгімі і шырознымі, што бабская спадніца, штанамі. У першы год дырэктарства Зімавец меціў выправадзіць яго разам з Полькінай, а потым таксама перадумаў: планавік ён вопытны, не трэба спяшацца. Адразу не сплавіў, а пасля і да Шамрына прыцёрся. Шамрын узяў разумную лінію: новае начальства адразу прызнаў, як прызнаваў старое, пры выпадку стараўся паказаць сваю адданасць Зімаўцу.

— Маё вам віншаванне, Васіль Сямёнавіч! З прыездам!

Пераступіўшы парог, Шамрын нізка схіліў галаву.

Зімавец хоць і сам не вельмі ўдаўся ростам, але не па сабе, па іншых даўно заўважыў, што ўсе малыя трымаюцца стройна, ледзь не на дыбачкі пнуцца, каб здацца вышэйшымі, а доўгія, наадварот, гарбацяцца, нібы хочуць стаць меншымі, непрыкметнымі. Шамрын, аднак, быў выключэннем. Малы, меншы за Зімаўца, ён усё роўна гнуўся. Гэта здзіўляла. Але найбольшым дзівам была галава Шамрына. Мала што вялікая ды круглая, нібыта пародзісты гарбуз, з усіх бакоў голая, без ніводнае валасіны, гладкая, што костка на тых лічыльніках, дык яшчэ і нейкая недарэчная кукса, нарасць, як грыб-трутавік на бярэзіне, ускочыла на макаўцы. Галаву Шамрын насіў нізка, згінаў, быццам знарок, каб усе бачылі тую лішніцу.

— Як вы тут без мяне? — строга спытаўся Зімавец.

— Гледзячы ў якім сэнсе, Васіль Сямёнавіч!

— Ва ўсіх сэнсах.

Шамрын здагадаўся — таропка сунуў руку ў кішэню пакамечанага шарачковага пінжака, дастаў знаё-

мы Зімаўцу і ўсяму лясгасу, ушчэнт пашарпаны блакнот. Паслініў палец — пачаў гартаць старонкі.

Зімавец глядзеў на яго, чакаў.

— Вывазка лесу... Учора тры машыны вазілі. Трыццаць два, пяцьдзесят дзевяць, семдзесят... семдзесят тры,— лічыў на хаду.— І пазаўчора паўсотні.

Усе вывезеныя кубаметры склаў і глядзеў у вочы, чакаў, што дырэктар цяпер скажа.

Зімавец быў незадаволены:

— З Міхалёўскай дачы? Пяць кіламетраў да лесасекі. Гравейка пад коламі.

Шамрын зноў утаропіў вочы ў блакнот:

— Вось... Акімушкін. Пяць рэйсаў. Гэта ўчора.

— Адзін за ўсіх? — заўважыў Зімавец.

— Ткачук. Тры пазаўчора, два ўчора. І Худалей учора два. Трэцім рэйсам ехаў і...— Шамрын адарваў вочы ад блакнота, адвярнуўся, уздыхнуў.

— Што з ім?

— Карбюратар прабіла. Начаваў на дарозе.

— А дзе была тэхнічка?

— У Гіжні. Сёння паслалі.

— А чаму ў Ткачука ўсяго два рэйсы?

Шамрын глядзеў у акно, на двор, дзе стаялі машыны, хадзілі людзі, а пальцы перабіралі старонкі блакнота: быццам успамінаў штосьці пра Ткачука.

— Перакуліўся з лесам,— успомніў.

— П'яны?

— Кажуць, цвярозы.

Шамрын не адводзіў пагляду ад акна, вочы яго былі рахманыя, быццам Ткачук павінен быў перакуліцца і гэта Шамрына не здзіўляла. А Зімавец чамусьці таксама не ўзарваўся, як узрываўся ў падобных выпадках, хоць на Шамрына глядзеў злосна, нібы той ва ўсім вінаваты.

— Што кажуць, тое брахня! — адрэзаў, не павысіўшы голасу.— Цвярозыя не куляюцца. А п'яніцы... З імі трэба канчаць. Сёння ж будзе загад.

— Без санкцыі рабкома? — уставіўся чырвонымі, як нявыспанымі, вачыма Шамрын.— У нас, Васіль Сямёнавіч, ужо былі загады. Суд вяртаў людзей на работу, а мы аплочвалі вымушаныя прагулы. Адны непрыемнасці.

Планавік казаў праўду, нагадаў дарэчы, але гэта яшчэ больш узлавала Зімаўца.

Спытаў стрымана:

— Як з мукою?

Шамрын зноў пачаў гартаць замусолены блакнот, ды хуценька, бо гэтага пытання баяўся, як сабака палкі.

— Учора... малолі да паўдня.

— Астатнія паўдня спалі?

— Не падвезлі хваёвую лапку. Бачыце... у Лісанскім лясніцтве лапкі мала, будзе пазней. Воранаўскае, Бярозаўскае, Камароўскае, Залесавіцкае просяць транспарт. У Воранаўскае далі машыну. За дзень — адзін рэйс. Дарога кружная, снег глыбокі. Машына сто метраў праедзе і загрузне. Чакае, каб трактар падчапіў, вывалак. А трактара, бывае, цэлы дзень чакаеш.

— Бульдозер паслаць не здагадаліся?

— Ён у Міхалёве. З лесавозамі.

— Тэк-тэк... Значыць, мукі няма?

— Вось,— Шамрын порстка торкнуў пальцам у блакноцік,— учора тону змалолі.

— А пазаўчора?

— Паўтоны...

Зімавец схапіў таўсты, быццам кніга, у чорным каленкоры, сшытак і моцна ляснуў ім аб стол, ажно Шамрын скалануўся.

— Папярэджваю! — пахаладнелымі вачыма дырэктар прымушаў маўчаць і слухаць.— Учора на абласным актыве нас за хваёвую муку падымалі на шчыт, хвалілі. Прасілі перагледзець магчымасці, зрабіць семсот тон! Я даў слова з абласной трыбуны... А маё слова — ваша слова!..

Шамрыну ўжо зусім расхацелася згодна ківаць галавою.

— Я не зразумеў, Васіль Сямёнавіч.

Зімавец нібы разгубіўся:

— Што вы сказалі?

— Я сказаў... Я тут, у лясгасе, не першы год замужам. Бачыў усякія абавязацельствы. Ведаю. Хваляць — як мёдам па губах. Але і мёд бывае горкі.

— Не тая песня, Шамрын!

— Тая! Няўжо забылі, як нам даліся леташнія пяцьсот тон? А семсот?!. Эканамісты працавалі над праектам, усё падлічылі... Дык што гэта?.. Усе мы — невукі? Лічбы з пальца высмоктваем?..

— Не тая, паўтараю, песня! Хваёвая лапка — як гумовая груша. Яе ў нас — хоць гаць гаці. Бяры —

хоць расперажыся. Ці лясныя вогнішчы ўжо не пахнуць хваёвым дымам?..

— Але ж мука — гэта не толькі лапка. Гэта — і млын...

— Які стаіць болей, чым робіць?

— А машыны?.. А людзі?..

— Пустое!

— А тады... тады...— Шамрын зноў выпрастаў плечы, прыўзняў цяжкую галаву, пяцярнёю змахнуў з яе пот.— Наогул, я вам не начальнік вытворчасці. У нас ёсць інжынеры, механікі, начальнікі служб. У іх пытайцеся за машыны, шафёраў, муку. А я планавік. Усяго толькі стары лысы планавік.

— Тэк-тэк, выдаў? — Зімавец рагатнуў як не сваім голасам.— Бачу, сабраліся на пенсію?

Апошнія словы прагучалі пагрозліва.

— Магу і на пенсію,— зноў не спалохаўся Шамрын.— Калі будзе гэтакі загад. Я салдат. І вайны, і міру. Сваё адваяваў, здам зброю — і...

— А якія салдаты самыя смелыя? Ці ведаеце анекдот? Пра пенсіянераў. Нічога не баяцца. Факт!.. Што ж, пішыце заяву.

Дырэктар замоўк, чакаў, што Шамрын пачне прасіць прабачэння, як ужо неаднойчы было, але Шамрын як быццам не думаў апраўдвацца, і Зімавец не разумеў — што сёння [redacted] чалавекам, адкуль гэтакая ваяўнічасць? Дзіва брала. Сам раптам адступіў, калі Шамрын падышоў да дзвярэй:

— Ну, не парыце гарачку. Я з вамі сапраўды размаўляю, як [redacted] начальнікам усёй вытворчасці. Спецыялістаў хапае. Факт! Але вам я давяраю больш, як ім. Ганарыцеся гэтым, Шамрын.

Той упарта маўчаў, і Зімавец зразумеў, што цяпер чалавек не сядзе пісаць заяву. Зусім памяркоўна дадаў:

— Ідзіце. Працуйце.

Застаўшыся адзін, паклаў руку на лічыльнікі і над тымі дзвюма косткамі, двума днямі адлучкі, на ніжэйшым прутку адкінуў адну костку. Ціскануў на кнопку — у кабінет зноў заглянула Полькіна.

— Анісава да мяне. Калі ён тут.

Адкінуў яшчэ адну костку, доўгім позіркам правёў Полькіну з кабінета, нешта ўспомніў і вярнуў апошнюю костку назад. Тут жа пачуў за дзвярыма голас Анісава — зноў клацнуў.

Начальнік мехустаноўкі даволі хутка адчыніў дзверы, увайшоў у кабінет, і Зімавец зразумеў, што ён чакаў, калі яго пакліча дырэктар, ведаў, што пакліча, і пра семсот тон мукі ведаў таксама — ад Шамрына. А паколькі ён усё гэта ведаў, паколькі натура ў яго была не такая, каб трымаць язык і слова за зубамі, ён павінен быў адразу, першы пачаць размову. Зімавец паспяшаўся заткнуць яму рот — спытаў, хто з лісанскіх леснікоў не здаў лапку.

Анісаў задумаўся. Узняў густыя, чорныя, цяжка навіслыя, нібы чыгунныя, бровы, выгнуў іх над вузкімі вачыма, паглядзеў на столь, на шафу, дзе ляжала галава дзіка, на дзікаў лыч, які звешваўся з шафы, лена пачухаў зарослую патыліцу. Быў ён высокі, роўны з шафаю.

— Рысеў не здаў,— успомніў.

Зімавец дапытліва глядзеў на Анісава, чакаў, каб той назваў іншыя прозвішчы, але Анісаў больш нікога не называў.

— Хто яшчэ? — сам спытаў.

— Ну... Падабед.

— Чаму не здае?

Анісаў доўга ўзіраўся ў дзікаў лыч, быццам гаварыў з ім, а не з дырэктарам.

— У яго лапнік будзе пазней, на прачыстках. Ёсць у Курнопы. У лаўжах. Няма на чым прывезці. Але Курнопа сваё здаў. Вось Рысеў...

Анісаў ведаў, што Рысеў у Зімаўца на асобым месцы, і яму, чалавеку адкрытаму, сумленнаму, гэтакія адносіны паміж дырэктарам і леснікам не падабаліся, таму знарок ужо два разы памянуў Рысева. Зімавец гэта заўважыў, падумаў: «Бык упарты! Не, перамогі тваёй не будзе. Ні тут, ні там. Ведаю, Анісаў, нікога ты не баішся, ні начальнікаў, ні падначаленых, праўдуматку рэжаш, не гультай, але Шамрын у жыцці хутчэй пераможа, як ты. Бо Шамрын сваю зброю трымае за пазухай, ён можа выцяць нечакана, хітра, яго сілу ніхто добра не ведае. А твая ўся сіла на твары напісана, на языку. Рэж сваю праўду-матку...»

А ён такі рэзаў:

— У нас як робіцца? Адно лясніцтва парыцца, а ўсе іншыя пасміхаюцца. Адзін ляснік цягне, аж пуп трашчыць, а другі за яго спіною адлежваецца.

Анісаў — мужык упарты. Але і Зімавец такі самы:

— Іншым далёка вазіць. А Лісань пад бокам. Факт!

— Дык жа несправядлівасць! — Анісаў адвёў нарэшце позірк ад дзікавага лыча, люта глянуў на дырэктара.— План даводзім усім, а патрабуем ад Валошкі ды ад Курнопы. Два чалавекі за ўсіх аддуваюцца.

— Не тая песня! Сам робіш — як мокрае гарыць.

Зімавец падкалоў Анісава, каб той прысмірэў, ды Анісаў шпількі не заўважыў:

— Вядома. Зіма. Усім кармы трэба. Але зімою машыны ў калгасах, бывае, гуляюць. Хай пасобяць машынамі. А мы ім мукою. Вы бракнулі б па тэлефоне якому старшыньку. Вас уважаць.

— Ну... ідзі працуй. За муку, за прастоі млына ты адказваеш. Кроў з носа, а... Помні!.. Ідзі!..

Зімаўцу надакучыла спрачацца з Анісавым, і ён пачаў поркацца на стале ў паперах, але Анісаў пакідаць кабінет не спяшаўся, усё стаяў, здзіўлена, нібы на якога маманта, глядзеў на дзікаў лыч, нават шчоўкнуў па ім пальцам, потым зірнуў на палец і здзьмухнуў з яго пыл. Выхадка Анісава не спадабалася Зімаўцу. «На што намякае?» Ужо быў гатовы пагнаць з кабінета, ды той сам пайшоў. «От жа, нахалюга! Гаворыць, быццам дырэктар павінен узяць у рукі аловак, запісваць за ім, мудрацом, кожнае слова. Ну!..»

Зазваніў тэлефон.

Валошка прасіў машыну пад лапку, якая ў яго недзе сохла, ці не ў Курнопы, і Зімавец падказаў шукаць машыну самому, а сваю абяцаў даць заўтра. Валошка замоўк адразу, і тады Зімавец папрасіў прыехаць у кантору. Той прыехаць адмовіўся, маўляў, у яго сабраліся людзі — не можа.

— Ах, у вас людзі?! А ў мяне іх няма?

Быў ускіпеў, ды ўзяў сябе ў рукі: крыкам з Валошкі нічога не выб'еш, а цярплівасцю, просьбаю — можна. Сам адступіў:

— Ладна. Пазней я буду ў вас. А вы падумайце, як адвезці лапку. Ведаю, вы болей за ўсіх здалі... Гэта не загад, мая да вас просьба...

Толькі скончыў размову з Валошкам, як уваліўся механік гаража: у кажусе, рукавіцах, шапцы, нават снег з валёнак не змёў за парогам. І адразу: даставай, дырэктар, душа з цябе вон, запчасткі да лесавозаў, тралёвачніка. Вядома, дырэктару лягчэй раздабыць розныя там дэфіцыты, але ж за яго спіною абгультаіліся, лішняга кроку не зробяць, пальцам не варухнуць. Паслаў механіка, каб сам круціўся, даставаў што трэба,

потым паклікаў Полькіну і папярэдзіў, каб не пускала ў кабінет ні сваіх, ні чужых, калі ідуць, нібы ў хлеў, нясуць на нагах па пуду снегу. І яшчэ сказаў, каб пашукала інжынера механізацыі. Яна бегала, шукала, ды не знайшла.

Зноў заходзіў Анісаў, перад тым як ехаць на мехустаноўку, а за ім у дзверы ўскочыў Марцыёнак: галава мокрая — нібы з пажару, маленькія вочкі шалёна блішчаць, вялізны нервовы рот халастым ходам адкрываецца і закрываецца, паветра хапае, перш чым палянуць, як з дубальтоўкі:

— Ваўкі!..

Моцна хвалюючыся, ён заікаўся.

— Дзе ваўкі? — спытаў Зімавец.

— Дзебра. Т-там лёжка!

— На матацыкле?

— Ага!

— Ну і... разагнаў?

— Н-не! Блізка н-не пад'язджаў. М-матацыкл пакінуў на просецы, а сам аб-бышоў квартал. Замкнуў.

— Паспеў? — здзівіўся Зімавец.

— Як заш-шарэла, быў ужо там.

— Ну, малайчына. Звечара ведаў?

— Міна в-выведаў. Там у яго госць. Гэтакі высокі, б-бялявы і малады.

— Танклявы? — спытаў Зімавец.

— П-паджары, як мой к-кабель.

— Што ж ты? Не ведаеш Андрэя, майго брата?

— Дый я... й я чуў! — Марцыёнак шапкаю выціраў спацелы карак.— Але, Сямёнавіч, трэба зборы тр-рубіць. Пакуль збяромся, сцяжкі раскінем. Х-ху... трэба хутчэй!..

Зімавец заўсміхаўся, згадаўшы, як год назад у яго дома сустракалі Новы год. Ужо сустрэлі, ужо ў новым годзе Андрэй, перабраўшы норму, пакінуў вясёлае шматлюднае застолле, пасунуўся ў пакой, дзе спалі дзеці, Дзімка і Светка, улёгся там на канапу, заснуў, здавалася, а калі Васіль зайшоў туды, Андрэй сядзеў на падлозе пад ёлкаю, абхапіўшы аберуч збан з кампотам, і распяваў песні, якія ніхто не ведаў, нейкія вясковыя, у бабак-векавух падслуханыя, пра Дунай ды навабранчыкаў, і ўжо дзеці не спалі, сядзелі на ложках і ціха, нібы змоўшчыкі, прасілі: «Яшчэ, дзядзька Андрэй, пра Дунай... Яшчэ навабранчыка...» Іншай

ноччу гэта, пэўна, не было б гэтак смешна, а тады жываты нарвалі.

Марцыёнак падумаў, што дырэктар яму ўсміхаецца,— зноў, ужо грамчэй, паўтарыў:

— Д-дык... Васіль Сямёнавіч?! Д-давайце патрубім?

Зімавец спахмурнеў.

— Супакойся, трубач! Сам ведаю. Высачыў, далажыў, цяпер ідзі і чакай каманды.

І Марцыёнак выскачыў за парог.

Зімавец успомніў, што сёння ці заўтра ў лясгас павінен прыехаць Кароль, начальнік абласнога ўпраўлення лясной гаспадаркі; успомніў, як у Магілёве, на нарадзе, абяцаў Каралю вясёлае паляванне — той ужо ведаў, што пад Лісанню бадзяецца ваўчыная сям'я, пасецца вакол вальеры, і ў перапынку на нарадзе падышоў, закінуў вудачку: «Прыеду, пагляджу на тваіх ваўкоў. Можа, іх у цябе болей, як аленяў?» Цяпер Зімавец падумаў: «Вось і добра, што ваўкі ў Дзебры. Значыць, аблава будзе. З Каралём. Хай стары душу адвядзе».

Падышоў да акна, глядзеў на апусцелы ад лесавозаў і трактараў двор, бачыў там свой дырэктарскі «газік» і шафёра, які бесклапотна сядзеў на пярэднім буферы, курыў, чакаў яго.

Яшчэ на двары стаяў матацыкл — новенькая чырвоная «Ява»,— да яго праз двор панура ішоў Марцыёнак. Шафёр яму свіснуў. Марцыёнак ускінуў галаву, убачыў хлопца — падышоў. Аб нечым загаварылі. Пэўна, асуджалі свайго дырэктара, што адмяніў аблаву. «Ну, хай языкі пачэшуць. Ім абы аблава. Абы паглянуць па воўку. Абы ўзяць за яго шкуру пяць чырвонцаў». Пры іншых абставінах ён сам не дазволіў бы сарваць аблаву, бо ад восені ганяліся за ваўкамі. Але цяпер, перад прыездам Караля, садраць шкуру з абяцаных Каралю шэрых? Нельга! Старому іх трэба паказаць жыўцом.

Адчыніліся дзверы — увайшлі галоўны ляснічы і эканаміст. Зімавец кіўнуў на іх прывітанне, зірнуў на тыя косткі, што заставаліся на прутку лічыльнікаў з правага боку, і моцна пстрыкнуў іх улева. Падышоў да вешалкі, ускінуў на плечы паліто, абы-як насунуў на галаву шапку, пранізліва паглядзеў спачатку ў вочы галоўнаму ляснічаму, яшчэ хлапчуку, потым у вочы эканамісту, таксама маладому, але ўжо ссівеламу,

адчуў, што яны яму хочуць сказаць,— кінуў, як у адказ на іх думкі:

— Семсот! Ні на грам меней! — і выйшаў за дзверы.

«Я вас, хлопцы, навылёт бачу. Шамрын вас падняў? Ці Анісаў? Нічога. Семсот — дык семсот. Назад ходу няма»,— шаптаў, ідучы да машыны.

## 2

Зімавец не ўзяў з сабою шафёра, сам сеў за руль. На беразе Сажа спыніўся: куды далей ехаць? Да Андрэя? Але дзе яго шукаць? У Лісані? У Асечы? У Гарадку? У Ялоўцы? Можа, бадзяецца дзе-небудзь па лесе? Валошка, пэўна, ведае.

Дарога ў Лісань ляжала блізка ад лесазавода, і не завярнуць туды, едучы міма, Зімавец не мог, колькі дзён там не быўшы, тым больш што і з Анісавым пагаварыў не пра ўсё, нават забыўся папярэдзіць, каб чакаў Караля.

За мостам са шляху звярнуў улева і, яшчэ не пад'ехаўшы да завода, спыніў машыну, прыслухаўся: млын не гуў, нават не чмыхаў. Але не паспеў уз'ехаць на двор, як млын загаварыў: спачатку танклява, пасвістваючы на халастым ходу, пасля перайшоў на густое роўнае выццё. На душы палягчэла, хоць і разумеў, што калі б здалёк не заўважылі дырэктараву машыну, то млын і цяпер бы не дыхаў. Зімаўца рабочыя пабойваліся, гэта ён сам бачыў, ведаў і думаў: не кепска, калі пабойваюцца,— парадку болей.

Уз'ехаўшы на двор, паспяшаўся ў цэх. Каля ўвахода ўжо чакаў машыніст.

— Прымёрзлі? — спытаў суха і строга.

— Круцімся, Васіль Сямёнавіч. Даём зялёную муку саўгасным і калгасным кароўкам. Хай малачком аддзячваюць,— у кішэню за словам машыніст не лез.

— Па вашай крутні малаком абап'ешся.

— А што?

— А тое, што паўтоны ў дзень даяце.

З-пад транспарцёра на карачках выбіраўся Анісаў, шкрабаючы керзачамі па цэментавай падлозе. Падышоўшы да Зімаўца, пачаў апраўдвацца:

— Мы, Васіль Сямёнавіч, млыну даём перадышку, сабе тым часам перакур. Круціць без пярэдыху няма лапкі. Якая ёсць, за паўдня змелем.

— Значыць, ёсць? — злавіў на слове Зімавец.

— Калі адна машына — гэта лапка, дык хай сабе ёсць. Але ж і тую нядаўна прывезлі.

— Адкуль?

— З Воранава. Я вам ужо казаў... катрынка атрымоўваецца. Калгасы як не пасобяць машынамі, дык з мукою будзе труба дзела. Самі не навозім.

У душы Зімавец пагаджаўся з Анісавым, але сказаў іншае:

— Нешта ўвесь у муцэ? І галава, і плечы зялёныя. Блішчыш, нібы шпак на раллі.

— Машыну разгружаў. Лапнік на транспарцёр кідаў. Мяхі [illegible] мукою адцягваў. Сам пячатаў.

Што ў Анісава не хапала рабочых, Зімавец ведаў. Адна жанчына сабралася раджаць, другая хварэла, двух мужчын адправілі на лесанарыхтоўкі для завода, і Зімавец адчуваў, што няма прычын ушчуваць Анісава. Каб млын не стаяў, трэба падварушваць ляснічых, леснікоў — хай лапку вязуць.

— У Воранава званіў? Ці яны самі здагадаліся?

— Учора я там быў.

Зімавец гэтак паглядзеў на Анісава, быццам перад ім стаяў чалавек, якога ён, дырэктар, мала ведаў, да якога быў несправядлівы, калі павышаў голас, гнаў з кабінета. Праўда, Анісаву было ўсё роўна, як глядзеў на яго дырэктар, хваліў ці лаяў, ён на гэта мала звяжаў, ад чаго Зімавец не раз злаваў, бо яму падабаліся падначаленыя, якія адразу адчувалі, калі ў дырэктара дрэнны настрой, калі ён у гуморы, якія рэагавалі не толькі на яго словы ды загады. Падумаўшы, што Анісаў не такі, ён вылаяў яго за пілавінне, кару, гарбыль, якія глуміліся пад нагамі; згледзеў зламаны плот і чалавека, што лез праз дзірку ў плоце,— зноў вылаяў.

Яны ішлі да нізкай дашчанай страхі, пад якою жыкалі цыркулярныя пілы.

— Слухай, Анісаў... А на чым ты ездзіў у Воранава? Машыны туды не ходзяць?

— А я кругалём. На матацыкле.

— Што? — не паверыў Зімавец.— Трыццаць пяць кіламетраў на матацыкле? У мароз, вецер?.. Ды ты... Цябе якая смерць ганяла?..

— Га!..— усміхнуўся.— У сорак першым было цяжэй.

Цяплейшымі вачыма Зімавец паглядзеў у бок Анісава, але побач яго ўжо не было. Куды дзеўся? Спы-

ніўся, агледзеўся: той стаяў за штабелем дошак, абняўшы за шыю цялятка, соваў яму з рукі кавалак хлеба. «Што за чалавек? — здзівіўся Зімавец.— Вось ішоў побач, размаўляў, і ўжо ён там, з цялём».

Падышоў, спытаў:

— Алянушка?

— Ага! Ручная.— Вочы ў Анісава аж бліпічэлі.

— Адкуль жа?

— З дзіцячага дома. Ляснік дзецям малую прынёс, а яны яе прыручылі. Рабочыя адтуль ішлі на завод — яна з імі.

— Не жылец. Як дзе нашкодзіць, людзі заб'юць і з'ядуць.— Зімавец узяў з рук Анісава хлеб, сам даў аляняці.— Глянь, і з маіх рук бярэ! — як абрадаваўся.

— Добрая душа, калі звер не баіцца.

Зімавец здзіўлена паглядзеў на Анісава.

— Я, кажаш, добры?

— Усе ад прыроды добрыя. А калі злы, дык гэта значыць, што сам сябе настроіў супраць сваёй прыроды.

— А ты яшчэ і філосаф? — усміхнуўся Зімавец.

Анісаў змоўчаў. Убачыў, што дырэктар скарміў увесь акрайчык, што хоча ісці далей, і таксама адышоў ад аляняці, падаўся побач з Зімаўцом. А той неяк вельмі ўчэпіста паглядзеў на яго збоку, як нешта ў ім чытаючы, спытаў:

— Ну, а зло на мяне маеш?

— За што?

— За семсот тон, якія прывёз на твае плечы.

— А ці на адны мае? Усе будзем круціцца.

«Значыць, ты сапраўды ведаеш пра тыя тоны, хоць я табе і не казаў пра іх там, у кабінеце...»

— Цяжка будзе? — спытаў.

— Не цяжэй, як было ў сорак першым.

Спакой Анісава быў Зімаўцу нечаканы, ён аж спыніўся, схапіў Анісава за плячо, павярнуў на сябе, уставіўся ў вочы:

— Але Шамрын лямантуе? І... эканамісты.

Анісаў, як вінаваты, апусціў перад дырэктарам вочы.

— А вы іх ганяйце па пушчы. Не будуць лямантаваць. Ад седні зады паапухалі.

«Ну, Анісаў, дзякуй табе. Не чакаў. Думаў, ты першы мяне за гэтыя семсот... А ты... першы мяне супакоіў. Ужо колькі я ад цябе праўды-маткі наслухаўся!

Колькі зла на цябе меў! А ты... Выходзіць, што кепска я цябе ведаў».

Яны ўвайшлі ў цэх.

Яшчэ пяць гадоў назад тут стаялі няўклюдныя драўляныя станкі, марудна кроілі цельпухі на тарную і дахавую дошчачку. Рабочыя, беручы на пуп, падымалі цельпухі на станок, падсоўвалі пад цыркулярныя пілы, дошчачкі насілі на склад бярэмамі, рэзгінамі: за дзень нацягаюцца — рук і ног не чуюць. А Валошка патады будаваўся ў Гарадку, браў дошчачку на дах. Паглядзеў на станкі і, ні слова нікому не кажучы, пачаў рабіць новыя. Надумаў — і зрабіў. Адзін, пасля яшчэ адзін. Невялікія, зграбныя, а галоўнае — рукі ля іх адпачывалі. Станкі самі жалезнымі кіпцямі падымалі і трымалі пад піламі цельпухі, дошчачкі з-пад піл па транспарцёры самаходам плылі на склад, а пілаў на станку стаяла не адна, як раней, а сем штук, адным рухам распускалі цяльпух. Не кепска прыдумаў. Не кепска і шумнуў. Пра станкі дачуліся ў міністэрстве, далі дыплом за вынаходства, прэмію, аўтара Кулібіным зрабілі. «Што ж, хай жнец жне. І каласы, і славу»,— думаў Зімавец пры сваіх не лёгкіх адносінах з Валошкам.

Як раней стаялі ў чарзе па дошчачку, дык цяпер гэтага дабра ўсім хапала. Якія склады былі — завалілі. Далей — куды дзяваць? Анісаў не даваў Зімаўцу спакою, і нарэшце Зімавец пагадзіўся ставіць ля цэха павеці, хоць часовыя. «А хто будзе ставіць? Дзе людзі?» — зноў не сунімаўся Анісаў. Зімавец даў двух цесляў ды аднаго рабочага вярнуў з лесанарыхтовак. Спадзяваўся, што цяпер Анісаў супакоіцца. А ён — ужо з іншага боку скубе:

— Куды ні кінь — клін. Вы, Васіль Сямёнавіч, пра паркет не пытаецеся?..

Зімавец незадаволена зірнуў на Анісава — адмахнуўся, як ад настырнай мухі:

— Клін клінам.

Таго абурала, што Зімавец упарта патрабаваў хваёвую муку, але не звяртаў увагі на паркет. Дырэктара не цяжка было зразумець: за муку дзяўблі на ўсіх актывах, нарадах, сходах, зялёная мука пайшла ў моду, а за паркет ніхто стружку не здымаў. Муку давай — кроў з носа, ніякім іншым асартыментам не заменіш, бо не дазволяць, а план паркету можна перакрыць іншым вырабам. Якім іншым? А хоць дубовы-

мі калодкамі, што адгружалі ў гандлёвыя арганізацыі — на іх секлі мяса. Аднак Анісаў бачыў, што дубы ў пушчы таюць, як леташні снег, што заўтра калодкамі паркет не перакрыеш — не будзе дубу. Вось і секануў:

— Быў клін, ды збег на клін.

І зноў, як там, у кабінеце, Зімаўцу захацелася турнуць ад сябе выяду душы. Калі не ўзарваўся, не турнуў, дык таму, што Анісаў яшчэ быў патрэбны, і, нічога яму не адказаўшы, выйшаў да пляцоўкі, дзе ўвесну збіраўся будаваць цэх арбалітавых пліт, потым завярнуў на сушку пілавачніку, пабыў у сталярцы, усюды пагаварыў з майстрамі, рабочымі, ва ўсё ўнікаў, углядаўся, каб не з чужых слоў ведаць, што дзе робіцца, каб самому бачыць, хто чым заняты. Абышоў усе ўчасткі. Не пабыў адно ля станкоў, якія пілавалі паркетную фразу,— назло Анісаву.

Гэтак пачынаўся амаль кожны дзень — з агляду рабочых месцаў,— і Зімавец заўсёды перажываў, што дзень кароткі, што яго не хапае, каб паспець усюды, асабліва ў далёкія лясніцтвы. Улетку дабіраўся на «газіку» і ў глухія закуты пушчы, але зіма пазагароджвала дарогі, і ён, падоўгу не бываючы ў некаторых лясніцтвах, садзіўся да тэлефона, званіў і званіў, хоць званкі мала супакойвалі: імі ён усё ж не мог праверыць кожнага, ва ўсё ўнікнуць.

Сеўшы за руль, высунуўся з машыны:

— Анісаў?

Той падышоў бліжэй.

— Заўтра прыедзе Кароль. Глядзі, каб была лапка. Каб млын круціўся, як падмазаны, аж спяваў. І не разводзь рукамі. Кроў з носа, а мука... Зразумеў?..

За варотамі лесазавода была развілка. Адна дарога паварочвала ўправа, на шлях, другая — улева, на бераг Сажа, дзе раскінулася цэнтральная сядзіба лесапункта: сплаўная прыстань, склады, гаражы, эстакады, кантора, жылыя дамы, орсаўскія крамы. Тут, на развілцы, Зімавец прытармазіў, падумаў: «Як бы Анісаў і Валошка ні стараліся, могуць і не знайсці машыны пад лапку. А Кароль сюды абавязкова заявіцца». І павярнуў «газік» на бераг Сажа.

Гугнявы бас Ракіцёнка, начальніка лесапункта, быў чуваць яшчэ з двара. Зімавец рашуча ўзбег на ганак, калідорчыкам прайшоў да дзвярэй і адчыніў іх без стуку-груку, як свае. Ракіцёнак сядзеў на краі стала ў

белым кажусе, у кудлатай, нібы паклычаная ваўчыная поўсць, шапцы, спіною да дзвярэй, не бачачы і не чуючы Зімаўца, крычаў у тэлефонную трубку:

— Ну, канчайце! Ужо мокры ад вашых пагроз. Ага!.. Я заваліў лесам чыгунку, а далей?.. Вагоны не ў маіх руках. Я выбіваю, і вы пасобце... Вымовамі не палохайце...

Паклаў тэлефонную трубку і вылаяўся. Па-ранейшаму сядзеў спіною да дзвярэй, глядзеў у акно, на Зімаўца ні разу не глянуў, але папрасіў:

— Дай закурыць.

Напэўна, бачыў у акно, як Зімавец ішоў, ці чуў, як рыпнулі за спіною дзверы.

— Закурыць не дам. Не куру.

Ракіцёнак павярнуў да Зімаўца сухі, смуглявы, пабіты глыбокімі маршчынамі, з вялікімі сівымі вусамі твар, паглядзеў запалымі, у сініх гнёздах, вачыма:

— Доўга жыць хочаш?

Зімавец падышоў бліжэй, падаў руку.

— Мне б да вашых гадоў.

— Дажывеш да сваіх, даўжэйшых.

Ракіцёнку было ўжо шэсць дзесяткаў, ён прасіўся на пенсію, але з пасады начальніка лесапункта не адпускалі, не маглі падабраць замену — ніхто на яго калгатное месца не кваліўся. Ужо Ракіцёнак які вопытны быў лесапрамысловец, усё жыццё аддаў лесараспрацоўкам, ды і натуру меў крутую да сябе і да людзей, неабходную ў крутой рабоце, але і ён выдыхаўся. Усё лес ды лес. Вывазка ды вывазка. У любое надвор'е, любымі сродкамі. Гэтак — дзесяткі гадоў. А Гарадок — глуш. Да чыгункі трыццаць кіламетраў, ды і тая не ў сваіх руках, каб адгружацца тады, як трэба, як выгадна, як патрабуе начальства. Ох, даваліся вывазкі! Раней улетку хоць Сож ратаваў. А ў апошнія гады рака змялела, бо дзе будзе тая вада ў рацэ, калі спелыя лясы па берагах павысякалі, маладнякі засталіся. Летась і зіма выдалася снежная. Думалі, што вялікая вада падымецца, сплаў наладзіцца. Усю зіму рыхтаваліся да сплаву. Берагі лесам завалілі, плытоў панавязалі. А вада хутка паднялася і яшчэ хутчэй апала. Два буксіры падышлі, два караваны падчапілі, павалаклі, а назад не вярнуліся. Пагналі лес малымі плытамі, уручную, на шастах, аднак і з малымі не прабіліся на перакатах. За тое лета Ракіцёнак нахапаў вымоў, і абласное начальства казала, што, пакуль не зня-

лі вымовы, не мець Ракіцёнку персанальнай пенсіі, якую ён даўно заслужыў. Вось і цягнуў воз, каб зняць вымовы. Новымі абрастаў.

— Бачыш? Ведаюць, чым палохаць. Малады інжынерык, сапліваенькі хлапчук, а ўжо і ён паганяе.— Ракіцёнак дастаў з кішэні пачак з-пад цыгарэтаў, ніводнай цыгарэціны ў ім не знайшоў, скамечыў і кінуў у парог.— А ты, цыган, што прыехаў? Зноў клянчыць? Запчасткі ці трактар?

Зімавец ведаў крутую натуру дзеда, загаварыць адразу ў лоб не асмеліўся — павёў разведку:

— Вы, Данілавіч, хоць самі хлеб ясцё нялёгкі, ды наша нішчымніца вас абыходзіць. У вас усё ёсць. Гэта — факт. І пілы, і трактары, і машыны.

Ракіцёнак углядаўся ў Зімаўца малымі вострымі вочкамі, нібы разглядаў у ім нешта вельмі цікавае, такое, чаго не заўважаў раней.

— Кажы адразу. Не люблю хітрых.

— Машына патрэбна. Як галоднаму раз укусіць. Хоць на дзень.

Ракіцёнак дастаў з кішэні звязку ключоў, выбраў з іх самы доўгі, шчоўкнуў ім у сейфе і выставіў з сейфа на стол графінчык, у якім на дне пляскалася нешта празрыстае.

«Вада?.. Гарэлка?..»

— Не пужайся,— супакоіў Ракіцёнак.— Не вада і не гарэлка... Чысты спірт.

— Н-не магу, Данілавіч,— крутнуў галавою Зімавец.— Я на рабоце. Кроў з носа, а не магу.

— За нос не бойся. Будзе цэлы.

Зімаўца ажно ў пот шыбанула: не чакаў такога павароту. Тым больш што ведаў: Ракіцёнак сам не п'е, якое пітво, калі ўсяго трэць страўніка пасля аперацыі, ды і тая з язваю. Няўжо спірт? І гэтак адразу выстаўляе? Не баіцца?

А той, доўга не думаючы, наліў з графінчыка ў шклянкі, з таго самага сейфа дастаў два яблыкі і бутэльку «Баржомі».

— Ну!..

У жываце запякло, як агню хапіў.

— Не чакаў я ад вас, Данілавіч,— хутчэй запіўшы спірт вадою, цяжка аддыхваючыся, прызнаўся Зімавец.

— Бачу, што ты не чакаў, не сляпы. Ніхто не думае, што дзед трымае ў сейфе спірытус. Ніхто! Ідзі ка-

му скажы — не паверацць. А ў мяне, Зімавец, нервы, як твае машыны, на саплях. Псіхану — тады язва точыць. Глушанеш спірцяку — палягчэе. Ты гэта не разумееш. Ты, Зімавец, што бык. Здаровы, малады. Але... просіш машыну?

Зімаўцу падалося, што цяпер, выпіўшы, Ракіцёнак глядзеў на яго цяплейшымі, як раней, вачыма, што, падагрэты спіртам, ён далікатным не будзе, але машыну не пашкадуе, можа, нават і дзве — у яго хапае. І ўжо смялей папрасіў:

— Дзве. Хоць на дзянёк. Трэба лапку падвезці. Заўтра Кароль прыязджае, а млын стаіць. І план вялікі. Усе напіраюць: «Давай зялёную муку! Хоць кроў з носа...»

Задумаўся Ракіцёнак.

— Кажаш, дзве? Адразу адну прасіў, цяпер дзве? Хітры ты. Малады, а хітры. Думаеш, як дзед выпіў, дык цяпер у яго лёгка вымандрыць?..

Схаваў у сейф графінчык са спіртам, бутэльку з недапітай вадою, недаедзены яблык, зачыніў сейф на ключ і ўстаў з-за стала. У куце ля сейфа стаяла кульба, без якой Ракіцёнак не мог зрабіць кроку, бо кульгаў на правую з дзяцінства, і, абапіраючыся на яе, зрабіў крок-другі да госця — апусціў яму на плячо руку.

— Ніводнай машыны я табе не дам.

Зімавец разгубіўся:

— Жартуеце?...

Яны стаялі адзін перад адным, твар да твару, і вочы ў Ракіцёнка былі каменныя, халодныя — гэтакіх Зімавец у яго ніколі не бачыў.

— Магу даць і машыну, і дзве. Раней пасабляў і цяпер магу. Але ты мне пра план нагадаў, і я падумаў: чаму ты не ўважыў мой план? Помніш, я прасіў цябе ўвосень: «Дай, Зімавец, дзялянку бліжэйшую, каб удала год закончыць, на пенсію пайсці». Дык не. Ты адвёў лесасеку ў д'ябла на задніцы. Я ўсю восень тапіўся ў балотах, машыны рваў. А потым зіма пазасыпала і лес, і машыны. Нажорся зямлі са снегам. Ох накарміў ты мяне!

— Лепшай лесасекі не было.

— Была. Але не дзеду.

— А балоты... Не сёння, дык заўтра.

— Ты б мне іх летам ці зімою ўсучыў. А не ўвосень. Не пусціў ты мяне, сынок, на пенсію. Цяпер ста-

іш, думаеш: жорсткі Ракіцёнак. Ну кажы, думаеш?..

— Думаю,— прызнаўся Зімавец.

— Ну і думай. Думай заўсёды. І калі сам просіш, і калі ў цябе людзі просяць. Праўда, тады, увосень, я быў табе без патрэбы. Машыны твае хадзілі, з планам у цябе ладзілася. Га, сынок?.. Ведае цябе Ракіцёнак?.. Ой, ведае, стары хрыч...

Ужо ён адвярнуўся ад Зімаўца, глядзеў у акно на лесавозы, якія адзін за адным, натужна гудучы, валаклі з лесу на рум хлысты, моўчкі глядзеў, пакуль раптам не ўзарваўся:

— Куды павезлі, сук-кі-ны!..

Схапіў шапку і, грукаючы кульбаю, кінуўся з кабінета.

За дзвярыма забегалі, узняўся гармідар, а голас начальніка лесапункта чуўся мацней за ўсе іншыя галасы:

— Трэцяя эстакада завалена лесам! Вы ах... хочаце зусім яе заваліць? Я ж загадаў раскінуць новую?! Дарогі няма? А вы пратапчыце! Хоць трактарам, хоць лапцямі!..

Зімавец у акно бачыў, як у той бок, куды паехалі нагружаныя лесавозы, пабегла, зашпільваючы паліто, дзяўчына з бухгалтэрыі, як за ёю кінуўся тэхнік з пілою на плячы, а за імі следам таропка, нервуючыся, з ганка сышоў Ракіцёнак. Агледзеўся і пашыбаваў на бераг, дзе размяшчаліся рум, эстакады, прыстані, закіданыя лесам і снегам, прамёрзлыя, дзе за ўзгоркам драбнелі і правальваліся ў лагчыну лесавозы. Сэрца гнала бегчы хутчэй, а старыя ногі не паспявалі, зapляталіся, крыссё доўгага незашпіленага кажуха разляталася ў бакі. Два разы Ракіцёнак потарч паляцеў у снег, абодва разы спрытна падхапіўся — шыбаваў далей.

Паўдня як карова языком злізала. Мацюкаючы Ракіцёнка і яго спірт разам з сейфам, увесь яго лесапункт, Зімавец хутчэй, нібы ад заразы ці смерці, ускочыў у машыну і пагнаў напрасткі праз лес — на шлях, у Лісань. Намагаўся адразу выкінуць з галавы Ракіцёнка, а не мог. «Нічога,— супакойваў сябе.— Пераживу твае, дзед, хамства. Як-небудзь. Але яшчэ мы з табой паквітаемся. Не я ад цябе залежу — ты ад мяне. Без тваіх машын абыдуся. А вось ты без майго лесу не абыдзешся. Пакуль тая твая пенсія, яшчэ ты ў мяне балоты памесіш...»

Зімавец толькі звярнуў са шляху на лісанскую дарогу, як заўважыў Насцю. Ці з Гарадка, ці з Асечы яна ішла ў Лісань. Спынілася, пачуўшы за спіною гул матора, стаяла і глядзела, як яе наганяў «газік», нібы здалёк у вочы Зімаўцу ўставілася. Праязджаючы міма, ён газануў, нават не глянуўшы ў яе бок. Зрабіў выгляд, што не заўважыў.

Злосць, якая кіпела на Ракіцёнка, адштурхнула і ад Насці. Быццам яны з Ракіцёнкам заадно.

Калі Зімавец адчыніў дзверы канторы, усе, хто там быў, акрамя бухгалтаркі Ліды і дзеда Гароха, паўсхопліваліся з крэслаў: Вайцюк, Валошка, Міна. Зімавец паздароўкаўся за руку з кожным, падышоў і да дзеда Гароха, які сядзеў у цёмным куце на сейфе, перад ім затрымаўся даўжэй — глядзеў яму ў вочы. Доўгім паглядам прымусіў старога спаўзці з сейфа і тады спытаў:

— Як сабачка?

Стары захваляваўся. Ён ужо даўно чакаў ад Зімаўца нейкай бяды, хоць яна ўсё не прыходзіла. Цяпер зноў спужаўся: «Бач, у галаве ў яго мой сабачка! Няўжо забярэ?»

Цяжка ўздыхнуў:

— Ды... гаўкае.

Зімавец засмяяўся.

— Тэк-тэк, хай пагаўкае.

А Ягоравіч прачытаў у дырэктаравых вачах тое, пра што дырэктар нібыта падумаў і не сказаў: «Тэк-тэк, яшчэ дагаўкаецца...» Адразу апусціў крылы, звяў.

Зімавец падышоў да Ліды, паглядзеў у ведамасць, якую яна рабіла.

— Адводзіце лесасеку? — пацікавіўся.

— Ельнік. Па Малінаўскай дарозе. Пяты квартал,— растлумачыў Валошка.

— Елку хай школа выбірае. Астатняе, бярозы ды вольхі, на дровы. Ды лапку беражыце. Усіх папярэдзьце, каб у вогнішча не кідалі. Пастаўце пад кантроль.

А з галавы не выходзіла: «Ну, Ракіцёнак!.. Мы з табой паквітаемся...»

Раптоўная думка пра Ракіцёнка зноў быццам камень узваліла на душу, зноў Зімаўца ўзяла прыкрасць да ўсяго, злосць. Са злосцю спытаў:

— Што з лесапасадачнай?

— Стаіць. Прымерзла,— холадна адказаў Валошка.

— Шкада, што ніяк не размарозіце.

Заклаўшы рукі за спіну, Зімавец жвава хадзіў па канторы. Валошка ўважліва сачыў за ім.

— Ёсць новая ідэя.

Зімавец павярнуўся да ляснічага:

— Якая?

— Круглыя касеты. Во, у дзве рукі. У касетах — стальныя спіралі з гнёздамі для саджанцаў. Спіраль раскручваецца, гоніць саджанцы пад сашнік. Аўтамат ППШ помніце? Магазін з патронамі. Круглы. Тое самае.

— Перакуём мячы на аралы? — дапытліва прыжмурыў вочы Зімавец, не то падтрымліваючы, не то ганячы думку.— Трэба да мая закончыць. Кроў з носа, а трэба. На нарадзе ў Магілёве Кароль пытаўся, як з машынаю.

— Нават Кароль? — недаверліва перапытаў Валошка.

— А вы не ведаеце, што ў маі збярэцца абласны семінар лесаводаў? Тут, у нас. Прыедзе міністр. Трэба паказаць...

Цяпер да Валошкі дайшло, адкуль у Зімаўца неспакой за машыну: «Ахвота фарсануць тым, чаго няма ў іншых лясгасах, маўляў, і мы не лыкам шытыя?» Валошка апусціў галаў, задумаўся. І ўжо Зімавец сачыў за ім: «Не можа быць, каб упартае Валошкава сэрца не зайшлося ад радасці, што ля машыны збяруцца лясныя вярхі, сам міністр...» Зімавец улавіў знаёмы пошчак: доўгімі, танклявымі, нібы ў піяніста, пальцамі Валошка выбіваў на падаконніку чачотку. «Тэк-тэк, нервішкі падводзяць?..» Гэтая чачотка нагадала Зімаўцу іншыя часы: вось — ён і Валошка стаяць на ляжнёўцы, на закінутай старой наспе ля Сіняга возера, увесну, на слончынай цязе, любімым Валошкавым паляванні, чакаюць у небе слончыну песню, а яе ўсё няма, няма, няма, а ўжо цямнее, і чуваць... не, не слончыха хорканне, а Валошкава нервовая чачотка — пальцамі па ружэйным ложы; вось — яны яшчэ да жаніцьбы, дружбакі, на танцах у парку, ён, Зімавец, кружыць з Насцяю, а Валошка стаіць, нудзіцца, чакае Веру, яе ўсё няма, і чуе ён, Зімавец, падышоўшы паміж танцамі да Валошкі, як дзяўбуць яго пальцы за спіною дашчаную сценку; вось — ён побач з хворай Верай; вось — у яго, Зімаўца, у кабінеце схапіліся за Агейчыка, месяц назад было, калі затрымалі Агейчыка ў лесе; вось — на сходзе, зноў схапіліся... і ўсю-

ды — чачотка. Нікому яна гэтак не прадзяўбла вушы, як яму, Зімаўцу. Бо ўсяго паміж імі было. І дружылі, вадою не разальеш, і ледзь не загрудкі хапаліся неаднойчы.

Спыніўшыся ля стала побач з Валошкам, Зімавец пачуў ценьканне сініц. Блізкае, нібы ў канторы. Глянуў у акно: шустрыя сініцы пырхалі па кусту з галінкі на галінку, страсалі іскрыстыя бялюткі снег, і ён сыпаўся на снегіроў, якія сядзелі ніжэй, рахманыя і цяжкаватыя, падзёўбваючы мёрзлыя почкі, зацярушаныя снегам. У тым малюнку зімы было столькі светлага настрою, што Зімавец загледзеўся, заўсміхаўся. І спахапіўся, як не хацеў, каб людзі бачылі яго ўсмешку. Перавёў позірк на Валошку, але ўжо і ў вачах, і ў голасе было — сам адчуў — куды больш цеплыні.

— Да нас Кароль прыязджае,— сказаў.

Гэта Валошку ажывіла. Ён шчыра паважаў Караля, як і Кароль яго. Спытаў:

— У Лісань загляне?

— А ён Лісань, здаецца, ніколі не абмінае. Як і вальер. Як млын.

Валошка адчуў, што Зімаўца хвалюе, чым яго можна парадаваць,— сказаў, што дзве машыны загружаюцца лапнікам: знаёмыя шафёры, прыехаўшы па лес, пагадзіліся зрабіць па рэйсу на лесазавод. «Малайчына,— падумаў Зімавец.— Ты заўсёды можаш дамовіцца з людзьмі. Цябе паслухаюць. Калі б усе ляснічыя мелі гэтакі падыход да чалавека, гэтак, з галавою, рабілі, то і Ракіцёнак не спатрэбіўся б, і лясгас грымеў бы на ўсю рэспубліку». І ён разгаварыўся, пачаў расказваць пра нараду ў Магілёве, за што там лясгас хвалілі, за што ганілі, што казалі пра іншых, не змоўчаў і пра семсот тон мукі. Зноў дапытліва глядзеў на Валошку, Вайцюка, Міну, Ліду, Ягоравіча, па тварах лавіў людскі настрой, думкі. Да Валошкі прыглядаўся пільней, як да каго, бо яго думка была яму самая важная: абурыцца ці змірыцца? Не абурыўся. Нават сказаў, што план павінны былі павялічыць, бо муку з хваёвых лапак гаспадаркі хапаюць з рук. «Малайчына,— зноў падумаў Зімавец.— Ты не Шамрын. Пад сябе не горнеш. Трэба — дык трэба. Як Анісаў».

Зімавец адышоў ад стала, зноў хадзіў па канторы, але ўжо не грукаў ботамі, нават скуранoе паліто не рыпела на ім, хадзіў спакойна, не імкнуўся гаварыць болей за астатніх, гаварыў меней, і ў той жа час чуў ра-

даснае ценьканне сініц за акном, бачыў чырванагрудых снегіроў, бачыў сабачку Ягоравіча, усё роўна як і цяпер яна тэпала ля ног, па падлозе, бачыў чырвонае полымя ў грубцы за прачыненымі дзверцамі. Цяпер таго агню не было, грубку не палілі, але раней колькі разоў Зімавец грэўся тут ля агню — успомнілася. І вавёрку ўспомніў — раней жыла тут. Усё гэта некалі грэла душу. У Валошкавай канторы заўсёды была нейкая цяплынь, утульнасць. І цішыня. Няма, як у іншых лясніцтвах, лаянкі, беганіны, мітусні. І справа робіцца лепш, як у іншых. Зімавец зноў падумаў, што тут, у ціхай лісанскай канторы, яму заўсёды хочацца быць, сюды часцяком цягне, хоць спрэчкі з Валошкам бываюць большыя, як з іншымі ляснічымі.

— Ну дык... што з машынаю? — лагодна, маючы жаданне пасобіць Валошку, спытаў Зімавец.

Той не спяшаўся з адказам. Думаў.

— Не ведаю, як вам, а мне...— Валошка стаяў ля акна, глядзеў на снег, на лес, на сініц і снегіроў.— Мне, скажу вам, важней, каб машына лес садзіла. На месяц раней ці пазней — няма розніцы. Каб яна не аднаму міністру дагадзіла. Каб пушчы!.. Ды вунь... Насці...

Зімавец кінуў шалёны позірк на Валошку, затым падышоў да акна і ўбачыў, як з лесу па дарозе выходзіла Насця. Ёй было горача. Яна расшпіліла кажух, зняла рукавіцы, несла іх у руцэ, рукамі размахвала шырака, ішла весела, лёгка, усмешліва азіралася па баках на сонечныя снягі, дрэвы, сцежкі, натораныя людзьмі, звярамі, птушкамі,— шчыра любавалася светам, ледзь не спяваючы. Валошка і Зімавец не маглі адарваць маўклівых паглядаў ад Насці, і ўжо калі яна схавалася за хату, Зімавец схамянуўся, адвярнуўся ад акна, ад Валошкі, зноў пачаў хадзіць ад сцяны да сцяны, уставіўшы вочы ў падлогу. Яму падалося, што ўсе, хто быў у канторы, заўважылі яго празмерную ўвагу да Насці, як і Валошкаву ўвагу, і тое, што яны абодва аднолькава прагна сачылі за ёю, стаялі побач і адзін аднаго быццам не заўважалі, напэўна, абодвух рабіла смешнымі, бо людзі не сляпыя і не глухія — ведалі і Валошкавы, і Зімаўцовы адносіны да Насці.

Паддаючыся раптоўнай злосці, разам з тым не ведаючы, на каго злаваць, Зімавец спытаў нейкім дзяркатым голасам:

— Дык што трэба, каб давесці машыну?

Валошка маўчаў.

5 Зак. 3121

Хвіліны маўчання Зімаўцу было дастаткова, каб зразумець, што заводзіцца нельга, трэба мякчэй, і ўжо іначай дадаў:

— Што я думаю, Пятровіч? Трэба папрацаваць над машынаю. Вызваліць на месяц ад работы ў лясніцтве? Можна. Даць памочніка? Што яшчэ?

Валошка па-ранейшаму пільна глядзеў у акно, быццам усё яшчэ бачыў Насцю.

Зімавец падышоў бліжай:

— Дык што? Дамовіліся? А за ляснічага застанецца Вайцюк. Чуеце, Вайцюк?

— Чую! — гучна, як абрадаваны, усклікнуў памочнік ляснічага.

— На які месяц. Ну?..

Валошка развёў рукамі:

— Хай будзе так.

Зімавец разлічваў, што Валошку давядзецца доўга ўламваць, але той адразу пагадзіўся — гэта таксама здзівіла. «Усё ж мы былі дружбакамі,— падумаў Зімавец.— А як дружбу парвалі? Хто з нас пастараўся? Не Валошка. Не. Лейцы ад таго вазка ён аддаў мне, сам толькі паглядаў, куды я лейцамі кірую. Недзе на паваротцы крута падвярнуў, Валошка і выскачыў пад адхон, а я памчаў далей і ўжо там, далей, падсаджваў да сябе іншых...»

Удвух выйшлі з канторы на ганак. Зімавец сабраўся ехаць, але пакідаць Лісань не хацелася.

— Тэк-тэк...— прамовіў і схамянуўся: — Што я хацеў спытаць?.. А-га!.. Дзе Андрэй?..— строга глянуў у вочы Валошку, быццам Валошка хаваў брацэніка.

Голас падаў Міна — стаяў за спінамі:

— Ён у вальеры.

Зімавец — адразу:

— Дык садзіся ў машыну. Паедзем.

І сам быў падаўся да машыны, але заўважыў Насцю — спыніўся. У расшпіленым на грудзях кажушку яна стаяла каля плота, вольна аблёгшыся на штыкеціны рукою, закінуўшы нагу за нагу, рукавіцамі пляскала сябе па круглым, што ў маладой дзяўчыны, калене, пасміхаючыся, глядзела на Зімаўца. Як ад яе маўклівай каманды, не па сваёй волі, ён кіўнуў галавою — стрымана павітаўся. Яна шчырэй, на ўсе белыя дробныя зубы, мякка ззяючы імі, усміхнулася і прывецілі нейкім старамодным, падкрэслена нізкім паклонам га-

лавы. Ён аслупянеў. Захваляваўся. Не мог адвесці вачэй ад яе прывабнага твару.

— А мне, Васіль Сямёнавіч, гэтак хацелася з вамі пад'ехаць,— хітра, нараспеў сказала яна.

«Язва»,— падумаў ён.

Штосьці мусіў адказаць — схітраваў:

— Хіба гэта ты, Насця, ішла?

— Некалі вы мяне далёка пазнавалі.

Зімавец зразумеў намёк. Але не чакаў, што яна гэтак адкрыта, пры людзях, скубане. «Ну і язва!..»

— Не пазнаў. Багатая будзеш.

— А я і так не бедная.

Можа б, ён што-небудзь ёй адказаў, можа б, яна яшчэ раз пеканула якім слоўцам, язычком ядавітым, ды паміж імі, нібыта які гном, са снегу вынырнуў Мураўка: без шапкі, ускалмачаны, няголены, валасаты, сам малы, а далонь вялізная, з лапату,— гарбузовыя семкі працягвае.

— Палузгайце, Васіль Сямёнавіч.

Зімаўца заўсёды адварочвала ад Мураўкі. Нічога кепскага чалавек яму не зрабіў, а трываць яго не мог.

«Каціся ты!» Ледзь не вылаяўся. Але стрымаўся:

— Дзякуй. Няма калі забаўляцца.

Адвярнуўся ад Мураўкі, а заадно, з палёгкай, і ад Насці — падаўся да машыны, ля якой стаяў Міна.

## 3

З раніцы Андрэй прынёс ад рэчкі суды вады, распаліў грубачку, каб толькі вада закіпела ў чайніку, а як закіпела — у таз з памыямі выграб з грубкі галавешкі. Начадзіўшы, адчыніў дзверы ў сенцы, праветрыў хату, ускочыў на табурэтку і зачыніў комін. Напіўшыся гарачага чаю, з кніжкаю падсеў да акна. Чытаў «Праз тайгу» Арсеньева. Кніга была старая, зачытаная, выдадзеная пяцьдзесят гадоў назад, на старонках — сляды ад хлебных крошак, сала, засушаных лясных кветак, матылёў. Яе Андрэй згледзеў у Сашкі на падушцы — Міна кніг не чытаў, акрамя сваёй «Вальернай кнігі» (сам яе і пісаў),— і, гартаючы старонку за старонкаю, бачыў перад сабою, як жывых, ласёў, тыграў, рысяў, арланаў, соў, непраходныя гушчары тайгі. Зрэдку адрываў вочы ад кнігі і задумліва глядзеў у акно: там, у лесе, бачыў то Міну, то Валош-

ку, то Сашу. А часцей — Васіля. Яго ўяўляў сярод таежных звяроў і птушак, вячыстых дрэў і зыркіх кветак: круглявы чарнявы твар, вузкія, далекавата адно ад другога, вочы, тонкія, як крылы ў ластаўкі, бровы, нос прамы і востры, мала не слончын, здаровая шыя.

Апошнюю ноч Андрэй начаваў адзін. Міну і Сашку ён не бачыў ад учорашняй раніцы, Валошку — дні два, а Васіля — яшчэ больш. Ведаў, што брат паехаў у Магілёў, але мусіў вярнуцца. З раніцы Андрэю падалося, што Васіль вось-вось з'явіцца ў вальеры, і колькі разоў нецярпліва мераў крокамі дарогу ад лесавушкі да брамы і назад, выходзіў за браму, падоўгу ўглядаўся туды, дзе белая дарога знікала за дрэвамі, прыслухоўваўся, ці не чуваць чыіх крокаў, гулу машыны. Марна чакаў. Вярнуўшыся ў хату, вырашыў: калі яшчэ хвілін дзесяць нікога не дачакаецца, дык пойдзе ў Лісань. У канторы тэлефон, можна пазваніць у Гарадок, там што-кольвечы дазнаецца пра Васіля. Не можа быць, каб не дазнаўся. Ды і Валошку пабачыць.

Гэтак думаючы, пачуў, як у сенцах ляснулі дзверы. Усхапіўся: на парозе стаяла Насця.

— Здароў, Андрэй! — бліснула белазубай усмешкай.

— Дзень добры, Насця. Праходзь.

— Ты тут... кніжачкі пачытваеш?

Ён стаяў перад ёю з Сашкавай кніжкаю ў руцэ.

— А што мне рабіць? Халастому, нежанатаму.

— Дык я ажаню,— кінула з усмехам.

Ён змоўчаў, зноў запрасіў у хату, але яна з парога не скранулася, сказала:

— Апранайся. Пасобіш венікі ў пуню ўкінуць,— падміргнула і сама за дзверы — шусь, што тая вавёрка.

Апошнімі днямі леснікі прывезлі колькі вазоў лазовых і ясеневых венікаў, панавязаных яшчэ ўлетку, звалілі каля пуні побач з кармушкамі, ля якіх кожны дзень на бульбу, капусту і жалуды збіраліся алені. Частку венікаў Міна з Сашкам занеслі ў пуню, паскладалі, а скласці ўсе — рукі не даходзілі: егеры ганяліся за ваўкамі, а Андрэй таксама не заседжваўся ў вальеры — на Мінавых лыжах ад рання да вечара цягаўся па пушчы. Тым часам прыбраць венікі трэба было, бо іх ужо і снег пачаў замятаць, і алені глумілі, утоптвалі ў снег.

Насця расчыніла шырозныя, на ўсю сцяну пуні,

вароты, і яны ўдваіх дружна ўзяліся цягаць венікі, складалі іх каля сена паўз сцяну.

— Грузі на сябе болей, не надарвешся,— жартавала Насця, рагочучы, і накладала яму ў бярэмя вышэй галавы — ледзь нёс.

— Ой, замучыла! — не мог аддыхацца, бо яна зноў і зноў накладала яму на рукі як панесці. А венікі былі перасохлыя, выкачаныя ў снезе, пацяруха і снег з іх сыпаліся за каўнер, у твар.

— Жывы будзеш. Яшчэ цябе добра не запрагалі.

Смяялася. Ён разумеў яе жарты, але сёння ніколечкі не губляўся, нават сам падколваў:

— А ты можаш запрэгчы?

— На кожнага ахвоты няма. Вось цябе б...

Гэтак жартуючы, не заўважылі, як паперацягалі ўсе венікі, і яшчэ б цягалі, ды нечага. Апошнія, здавалася, нёс Андрэй. Зваліў у пуні пад ногі, пачаў шапкаю атрасацца ад лісцвянае пацярухі, сена, снегу, але яшчэ цэлае бярэмя назбірала Насця, унесла ў пуню і зачапіла, пэўна ж знарок, Андрэя, скінула з рук венікі і яго паваліла на іх. Ён быў ухапіўся за Насцю, за крысо яе расхрыстанага кажуха, але яна і сама не ўтрымалася на нагах, паляцела на мяккі шапатны посціл.

Абое ляжалі сціхлыя, смірныя, напрацаваўшыся і надурэўшыся, ляжалі побач — ён на спіне, яна на баку, да яго тварам,— не варушыліся і ні слова не казалі адно аднаму, усё роўна як чакалі-гадалі: што ж будзе далей? А далей — усё было ў іхняй уладзе, бо яны былі ўдваіх, дзве душы ў пуні, ды і ва ўсім вальеры нікога, акрамя іх. І вось Андрэй адчуў яе руку. Гарачая, ласкавая, паўзла па яго калматай галаве, пальцы шыліся ў валасы, потым мяккая далонь плыла па шыі, змятала з шыі лісцвяную пацяруху, і ён, не маючы ні сілы, каб адвярнуцца, ні слова, якое б спыніла гэтую раптоўную пяшчоту, скораны яе ўладаю, нібы здранцвеў, не варушыўся, чуў, як рука Насціна пахне і мятаю, і рамонкам, і палыном ці багуном, чымсьці гаркавым, пахне ўсімі ляснымі травамі, дрэвамі, мо мацней, як пахнуць самі травы і дрэвы. Пахкая гаркава-салодкая хваля захліснула грудзі, і вільчык з белай дзіркаю пагас, расплыўся ў вачах. Андрэй чуў кожны ўдар Насцінага сэрца, хоць яно было недзе пад кажухом, чуў яе блізкае дыханне. По-

тым — губы, якія дыхалі сухім жарам. Скалануўся, адхінуўся. І яна таксама адхінулася, замерла.

— Пацалаваць цябе можна? — спытала шэптам, як не сваім голасам.

Ён маўчаў.

Тады яна зноў горача дыхнула яму ў твар, кранулася яго нямых губ гарачымі, нібы полымя, губамі, і на гэты раз ён не адхінуўся. Яна губамі, носам, шчокамі, ілбом лашчылася аб яго твар... ён грудзьмі пачуў яе грудзі, намогся адсунуцца і... адно падумаў: «Яна ж была ў кажуху?..» Раптам сама адкінулася ад Андрэя і не варушылася, ляжала побач з ім на спіне, і ён чуў яе цяжкае, нібы ў гарачцы, дыханне.

— Даруй мне, Андрэй,— прашаптала.

Ён маўчаў. Але праз хвіліну спытаў:

— Цябе хто паслаў сюды да венікаў?

— Ніхто не пасылаў.

Не ўстаючы, нават не адкрываючы вачэй, як баючыся глянуць на святло, на Насцю, ён зноў спытаў:

— А той раз, як прыязджала ў вальеру на кані?.. Ты да каго прыязджала?..

— Да цябе. Валошка тады сказаў, што ты ў вальеры. Дзед Гарох пакінуў Малога ля канторы, дык я — у сані і ну паганяць.

Яны зноў колькі хвілін ляжалі моўчкі. Пасля ён чуў, як яна заварушылася, як села і ціха сядзела.

Мінула яшчэ колькі хвілін. Ён расплюшчыў вочы, сеў, агледзеўся, думаючы, што яна ўсё яшчэ побач. Праз вароты пуні ззяла, аж вочы рэзала, сонца, а яе побач не было. Ён ускочыў на ногі, выйшаў з пуні.

— Насця! — не моцна гукнуў, разгублены.

Цішыня — ані гуку.

Прайшоў па двары далей, туды, дзе стаялі кармушкі — доўгія, метраў па пяць, карыты, у якія Міна і Сашка сыпалі аленям бульбу, жалуды. Зноў агледзеўся — зноў нідзе яе не ўбачыў.

Сонца ззяла, грэла, ажно пад сцяною пуні курэла белая пара, капала са страхі, на ўтаптаным дворышчы таяў лядок, белым святлом блішчалі праталіны, чарнелі мокрыя, з белымі шапкамі снегу, слупы і жардзіны агароджы, на дрэвах снег асеў, пацяжэў. Ад кармушак несла вострым пахам вільготнай бульбы, капуснай кіслінаю, адталым аленім памётам. Вясна? Андрэй аж зажмурыўся, вачам не паверыў. Адкуль вясна? Яшчэ ж студзень месяц! Ды і нічога гэтага не

было паўгадзіны назад: ні сляпучага сонца, ні блішчастых пpаталін, ні гэтых вострых пахаў. Ці, можа, ён не заўважаў? Але... адкуль магла з'явіцца вясна?

З алешніку на Андрэя ўставіліся чорныя круглыя, што спелыя каштаны, вочы рагаля. І другая пара вачэй. І яшчэ адна. Увесь табун стаяў у алешніку, глядзеў на Андрэя вялізнымі круглымі вачыма. Андрэю аж неяк ніякавата зрабілася. Выходзіла, што не адны яны з Насцяю былі тут. Алені — не людзі, маўчаць, не выдадуць, ды і не ўсё людское разумеюць, але перад іх позіркамі Андрэй адчуў сябе разгубленым, як усё роўна перад людскімі.

Хутчэй зачыніў цяжкія рыплівыя вароты і падаўся на гару, да хаты, на хаду зашпільваючы кажух.

Насці не было і ў хаце. Андрэй павесіў кажух на цвік у сцяне, сеў да акна і ўзяў у рукі кніжку. Не чыталася, не сядзелася. У грудзях пякло, у галаве кружылася, думкі ні на чым не маглі запыніцца. Было і радасна, і балюча, і нешта гняло душу. А ў той жа час душа як ляцела кудысьці высока і далёка. Андрэй расшпіліў на грудзях кашулю, разуўся, нават шкарпэткі скінуў, босы хадзіў па цёплай падлозе. Ні за што не мог зачапіцца ні вокам, ні думкаю. Рукі ні за што не браліся.

І раптам убачыў у акне «газік». З яго вылез Міна, потым паказаўся Васіль. Андрэя захліснула радасць. У расшпіленай, нават у штаны не ўвабранай кашулі, ледзь паспеўшы ўступіцца ў чаравікі, ён выбег з хаты, падскочыў да брата, ухапіў яго доўгімі рукамі і не выпускаў з абдымкаў, узрушаны, светла, што дзіця, усміхаўся, а потым сам рэзка адхіснуўся і пільна, ледзь не нахабна — гэтак Зімаўцу падалося — пачаў разглядаць яго ад верху да нізу, хітаючы галавою, доўгім пшанічным чубам.

— Ух, Васіль!.. І здаровы ж ты!

— Не тая песня.

— А ты, братуха, не злуй. Я вочы прагледзеў, цябе чакаючы.

— Мог бы сам да мяне завітаць? Факт!

— Ты ж прападаў у Магілёве.

— Ды... ад работы ўсё адрываюць.

— Пазнаю цябе, Васіль. Гэтакі заўсёды. Без работы хвіліны не пасядзіш. А я вось...

— Бачу. Тут ты вольны казак.

Яны зайшлі ў хату.

Ведаючы братаву стрыманасць на натуральныя чалавечыя пачуцці, яго дырэктарскую саліднасць, асабліва на людзях, Андрэй, каб не псаваць яму настрой, наравіў ладзіць, дагаджаў хоць прыблізна такою ж стрыманасцю. Але сёння, усхваляваны, глядзеў на Васіля не як на дырэктара — як на брата, чалавека блізкага, роднага. Нават пра Насцю забыўся.

— Яшчэ доўга будзеш у нас? — пацікавіўся Васіль.

— Пакуль не выганіш.

— Я сур'ёзна.

— Ну... дзён пяць, калі сур'ёзна. Трэба ўжо ехаць. Мінск чакае. Работа.

— Давай-ка зараз да мяне ў Гарадок? Пагасцюеш.

— Дзякуй, Васіль. Буду вяртацца — на дзянёк заеду. А цяпер... Яшчэ пушчаю не надыхаўся.

Зімавец ведаў, што выманіць Андрэя з вальеры было заўсёды цяжка, а таму надта не настойваў. Заглянуў у адзін пакойчык, у другі, адкінуў на ложках коўдры, загадаў Міну змяніць пасцелі, заслаць усё чыстае, выбіць пад хвоямі коўдры і падушкі, папярэдзіў, каб у хатцы было чыста, цёпла, каб сухія дровы і вада пад рукамі не выводзіліся. Уключыўшы электрычную лямпачку — яна ледзь тлела,— загадаў Міну змяніць акумулятар, слабы аднесці ў машыну: маўляў, сам завязе на запраўку.

Пакуль Зімавец даваў Міну загады, заўважаючы парадкі і непарадкі, Андрэй не адводзіў ад яго вачэй — не мог нагледзецца і нарадавацца. Энергічны, рухавы, брат усё бачыў і разумеў.

— Сядзець без занятку сумна,— казаў ён Андрэю і тут жа як загадваў: — Позна не спі. З першым святлом, да сонца, абыходзь агароджу вальеры. Пяць кіламетраў — маладым нагам не круг, а размінка добрая. Пакажы яму, Міна, дзе блытаюцца лісы, дзе ваўчыныя лазы, падкопы. Кожны след каля агароджы прыкмячай, запамінай, усё дакладвай егеру. Стаў і правярай капканы.

Міна ўспомніў:

— Пойдзем насіць венікі.

— А мы іх перанеслі,— не змоўчаў Андрэй.

— Хто гэта — мы? — насцярожыўся Зімавец.

— Я і... Насця.

— Тэк-тэк... Гэта яна ад цябе, значыць, ішла? — адразу падлавіў Васіль.

Андрэй схамянуўся: дарэмна ляпнуў языком пра Насцю. Але адступаць было позна — прызнаўся:

— Ну, вядома.

Тады Зімавец нервова шлёгнуў па сцягне пальчаткамі і выйшаў з хаты. За ім следам, таропка апрануўшыся, выскачыў Андрэй.

Яны спусціліся з пагорка, паціху ішлі ў бок Трасцінкі. Андрэй адчуваў, што Васіль мае нешта сказаць, марудзіць, выгадвае зручны момант ці думкі ў галаве парадчыць.

— Паляваць з намі хочаш? — спытаў ён глуха, як не тое, што думаў.— Лася. Дзіка.— Казаў, а з твару не сыходзіла заклапочанасць.— Га?..

— Сезон закрыўся.

— Нам прадоўжылі. Прамысловых ліцэнзій многа, а выбраць звера не паспелі. Снягі глыбокія, топкія. Яшчэ з тыдзень будзем страляць.

— Які з мяне паляўнічы?

— Раней, помню, сам набіваўся?

— Не на лася. Мне лася шкада.

— У цябе надта далікатнае сэрца. Га?.. Факт! У маладзіц, пэўна, улюбчывае? — з'едліва калянуў.

Андрэй адчуў братаў намёк, яго калючы позірк. Няўжо падазрае яго і Насцю ў чымсьці таемным, непрыстойным? Вырашыў выгляду не паказваць, што зразумеў намёк.

— Ну, бабахнуць калі-небудзь і я магу. Мазануць. Каб ні крыві, ні енку.

— А на аблаву?

— Мне і шэрых шкада. Апошнія.

— Ваўчыны абаронца? — зноў з'едліва ўсміхнуўся.— Вас гэтакіх развялося. Па сталіцах.

— Не смейся, Васіль. На паляванні я люблю вясёлы гурт людзей і сабак. Люблю чытаць след, па ім — жыццё звера, яго нораў, паядынак з чалавекам. Звера і птушку нідзе гэтак не пазнаеш і не палюбіш, як на паляванні. Таму я не супраць аблавы. Хоць на мяне як на стралка не разлічвай.

Яны выйшлі на бераг Трасцінкі. Рэчышча ляжала бялюткае, іскрыстае пад сонцам, не ўсюды акрэсленае пасохлым трыснягом і вышэйшым правым берагам, бо снягі зраўнялі рэчку з лагчынаю. Андрэй глядзеў на белае рэчышча, і яно паступова знікала, ужо бачыў не снег, не лёд, з якога снег месцамі сагнала дуйка, а ваду ад берага да берага — усцяж. Чуў, здавалася, як вада

пазваньвае па карчах, камянях, б'ючыся аб іх і скачучы, як на дне, пад жывой плынню, шапатліва перакочваюцца жвірынкі, парыпваюць, мыючыся, травы. Сам дзівіўся, як ён усё гэта чуе і бачыць? Але брату не прызнаваўся: «Не зразумее, пасмяецца з летуценных выдумак». І раптам, нібы адтуль, з дна жывой рачной плыні, данеслася: «Пацалаваць цябе можна?..» Андрэй скалануўся, і ўсе сілы, усё цяпло, якія былі ў целе, некуды схлынулі, як у глыбокі снег шаснулі. Ён асцярожна ўзняў вочы на Васіля.

Васіль глядзеў на яго ўважліва, нібы ўсё, што рабілася з братам, заўважыў і зразумеў.

— Што з табою? — спытаў Васіль.

— Ды... нічога. Я...— занепакоіўся Андрэй.

Але братаў позірк моцна зачапіўся за яго твар.

— Значыць, папрацаваў тут з Насцяю? Ну... і як?..

Кроў шуганула ў твар. Андрэй зачырванеўся, што вараны рак, разгубіўся, не ведаў, куды дзяваць чырвоныя вушы ад Васілёвых вачэй. «Божа мой,— варухнулася ў галаве,— як я выдаў Насцю?..» Не ведаючы, што рабіць, схіліўся, схапіў ля ног прыгаршчы снегу, скамечыў снежку. Мабыць, холад вярнуў галаве нейкае супакаенне, здольнасць разважаць. І тады Андрэй абурыўся:

— Ты кепска думаеш пра Насцю. Нельга, Васіль...

— Я ведаю Насцю лепей за цябе.

— Не! — рашуча не пагадзіўся Андрэй.— Бачу, што не ведаеш. Ты на яе нечага злосны. Як там у вас — не мая справа. Але яна перад табою не вінаватая.

— Ну... не тая песня. Факт! Я хацеў...

— Што ты хацеў?

Зімавец не мог трываць, калі яго перапынялі ці падганялі, мо таму замоўк, стаяў пахмурны, вусны сцяўшы, як знарок, не гаварыў далей. Штосьці яго моцна хвалявала. Андрэй падумаў, што Васіль, пэўна, сапраўды кахаў Насцю, што ад таго кахання ў ягонай душы павінна штосьці застацца, абавязкова засталося, мо нават каханне і засталося, а можа, замест кахання з'явілася рэўнасць? Бо не можа быць, каб начыста ўсё сышло.

— Я хацеў папярэдзіць,— Васілёў голас зрабіўся сухі, напяты, нібы стальны дрот паміж слупамі.— Памятай. Мы з табою браты.

— Не разумею.

— Я строгі з людзьмі. У мяне з імі няма панібрац-

тва. Толькі работа. Загад і яго выкананне. Таму прашу. Не давай на людзях вялікай волі языку, пачуццям. Кожнае тваё слова тут ловяць. Ты — мой брат. Праз цябе — мяне відаць. Заўтра Кароль прыедзе. Табе ён, ведаю, не ўлада. А мне — улада. Тут ён заначуе. Будзеце пад адной страхою, за адным сталом.

— Не трэба гэтак са мною! — рашуча перапыніў Андрэй. Аж брыдка зрабілася ад сваёй рашучасці, бо гэтак яшчэ ніколі не гаварыў з Васілём.

Гэтакае пачуўшы ад Васіля, ён мог і мацней узарвацца, абурыцца, нагаварыць богведама што, але пасля той гарачай хвалі, якая абдала крыху раней, на яго абрынулася сцюдзёная хваля Васілёвых слоў, і гэтыя дзве хвалі, пэўна, пагасілі адна адну — ён цверазеў і супакойваўся.

Назад ад рэчкі ішлі маўклівыя, усё роўна як штосьці адзін у аднаго ўкралі, і тое крадзенае пякло рукі, вочы, душу. Уваччу ў Андрэя зноў стаяла Трасцінка. Але ён ужо не бачыў жывой вады, шэрай ці сіняй, усё там ляжала белае — у снягах, як наяве, плоскае і гладкае.

Ля брамы спыніліся.

— Трэба ехаць,— сказаў Зімавец.— Работы — непачаты край, а дзень кароткі.

Ён, пэўна, адразу б сеў у машыну, ды стрымлівала адчуванне, што развітваюцца не як трэба, халодна, нешта адзін аднаму не сказаўшы ці, наадварот,— нагаварыўшы лішняга, хаваючыся адзін за аднаго. І каб хоць крыху падцепліць расстанне, успомніў:

— Жонка прывет табе перадавала.

— Дзякуй. Ёй таксама ад мяне.

— З пацалункам? — паспрабаваў пажартаваць Зімавец.

— Можна,— без жарту кіўнуў Андрэй.

— Ну... паеду.

Развітаўшыся з братам, Андрэй не павярнуў назад, у хату, а доўга ішоў па рабрыстым следзе «газіка». Цяпер ён разумеў, чаму сёння Васіль запрашаў у Гарадок, у сваю сям'ю. Якое гасцяванне? Выманьваў з Асечы. Не хоча, каб брат апынуўся з Каралём за адным сталом, пад адной страхою, у адной бяседзе, бо раптам ён, Андрэй, што-небудзь такое Каралю ляпне, чаго баіцца Васіль. А што ён можа ляпнуць? Дзівак. Ці, можа, Васіль нагаварыў са злосці? Ён мо сапраўды зараўнаваў да Насці? Бо ён заўсёды раў-

нівы. Некалі не хаваў сваёй злосці на Валошку, што Андрэй, прыязджаючы з Мінска, перш-наперш шукаў Валошку, а не яго, Зімаўца, што да Валошкі ў Андрэя душа гарнулася мацней, як да брата. Калі б не тая рэўнасць, дык, можа, і з Валошкам у яго не было б гэтакага рашучага разладу. Можа быць.

Душа ў Андрэя была адыходлівая, і ён ужо не злаваў на брата. Ідучы па следзе «газіка», адчуваў ранейшае хваляванне, тое, што зведаў з Насцяю ў пуні на веніках. Праўда, там было толькі хваляванне, а цяпер узнікала прывязлівае, нібы смала, разважанне — неспакойнае, ледзь-ледзь з трывогаю: што з ёю здарылася? Што з ім здарылася? Чаму яна гэтак спытала, усё роўна як чужым голасам, як голасам дзяўчынкі: «Цябе пацалаваць можна?» Спытала шэптам, чыста, быццам пра забароненае, быццам першы раз у жыцці. І чаму ён маўчаў? Чаму ён, мужчына, сам не ўзяў яе па-мужчынску ў рукі?.. Алёнка?.. Дык чаму тады ёй, Насці, дазволіў?.. І як цяпер быць з Алёнкай?.. Можа, гэта здрада?! Ці здрада гэта?.. «Не! Не! Не!» — крычала душа. Ён не мог Насці адмовіць. Не мог! Яна нічога кепскага не зрабіла ні яму, ні Алёнцы. Яна гэтак чыста прасіла... Ён не мог яе, такую, хоць крышку пакрыўдзіць, адпіхнуць. Было б жорстка...

Звонкія дзіцячыя галасы пачуліся з блізкага прыдарожнага ельніку. Андрэй спыніўся.

З ельніку на дарогу выехаў маленькі лыжнік. Фуфайка на ім была расхрыстаная, як без ніводнага гузіка, шэры шалік разматаўся, лез з-пад фуфайкі на плечы, шапка з задзёртымі ўгару вушамі збілася на патыліцу. Хлопчык быў увесь, ад валёнак да шапкі, выкачаны ў снезе. Удзёўбнуўшы перад сабою лыжныя палкі, аблёгся на іх грудзьмі, цяжка адсопваўся і касавурыўся на Андрэя. Пазнаў, бо раптам заўсміхаўся. Ды і Андрэй хіба мог не пазнаць Валошкавага Юрася?

Адсопшыся, хлопец азірнуўся на ельнік:

— Ты жывы там?

За елкамі хрупала, цяжка дыхала.

— У ямку ўваліўся,— пачуўся другі дзіцячы голас.— Тут нейкая зямлянка ці бярлога. Едзь сюды!

Юрась развярнуў лыжы.

Андрэй стаяў, чакаў хлопцаў. Было чуваць, як яны мясілі ў гушчары снег і галлё,ляскаталі лыжа-

мі і палкамі, вохкалі, нечым здзіўленыя, перагаворваліся. Нарэшце Юрась зноў выбраўся з ельніку на дарогу, а за ім — Зімаўцоў Дзімка, выкачаны ў снезе больш за Юрася.

— Ану сюды! — гукнуў Андрэй.

Шапкамі абабіваючыся ад снегу, хлопцы слухмяна пад'ехалі, паздароўкаліся.

— Там ваенная зямлянка,— паведаміў Дзімка.— Глыбіня — во... па шыю. Ледзь выграбся.

— Куды ж вы цяпер?

— А на ваўкоў,— вачыма стралянуў Юрась.

— Во яны табе, ваякі! — павесялеў Андрэй.— З кім жа вы на ваўкоў збіраецеся?

— З Мінам!..

Юрась шыбануў па дарозе да вальеры, а Дзімка не спяшаўся, ішоў, валюхаючыся, і ўсё азіраўся на Андрэя, паліў яго чарнявымі, як у бацькі, вачанятамі. Ён быў увесь — выліты бацька. Прысадзісты, каржакаваты, крыху смешна крывалапы, і нос той самы — слончын. Андрэй глядзеў і дзівіўся — якое моцнае ў Зімаўцоў падабенства па мужчынскай лініі! Вось Светка, Дзімкава сястрычка, зусім нічога не мела бацькавага ў твары, паставе, звычках — уся ў матку. І ў дзядзькі была дачка, старэйшая за Васіля,— памерла,— ніякага падабенства з бацькам не мела. І далей, калі ўзяць — сям'ю дзеда Нікодыма: дочкі ішлі ў матку, а сыны — у бацьку. Дзядзька Сямён — выліты Нікодым, а ўжо Андрэева матка нічога ад свайго бацькі, Нікодыма, не ўзяла. Гэтаксама казала. Андрэю праз матку дзедава, пэўна, ніштo не перадалося. Існавала загадка генаў, магутных генаў.

У той жа дзень, увечары, калі слюдзяна сінела над лесам поўня і ў чыстым небе дружна высыпалі зоры, калі Андрэй і Міна пілі малінавы чай, а Юрась і Дзімка — заядлыя ваўчатнікі — зваліліся ў ложак і спалі, адвярнуўшыся адзін ад аднаго, уткнуўшыся насамі ў падушкі, з'явіўся Валошка. Адразу, з парога, дастаў з кішэні складзеную ў дзве столкі паперку, падаў Андрэю. То была тэлеграма. Ад Алёнкі. Яна ехала з Мінска начным аўтобусам, прасіла сустрэць.

Яшчэ ў Мінску, калі праводзіла Андрэя на аўтобус, абяцала прыехаць у пушчу да бацькоў і да яго, Андрэя, тады ён ёй не вельмі паверыў, а цяпер быў рады, што яна едзе.

Чаёўніцтва скончылі, пачалі раскатурхваць хлоп-

цаў. Яны спалі моцна — не дабудзіцца. Дык хай адсыпаюцца — вырашылі. Прычынілі хату на клямку ды й падаліся ў Гарадок да аўтобуса — добра, што Валошка на Малым заехаў.

4

З Мінска праз Гарадок ішло два аўтобусы: адзін увечары, якім прыехаў Андрэй, другі ўранні. Раніш-ні чакаць трэба было ўсю ноч, і Валошка павярнуў каня да сваіх яшчэ светлых вокан.

Юстына Іванаўна выставіла на стол гарлач малака з хлебам і ўсім тром паслала на печы. Доўгай гамонкі не заводзілі — напіліся малака і палезлі на печ. Угрэліся і заснулі: Міна і Пятровіч захраплі амаль адразу, Андрэй — яшчэ доўга качаўся з боку на бок. Ужо ён мог бы і заснуць, як заснулі Валошка і Міна, ды якраз тады, калі пачало тумaніць вочы, на падлозе выпрасталіся белыя, ледзь падсіненыя нябёсамі палосы святла ад месяца. Яны былі ў Андрэя перад вачыма, бо ён ляжаў ускрай печы. Тое святло ўсё роўна як высвеціла ўспаміны...

Вось — Сож. Жалезныя нямецкія пантоны, скарабачаныя бамбёжкамі, тырчаць з вады. Галапузае войска малечы на жалеззі — з усяго Гарадка. Плёскат, візгат, свіст. Бо самая спёка. Лета. Гадоў дзесяць, як вайна адгрымела, а пантоны яшчэ гулі ў раскалыханай рачной вадзе.

Ці брук — старая Варшаўка. Яе масцілі немцы, бо ў сорак першым Варшаўку ўзаралі бомбы. Бруквалі не каменнем, а дубам. Дубы вазілі з пушчы. Пілавалі на калодкі, ставілі калодкі на папа, адну ля аднной, а шчыліны паміж імі залівалі гудронам. Кавадными ботамі, коламі, гусеніцамі вайна старанна адшліфавала тарцы калодак — блішчаць, нібыта паркет. Андрэй памятаў, як па тым дубовым бруку сям'я пераязджала з Гарадка ў Крыцу, як ён ляжаў на возе, на мяхах ды скрынях з хатнімі рэчамі, глядзеў, звесіўшы галаву, на брук, лічыў пад колам дубовыя калоды.

А бульвар! Адсюль, ад старых ліп, ішоў на вайну бацька — на Айчынную. І два дзядзькі. Той, што загінуў — Пракоп, і каторы цяпер у Гарадку — Сямён. У першы месяц вайны дзядзька Сямён трапіў у акружэнне, вярнуўся ў Гарадок і падаўся за Сож у пар-

тызаны. А капануць глыбейшую памяць? Дзед Нікодым, дзед Стахор, дзед Мікіта — усе яны адсюль, ад ліп, ішлі на першую сусветную. Мікіта не вярнуўся, а Стахор і Нікодым пасля той вайны яшчэ пажылі. Дзед Мікіта і на крымскую хадзіў, і на японскую. Можа, і прадзедавы сляды пад ліпамі? Але прадзеда, пэўна, і маці не ведала, бо нічога пра яго не казала. Можа, не было зусім? Толькі чаму ж гэта не было? Быў, вядома. Ды сплыў. Хто ён? Каб ведаць.

Вось — вулачка з драўлянымі ходнікамі. Гразюка, аж пад нагамі сапе. А хаты добрыя, дагледжаныя. Сады. Шмат чаромхі, бэзу, акацый — цвітуць белым цветам паўз ходнікі, платы.

Вокны з блакітнымі ліштвамі. Глухія веснікі ў глухой браме. Высозны, вышэй за чалавека, плот. У гародчыку пад вокнамі — зноў кіпень белага бэзу, чаромхі. Гэта — дзядзькава харoміна. Яна на тым самым месцы, дзе да вайны стаяла Нікодымава. Дзядзька Сямён як старэйшы з братоў і сясцёр застаўся на бацькавым пляцы — такі быў закон.

Ужо Андрэева думка зачапілася за дзядзьку Сямёна, за яго хату, а таму і за Васіля — зноў,— за цётку Анэлю, Васілёву матку, доўга ад іх не магла адчапіцца, перакінуцца на што іншае. У дзядзькавай хаце і ля хаты Андрэй перабраў па памяці ўсё чыста — і з ранейшага часу, і з пазнейшага: сталы, дываны, крэслы, ложкі, трусоў, белых і чорных, катоў, сабак, якіх дзядзька вечна трымаў, кароў, гусей, на сценах — партрэты, палічкі, стрэльбы, а яшчэ — стравы, нават шпалеры на сценах успомніў — залацістыя кветкі па жоўтым полі. Малы Андрэй любіў бываць у дзядзькі, бо ў ягонай хаце было прыгажэй і сытней, як дома.

Калі Андрэй канчаў дзесяты клас, яму ў рукі трапілі пажоўклыя паперы, загорнутыя ў жоўтую раённую газетку. Іх пасля смерці пакінуў Стахор. Ён жыў доўга, памёр, калі было пад дзевяноста. І што за паперы? Царскія грошы, прыгожыя кацярынкі, на якіх побач з партрэтам царыцы стаіць малады аголены рыцар са шпагаю і лаўровай галінкаю ў правай руцэ, левую трымае на сэрцы, а паміж тых кацярынак з царыцай і верным ёй рыцарам ляжала адна важная паперка: уверсе — штамп з царскім гербам, ніжэй — выпіска з рашэння губернскага суда аб тым, што лісанскаму лесаўладальніку пану Васінеўскаму дазваляецца прадаць і лясному кандуктару Нікоды-

му Зімаўцу дазваляецца купіць у Васінеўскага шэсць дзесяцін лесу і правам на яго расчыстку пад ворыва.

У той час, школьнікам, Андрэй нічога цікавага ў старой судовай паперы не бачыў. Тады даспадобы было ўсё новае. А калі вучыўся ў Мінску, у лесатэхнічным інстытуце, папера зноў трапіла на вочы і вось тады зацікавіла. Андрэй узяўся распытваць маці пра Нікодыма, пра лес, прыдбаны дзедам у пана, і маці расказала, што ведала. Ведала мала, бо з братоў дысясцёр была самая малодшая, яшчэ дзіцем перажыла бацькаву смерць. Але і са скупога матчынага расказу Андрэй дазнаўся, што службу ў панскім лесе дзед пачаў хлапчуком, калі матка яго жыла ў панскім маёнтку ў Лісані, рабіла там кухаркаю. Нікодым вырас вясёлы, кемны, рослы, здаровы, чужога не браў, гарэлку піў з галавою, любіў ва ўсім парадак, лесу і пану быў адданы, а гэтую адданасць пан цаніў. Сам пан гаспадарку ведаў мала, вельмі ў яе не ўнікаў, ва ўсім спадзяваўся на аканома, і справы ішлі праз пеньк калоду. Ён бяднеў і, каб пратрымацца ў маёнтку, быў вымушаны прадаваць лес, аблогі, ляда. Дзесяцін колькі прадаў Нікодыму, які надумаў жаніцца, а перш чым жаніцца — прыдбаць зямлю, паставіць хату.

Што сталася з Нікодымавым лесам — маці не ведала. Колькі помніла бацьку і сваё жыццё з ім, дык жылі яны ўжо ў Гарадку і зямлі на старане, ні ляснай, ні ворыўнай, не мелі — бацька тады займаўся шорніцтвам, малярыў, сталярыў. Маці параіла Андрэю пра ўсё распытаць Сямёна і шкадавала, што ўжо не было Стахора, які шмат расказаў бы.

З дзядзькам Сямёнам гаварыць — што са сцяною, бо ён, маўчун ад прыроды, вечна адмахваўся: «Навошта падымаць мёртвага дзеда? Хай спіць. Не чапай. Як ён жыў — яго справа. Даўно спрах той лес». А потым Андрэй прагаварыўся, што ёсць судовая папера, па каторай Нікодым купляў у пана шэсць дзесяцін лесу, і дзядзька ажно затросся: «Дзе яна?» Андрэй сказаў, як было: «У Мінску». Ён тады, вядома, паказаў бы, а можа, і аддаў бы тую паперу дзядзьку, калі б меў пры сабе. Назаўтра дзядзька Сямён прыехаў — ні разу датуль не прыязджаў — да Андрэевай маці ў Крыцу, пачаў дапытвацца, адкуль у яе ўзялася папера. Маці сказала, што пакінуў Стахор, з кацярынкамі разам.

У той час Андрэй ужо адчуваў цану старадаўняй паперцы, бо што-кольвек ужо ведаў з гісторыі пушчы, з мінулага Лісаншчыны. Тут амаль не было лясоў казны і сялянскіх абшчын, лясамі валодалі паны Васінеўскія, Абаленскія, Панятоўскія, Галынскія, і калі ў васьмідзесятыя гады ў Расіі пачаўся шалёны гандаль лесам, тая гарачка пракацілася па пушчы. Прычыны былі ўсюды адны. З аднаго боку даходзілі чуткі, што вось-вось цар падпіша лесаахоўны закон, які не дазволіць лесаўладальнікам па-ранейшаму вольна распараджацца лесам; з другога боку — на граніцы з Прусіяй, у якую выгадна сплаўляўся рускі лес, на яго пачалі павышаць пошліны; а галоўнае — раскідваліся панскія гнёзды, маёнткі прайграваліся ў карты, прапіваліся, іх трэба было неяк падтрымліваць, і тут лес першы аказваўся пад рукою — парабак і казна ўсіх пакаленняў расійскага і польскага панства.

Лісанскі пан не застаўся ў баку ад тае ліхаманкі. Сякеры і пілы лесапрамыслоўцаў разгуляліся ў лепшых барах па-над Сажом. Але выйшаў лесаахоўны закон, падпісаны царом Аляксандрам II. Закон з'явіўся ў 1888 годзе, каб спыніць спусташэнне лясоў, якое кацілася па ўсёй дзяржаве. І хоць сваім найбольшым цяжарам ён клаўся на сялян, на іх лясныя акрайчыкі, надта малыя ў агульным аб'ёме расійскага лесу, калі не сказаць — мізэрныя, ды яшчэ ўмацоўваў кантроль над лясамі казённымі, але краем прыцісну ў і буйных лесаўладальнікаў. Як ён мог абмежаваць панскую ўладу на лес? Мабыць, тым параграфам, якім забараняў спусташальныя высечкі без дазволу лесаахоўнага губернскага камітэта. Без дазволу! А з дазволам?

Тут трэба сказаць, што лепшыя бары, якія маглі даць добры куш ад іх продажу, пан ужо звёў, а за той лес, які яшчэ стаяў, купцы шмат не давалі. Каб сарваць даражэй, трэба прадаць лес з правам яго расчысткі пад ворыва — пад поўнае вынішчэнне. І вось з просьбаю дазволіць продаж лесу пад расчысткі пан звяртаецца не ў лесаахоўны камітэт, як запісана ў законе, а вышэй — да міністра дзяржаўных маёмасцей. Праходзіць паўгода — адказу няма. Згодна з тым самым законам, у выпадку, калі за шэсць месяцаў не прыйдзе адказу, можна было лічыць, што дазвол на продаж лесу атрыманы. І пан зноў пачынае

прадаваць лес. Шэсць дзесяцін перападае Нікодыму. Разам з братам Стахорам той упрагаецца карчаваць. Тады з'яўляецца павятовы спраўнік. Дазволу на расчысткі ў Нікодыма няма — справа перадаецца ў суд. Аказваецца, расчысткі можна было б пачынаць, калі б заява пана ляжала паўгода ў камітэце, а не ў міністра. (Вось дзе прыказка спраўдзілася: «Цішэй едзеш — далей будзеш».) Нікодым — да пана. Пан зноў носам у закон — знайшоў яшчэ адну шчыліну: расчысткі могуць быць дазволены, «калі таго патрабуе больш выгаднае ўладкаванне маёнтка», а такса-са «пры раздзеле маёмасці». Васінеўскі падае ў губернскі суд заяву дазволіць расчысткі па прычыне «раздзелу маёмасці». Старэйшаму сыну адпісвае дом у Пецярбургу, дзе той і жыў, малодшаму — лісанскі маёнтак разам [redacted] пушчаю. Часткі няроўныя. Каб іх ураўняць, трэба старэйшаму сыну даплаціць з часткі малодшага. А частка малодшага — пушча. І пад рашэнне суда «дазволіць продаж лесу з расчысткамі» пан збывае лес.

Зімаўцы зноў упрагліся: валілі дрэвы, карчавалі пні, будаваліся на беразе Сажа. Ірвалі жылле і не заўважылі, як насунулася бяда. Яна прыйшла з суседняга ляда, з Пясчанкі. Якім чынам? Яшчэ да выхаду лесаахоўнага закону лісанскі пан прадаваў па кантрактах сотні дзесяцін бароў купцам і лесапрамыслоўцам, а тыя бралі з бароў усё, што маглі, часам не пакідалі нават ляснога подсцілу. Дзе расла трава — пускалі скаціну. Яна выбівала з-пад подсцілкі пясок, і высечкі паступова пераўтвараліся ў пясчаныя пусткі. З Пясчанкі берагам Сажа гэтакі пясок-плывун прыгнала і на Нікодымавы дзесяціны. Гадоў колькі Нікодым і Стахор ураблялі ляда, змагаліся з пясчаным заносам і не пасілілі яго. Люта абурыўся Нікодым на пана. За апошнія капейкі перавёз хату ў Гарадок, кінуў панскую службу і зрабіўся местачковым рамеснікам. Ажаніўся, аброс дзецьмі. А Стахор пайшоў на руска-японскую бойню. Збяднеў і пан. Калі яго пушча перайшла ў дзяржаўную казну, Нікодым вярнуўся ў Лісань казённым кандуктарам. Жыў у Гарадку, а рабіў у пушчы.

Усё гэта Андрэю расказаў дзядзька Сямён. Але Андрэй адчуваў, што дзядзька ведае пра Нікодыма больш, як расказвае. Спачатку адчуваў, а потым — пераканаўся.

Неяк Андрэй прывёз з Мінска тую судовую паперку. Пашкадаваў дзядзьку Сямёна — аддаў. Стары на хвілінку расчуліўся і, падабрэўшы, паказаў яшчэ адну, таксама старую, на рагах счарнелую,— кантракт на продаж лесу. «Года 1884, июля девятнадцатого, нижеподписавшиеся дворянин Станислав Николаевич Василевский и мещанин местечка Малятичи Давид Михайлович Рывкин заключили между собою настоящий контракт на следующих условиях: 1. Я, Василевский, продал Рывкину сосновый бор Песчанку, которого составлен план землемером Жуком в двух экземплярах, обеими сторонами подписанных, а всего проданный по сему договору лес заключает в себе пространство сто сорок десятин. 2. Покупная сумма за проданный по сему договору лес определяется в 10 000 рублей, в счет которых ныне получено мною, Васиневским, от покупщика Рывкина 5000 рублей, а остальные 5000 рублей Рывкин должен не позже 15 сентября сего года уплатить вместо меня коллежскому советнику Сергею Самсоновичу Бугоркову в погашение долга, причитающегося ему от меня, Васиневского, по закладной крепости на дом в Петербурге. 3. Срок рубки проданного по сему договору леса определяется десятилетний, т. е. по июля 19 года 1894. В это время Рывкин имеет право производить рубку на означенном пространстве сплошную, эксплуатировать пни и корни из проданного ему леса, выжигать уголь, рыть колодцы, ставить сторожки и жилые помещения, пасти скот и косить траву без стеснения, распахать под посев до десяти десятин. 4. Сей контракт обеими сторонами исполнять свято и нерушимо...»

Тое, што ў пушчы дазвалялася рабіць мешчаніну Рыўкіну, нічога іншага Пясчанцы не абяцала, як дзікае спусташэнне на многія гады, наступ і ўладу пяскоў, за якія доўга не зачэпяцца ні дрэвіна, ні кусціна. А там, блізка ад Пясчанкі, быў Нікодымаў акрайчык. Дык, можа, пясок з пусткі, якую пакінуў пасля сябе Рыўкін, і засыпаў дзедавы дзесяціны?

Толькі цяпер, на Валошкавай печы, Андрэй раптам дадумаўся да гэтага — аж скалануўся: ці не сам Нікодым складаў той кантракт на продаж лесу? Мог скласці і пан, вядома. Ці аканом. Але — не без Нікодыма. Бо яны гэтак лесу не ведалі, як Нікодым, без яго маглі прайграць купчую. На Лісаншчыне дзед

слыў самым вучоным леснікам. Дзядзька Сямён расказваў, што пан пасылаў Нікодыма ў сяло Храновае Варонежскай губерні, дзе была ніжэйшая лясная школа, і ў той школе яго вучылі на ляснога кандуктара. А калі так, то атрымоўвалася, што купчую Нікодым складаў на сваю галаву?! Як мог? Ён жа быў адукаваны ляснік! Няўжо не здагадваўся, да чаго прывядзе гаспадаранне мешчаніна Рыўкіна на Пясчанцы? Ну, а калі здагадваўся? Ці мог ён забараніць пану прадаваць лес? Не мог. Мог падказаць, каб не гэтакі заключаць дагавор? Але ці не гэтаксама — пад пагрозаю спусташэння лясоў і зямлі — у той час панскія лясы прадаваліся па ўсёй Расіі! Час і ўмовы, а не дзед Нікодым, панскі, а не мужыцкі розум дыктавалі лесаўладальнікам купчыя. Калі панам патрэбны былі грошы, каб неяк падтрымаць свае маёнткі, дык яны ўжо не думалі, што станецца з лесам, з нейкаю там Пясчанкай.

Бедны Нікодым! Рабацяга, прыгажун, весялун, лесавод ад бога і навукі, мастак на ўсе рукі, разумнік, якім бокам яго ні павярні, а ў дурной пятлі засіліўся.

Андрэй неаднойчы думаў пра дзедаў лёс і кожны раз дзівіўся, як багата ён увабраў у сябе вобраз далёкага часу, тое жыццё пушчы, уладу тых законаў і беззаконняў. Вось дзе гісторыя краю, яго лясоў і людзей.

Згадаў вогнішча на беразе Сіняга возера. Там — Васіля і Караля. За юшкаю. Кароль казаў: «Лоўка ў вас атрымалася. Два браты, адзін інстытут скончылі. Абодва леснікі. А твой бацька, Васіль, таксама ж леснікам быў? Патомная прывязь да лесу?» Андрэй не ўтрымаўся: «А ў нас і дзед быў ляснік. Служыў у лісанскага пана. Прабабка кухаркаю ў пана была. Усе мы з Лісані. Пушчанскія...» Васіль адкінуў кубак з юшкаю на траву, пекануў Андрэя паглядам, усхапіўся, закружыў, раз'ятраны, вакол вогнішча. Андрэй адразу замоўк. А назаўтра прыйшоў да дзядзькі Сямёна — той і кажа: «Ты, хлопец, не чапай дзеда. У цябе адна жытка, у яго — другая. Жыў як мог, па сваім часе. Чаго болей пасеяў, дабра ці зла,— не мы яму следчыя і не мы яму суддзі. Можа б, ты на яго месцы і таго, што ён, не пасадзіў, не ўзгадаваў». Андрэй зразумеў: Васіль расказаў пра размову ля вогнішча. Абурыўся: «Дык жа я нічога

кепскага не казаў?..» А дзядзька завярнуўся — пасунуўся ў сад.

Было гэта пазалетась.

А цяпер Андрэй ляжаў і думаў: «Зрабіў дзядзька Сямён таямніцу з Нікодымавага жыцця, узяў у галаву свае права на яе — нікога не дапускае, асабліва Старапольных, бо яны нешта ведаюць з той таямніцы, права на яе ўсё ж маюць».

Андрэй мог не бываць у дзядзькі, калі ён гэтакі куркуль, але ж тут, на дзядзькавым пляцы, некалі жылі Нікодым, Стахор, маці, гнездзіліся ўсе Зімаўцы, Андрэевы продкі — гэтае месца вабіла. Бывала, адчыніць веснікі, зойдзе на двор; дзядзька будзе махаць сякераю ці пілою і, пачуўшы ўсхліп веснікаў, апусціць сякеру ці пілу, паглядзіць на Андрэя — твар спахмурнее. Скупым словам ці якім мармытаннем прывеціць, каб адчапіцца, але сякеру ці пілу з рукі не выпусціць, рукі не падасць, у лепшым выпадку скажа, каб Андрэй у хату ішоў — там цётка нічога не робіць. Андрэй завітае ў хату, паздароўкаецца з цёткай Анэляй, сядзе ля парога на ўслончык, агледзіцца. Ласкавейшая за дзядзьку, цётка налье ў кубак малака ці бярозавіку, спытае, як ён, Андрэй, жыве, нават прысядзе побач, у вочы зазірне. А ў самой вочы хітрыя, лісіныя. Андрэй пасядзіць, пагамоніць ды і развітаецца. А дзядзька ў хату нават не зойдзе. «Хай. Можа, яшчэ апамятаецца»,— падумае Андрэй, прычыняючы за сабою дзядзькавы веснікі. А матцы было цяжэй. Гэтак вось пабачыцца з братам, вернецца ў Крыцу — слёзы на вачах: «Брат не прыняў». Бацька, бывала, пачне ўшчуваць: «Ну, што вы да іх цягаецеся, калі чужыя ім? Галаву гнеш, а яны ад цябе лычы варочаюць». Маці толькі апраўдвалася: «Калі ж у мяне гэтакі брат, ваўкалака. Але цягаюся не на яго пляц. На бацькаў. Там і маё роднае дворышча. Думаеш, яно не заве?»

Яны былі надта розныя людзі — Андрэеў бацька і дзядзька Сямён. Бацька вырваўся з бядняцкай сялянскай сям'і, дарваўся да навукі і ўсё жыццё вучыўся, скончыў інстытут, іграў на скрыпцы, настаўнічаў. А дзядзька меў чатыры класы старой гімназіі ды колькі месяцаў павучыўся на бухгалтарскіх курсах, затое ўсё жыццё моцна трымаўся пушчы, меў стрэльбы, сабак, сеткі на рыбу, не ўпускаў ні ягаду, ні грыб, на ўсё, чым прырода дарма карміла і паіла,

меў моцны практычны розум і ставіў гэты розум вышэй за кніжны. Андрэй помніў, як дзядзька Сямён казаў бацьку: «Ты, Старапольны, кніжнік. Лічыш сябе разумным, а ходзіш, пуза падшчаміўшы. Людзей навукам вучыш. А чаму ты можаш навучыць? Як галадоўку цярпець? Як смыком па струнах пілікаць? Карысці ад твайго пілікання на пустое пуза...» Душа ў бацькі была зычлівая, і ён ніколі не злаваў на дзядзьку Сямёна, што б той на яго ні нёс. «Я твайго братца ні ў чым не вінавачу,— прызнаваўся ён маці.— Супраць кніжнікаў паўстаў? Але ж сам Васіля вывучыў? Значыць, не супраць навукі?..»

Пад раніцу, на досвітку, у Валошкавай хаце дружна пахропвалі ўсе, нават Андрэй, і праспалі б аўтобус, каб ён не спазніўся на цэлыя дзве гадзіны.

На аўтастанцыю Андрэй прыехаў удвух з Мінам. Валошка падняўся раней за іх, запрог Малога, але да аўтобуса не паехаў, бо маці ўсю ноч пакутавала галавою, не магла стаць да печы, і Пятровіч мусіў узяцца за дровы, чыгуны, бульбу.

Неба яшчэ ледзь яснела, а касу ўжо адчынілі, прадавалі білеты на першыя мясцовыя рэйсы.

Каня Міна паставіў далей ад прыпынку, ля нізенькага станцыйнага штыкетніка. Кінуў Малому сена, сам зноў умасціўся ў розвалы, наставіў каўнер кажуха, падкурчыў ногі і задрамаў, як на Валошкавай печы.

Андрэй пайшоў кружыць вакол станцыі, бо не сядзелася, не стаялася. Даўшы колькі кругоў, заўважыў далёкія агні моцных фар — на Варшаўцы. Святло бліжылася, дапаўзло да станцыі, лінула на хаты, на дрэвы, абапал шашы зрушыла доўгія чорныя цені. Андрэй здагадаўся, што імчыць мінскі аўтобус, бо мясцовыя гэтак моцна не сляпілі, а іншых міжгародніх у гэты час не было. Ды і не адзін Андрэй здагадаўся — на станцыі ўсе, хто быў, заварушыліся, пахапаліся за чамаданы, сумкі, авоські, тварамі павярнуліся на тое святло.

Аднекуль узяўся Васіль, стаяў у баку ад натоўпу. Андрэй падышоў да брата.

— Ты чаго тут?

— А ты?

— Кароль едзе. Надумаў стары шатун перціся ноччу. Як сваёй машыны не мае. Ні свет ні зара.

— А я страчаю Алёнку,— шчыра прызнаўся Андрэй.— Ёсць такая на белым свеце,— усміхнуўся брату і прыгледзеўся, як той рэагуе на гэтакую навіну.— З Мінска едзе.

— Да цябе? — вытрашчыў вочы Васіль.

— Чаму б і не?

Васіль, пэўна, зноў падазраваў цёмнае, нячыстае. Нават не спытаў, хто яна такая, Алёнка, што мае да Андрэя. Адно шлёгнуў па скураным паліто скуранымі пальчаткамі, ухмыльнуўся пад нейкую сваю думку. Андрэю хацелася расказаць Васілю, што Алёнка едзе не толькі да яго, але і дадому, што яна — дачка Макара Курнопы, студэнтка, што ён, Андрэй, кахае Алёнку, хацелася загадзя схіліць братаву душу да яе, яшчэ яму невядомай, але ўспомніў размову пра Насцю з Васілём, яго несправядлівыя думкі — і не сказаў больш нічога.

Пад'ехаў аўтобус. За намёрзлымі белымі шыбамі заварушыліся нетаропкія заспаныя пасажыры. Пакінуўшы брата, Андрэй пашыўся ў натоўп, бліжэй да дзверцаў.

Спачатку выходзілі адны бабулі з клункамі, пазімоваму апранутыя, непаваротлівыя, за бабулямі паказалася маладая жанчына з чымсьці белым у руках, як з малым, малады хлопец, потым пайшлі дзяды, адзін за адным, з прыступкі лёгенька саскочыла кабета пад шыракаполым капелюшом, гарадскога выгляду, следам за ёй — высокі пажылы мужчына з партфелем пад пахаю і чамаданам у руцэ. За тым мужчынам выйшла і адразу агледзелася Алёнка. Андрэй быў памкнуўся да яе, ды наперадзе стоўпіліся жанчыны. Пакуль іх абышоў, Алёнка ўжо стаяла на вальнейшым месцы ля чамадана, вынесенага з аўтобуса пажылым мужчынам, азіралася. Андрэй знянацку абхапіў яе, прыгарнуў да сябе, чмокнуў у адну шчаку, у другую, яшчэ раз, ужо смялей,— у губы, упарта-сарамяжлівыя.

— Вы, Алёна Макараўна, ужо ўдваіх?

Андрэй выпусціў яе з рук, таропка кінуў вачыма на мужчыну з жоўтым партфелем, адно цяпер пазнаў у ім Караля і адразу ўспомніў, як Васіль назваў яго шатуном. Сам сабе ўсміхнуўся: брат добра сказаў, трапна. Але шатуном Караля называлі па ўсіх раёнах, лясах у апошнія гады, калі ён, на старасці, пачаў калясіць па лясніцтвах, што не вельмі

рабіў у маладыя гады. На шостым дзесятку спахапіўся, што мала папахадзіў, папаездзіў.

— Знаёмцеся, Рыгор Фаміч. Гэта мой Андрэй,— назвала Алёнка і сумелася, убачыўшы, што яны адзін аднаму ўсміхаюцца,— не ведала, чаму ўсміхаюцца.

— А мы даўно знаёмыя.

«Вось чаму!» — падумала і абрадавалася.

Андрэй заўважыў Васіля, які стаяў, не падаючы голасу, за спіною ў Караля. Падвёў да яго Алёнку.

— У цябе гэтакі брат? — яна здзівілася.— А ты не казаў.

— Тэк-тэк, стрыечны,— паспяшаўся ўдакладніць Васіль.— Па-нашаму — брацені́к.— І перавёў пагляд на Караля, клапатліва пацікавіўся: — Як даехалі?

Кароль, мабыць, не пачуў:

— Ды тут, бачу, як у рамане са шчаслівым канцом! Жаніх на месцы, нявеста на месцы. Ёсць сваяк жаніха. А я — за свата. Белы ручнік цераз плячо... Згода?

— Але навошта раману канец? Хоць і шчаслівы,— заўважыла Алёнка.— Канец раману — якое шчасце?

— Ну-у, Алёна Макараўна! Я думаў, што вы аптымістка,— не змаўкаў Кароль.

— Песімісту не да раманаў.

У яе быў вясёлы настрой. Ёй хацелася гаварыць, жартаваць, смяяцца. Каралю такія падабаліся.

— Вы малайчына,— казаў ён.— Нашым лясам не хапае вясёлых леснікоў. Раней гэта разумелі куды лепей. У імператарскім лясным інстытуце ўсіх студэнтаў вучылі танцам і музыцы. У інстытуцкім уставе было запісана, што музыка, спевы дабратворна ўплываюць на нораў і душу лесніка, робяць больш радасным яго жыццё ў лясной глухамані, а танцы, даючы целу спрыт, робяць лесніка дасужым і нахабным. Так і было запісана: дасужым і нахабным.

Зімавец прапанаваў Каралю ехаць. Куды? На чым? Кароль агледзеўся, як шукаючы транспарт. Зімавец падхапіў яго пад руку і паказаў на «газік», што стаяў воддаль.

— А ў нас сваё таксі,— Андрэй кіўнуў на розвалы.

Кароль здзівіўся:

— Малы? А хто ж у санях? Далібог, Міна?!

Падышлі да Міны. Кароль папросту, як мужык мужыка ці сваяк сваяка, абхапіў егера за плечы, весела

страсянуў, вытрас з яго санлівасць, і тады Міна споўз з розвалаў.

— Паедзем, Рыгор Фаміч,— прыспешваў Зімавец, быццам недзе, іх чакаючы, даўно стыла бульба.

Кароль сумнавата паглядзеў на Зімаўца.

— Не, дырэктар. Слёзна прашу, адпусці маю старую душу ў Мінаў гаёчак. Хоць даўно ў лесніках, а лес забываю. Усё сходы, пленумы, даклады. Можа, ложак у вальеры мне знойдзеце?..

З першага пагляду і не сказаў бы, што Кароль начальнік над Зімаўцом, над Мінам, што мае права камандаваць імі. Гэта Андрэя ўражвала, здзіўляла. Голас, позіркі, словы, усе Каралёвы звычкі былі такія, што побач з ім ніхто не адчуваў сябе ніжэйшым, скаваным, падначаленым яго ўладзе, аўтарытэту. З Мінам размова ў яго ладзілася простая, пра нейкія звычайныя, можа, неабавязковыя рэчы — нораў Малога, яго вупраж, кармы ў вальеры, здароўе Барына і Пані, іх апошнюю ліньку,— пра ўсё тое, што роілася ў галаве ў самога Міны; з Алёнкай Кароль размаўляў весела, дасціпна, з тонкімі намёкамі і жартамі; Андрэю пацiскам рукі даў зразумець, што іх няроўныя гады — не перашкода, каб быць шчырымі; а Зімаўцу ён ні ў чым не пярэчыў, наадварот — чакаў яго каманды, яго важкага слова, нібы самахоць памяняўся з ім пасадамі, і, як не маючы права вырашаць самастойна, прасіў, каб той не няволіў яго душы, адпусціў у Асечу, у Мінаву лесавуху.

— Сёння якая работа? Нядзеля.

— І аблава,— паабяцаў Зімавец.

— Тым больш!

Мост над Сажом і зарэчны луг Малы адмахаў хутка, ляцеў — нібы з кімсьці нябачным навыперадкі. Каля лесу Міна пусціў каня з шашы ў неруш, і там, пад адхонам, весела праламаўшы крохкі, нібы яечная шкарлупіна, лядок вымерзлага да дна ставочка, яны выехалі на ледзь натораны след, які завёў у стромы, падгалы сасновы бор. Зноў і зноў Малы траціў пад капытамі накат, выбіваўся на цалік. Кароль весела пытаўся ў Міны:

— Куды, Сусанін, вязеш?

Дзе пачыналіся зляжалыя, прыбітыя вятрамі снягі, там Малы зноў набіраў разгон, і Кароль рагатаў, нібы маладзейшы за ўсіх:

— Ну, Міна! Ты сёння радуеш! — рагатаў і ма-

ліў: — Пусці лейцы, Міна! Дай волю Маламу! За мяне, старога, не бойся. Не рассыплюся!

Міна пускаў лейцы, і Малы, не мяняючы алюр — ён наогул не любіў збівацца з рысістага спорнага бегу,— гарачэў, заводзіўся, шалеў ад пачутай волі. Камякі снегу зрываліся з гарачых капытоў, заляплівалі Міну кажух і твар, але егер ёмка стаяў наўколенцах з лейцамі ў руках, хілячыся то ўлева, то ўправа, рукавіцаю засланяючы твар, і калі снегавая карцеч не пацэльвала па ім, то міма яго сыпала па астатніх, хто сядзеў і ляжаў за спіною. Малы, як застаяўшыся, радаваўся волі, сваёй маладой сіле, свежай раніцы і зусім неласкава абыходзіўся са сваімі пакорлівымі ездакамі. Ледзь не перайшоў на галоп, ды лейцы не далі залішняй волі, асадзілі. Ужо Кароль замоўк, як знямог, ніцма ляжаў каля Міны, тулячы твар у сена, баючыся цупкіх камякоў снегу, а Алёнка, аберуч ухапіўшыся за Андрэя, войкала і прасіла-маліла: «Трымай мяне, Андрэйка!..» Потым і яна заціхла, як змаглася. Але... за першымі жахамі яна адчула незвычайную асалоду забытай з гадамі, з маленства любай, нібы самая дзіўная казка, язды.

Нарэшце Малы сам запаволіў бег. Шэрыя камлі хвой цішэй паплылі ў вачах і ў той мігатлівай сцяне, у якой былі сплыліся, зноў разабраліся паасобку, паяснелі і пачысцелі. Алёнка тварам уткнулася Андрэю ў грудзі, шаптала, няроўным дыханнем перапыняючы свае думкі і словы:

— Ой!.. Сп'янела... Усё кружыцца!..

А ён глядзеў ёй у твар, на яе белую, нібы снег, з пушыстага махеру, хустку, на белы заечы каўнерык яе даўгаватага, па модзе, паліто і шчасліва ўсміхаўся ад таго, што яна зноў з ім, свежая і чыстая, як зіма ў Лісані, што на нагах у яе валёнкі-катаначкі, што сп'янела ад вясёлай язды, што ён сам адчуваў у галаве гарачы і хмельны, як пацалунак, шум.

Ужо ехалі паўз агароджу вальеры, пад'язджалі да брамы, як раптам Міна заваліўся спіною назад, моцна напяў лейцы, ажно конь храпануў, прысеў на абабкі, назад тузануў розвалы. Міна скінуў лейцы Каралю і кумільгам вывернуўся ў снег, пад агароджу.

— Што там, Міна?! — крыкнуў Кароль.

— Бяда пахадзіла!..

Міна ўскочыў у розвалы, злосна сцебануў лейцамі Малога, той, нібы ачмурэлы, кінуўся на хвою, але

нейкім цудам паспеў вывернуцца, адно розвалы з лёту крылом выцяў аб дрэва і мігам вынес да брамы.

— Адчыняй!.. — невядома каму закрычаў Міна.

Ля егерскай хаціны алені збіліся ў табун, ціснуліся, калоцячыся, адзін да аднаго. Пачуўшы і ўбачыўшы каня і людзей, яны, як па камандзе, шаматнулі ў лес, а Барын застаўся пад акном, быццам не чуў ні каня, ні людзей.

Пад акном на баку ляжала Пані, спіною прыцяўшыся да бярвён хаты, адкінуўшы доўгія сухія ногі, і Барын, нізка схіліўшы галаву, заінелай мысаю вадзіў па яе мысе, абнюхваў і аблізваў, саграваў цёплым дыханнем. Калі людзі наблізіліся, Барын павольна павярнуў галаву, паглядзеў на іх сумнымі вільготнымі вачыма і адышоў пад хвою. З яго дрыготкіх храпаў пыхкала белая пара.

Чырвонае, нібы крывяная пляма, сонца ўзыходзіла над пушчаю. Яно ўжо сядзела на далёкім зубчастым грэбені лесу, ліло кволую ружовасць на ўзгорак, хвоі, хату, запальвала чырвоны агонь у шыбах, і такім жа чырвоным агнём, нібы распаленым вугалем, гарэла вялізнае круглае вока алянухі.

Міна ўкленчыў перад ёю, узяў у рукі яшчэ цёплую галаву і асцярожна, далоняю, закрыў вочы.

Блізка загула машына.

Міна адвярнуў на шыі алянухі чырвоную ліпкую поўсць — пад ёю крывянела рваная рана.

— Не магу.— Алёнка тварам уткнулася ў плячо Андрэю.

— Не глядзі.

Ён і сам не мог бачыць Пані, апошнюю з тых алянух, што першымі абжывалі Асечу дзесяць гадоў назад. Кожны год у пакутах і радасці яна старанліва множыла табун, а цяпер ляжала мёртвая, заліўшы крывёю сцяну егеравай хаціны, аб'ехаўшы па ёй на мёрзлы дол.

— Ваўкі? — парушыў доўгае маўчанне Кароль.

За спінамі тахкаў матор.

— Тыя самыя.

— Якія? — не зразумеў Кароль.

— Якіх берaглі высокаму госцю,— праз сцятыя зубы прабурчаў Міна і пайшоў у хату.

За спіною прарыпелі і сціхлі борздыя цяжкія крокі. Андрэй пазнаў іх — Васілёвы,— але не азірнуўся, адно падумаў: «Значыць, ехаў следам?..»

У акне, пад якім ляжала алянуха, ён заўважыў дзве хлапечыя галавы, чарнявую і бялявую,— два спалоханыя тварыкі.

— Ідзём адсюль,— прашаптала Алёнка.

Яны пераступілі парог.

У хаце, насупраць парога, у вочы ім адразу кінулася акно спальні: у тым акне па-над зубчастай лясной грываю палала сонца — на Андрэя і Алёнку, на Міну, на Юрася і Дзімку яно глядзела да болю пякучым, вялізным і чырвоным вокам самой алянухі Пані.

5

Іх было трое: мацёры воўк, старая ваўчыца і пераярак, целам ужо амаль роўны са старымі, хоць па маладосці яшчэ нявопытны ў блытанках жыцця, якое яму падарыла прырода, часам і зусім як дурнаваты, што сляпое вясновае ваўчаня на лагве.

То подбегам, то ціхай хадою, зберагаючы сілы, яны лучалі след у след. Паперадзе — ваўчыца, за ёю — малады, а замыкаў сямейную тройку мацёры.

Калі малады збіваўся са следу, мацёры злаваў, наганяў яго і вострым клыччам хапаў за сцёгны; тады пераярак спахопліваўся і, ужо дакладна патрапляючы ўсімі чатырма ў сляды ваўчыцы, кідаўся ўперад, ад клыкоў мацёрага; але ваўчыца, чуючы сварку, запавольвала хаду, спынялася, незадаволена азіралася на маладога, і пераярку было досыць яе грознага выгляду, каб зразумець, што ў яго яшчэ зусім небагата правоў і няма іншага выйсця, як скарыцца старой і старому. Ён боязна заміраў на следзе, дрыгатлівай скураю паказваў вернасць спрадвечнаму сямейнаму парадку, і тады ваўчыца ішла далей, супакойваўся мацёры, зноў адзін за адным, след у след, яны доўжылі сваю цяжкую дарогу.

Ваўкі былі галодныя, злосныя.

Ад восені, калі старыя прывялі маладога пад Лісань, дзе гадоў дзесяць назад самі першы раз убачылі свет, штодзень жылі ў трывозе і неаднойчы насілі пустыя падцятыя жываты. Не таму галадалі, што збяднела пушча, яна не збяднела, жывога мяса развялося, але цяпер ваўкі ўсюды адчувалі за спінамі пагоню, якой не ведалі раней, ім усюды пахла чалавекам, яго смуродлівымі стрэльбамі, чалавек зрабіўся надта ўпарты ў сваёй жорсткасці да іх, ваўкоў, і

варта было даць след, як неўзабаве на тым следзе з'яўляліся машыны, сабакі, людзі, пачынала смуродзіць агнём і порахам. Ваўкі, вядома, маглі б пакінуць небяспечны лес, як пакідалі яго неаднойчы, але дзе цяпер пражывеш спакойна? Нідзе. Ды і нарадзіліся тут, у Дзебры, родны кут вабіў да сябе, бо родны — заўсёды нібыта цяплейшы. Спадзяваліся на спагадлівую зіму, на снег, які сыпаў штодня, хаваў сляды. Праўда, бывалі дні без снегу і ветру. Тады ваўкі даўжэй ляжалі ў гушчары, адсыпаліся, цярпліва чакалі свайго часу — сытнага ці смяротнага.

А мінулай ноччу яны адчулі, што Дзебра больш не ўратуе, трэба адсюль вымятацца, пакуль не позна, шукаць новыя лёжкі — глушэйшыя. Апошнія дні блізка пачалі сноўдаць людзі, гурчэлі машыны — іх галасы ўжо колькі разоў даносіў вецер. І той начны голас трывожыў. Усё ж — выў не воўк. Што ваўкоў, акрамя іх, блізка не вадзілася — мацёры і ваўчыца добра ведалі па сваіх знаках. Ваўчыным голасам гукаў чалавек, а гэта зноў падганяла: бегчы, хутчэй бегчы. Не было, на жаль, парошы. Ноч адлежалі ў Дзебры. І дзень. І яшчэ адну ноч. Пад раніцу падняліся.

На рэдзінах пачыналі кружыць белыя мухі — мог разгуляцца снег. І ваўкі рушылі супраць ветру, каб чуць, што там — наперадзе, куды ішлі.

Неўзабаве вецер данёс дух жывой аленяй поўсці, лёжкі. Ваўкі спыніліся, аблізнуліся і замерлі — чакалі новага павеву ветру. Дачакаўшыся, зноў аблізнуліся, пераглянуліся, адно аднаго зразумелі, як разумеюць галодныя галодных, і старая павяла далей.

Салодкі дух, ад якога плыла сліна, прывёў да высокай агароджы. Мацёры і мацёрая адразу пазналі сцяну, бо неаднойчы крышылі аб яе зубы. Разы два ўдавалася забрацца ў вальеру: то падкопам, выдраўшы пад агароджай дзірку, а то праз лавушку, збудаваную на аленяў. Праз лавушку ісці заўсёды баяліся, бо назад з вальеры яна, хітрая, не пускала, шчацінілася ў грудзі канцамі жэрдак. Але ж і падкапацца нялёгка. Іншая справа — у цёплыя дні, калі зямля мяккая.

А дзе яшчэ дзірка ў вальеру? Больш не было.

І ваўкі пачалі падкопвацца пад агароджу.

Першай капала ваўчыца. Але яна, старая, хутка стамілася, адышла ўбок, саступіла месца мацёраму.

Той быў у гадах таксама, але яму прырода дала шырокія дзябёлыя грудзі, якімі ён яшчэ і цяпер валіў любога аленя, дужыя заднія ногі, вялізныя, нібы лапаты, лапы, ды і сілы не растрачваў у родах, як ваўчыца, якая дарыла пушчы і па пяць, і па шэсць, і нават — бывалі гады — па восем ваўчанят. Мацёры прабіўся да лядовай скарынкі, якою зямля заплыла ад восені, дзерануў яе кіпцямі, пасля клыччам, з ёю разам выдраў кавалак мерзлаты, аж балюча зрабілася ў пашчы. Фыркаючы, саступіў месца пераярку.

Пераярак першы раз меў справу з мерзляком, але, па-маладому гарачы, ён заўзята выдзіраў зямлю лапамі, выгрызаў зубамі, стаміўшыся, сеў перавесці дыханне, нават надумаў выскачыць з ямы, як гэта рабілі стары і старая, калі стамляліся, ды ваўчыца злосна рыкнула, носам саўганула яму ў бачыну — прымусіла рыць далей. Пераярак спацеў. Поўсць з шэрай зрабілася бурая, асабліва на грудзях і баках, счарнела, а спіна ссівела — за вільготную поўсць чапляўся мароз. Калі ваўчыца заўважыла, што малады попусту дзярэ зямлю, яна турнула яго з ямы, сама заняла месца.

Зямля пайшла мяккая — глыбокі снег усё ж не даў ёй вельмі прамерзнуць.

Пагрэбшы зямлю, ваўчыца абнюхала драўляны падвалак. Ён тхнуў гніллю. Яна саўганула ў падвалак носам, падчапіла зубамі — трухлявая гарката набілася ў пашчу. Адрыгнуўшы яе са слінаю разам, ваўчыца зноў пачала грызці дрэва, ды раптам адскочыла — разанула нешта вострае. Аблізаўшы гаркавую, ад іржы ды гнілі, салёную ад крыві рану, старая зноў, ужо асцярожна, кранула носам падвалак і пачула на ім дрот — востры, вусаты, настылы. Усунула ў дзірку лапу, дзеранула слабое дрэва. Яно было не гэтакае слабое, як падалося спачатку. Дзе трухлявае, а на суччы моцнае, што косць. Усё ж стары воўк зрабіў дзірку, такую, каб убіцца не аднаму танкляваму пераярку ці ўсохлай ваўчыцы, але і самому — галавастаму, шыракагрудаму.

Прабраўшыся ў вальеру, яны селі, доўга сядзелі, прыслухоўваючыся да лясных шолахаў, маліліся на поўню блішчастымі, як ад слёз, вачыма, потым старая стрэсла з сябе снег і павяла сям'ю далей.

У паветры плаваў сухі пячны водар, казытаў у носе. Ваўчыца крута звярнула ўбок, каб абысці еге-

раву хаціну, і выйшла да рэчкі. Смягла ў пашчы, пяршыла ў горле. Але вада хавалася пад лёдам. Ваўчыца сунула пашчу ў чысты снег, аблізалася, выпусціла наперад старога. Ён быў з вастрэйшым слыхам, танчэйшым нюхам і тут, дзе была патрэба далёка чуць і бачыць, хутчэй мог навесці на лёжку аленяў.

Стары даўно вывучыў тутэйшыя ельнікі, ведаў усе вальерныя лёжкі. Але ён не спяшаўся шыцца ў гушчар, лёжкі пакуль што абыходзіў, кружыў вакол, часта спыняўся, глытаў паветра, глядзеў на счарнелы снег.

Раптам у нос рэзка дыхнула алянінаю — ён спыніўся, стаяў з хвіліну. Ветру не чуў, чуў ледзь улоўны рух паветра, але і яго старому хапала, каб дух аленяў ужо сагрэў нутро. Абвёў ваўчыцу і пераярка вакол яловай курціны, потым яшчэ раз, сціскаючы круг, нібы спружыну, вакол аленяў, сеў, павярнуў голаў да ваўчыцы — аблізнуўся. Тая паглядзела на яго і аблізнулася таксама. Стары ўстаў і павёў пераярка. Старая засталася адна.

Высока над лесам ззяла поўня, але не ад яе святлела па ельніках — блізілася раніца.

Пачуўшы ваўкоў, алені ўсхапіліся на ногі, шаснулі з гушчару на прагал. Пераярак, нібы дурны дварняк, кінуўся за табуном. Але мацёры галавы не страціў. Ён адразу заўважыў старую камолую алянуху, якая не паспела ўсхапіцца разам з усімі, заседзелася ў ельніку,— адсек яе ад табуна. Гэта была матка ўсіх аленяў. За ёю, як і за яе рагалём, мацёры і ваўчыца даўно палявалі, бо, пакуль жылі старыя алені, ваўкам было цяжка зладзіць з маладняком — старыя трымалі маладняк адным гуртам, выводзілі на адкрытае месца і там ужо блізка не падпускалі ваўкоў.

Цяпер камолая апынулася перад сваёй смерцю адна, без табуна. Праўда, яна паспела выскачыць з ельніку, зрабіла некалькі лёгкіх скачкоў па цвярдзейшым скапычаным доле, была ўжо на прагалку, але далей дарогу перакрыла ваўчыца. Алянуха павярнула назад — з другога боку стаяў мацёры. Тады яна, адчуўшы, што ваўчыца сама слабая, кінулася на яе. Тая ад нечаканасці ўзвілася і не паспела дастаць зубамі сцягно — алянуха шыбанула да рэчкі, дзе прастора. Але напярэймы ішоў мацёры. Дакладна разлічыўшы кожны крок, ён дастаў камолую якраз у той момант, калі яна сігала цераз рэчку. Магут-

нымі грудзьмі ўдарыў ёй у бок, зваліў і сам адскочыў, адчуўшы востры капыт. Хутка ўсё ж падхапіўся, паспеў пусціць клычча ў гарачае горла, самае кволае месца алянухі, ажно там хруснула і... палілося. І калі здавалася, што алянуха, абліваючыся крывёю, ужо не ўстане, яна ўсё ж ускочыла на ногі і, невядома дзе беручы сілы, кінулася ад рэчкі міма стога, пакідаючы на снезе чырвоную сцежку. Мацёры нагнаў бы яе, бо быў раз'юшаны, наліўся злосцю — лютая злосць, множачы сілы, неаднойчы рабіла яго пераможцам у гэтакіх паядынках,— ды раптам у нос дало гаркавым дымам чалавечага жытла: воўк скалануўся ад нечаканасці і ўвесь дробна-дробна закалаціўся.

А тым часам камолая ўжо была на ўзгорку, і адтуль, з таго ўзгорка, двума блішчастымі вокнамі, быццам грознымі вачыма, у мацёрага цэлілася егерава хата.

Развіднялася. Чуліся людскія галасы, конскі храп...

Усё гэта адбылося пад раніцу, нядаўна. А цяпер... за лесам пачыналася роўнае белае поле, за полем віднеўся таксама лес. Трэба было дабрацца да таго лесу, за ім перасекчы яшчэ адно белае поле, невялікае кружала, абмінуць дзве вёскі, разам з імі абысці ўсіх людзей і сабак, і толькі потым можна было залегчы ў якім гушчары, спаць да наступнай ночы. Але сіл не ставала — ваўкі ледзь валакліся. Трымаліся свежых намётаў, дзе дуйка — разгоністы нізавы вецер — мяла снежныя касмылі, звівала іх у кожнай яміне, у кожным следзе — раўняла бялюткія снегавыя кілімы.

Нарэшце ваўкі давалакліся да сваіх старых хованак на Іржаўскіх балотах.

Мацёры ляжаў на баку, адкінуўшы хвост і лапы, сумна хліпаў мокрымі жоўтымі вачмі, чмыхаў носам, аблізваўся — на пашчы яшчэ чулася кроў алянухі.

Пах крыві не даваў спакою і старой. Яна ляжала на грудзях з мацёрым побач, галава ля галавы, глядзела яму ў вочы і разы тры лізнула халодным языком яго смачна пасоленую пашчу. Алянуха мроілася абаім, мроі наганялі санлівасць, хоць і сну не было — адна кволасць.

У баку ад вывараці, журботна заплюшчыўшы вочы, сядзеў пераярак. Ён думаў аб тым, што ў вальеры, калі б не пагнаўся за табуном, алянуха ад яго не ўцякла б, як уцякла ад старых. Але ж ён стараўся. Ён увесь табун гнаў цераз вальеру. Два разы атрымаў

па зубах капытом, а потым яшчэ і рагамі яго пакацілі, вострымі, нібы нажы,— стары рагач пакаціў. Яшчэ і цяпер цела садніла.

Надвор'е пасля ночы змянілася. Унізе, пад вывараццю, трымаўся зацішак, а ўверсе ўсё скігатала, гуло, дрэвы рыпелі, гайдаліся, быццам п'яныя, ледзь трымаліся на нагах, упіраючыся супраць ветру. Пераярак расплюшчыў вочы, лізнуў паміж лапаў снег і падаўся ў хмызняк. Ні мацёры, ні ваўчыца яго не запынілі, і ён прадраўся праз гушчар на пагорак, праваліўся, спускаючыся з яго, у глыбокі снег, пакаціўся ў яміну. Падняўся, атросся, прыслухаўся, наставіўшы вушы, заўважыў насупраць, пад ялінаю, заечую сцежку. Лёг на сцежку і доўга ляжаў — не было ні сілы, ні ахвоты ўставаць, ісці назад ці ўперад. Уперад не хацелася — каб не адбіцца ад старых, а назад — не хацеў іх, сварлівых, бачыць.

Неўзабаве зноў звечарэла: кароткія ўзімку дні.

За ямінаю, куды пераярак скаціўся, пачыналася прагаліна — там гуляў вецер. Яго зыкі закалыхвалі.

З ветрам, што плыў ад прагалка, павеяла кіслай цяплынню, быццам блізка мачыўся заяц. Пераярак задам абсунуўся пад яліну, увесь прыкіпеў да снегу. Ляжаў і не дыхаў. Нарэшце ён заўважыў беляка. Той бег і спыніўся, азірнуўся, натапырыў вушы, потым зноў паклаў іх на спіну і, забыўшы пра асцярожнасць, паскакаў.

Апошняе начное паляванне падказвала, што трэба мець вытрымку, і цяпер пераярак не кінуўся заўчасна з засідкі, цярпліва чакаў. Калі бяляк сам апынуўся ў яго перад носам, нічога не заставалася, як накрыць касога лапаю. Пасля доўга ляжаў на ім, в асалодаю ўдыхаў заечую кроў, якая прыемна хмеліла, саграваала. Пераярак не адважваўся адзін свежаваць здабычу, хоць яна была яго здабычаю, яе трэба было несці да мацёрага і ваўчыцы — гэты закон пушчы малады воўк ужо ведаў,— але цяпер мог хоць лізнуць цёплай крыві, і ён, можа, доўга б ляжаў на зайцы, калі б раптам не заўважыў за кустамі штосьці рыжае. Соўгаючы носам у снег, па заечым следзе каціўся ліс: пэўна, таксама галодны, гнаўся за зайцам. Большая, чым у зайца, асцярожнасць час ад часу стрымлівала яго, ён спыняўся, азіраўся па баках, да ўсяго прыслухоўваўся, але голад зноў гнаў па следзе. Вось ужо ліс перасек прагалак, нырнуў у яміну,

выскачыў, азірнуўся, скокнуў яшчэ раз, яшчэ — і... нагнаў-такі беляка... пад лапамі ў воўка.

Усё мацней і трывожней скуголіла мяцеліца. Вецер навальваўся на дрэвы: яны гулі, рыпелі, гайдаліся і страсалі з сябе лішні снег, засыпаючы пераярка. Паклаўшы пярэднія лапы і галаву на трафеі, ён ляжаў зняможаны, але горды, ужо не чуючы ні голаду, ні страху перад мацёрым і ваўчыцаю, не чуў нават снегу, які на яго сыпаў і сыпаў.

У салодкім паўзабыцці, скрозь цёплую, як матчына цыцка, мрою, да маладога воўка прыходзіла доўгачаканае адчуванне сваёй прыроднай сілы, роўнасці з усім жывым светам, з усёй прыродаю, з мацёрым і ваўчыцаю, і гэтае запозненае адчуванне рабіла яго самай шчаслівай істотаю ва ўсёй пушчы.

## НАЧНЫЯ ПТУШКІ

### 1

Снег ляжаў глыбокі, топкі, дзе ў калена, дзе вышай, а надоечы зноў валіў, зрэдку перасціхаючы, усе сляды пахаваў, і Сібірка, здаровая белая лайка, ледзь закураная рудаватым дымком, зусім не мела ахвоты гойсаць па лесе. Ды яшчэ бачачы, што гаспадар у лес прыйшоў без стрэльбы, з сякераю на дзязе пад кажухом, і звера, якога яна магла ўспароць з лёжкі, сякераю не астудзіць. Макар ужо сам пашкадаваў, што не прыхапіў Міцькаву аднастволку — Сібірка была б жвавейшая. Праўда, каманды яна слухалася. Калі загадваў: «Сібірка, шукай!..» — дык клала чорны лычык на снег, прынюхвалася і, вільнуўшы па-воўчы распушаным хвастом, знікала ў гушчары. Але кожны раз хутка вярталася назад, не даўшы і паўкруга, не падняўшы тую ласіную пару, сахатага і лошу, якіх шукаў Макар.

«Няўжо не начавалі? Аблюбавалі іншы лес? Не можа быць»,— думаў ён і зноў пасылаў Сібірку: «Шукай! Ну?!.»

Ласі былі не маладыя, у Макаравым абходзе адной параю жылі ўжо гадоў пяць, і ўсё ў маладняку, дзе ён цяпер стаяў, застрахнуўшы сякеру ў стары збуцвелы пень. Летам знікалі, а на зіму з'яўляліся,

карміліся ў абходзе па алешніках ды асінніках, якія багата раслі на нізкіх мясцінах, у неглыбокія снягі дабіраліся да палеглага верасу, ягельніку, чарнічніку, пасліся ў багунах, які месцамі густа стаяў паўз Трасцінку. Сюды іх вабіла тое, што пераносіць сцюжу ды голад ім пасабляў Макар: на рэчцы ён прабіваў палонкі, лаяў Сібірку, калі тая, заскочыўшы наперад, сляпіцаю лезла ў рахманыя ласіныя вочы, усчынала басавіты брэх, дзе-небудзь на пні пакідаў акрайчык хлеба, ссякаў маладыя алешыны ды асіны, каб ласі павастрылі зубы, а то прывозіў ці прыносіў мех з дробненькім сенам, за рагі падвешваў да дрэва — у мяху абавязкова была дзірка, і праз яе галодныя ласі, ён і яна, па чарзе выскубалі сена.

Гэтак жылі, адно аднаго пільнуючы. Ляснік — ласёў, ласі — лесніка.

— Ну што, Сібірка? Не знайшла?

Лайка церлася бокам аб мяккія Макаравы катанкі, вінавата скавытала. Макар браўся за сякеру.

Маладняк, які вабіў да сябе ласёў і ў якім цяпер стаяў Макар, загусцеў, месцамі — не праломішся, не ўсе сасонкі ў ім маглі ўгнацца за бярозкамі ды алешынамі, лісцвяныя глушылі асноўную пароду, не давалі ёй на сонца глянуць, і сёлета Макар мусіў тут прачысціць, дзе што павысякаць — асіны, вольхі ды бярозы, дзе-нідзе і сасонкі, якія то скрывіліся, прыгнечаныя суседкамі, то ўдаліся камлістымі ды збежыстымі, то гналі сваю сілу ў суччa, шчаціміліся, нібыта ваўкі, ці зусім зачахлі, у рост не пайшлі. Але цяпер іншы клопат прывёў Макара. Учора надвечар, калі Саша прывёз дамоў Алёну, Макар дазнаўся ад дзяцей, што ваўкі зарэзалі аляnуху Пані, што іх сляды павялі далёка праз пушчу, згубіліся ў завірушным полі — Сашка сам быў пайшоў па слядах і вярнуўся,— што разам з Алёнай, адным аўтобусам, прыехаў Кароль, якому Зімавец рыхтаваў аблаву, і яшчэ — што замест аблавы яны будуць паляваць на ласёў. Ад Сашкі Макар дазнаўся самае жахлівае — што збіраюцца абкладаць яго, Макаравых, сахатага і лошу, якіх даўно высачылі і Рысеў, і Марцыёнак.

Макар не спаў усю ноч. Думаў, як уратаваць ласёў.

Нават радасці не адчуў, што дачка дома. Яна бацькаву нуду заўважыла, спытала, чаму журботны, мо баліць што, ды ён нават ёй не сказаў пра свой боль.

6*

Цяпер мусіў хутчэй адшукаць ласёў, пакуль ціха, ды Сібірка, як назло, не лезла ў снег.

Макар схапіўся за сякеру. Ён ведаў сваіх ласёў — яны ні чалавека, ні сабакі не баяцца гэтак, як баяцца стрэлу, ляскату сякеры, шоргату пілы.

Рэдзіць маладняк, ды яшчэ сякераю, ды ў гэтакі снег, было немагчыма, але ён выбраў грудок на самым ветры, дзе снег павымятала нават з-пад дрэў. Выбіраў то бярэзіну, то алешыну, а дзе і сасонку, калі яна забылася, як трэба расці, даваў волю тым дрэвам, асабліва сасонкам, што праглі неба, вышыні, былі гатовыя пазмагацца за свой заўтрашні дзень і гэтым падабаліся чалавеку. Дрэўцы былі ўжо таўставатыя, іх бы валіць пілою, а сякераю — машы ды машы, яна ж яшчэ і адскоквала ад мёрзлага дрэва. Затое па мёрзлым сякера чахкала звонка, як па жалезе жалезам, аж увесь лес звінеў. Намахаўшыся, Макар сціхаў, прыслухоўваўся, ці не чуваць якіх іншых гукаў. Ціха было ў лесе. Разагрэўшыся, скінуў кажух, скінуў шапку, скінуў рукавіцы — зноў замахаў, толькі пот з ілба аціраў рукавом світэра.

Раптам залілася брэхам Сібірка — Макар апусціў сякеру. Сучка брахала зусім недалёка, і ўсё на адным месцы. Заходзілася.

Насунуўшы на голаў шапку, накінуўшы на плечы кажух, сякеру запхнуўшы пад дзягу, Макар кінуўся ў той бок — на брэх.

Сібірка трымала ласёў. Усё ж узбілася на іх лёжку. Ці яны самі ўсхапіліся ад ляскату? Стаялі на адным месцы, а сучка, загарадзіўшы дарогу, падскоквала і залівалася брэхам перад іхнімі гарбаносымі мордамі.

— Сібірка! Ну!.. Маўчы!..

Тая не сунімалася. Макар кінуўся да яе, каб адагнаць, а ласі, тулячыся адно да аднаго, шарахнуліся ад Макара, і сучка зноў заскочыла напярэймы.

— Сібір... воўчае мяса!..

Яна заенчыла, адчуўшы, як зазлаваў на яе гаспадар, была зноў залілася брэхам, ды ўжо нясмела, збіваючыся. Макар схапіў яе за карак, паваліў да ног, загадаў ляжаць, і яна не падымалася, ажно нервова, дрыжучы, поўзала ля яго ног на пузе, падмятала снег хвастом ды скігатала, як падбітая.

Лоша, а за ёю сахаты нетаропка падаліся з малад-

няку на квартальную прасеку, за якою пачынаўся вячысты яловы лес — Такавішча.

Раніца была ў самай сіле, але не паказвала ні яснага неба, ні сонца. Церусіў, а дзе, на прагалах, на ветры, звіваўся ў круцялі рэдкі снег, з долу ўзвіхурваліся белыя хвасты, шугалі ў яліны, з ялін таксама змятаўся і віхурыўся сыпкі снег, нудна гулі дрэвы. Макар адчуваў, што паляванне сюды наваліцца вось-вось, калі не разладзілася, і разумеў, што ў яго няма іншага выйсця, як хутчэй гнаць ласёў праз Такавішча ў бліжэйшае поле, бо ў лесе сляды будуць трымацца да ночы, а ў полі нават малы вецер замяце мігам, асабліва сёння, калі падсыпае снег, і ўжо там ласёў ніхто не знойдзе.

І ён пагнаў.

Сібірка цяпер замінала. Яна не магла ісці недзе следам за чалавекам і зверам, ды яшчэ моўчкі, увесь час заскоквала напярэймы ласям, брахала, і ласі спыняліся, не ішлі. Пакуль Макар вяртаў сучку назад, бег час, ды і брэхам, які разлягаўся далёка па лесе, сучка магла нашкодзіць. Макар зноў і зноў лавіў яе за карак, клаў на снег, загадваў ляжаць, а яна, паляжаўшы, усхоплівалася. Ён распеpазаўся, нажом прабіў у дзязе дзірачку, як Сібірцы на шыю, паспрабаваў узяць суку на дзягу, ды шыя ў Сібіркі была таўстая, шырэйшая за галаву, малую і вострую, любы ашыйнік спаўзаў, не трымаўся — з-за гэтага Макар ніколі і не чапляў на Сібірку ашыйніка, хоць Марцыёнак колькі разоў папярэджваў, што застрэліць сучку, калі на ёй не будзе ашыйніка. Як начэпіш, калі гэтакая шыя? Усё ж, калі Сібірку пускаў паперадзе, то нейкі час дзяга на ёй трымалася, і пакуль трымалася — Макар не выпускаў яе з рук.

Цяжка было мясіць глыбокі снег. Макар груз у ім па калені, а дзе і па пояс, колькі разоў падаў, увесь выкачаўся, але мусіў спяшацца — таропка падхопліваўся. Калі Сібірка цягнула на дзязе ўперад, яна пасабляла ісці Макару, але, закруціўшыся, скідала з галавы дзягу, і Макар зноў мусіў яе лавіць — сілы выматвала. А тут яшчэ і ласі не ішлі куды трэба. Яны чулі наперадзе поле, завею, халадэчу і ўсё наровілі звярнуць у глыбіню Такавішча, дзе зацішней, цяплей. Макару зноў і зноў, ужо самому, даводзілася спускаць Сібірку з дзягі, каб заскочыла ласям наперад, не пускала ў глыб лесу. Гэта яна рабіла выдатна.

Поле, адкрытае ўсім вятрам, голае, сустрэла іх моцным ветрам і снегам. Ласям гэта было не даспадобы, яны павярнулі ў лес, і тады Макар зноў даў волю Сібірцы.

Сучка іх запыніла, а ён высек ніштаватую арэхавую хлудзіну, падкраўся да рагаля блізка і ўрэзаў яму па спіне, ажно той без памяці выскачыў у поле і, ужо не раздумваючы, ісці ці не ісці, павёў лошу ў белую каламутную прорву.

Снег на полі быў не такі глыбокі, як у лесе, ды і моцныя вольныя вятры ўпрасавалі яго, ісці па ім здалося лягчэй, але затое тут невыносна сек вецер, біў у твар, у грудзі, аж валіў з ног. Прайшоўшы крокаў дзвесце, Макар быў наважыўся павярнуць назад, аднак не быў упэўнены, што ласі не павернуць таксама, і ён прымусіў сябе ісці, ісці, ісці, не здаючыся ветру, снегу і стоме.

Качанелі рукі. Адно цяпер, у полі, Макар спахапіўся, што недзе пасеяў рукавіцы, можа, там, дзе сек маладняк, дзе скідаў іх, разам з кажухом і шапкаю, узапрэўшы. «Гары яны, рукавіцы». Вярнуцца нават не падумаў, хоць ведаў, што іх або замяце снегам, тады ўжо вясна адшукае, або які паляўнічы, накшталт Рысева, падбярэ ў кішэню — рукавіцы добрыя, на цёплай футры. Сунуў рукі ў кішэні кажуха, каб адышлі, але гэтак ісці было зусім цяжка, і, пастаяўшы, крыху пагрэўшы рукі ў кішэнях, ён зноў выцягнуў іх на волю, адно ўвабраў глыбей у рукавы, зноў падаўся супраць пранізлівага ветру. Цяпер хоць ласі ішлі роўна праз поле, нікуды не зварочвалі, не спыняліся, хоць Сібірка супакоілася, кінула іх, кінула гаўкаць, таксама стамілася, яж язык высалапіла. Макар ужо нёс дзягу ў руцэ, але чым далей ішоў, тым мацней выбіваўся з сіл, месцамі ўжо не ішоў, а біўся са снегам, які вязаў ногі, не пускаў далей ні на крок. Зноў быў наважыўся вярнуцца і зноў падумаў, што тады могуць вярнуцца ласі. «Не, яшчэ трэба ісці, хоць крокаў сто, дзвесце. Не хачу, каб вы, дурныя морды, паміралі. Хоць і злыя на Макара Курнопу. Бачу, што злыя. Думаеце, за што Макар вас зненавідзеў, гоніць са свайго лесу? Сахаты асабліва злосны. О-го, бачыў, як ты, рагаль, на мяне азірнуўся, якой злосцю налілося тваё вока! Ворагам глянуў. Што па спіне дубцом выцяў? А што мне з табою рабіць, калі ты натурысты, не разумееш ні мяне, ні Сібірку? На-

зад не вернешся, зло маючы? Абы жывы быў. І ты, і лоша... Жывіце...»

Такія думкі віравалі ў гарачай галаве, адганялі стому. А душы было цяжэй. Душа ўсё ж баялася: «Няўжо не вернуцца?..»

Вецер збіў Макара з ног, і цяпер ён не спяшаўся падняцца. Ужо нікуды ад яго не адыходзіла Сібірка. Тэпала вакол, правальваючыся ў снег, узбіралася на цвярдзейшы наст, клалася на пуза, матляла хвастом, дыхала цяжка, а вачэй не зводзіла з гаспадара. Ён цёр закачанелыя рукі, соваў іх пад кажух, адаграваў, згінаў і разгінаў пальцы, бачыў, што не адмерзлі, зноў намагаўся падняцца на ногі, ісці за ласямі. Яны ўжо далёка былі ад Макара, але здавалася, што ледзь ідуць, можа, нават стаяць на месцы, мецяць павярнуць назад. Ён доўга глядзеў на іх, пакуль не згубіў з вачэй. Устрывожыўся, але тут жа абрадаваўся, здагадаўшыся, чаму яны зніклі — спусціліся пад адхон, у лагчыну, далёка пайшлі. І слава богу. Макар сунуў рукі пад кажух і яшчэ нейкі час не адводзіў вачэй ад тае белае далечыні, дзе расталі ласі. Яны ўжо не з'яўляліся, не вынырвалі з белае аблогі. І тады ён адчуў моцную стому ў нагах, ва ўсім целе. Зваліўся на бок, спіною да ветру, паклаў перад сабою палявую керзавую сумку, што насіў на плячы, высмаргнуў са скабы раменьчык-заткала, адкінуў верхнюю столку-накрыўку, дастаў з сумкі тэрмас, страсянуў — ён быў пусты. Успомніў, што боршч з'еў учора да каліва, а сёння ў тэрмас не наліў нічога, ідучы ў лес. Затое ў сумцы засталіся ўчарашнія хлеб і сала, загорнутыя ў газету. Тэрмас сунуў назад у сумку, а хлеб і сала падзяліў на дзве часткі — адну Сібірцы, другую сабе.

Жуючы, усё глядзеў у белую далеч. Ласёў не бачыў. Перавёў позірк на снег, на ласіныя сляды, па якіх ішоў з Такавішча. Сляды ўжо ледзь віднеліся мелкімі ямачкамі, і лошыны, і сахатага, а потым, у яго на вачах, знікалі — снег мяло і мяло па доле, замятала-заканапачвала ўсе дзіркі, ямкі, шчыліны. Час ад часу Макар, лежачы, прыслухоўваўся: адно вецер свістаў-скігатаў, ніякіх іншых гукаў не было чуваць.

## 2

У той дзень, калі сканала Пані, у тую ж раніцу ўсе з вальеры хуценька параз'ехаліся-паразышліся. Хто куды. Застаўся сам-насам з бядою адзін Міна. Кароль з Зімаўцом пагналі «газік» па пушчы; Юрася і Дзімку Міна прагнаў дадому сваім ходам, на лыжах; Сашка павёз Алёнку да бацькоў у Ялоўку; Андрэй — з імі разам паехаў да Лісані, а там застаўся ў канторы з Валошкам. Алёнка ўгаворвала ехаць з ёю і Сашкам у Ялоўку — бацькі будуць радыя бачыць яго, тым болей што даўно яго ведаюць. Але Андрэй сароміўся ехаць з ёю да яе бацькоў, паабяцаў, што разам з Валошкам прыедзе пасля. Ён, можа, і апынуўся б у Ялоўцы недзе надвечар, адзін ці з Валошкам, ды Валошка заманіў у Гарадок — карцела паказаць сваю новую машыну. У майстэрні, дзе стаяла машына, на вочы трапіўся электразваршчык, якога Валошка шукаў колькі дзён,— узяліся прываргаць пад станіну сашнік. Дацямна правалэндаліся з сашнікам і ўсяго не зрабілі, канчалі назаўтра з раніцы.

Ужо на другі дзень апоўдні Андрэй і Валошка прыехалі ў Лісань. Душа цягнулася да Алёнкі ў Ялоўку, як сто гадоў не бачыліся, Андрэй адчуваў сябе вінаватым, што другі дзень не з ёю, ды ў Лісані зноў засеў. Толькі яны ў кантору, а за імі, быццам назіркам, Зімавец з Каралём. Забралі Валошку з сабою ў суседні калгас на сход. Андрэю сказалі чакаць — хутка, маўляў, вернуцца. Ён чакаў-чакаў, пакуль убачыў, што сонца на пушчу садзіцца, тады схамянуўся, злосны на ўсіх, а болей — на сябе, што дзень заніштo змарнаваў, зларіў ля канторы спадарожную машыну — у кузаў ускочыў. Закалеў у кузаве. Але ехаў не ўсю дарогу: ад вышкі, з вярсту, шыбаваў пехатою — нагрэўся.

Курнопава хата стаяла пасярэдзіне вёскі, а вёска даўжэразная, не тое што Лісань: Андрэй пакуль дайшоў да Курнопы, мінуў шмат вокан, платоў, шмат з кім сустрэўся і павітаўся, знаёмымі і незнаёмымі. На Лісань яна была падобная хіба тым, што таксама аблюбавала левы бераг Сажа, але атабарылася бліжэй да вады і ў пушчу зашылася глыбей, знайшла самую глушэчу, хоць была і людная, і вясёлая, і не раскіданая абы-як, крыва ды коса, як Лісань, хаты стаялі

нібы пад шнур, абапал адзінай вуліцы. З поўначы вёску атуляў чысты паўвекавы бор, і пабудовы туліліся да яго глухімі сценамі.

Сутонела, калі Андрэй ішоў па вёсцы. Дзе-нідзе ў вокнах запальваліся агні. У некага на двары галодна рыкала карова; у снезе пад плотам валтузіліся сабакі, чорны з белым; мужчына весела, як на пачатку дня, цюкаў сякераю ля новага зруба; парыпваў калаўрот; дзятва з вісгатам яшчэ лётала на санках з гары, дзе хвоі, разам з санкамі правальвалася за хвоямі нібы ў яміну і выскоквала далёка, на Сажы, пралятаючы міма палонкі, над якою з вёдрамі і каромысламі гаманілі жанчыны. Недзе блізка, як падыгрываючы мяцеліцы, спявала радыёла, усім нагадвала, што дзень нядзельны. Ад усяго гэтага Андрэю здавалася, што вёска глядзіць на зіму, снягі і мяцеліцу, як на свята, яе канца не чакае, што тут зіма нікому не надакучае, усім жаданая.

Ужо блізка ад раўнюткага Курнопавага плота Андрэй спыніўся — зводдаль заўважыў Алёнку. У кажуху, вялікай белай хустцы, валёнках, нейкая незнаёмая, яна стаяла за плотам, ля студні, аброслай лёдам і снегам, трымалася за вочап асвера і чагосьці азіралася.

— Андрэй!

Зачапіла знячэўку вядро, яно забрынчала, пустое, адкацілася, падагнанае ветрам.

Ён абхапіў яе, малую ды лёгкую, крутануў вакол сябе і цалаваў пад шум хвой, доўга і горача, нібы даўно не бачыў. А хвоі над Сажом шумелі моцна, як ні ў якім лесе, бо стаялі ўсім вятрам адкрытыя: нібыта хвалі вады ці ветру — пэўна ж ветру — накочваліся на іх і скочваліся.

— А мокры! А халодны!.. Бяжы ў хату!

У сенцах у вочы ўдарыла цемень. Андрэй ішоў, трымаючыся за Алёнку.

Сутонела і ў хаце. Алёнка ўключыла святло. Лямпачка пад столлю кволая, тлелася, але на Андрэя ўсё хатняе адразу дыхнула абжытай людзьмі ўтульнасцю. Мо ад цеплыні, чысціні, парадку, ад грубачкі, за дзверцамі якой па-дамашняму ўтульна гарэлі дровы.

З печы на падлогу саскочыў вялізны белы кот. Сядзеў, лапаю чухаў за чарнявым, як закураным, вухам.

— Ну, распранайся, Андрэй. Будзь як дома,— не надакучаючы ўвагай, каб ён вальней сябе адчуваў,

Алёнка падсела да грубкі, адчыніла дзверцы, пачала качаргою падварушваць дровы.

На печы нехта закрактаў, зашоргаўся, і Андрэй убачыў, як з-за квяцістай шырмачкі, цаляючы нагою на ўслончык, злазіла гаспадыня, абвязаная на крыжы шарсцяной хусткаю. Стала на падлогу, абцягнула рукавы мультавай чырвонай кофты, зашпіліла яе на шыі, падгрэбла пад хусцінку бялявыя валасы, зграбней перавязала на крыжы таўстую хустку, тады толькі павярнулася да Андрэя і ўсміхнулася. І руку падала.

— Я табе, мама, казала... Гэта Андрэй,— пачала не то тлумачыць, не то знаёміць Алёнка, чапляючы на вешалку яго паліто, шапку, няўзнак зіркаючы на маці, чакаючы — што скажа?

— А то я сама не бачу...

Затое пасля надта ўважліва глядзела яму ў вочы, як выглядала ў іх штосьці для сябе новае, не бачанае, ажно яму зрабілася ніякавата. І ён спытаў, каб не маўчаць:

— Рана ж вы на печ залезлі?

— Ат!.. І на печ, і ў печ залезеш, як нямашака клёку,— пажалілася на здароўе цётка Ганна.— Звадзіла Пярэстую да ветэрынара, і ўжо ў крыжы страляе, спасу няма. Ці што нахадзілася, ці што намерзлася?

Цётку Ганну Андрэй ведаў, як і яна яго, праз Макара ды праз Валошку, бо з імі разам бываў некалі і ў вёсцы, і ў хаце. Невялічкая ростам, дзябёлая, чырванашчокая, светлавалосая, з пухлым — не скажаш, што хворая,— тварам, не ў тых яшчэ гадах, каб вельмі крактаць, яна, гаворачы, зіркала то на Андрэя, то на Алёнку, абаім, а болей сама сабе, пасміхалася, і яе ўсмешку Андрэй раскусіў адразу: цётка кеміла, што гэтым разам ён прыехаў не да Макара, не з Валошкам за кампанію, як раней прыязджаў, а да яе дачкі, і хацелася ёй ведаць, што за думкі ў чалавека. Каб яна не пазірала гэтак ліпуча і хітра, Андрэй спытаў пра Макара, пра Міцьку, пра Сашу, хоць усіх перабачыў апошнімі днямі, ды і не раз, распытаў пра Пярэстую, навошта цётка вадзіла яе да ветэрынара, і тая ахвотна паведала, што карове, па яе разліках, трэба цяліцца, а таго і блізка не відаць, завяла пра Сашу, пра Міцьку, пра іх маладую дурасць — не хочуць пасля школы вучыцца,— але думала, як здава-

лася Андрэю, ранейшае, бо ўсё ўглядалася яму ў вочы. Тады ён нагадаў Алёнцы пра вёдры, пакінутыя ля студні і забытыя. Алёнка схамянулася, і яны, апрануўшыся, выйшлі.

Вёдры з вадою ад студні нёс Андрэй; Алёнка паперадзе вытоптвала сцежку, якую мяцеліца тут жа зноў забівала снегам, ішла і азіралася, паказвала, дзе ступіць, каб не шухнуць у неруш. Ён глядзеў і пад ногі, і на яе, больш — на яе, і, загледзеўшыся, не патрапіў у след — нага ўскочыла ў мяккую яміну. Паваліўся на бок, а вёдры кульнуліся, пакаціліся адно за адным. Алёнка, заходзячыся ад смеху, кінулася падымаць яго і сама праваліліся. Андрэй, лежачы на баку, абхапіў яе, усю белую, нібы снегавіка, і рагатаў з ёю разам, праз рогат упарта дапытваючыся — нібы першы раз:

— Любіш? Ну, кажы?!

— Зіму люблю! Снягі, вятры... Мароз люблю!

Мяцеліца накручвала белае прадво на невідочныя верацёны, замятала вёдры, Алёнку і Андрэя, а яны не канчалі гарэзную гульню, пакуль не заўважылі ў вечаровым змроку, як нейкія двое на кані пад'ехалі да хаты, злезлі з воза і адзін узяў пад паху пузаты мех, панёс на ганак, а другі, ці не бацька Алёнчын, прывязаў да частакола лейцы і таксама падаўся ў хату, праз двор.

Пабраўшы вёдры, Андрэй і Алёнка бегма вярнуліся да студні.

Калі яны ўвайшлі ў хату, пакінуўшы вёдры з вадою ў сенцах, ля парога на ўслоне яшчэ ў куртцы, расшпіленай на грудзях, з белай шапкаю на калене сядзеў Валошка, хусцінкаю выціраў мокры высокі лоб, буйныя спацелыя вушы, мокрую, пачырванелую ад каўняра шыю, а ля стала насупраць у аўчыннай камізэлі сядзеў сам гаспадар, апавядаў, як у маладыя гады вяртаўся зімовай пушчаю ў Ялоўку і яго перастрэлі ваўкі, ды хоць бы ноччу, а то сярод белага дня. Казаў нетаропка, гэтаксама нетаропка ўстаў, за руку павітаўся з Андрэем, сеў зноў, выпрастаў на хату стомленыя ногі ў шарсцяных шкарпэтках, працягваў расказваць. Андрэй распрануўся і сеў.

Алёнка, не распранаючыся, прыслнілася да грубкі, падпёрла кулаком галаў і, як усе, слухала бацьку, раз-пораз пагладаючы на Андрэя. Побач з ёю на малым табурэціку ля адчыненых дзверцаў грубкі

сядзела маці, спіною на хату, падварушыла качаргою галавешкі. Падкінула некалькі паленцаў, паставіла качаргу ў кут, тады павярнулася:

— Ат, Макар! Усё жывое, тым часам, ад бога. Не скажу, стварэнне клыкастае. Але ж і людзі, калі на тое, з клыччам.

Дзядзька не пагадзіўся:

— Маўчы, Ганна! Раўню знайшла! Воўк мужыку не таварыш. Гэта цяпер ад яго зацішней, як пастралялі. А было? Забылася? Мужык недарма раней казаў, што пан ды воўк — два зладзюганы ў пушчы.

— Не гэтак мужык казаў. Не зладзюганы.

— А як?

— Пан і воўк — два верхаводы ў пушчы.

— А не ўсё роўна?

Макар упарта не прызнаваў жончыных пярэчанняў, але і яна яго не хацела да канца прызнаваць:

— Ат, Макар! Успомні, тым часам, як я з імі бяседу вяла? Каля Пагарэлішча. Маўчыш? А я помню. Міцечку гадок быў. Кінула яго ў жар звечара. Мігам сыночак мой звяў. Я і аднаго зелля падносіла, і другога — нішто не ратуе. І ты, Макар, дома не начаваў. Загарнула дзіця ў кажухі — у каторы бок кінуцца? За акном мароз-кіпун, аж шыпіць. Маразы ды снягі былі — цяперашнім не раўня, куды люцейшыя. Да Гарадка сем вёрст, да Пагарэлішча — тры. У Гарадку бальніца, а ў Пагарэлішчы — Кулаш. Я бегма ў Пагарэлішча. А вёрсты доўгія, нібы іх хто знарок выцягвае пад нагамі. Мароз пячэ ды ветрабой. Але вось ужо Крутаяр мінула, бачу Кулашаву канцавую страху, акно пад страхою блішчыць ад месяца. І тут мяне ваўкі перанялі. Ды галоў-галоў — цэлая гайня. Тады, у каляды, яны якраз вяселлі вадзілі. Зайшлі наперад, стаяць. Кажуць: «Ну, баба, ідзі да нас». А ў мяне ж на руках Міцечка — куды ісці? Ногі каламі парабіліся. Тады яны да мяне падышлі ўсёй гайняю. Дый блізка. Адзін, самы здаравушчы, каторы важак, лычам мяне порк у бок і яшчэ раз — таўхель. Пакружыў-пакружыў, абнюхаў, а пасля нагу задраў, заднюю... Ну... змачыў ён мяне і адышоў адразу. Другі падышоў, таксама... І гэтак — усе. А я стаю, ледзянею. Ні жывая ні мёртвая.

Цётка Ганна замоўкла.

Вецер шкробся за сцяною, сыпаў па шыбах сухім

снегам, нібы шротам, а то замаўкаў, як падслухоўваў размову ў хаце.

— Ну, а потым? — спытала Алёнка.

— А потым... Ваўкі як адпусцілі мяне, дык я бегма да Кулаша. Ён Міцечку вухам паслухаў, паставіў банькі, даў зелля. Там, каля Міці, я тую ночку і адседзела. А ваўкі... Мне Цімохавіч, Кулаш, тады сказаў: «Гэта яны тваё хворае дзіця пачулі. А ў табе — гаротную матку. Дык адпусцілі. Самі сямейнікі заўзятыя. Дзіця і матка ў іх святыя». Во як Кулаш сказаў. Так што ваўкі ваўкамі, а не кажы, Макар.

Цяпер гаспадар не пярэчыў, як пагадзіўся з жонкаю. Пра ваўкоў яны ўжо не ўспаміналі. Цётка Ганна спытала не мужа — Валошку:

— Адкуль гэта вы разам з маім прыехалі, Пятровіч? З Лісані да нас на ноч гледзячы не едуць.

— З лесу, Ганна,— азваўся муж.

— Ды я ведаю, што з лесу. Кругом лес.

— Калгас перадаваў нам свае барочкі-гаёчкі,— сказаў Валошка.

— Шмат перадалі?

— Абход ладны. Еду, гляджу, а Макар з Такавішча выходзіць. З сякераю, што які разбойнік.

— Ад раніцы ж сядзеў у лесе. Ні свет ні зара ўсхапіўся, папёрся з хаты. Чаго папёрся? Куды? У нядзелю.

— Ты, Ганна, спытай, як ён збунтаваў Зімаўцу паляванне,— усміхнуўся Валошка.

Цётка Ганна насцярожылася:

— Ты што, Макар?..

Гаспадар, як не пачуўшы жонку, зірнуў на дачку, сказаў, каб дала чаго цёплага Сібірцы, якая за дзень згаладалася і намерзлася, а жонцы скамандаваў ставіць на стол. Алёнка запаліла святло ў чыстай палавіне — адтуль яно лінула зыркае, ружаватае ад ружовага шаўковага абажура пад столлю,— зашапталася з маткаю, але не доўга шапталіся, бо Макар іх абсек, каб замест шушукання стол накрывалі, ды не ў святліцы (жанчыны, пэўна, раіліся, ці не накрыць там), а ў пярэднім пакоі, дзе ўжо сядзелі, бо і тут месца ўсім хопіць. Адразу матка матлянулася на кухню, а дачка ўзяла ў качарэжніку вілкі, адставіла ад чалесніка засланку, выставіла з печы на загнетак чыгунок, скінула з яго накрыўку, абхапіла чыгунок анучаю і панесла ў сенцы — даваць Сібірцы. Тут зноў з'явілася гаспады-

ня — павыстаўляла на стол хлеб, сала, гуркі, жаўтлявыя марынаваныя баравічкі, адзін пад адзін, з печы дастала пузаты гаршчок, з яго мужчынам наліла ў паўміскі гарачай, аж дымілася, капусты. Алёнка прынесла з сянец пляшку гарэлкі, а сама, як мяцёлка, зноў выскачыла ў сенцы.

— Скідайце куртку, Пятровіч. Гарачанькага з'ядзім.— Макар устаў, каб узяць у Валошкі куртку, але той сам павесіў яе на вешалку, падсеў да стала.

— Капуста — самая леснікова яда.

Па праву чалавека, які дзень цэлы мёрз у лесе, Макар адразу налёг на капусту, усмак з'еў колькі лыжак, пакуль гарачая, потым лыжку адклаў і гукнуў да стала жанчын.

Андрэя пасадзілі насупраць гаспадара, ды так, што яму было добра відаць перад сабою і печ, і дзверы ў сенцы, і дзверы ў святліцу, адчыненыя — пакой той быў вялікі і чысты, з чырвонай бліскучай падлогай, засланай дарожкамі, там стаялі шафа з люстрам, канапа, круглы стол пад квяцістым абрусам, тэлевізар ля акна, на стале транзістар, цюль на вокнах, па сцяне — партрэты дзяцей і бацькоў, вялікі фікус у куце пад абразамі, з якіх звешваліся белыя вышываныя набожнікі. Андрэй дзівіўся: як цётка Ганна паспявае рабіць у лясніцтве, глядзець чатырох мужчын — у іх быў яшчэ малы Толік, школьнік,— гаспадарку, ды яшчэ ў гэтакім парадку хату трымаць? Колькі ў яе тых рук? А пасля здагадаўся, што парадак, можа, не заўсёды быў, што цяпер, пэўна, Алёнка навяла глянец. Бо чакала яго, Андрэя. Чакала і ўчора, і сёння.

Алёнка зноў ускочыла ў хату, зябка цепаючы плячыма ад хо́ладу, упусціла Сібірку. Тая аблізвалася, пад'еўшы. Макар толькі глянуў, але сказаць не сказаў нічога, пачаў разліваць гарэлку. Ён не любіў, калі сабака ў хаце, але сёння, напэўна, дазваляў Сібірцы гэтакую раскошу.

Алёнка з маткаю за стол не селі, хоць чаркі ўзялі.

— Нямашака ні Сашы, ні Міці,— уздыхнула цётка Ганна.— Думала, хоць у нядзелю ўсе дома збяруцца.

— Цябе каравуліць павінны,— буркнуў Макар. Ён сёння быў не ў гуморы.

Цётка выпіла чарку да дна, не горш за мужчыну, узяла на зуб храбусткі гурок, прамовіла:

— От жа етая ханджа бывае коткая! Коць-коць — і пабегла. Як агеньчыкам падмазаная.

— Гэта — што за акном круцель-мяцель, дык коткая,— разважыў Макар, выпіўшы пасля ўсіх.— А яшчэ: як мароз-траскун ці дождж-паласкун, тады за сталом дужа адліжна.

Ён хапатліва закусваў гарачай капустаю, звесіўшы над параю шырокі твар, густа пабіты воспаю, таму шэры, зямлісты, аж сіняваты на ямках. Калі падымаў твар, глядзеў паверх стала, Андрэю здавалася, што ў Макаравых вачах жывуць два светы: той, што чалавека акружае, і свет уласнай душы, думак. Калі Курнопа глядзеў на Валошку, а Андрэй — у вочы Курнопу, дык бачыў у тых шэрых вачах двух людзей адразу: самога лесніка, яго душу, і Валошку — апошняга такім, якім яго ўспрымаў сам Макар. Гэтакае адбывалася, пэўна, таму, што ў Курнопы не было позіркаў халодных, абыякавых; у людзях, рэчах, з'явах ён наровіў выведаць глыбіню, меў уласнае разуменне, і не выпадковае, не паспешлівае; у яго атрымоўвалася і па-свойму, і суладна з жыццёвай праўдаю. Натуральным Андрэю здалося ўжо тое, што гаспадар загадаў жанчынам накрываць стол у пярэднім пакоі, бо тут ён сам бачыўся натуральна, як у пушчы: пакой быў прасторны, не меншы за святліцу, чысты, але без глянцу; тут сцены не хаваліся пад залацістымі шпалерамі, бярвенне ў сценах ляжала жоўтае, круглае, духмянае, як новае; стол і лаўкі, ды і буфет, стаялі вялікія, прасторныя, зробленыя па-вясковаму проста, на доўгі век; на сцяне вісеў магутны ласіны рог, на ім — старая курковая аднастволка і палявая вайсковая сумка на доўгім рэмені. Тут, хоць у дзверы раз-поразу пускалі з сянец холад, было цёпла ад печы, пры якой стаялі і ляжалі гаспадыніны вілкі, мётлы, чыгуны, таўкачы, дровы. Ды яшчэ цяпло ішло ад грубкі.

Сібірка разлеглася каля грубкі на падлозе, хліпала санлівымі вачыма, і ўжо кот ля яе сядзеў — вялізны і белы, з чорным парваным вухам.

— Дык скажы, Макар, што ты тамака нарабіў? — гаспадыні спакою не давала тое, што Валошка сказаў пра мужа.

А гаспадар зноў адвёў размову ўбок — спытаў, ці дала жонка карове, свінням, што добрае ці благое яна выхадзіла ў ветэрынара. Цётка супакоіла, маўляў, усё

парабіла і выхадзіла, з Пярэстай усяго толькі зблыталі каляндар ацёлу. І — зноў за сваё, але ўжо хітрэй, праз Валошку:

— Вы скажыце, Пятровіч, што ён там змарозіў?

Тады Макар сам сказаў:

— Нічога не змарозіў. Не даў страляць ласёў.

— Зімавец жа цябе са свету зжыве.

Макар скрывіўся, галавою крутнуў («Што, маўляў, з дурной бабы возьмеш?»), а Валошка, усміхнуўшыся, супакоіў:

— Не бойся, Ганна. Не зжыў са свету ласёў Макаравых, не зжыве і яго самога. Вось еду з калгаса. Быў там на сходзе. З Зімаўцом, з Каралём. Зімавец з-за Макара са мною не гаворыць, а Кароль жартуе. Яму той лось патрэбны? Усё дапытваўся: «Скажы, Валошка, чаму твой ляснік не даў нам лася? Ці мы якія браканьеры? У нас дзяржаўная ліцэнзія». Кажу: «Пра гэта ў Курнопы спытайцеся. Не ведаю, што ў яго ў галаве. Пацікаўцеся». А ён мне: «Маніш, Валошка, Курнопавы думкі ты ведаеш, як свае. Казаць не хочаш...» Так што, Макар, будзе ў цябе размова з Каралём.

— Спытае, дык скажу. Не пабаюся.

А жонка зноў уздыхнула:

— Вечна ён у які вір галаву ўсуне! — убачыла, што яе ўздыханні і словы не падабаюцца мужу, адразу іншае ўспомніла: — А чулі, на брыгадным двары дзікі бурт раскрылі? Усю бульбачку памясілі. Як таўкачом у ступе.

— Цяпер дзік не навіна,— буркнуў Макар.

— Дык навошта гэтулькі напладзілі зверыны? Што ад яе толку? У лес боязна ўвайсці.

Павастрыць язык цётка любіла. Абы не маўчаць. Пра дзіка — дык пра дзіка.

Затое Макарава слова ў пустое не цэліла:

— А як самі, бывае, змесім? І маўчок? Як не бачым. Таму, Ганна... не валі на дзіка.

Жонку гэта заела:

— Ага, ты яго барані, страшыдлу. Ну за лася заступіцца ці за Такавішча — гэта я разумею...

Макар рашуча адвярнуўся ад жонкі, перавёў позірк на Валошку, аж утаропіўся ў яго:

— Бач, Пятровіч! Ужо мае ласі лесу шкодныя, сасняк зводзяць! Дзе зводзяць, там хай страляюць. А ў мяне яны ані сасонкі не аб'елі. Бо і ласю трэба

догляд. Каб не галадаў. А Такавішча...— Макар хмурна зірнуў на жонку, замяўся і змоўчаў, быццам дыханне заняло.

— З Такавішчам ці не самі далі маху? — спытаў Валошка.

Макару гэта не спадабалася:

— Можа, хто і даваў маху, а я...

— Ведаю, Макар. Не сярдуй.

— Глядзеў, нібы садок пад вокнамі. Бывала, прыйду і любуюся. Яліна ў яліну! Мужыкі па мох усё ў Такавішча ездзілі. І нашы, ялоўскія, і пагарэліцкія, і гарадоцкія. Як нарвуся, дык і ганю з лесу. А яны ў сварку: «Ці ты, Макар, моху шкадуеш? Ці напісаны той закон, каб ужо і моху ў лесе не надраць?» — «Такога закону, кажу, няма, і моху мне вам не шкада. Але шкада дрэў. Гляньце, яліны красуюць! А ім махавіна — храніцелька лясной зямліцы, вільгаці. Асабліва — даўганосік, да якога вы ласыя. Ну, адзін узяў тут, а другі едзь далей. Ці ў пушчы моху мала? Дык усе на Такавішча, як мухі на мёд. Подсціл пад ялінамі парыеце, нібы дзікі лычамі. Ану, кыш адсюль!..» Гэтакія лекцыі ім чытаў.

— Я ж цябе, Макар, не віню. Я іншае хачу ад цябе пачуць. Маглі мы прадбачыць? Ну хоць тады, як першы буран наваліўся, закідаў вываратнямі?

— А калі наваліўся? Пазалетась? Я тады вам сказаў: паўвека лес стаяў, ветравалу не ведаў, а цяпер — вецер карчуе і ломіць. Помніце?

— А скажы мне,— працягваў Валошка.— Гэта праўда, што Такавішча меліярацыя скасіла?..

Па сцяне, знадворку, зноў прабегся і заціх вецер, як пераскочыў на суседскія хаты. Моцна, на тым ветры, ляснулі веснікі. Нехта шырокім цяжкім крокам прасігаў пад акном.

Цётка Ганна першая пачула — усхапілася:

— Сынок?..

Дзверы рэзка, ажно не паспеўшы рыпнуць, адчыніліся, і на парозе з'явіўся Міцька: у пінжаку, на галаве шэрая заечая шапка, на шырозным, як у бацькі, плячы — керзавая вайсковая сумка, на доўгім раменьчыку вісіць, а пад рукою — Толік, увесь выкачаны ў снег. Паздароўкаўшыся, Міцька адразу, ад парога, штурхануў брата — не моцна — на хату, строга загадаў:

— Ну-ка — на печ! Ыйш, саплюк! — агледзеўся і

ўжо ўсім казаў: — Іду, а яны, гэтакая пацанва, ля самай палонкі сыплюцца, што гарох. З гары, з санак. Доўга вечарам у палонку ўскочыць?

А матка ўсё глядзела не на малодшага, а на старэйшага сына, быццам была спакойная за малодшага і непакоілася за старэйшага, агледзела яго — спытала:

— А чаму ж ты без кажуха? Хто цябе распрануў?

— Кабыла Машка распранула. Кажа: дай, хлопец, кажуха пагрэцца. А то людзі на мяне забыліся.

Тут Макар схамянуўся, усхапіўся да кабылы, каб знайсці ёй месца ў хляве, падхапіўся і Валошка, загаварыў пра ад'езд, а Міцька, рашучы ды шумлівы, не пусціў за парог ні аднаго, ні другога — ускінуў на ласіны рог сваю сумку, побач з бацькавай, і пайшоў сам. За ім следам, схапіўшы са сцяны фуфайку, выбегла цётка Ганна.

Тым часам Алёнка распранала малога. Зняла з яго шапку, ватовае паліцечка, ля грубкі атрэсла ад снегу, пасадзіла брацікa на падлогу, сцягнула з ног валёнкі, дала шлепака ды турнула на печ. Той, вінавата шморгаючы носам, юркнуў за занавеску, ужо адтуль папрасіў чаго паесці.

Андрэю было цікава глядзець на Міцьку, адчуваць, як ён, нібы вецер, разварушыў усіх у хаце, сваёй рухавасцю нібы сцены рассунуў, пашырыў хату, а выйшаў Міцька за парог — цікава было глядзець на малога і Алёнку, як яна ласкава і хутка загнала яго на печ, а пасля налівала яму капусты, падавала. Андрэй заўважыў, што ні бацькі, ні Алёнка не падтрымалі Міцьку, яго крыку на малога, падумаў, што ў душы ў Міцькі не было, пэўна, таксама ніякай злосці, што Міцька накрычаў на брата ад сваёй шумлівай натуры — не мог ён ціха пераступіць парог.

— Дык што я ў цябе спытаў, Макар? — вярнуўся да ранейшай гаворкі Валошка, калі ў хаце пацішэла.

— Пра Такавішча? — перапытаў Курнопа. — А што тут казаць, Пятровіч, калі ўсё на вачах? Усе ведаюць Такавішча, Падгорку, Свірыдаву пашу. Раней там якая трава буяла! Хай балаціна, але было што і стравіць, і скасіць. Дык не, Падгорку адвялі, пад лінейку пракапалі ёй новае ложа, высушылі балаціну — і што далей? Ні сенажаці, ні пашы? Пусцілі скаціну — жаўклец папёр.

— Але ж у Свірыда галава не дурная? І не ска-

заць каб малая? З тую бочку, што ў цябе, Макар, пад страхою.

У гэтую якраз хвіліну цётка Ганна ўскочыла з сянец у хату. Ля падпечча схапіла галень і, пачуўшы пра бочку, павярнулася да стала — гучна ўздыхнула:

— Рассохлася тая бочачка, Пятровіч. Абруч зляцеў.

Дарэчы ці не дарэчы, але грымнуў дружны мужчынскі рогат. Цётка Ганна, не зразумеўшы, што да чаго ў тым рогаце, ціха, як пакрыўджаная, выйшла з гальнём у сенцы, адно мацней, як тыя разы, бразнула клямкаю.

— Не прызнае Свірыд свае віны — хоць ты што. Я вам, кажа, не шалапай, а калгасны старшыня. Зямлю ведаю. З вучонымі раіўся.

— Зямлю ён, можа, і ведае,— ківаў галавою Макар.— Ды чытаць яе не можа.

— А як чытаць? — запытаў Андрэй.

Макар задумліва зняў губамі з відэльца грыбок, адклаў відэлец, кінуў пагляд на Андрэя:

— Як? А вось... неяк Міцька заўважыў, што мужыкі ўжо не ездзяць у Такавішча па мох. А-га, думаю, адвучыў! А праз тры хаты ў Ялоўцы будаваўся настаўнік. Мы з ім у адной батарэі вайну пачыналі, пад Баранавічамі. Падышоў да яго, пытаюся: «Што ж ты, гвардыі батарэец, па мох у Такавішча не едзеш?» А ён лыбіцца: «Што я адтуль прывязу? Даўганосікі твае, Макар, пасохлі!» Прыйшоў я ў лес, гляджу — пасохлі. Яно бывае, што якая баба лепей ведае і грыб, і ягаду, як ляснік. Вось і тут. Але чаму пасохлі? Лета сухое? Можа. Надышла восень. Бачу, што бабы і дзеці абыходзяць Такавішча і з грыбнымі кошыкамі, і з бруснічнымі. Ат, думаю, год на год не выпадае. А вясною спахапіўся: цецерукі дзе? Токам лес славіўся, а тут — ціха, нідзе не балбатне. Выбілі? Не можа быць. У Такавішча ніхто са стрэльбай не сунецца. Я затрывожыўся. А калі ветравал справіў хаўтуры — скеміў: нешта з Такавішчам не тое робіцца. І вось стаю пад лясной сцяною, куру, гляджу на Свірыдаў жаўклец, чую — калгасны экскаватар брынчыць чарпалкаю. Я яго спыніў. Экскаватаршчык падышоў, закурвае. Пытаюся пра работу. «Ат, кажа, работа ў мяне дохлая: зямельку перакідаю з пустога ў парожняе».— «Як гэта?» — не зразумеў.

«А буду, кажа, Падгорку назад вяртаць. Не тая меліярацыя».

У хату вярнуўся Міцька. Скінуў кажух, памыў на кухні рукі, сеў за стол:

— Дайце галоднаму хоць раз укусіць.

Макар наліў чаркі. У Міцькі яе не аказалася, і ён, жуючы сала, пайшоў на кухню, прынёс шклянку. Бацька наліў яму болей, як іншым, і, пакуль усім наліваў, працягваў:

— А неяк раней у Такавішчы працавалі таксатары. Выбухалі яміну, бралі аналіз глебы. Зверху, на чвэрць, ляжаў шарэц, перагной. Далей — суглінак. Яго рыдлёўкаю разанулі, ён аплыў. Вось і я цяпер выбухаў ямку ў тым месцы, а ў ёй суха, вады — ані слёзкі. Карані елчыны ляжаць у пылку, зямля ім чужая, не корміць і не поіць. Дык які тут вучоны трэба? Свірыд як забраў з-пад Такавішча Падгорку, асушыў свой луг, грунтавая вада і скацілася. Я ўзяў з-пад кораня суглінак і бачу: тут корань нічога для жыцця і росту не возьме. Здаровы суглінак мажацца, зашпаклюе ўсе маршчынкі на пальцы. А гэты, сухі, ад пальцаў адлятае.

Макар кульнуў чарку і сядзеў нерухома, склаўшы на брыжы стала рукі, не закусваў, не глядзеў ні на кога.

Затое Міцька меў ахвоту і да яды, і да слова:

— Стаіць яліна. У грудзях — добры шуляк. А яе вецер — хрась, яна і ляжыць, спадніцу задраўшы. Пілу паднясеш — няма што рэзаць. Як у кашу.

Бацька ўзняў на сына цяжкія шэрыя, што свінцовыя, вочы.

— А ты і тут з пілою? Люба яна табе.

Міцька як не зразумеў:

— А пры чым тут...

— Да пілы трэба мець галаву на плячах.

— Ну, бацька!.. Галава ўжо якая ёсць. Але ж я не пра галаву і не пра сілу. Кажу, што губка ў Такавішча ўчапілася. І не толькі ў корань. У ствол пайшла. Валежыну рэзаў — на метр ад пня трухля. А ты... піла мая табе не падабаецца?

— І не падабаецца,— павысіў голас Макар.

Яны, можа б, і паспрачаліся, хоць спрачацца як быццам не было з-за чаго, ды тут з сянец у хату ўвайшла цётка Ганна — са сваім матчыным хваляваннем:

— Нешта Сашы няма.

Усе замоўклі, як прыслухаліся да ветру, які то заціхаў, то зноў сваволіў за акном. Цётка Ганна падсела да Валошкі — аб нечым ціха гаманілі. Алёнка сядзела ля грубкі, трымала на каленях вялізнага лахматага ката, лашчыла, шаптала яму штосьці, неспакойна пазіраючы на бацьку. Ужо і Андрэй заўважыў, што на душы ў Макара быў нейкі цяжар. Звычайна ён любіў жарт, песню, а сёння сядзеў хмурны, што непагода. Ці наваяваўся з тымі ласямі, намёрзся, ці размова пра Такавішча была яму дужа балючая? Вось і Міцьку настрой сапсаваў. Нізавошта. Андрэй нават заступіцца хацеў за Міцьку. Ды, пакуль думаў, як гэта зрабіць, каб і Макара не пакрыўдзіць, Валошка яго апярэдзіў:

— Па-твойму, ляснічы таксама вораг лесу?

— А я гэтак не казаў.

— Як жа? Міцька пілуе, а я яго пасылаю пілаваць.

— Не, Пятровіч. Вы адно дрэва пад пілу пускаеце, а другое гадуеце. У вас што з лесу, тое і ў лес. Пры такім парадку душа не тупее, на іншую душу не забывае. А Міцька...

Андрэй слухаў і глядзеў на сцяну, ласіны рог, на якім віселі дзве кірзавыя лясныя сумкі, Макарава і Міцькава, вельмі аднолькавыя, думаў: «Ну і што, калі Міцька з пілою? Хтосьці і з пілою павінен. Не ён, дык іншы. А ён пушчы не вораг. Ён яе любіць, як і бацька. Лішняе не спілуе». З Міцькавай сумкі тырчала горла белай малочнай бутылкі, закаркаванае газетнай паперaю, а з Макаравай — сіняя пластмасавая галоўка тэрмаса, і Андрэй падумаў, што Макар заўсёды носіць з сабою тэрмас, бо ў яго страўнік пабіты язвамі. Ён адно з выгляду магутны, а здароўе знасілася. І язва, і раматус — адвечна лесніkоўскія хваробы. Язва і ў Валошкі. А чаму да іх, леснікоў, чэпіцца гэтая хвароба? Пэўна, што сухамяткаю ў лесе перабіваюцца ўсё жыццё, дома мала калі абедаюць, вараным ды гарачым. Міцька малады, пакуль здаровы, ён пра тое не думае, што варанае трэба з'есці хоць раз у дзень. Тэрмаса не носіць, а Макар ужо вучаны хваробамі, без тэрмаса ў лес не пойдзе.

— А як я думаю? — раптам падаў голас Андрэй, яшчэ не адвёўшы вачэй ад сумак, Макаравай і Міцькавай.— Па-мойму, па каранях і дрэва. Як карані здаровыя, дык і за дрэва баяцца няма чаго.

Да ўсіх дайшло, што меў на ўвазе Андрэй. Корань — гэта Макар, а дрэва ад таго кораня — Міцька. Тут Макар і пярэчыць не мог. Толькі ўсміхнуўся.

Андрэй ужо абвыкся, пасядзеўшы, пасмялеў у чужой хаце, ужо яна яму чужою не здавалася, яшчэ ён у гаворку як след не ўшыўся, а ўжо душою прыняў яе за сваю, шмат якія Макаравы і Валошкавы думкі, падалося, даўно выспявалі ў яго ўласнай галаве, і пасля доўгага маўчання за сталом яму карцела штосьці шчырае ўсім сказаць, такое, каб яго зразумелі, з'явілася ахвота пасадзіць побач Алёнку, хоць яна, пэўна, саромелася пры бацьках сесці з ім, хацелася прыгарнуць да сябе, каб усе бачылі, як яму добра з Алёнкаю ў яе роднай хаце, і Андрэй адчуваў, што ўсё гэта ён вось-вось скажа, зробіць, не таму толькі, што гарэлка надала смеласці, але яшчэ таму, што ў гэтай хаце, з гэтымі людзьмі яму вельмі добра, так добра, ажно ён не можа хаваць свае пачуцці, думкі. І ён абвёў позіркам усіх, нібы ва ўсіх пытаючыся, ці разумеюць яго, спыніў позірк на Алёнцы, якая стаяла побач з маткаю ля грубкі, усміхнуўся, устаў з-за стала, каб пасадзіць Алёнку з сабою побач, ды ў гэты міг штосьці нечакана грукнула ў сенцах, шаргатнула — усе глянулі ў парог.

Цётка Ганна ўсхапілася:

— Саша ідзе...

Дзверы адчыніліся раней, як да іх падышла цётка Ганна, і яшчэ не відаць было прышэльца, што за ён, а ўжо малады жаночы голас, звонкі і працяжны, нібы з песні, укаціўся ў хату:

— Во, панастаўлялі пад нагамі...— На парозе з'явілася Насця. Свежая, вясёлая...— Дзень добры ў хату!..

У галаве Андрэя закружылася, у вачах усё расплылося — бярвенні ў сцяне, луткі дзвярэй, Насцін твар... Кроў шуганула ў вушы, у шчокі, аслупянеў, стоячы, нібы дурань, насупраць Насці за сталом, ва ўсіх на вачах, і ўжо ніякая сіла не магла зварухнуць яго з месца, каб зрабіць хоць крок да Насці альбо крок да Алёнкі. Адна добрая сіла знайшлася, невядомая і нябачная,— цяжарам навалілася на яго і пасадзіла на лаўку. Нейкае імгненне ён нікога не чуў, сядзеў у неймавернай цішыні, думаў: «Чаму ўсе анямелі?.. Валошка?.. Міцька?.. Макар?.. Чаму разгубіліся мужыкі?..»

Яна стаяла і ўсміхалася, як смяялася з усіх: «Ну, хто з вас смелы, спрытны? Хто мне пасобіць кажух скінуць?»

З усіх знайшлася Алёнка. Падбегла, пачала расшпільваць Насцін кажух, павесіла яго на вешалку — Насцю запрасіла да стала.

— Алёнка! Якая ж ты гарная! — дзівілася Насця, і раптам яе пагляд сарваўся з Алёнчынага твару, перакінуўся на Андрэя.

Іх позіркі сустрэліся, затрымаліся, і Андрэй адчуў, як загарэліся яго губы, нібы да агню прыклаліся. Ён апусціў вочы, схапіў са стала салёны гурок і прыклаў яго да рота, як хаваючы ад вачэй нейкі след на губах.

— Праходзь, Насця,— ужо і цётка Ганна падала голас.

Андрэй зноў падняў вочы на Насцю — яна ўсё яшчэ глядзела на яго. Але вось адвяла позірк у кут, дзе сядзеў Валошка, заўважыла спакойна:

— Гэта мне, Пятровіч, людзі сказалі, што вы тут на кані. У Лісань паедзеце?..

— Хутка паедзем, Насця. Прысядзь з намі.

Міцька выскачыў у сенцы, і Макар пасадзіў госцю на яго месца, побач з сабою. Тады за стол, як пасмялеўшы, і Алёнка села, каля Андрэя. Міцька прынёс яшчэ адну пляшку гарэлкі.

Андрэй занепакоіўся — хоць бы не напіцца мацней за ўсіх, бо ўсе мужчыны тут, пэўна, за яго здаравейшыя, але разам ■ тым адчуў, як мігам пацверазеў, астыў, як кроў адліла ад твару, ад вушэй, паяснела ў галаве. І пакуль Макар ды Валошка перамаўляліся, жартуючы, з Насцяю, пакуль Міцьканаліваў чаркі, а цётка Ганна ставіла пасярод стала чыгунок з гарачай, пад духмянай параю, тушанай у печы бульбаю, пакуль Алёнка сядзела побач ціхутка, пільна ўглядаючыся ў Насцю, разглядаючы яе красу, Андрэй думаў: «Чаму я дагэтуль не сказаў Алёнцы, як мы ляжалі з Насцяю ў пуні на веніках? Дробязь? Нічога ж не было такога?.. Не трэба казаць, душу ёй вярэдзіць?.. Зрабіць ■ гэтага таямніцу? Схавацца з ёю ад Алёнкі?.. І ўвесь час пасля папракаць сябе за нейкую боязь?.. О, божухна!..»

— Што невясёлыя, парубкі? — Насця заўсміхалася белымі, як драбочкі цукру, дробнымі зубкамі.— Ажно дрыжыкі прабіраюць,— пацепала плечыкамі.

Міцька нервова заёрзаў на табурэтцы:

— Дык вып'ем? Каб Насця дрыжыкі не прадавала.

Насця строга, з гонарам, павяла на хлопца гарачым вокам:

— А я не такая, як ты, Мацвей, падумаў. Я, можа, калачуся не ад марозу. Як у той песні: «Не мароз спаліў рабінку, а спаліла полымя...» — І на Макара зірнула, ужо асцярожна спытала: — Што маўчыце, дзядзька Макар? Пра ўсіх ваўкоў не перадумаеце, за кожнага лася не заступіцеся, а лес стаяў і стаяць будзе. Ці, можа, я не так кажу?

— Так, Насця. Будзе стаяць,— страсянуў чарнявым чубам Валошка і працягнуў да яе сваю чарку.

Моцна, са звонам, чокнуліся.

— Весялуха ты, Насця! — з захапленнем вымавіла гаспадыня.— І адкуль у цябе што бярэцца?

— Жытка вясёлая, цётка Ганна.

Валошка выйшаў у сенцы, унёс у хату мех і выняў з яго гармонік. Мяхі гармоніка разышліся, бліснулі чырвонымі макамі.

— Вось, Насця, за што ты зачапілася ў сенцах.

— А я такая, Пятровіч. Вечна за музыку чапляюся.

Стрэльнулі адно ў аднаго калючымі позіркамі, адно аднаго разумеючы, і Валошка сеў, паставіў гармонік на калені, глядзеў, як ён сівее з холаду, далонямі пачаў абціраць з яго пот. Алёнка матлянулася на кухню, прынесла чысты ручнік. Валошка накрыў гармонік ручніком, на ручнік аблёгся рукамі, на рукі ўсклаў голаў і спадылба, хмарна, глядзеў некуды далёка. Узяўшы ў рукі гармонік, ён гэтым нібыта і слова ўзяў. Але маўчаў гармонік, маўчаў гарманіст. Затое Насця маўчаць не давала:

— Урэжце, Пятровіч, якую вясёленькую. Хоць гэтую: «Прыджгаў на вяселле наш сваток, павязаўшы крыжам ручнічок...»

Гаспадыня як чакала такой размовы:

— Ой, Насценька! І свацця б з цябе была-а!

— Але ж ніхто не кліча, цётка Ганна. Таленты прападаюць. Можа, вы мяне паклічаце — га?

— Ой, Насцечка! Ці з гэтым забастоўшчыкам кашу зварыш? — цётка паглядзела на Міцьку, горка заківала галавою.

Але ў Міцькі на душы той горычы, што ў маці, не было:

— Нічога! Што-небудзь змарозім.

— Ды змарозіць ты мастак.

А Насця іначай разважыла:

— Не хвалюйцеся, цётка Ганна. Цяпер гэткі тавар, як ваш Міцька, не залежваецца.

І вось тут, ужо ацёршы на гармоніку дошчачкі, гузічкі, перламутравыя каруначкі, паслаўшы ручнік на калені, пад гармонік, Валошка зайграў павольны, стары, як свет, вальс. Абапёршыся вострым падбародкам на галасавую каробку, ён сумна ці ўсяго толькі задумліва глядзеў на печ, дзе з-за коміна цікаваў бялявы тварык самага малога Курнопы, адтуль перавёў пагляд на Насціну завушніцу, маленькую, нібы кропелька, сціплую, але зыркую, чырвоненькую шклінку, потым — на ружовы гузік, што ў Насці на кофце, на грудзях, на гузік глядзеў даўжэй, як на што іншае, глядзеў і думаў: «Не можа быць, каб ты прыйшла сюды дзеля Міцькі. Але і не таму, што я тут, каб са мною ехаць у Лісань. Не ведала ты, што я тут. Бачу па вачах — не ведала. Не чакала мяне сустрэць. Але тады чаму прыйшла? Да Макара не пойдзеш, да Ганны — таксама. Да Міцькі? Не можа быць. Малады ён табе. Сам ён, можа, не супраць патрымаць цябе ў руках, але ты яго, маладога, да сябе не прывяжаш. Я гэта ведаю». Не адводзячы вачэй ад Насцінага гузіка, Валошка адчуў, што Насця глядзіць на яго, пільнуе, калі ён зірне ёй у вочы, і, адчуўшы гэта, перавёў позірк на падлогу, дзе ляжала выпрастаная Сібірка і кот ля Сібіркі ляжаў, даверліва паклаўшы галаву на сабачую лапу.

Андрэй заўважыў, што цяпер Валошка нейкі не такі, як да Насцінага прыходу, тады ён быў спакойны, аднолькава сур'ёзны ў размове, у маўчанні, а цяпер — то вясёлы, жартаўлівы, то раптам заціхаў, сядзеў самотны, быццам разам з музыкай пакідаў хату, пра ўсё блізкае забываў. Ды і не адзін Валошка змяніўся. Замоўк Макар. А Міцька — быццам на крылах. Во ён... аж ботам пад сталом загрукатаў:

— Падыспань, Пятровіч! Душа просіць...

«Ну, а я сам? — думаў Андрэй.— Мяне хіба не кідае то ў жар, то ў холад? Ад аднаго Насцінага погляду. Не, яна мяне зразумела. Стараецца не глядзець

у мой бок. Зразумела, што Алёнка са мною побач не выпадкова».

Ужо і Міцька супакоіўся. У яго — іншае. Яму Валошка не іграў ніводнага танца. Ні падыспань, ні польку-трасушку, якія ён прасіў,— адны вальсы. Ці назло Міцьку, ці таму, што сам вельмі любіў вальсы, асабліва старыя.

Вось яшчэ адзін:

— Вальс з хустачкаю!

Не чакаў Валошка, што на гэты раз Міцька не вытрымае, не ўседзіць, на Насцю глянуўшы, сігане на сярэдзіну пакоя, грукне цяжкім ботам у падлогу, аж дзынкнуць на стале чаркі, з вывертам распішацца доўгай рукою ў паветры, і Насця, ззяючы ад нейкага патаемнага, нікому не зразумелага свайго шчасця, ахвотна падасць гарачаму кавалеру руку, быццам які вецер вымеце яе з-за стала. І вось ужо, мяняючыся месцамі паміж сталом і печчу, разышоўшыся, аж на печ да малога загналі ката і Сібірку, заўзята, хоць цяжка абутыя, выпісвалі то кругі, то васьмёркі, то нейкія яшчэ выкрутасы, прасілі да сябе ў круг на падмогу Андрэя і Алёнку, цётку Ганну з дзядзькам Макарам — ніхто не адважваўся за імі ўгнацца. Тады Насця выхапіла [illegible] рукава кофты белую хусцінку, падкінула над галавою, і хусцінка паціху, зыбаючыся ў паветры, апусцілася на падлогу паміж ёю і Міцькам. Насця адышла да парога, уступіла хлопцу ўвесь круг, не зводзячы з яго бліскучастых гарачых вачэй, а ў гэты час цётка Ганна пляснула, не ўтрымаўшыся, у далоні, прытупнула каля печы:

— Эх, татка-мамка! Дзе мае тыя гадочкі?..

Валошка не глядзеў на танцораў, іграў, уставіўшыся вачыма ў цёмнае за белымі фіранкамі акно, абапёршыся падбародкам на гармонік. У яго гарачых руках ён весела галасіў-заліваўся, а Міцька, узяўшыся ў бакі, усё шырэй рассоўваючы доўгія ногі — яны выпрасталіся ледзь не на ўсю хату, ад печы да стала,— нізка, ажно чубам дастаючы падлогу, звесіў галаву, дудкаю выцягнуў губы, вось-вось схопіць імі з падлогі Насціну белую (аж уваччу бела) хусцінку. Усе чакалі, не дыхалі. Ды раптам, мо ў самы апошні момант, перад самай Міцькавай перамогаю, музыка — рыг, абарвалася. Танцор замёр, але не разгінаўся, стаяў у смешнай, непрыгожай паставе, бо чакаў: вось гармонік зноў ажыве, вось схопіць ён, Міцька,

губамі-дудкаю белую хусцінку — але гармонік, здраднік, маўчаў, як падавіўся. Аж у грудзях запякло. Міцька ўскінуў галаву, узняўся. Злосна глядзеў на хустку, якая ляжала на падлозе.

З тою ж злосцю бліснуў вачыма:

— Эх, Пятровіч! Вы мяне падвялі.

А Валошка ўжо і раменьчыкі на мяхі накінуў.

— Не бядуй, Міцька. Усе мы бачым, што ты лаўкач. Яшчэ твая возьме,— неяк загадкава прамовіў ён і ўстаў з-за стала. Апусціў гармонік у мяшок, пачаў апранацца.

Неахвотна апраналася Насця. Калі Валошка, Макар і Міцька выйшлі з хаты, а цётка Ганна з Алёнкай гаманілі на кухні, бразгаючы посудам, яна падышла да Андрэя, пякуча паглядзела яму ў вочы, сказала:

— А ты гарную дзяўчыну знайшоў. Па сабе.

— Дзякуй, Насця...

Яна павярнулася да парога і хуценька выйшла за дзверы.

На вуліцы за веснікамі мужчыны запрагалі кабылу, падбівалі на розвалах сена. Міцька, забыўшы на сваю злосць, зноў жартаваў каля Насці.

Валошка спытаў, дзе Андрэй. Насця адказала:

— У хаце.

Андрэй усё чуў, бо стаяў на двары пад хлявом, у цемені, дзе ніхто не бачыў. Чуў і размову за веснікамі, і як Пярэстая ў хляве жавала жвачку. Стаяў у адным пінжаку. На галаў, у твар, за каршэнь церусіў дробны ліпкі снег — завіруха змятала яго са страхі,— але холаду не чуў. І на душы было цёпла, хораша. Знарок не ішоў туды, дзе ўсе, за веснікі, да воза, бо не хацеў нікуды адсюль ехаць. Нават з Валошкам і Насцяю, любымі яму людзьмі. Нават развітвацца з імі не хацеў.

«Хай едуць. А я застануся. Ці, можа, я п'яны?..»

У галаве вадзіла, кроў не астывала на холадзе. Але — не, п'яны ён не быў. Проста яму было вельмі цёпла, утульна, радасна ў Макаравай хаце.

Калі выехалі з Ялоўкі, стаяла поўнач, снег ужо не круціла, як звечара, завея ўлеглася, хоць далей ад загумення, на выгане, па ўбітым вятрамі доле яшчэ валаклося па-начному шэрае снежнае касмыцце — яго гнала нізам, нібы дым са свежага пагарэлішча,

гнала ў падлесак. Затое мацнеў мароз. Валошка параіў Насці глыбей зарыцца ў сена, якое, не шкадуючы, ускінуў на розвалы Міцька, аднак Насця маўчала, не варушылася, як пабойвалася Валошкі, зрабілася ціхманая, нясмелая, мала на сябе падобная. Ён сам нагарнуў ёй на калені сена, зваліўся на бок. Тады і яна, памарудзіўшы, легла з ім побач. Ляжалі — твар у твар.

— Штосьці позна цябе закінула ў Ялоўку? — спытаў ён.

— Адной у Лісані нудна. За вечар здохнуць можна. А тут хоць людзей болей.

— Па справе прыязджала? — Валошка як не паверыў, што яе з Лісані нуда прыгнала.

— Даўно ятроўку не бачыла.

— Хто ж такая?

— Ды Ксеня Дзямідкава. А вы з гармонікам ездзіце? Як малады па вяселлях.

— Адвесяліўся, Насця. Цяпер ужо мой гармонік па чужых руках ходзіць. Быў зусім адбіўся ад гаспадара.

— Па яго хіба ездзілі?

— Ездзіў не па яго. Сход быў у калгасе.

— Перадаюць лясы?

— Каб жа лясы. А то ламачча.

— Дык навошта браць? Самі запусцілі, хай самі і да ладу даводзяць.

Ён змоўчаў, падумаў: «Вось гэтак і Макар кажа, каб самі. А як — самі? Якімі ведамі, сіламі, з якой ахвотаю?»

Сход выдаўся гаманлівы, куродымны. Старшыня ведаў, што будзе гэтакая парылка, да апошняй хвіліны стаяў на тым, каб райвыканком і лясгас выралі перадачу калгаснага лесу самі, не выносячы на языкі калгаснікам, зрабілі — і шыта-крыта. Ужо раённы землепарадчык пагадзіўся рызыкнуць, і Кароль завагаўся, толькі Зімавец маўчаў, такое не падтрымліваў, ды Валошка — супраць. Яны ўдвух і настоялі, каб самі калгаснікі, як запісана ў Статуце сельгасарцелі, вырашылі, што рабіць з лесам. Ну, людзі і паўсталі, каб лес, які ёсць, не аддаваць лясгасу. Хай там не дрэвы, хай колле, карчы, ламачча, але сваё, не трэба абіваць парогі лясгаса, лясніцтва, кланяцца лесніку. Старшыня пачаў гразіцца, што паставіць у лесе ахову, без выпіскі нікому не дасць і карчыну, а яго

не слухалі. Кожны думаў: «Брэшаш, у сваім лесе я вазьму. Не днём, дык ноччу». Тады Кароль падбухторыў Валошку — яны сядзелі побач за чырвоным сталом. «Твая чарга, Пятровіч. Я тут чалавек з вобласці, людзям незнаёмы, мне яны той веры не дадуць, што табе». І Валошка падняўся. Усе прыціхлі. «Ага,— падумаў,— чакаеце, што скажу? Дык я вас спачатку да цішыні прывучу». І маўчаў. Даўгавата маўчаў, усё вадзіў па зале вачыма, прыглядаўся да кожнага, хто сядзеў насупраць. Твары былі знаёмыя. Усіх ведаў. Кожнаму ў твар зазірнуў і ўгаворваць не стаў, як угаворвалі іншыя прамоўцы,— спакойна спытаў: «Вы свайму лесу хто будзеце? Сваякі ці ворагі? Можа, у вас дзяцей няма? Можа, ім заўтра не спатрэбіцца лясок ля вёскі? — замоўк, зноў даўгавата глядзеў людзям у вочы.— Вы мяне ведаеце, і я вас ведаю. І які ваш лес быў пасля вайны — ведаю. Цудоўныя змешаныя бары стаялі. Сасна з бярозаю. А цяпер? Адно вашы хаты, вянец у вянец, бервяно ў бервяно, люба-дорага глянуць, на той лес паказваюць. Вайну вытрываў. Агонь яго гэтак не вынішчыў, як потым вы, гаспадары, пастараліся. Па-разумнаму, дык і хаты ў вас стаялі б, і лес стаяў бы. Можа, я што не так кажу? Можа, ёсць чалавек, які мяне паправіць?» — замоўк, чакаў, можа, хто-небудзь з ім не згодны, але не знайшлося такога, і тады пачаў казаць, што лесу трэба, каб ён ачуняў, зноў узняўся. На пальцах лічыў: пасадкі, рубкі догляду, ахова, змаганне з клапамі, губкаю, сяранкаю, пажарамі. А старшыня — хітры. Момант падлавіў, як калгаснікі сама ўважліва слухалі Валошку, усхапіўся: «Дык хто ўсё гэта будзе рабіць? Мы самі ці хай лясгас робіць? — Як кажуць, рубам пытанне паставіў.— Хто за тое, каб рабіў лясгас? Прашу галасаваць». І падняліся нясмелыя рукі. Але самае цікавае было пасля, калі з лесам вырашылі, а калгаснікі не разыходзіліся, пачалі ўспамінаць, як заняпаў іх лясок, як яго seклі, жывёлай мясілі. Усіх заядлых лесарубаў памянулі, пра Падгорку і Такавішча сказалі. Аказваецца, калгаснікі папярэджвалі старшыню, каб не чапаў Падгорку. Свірыд апраўдваўся: маўляў, з мінскімі гідролагамі раіўся. А потым — замоўк.

Пакуль ехалі, усё гэта Валошка расказваў Насці, казаў, што ім, леснікам, трэба з калгасам дружней жыць, тады не будзе гэтакай бяды, як з Такавішчам.

Адна ў іх зямля, адны рэчкі, балоты. Іх межаў прырода не прызнае.

— Сапраўды, Пятровіч,— пагадзілася Насця.— Як дружней, дык і мілей.

Валошка прыгарнуў яе, а яна не ўпарцілася, сама яшчэ мацней да яго прыхінулася, уздыхнула:

— Гады бягуць бегма, а рукі ў цябе, Пятровіч, гарачыя. З гадамі не астываюць.

Усміхнуўся Валошка, сам сабе заўважыўшы, што Насця з ім то на «вы», то на «ты», быццам хочацца ёй і так, і гэтак, і каб бліжэй з ім быць, і каб падалей.

— Няўжо праз кажух чуеш? — спытаў.

— А я такая. Чую.

«Сама сябе не ведала — бліжэй ці далей ёй быць [redacted] ім? А мо дае яму права выбару — бліжэй ці далей? Мо дае намёк, [redacted] ён, мужчына...»

— Дык, можа, і мне заначаваць у Лісані? — спытаў, як падагнаны думкамі-здагадкамі.

Яна моўчкі глядзела некуды ў мутнае, без ніводнае зорачкі, неба, быццам шукала ў тым мутным небе ключык ад нейкага замочка, што ёй трэба адчыніць.

Нарэшце вымавіла:

— Хіба ў дзеда Гароха?

— А ці варта будзіць старога?

— Не вялікі пан.

Размова напялася, нібы лейцы паміж гарачым канём і асцярожным ездаком — вось лопнуць. «Быць не можа, каб лопнулі»,— падумаў Валошка.

— Да сябе, значыць, не пусціш? — спытаў.

Яна змоўчала.

Тым часам пад'ехалі да канторы.

— Ключ ад канюшні ў вас? — спытала Насця.

Валошка, першы саскочыўшы з воза, ляпнуў па кішэні:

— Няма.

— Ну вось... Усё роўна будзіць старога,— знарок весела пазяхнула.

Дзед Гарох спаў. Валошка ўзышоў на ганак, а барабаніць у дзверы не хацелася — што рабіць? Пачуў, як ля канторы гахнула вобзем аглобля — Насця распрагала кабылу.

Валошка заляскатаў клямкаю.

Праз колькі хвілін рыпнулі хатнія дзверы, стары прашлопаў па падлозе ў галёшах, адкінуў на сенеч-

ных дзвярах засаўку. Упусціўшы Валошку ў хату, пачаў быў апранаць кажух, але Валошка не даў яму апранацца — узяў ключ, які вісеў на цвіку ля дзвярэй, і загадаў зноў лезці на печ. Маўляў, кабылу сам паставіць.

Машка ўжо стаяла распрэжаная. Валошка абхапіў Насцю за плечы, але яна вывернулася з рук.

— Спакойнай ночы, Пятровіч! — хіхікнула.

— Пастой, Насця!

— Ды... дзед Гарох вас чакае,— засмяялася і пабегла.

Валошка адчыніў канюшню. Малы стаяў на сваім месцы, у самым куце, не заняўшы Машчынага. Паставіў Машку з Малым побач, зняў з кабылы і павесіў на сцяну аброць — звякнулі цуглі. Малы павярнуў галаву і форскнуў. Валошка ўнёс у канюшню, таксама на сцяну павесіў хамут, сядзёлку, шляю, дугу. Паглядзеў у цемені, амаль навобмацак, ці ёсць у яслях сена,— сена Ягоравіч заклаў не шкадуючы, але яно падалося Валошку буйным, жорсткім, нібыта асака. Выкінуў яго з ясляў і ўзяў бярэма таго, што ляжала лявей ад варот,— дробны мурог, адны кветкі лясныя, хоць чай настойвай. Было цёмна, але нікуды не хацелася ісці ад коней. Пастаяў паміж Малым і Машкаю, паслухаў, як яны хрумстаюць мурагом, адчуў, як ад душы адхлупала штосьці цяжкае, закарэлае. Але нейкі іншы, вастрэйшы боль разануў па сэрцы. Тварам ударыўся ў гарачы Машчын бок.

— Эх, кабылка ты мая любенькая!.. Няўжо мы з табою старэем?.. Ужо і вузла для душы завязаць не можам... Ужо Міцька вырас, лепш завязвае...

Скура на Машцы задрыжала дробненька, нібыта мароз праймаў кабылу, але бок у яе быў гарачы, ласкавы.

3

Тамаш Ягоравіч надумаў схадзіць да канюшні, глянуць Валошку, бо той мог укінуцца ў сена і ў ім заначаваць, не зважаючы, што зіма,— ці яму прывыкаць? Выйшаў на ганак, але адтуль заўважыў ля канторы постаці — Валошкаву і Насціну. Што рабіць? Вярнуўся ў хату. Кажуха не скідаючы, сеў на ўслон, плячом да сцяны прыхінуўся, падрамаў, ды і даўгавата, а Валошкі ўсё не чуваць. Зноў занепакоіўся. Другі раз выйшаў на ганак.

Калі выйшаў другі раз, каля канторы нікога не ўбачыў. У Насціным акне — глуха, цёмна. Спіць? Ці яна яшчэ там, ля канторы, з Валошкам? Мо ў канторы? Але ў канторы святла не відаць.

Нехта стаяў пад Насціным акном — курыў: уверх-уніз вадзіў цыгаркаю, гуляў чырвоны агеньчык. На ганак узышоў — і там пыхкаў цыгаркаю, бліскаў агеньчыкам. Сумненняў у старога не засталося, што гэта Валошка. Высокі, цыгарка пыхкае і нервова гуляе ўверх-уніз.

Ягоравіча апанавала здзіўленне. Ён ніколі не думаў, што Валошка па начах завітвае да Насці. «Дык вось чаму ты, Пятровіч, дружны бываеш з пуняю! Які шэльма!» — прамовіў сам сабе і, хітра пасміхваючыся ў каўнер, вярнуўся ў хату. Падглядаць ды падслухоўваць чужога ён надта не любіў.

Залез на печ і лёг.

Недзе нешта таххала, знаёмае і блізкае, нібы маладое сэрца білася пад сарочкаю. Стары прыслухаўся — пачуў, як унізе пад услонам ляскатаў косткаю Май, вазіў па падлозе. Маю ледзь пераваліла за два месяцы, але яму можна было даць усе тры, ды і з гакам,— спраўны рос кабялёк. Пакінуўшы костку, пайшоў шныпарыць па хаце, па ўсіх закутках, шлёпаў цяжкімі лапамі, цягаў, як уплёўшыся зубамі, рыззё пад лаўкаю. Падаслаўся — і ўлёгся, заціх.

Стары прыўзняў галаву, сеў. Сядзеў і слухаў. Ужо не Мая слухаў, а тое ранейшае, таксама жывое, што ківалася: туд-сюд, туд-сюд...

Успомніў насценныя ходзікі з птушкаю. Якраз гэтакім ціхім роўным крокам яны некалі адлічвалі яму ночы. Але ўжо цеперся стаялі. Нават раённы майстар не даў рады, сказаў, што нейкая жалезка знасілася. Збрахаў, вядома. Жалезак цяпер хапае ўсялякіх, асабліва дробных — знайшоў бы і замяніў, каб ведаў, што за жалезка.

Але ж — зноў: туд-сюд, туд-сюд...

— Далібог, яны! — уздыхнуў дзед Гарох.

Ён працягнуў руку на пяколак, паляпаў па ім, шукаючы карабок з запалкамі. Рука дрыжала, нервуючы, не магла намацаць карабок. Але нарэшце намацала. Тады стары пасунуўся на край печы, звесіў ногі на ляжак, чыркануў запалкаю аб карабок і, атуліўшы кволы агеньчык далонямі, баючыся дыхнуць на яго, паднёс да сцяны, дзе віселі ходзікі. Жаўтля-

вае святло ад запалкі лізнула сцяну — шэрыя круглыя вянцы,— лізнула ходзікі: пад стрэлкамі бліснула, забегала зорачка — туд-сюд. «Няўжо — маятнік?.. Далібог, жывы!.. Бегае!..»

— Ну, шэльма!

Запалка вывалілася з пальцаў, пагасла. Але і ў цемені было чуваць: цік-так, цік-так...

Стары зноў дацягнуўся рукою да пяколка, намацаў акуляры, якія яму пасаблялі глядзець у блізкае, насадзіў іх на нос, танклявыя дужкі завёў за вушы і яшчэ раз чыркануў запалкаю, зноў паднёс агеньчык да сцяны.

Ходзікі ішлі, як год назад.

Старога ахапіла нейкая мроістая і светлая, нібы хмель, радасць, якой даўно не адчуваў. Ужо ён склаў ажно тры запалкі разам, усімі трыма чыркануў па карабку, і ўжо ў тры разы мацнейшы агеньчык паднёс да стрэлак, пасвяціў на акенца, з якога летась высоўвалася і кувала зязюля. Пасвяціў на чорныя гіры, на танклявыя ланцужкі, што віселі пад маятнікам, на маятнік: гэткая радасць была глядзець, як ён ківаўся і бліскаў, перакідаў сваю бліскаўку з боку на бок, як чалавек з далоні ў далонь перакідае гарачы вугельчык. У гульню ўмяшалася яшчэ адна жывая душа — павук: дробненькі, чарнявенькі, на зусім нябачнай павуцінцы, ён спускаўся ад стрэлак, і агеньчык, мабыць, дыхнуў на яго гарачым, бо нечакана павучок падскочыў на павуцінцы ўгару і ўзвіўся. Ягоравіч падставіў далонь. Павук сеў на далонь, папоўз. Паправіўшы на носе акуляры, стары доўга разглядаў павука, радаваўся яму таксама, нібы той яго кватарант і быў доўгачаканым гадзіннікавым майстрам,— запоўз у складаную гаспадарку ходзікаў, падрамантаваў ды і пусціў у работу.

Трымаючы на руцэ павучка, дзед Гарох згадаў, як Вайцюк, памочнік ляснічага, расказваў у канторы, што ў яго быў ручны гадзіннік і доўга, колькі месяцаў, не ішоў; сабраўся да майстра, але якраз у той дзень гадзіннік пайшоў сам, без усялякіх памочнікаў. Тады стары не паверыў, а цяпер іначай падумаў: «Мабыць, і гадзінніку, як чалавеку, як усяму жывому, трэба, нарабіўшыся, палайдачыць. Адпачне, тады адшукаецца і майстар, як гэты павучок. З'явіцца, калі чалавек яго не бачыць і не чуе, недзе ўначы, і ціхенька ўсё наладзіць. Колькі гадоў ходзікі бегалі,

не супыняючыся?! Дык хіба ж можна — без адпачынку?»

Дзед Гарох спаліў яшчэ тры запалкі, а потым сядзеў у цемені, слухаў, як роўна, прывабна цікаюць-такаюць ходзікі, быццам з ім, старым, размаўляюць.

«Вось толькі ці адчыніцца над стрэлкамі акенца?» Дзед Гарох чакаў: можа, зязюля прачнецца?

Раптам у акне дзынкнула шкло: нехта, усё роўна як птушка, дзеўбануў шыбу.

«Што гэта робіцца сёння?..»

Стары з печы гукнуў:

— Хто там?

Пачуў:

— Адчыні, Ягоравіч!

Валошкаў глухі, як з трубы, бас пазнаў адразу.

## 4

Не распрануўшыся, у кофце і спадніцы, Насця ляжала на шырокім двухспальным ложку, сунуўшыся тварам у падушку, рукамі ля галавы моцна сціскаючы нікеляваныя пранты і час ад часу падымаючы твар, углядаючыся ў акно насупраць. На акне яна знарок не зашморгнула фіранку, і там, за ім, пуста, як у яміне, цьмяна — ні месяца, ні зорак, лясы ды снягі навокал. Ляжала, з жахам адчуваючы, што яна — адзіная жывая душа сярод лясоў, сярод снягоў. Ёй падалося нават, што блізка няма ні дзеда Гароха, ні Валошкі, ні кабылы Машкі, ні парсючка ў хляве, ні кошкі Долі на печы — нікагусенькі ў хаце і на двары, на ўсёй зямлі. Адчуванне поўнай адзіноты неаднойчы ахоплівала Насцю, ужо яна не берaглася яго, прызвычаілася, як прызвычаілася да ночы ў лесе, да пранізлівых, з усіх бакоў, вятроў, што бязлітасна выдзімалі яе хату і яе душу. Усё гэта не палохала. Аднак, адчуўшы адзіноту, яна звычайна адчувала, як зябка целу, асабліва нагам, і тады, нібы для сугрэву, пачынала перабіраць у памяці сваякоў, знаёмых.

На радню лёс дужа пакрыўдзіў Насцю. Раней яна жыла ў Гарадку з маткаю і старэйшай сястрою, дзе нарадзілася і вырасла, ■ бацькі не памятала — ён іх рана кінуў, зматаўся ў белы свет. Сястра, шукаючы сабе чалавека, каб зляпіць сям'ю, завербавалася ў

Данбас на шахты, там выйшла за шахцёра, а пасля забрала да сябе матку. Гэтак Насця засталася як зусім без радні.

Здурнела, што пасля дзесятага класа не паехала далей вучыцца, кінулася рабіць у хімлясгасе: узяла ў рукі струг, падсочвала хвоі. Адзіная была ўцеха — Верка. Са школы сябравалі, душа ў душу жылі. Валошка ды Зімавец іх разам і падхапілі на танцах. Якія ўжо яны былі хлопцы? Адно што не жанатыя, а гадамі ім, дзяўчатам, не раўня, асабліва Валошка — гадоў на шэсць за Зімаўца старэйшы, а Зімавец тады ўжо інстытут скончыў, калі яны, дзяўчаты, ледзь паканчалі школу, рабіў галоўным ляснічым у лясгасе. Усё ж Верцы на Валошку пашанцавала, бо Валошка — чалавек. А яна, Насця, з Зімаўцом два гады вяроўкі віла і не звіла нічога людскага. У Данбас матка тым часам яшчэ не пераехала назусім, але жыла там падоўгу, Насця адна заставалася, і Зімавец раскашаваўся на дзве хаты, на бацькаву і на яе. Жыў з ёю мо год — як з жонкаю, а жонку прывёз з Магілёва: белую, чыстую, у залатых пярсцёнках. Можа, не ён сабою, сваёй жаніцьбаю, правіў, бацькі правілі — жадалі сынку багатую, гарадскую, з дыпломам. А Насця-ягадка счарнела, не яна ў той час па зямлі хадзіла — зямля па ёй. І вось тады зашылася ў Лісань, да Валошкі, лясы садзіць. Падвярнуўся Захар. Выскачыла за яго, доўга не думаючы. Абы хутчэй. Абы свой мужык. У Гарадку жыць не хацелася — перавезлі хату ў Лісань.

Не нажыла яна з Захарам нічога добрага. Двойчы пакінутая, усімі пакрыўджаная, сядзела ў лясной хаціне, прывыкаючы да адзіноты, нікога з мужчын блізка да сябе не падпускаючы. Прыціхла, пашэрхла, абабілася, ужо не звяртала ранейшай увагі на сябе, на сваю адзежыну, хадзіла абы ў чым, абы ў вочы людзям не кідацца. Нават гаварыць з людзьмі не мела ахвоты. Адно з дзедам Гарохам пашчыруе, бывала, ды калі-нікалі з Валошкам. А гады беглі. Мянялася пушча, мянялася Насця. Была пастарэла-пашэрхла, а пасля, як пакаціла за трыццаць, зноў кроў зайграла, твар і вочы заззялі. Усе, хто яе ведаў, заўважылі на ёй новенькі кажушок, вышываны каляровымі ніткамі, новыя чорныя катаначкі, хустку белую, з доўгімі махорчыкамі. Пачала Насця прыбірацца ў прыгожыя квяцістыя сукенкі, хусцінкі, кофты, вочы

7*

пагарачэлі, паяснелі, зацвілі кветкамі, шчырэй заблішчэлі бялюткія зубы, уся раптам зрабілася жывая, вясёлая, гаваркая, зачэпістая ля мужчын, і зноў рэдкі мужчына праходзіў міма, каб за яе не зачапіцца вокам ці словам: «Маладзееш, Насця. Пабыла бабаю — зноў дзеўкаю стала. Ну, дзіва!» Але не, баба зноў дзеўкаю не становіцца ні ў якія гады. Вясна да Насці не тая вярнулася, не дзявоцкая. Нават не вясна — восень прыйшла. Калі святла шмат, а цяпла мала ўсё роўна. Бабіна лета ўспыхнула ўсімі колерамі, зырчэйшымі, як увесну, але апошнімі, на апошнім вогнішчы. Толькі мала хто гэта ведаў. Маладзейшыя і зусім не маглі ведаць, не перажыўшы. А яна ведала. Калі раней, у дзеўках, усмешка не сыходзіла з Насцінага твару як на людзях, удзень, так і ў сне, уноч, дык цяпер Насця жартавала-смяялася адно ўдзень, на людзях, а ўноч бывала, што і наплачацца.

Вось як сёння. У Курнопавай хаце не сумавала, не давала сумаваць астатнім, а вярнулася дадому — павалілася на ложак, твар ад слёз прыкіпеў да падушкі. Насця ўцерла яго аб навалачку і, учапіўшыся рукамі ў стылыя нікеляваныя пранты, глядзела ў акно — на цьмяныя снягі.

«Адны снягі і лясы навокал. І адна-аднюсенькая жывая душа — сярод снягоў і лясоў...»

— А ты, Пятровіч!.. Штосьці...

«...штосьці з табою таксама робіцца? Да Міцькі зараўнаваў. А што табе да таго, якія мы з Міцькам, блізкія ці далёкія? Ну, да яго ўвалілася ў Курнопаву хату — да Міцькі. І што? Ты здагадаўся? Бачу. Цяпер скажаш: «Не спакушай хлопца, на дзесяць гадоў маладзейшага за сябе. Не муці яму душу...» І яшчэ, ведаю, скажаш: «Ты добрая, Насця. Ты сабе не дазволіш укараціць Міцькаву маладосць». А тады скажы, маю маладосць хіба не вы, мужчыны, укарацілі? Не такія, як заўтрашні Міцька? Колькі тых дзевак яшчэ і ён пакалечыць! Не думаючы, добра гэта ці гадка. Чаму ж ад мяне патрабуеце тое, што самі ў мяне забралі? Насця не звер. Учора сама сябе прыдумыла: «Не чапай Міцьку. Зялёнае хай расце, выспявае». Ламіўся, дурань, у хату, а я не пусціла, не адчыніла. Учора. Але сёння іначай разважыла: «Не, хопіць, каб Насця — за ўсіх, а за Насцю — ніхто!» Сама да Міцькі пабегла. Праз лес, у мяцеліцу. І каб

не ты, Пятровіч, не ляжала б я цяпер адна, не ліла б слёзы ў падушку, быў бы Міцька тут, са мною побач! І гады б яго зялёныя не лічыла. Забыў бы ён у мяне сваю пілу, дом родны, усё на свеце. Усіх, акрамя Насці...»

— Усе разумцы. А Насця — адна?..

Нехта моцна, душу раздзіраючы, завыў. Быццам воўк. Але не воўк. Не па-ваўчынаму аднастайна і доўга свідруючы начную глухмень. І не па-чалавечы. А крычаў чалавек — Лесік Мураўка. Некалі Насця вельмі баялася яго начных спалошных крыкаў. А пасля прывыкла. Аднойчы нават з хаты выскачыла на Лесікаў крык. Ёй здалося, што Лесікава душа канае ў лесе, некага гукае да сябе на споведзь перад смерцю. Насця бачыла, як ён ішоў ад свае хаты ў лес і крычаў. Яна — за ім. Па цаліку, правальваючыся ў глыбокі снег. А ён выбраўся на дарогу, пашыбаваў хутчэй, і яна адстала. Лесік знік, а голас яго яшчэ доўга біўся паміж дрэў, аб дрэвы.

Ляснула клямка. Яшчэ раз...

Насця ўсхапілася, села на ложку, прыцяўшы калені адно да аднаго. Ціха сядзела, баялася паварушыцца.

За сцяною пачуліся нетаропкія крокі. Насця на дыбачках падышла да акна. Там, на двары, стаяў Валошка — курыў.

Моцна затахкала сэрца.

«Ну што, Пятровіч?.. Пусціць цябе ў хату?.. А нічога святога мы не парушым?.. Ні душы, ні сумлення, ні памяці?..»

Ён стаяў, як умёрзлы ботамі ў дол, курыў.

«Ну скажы?..»

Насця ўжо зрабіла крок да дзвярэй, але раптам убачыла на печы два бліскучыя круглыя агеньчыкі — аж скаланулася. Ведала, што гэта кошка сядзіць, яе Доля, глядзіць на яе, а жудасць узяла, як невядома перад чым,— і другога кроку не зрабіла — кінулася зноў на ложак, тварам у падушку.

«...не пушчу. Паміж намі, Пятровіч, Верка стаіць. Яна чуе, усё бачыць...»

Але праз нейкі час зноў узняла галаву, зноў глядзела ў акно. Там ужо не было нікога.

І зноў думкі, нібы птушкі, у галаве запырхалі:

«Пайшоў?! Чаму ж я не адчыніла, дурная? Чаму гэтак хутка пайшоў, не пачакаў? Усяго два разы ляс-

нуў клямкаю. Ведаю, ты, Пятровіч, не Міцька. Той учора доўга грымеў, думала, што дзверы высадзіць, хату паваліць. А ты не такі, ты наогул не такі, як іншыя мужчыны...»

Насця знямогла зажмурыла вочы, адчула сябе крыгаю паміж двума берагамі: нейкая плынь ганяла яе то да аднаго берага, то да другога, а яна і аднаго і другога баялася, быццам то былі не яе берагі.

Успомнілася Насці, як яна, амаль забыўшыся на ўласную хату, днявала і начавала ў Валошкаў. Гэта ў той час, калі Верка злягла, а цётка Юстына не злазіла з печы, на гарачым чарэне парыла радыкуліт. Карова, свінні, куры, агарод, а яшчэ Юрась, Верка — усё і ўсе апынуліся на яе руках. У печы выпаліць, стравы згатуе, скаціну накорміць і напоіць, у аптэку і магазіны збегае, Юрася ў школу збярэ, пасля — бяжыць на работу. Юрась да яе прывязаўся, як да маткі. Ды і старая ўжо глядзела, як на дачку. А закапалі Верку — пачала Насця мяняцца да Валошкаў. Душа, як раней, ляжала да Пятровіча, Юрася, цёткі Юсты, проста спужалася раптам гэтай блізкасці — пачала запускаць сцежку да іхняй хаты. Некалі Верка смяялася: «Ці не астылі ў цябе, Насця, бакі, што не хочаш каторага парубка пад бок падкасціць?» А то адчула, што не астылі бакі, што калі-небудзь пад чарку ды пад настрой ляжа на душу грэх перад Веркаю, тым болей што Пятровіч ёй, Насці, яшчэ раней у душу западаў. Ціха, каб ніхто не здагадаўся, яна заўсёды зайздросціла Верцы. Вядома, не адразу гэтакае магло стацца, не па свежым Верчыным ельніку. Але ўсім вядома, як гады заносяць пяском старыя рэчышчы, прабіваюць новыя.

У тую зіму Зімавец пачаў зноў часціць у Лісань. Аднойчы завітаў у Насціну хату: «Дай вады напіцца». П'е, а вочы блішчаць, як у воўка на авечку. Пасля другі раз прыехаў: «Дай ключы ад канторы». Падае ключы, а ён яе есць вачыма. «Ага,— падумала,— ці не халаднаватую жонку табе бацькі выбралі, што старое ўспомніў?» Трэці раз з'явіўся. Сеў — сядзіць. Зноў вачэй не зводзіць. Спытала: «Што гэтак вы мяне вачыма ясцё? Не такая ўжо, здаецца, салодкая вам?» А ён і кажа: «Таму, Насця, ямо вачыма, што душа не можа цябе забыць».— «Дык не забывайце,— усміхнулася.— За сямейным сталом можаце жонцы

расказаць, якая была ў вас Насця-ягадка. Як вы пажылі з ёю... Я не супраць». Адчуў, што здзекуецца. І ўжо слоў не знайшоў — падляцеў, схапіў яе ў рукі. А пад загнеткаю стаяў чыгун са свінячай паранкаю, у паранцы — таўкач. Выхапіла яна той таўкач і... ён кінуўся ў дзверы. Выскачыў, а там, на вуліцы, стаяць дзед Гарох і Валошка...

Рагоча Насця ў мокрую падушку. Парагатаўшы, зноў глядзіць у начную шыбу.

— А ты, Пятровіч, і на Зімаўца не падобны...

Нехта зашкробся ў цёмную шыбіну. Адляцелі ад шыбіны сінія скалкі лёду — Насця ўбачыла руку... «Тук-тук» — палец дзёўб у шыбу. «Лесік? — здагадалася.— Хоча зайсці ў хату, шкрабецца, што мыш. А дзяўбе — што дзяцел».

Насця падышла да акна, прыткнулася тварам да шыбіны.

— Хто там?

— Пусці пагрэцца, Насця...

Лесік быў апрануты абы-як: боты старыя, дзіравыя, світарок [illegible] абарваным каўнерыкам, пінжачок цесненькі — ні кажуха, ні шапкі, ні рукавіц.

— Гой ты, бедалага! — забегала ля яго Насця.— Садзіся на канапу, давай ногі,— сама пачала сцягваць з яго боты.— Ды і на босую нагу! Ты ж гэтак дуба дасі?!. Бягом на печ! Ды Долю маю там не спужні,— падсадзіла, а сама за вілы ды ў печ, дзе стаяў чыгунок з параным малаком.

— Дзе яна, твая Доля? — варочаўся на печы Лесік.

— Там.

— Няма тут, Насця, твае Долі.

— Але, Лесік. Гэта праўда. Адна нядоля ў Насці. Але Доля была. Недзе тут была...

— Гэта ж матка пахавала вопратку. Каб я ноччу з хаты не выходзіў,— крыху сагрэўшыся, загаварыў ён, раз за разам шморгаючы носам.

— А табе трэба хадзіць? Спаў бы.

— Не, Насця. Мне не хадзіць няможна.

— Трэба спаць ноччу. А то ходзіш па лесе, крычыш, усім спаць не даеш. Ні людзям, ні звярам, ні птушкам.

Святло Насця не ўключала, але на дварэ і ў хаце павіднела — мабыць, пачысцела неба, прарэзаліся месяц і зоры. Ад акна святло падала на ляжанку, на бе-

лыя Лесікавыя ногі — яны, голыя, стаялі на ляжанцы, а сам ён прымасціўся на краі печы.

Насця сядзела каля ляжанкі на ложку, вачэй не адводзіла ад яго белых, нібы смерць, ног.

— У цябе, Лесік, нішто не баліць? — раптам спытала.

Ён маўчаў, не адводзіў вачэй ад акна. Але загаварыў:

— Чаго я не сплю, Насця?.. А таго, што гэтакая прыйдзе ноч, калі над Лісаннію будуць ляцець вялізныя птушкі. Яны падзеляцца на дзве чарады, і адна чарада паляціць далей, а другая сядзе ў нашых дубах. І будзе пір, які бывае на магільніку, на раданіцу. Будуць памінаць усіх, хто ў пушчы галовы склаў. Ты ж, Насця, ведаеш, якія кіпелі баі ў дубах? Майго бацьку тады забіла.

— А чаму, Лесік, ты павінен быць на тым піраванні?

— Бо прыляціць бацькава птушка. І мая таксама.

— А што гэта за птушкі?

— То будуць душы нябожчыкаў.

— А ты ж, Лесік, жывы?..

Апошняе Насціна пытанне было нечаканае — Мураўка надоўга замоўк, сядзеў нерухома, што камень, прагна ўпяліўшы вочы ў акно, як намагаўся звязаць нейкія канцы і не мог звязаць. Потым заварушыўся. Падняў белыя ногі на печ, нібы на ляжанцы яны не адаграваліся, паставіў паўсагнутыя да коміна і на калені, неяк па-сабачы, паклаў галаву.

— Я табе, Насця, скажу.. Адной табе. Што мая душа даўно там, у чарадзе.

— Ты верыш у бога?

— Таму богу, які ў маткі, я не веру. Яе бог злосны. У мяне свой бог. Ён жыве ў пушчы. А які ён — я не ведаю.

— Дык гэта ты яго па начах гукаеш?

— Не, Насця. Я птушку сваю гукаю. Калі яна будзе ляцець над Лісаннію і пачуе мой голас, дык адгукнецца.

«Бедны чалавек! — думала Насця.— Як жа яму цяжка жыць, калі ён, жывы, падзяліў сябе на дзве часткі, на нябесную і зямную, белую і чорную, калі адна частка штоноч сумуе па другой, крычыць, заве? Мабыць, ёй надта хочацца зліцца з той, дру-

гой часткаю, ды не можа. Як жыць у гэтакіх пакутах?..»

— Што ж у цябе, Лесік, атрымалася? Душа твая там, у птушынай чарадзе, а сам ты тут, на зямлі?

— А гэта яшчэ з вайны. Як я хаваўся ад смерці ў дубе. І людзей хаваў. Ведаеш Святы дуб?

— Хто ж яго не ведае?

— Дык я ў ім сваю душу пакінуў. Рашыў, што яна там цалейшая будзе.

— Выдумаў ты казку.

— Ой, не кажы, Насця! Ты ж ведаеш, перад гэтым дубам лісанцы спрадвек спавядаліся. Паміраў лісанец, а блізка не было бацюшкі. Тады яго везлі да дуба.

— Гэта я чула.

— Дык той дуб маю душу таксама прыняў.

Мураўка зноў замоўк. Сядзеў нерухома, утаропіўшы вочы ў акно, цяжка дыхаў. Нібы яму надта цяжка было гаварыць.

Насця ўжо ні аб чым не пыталася. І шкадавання ў душы да Лесіка не мела. Яно было, але знікла. З'явілася нейкая мроістая святлынь — ад пачутай казкі, ад таго, што яна ёсць у Лесіка, што ён моцна ў яе верыць. Каму казка, а каму — само жыццё. Галоўнае, што тая казка сагравала Лесіка.

# Частка другая
# ВЯСНА

## КРЫЧАЛА СЛОНКА

### 1

Вясна не хацела мірыцца з упартай зімою. Яшчэ ў сакавіку то бралася адліга, талая вада блішчала ў латачынах, то зноў вярталіся маразы ды завеі, а ўжо красавіцкае сонца рашуча ўзяло верх над халадамі, прыгрэла шчодра, яму пасобілі дажджы, адзін і другі следам, не ў пару цёплыя, порсткія, і на рэдзінах, палянах, прасеках, грудках задымілі праталіны. Зямля пачала ахвотна, без аглядкі на зіму, распранацца, набрыньваць доўгачаканым цяплом, дыхаць на поўныя грудзі.

Быў збег пор года, калі цяплынь перамагала, але і халады не зусім адступалі; калі ў твар мяккім кацяняткам падоўгу лашчылася сонейка, а з палёў і прасек яшчэ павяваў волкі сівер; калі пагодлівы поўдзень скідаў і заўзятага рабацягі кажух, а надвячорак зноў яго апранаў; калі валёнкі ўступілі дарогі і сцежкі ботам, але ля парога стаялі на ўсякі выпадак; калі дбайны гаспадар спяшаўся прывезці з лесу, скінуць пад плотам крамнёвай моцы лясіну — неўзабаве ой як спатрэбіцца ў гаспадарцы! — Пакуль сокі зямныя не пайшлі дружна ў рух, не шуганулі ў дрэва, не раснарылі абалону, пакуль дрэва стаяла смолкае, звонкае, хоць пры дарогах і на ўзлесках, дзе снягі сплывалі дружней і зямля адтавала шпарчэй, вялікі пярэсты дзяцел ужо заганяў дзюбу пад белую кару на бярозах, кальцаваў іх чорнымі луначкамі — ласаваўся першым бярозавым сокам.

Праўда, у пару рашучага веснавага абуджэння дзень на дзень не прыходзіўся, амаль кожны наступны дзень выпадаў цяплейшы, весялейшы, званчэйшы, як папярэдні, ды і ў адзін і той жа час адно жыццё было на паўднёвым лясным адхоне, зусім іншае — на паўночным. Снег трывала трымаўся хіба што за паўночныя адхоны, пад валежынамі, вываратнямі, у канавах і ямінах, у старых партызанскіх акопах, па глухіх ельніках, аднак і па тых самых ельніках, дзе

зямля яшчэ не адкрылася, прачыналася новае жыццё. З зімовых кватэр, з бярэзнікаў ды алешнікаў, вярнуліся рабкі, нейкія надта трапяткія, пужлівыя ў прадчуванні вельмі блізкага току. Яшчэ з восені падзяліўшыся на пары, яны цяпер з кожным днём усё ахвотней лопалі крыллем, весела пасвіствалі. Да шлюбных канцэртаў іх прыспешвалі глушцы, цецерукі, якія ўжо такавалі на світанні ў цяплейшых падлесках. Палохаючы рабкоў, у ельнік заходзіў барсук. Ён заўзята перакопваў пад пнямі адталы леташні апад, шукаў пад ім кукляты хрушчоў.

Зляжалае за доўгую зіму пад снегам лісце дзе-нідзе падсыхала, з чорнага рабілася шэрым, святлела, к сонцу па ім запальваліся блакітныя, белыя, ружовыя краскі — першыя пралескі. На высокіх танклявых ножках яны падымалі кволыя галоўкі, а на галоўках — то шыгаліну, то расінку, то сухую лісціну, каторы лісцік прабівалі наскрозь, і дзіва-дзіўнае брала чалавека: адкуль гэтакая дробная кропелька мела гэтакую моц, каб прабіцца скрозь сухі каляны ліст, бярозавы ці нават дубовы, узняцца над ім.

Пад бурымі леташнімі травамі, пад амярцвелым лямцам сіўцу прарастаў малады шаўкавісты падшэрстак.

Дзе-нідзе, па ельніках, зацвітала кісліца, разлівалася малочна-белымі ставочкамі.

Ужо на праталінах гулялі гракі, рашуча разбівалі моцнымі белымі дзюбамі з начы мёрзлыя камлюгі. У цяплейшых мясцінах, на сонцы, пасвіствалі шпакі. Жаваранак з песняю падымаўся на ўзлеску ў блакіт неба.

Дні стаялі цёплыя, калі над Лісанню ў высокім небе праляцелі першыя дзікія гусі. Яны ляцелі клінам, павольна махаючы крыламі, выцягнуўшы да поўначы доўгія прагныя шыі.

А нешта праз тры дні пасля першага гусінага кліна зноў ударыў мароз. Зямля апранулася ў бухматы іней, падмерзла, пакрыліся лёдам першыя павадкі. У тыя дні над пагарэліцкім выганам нізка, тулячыся да зямлі, да лесу, пералётны гусіны клін наляцеў на белыя, аброслыя густым інеем правады высакавольтнай лініі. Гэта здарылася ўвечары, як сутонела. Вялізныя цяжкія птахі сыпаліся з правадоў вобзем. І крык птушыны стаяў несусветны, трагічны.

Колькі дзён пабылі маразы — і зноў цяплынь распарыла зямлю. Адкрыліся мурашнікі. Іх руплівыя гаспадары адразу ўзяліся рамантаваць размытыя дажджамі і снягамі круглыя стрэхі сваіх хат. На пні выпаўзлі яшчаркі — грэліся на сонцы. Павыпаўзалі з нор, вішчэлі пад пнямі лясныя мышы. Узяліся за работу краты.

Першага красавіка, у дзень найменшай веры ўсяму вясноваму, жывому, нават самому сабе, па-над мокрымі, ачышчанымі ад снегу праталінамі праляцела капусніца — прывеціла вясну кволымі пазелянелымі крыльцамі.

А неяк уранні, прачнуўшыся, лісанцы ўбачылі, што паводка ад Сажа прыйшла ў самую вёску, затапіла бліжэйшыя да ракі платы, сады, агароды, дуброву, з усіх бакоў абышла Мураўчысін хутар. Папрыехалі на работу леснікі і тэхнікі. Яны сабраліся ля канторы — глядзелі ў той бок, на хутар, нібы на які цырк. Бачылі, як Мураўчыха сышла з ганка ў лодку і, чапляючыся вяслом то за плот, то за дрэва, то лучаючы ім у дно, адпіхваючыся, паплыла да прыбіральні, што стаяла ў канцы агарода. Ад Сажа дзьмуў моцны сустрэчны вецер, не даваў плысці. Старая з усяе сілы налягала на вясло, а вецер, зараза, упёрся — не пасіліць. Яна махала-махала вяслом і раптам апусціла яго ў лодку — замёрла, не варушылася. Пастаяўшы, нетаропка павярнула назад, у хату.

Рогат стаяў, аж Валошка з канторы выскачыў. Як дазнаўся, у чым справа,— сам смяяўся да слёз.

З'явіліся першыя смаржкі, асабліва на высечках, дзе снег сыйшоў раней, зямля адагрэлася. Іх першымі зборшчыкамі былі вавёркі, яшчэ бурыя, не злінялыя, але ўжо з аблыселымі хвастамі. Поўсць на хвастах зрэдзілася, сыпалася, а маладая, агніста-рыжая, яшчэ не адрасла.

У разгар дня ў лесе, нібы ў добра напаленай лазні, збіралася волкая пара. Ад пацяплелай зямлі, адталых пнёў, каранёў, мурашнікаў, па мокрых, яшчэ чорных з прозеленню камлях і галінах дрэў, ад голых, усыпаных набрынялымі пупышкамі кустоў пара падымалася ўгару, і гэтае белае дыханне зямлі кідалася ў вочы асабліва там, дзе сонца лягчэй прашывала лясны гушчар, дзе лес паспеў скінуць абрыдлую белую — ды каб жа белую, чыстую, а то ўжо даўно шэрую, брудную, паклычаную, нібы на вясновым зайцы,— вопрат-

ку, хоць яшчэ не пашыў, нават не скроіў новую, зялёную, чыстую.

Пасля доўгіх зімовых халадоў ажывалі, мыліся, чысціліся людзі і звяры, птушкі і дрэвы, зямля і неба.

Вось у гушчары захрумсцеў сушняк, на лёд і леташняе ўпрэлае лісце сыпанула шыгалле — на прагалку з'явіўся алень. Спыніўся, наставіў доўгія чуйныя вушы, павярнуў іх, нібы лакатары, спачатку ў адзін бок, потым у другі, ловячы шолахі лесу — новыя, загадкавыя, хвалюючыя. Ад капытоў па нагах аленя паўзла тая самая белая пара, што падымалася па дрэвах; яна абмывала жывот, руды ад працяглай лежні на мокрай зямлі, цякла па пернях, шыі, баках, рагах, па кожным іх парастку, звівалася ў вяночках. Алень стаяў вільготны, увесь блішчасты, нават рогі блішчалі, мокрыя, над імі курэў лятучы белы дымок. Здавалася, алень вельмі спяшаўся ў тутэйшы вясновы лес, спяшаўся з далёкіх краёў, а можа — і немаведама якіх вякоў.

Агледзеўшыся на новым месцы, ён рушыў далей, але з-пад ялінкі ў ногі скокнуў бяляк. Алень спыніўся. Заяц сядзеў як нежывы, баяўся павярухнуцца. Поўсць на ім абвісла — рудая, злямцаваная, калматая, лезла і сыпалася. Алень лянiва схіліў над беляком галаву, нюхнуў, чмыхнуў у храпы — беляка як ветрам змяло, адно шматкі рудой поўсці засталіся, матляліся на купіне. Алень абнюхаў купіну, заечую поўсць і, грэбліва закапыліўшы губу, узняў галаву. Рогі паклаў на спіну, надзьмуў таўстую шыю, быццам згатовіўся грозна зараўці наўздагон зайцу, але не зароў, адно цяжка выдыхнуў з храпаў белае паветра, з боку на бок гайдануў рагамі — яны вадзілі сп'янелую галаву.

Алень выбіўся на сонечны астравок, неахвотна грызянуў асіну, пастаяў, самотны, ля маладой бярэзіны і злосна выцяў яе рогам. Потым яшчэ раз, яшчэ. Звонкі ляскат прабег па пушчы. Алень замёр, прыслухаўся і, перакананы, што яго ніхто не бачыць, што ён на адзіноце з аблюбаванай бярэзінай, прыняўся старанна пілаваць рогам белы ствол: уверх-уніз, уверх-уніз. Пілаваў спачатку нетаропка, але паступова захапляўся новай работай, ажно калаціўся, стагнаў, прагна, усім цяжарам налягаў на дрэва, быццам зваліць яго намагаўся. Стаміўшыся, супакойваўся, а потым зноў пачынаў ваявацъ з бярэзінай, зноў распальваўся. І вось — о божухна! — рог адваліўся ад галавы. Алень зажму-

рыўся, нібы ў вачах пацямнела, п'яна захістаўся, неяк набок схіліў галаву, няўклюдную і смешную пад адным рогам, сумна глядзеў на закарэлы адламаны сук, усё роўна як на чужы, цікаўна вадзіў па ім цёплай мысаю, абнюхваў — год цэлы насіў і не бачыў, што носіць. Падзівіўшыся, зноў павольна ўзняў галаву, уставіўся на бярэзіну, на тое месца, дзе белая разадраная кара вісела шмоццем, дзе з-пад кары плылі мутныя белыя слёзы. Ужо не асобныя слязіны, а цэлая слёзная ручаіна заліла рану, плыла па дрэве, і ўжо не белая, мутная, а празрыстая. Алень выцягнуў уперад шыю, прыклаўся мысаю да раны на бярэзіне і доўга стаяў гэтак, не адрываючы мысы. Адно чуваць было, як, дрыжучы храпамі, смактаў бярозавы сок, чмокаў, ды відаць было, як пры гэтым вочы яго туманіла млоснае шчасце. Нарэшце адняў мысу ад бярэзіны, цяжка выдыхнуў [redacted] храп белую пару, аблізаў мысу языком, заваліў галаву на правы бок пад цяжарам правага рога, пакутліва, з боку на бок матаючы ёю, буйной і збалелай, як ніколі цяжкой, квола, без усякай ахвоты, рыкнуў у гушчар ды і падаўся следам за сваім стомленым ціхім голасам.

Доўга бадзяўся алень па гушчарах, ужо іншым, правым рогам кляйміў дрэвы — дзе бярэзіну, дзе алешыну, дзе клён,— пакуль, нарэшце, і той рог не скінуў. А скінуў — нават на яго не зірнуў: стомлена зажмурыў вочы і стаяў нерухома, нібы спаў, стоячы: правы рог даўся цяжэй, як левы.

Блізка зацахліў сабака. Аленя гэтае цахленне вельмі не патрывожыла, але ён азірнуўся: на тым месцы, дзе скінуў апошні рог, стаялі знаёмы чалавек і знаёмы руды сабака. Сабака кідаўся, але чалавек трымаў яго пры сабе адзіным рашучым словам:

— Туба!

Алень не баяўся ў гэтую хвіліну ні чалавека, ні сабакі. Аднак жадання бачыць іх таксама не меў. За ўвесь год яму выдаўся дзень, можа, самай вялікай інтымнасці з жыццём, з пушчаю, з самім сабою — хацелася адзіноты і цішыні.

## 2

Ідучы лесам, Валошка трымаўся прасек, прагалкаў, расцяробаў, дзе болей сонца, цяпла, дзе вясна, яшчэ, можа, не самая дружная, шпарчэй мяняла пу-

шчу. Пад нагамі то шархацеў шаран, трымаючыся па гушчарах, асабліва па ельніках, то, нямогла шапочучы, распаўзаўся слабы азызлы лядок, то чвякала расквашаная зямля, то хлюпацела талая вада.

Штосьці незвычайнае рабіла вясна з душою. І не толькі з ягонай, Валошкавай. Ён быў упэўнены, што душа ёсць у дрэва, звера, птушкі, яшчаркі; кожны лясны гук здаваўся яму не столькі голасам фізічнай істоты, колькі крыкам душы; і калі Барын шукаў збавення ад налітых цяжарам і болем рагоў, пакутліва, увесь у белай пары, збіваў іх, дык Валошка ведаў, што гэтага просіць не столькі цела аленя, колькі яго душа, якая развітвалася з задоўгай нудотай і стомаю, абуджалася да новых дзён. Гэтак разумеючы неспакой аленя, усёй прыроды, Валошка адчуваў: тое самае робіцца з ім, чалавекам. Глядзеў на аленя, а чуў і разумеў сябе, лепей бачыў, што не адны лясныя турботы гналі яго з канторы ў лес — гналі вясна і душа. За Барынам следам валокся не столькі дзеля рагоў, колькі дзеля цікаўнасці да нейкіх аднолькавых змен у Барынавай і сваёй душах. І Мальву, калі разважыць, узяў у лес не таму, што пашкадаваў, хацеў ёй дагадзіць. Магчыма, было і гэта. Але галоўнае — побач з Мальваю лепей бачыў жыццё пушчы, з большаю ахвотаю да ўсяго прыглядаўся, прынюхваўся, прыслухоўваўся — як гэта рабіла Мальва.

Вось яна выскачыла з гушчару, непрыгожа целяпаючы адвіслай ружовай цыцкаю, абдзёртай аб шаран, лёд, шыгалле, шорсткія леташнія травы, мокрыя і халодныя з-пад снегу, паскавытала і зноў без памяці мільгатнула ў гушчар, зманьваючы за сабою гаспадара. Але ён яе не паслухаў:

— Назад, Мальва!

На мокрай, усланай лядовымі наплывамі лесавой дарозе, цяжка, як цераз сілу, чвякаючы і грукаючы коламі, шапатліва рэжучы імі рыхлы ссінелы лёд, а дзе-нідзе плёскаючы па вадзе, ехалі драбіны. Ні конь, ні ездакі не спяшаліся, цягнуліся памалу, маруднай ступою. Валошка спыніўся ў ельніку, глядзеў на дарогу. То на старой вальернай кабыле ехаў Міна. І не адзін. У яго за спіною сядзела Насця, звесіўшы з драбін ногі ў гумовых бліпічастых ботах. На круглых каленях, якія выглядалі з-пад караткавай спадніцы, яна аберуч трымала жалезны меч.

Валошка выйшаў на дарогу.

— Куды, Міна, маладзіцу вязеш?

А ў Насці выгляд амаль святочны: белая хустачка, завязаная чалмою, блакітная, пад вясновае неба, балоневая куртка з блішчастымі металічнымі гузікамі, тварам свежая, угрэтая, жвавая. Уставіла на Валошку чарнявыя вочы, адказала за Міну:

— А мы, Пятровіч, ужо лясок садзім.— Ні з таго ні з сяго пырснула ў кулак.

— Што ж ты смяешся?

— Ат, не кажыце! Завёў ляшак на Белую Грыву. Там, праўда, снег даўно сплыў, сонца грэе добранька. Але зямелька яшчэ і там жыдкаватая, халодная. Тры разы мячом капанула, ды рукі ў лужыне памыла.

— Яшчэ рана.

— Але дужа ахвота ў зямельцы пакорпацца,— Насця ўздыхнула і зноў не адвяла вачэй ад Валошкі.

— Як толькі гадавальнік табе даў саджанцы? Не ў пару.

— Добрых шкадуе. Рыжанькіх усучыў.

— Зноў яны ў іх падмерзлі?

— А летась хіба не гэтакія садзілі? Нішто, растуць,— успомніў Міна.— Ад рыжоцця яшчэ і цяпер не адмыліся.

— А што з вашай машынай, Пятровіч? — пацікавілася Насця.— Ці пасобіць яна сёлета лясы садзіць?

Пра машыну Валошка апошнім часам баяўся ўспамінаць — рукі да яе не даходзілі. Узімку, калі Зімавец вызваліў на месяц ад работы ў лясніцтве, тое-сёе зрабіў. Але ж да канца не давёў: кіпці на транспарцёры, якія павінны браць, нібы людскія пальцы, саджанец, апускаць яго ў зямлю пад сашнік, пакуль што адно ў галаве ды на паперы. Зноў патрэбны быў час, вальнейшыя дзянёчкі. Але хіба цяпер, увесну, іх знойдзеш?

— Павінна садзіць,— няпэўна паабяцаў Валошка і хутчэй адвёў позірк ад Насці.— Скажы, Міна, твае алені паскідалі рогі?

— Маладыя паскідалі. Старыя яшчэ носяць.

— А Барын?

— Даўно не бачыў. Пасля смерці Пані як сышоў з вальеры, дык усяго два разы сустракаліся.

Міна сціснуў лейцы, ажно косткі на руцэ збялелі. Валошка гэта заўважыў, здзівіўся, што егер так моцна перажывае за Барына.

— Эх, егерская твая душа! — шкадуючы Міну,

ледзь не вылаяўся Валошка.— Што з табою рабіць? Едзь. Не стой. За квартальнай прасекаю, ля капца, пад ялінамі знойдзеш тое, што міла-дарага.

Міна аж вочы вылупіў.

— Нейкі фокус? — пацікавілася Насця.

— Ага, ён самы. Ты, Міна, забяры той фокус. Ды глядзі, з рук не выпусці. Ад сябе адрываю. А ты, Насця, язык за зубамі трымаць можаш? — Валошка глядзеў на яе жартліва.

— Усё жыццё, Пятровіч, за зубамі. Гэта як вас убачу, тады язык мой смялее.

— Вясна цябе, Насця, бунтуе.

— Яй-богу! Як у ваду гледзіце. Усё жыццё вясны чакаю, а яна прыйдзе — страшна робіцца.

— Ты што? Вясною страшна?

— А я такая, Пятровіч. Ой, што гэта? — Насця адмахнулася ад чмяля, які ўзляцеў на воз і, нібы прывязаны, гудзеў ля самага твару. Рукою яго адкінула.

— Не чапай! Гэта ж матка чмяліная! — крыкнуў Міна, аж схапіў Насцю за руку.

Валошка засмяяўся:

— Вось і ўвесь страх, Насця... Ужо загарэла?

— Ат! Каму вясна, а каму... толькі нос аблупіцца,— зарагатала, схіліла твар, хаваючы сапраўды аблуплены ад першага загару нос у далоні. Выхапіла ў Міны пугу, сцебанула каня, і воз загрымеў, панёсся.

Валошка ўвайшоў у малады бярэзнік і тут убачыў, што ля ног лётае чмель, ды вялікі, махнаты, нетаропкі. Адляцеў далей, кружыў там, дзе зямля ачысцілася ад снегу, пацяплела, праветрылася, дзе яе лашчыла сонейка, лётаў над пралескамі, блакітнымі і белымі, над зялёнымі нават з зімы кусцікамі чарнічніку, бруснічніку, над бурым леташнім верасам, нетаропка ўсё разглядаў, усё пазнаваў. Валошка не зводзіў з яго вачэй, то ішоў за ім следам, то спыняўся, думаў: «А Міна праўду казаў — матка чмяліная». Іншых чмялёў гэтай парою ранняй вясны і быць не магло, зімавалі адны чмяліныя маткі, якім увесну наканавана будаваць гняздо, пладзіць сем'і. Матка кружыла, заглядала пад кожную купіну, тыцкалася ў адну дзірку, якую бачыла ў зямлі, у другую — шукала ўтульную мясціну для гнязда.

Валошка стаяў перад лясным ставочкам, рыжым ад леташняй ігліцы. Ставочкі блішчалі і далей. Дзе чыстыя ад ігліцы і лісця — там вада празрыстая, там

увесь, здавалася, лес глядзеўся ў ваду: белыя ствалы бяроз, зялёныя ялінкі, блакітнае неба, белыя воблакі, і ўсё — спярэшчанае чорным голлем тых самых белых бяроз.

Беразняк вакол рос мalady, чысты, бялюткі, адно верхавінкі чарнеліся, яшчэ не ўсыпаныя матылямі-лісцінамі. Унізе пад бярозамі туліўся кудлаты густы ельнік, і ў ім Валошка ўспароў беляка, хоць Мальвы не было побач; бяляк выскачыў з-пад самых ног — палахлівы, з чорнымі бруднымі лапамі, з доўгай бруднай поўсцю на пузе. Напэўна, матка, падумалася Валошку,— дужа палахлівая. Яна хоча даць свету вывадак — а як, калі яе цяпер далёка бачаць і сабака, і чалавек: зямля ўжо расквечваецца, а яна яшчэ белая — хоць плач.

Зноў Валошка ўспомніў Насцю: можа, і ў яе гэтакі неспакой вясновы — як у белай на зялёным ды шэрым улонні зайчыхі, як у тае чмялінае маткі, што шукае і не знаходзіць ціхай ямінкі пад гняздо?..

Пастаяў, агледзеўся — пайшоў далей.

Пакутліва, з працяглым стогнам, наперадзе затрашчала і грымнула вобзем дрэва, апошні раз цяжка выдыхнуўшы — пад сябе, у зялёны каляны лапнік, у шэры снег, у хлюпаць. Зусім блізка.

Ля ног жаласліва скавытнула Мальва.

Валошка спыніўся.

Гула піла, Міцькава «Дружба»: весела, захлёбіста, суладна з маладой Міцькавай сілай. Самога хлопца відаць не было, але за падростам Валошка заўважыў высозную, у самае неба, яліну — яна нервова пагойдвалася, потым нахілілася, як глядзела, куды ёй упасці. Падумаў: «Вось куды мяне душа і ногі занеслі. А не хацеў жа сюды ісці. Не хацеў чуць і бачыць, як памірае Такавішча. Думаў у канторы адседзецца. Не адседзеўся. Вясна!..»

Паплыла ўбок-уніз вершаліна — гахнула вобзем яшчэ адно дрэва. І зноў, праз якую хвілю, заспявала заўсёды вясёлая Міцькава піла.

Валошка выйшаў з глухога падросту на святлейшы ўзгорачак і адразу ўбачыў хлопца. Трымаючы пілу ля зямлі на выпрастаных руках, надта не газуючы, упарта схіліўшы галаву, ён спакойна сачыў, як зубасты ланцуг уядаўся ў камель. Зрабіў крок управа, ту-

ды падвярнуў і пілу, яшчэ крыху падвярнуў — валіў дрэва па ветры. Рабіў усё нетаропка, разумна, так, што піла і дрэва адчувалі яго сілу і паводзілі сябе не інакшай, як ён хацеў.

За гады свае лясное працы Валошка нагледзеўся на розных пільшчыкаў. Былі і ў яго лясніцтве такія, што хадзілі з пілою гадамі, здаровыя хлопцы, а стануць пад жывы камель — і пачынаюць прымервацца, выгадваць, кружаць вакол, мітусяцца, пілу смоpгаюць, без патрэбы газуюць, не могуць пакласці дрэва, як задумана, на тое адзінае месца, дзе яно мусіла ляжаць. У Міцькі такога не здаралася. І рабіў ён з пілою ўсяго першы год, а паглядзіш — падумаеш, што чалавек усё жыццё з «Дружбаю» дружыць.

Іншых здзіўляла, адкуль Міцька, гарачы ды малады, нядаўна ўзяўшы ў рукі пілу, паспеў набыць гэтакі спрыт? А Валошка ведаў — адкуль. Ад Клімаша. Міцька адно знешне занадта гарачлівы, легкадумны. Не, галава ў яго не дурная, вока ўчэпістае, душа ліпне да працы, таму ад Клімаша ён адразу пераняў усё Клімашова ўмельства, навучыўся ад яго спакою і кемнасці. А сіла — свая, пазычаць не давялося. Піла ў Міцькавых руках здавалася лёгкай, слухмянай, трымаў яе нібыта цацку — і з раніцы, пры свежых сілах, і надвечар, ужо ўдосталь напрацаваўшыся. Адным на Клімаша не паходзіў: той і ў рабоце, і ў адпачынку аднолькава вясёлы, жартаўнік, а Міцька жартаваў, пакуль за пілу не браўся, з пілою спакайнеў і змаўкаў, як сталеў адразу.

Любіў Валошка прыгожую работу. Стаяў, не зводзіў вачэй з Міцькі — думаў: «Кажуць, яблык ад яблыні блізка падае? Ой, Макар, не заўсёды. Ты ж і сам баішся, каб гэты твой яблык куды-небудзь у балота не закаціўся. Сіла ў хлопца твая, мядзведжая. Але заўтра куды гэтая сілушка папрэ? Хто ведае?..»

Гэтак падумаў яшчэ ўранні, у канторы, калі з акна ўбачыў Міцьку і Насцю ля сушні. Міцька рукою трымаўся за сцяну, не выпускаў Насцю. Насця наравіла вырвацца, ды дзе ж ёй Міцьку пасіліць? Валошка глядзеў на іх, чакаў, што будзе далей.

У канторы сабраліся леснікі, тэхнікі, кліенты, і ён, ляснічы, нешта ім казаў, ды замоўк, загледзеўшыся ў акно. Схамянуўся, калі пачуў за спіною тупат ботаў, рып дзвярэй: людзі пакідалі кантору. За кліентамі ўжо выйшаў Клімаш, за ім — Курнопа. «Макар! —

вярнуў Валошка.— Дзе твой Міцька? Ці ведаеш?» — «Недзе тут, Пятровіч. Разам прыехалі».— «Дык бяры яго з сабою ў дзялянку».— «У мяне ж Клімаш сабраўся рэзаць. Навошта Міцька?» Макар не хацеў бачыць, як сын будзе пляжыць Такавішча, таму адразу захваляваўся. «Міцьку забірай, сказаў. Ён у цябе малады, надта гарачы. А ты яму бацька. Дык і трымай у руках». Курнопа нервова глядзеў на Валошку, не разумеючы яго. Сам Валошка надоечы прыпісаў Клімаша да Такавішча, а Міцьку пасылаў у абход Падабеда на прарэджванне, ды і Клімаш ужо садзіўся з людзьмі ў машыну. Сабраўся штосьці спытаць, ужо рот адкрыў, а Валошка не пажадаў слухаць, махнуў рукою: «І Клімаша бяры...» Адвярнуўся...

Яшчэ адно дрэва сунулася ў шаран. Яго развітальны выдых шугануў у яліны, што стаялі навокал,— уся пушча выбухнула.

Валошка перамахнуў цераз акопчык, уцалелы з вайны, укрыты шаранам і шыгаллем, на колішнім брустверы, на ўжо малапрыкметнай наспе, расквасіў ботамі азызлы ссінелы лёд.

Недзе побач з Міцькам зачахкала сякера, адшчоўкваючы сукі. Валошка ступіў туды два-тры крокі, але з процілеглага боку павеяла смолкім хваёвым дымам — азірнуўся: там бліскала вогнішча. Павярнуў на вогнішча і адразу наткнуўся на Макара.

— Лапнік паліш? — спытаў.

Макар нават не думаў апраўдвацца:

— Нічога. Анісава лапнікам завалім.

— Калі падвернуцца машыны.

— А ўжо адну нагрузілі, адправілі.

— Чыю?

— Сваю! — падаў голас Клімаш, ідучы ад вогнішча да Валошкі і Курнопы.— Вунь... сядзяць гаўрыкі,— кіўнуў на кліентаў, што грэліся ля агню. Паставіў пілу паміж ног, шапкаю ўцёр вялізны чырвоны твар.— А работка сёння па блату. Як казаў мой бацька, малоцячы лыжкаю. Бо мне, Пятровіч, калі ўжо ўпрогся рабіць, дык дай поўны разварот. Каб любое ражно ў руках гуло і стагнала. А тут мудруй, на які бок яліну пакласці, на левы ці на правы. Я ж ведаю — калі якую малечу ў Такавішчы зламлю, дык вы з Макарам галаву мне за яе зломіце.

Клімаш казаў гучна, нібы глухі глухому.

— Першы раз чую, каб ты на работу скардзіўся.

— А я не скарджуся.

Клімаш адвярнуўся на крок і побач зваліў яліну, ды мігам, чыста паклаў — ніводнага дрэўца ёю не зачапіў, не зламаў.

— Лоўка кладзеш,— пахваліў Валошка.

— На дзеўках вучыўся! — зарагатаў Клімаш і ўскінуў пілу на плячо, панёс яе далей.

Што цяпер падаспеў самы час валіць Такавішча, Валошка бачыў па свежых, ужо гэтай вясною выдзеўбаных жаўною дуплах. Руплівы лясны лекар не чапаў здаровых дрэў, у здаровым лесе жаўну цяжка было ўбачыць, а тут, у Такавішчы, ужо за нешматлікія цёплыя дні яна папрацавала шмат на якіх ялінах, парабіла вялізныя, больш за сябе, авалы-дуплы, ды ўсё ў камлях, нізка, у напухлых атожылах, якімі яліны, нібы нагамі, упіраліся ў зямлю. Дуплы зеўралі светлыя, глыбокія. Жаўтлявыя лом, парахня, трэсачкі густа ўсыпалі зямлю пад ялінамі. Па рабоце відаць было, што дзюба ў дзятла моцная, а дрэва — слабое. Калі Валошка ўглядаўся ў сценкі дуплаў, то бачыў на іх лагчынкі, вытачаныя жукамі-вусачамі, хады мураўёўдрэваточцаў, і тое, што ўсе дуплы зеўралі ў камлях, ля зямлі, паказвала, што гніль пайшла ў ствалы нядаўна. Высака яшчэ не пайшла — у грудзях дрэвы былі звонкія, моцныя.

— Значыць, паўбяды,— разважыў Валошка.

Курнопа скрывіўся.

— Вунь,— кіўнуў на кліентаў,— ледзь не скачуць. Яны радыя, што Такавішча сячом.

Валошка зразумеў Макараў ківок. Лесніка ўзяла прыкрасць, што ляснічы паглядзеў на дзеравіну як на бервяно, нібы спажывец.

Міма, падазрона азіраючыся на начальства, праз ельнік пашыўся дробненькі мужчына ў палатаным замусоленым кажушку, аберуч павалок да вогнішча зялёнае голле, бліскаючы з ельніку чырвонымі бахіламі, якія насілі калісьці пасля вайны,— цяпер гэты самаробны, хоць па-ранейшаму надзейны ад вады абутак, клеены з аўтамабільных камер, быў музейнай рэдкасцю, выклікаў усмешку. Валошка загледзеўся на рупліўца і ўспомніў, як уранні гаманіў з ім ля канторы. Чалавек нядаўна згарэў, пачынаў будаваць новую хату.

— Не бядуй, Макар,— паспрабаваў супакоіць лесніка.— Людзі радыя і жывому, і паваленаму дрэву.

Яно ім заўсёды, у любым выглядзе, жывое. Недарма ты расціў лясок, калі скачуць. Назад азірніся. Пасля вайны сам не меў страхі над галавою. Сваю Ялоўку ўспомні. Пад адной страхою паўвёскі тулілася.

— То была вайна.

— А вунь... мірны пагарэлец. Ну і што? Над ім не тое самае дзіравае неба? Страха хоць у вайну, хоць у мір над галавою патрэбна. Такавішча паміраe? У яго новая жытка пачынаецца. Сам казаў, што дрэва два вякі жыве. Адзін век — на корані. Другі — у гаспадарцы.

Макар сядзеў на свежым пні, роспачна падпёршы голаў рукамі, утаропіўшыся ў дол, і па ім было відаць, што як Валошка ні стараўся, а слоў, якія б супакоілі чалавека, не знайшоў, не сказаў.

Піла бухнула каля ног — Макар ускінуў галаву: перад ім стаялі сын і Зуёк, Міцькаў памочнік. Засунуўшы сякеру за рэмень на фуфайцы, Зуёк даставаў з кішэні курыва. Міцька пыхкаў ужо цыгаркаю. Пасміхаючыся, спытаў:

— Нешта ты, бацька, як воўк на сцяжках?

Макар нервова вызверыўся:

— Ты мне зубы паскаль!

Сын не сумеўся:

— Што?.. Пілу адбярэш? Ну, бяры... Пайду лясы садзіць. Якраз вясна шуміць. Любата!

— А пілу мне, дзядзька Макар,— падначваў яшчэ і Зуёк.— Хопіць Міцьку доўгія рублі стрыгчы. Хай бяжыць да Насці ў памочнікі.

Міцька ўспыхнуў, зачырванеўся.

Прыгрукатаў тралёвачнік, і Макар з трактарыстам падаліся глядзець, куды і як траляваць хлысты. Ад іх не адставалі кліенты, ва ўсё соваючы свае насы, лезучы з парадамі, каб пасля зручней самім развярнуцца з машынамі, загрузіцца лепшым дрэвам.

Валошка сядзеў ля вогнішча, глядзеў на тры старыя яліны. Ім набегла ўжо вёсен па сто з гакам, гаку — вёсен дваццаць. Вакол стаялі дрэвы ўдвая маладзейшага веку, і цяжка было дапяць, як гэтая святая тройца дажыла да сёлетняй вясны, засталася, нібы забытая сякераю і чалавекам, яшчэ ад таго пакалення дрэў, што былі ссечаны паўвека назад. Хто ж тут пакінуў? Ад старых лісанцаў Валошка чуў, што Такавішча ва ўсе часы моцна трымалася за зямлю і само зямлю ахоўвала. Але Такавішча стаяла пад лютымі

паўночна-заходнімі, ад Падгоркі, вятрамі, і не ад дзядоў, з уласнага вопыту Валошка ведаў, што адзінкавыя елі на вятрах не выстойваюць. На высечаных дзялянках леснікі ніколі не пакідалі іх на развод, як насенныя, бо вятры выварочвалі такія дрэвы з карэннем. А тройца выстаяла. Як? Можа, у яе была добрая аслона з бяроз, вольх, асін? Ці ў гэтых ялін нейкія асобыя, заглыбленыя ў зямлю, нібы ў дуба, карані? А можа, іх падтрымліваў дружны маладзейшы ярус?

Валошка прыгадаў, як гадоў пяць назад Кароль і Зімавец прыязджалі ў Лісань са шведскім лесаводам. Госць расказваў, што ў трыццатыя гады Швецыя ўзялася за лясную селекцыю і тады шведскія лесаводы выпісвалі насенне сасны і елкі з усіх лясных краін. Мінулі дзесяткі гадоў, і лепшыя ельнікі шведы выгадавалі ад беларускага насення, якое ім прыслала Лісань. Госць таму і прыехаў, каб паглядзець на лісанскія яліны. Яму паказалі Такавішча.

Стаяла сухая позняя восень. Вечарэла. Швед — стараваты, з белым круглявым тварам і сінімі вачыма, каржакаваты, рухавы, сівы, без шапкі, хоць лес пранізваў сцюдзёны вецер,— доўга хадзіў па Такавішчы, любаваўся, ухвальна цмокаў губамі, а вочы шукалі нешта іншае, большае. Пакуль не трапіліся гэтыя тры яліны. Падышоўшы да іх, швед доўга гладзіў елчын ствол, як грэў аб яго далоні, и потым абхапіў елку, нібы жанчыну, прынік да яе тварам — пацалаваў. Зімавец глянуў на Караля, на Валошку — што за дзіва? А госць не зважаў на іх. Дастаў з кішэні хусцінку, выцер вочы і колькі хвілін моўчкі, склаўшы на грудзях рукі, стаяў перад ялінаю.

Валошка добра памятаў яго вочы, твар, моцныя белыя рукі на яліне, потым — на грудзях. І тады, і цяпер ён разумеў шведа.

Пасвістваючы, да яліны ўрозвалку падышоў Міцька. Шырокім плячом адхінуў густую лапіну і, доўга не думаючы, сунуў пад ствол «Дружбу».

— Стой, Міцька! Глушы пілу!

Той заглушыў, не цямячы, што да чаго, глядзеў на ляснічага, а ляснічы ўжо ад яго адвярнуўся, чакаў Макара, які набліжаўся разам з пагарэльцам.

— Як, Макар, думаеш? Хай мацёрыя пастаяць?

Курнопа не паспеў сказаць, што ён думае, як кліент мігам змікіціў:

— Навошта, каб дабро ў лесе стаяла?.. Гэтакія луткі, дошкі!.. Пяць дошчын паклаў — падлога на ўсю хату!..

Яго вочы разгублена зіркалі то на Валошку, то на Макара, то на Міцьку, зноў на Валошку, доўга на яго глядзелі, як малілі, бо тут ляснічы быў вышэйшай уладаю і справядлівасцю: хто ж, як не ён, зразумее душу пагарэльца?

— Помніш, Макар, шведа? Прыедзе ён зноў у Лісань, будзе шукаць яліны, а што мы яму пакажам? І што ён пра нас падумае?

«Няўжо пашкадуе ўсяго тры яліны? І пры чым тут нейкі швед?» — хваляваўся пагарэлец.

— Не выстаяць сярод пнёў,— заўважыў ляснік.

— А мы ім пасобім. Вунь тыя алешыны побач пакінем. Бярозы. Яліны з галоўнага яруса. Доўга, можа, не пастаяць. Хай... колькі змогуць.

«Эх, ляснічы!.. Як ты душу пагарэльца не разумееш!.. Табе шкада?..»

Валошка глядзеў на лесніка: што скажа? А той...

«Чаму ён уставіўся не на ляснічага, свайго начальніка, а на мяне, кліента?.. Ці не хоча заступіцца?.. Ну, заступіся!»

— Можа быць,— кіўнуў ляснік.

«Усё!..»

— Ды што ты сёння, Макар? Нібы мокрая курыца. Што звесіў крылы? — павысіў голас ляснічы.— Гэй, Міцька! Ідзі-ка сюды! І Клімаша вядзі!.. Бярозак трэба насыпаць. Па ўсім Такавішчы. Хай растуць. Сасонкі пасодзім. Зноў Такавішча вымахае. Хай не чысты ельнік — субар уродзіць. Га, Макар?.. Што задумаўся?

— Можа быць.

— Вось і добра. Бярозкам дай ход. Яны зямельку палечаць. Гэй, Міцька!.. Клімаш дзе?

«Заступнічкі!..» — з'едліва думаў кліент.

Валошка павёў лесніка і пільшчыкаў вакол мацёрых ялін — пагарэлец зноў не адставаў ад іх,— паказваў, дзе каторае дрэва пакінуць, каб курціна выстаяла супраць вятроў, што ўпарта налягалі ад Падгоркі. Макар хадзіў моўчкі, ва ўсім згодны з Валошкам. Пагаджаўся і Клімаш. Гэты, праўда, не маўчаў, падказваў, якое дрэва стаіць на зямлі моцна, якое слаба, быццам скрозь зямлю бачыў карані, якое будзе ахлёстваць галінамі суседзяў на ветры, а якое, наадварот, атуліць

па-сяброўску. Большая павага ў яго была да бярозак, асін. Алешыны пакідаць не раіў.

Адно пагарэлец соп ды чмыхаў носам, чвякаў бахіламі, топчучыся за спінамі. На яго можна было не звяртаць увагі. Хто ён такі? Кліент. А што такое кліент? Грузі хлысты, пакуль даюць, вязі моўчкі. Не кожны кліент і лес, між іншым, ведае.

Але чалавек меў светлыя, чыстыя вочы — Валошка глядзеў у іх, і ад таго ўважлівага пагляду кліент пачаў думаць, што ляснічы чакае ягонага слова. Яшчэ мацней захваляваўся, тужліва, усёй душою ўскрыкнуў:

— Як?.. Таварыш ляснічы?!. Гэтакія елкі — шведу?.. Вам швед даражэй за свайго зямелю?..

Клімаш і Міцька рагатнулі, а Валошка толькі ўсміхнуўся. Макар зусім не зразумеў, што яны знайшлі смешнае,— накінуўся:

— Ты, братачка, шведа не чапай!

— А што мне швед? Дайце елкі!

— Дадзім, дзядзька,— весела, гігікаючы, паабяцаў Міцька.— Мігам адвалім...

— Мне гэныя вось... на падлогу, на лутккі.

Валошка мог зразумець і жарт, і людскую патрэбу, але яму заўсёды рабілася сумна, калі чалавек з-за слепаты душэўнай ці поцемку ў галаве не разумеў нейкай асновы жыцця.

— Вы бывалі ў музеях? — спытаў ён.

Чалавек здзівіўся:

— А на ліха яны мне здаліся? У нашых Жабоцьках, слава богу, ніякіх музеяў не вадзілася.

— Ну, а царква ў вашых Жабоцьках ёсць?

— Няма і царквы. Але ў царкве я быў. Хлапчуком. Як ездзіў з маткаю на базар у Мсціслаў. Там на плошчы сабор стаяў. Ды багаты! Як увайшоў, помню, дык ажно дух заняло. Золата! Блішчыць з усіх бакоў!

Успамінаючы, ён зрабіўся блажэнны, як раніцою, калі Валошка ўбачыў яго першы раз. Ён — на адным канцы лаўкі, а малады чырванатвары дзяцюк — на другім. Сядзелі пад клёнам, а паміж імі — паўлітэрка, брус сала, акраец хлеба. Заўважыўшы, як ляснічы пад'ехаў на машыне, кульнулі тое паўлітэрка — ужо пустое — за лаўку ў снег, а сала з хлебам умінаюць за абедзве шчакі. Валошка не любіў, як ля канторы кліенты пілі гарэлку,— падышоў. «Што? — спытаў.— Хаўтуры спраўляеце?» А пачыналі секчы Такавішча, і настрой быў паганы. Мужычок знізу ўверх бліснуў на

Валошку шчаслівымі вочкамі, ні на грам не спалохаўся. «Не хаўтуры,— кажа.— Свята! Як бы радзіны».— «А каго ж вы нарадзілі?» — спытаў Валошка. «Хатку новую стаўлю,— адказаў мужычок.— Пагарэлец я. Трэці раз згарэў. Першы раз немец спаліў у сорак трэцім. Другі раз — пасля вайны. Пусціў у новую харомінy вечарынку. Любіў песні, скокі. А хлопцы панапіваліся, спалілі хату. А гэнай зімою, ноччу, агонь трэці раз мяне знайшоў. Адкуль падкраўся — сам не ведаю. Маю хату выкаціў і суседаў хлеў. Цяпер новую хачу вырадзіць».— «Яшчэ ж не вырадзіў, а ўжо замочваеш?» Валошка глядзеў на сіняе рыльца пляшкі, якое тырчала са снегу. А той: «Як лясок у руках, дык ужо і цяпло ў касцях». Лесарубным білетам патрос перад Валошкам. Тады душа была павярнулася супраць пагарэльца, падумалася: «Чаму мы з табою такія розныя? Табе ўламацца ў Такавішча — свята. А мне — дзень чорны». А потым на шэрым твары ўбачыў вочы — блакітныя, нібы кроплі вясновай вады, нявінныя,— успомніў, як сам будаваўся, ездзіў у лес па лясіны, як радаваўся ім, залацістым ды звонкім...

І цяпер вось — тыя самыя вочы, праведныя.

— А не думалі вы ў царкве?.. Толькі шчыра кажыце. Свярбелі рукі, каб тое золата... ну, са сцяны — ды пад падол?

Пагарэлец ажно адхіснуўся ад Валошкі, спужаўся.

— Кажыце праўду,— мякка ўсміхнуўся, каб не палохаць чалавека, Валошка.

— Праўду?..— забегаў востры кадык, чалавек таропка глытаў сліну, нібы сохла ў горле.— Думаў. От, думаў, каб ета хоць адзін маленькі абразочак у золаце сцібрыць!.. От багацце!..

— Не сцібрылі?

— Што вы?! — усклікнуў, як абураны, і замоўк, не ведаючы, што далей казаць. Але Валошка чакаў, не зводзіў з чалавека дапытлівых вачэй, і той загаварыў зноў: — Думанне, каюся, было. А прызнацца каму-небудзь баяўся. То ж сабор! Там усё святое. Дакрануцца рукою грэх. А каб узяць?!

— Сабор! Ну а тут?.. Тут вам не сабор?

— Тут? — Пагарэлец адчайна заматаў галавою.— Не! Тут лес. А там... Такія абразы ў золаце! Людзі туды ішлі і ехалі, каб хоць адным вокам зірнуць. Хто ў бога верыў і хто не верыў — усе перліся...

«Во ты які! — зноў зазлаваў Валошка.— Адсцябаць бы цябе, чалавеча, лазінаю. Як маленькага».

Але вочы тыя ж самыя — чыстыя.

— І зла і цярпення на вас не хапае,— хутчэй сабе, як пагарэльцу, прызнаўся Валошка, задумліва пашкроб патыліцу.— Выступаеце супраць шведа. А супраць якога шведа — ведаеце? Супраць лесніка, які ехаў у Лісань ажно са Швецыі, каб хоць адным вокам, як вы кажаце, глянуць на яліны, каторыя вам не цярпіцца раскроіць на луткі. Вунь адкуль ехаў — са Швецыі! Каб пакланіцца гэтым ялінам! А вам — луткі, дошкі, больш нічога не трэба. Махай сякераю, як захочацца. Што вам лес? Царква — святое. Там грэх падумаць, каб нешта ўзяць. А тут: пляж, валачы! І доказ адзін: спакон веку гэтак чалавек з лесам робіць, хто ў пушчы не злодзей — той дома не гаспадар. А можа, наша пушча і ёсць найсвяцейшы сабор?! Цэрквы знікаюць — людзі вечна жывуць. А знікнуць лясы?.. Як тады людзям?..

Пакуль казаў Валошка, пагарэлец таптаў снег бахіламі на адным месцы, мяккі цёплы снег пад ім асядаў, правальваўся, чырвоныя бахілы ўсё глыбей хаваліся ў шэрым снезе, і цяпер ён выглядаў меншым, як быў, а ў акружэнні высокіх Клімаша, Міцькі, Макара здаваўся зусім дробным, гарапашным. Валошка мог, вядома, пашкадаваць чалавека, утаймаваць сваю разгневаную душу, але ў гэтую хвіліну бачыў перад сабою не аднаго, усіх кліентаў, якіх памятаў і не памятаў, якія бывалі ў Лісані і якія яшчэ будуць. Ведаў, што ўсе яны розныя, але даўно заўважыў, што ўсіх — ціхіх і крыкуноў, сціплых і нахаб, шчырых і хітруноў, разумнейшых і дурнейшых — дзіўным чынам яднала адна — у каго адкрытая, у каго патаемная — думка: браць ад лесу як паболей і самае лепшае, браць і браць, удзень і ўначы, не азіраючыся. Тут людзі часцей як дзе трацілі меру сваім жаданням, патрэбам, мяжу дазволенага і недазволенага, амаль усе загадзя былі пераканaныя, што «лес па лесе расце», што «чалавек па лесе ходзіць», што «лес ды пустазелле буяюць усюды», што «хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар». Увогуле, здаецца, людзі даўно не цёмныя, агоралі навукі, паразумнелі, памянялі свае адносіны да цара і бога, неба і месяца, ведаюць усё, што, дзе і як робіцца, а да лесу засталіся амаль тыя самыя, якія былі ў далёкую дзікую пару.

— Дык што? Загарэлася вока на апошнія яліны?

Чалавек нервова высмаргнуў са снегу адну нагу ў чырвоным бахіле, ямчэй паставіў, пасля другую, пекануў злосным — усю злосць, мабыць, вымесціў, якую меў,— паглядам.

— Спачатку душу выматлашыце...

Крутнуўся і пашыбаваў, пакрыўджаны, да тралёвачніка, з сілаю выкідваючы з-пад бахілаў, нібы жвавы конь з-пад капытоў, камякі збітага снегу.

## 3

Барвянае вогнішча датлявала на зубчастым грэбені пушчы, яго святло гасла ў залітых вадою калюгах і каляінах, на блішчаста-мокрых снягах і дрэвах, у высокім небе і на сабачых вушах, калі Валошка падыходзіў да Лісані. Як уранні, пад нагамі хрумсцеў лядок, бо на ноч падмарожвала, пахла гнілым леташнім лісцем, рудымі палеглымі травамі, волкім нізавым дымам — з лесу ці з вёскі,— кіслай адталай ігліцай, леташнім памётам, нібыта на звярынай лёжцы. Асмужаная дарога дыхала вясною.

Паперадзе трусіла Мальва, стомленая ад доўгага, за дзень, гойсання, пацішэлая. На Такавішчы Валошка неяк не заўважаў яе, там яна яго не пільнавала, зганяла ахвоту па волі, а цяпер, змораная, далёка не кідалася, нават з дарогі не зварочвала, вяла акурат на вокны канторы, што блішчалі ў вочы здалёк, ачышчаныя за дзень ад наледзі, якой заплывалі ўначы, падсохлыя на сонцы і ветры.

У баку ад дарогі за чорнымі, нібы галавешкі, дубамі нехта чахкаў сякераю. Валошка спыніўся — прыглядзеўся і прыслухаўся. Нікога не заўважыў, але здагадаўся: сякера чахкае ля магільніка. Звярнуў у той бок.

Мальва засталася сядзець на дарозе. Адна да канторы не пайшла і з гаспадаром не захацела. Сядзела і чакала, ведаючы, што ён вернецца.

Падышоўшы да агароджы, Валошка ўбачыў у суседнім ельніку Андрэя. Той часаў на пні дубовы слупок. Захапіўся — не заўважаў Валошку. Шапка вісела на бярозцы, цёплая, на ваце, куртка была расшпілена, сякера лёгка, з нейкаю радасцю, лётала ў моцнай руцэ. Валошку не хацелася адрываць Андрэя ад работы, якая рабілася з ахвотаю, стаяў і глядзеў, усміхаючыся, а той абчасаў слупок з усіх бакоў, роў-

ненька, старанліва абчасаў, завастрыў галоўку, кожны кант закругліў, нібы цацку рабіў,— адкінуў слупок пад елку, дзе ляжалі яшчэ два такія. Апусціў сякеру, любаваўся сваёй работаю. Падняў з-пад ног неабчасаны дубок, паставіў на пень, толькі замахнуўся сякераю — заўважыў Валошку. Цюкнуў сякеру ў пень — падышоў.

— Вось дзе я цябе злавіў, браканьера,— пажартаваў Валошка, падаючы руку.

— А што ж?.. Дубок пад нагамі ляжыць, гніе. Дай, думаю, у справу пушчу. Зраблю ласку дзеду Нікодыму.

— Даўно б трэба. Каб ужо Нікодыму не знайсці дзеравіну, агародку добрую не паставіць? Толькі нешта ж ты рана за яе ўзяўся? Людзі да раданіцы магілкі ў парадак прыводзяць.

— Балюча глядзець, якая яна ў дзеда. Жывыя і дзеці, і ўнукі, ужо праўнукі пасуцца па яго пушчы, а да агародкі ніхто рук не прыкладзе. Няма каму. Быццам нікому яна не патрэбная.

— Гэта ты праўду кажаш.

Валошка ўважліва глядзеў на Андрэя — падабаўся ён яму гэтакі, заклапочаны. Здароўкаючыся, як ніколі адчуў у яго руцэ дзябёлую мужчынскую трываласць; рашучасць і сталасць — у рахманым паглядзе, у твары, які паспеў загарэць; уся яго постаць здалася шырэйшай у плячах, узмужнелай. Яны даўнавата не бачыліся. Адно — што вясна, заўсёды неўтаймоўная на працу і нечаканы клопат, не давала лішняга часу аднаму і другому, а другое — яшчэ Андрэй толькі адной нагою стаяў у пушчы, другою быў пакуль што ў Мінску, на зімовай базе, яшчэ лесапарадчыкам не настаў час мяняць зімовыя кватэры на летнія. Праўда, двух маладых тэхнікаў Андрэй прывёз у пушчу, з імі бадзяўся па лесе, звяраў планы квартальнай сеткі, але гэта была яшчэ не работа, хутчэй — спроба тое-сёе паглядзець, зразумець, паслязімовая ахвота лесавога чалавека пацягацца па вясновым лесе, з галавою ўлезлі ў новы клопат.

Аблёгшыся на абветраную, але яшчэ волкую жардзіну агароджы, яны стаялі побач, глядзелі на бліжэйшы курганок-наспу, яшчэ не ачышчаную ад шызага вобліва, на вільготны, абмыты снегавой вадою валун, на тры гнілыя слупкі вакол курганка з валуном — чацвёрты ўжо ляжаў, рассыпаўся. З двух бакоў курганка за слупкі яшчэ трымаліся зялёныя жэрдкі. Ка-

мень таксама заплыў шэрым лішайнікам, але на ім можна было прачытаць імя, прозвішча і год смерці раба божага: «Нікодым... Зімавец... 1928».

— Бывае такая ахвота пагутарыць з дзедам,— шчыра прызнаўся Андрэй,— такая ахвота!.. Стаіш ля магілы, думаеш пра яго, а ён цябе не чуе. А сёння ўзяўся яму агародку зрабіць. Паціху сякераю цюкаю, пра яго зноў думаю, нешта яму кажу, і здалося, што, цюкаючы, прабіўся да яго сваім голасам, душою, што ён мяне чуе і я чую... нейкую яго тугу...

Валошка моўчкі глядзеў на магілу, на пушыстыя кветкі сон-травы, якія сінелі на валуне драбочкамі цёплага красавіцкага неба, глядзеў утрапёна, як пра сваё думаў.

І Андрэй спытаў:

— А вы адкуль ідзяце?

— З Такавішча,— задумліва прамовіў Валошка.

— Пілуеце?

— Пілуем.

— Хто мог падумаць? Які год назад...

— Трэба, каб ты туды падышоў. Там ёсць яліны мацёрыя... Ты іх, пэўна, бачыў. Параіш, як захаваць. Галоўнаму ярусу пяцьдзесят, а ім недзе па сто дваццаць, болей...

— Помню,— кіўнуў Андрэй.— Колькі разоў гадаў-дзівіўся, хто іх там пастараўся пакінуць, калі тое, ранейшае пакаленне пляжылі? Можа, мой дзед Нікодым?

Валошка змоўчаў. Па тым маўчанні Андрэю падалося, што Нікодыма назваў не падумаўшы, бо дзед не мог дбайна рабіць у панскім лесе, маючы зуб на пана.

— Не,— сам з сабою не пагадзіўся.— Нікодым ад пана вельмі цярпеў. Пан разарыў яго. Нават кінуў лясную службу. Дзе ж ён мог дбаць пра панскую пушчу?

— А чаму твой дзед ляжыць у Лісані? — раптам спытаў Валошка.— Як памёр, дзе жыла сям'я?

— У Гарадку.

— А тут паклалі?

— Можа, сам прасіў перад смерцю. Іначай паклалі б у Гарадку. Але калі прасіў, то чаму? Прырос да Лісані, да пушчы?

— Вось сам сабе і пярэчыш.

— Як гэта?..

— А так, што мужык ніколі не глядзеў на лес ды

зямлю, як на вотчыну цара ці пана. Жыў і думаў, як вярнуць сабе лясок і зямельку, бо ён іх вечна сваімі бачыў. А як жа? Хто працуе, таму яны і належаць. Справядліва? З-за іх, зямлі ды лесу, усе мужыцкія паўстанні, катаргі. Ведаў і Нікодым, што лес мужыцкі, не панскі. Сам кажаш — прырос да пушчы.

Такога Андрэй не чакаў ад Валошкі: здзівіўся і абрадаваўся — за дзеда. Задумаўся.

— Ну, а як жа ты жывеш? — Валошка павярнуў размову ў іншы бок.

— Як у бога за пазухай.

— І хто твой бог?

— Вальерны...

— Га-а!.. У Міны цяпер самы рай. Усё абудзілася. Зямля, звяры, птушкі. Няма лепшага лесу, як наша Лісаншчына.

— Аб'ектыўнаму воку мо і ёсць. Але маё вока, бачу, як і тваё, Пятровіч. Вока, душа.

— Суб'ектыўныя?

— Вядома.

— Ну, а як тады будзе аб'ектыўнасцю лесапарадчыка?

Валошка ўскочыў на верхнюю жэрдку агароджы, сеў на яе, не зважаючы, што макраватая, і Андрэй адчуў, што гэта — на доўгую размову, адчуў, што Валошку хочацца пагаварыць; мо ён дзень цэлы ні з кім не гаварыў, хадзіў ды думаў, маўчаў, нешта перажываў, як гэта з ім бывае, і цяпер карціць выгаварыцца, а мо што яны даўно не бачыліся, даўно не гаварылі. І Андрэй, таксама ахвотна, ускочыў на жардзіну, сеў побач.

— А суб'ектыўнасць,— працягваў Андрэй,— не заўсёды шкодзіць справе. Нават у нас, лесапарадчыкаў. Хіба лес — гэта фармальны набор дрэў, траў, звяроў, птушак? Не. Лес — не голая арыфметыка. Таксацыя — не толькі бухгалтэрыя. Біяцэноз? Цяпер, здаецца, так кажуць?

— Не толькі цяпер, па-мойму. Яшчэ штабс-капітан корпуса ляснічых, ён жа класік рускага навуковага лесаводства Георгі Фёдаравіч Марозаў, называў лес і супольнасцю, і біяцэнозам.

Андрэй уважліва і здзіўлена паглядзеў на Валошку — не чакаў, што той гэтак удала падхопіць яго вучоную размову. Нават паправіў, як укалоў: маўляў,

не казырай вучонасцю. Успыхнула Андрэева самалюбства, ужо ён не захацеў упускаць вожкі размовы:

— У Сукачова гэтая думка развіта...

Але Валошка і тут перапыніў:

— Даруй, Марозаў — раней. Праўда, наш выдатны штабс-капітан казаў «біяцэноза», а мы — «біяцэноз». Ён, стары інтэлігент, надаваў прыярытэт жаночаму полу, а мы, сучасныя эгаісты — мужчынскаму. Але... што гэта мы раптам пра біяцэноз?..

— Да слова?..

— Не. Ты хацеў сказаць, што лясны біяцэноз не адмаўляе суб'ектыўнасці лесапарадчыка? Свайго ўласнага погляду...

— Магчыма. Але я хацеў сказаць і тое, што суб'ектыўнасць можа пашырыць нашы ўяўленні пра межы біяцэнозу, таго ці іншага, канкрэтнага. Скажам, лісанскі біяцэноз. Можа, я хачу ўключыць у яго круг факты даўняй гісторыі? А можа — духоўнае... Нельга? А чаму?

— Тут не пахне вульгарнай сацыялогіяй? — хітра ўсміхнуўся Валошка.— Не прышыюць?

— На гэтых штучках буяюць палын ды крапіва.

— Але крапіва пячэ заўсёды.

— Не баюся.

— Значыць, пра ўсё гэта і гаварыў з Нікодымам?

— Помніш, Пятровіч, як ты мне казаў, што ляснік, калі замахваецца сякераю на дрэва, у той міг павінен падумаць, што дрэва — самы трывалы мост паміж берагамі сённяшняга і заўтрашняга жыцця зямлі, што гэты мост яднае мінулае з будучым, яго трэба ведаць, а не разбураць.

— Ты гэта помніш?

— Іначай не спатрэбіўся б мне родны дзед Нікодым. Яго магіла. Яго жыццё.

— Даруй, што не ў сваё лезу. Але... ты калі-небудзь стаяў тут, на Нікодымавай магіле, з Зімаўцом, сваім братцам? Стаялі, успаміналі свайго дзеда?

— Васіля, па-мойму, ніколі не цікавіў Нікодымаў бераг. Ён увесь у сённяшнім дні. Тут, у адным дні, ён і пачынаецца, і канчаецца.

— Сучасная пазіцыя?

Андрэй пацісну плячыма, нічога не адказаў. Абодва замоўклі, быццам размова ўперлася ў глухую сцяну.

Магільнік ахінала дзіўная ціша, як штосьці неспа-

дзяванае мусіла вось-вось здарыцца. І раптам недзе ўверсе, па-над лесам, ціша прарвалася, нібы птушка пляснула дзюбаю па вадзе. Яшчэ раз... яшчэ...

— Цык-цык-цык...

Андрэй саскочыў [redacted] жардзіны, задраў галаву:

— Слонка?

Валошка не зводзіў з яго вачэй. Зноў думаў, што Андрэй не той, які быў летась і ўзімку, цяпер у ім было куды больш бываласці, нетаропкай праніклівасці ў зусім не павярхоўныя рэчы, быў відаць нястомны пушчанскі хадок, ляснік, працаўнік. Ён застаўся ўзнёслы — такая натура,— але цяперашняя ўзнёсласць была ў ім не на паверхні, яна ўжо хавалася ад старонняга вока, легла ў падмурак чагосьці значнага — думак, слоў, паводзін. Цяпер Валошка пачынаў разумець, куды Андрэй гне як лесапарадчык. Рыхтуючыся да свайго першага самастойнага праекта, ён, пэўна, збіраўся сказаць у ім пра мінулае пушчы, пра змены, якія гістарычна адбываліся тут у размяшчэнні парод, пра ўплыў тых змен на здароўе і прадукцыйнасць пушчы, яе забалочанасць, здольнасць бароў і гаёў узнаўляцца сваімі сіламі, іх супольнае жыццё са звярамі, птушкамі, чалавекам, пра тое, як чалавек у розныя часы па-рознаму ставіўся да пушчы і як пушча мянялася да чалавека, плаціла яму. Валошка быў рады, што Андрэй гэтак шырака глядзіць, хоць і непакоіўся: ці зможа ён гэтак?..

Гамузам, з нейкім цыганскім гармідарам, на магільнік наляцела вераб'іная чарада. Не паспеўшы сесці, узнялася ў бярозы, але і там затрымалася ўсяго на міг — скінулася за магільнік у бурыя лужыны, так-сяк падагрэтыя кволым сонцам. Шумнула на лужынах — і паляцела на вёску.

Зноў цішыня апанавала магільнікам, узлескам, дарогай, вёскаю. Яна не была, як іншая цішыня, цяжкой, мёртвай. У ёй адчувалася жыццё — лёгкае, радаснае, поўнае таямніц, новых змен, сэнсу. У Валошкавай душы яна яднала зямлю і неба, яго самога — з усім зямным і нябесным.

Нават калі з лесу пачуўся слабы гул матацыкла, падалося, што гэты гул — сама цішыня.

Толькі праз хвіліну, калі, вырваўшыся на лісанскі выган, матацыкл застрачыў мацней, ліхаманкава, нібы кулямёт, у спіну дыхнула сцюжа, і ўсе думкі, цішынёю народжаныя, зніклі з ёю разам.

На старым матацыкле шалёна, з ляскатам, з ветрам і свістам, імчаў Міцька. Быў праскочыў міма магільніка, але Валошка паспеў ускінуць руку — ліхач заўважыў ляснічага. Збавіўшы газ, рэзка тармазнуў, ажно задняе кола закінула ўбок. Міцька ледзь не кульнуўся, разам з матацыклам.

— Бяда, Пятровіч! Зуйку хана!..

Міцька блізка не пад'язджаў, крычаў зводдаль — Валошка кінуўся да яго.

— Што гародзіш?.. Дрэвам?

— Ды не!.. Не дрэвам. Я!..— Міцька захліпаўся, ажно сліна з рота пырскала.— Я Зуйка гнетануў. Пад гарачую.

І зноў газануў — да канторы.

Быццам мала было гэтага гоману-крыку — яшчэ з вёскі пачуўся танклявы сабачы брэх. Там, з веснікаў дзеда Гароха, прачнуўся, выскачыў, нібы ачмурэлы, Май.

Спыніўшыся ля канторы, Міцька мігам, нібы з каня, саскочыў з матацыкла і кінуўся ў дзверы. І туды ж, у кантору, шыбаваў Валошка. За ім — Андрэй.

Калі Валошка і Андрэй увайшлі ў кантору, Міцька бегаў вакол стала, за якім сядзела, вачыма лыпаючы на хлопца, Ліда, крычаў у тэлефонную трубку:

— Ды ў Лісань!.. Лісань, глушцы, не ведаеце?!

Кінуў трубку на стол і цяжка, збялелы, бухнуўся на Валошкава крэсла.

— Не бойцеся, Пятровіч.

— Ты мне кажы без дурыкаў! — Валошка схапіў Міцьку за плячо, смаргануў да сябе.— Што там у вас?..

А Міцька, не глянуўшы на ляснічага, зноў, ужо спакайнейшы, падняў тэлефонную трубку, набраў нумар.

— Міліцыя?.. Дык ці прыедзеце вы ў Лісань? Хто чакае? Вас чакае Курнопа Міцька. А-га!.. Забіў чалавека...

Ліда войкнула, ускочыла з-за стала, падбегла да хлопца, узялася моцна трэсці яго за плечы:

— Міця!.. Ты што кажаш!..

Міцька рукою адхінуў яе ад сябе, устаў з крэсла і цяжка паваloкся ў дзверы.

На дварэ ціха траскатаў матацыкл. Міцька ўжо сядзеў на ім, але ехаць не спяшаўся.

Падбегла Ліда — нахлабучыла яму на галаву забытую ў канторы шапку. Падышлі Валошка, Андрэй, з'явіўся дзед Гарох — прыбег следам за Маем.

— Як было? — стомлена загаварыў Міцька.— А так і было. Узяў я Зуйка за хаўбоцце, гнетануў каркам аб дрэва...

— Жывы? — Валошка люта глядзеў на хлопца.

— Ды... жывы.

— Ты ж сказаў — забіў.

— Гэта... каб хутчэй ехалі. Жывы Зуёк.

— За што ж ты яго, Міця?! — усклікнула Ліда.

— Маўчы хоць ты,— ён адвярнуўся.

Але павысіў голас Валошка:

— За што?!

І Міцька прызнаўся:

— За Насцю.

«Толькі гэтага не хапала»,— варухнулася ў Валошкавай галаве думка. У віску закалола, нібы вострым шыльцам.

— Пачаў, падла, Насцю курвіць. Не-э!.. Яна за яго чысцейшая сто разоў. Не, кажу.... ты яе не чапай, падлюга!.. Ну і...— сарваў з галавы шапку, шмякнуў на бензабак.— Прыедзе міліцыя — пакажаце дарогу ў Такавішча...

І газануў у лес.

Паміж жаўтлявым, нібы абсяг спелага жыта, небам і асмужанай ссінелай зямлёю, у цішыні, якая вярнулася, далёка і ледзь чутна зноў і зноў узнікала слончына песня. Адна душа тужыла па другой, адна адну не знаходзілі, але шукалі — настойліва, трывожачы зямлю і неба шчаслівай пакутаю.

Валошка, Андрэй, Ліда стаялі ўтрапёныя, нібы да зямлі прымёрзлі, глядзелі на лес за Трасцінкаю, дзе знік Міцька, а дзед Гарох прымасціўся за іх спінамі на ганку, сядзеў і не зводзіў вачэй з Мая, быццам Міцькі не чуў, не бачыў. Сабачка ляжаў у яго на каленях, звесіўшы цяжкую, не па ўзросце вялізную галаву на танклявай шыі, цікаўна сачыў за сухім, пляскатым, што трэсачка, салдацікам — чырвоным, з чорнымі крыжыкамі на спіне жучком, які шчаміўся пад дзедаў бот.

Мальва сядзела побач. За размовамі ды перажываннямі на яе ўсе забыліся, нават Валошка — гаспадар. Яна першы раз бачыла Мая, але паспела пачуць у ім сваю кроў — клапатліва мыла языком яго вялізнае абвіслае, што ў сланяці, вуха.

Ціша стаяла несусветная. Яна рабіла свет незвычайна малым. І таму, пэўна, усё, што ў гэтым малым свеце дзеелася, хапала за сэрца, лезла ў душу.

## ЦЯГА

### 1

Марудна канчаўся ўрок геаграфіі.

Дырэктар школы павольна хадзіў паміж партамі, гуляў у сябе перад носам указкаю і апавядаў пра Грэцыю, час ад часу падыходзячы да карты, якая вісела на класнай дошцы. З яго слоў атрымоўвалася, што ў Грэцыі ўжо не засталося зялёнай прыроды, бо яе там з'елі звычайныя козы, якія панавучваліся ад кошак лазіць па дрэвах і ўжо аб'ядалі апошнія дрэвы Балканскага паўвострава.

Юрась не верыў. Як козы маглі з'есці прыроду? Як яны хадзілі па дрэвах? Ён не мог уявіць, напрыклад, Мінавых аленяў на дрэвах. Алені, вядома, не козы, але ж і козы не кошкі?..

Ужо не слухаючы пра Грэцыю, Юрась глядзеў у акно.

За акном паважна шпацыраваў дырэктараў індык (дырэктар жыў у асабняку на школьным двары), пад самым плотам падбіраў нейкую спажыву. Індык таксама не вельмі цікавіў Юрася — там, за акном, ён бачыў Мальву, вальерную Мінаву хатку, аленяў, якія, дарэчы, хадзілі толькі па зямлі, калі зялёнай, а калі белай, бачыў алянуху Пані пад акном Мінавай хаткі — алянуха ляжала з адкінутымі нагамі,— Барына ля Пані, новую тулачку, што вось ужо цэлы тыдзень вісела ў хаце на сцяне, над Юрасёвай канапаю. Калі б бацька купіў яму тулку раней, калі б яна была з ім, Юрасём, той зімовай ноччу ў вальеры,— даў бы ён жару ваўкам. Ой даў бы! Юрась раптам уявіў мацёрага, які паклаў Пані, сябе — перад мацёрым з тулкаю ў руках: прыжмурыў левае вока, палец правай рукі, нібы тулку, наставіў у акно на дырэктаравага індыка, і ў той самы момант вострым Дзімкаў локаць балюча садануў у бачыну — ажно дых заняло. Юрась мог бы яшчэ мацней садануць Дзімку, ды ўжо дырэктар стаяў перад ім каля парты, глядзеў на яго. Разгублена залыпаўшы вачыма, Юрась сцяўся і вінавата апусціў галаву.

— І так,— зноў загаварыў дырэктар,— на заходнім баку Балканскага паўвострава мы бачым маладыя хрыбты Данайскага нагор'я. Тут часта ідуць дажджы, але ўся вада імкліва збягае па горных шчылінах пад

зямлю, і там, пад зямлёю, мы бачым вымытыя вадою пячоры, азёры...

А Юрась (што за дзіва!) зноў бачыў тулку, аляnуху Пані на снезе, яе вялізнае чырвонае вока, Барына каля Пані, Мальву, і яшчэ — вожыкаў: у старым, высозным, нібы лес, малінніку, у канцы свайго агарода і саду. Бачыў, як баба Юста кінула ў чыгун ачышчаную бульбіну, паклала на ўслон нож, устала з услона, выцерла рукі аб фартух і сказала: «Хадзем, Юрась, са мною. Я табе пакажу нештачка». Праз веснікі яны прайшлі з двара ў сад — баба паперадзе, Юрась за ёю следам,— вытаптанай баразною абагнулі хлеў. За хлявом сад канчаўся, там яго заглушыў роўны ■ плотам маліннік, і баба Юста развінула куст: «Зірні сюды, Юрась!..» На рудым леташнім быльнягу, на шэрым злямцаваным лісці ляжалі вожыкі: матка і малыя. Падабраўшы пад сябе дзяцей, матка навастрыла голкі, а два вожычкі не паспелі схавацца ў матчына цяпло, лычыкамі тачыліся пад яе — абодва жаўтлявыя, сляпенькія. «Ой, баб!.. Іх жа тут, што гароху!» — «Сем штук прыплоду».— «А калі ты лічыла?» — «Ды яшчэ ўчора, як маліннік рэдзіла. Наткнулася, была скалолася»,— баба Юста глядзела на вожыкаў і ажно ззяла, радая, нібы там былі не вожыкі, а свіння з парасятамі. Юрась пакратаў рукою малога: «Голкі мякенькія. Малочныя».— «Ну, хопіць кешкацца. Яны вачэй і рук не любяць...»

Дырэктараў індык з ранейшай пыхлівасцю насіў паўз плот надзьмутае чырвонае волле, але быў ён там ужо не адзін, ужо з-пад плота на двор убіўся руды певень: галава малая, а грэбень вялізны і чырвоны, нібы волле ў індыка. Певень выцягнуў шыю, высака задраў галаву, ужо быў гатовы абвясціць усяму двару, што і ён тут герой, ды ў гэтае імгненне яго заўважыў індык — куляю кінуўся насустрач. Певень уцяў галаву ў пер'е, тыцнуўся ў плот — дзе тая дзірка? — але індык спрытна дзеўбануў яго ў чырвоны грэбень і трымаў, не выпускаў. Абодва не варушыліся, быццам скамянелі. Потым індыку, мабыць, падалося, што яго здзек ■ пеўня малы, ён пачаў то прыўзнімаць пеўня за грэбень над зямлёю, то гнясці аб зямлю.

Забыўшы на дырэктара і Данайскае нагор'е, на коз, што ходзяць па дрэвах у Грэцыі, нават на Мальву, Пані, Барына, вожыкаў, бабу Юсту і сваю тулачку, Юрась устаў з-за парты, усунуўся ў акно.

— Валошка! — грымнуў дырэктараў бас.

Юрась утуліў голаў і сеў, але зноў усхапіўся, быццам яго, як таго пеўня, хтосьці прыўзняў за каршэнь.

— Я...— быў памкнуўся нешта сказаць і разгубіўся.

Клас замёр, не дыхаў.

— Ты ўвесь урок пялішся ў акно,— дырэктар злосна глядзеў на хлопчыка.— Табе там цікавей, як тут?

Юрась ніколі не лгаў.

— Там... ваш ідык ухапіў за шышку вашага пеўня.

Клас здрыгануўся ад рогату. Заляскаталі парты, усе кінуліся да вокан. А пад плотам, на школьным двары, раз'ятраны індык па-ранейшаму трымаў бедалагу пеўня.

І тут дырэктараў бас яшчэ вастрэй рэзнуў па вушах:

— Вон з класа!..

Юрась стаяў на калідоры, не ведаючы, куды падацца, а за дзвярыма, у класе, рогат не аціхаў, усё яшчэ ляскаталі парты, бегалі, крычалі. Юрасю было крыўдна, што дырэктар вытурыў яго аднаго, хоць па класе ён не бегаў, не рагатаў, як іншыя, ціха глядзеў у акно, і пра таго індыка, пра таго пеўня не зманіў ні на макавінку, сказаў усё, як было.

Адчыніліся класныя дзверы — выйшаў дырэктар.

— Падыдзі да мяне!

Юрась падышоў.

— Бяжы разгані дурных птушак.

Юрась абрадаваўся:

— Я іх зараз!..

На двары ўсё было па-ранейшаму: індык трымаў пеўня, а той ужо і крыллем не лопаў, не адбіваўся, вісеў на індычынай дзюбе зусім знясілены, ледзь жывы.

Доўга не думаючы, Юрась схапіў з-пад ног цагляны глыж і запусціў ім да плота. Тут жа знайшоў другую цагліну, зноў размахнуўся, ды раптам заўважыў, як певень падскочыў, радасна замалаціў крыллем і, якочучы, кінуўся праз увесь двор, а індык... з індыком штосьці зрабілася — ён, нібы п'яны, паківаўся з боку на бок і кульнуўся з цыбатых ног. О божачкі!.. Ляжаў, не варушыўся.

Урок скончыўся. Гармідар, што бушаваў у класе, вырваўся на ганак, на двор — сыпануў увесь шосты «Б». Юрась бачыў, як першым да індыка падляцеў Дзімка Зімавец, як ён схапіў вялізную птушку за доўгую, нібы вяроўка, шыю і, рагочучы, дурасліва размахваў ёю, нежывой.

## 2

Мінулася раніца, а поўдзень сваё не набраў. Сонца ўзнялося, ззяла шчыра, але не было горача, бо вецер выбягаў на дарогу то з лясных прагалін, то з азіміны, якая раптам адкрывалася і зноў хавалася за дрэвамі. Калі Насця выехала на шашу — вецер дыхнуў у твар яшчэ вальнейшы, мацнейшы.

Ехаць шашою было дрогка, грукатліва, не па душы Насці, і яна рашуча павярнула Машку на палявіцу, якая ад лесу — лес застаўся за спіною — бегла паўз шашу.

Насця вярталася з суседняга, адразу за Гарадком, Лабжанскага лясніцтва, куды вазіла саджанцы сасны. Там, у Лабжанцы, пасадкі закончылі, але на пясках, прынятых з восені ад калгаса, садзілі, як на лесасеках, пасадачныя гнёзды рабілі рэдка і на кожным гектары недалічыліся па дзве тысячы каліваў. Акт прыёмкі культур ад рабочых малады ляснічы падпісаў, бо па акце — норма: прымаючы культуры, тэхнікі і пробы плошчы заклалі памылкова — як на лесасеках. Васюкова, інжынер па культурах, прыехала — адразу вывела на чыстую ваду і рабочых, і тэхнікаў, і ляснічага. Загадала давесці пасадачныя месцы да нормы. А чым падсаджваць? Добра, што ў Лісані саджанцы засталіся.

У высокім блакіце, не адстаючы ад воза, трымцеў жаваранак, і пад яго песню Насці думалася пра ўсё лепшае, светлае. Вось яна адвезла суседзям саджанцы — і добра. Хай вылазяць з бяды. Бяда з усімі бывае. Лісані яны не патрэбны, Лісань за пасадкі ўжо атрымала і першае месца, і прэмію.

Пад вясёлы, нібы ў таго жаваранка, настрой успаміналa свае дзявочыя гады, тыя, што былі некалі, песні ды скокі, тых, што былі, хлопцаў.

Пачаўся Гарадок — палявіца скончылася, узбегла на асфальт. Калёсы зноў загрымелі, дрогка заляскаталі — усе ўспаміны і думкі павысыпаліся з галавы.

Насця пад'язджала да школы. Загледзеўшыся на шырозныя вокны, успомніла, што трэба знайсці Валошкавага Юрася, бо Пятровіч прасіў прывезці сына ў Лісань. А дзе шукаць? У школе ці дома? Можа, дзе на волі, на рацэ — лаві вецер у полі.

Але Насці пашанцавала. Яна раптам заўважыла Юрася пад высознымі старасвецкімі ліпамі каля школьнае брамы. Ён стаяў з партфелем адзін, трывожна азі-

раўся па баках, як каго чакаў. Насцю ён таксама заўважыў, мо ў той міг, як і яна яго,— адразу кінуўся да воза. Падбег, усхваляваны, партфель з кнігамі ўскінуў на воз, аберуч, ні слова не кажучы, схапіўся за ляжэйку, на хаду хацеў ускочыць, ды Насця вожкамі спыніла кабылу:

— Што здарылася, Юрась?

Ён стаяў каля воза прыціхлы, як вінаваты.

— ...Я забіў дырэктаравага індыка...

Танклявыя, як у бацькі, губы нервова торгаліся, а блакітныя, ужо матчыны, вочы часта міргалі, стрымлівалі няпрошаныя слёзы. Насці зрабілася не па сабе ад невядомых ёй перажыванняў чулай Юрасёвай душы, ад той адданасці, шчырасці, з якою хлопчык ёй адкрываўся.

— Забіў? — з ім разам разгубілася Насця.— За што ж ты яго, Юрась?

— А ні за што. Цаглінаю па галаве — бац!.. Ён і спёкся.

— Як жа гэта? Каб ні за што?..

— А ён падвесіў пеўня за чырвоную шышку. Душыў...

Насця адчула ва ўсёй гэтай гісторыі штосьці смешнае, сама паспакайнела і хлопца ўзялася супакойваць:

— Падумаеш!.. Індык спёкся. Ну і добра зрабіў. Дырэктар смачны суп з'есць. А то панапладзілі паскудства. От чаго цярпець не магу, дык гэта індыкоў. Яшчэ мышэй. Як тыя шамочуць у сценах, вішчаць.

Насустрач беглі рабыя, нібы цялушкі, бярозы ў прысадах, беглі да самага цэнтра Гарадка. Насця ўставілася на іх і ўспамінала, як гады два назад у нядзелю ішла з базару. У руцэ кашолка, у кашолцы сыр, галоўка масла, бітончык з алеем, буханкі хлеба, белага і чорнага. Толькі звярнула ў завулак да Валошкавай хаты, як з-пад плота знянацку выскачыў вялізны індык. І адразу — да яе. Шыпіць, вуркоча — страхоцце. Яна ад яго адступае, кашолкаю бароніцца, а ён, нахалюга, кашолку з рук выбіў — пакаціліся па зямлі і сыры, і галоўка масла, і хлеб, алей паплыў пад ногі. Насця спалохалася, бегма ад шалёнага індыка, а ён — за ёю. А нехта ззаду крычыць і рагоча: «Дзеўка, скідай чырвоную спадніцу!» Тады ўспомніла, што індыкі шалеюць, убачыўшы чырвонае. Добра, што спадніца лёгка надзявалася і лёгка скідалася — на кнопках: як смарганула ў поясе, дык яна і звалілася з ног. У ка-

раценькай камбінацыі, з голымі каленкамі, ускочыла на Валошкаў ганак, а тут і Валошка выходзіць з хаты: «Здарова была, кума!» Узяў за плечы, трымае моцна, смеючыся з гэтакага цырка, а яна перад ім калоціцца, як перад тым індыком. Крутанулася, з яго гарачых рук вырвалася, села на лаўку, голыя калені рукамі абхапіла, засаромелася, нібы маладая дзяўчына. Тут падышоў Валошкаў сусед, прынёс спадніцу і кашолку. А спадніца ўся стаптаная, брудная, парваная — не апранеш. Кінулася з ёю ў хату, за печ забілася, цётку Юсту гукае. А старой не чуваць. І Валошка зайшоў. Кажа: «Чаго ты, дурніца, мяне баішся? Я ж табе не індык? На чырвоную спадніцу не кінуся.— І яшчэ не ўсё. Памаўчаўшы, упікнуў: — Ну і дзікая ты, Насця».

Выйшла яна тады з Валошкавай хаты ў Верчынай спадніцы. Ішла і азіралася. Ёй здавалася, што ўсе людзі глядзяць на яе, усё бачаць, усё ведаюць, бачаць, што не ў сваёй спадніцы — у Верчынай...

Юрась супакойваўся, але па-ранейшаму туліўся да Насці, і яна ціха, поўная нейкага матчынага хвалявання, сказала:

— Ну, садзіся. Паедзем.

На возе яны ўселіся побачкі, рассунуўшы скрыні. Насця гладзіла ўскалмачаную, пыльную, з пяском у валасах Юрасёву галаву.

— А чаму ты, цётка Насця, не прыйшла да нас на Першае мая? Баба пірог спякла. З макам.

Гаварыў ён ціха, жаласна, нібы з крыўдаю. Насці падалося, што крыўда яго — на яе. А за што?

Успомніла, як перад святам, дні за тры, выдаўся вельмі цёплы дзень і яна пасабляла Валошкам садзіць бульбу. З раніцы насілі бульбу ў ямкі, перабіралі, растрасалі гной, канём садзілі, а пасля абедалі — Юрась увесь час цёрся ля яе, на крок не адставаў. Ажно ёй не па сабе рабілася. Ужо шкадавала, што зноў з'явілася да Валошкаў, тым больш што яны і не прасілі яе пасабляць, сама прыперлася,— навошта было да сябе зноў хлопца прывязваць, душу яму вярэдзіць. Ну, сумуе без маткі, шукае матчыну пяшчоту. Але ж і яна яму не матка.

— Ты мяне хіба чакаў? — спытала.

— Чакаў.

Ён, нібы кот, шчакою шоргаўся аб яе плячо, і сэрца Насціна як не разрывалася: «Божа мілы! Што за хлопец?..»

Юрась выцягнуў з-за спіны партфель, паставіў яго сабе на калені, пашмотаўся ў ім — дастаў доўгі, нібы дудачка, свісток. Свіснуў, пакруціў у Насці перад тварам, весела зазірнуў ёй у вочы і зноў засвістаў.

— Хочаш, свісток падару? Сам зрабіў.

— Што ж я з ім буду рабіць?

— Свістаць будзеш.

— Во! Мне гэтага не хапала,— смяялася, ажно слёзы на вочы набеглі.

Тады Юрась схаваў свісток у партфель, спытаў:

— А што ты рабіла на Мая?

— Дома сядзела.

— А мы елі пірог з макам. Баба сварылася на мяне і на бацьку.

— За што ж яна на вас?

— Казала, каб бацька прывёў мне мамку. А я, цётка Насця, не хачу, каб ён прыводзіў. Я хачу, каб ты была маёй мамкаю. Я б цябе слухаўся. Адну цябе.

Ён адвёў ад яе пляча галаву, зморшчыў ружаваты ад сонца, вяснушкамі абсыпаны твар, у вузкіх шчылінах пад жаўтлявымі броўкамі прыжмурыў блакітныя бачыстыя вочкі, прагна глядзеў ёй у вочы, і столькі болю прачытала Насця на дзіцячым тварыку, што разгубілася, маўчала. Ды і што магла сказаць? І на згоду з Юрасём і на нязгоду не мела ніякага права. Хітраваць? І гэта было цяжка. Хіба ад Юрася адвярнуўшыся? Не бачачы яго чыстых вачэй?

— А ты вельмі хочаш мець мамку? — раптам спытала і сама схамянулася — навошта яшчэ і яна бунтуе душу дзіцяці?

Ён страсянуў бялявым чубком:

— Вельмі...

Ажно ў вачах пацямнела. Яна зноў прыгарнула Юрася да сябе.

Гэтак яны і ехалі па Гарадку. Мінулі універмаг, пажарню, гасцініцу, пад'ехалі да скверыка, насупраць якога стаяў будынак раённай міліцыі. Тут Насця спыніла кабылу.

— Бяжы дамоў, Юрась. Хуценька абедай і чакай мяне. Збярыся ў лес. Вазьмі сваю стрэльбу. Ды з ёю асцярожны будзь. Бацька сказаў, каб я цябе ў Лісань прывезла.

— Праўда?! — аж заззяў.

— Ну! Бяжы...

Юрась мільгатнём знік за платамі, за хатамі, а

Насця сядзела на возе паміж пустых скрынь, глядзела на белы мураваны будынак міліцыі, у вокны, на ганак, цераз плот на двор, дзе пахаджвалі людзі, дзе нехта сек дровы, але ўсё тое, што бачыла, яе не грэла, і яна зноў углядалася ў вокны, цераз плот, на ганак. Потым зразумела, што гэта смешна — сядзець насупраць міліцыі і ўзірацца ў вокны — адвярнулася, нервова правяла рукамі па грудзях, зашпіліла кофту на дробныя гузікі, якія павылузваліся з вялікіх пецель, абцягнула рукавы, прыгладзіла далоньмі валасы і саскочыла з воза. Атрэсла спадніцу, узяла жменю сена, абмяла ім гумовыя боты, адзін і другі, падцягнула на каленях панчохі, прывязала лейцы да плота, цяжка ўздыхнула, набіраючыся рашучасці, яшчэ раз агледзела сябе — кофту і спадніцу, боты — і пайшла цераз вуліцу. Перайшла. «А далей?.. У каго запытаць?..»

Успомніла — ужо на ганку,— што некалі тут служыў знаёмы міліцыянер, здаровы, пажылы, уважлівы, заўсёды, бывала, усё растлумачыць. Насця ведала яго, калі была замужам за Захарам — Захар часцяком трапляў у міліцыю. Але ж тое даўно мінулася. Зайшла ў калідорчык — цёмна, пуста. Нікога не заўважыла, а голас пачула:

— Вы да каго?

Убачыла збоку малюпенечкае акенца дзяжурнага міліцыянера.

— Мне Курнопу Мацвея Макаравіча. Міцьку з Ялоўкі.

— А вы хто будзеце?

— Я?..

— Сястра? Жонка?

— А-га! Я сястра.

Дзяжурны здаўся вельмі падобны тварам і гаворкаю на таго пажылога міліцыянера, які некалі сустракаў яе ў міліцыі, пускаў у КПЗ да Захара. «Спытаць, ці ён гэта? А навошта?..» Міліцыянер ужо адвярнуўся ад яе — нешта сказаў суседу, які сядзеў там, у дзяжурцы. Абодва зарагаталі. Потым побач з акенцам адчыніліся дзверы — выйшаў той дзяжурны здаравяка. У святле, што падала ад дзвярэй на Насцю, нібыта пазнаў яе:

— Да аднаго п'яніцы хадзіла, цяпер да другога?

Насця сарамліва апусціла галаў.

— А дзе ж той?

— Ды... Развялася.

— Ой, дочка, дочка! Ці даўно пазбавілася прыдуркаватага мужыка, як брат падрос да дурасці.— Паляпаў яе цяжкой рукою па плячы, быццам бацька, шкадуючы, параіў: — Ідзі на базар. Там ты яго ўбачыш.

У будні дзень на базарнай плошчы не было ні душы, і яна заўважыла Міцьку здалёк. Ён ішоў побач з канём, трымаючы лейцы, вёз на калёсах жалезную бочку. Без шапкі, штаны ў нейкім белым брудзе, як у вапну выкачаныя, кашуля не чысцейшая, на валасатых грудзях расхрыстаная, на жываце са штаноў выпушчаная, а боты расплясканыя, з нізка закасанымі халявамі, у што толькі ні вырабленыя. Ён Насцю таксама пазнаў здалёк і адразу каня спыніў — воддаль стаў, на яе глядзеў. Яна пад'ехала бліжэй, кінула лейцы на воз — пайшла да яго.

— Стой! Не падыходзь блізка,— выставіў абедзве рукі, як не пускаў да сябе. Яна крокаў за пяць спынілася. Міцька заўважыў па ёй, што яна пачула смурод,— засароміўся, але і засмяяўся: — Золата вязу, Насця.

Стаяў перад ёю нібыта весела, усміхаўся, выбіваючы зямлю абцасам, але што яму было брыдка глядзець Насці ў вочы — гэта яна таксама заўважыла: лёгкая чырвань разлілася па маладым твары, усмешка — як не свая, напружаная, кожны рух, нават пагляд нібы ў каго пазычаныя. Не бачыла Насця былой Міцькавай хвацкасці, учэпістасці ў паглядзе, у руках, якім звычайна даваў волю, калі сустракаліся. Чаго-чаго, а шкадавання, жаласці да Міцькі яна ніколі не ведала, бо ён сам не шукаў ні ў кога спагады, а цяпер — зрабілася шкада хлопца.

— Калі ж цябе, Міця, выпусцяць?

— Хутка, Насця. Дзень-два — і з'яўлюся чысценькі, пад гальштукам.

Насця апусціла галаў: што сказаць?

— Зуёк у суд, кажуць, падаў? — спытала.

Усміхнуўся Міцька:

— Брэшуць, Насця. Не падаваў. З Зуйком мы памірыліся. Прыходзіў з пляшкаю.

Толькі цяпер, дазнаўшыся ад Міцькі, што суда не будзе, яна адчула, як хвалявалася за яго ўсе апошнія дні. Вось сказаў — і цяжкі камень адваліўся ад сэрца. «О, божачка! Што ж гэта? Няўжо Міцька паспеў прысушыць да сябе? Як жа раней не падумала, што гэтакае можа стацца? Але — не можа быць. На дзе-

сяць гадоў за яго старэйшая. Не! Не! Не!..» У галаве закружылася, у вачах усё паплыло, разам з Міцькам.

— Зуёк сюды прыходзіў. Валошка паслаў. Ідзі, кажа, ратуй дурня Міцьку, мірыцеся. Мне, Насця, перад Пятровічам... хоць зямлю грызі. І Зуёк сказаў, што калі б не Валошка — не даравў бы ён мне. Сабака я перад Пятровічам.

— Ладна. Едзь.

— А ты як тут апынулася?

— Саджанцы вазіла ў Лабжанку.

— Дык жа... базар не па дарозе?

Яна маўчала. І ён маўчаў. Яго конь сам крануўся з месца, і Міцька, ужо на развітанне, кінуў:

— Днямі выпусцяць. Прыбягу да цябе.

— Не, Міця! — вырвалася, як крык, у Насці.— Да мяне каб не прыходзіў. Не пушчу!

Яна смарганула лейцамі і хутчэй затупала побач з калёсамі ў процілеглы, як ехаў Міцька, бок. Ішла не азіраючыся. Спіною чула, як ён глядзіць ёй услед.

3

Лісань ад раніцы чакала семінарцаў. Сабраліся амаль усе леснікі і тэхнікі. Але за раніцаю падаспеў поўдзень, падкаціўся і адкаціўся, ужо той дзень людзі разабралі, сонца глядзела за лес, астывала па-над яго зубчастым грэбенем, а ніхто не ехаў.

Вярнуўся з азёраў Клімаш. Далажыў, што рыба на юшку, якую Зімавец распарадзіўся варыць на Сінім, у лодцы, што сеці Міна не выкінуў на бераг сушыць, а паставіў на якары — можа, якая платвіца яшчэ ўваб'ецца, гасцям на дарогу, што Міна і Рысеў — галоўныя рыбакі — чакаюць гасцей ля возера.

Валошку не сядзелася і не стаялася. Ён ужо не раз заглядаў на сушню, абыходзіў двор і сад, усю раллю стаптаў ля сваёй ЛПВ (лесапасадачная Валошкава), колькі разоў успорваў пад дрэвам трактарыста, каб той завёў трактар,— зноў і зноў правяраў машыну на хаду: хоць бы не падвяла перад гасцямі. Глядзеў на леснікоў — шкадаваў, што людзі марнуюць дарагі вясновы час, калі работы поўна, рук не хапае.

Макар Курнопа ляжаў на спіне пад кустом духмянай, у самай квецені, чаромхі, падаслаўшы пінжак, раскінуўшы ногі ў ботах, падклаўшы рукі пад галаву. Валошка спыніўся над ім, загледзеўся на яго шэры

твар — падумаў: «Здаў ты, Макар. За адну вясну. Схуднеў, счарнеў, вочы паўвальваліся, нос завастрыўся. Што з табою? Такавішча падбіла? Вядома. Але і Міцька... Даўся табе сынок». Курнопу яшчэ пазалетась клалі на аперацыю, нават два разы, страўнік крамсалі. Але ж пасля аперацый, здавалася, акрыяў? Цяпер — зноў чахне. У Магілёў нядаўна ездзіў да дактароў. Там рады не далі, усучылі паперку — накіраванне ў Мінск, у Бараўляны.

«Не дай бог!» — цяжка ўздыхнуў Валошка і ботам лёгка цяў у саслізганую падэшву Макаравага бота.

— Едуць? — той падхапіўся адразу.

— Са свістам.

Ляснік сеў. Побач з ім на мяккую мураву прызямліўся Валошка.

— Як Міцька? — спытаў.

— А што Міцька? Хай так жыве, як свая галава шурупіць. Калі бацька яму не ўказ. Не малое дзіцятка.

— А то едзь, Макар, дадому. Чаго табе тут валяцца? Захочуць паглядзець твой Крутаяр, дык я і сам пакажу.

Падумаўшы, Курнопа крутнуў галавою:

— Не. Ахвота машыну глянуць. Як яна?..

Падышоў Клімаш. Спытаў:

— Адпусціце мяне, Пятровіч? Вашу ЛПВ я ў рабоце бачыў. І рыбы налавіў.

Валошка паглядзеў яму ў твар, заўважыў адразу, што жартуе Клімаш: адпусці — нікуды ён не паедзе, застанецца тут, з усімі, бо ён з тых, хто за талакою хоць на край свету. Таму і адказаў не так на пытанне, як на Клімашову хітрасць:

— Табе ж будзе крыўдна, як не паясі юшкі? Рыбу лавіў, а есці будуць без цябе? Вунь штаны яшчэ і цяпер мокрыя. Працадзень свой зарабіў.

Клімаш усміхнуўся:

— Га! Працадзень! На храна ён мне гэтакі?..

Тут нехта і крыкнуў:

— Едуць!..

Лісань чакала, што гасцей з'явіцца поўны аўтобус, ажно ўсе, свае і госці, памясціліся ў «Волзе» ды «газіку».

«Волга» падкацілa першай. З яе вылезлі Кароль, Зімавец і незнаёмы лісанцам маладжавы чалавек гарадскога выгляду: у кароценькім, вышэй каленяў, светлым плашчыку, мардатых чаравіках на таўшчэзных

падэшвах, зялёным капелюшы, з жоўтай скураной пап-каю пад пахай. Пакуль незнаёмы вылазіў з «Волгі», Зімавец, выскачыўшы раней за астатніх, услужліва трымаў перад ім адчыненыя дзверцы, і ўсе адразу здагадаліся, што прыехаў намеснік міністра Нікіцін, якога ніхто з лісанцаў яшчэ ў вочы не бачыў, бо на семінар ён з'явіўся толькі сёння ўранні,— ні перад кім іншым Зімавец дзверцы не трымаў бы.

За «Волгаю» з лесу, нібы назіркам, вынырнуў «газік». З яго вылезлі Васюкова, Вайцюк і два ляснічыя — пухавіцкі і гомельскі.

Калі госці сабраліся да кучы, загаманілі, Кароль узяў Валошку за плячо — сказаў:

— Ну, хазяін, паказвай машыну.

Атрымоўвалася не так, як планавалі. Валошка меркаваў расказаць гасцям спачатку пра пушчу, тое-сёе з яе гісторыі, звазіць у Асечу да аленяў, пабыць у дуброве, у Курнопавым абходзе, там паглядзець сёлетнія і мінулагоднія культуры, Крутаяр, Галоўчыцкі бор, а пад канец дня — паказаць сваю машыну, паслухаць людзей, хто што пра яе скажа, і пасля ўжо ехаць на Сіняе, на юшку. Як задумаў — не атрымоўвалася.

Гуртам пастаялі каля канторы і падаліся на ўзлесак, да машыны. Намеснік міністра ішоў паперадзе ўсіх, малады і лёгкі, размахваючы ў руцэ капелюшом і жоўтай папкаю, а за ім следам ішлі Кароль, Зімавец, Валошка, госці-ляснічыя. Крыху далей — Васюкова і Вайцюк. Яшчэ далей — леснікі.

— Рыбы налавілі? — ціха, каб ніхто іншы не чуў, спытаў Зімавец у Валошкі.

І тут жа абодва пачулі за спінамі:

— А як жа, Сямёнавіч? Пастараліся.

Следам ішоў Рысеў.

— Вы чаго не на Сінім? — строга спытаў Валошка.

Рысеў глядзеў у твар Зімаўцу, з ім стараўся загаварыць, а Валошку як не чуў і не бачыў:

— Ці праўда, што лясгасу далі адлоў баброў?

— А вы мала заробілі на бярозавіку? — кінуў Валошка.— За бярозавікам абход запусцілі, цяпер... за бабрамі?..

Кароткія рыжыя вусікі Рысева апчэрыліся, а вочкі, таксама калючыя і рыжыя, зіркалі з вузкіх шчылін то на Зімаўца, то на Валошку, нервова бегалі злева направа.

— Я на бярозавіку план даваў.

— Каму ў план, а каму ў кішэню?

— Канчайце,— абсек Зімавец.— Не месца спрачацца. Але не той быў Рысеў, каб уступіць зручны момант і не вырваць у дырэктара згоду на адлоў баброў — нахабна ўшчаміўшыся паміж ім і Валошкам, ён не адступаў ад свайго:

— Я ж і раней лавіў. У мяне на бабра сеткі ляжаць. Лепшы лавец. А што?.. Хто яшчэ пацягаецца?.. На Трасцінцы кожнага звярка ў твар ведаю...

Валошка пачуў, як тхне ад Рысева гарэлкаю,— узяў яго за локаць, спыніўся, прапусціў уперад Караля, Зімаўца, гасцей-ляснічых і злосна, у вочы лесніку, разануў:

— Кіруй адсюль, лавец! Каб я цябе тут не бачыў. Зелля ўжо нахапаўся? Дык ідзі ў кусты, праспіся.

Рысеў быў кінуўся апраўдвацца, маўляў, не бярэ гарэлкі ў рот ані кроплі, ды Валошка не стаў яго слухаць — пайшоў даганяць начальства.

Машына стаяла на трактарным кранштэйне, трактар паціху тахкаў у выхлапную трубу. Трактарыст выглядаў з дзверцаў, чакаў каманды. Валошка махнуў рукою, каб ехаў,— трактар стрэльнуў у неба порсткім клубам дыму, тузануўся і павалок машыну па ўзаранай загадзя прагаліне. Зямля тут, паміж хваёвых сцен, ляжала свежая, мяккая, сашнік лёгка кроіў яе, пракладваў баразну, а над сашнікам пацíху раскручвалася круглая, нібыта блін, касета, падавала на ленту саджанцы — адзін за адным,— і лента апускала кожнае дрэўца пад сашнік у зямную проразь, у раллю карэньчыкамі. Гартачы нагортвалі цёплую пясчаную зямлю, каткі прыцiскалі яе — раўнюткі рад сасонак плыў з-пад машыны. Усе моўчкі брылі за машынаю, таропіліся ў адну кропку, на раллю пад каткамі, дзе з-пад машыны выныралі сасонка за сасонкай. Папераду ўсіх ішоў Валошка, незвычайна засяроджаны, уважлівы да ўсяго і ўсіх. Ягонай увагі хапала, каб бачыць і разумець не толькі кожны саджанец, што выплываў з-пад сашніка, але і кожны механізм машыны, каб не траціць сувязі з трактарыстам, які павінен быў рабіць адно тое, што трэба яму, Валошку, і ў той жа час паспяваў сачыць за тварамі намесніка міністра, Караля, Зімаўца, тых двух ляснічых, пухавіцкага і гомельскага, адчуваў іх настрой, адносіны да машыны, думкі — усё, ад чаго залежала, жыць або не жыць машыне, якой аддаў столькі сіл і бяссонных начэй. Краем

вока Валошка заўважыў у хвасце натоўпу Андрэя — той схіліўся над разораю, мацаў сасонку, ці моцна яна сядзіць у зямлі,— абрадаваўся: «Значыць, і табе, Андрэй, не абыякава, ці будзе машына жыць?» Убачыў сына — Юрась весела скакаў па свежай раллі, бліжэй да трактара, нібы машына яго не цікавіла,— абрадаваўся і яму: «Хай паглядзіць, што бацька не над пустым карпеў. Хай бачыць, колькі людзей сабрала яго ЛПВ!» Успомніў, што Юрася павінна была прывезці Насця: «Значыць, яна таксама недзе тут?» Забыўшы на хвіліну пра гасцей, пачаў аглядацца, вачыма шукаць у натоўпе Насцю, і раптам пагляд натрапіў на намесніка міністра («Віктар Мікалаевіч...» — цяпер толькі ўспомніў, як зваць) — тойківаў яму пальцам.

Валошка падышоў.

— Глушыце! — сказаў Нікіцін.

Усе сабраліся ля машыны, над шнурам толькі што высаджаных сасонак, чакалі слова ад самага важнага госця, што ён скажа, і той зразумеў гэтае чаканне.

— Што ж... Машына ёсць! — сказаў ён.— Садзіць лес, і добра садзіць. Вам,— уважліва паглядзеў на Валошку,— дзякуй... Віншую...

Вачам зрабілася балюча глядзець задоўга ў твар Нікіціну — Валошка адвёў позірк крыху ўбок і... заўважыў Насцю. Адкінуўшы з галавы на плечы квяцістую хусціну, рассыпаўшы па плячах валасы, расчырванелая, усё роўна як здалёк бегла-спяшалася, яна шылася паміж мужчын наперад — ёй хацелася ўсё чуць, усё бачыць. Праціснулася амаль у самую сярэдзіну, знячэўку плечуком зачапіла намесніка міністра, ажно той азірнуўся — спачатку хмурна, думаючы, пэўна, што там нехта з мужчын, а як заўважыў Насцю, дык адразу ўсміхнуўся, вачэй не мог адарваць ад яе ўзрушанага, прыгожага ў гэтым шчырым узрушэнні твару. Усе звярнулі ўвагу на Насцю. Але яна не разгубілася. Кінула хуткімі вачыма ўлева, потым управа, быццам каго шукала, і раптам войкнула, як на што жывое наступіўшы. Нагнулася. Усе вакол расступіліся. Яна нетаропка, прысеўшы, папраўляла ў разоры хваінку. Абсыпала яе зямлёю, выпрасталася, усміхнулася. На яе гледзячы, заўсміхаліся Нікіцін, Кароль, Валошка. Зімавец стаяў насуплены.

— Вы, Насця... Вы чаму?..

Ён хацеў штосьці ў яе спытаць, ды яна не дала яму дагаварыць, перабіла:

— А я, Васіль Сямёнавіч... нічога такога асаблівага. Гэта я з Лабжанкі вярнулася. Саджанцы вазіла. Адна скрыначка яшчэ засталася. Свежанькія. Прывезці? Я — мігам...

Валошка болей за ўсіх абрадаваўся, што Насця тут, што яна няпрошана ўшылася ў мужчынскую размову са сваімі саджанцамі, знаходліва выкруцілася перад Зімаўцом і гасцямі.

— Не трэба ўжо саджанцы,— кінуў ёй Валошка.

— Як гэта не трэба?

— А так. Абышліся,— адказаў Зімавец.

— Га! — расчаравана агледзела ўсіх Насця.— Я спяшалася! Шэсць вёрст да Лабжанкі ды шэсць назад. Думала, як жа вы тут без мяне? Дзе саджанцы возьмеце?..

Кароль далікатна ўзяў яе за руку, пажартаваў:

— Радзіма вас не забудзе.

Тым часам намеснік міністра спытаў:

— Дык як, леснікі? Будзем галасаваць за машыну?

— Дзвюма! — ускінуў рукі Кароль.

Насця, гарэза, узяла яго за локаць, і ён нешта ласкава ёй сказануў, аж у яе вочы заблішчэлі. Валошка ўсё заўважыў, падумаў: «Насця гэтакую мову разумее. Далікатнасць, мужчынскую ласку любіць».

— Кажуць, што ў вас была машына для пасадкі дуба? — спытаў Нікіцін.— Дзе яна?

— Жыве, таварыш міністр! — раптам усклікнула Насця.— Лясок садзіць. Жалудочкі высявае ў зямельку. Я на пасадках працую. Я ведаю. Хоць за язык... прабачце. Такая я...

Нікіцін усмешліва ёй кіўнуў, павярнуўся да Валошкі:

— А пачыналі, здаецца, з экскаватара?

— Які там?..— махнуў рукой Валошка.— Даўно было. Надумаў балота асушыць пад сенажаць, ды не знайшоў чым канаву капаць. Чарпалку зрабіў. Ну, леснікі і празвалі экскаватарам. Але канаву пракапалі. Тую чарпалку ля Сажа кінулі. Дзеці звалаклі.

— А сенажаць?

— Косім. Трава кожны год — во, па грудзі. Бакасіным Токам луг называем. Дужа многа бакасаў.

І раптам:

— У мяне пытанне,— падаў голас гомельскі ляснічы.— Тут машына па роўным бегала. А нам даводзіцца садзіць па некарчаваных лесасеках...

Падкінуў нечакана, але справядліва — гэта зразумелі ўсе, таму ніхто не спяшаўся ні пярэчыць госцю, ні падтрымаць яго.

— Можа, ёсць блізкая высечка? — спытаў Нікіцін.

Зімавец сустрэўся позіркам з Валошкам, хітнуў галавою: маўляў, не прызнавайся, што ёсць. Але Валошка адвярнуўся ад Зімаўца, рашуча гукнуў трактарыста:

— Іван!.. Разварачвай на Такавішча!

І ўжо калі трактар павалок машыну на дарогу, Зімавец падышоў да Валошкі злосны:

— Хочаце ў лужыну пляснуцца?

Валошка не пакрыўдзіўся на дырэктара, нават не адказаў яму. Сёння быў незвычайны дзень, і не так, як звычайна, Валошка — ды і Зімавец, мабыць,— успрымаў усё, што навокал рабілася. Ён скамандаваў Вайцюку і Насці паставіць скрыню з саджанцамі ў багажнік «газіка» — можа, спатрэбіцца на Такавішчы,— адправіў «Волгу» з усімі гасцямі і Зімаўцом, падазваў Юрася, паслаў яго знайсці і прывесці дзеда Гароха, які тоўкся недзе сярод леснікоў, пасадзіў у «газік» Васюкову, Насцю, Макара і Вайцюка, а сам усё яшчэ не садзіўся ў той «газік», дзе яму было месца, правяраў, ці ўсіх адправіў, хто мусіў быць на Такавішчы.

З'явіліся Юрась і дзед Гарох. Старога Валошка папрасіў запрэгчы каня ды ехаць з сынам на цягу — на Дамбу. Ужо колькі дзён Юрась ажно трымцеў, чакаў сваё першае паляванне, а ён, бацька, кожны дзень абяцаў звазіць і не вёз, усё не мог выкраіць часу.

Адправіўшы старога з сынам, заўважыў Рысева. Той сядзеў ля канторы на сінім матацыкле з каляскаю, а на калясцы, закрытай брызентавым верхам, ляжала белая лазовая кашолка. Там стаяў і гаспадар матацыкла, калгасны трактарыст з Ялоўкі, сябрук Рысева, той самы, што з гары ўніз узараў адхоны пад культуры сасны, раўчукоў нарабіў, каб дождж потым павымываў саджанцы. За тыя адхоны Рысеў адхапіў вымову, вымушаны быў пераворваць. Цяпер — бадзяўся ва ўсіх на вачах п'яны. Валошка хацеў быў падысці да яго, але з «газіка» гукалі, і ён сеў у машыну — размову з Рысевым пакінуў на заўтра.

Калі Валошка з'явіўся на Такавішча, там ужо сабраліся амаль усе, хто быў у Лісані. Думаў, што леснікі і тэхнікі раз'едуцца па дамах, а яны папрыехалі на

веласіпедах, матацыклах, акружылі трактарыста і Клімаша, якіляскатаў гаечным ключом ля сашніка.

Яшчэ хвілін праз пяць усё было гатова. Валошка сказаў трактарысту, каб газаваў, і трактар чуфыкнуў, павалок машыну. Усе рушылі следам.

Валошка ішоў за машынаю паперадзе ўсіх, але яшчэ бліжэй да машыны, паперадзе яго, ля самых хвастатых каткоў, апынуўся чалавек, якога Валошка даўно не бачыў у Лісані і тым больш не спадзяваўся ўбачыць тут, ля машыны, якому здзівіўся і абрадаваўся, можа, болей, як каму іншаму, нават болей, як Андрэю ці Насці,— гэта быў Агейчык. Ён ішоў на крываватых паўсагнутых нагах, заглядаючы пад хваставыя каткі, што трамбавалі зямлю абапал саджанцаў, уважліва сачыў за кожным рухам машыны, і калі на карчах машына падскоквала, хваставікі спаўзалі ўправа ці ўлева, гатовыя спляжыць пад сабою кволы саджанец, Агейчыкава галава таксама падавалася то ўправа, то ўлева, туды ж цягнуліся і рукі, гатовыя дапамагчы машыне і саджанцам. Ён ужо колькі разоў згінаўся за хваставікамі над разораю, выраўніваў то адно, то другое каліва, хоць дарма гэта рабіў — не ляснік, ён не ведаў, што саджанец, як крыва яго ні пасадзі, праз колькі дзён сам выраўняецца над зямлёй, на сонца гледзячы. Але не ў тым справа. Тое, што тут, ля машыны, у самы адказны момант аказаўся Агейчык, што ён, хвалюючыся, стараўся ёй пасобіць,— гэта Валошку было самае дарагое, мо даражэйшае за машыну.

— Стой! Не газуй! — закрычаў раптам Агейчык і кінуўся да трактарыста, да кабіны.

Трактар стаў, Валошка падбег да машыны і ўбачыў, што некалькі саджанцаў ляжалі на разоры карэньчыкамі ўгору: вялізны яловы пень з випрастанымі па зямлі каранямі адкінуў хваставікі пад адхон і яны спляжылі сасонкі. Па камандзе Агейчыка трактарыст паехаў далей, але хуткасць збавіў, і ўжо цяпер саджанцы выплывалі з-пад машыны раўнюткія. «Ну, малайчына Агейчык,— падумаў Валошка.— І калі ён меў справу з тэхнікай? Дзе навучыўся яе разумець? У яго быў здаровы чорны конь, на якім краў лес, уцякаў ад леснікоў, але адкуль у яго гэтакае разуменне машыны?»

Зноў пайшлі вялізныя яловыя пні з пукатымі каранямі, зноў машыну пачало кідаць, што цацку, у бакі, і зноў Агейчык нагнаў трактарыста:

— Глушы, Іван!
Трактар стаў як укапаны. Агейчык мігам упаў наўколенцы ля сашніка, накінуў гаечны ключ на хваставік.
— Усё ясна,— пачуўся голас намесніка міністра.
Але тут на ногі ўскочыў Агейчык:
— Хвіліначку, таварышы! Яшчэ не ўсё! Гэта ж вам не саха, не барана! Гэта машына! На пнях рэкамендуецца адпускаць гайкі хваставікоў, каб яны лягчэй капіравалі няроўнасці, кожны пянёк і карэньчык.
«Ну, малайчына, што ўспомніў. І адкуль ведае?» — дзівіўся Валошка. Нават радаваўся, што Агейчык, не маючы дазволу камандаваць сённяшнім парадам, сам захапіў гэтае права.
Агейчык сунуў гаечны ключ у кішэню штаноў, ажно штаны з'ехалі ад таго цяжару, голая шырокая паясніца бліснула пад кашуляю, і зноў, ні на кога не звяртаючы ўвагі, крыкнуў:
— Шуруй, Ваня!.. Газуй!..
Леснікі зарагаталі. Зімавец падбег да Валошкі:
— Спыніце!..
Але ні каманда Зімаўца, ні каманда намесніка міністра ўлады ўжо не мела, бо ў гэты момант наогул ніякай каманды, што спыніла б трактар, быць не магло: саджанцы слухмяна ныралі пад сашнік у разору, хваставыя каткі, падскокваючы на каранях і карчах, чуйна рэагавалі на ўсе няроўнасці пад сабою, ашчадна пільнавалі кожную сасонку, ля кожнай не забывалі прыціснуць зямельку, нідзе не наскоквалі на саджанец — і гэта была тая самая радасная хвіліна, якой усе чакалі, якую нельга было абарваць ані голасам, ані рашучым узмахам рукі, якую кожны, пэўна, хацеў прадоўжыць. А скончылася яна сама сабою, натуральна, лагічна, калі трактар упёрся ў сцяну ялін, калі сам спыніўся, каб развярнуцца.
Тут і Агейчык, як выканаўшы свой абавязак, супакоіўся, сціпла адышоў убок, сарваў жменю маладой травы і ўзяўся выціраць рукі, чорныя ад зямлі, ключа і машыны.
Нікіцін павярнуўся да Валошкі, задаволены:
— Касеткі самі прыдумалі?
— Сам.
За машынаю Валошка заўважыў Караля і Курнопу. Здзівіўся, што яны побач. Успомніў, як зімою Макар вывеў з-пад носа ў Караля і Зімаўца ласёў, ажно

іх не знайшлі Міна і Рысеў. Тады ўсе на Макара зуб вастрылі. А цяпер? Кароль з Макарам гаварыў мірна, усміхаўся. Але размаўлялі, пэўна, пра ласёў. Ці пра машыну?

— А што вы скажаце? — зноў пачуў Валошка голас Нікіціна. Той пытаўся ў ляснічых, пухавіцкага і гомельскага.

Валошка павярнуўся да гасцей.

— Пасаліўшы, з'едзімо,— кінуў гомельскі скептык.

— Ат... не! Машынка што трэба! Ыйш, касеткі прыдумалі. Адзін трактарыст — уся абслуга. А на тых пасадачных, што ў нашым лесе,— тры чалавекі, шэсць рук,— загаварыў больш аптымістычны пухавіцкі ляснічы, які да гэтага часу ўсё маўчаў, прыглядаўся.— Тут дрэўца аўтамат садзіць, а там — усё рукамі, хоць і машына. А калі яшчэ да ладу давесці?.. Усё да каліва — га?..

Нікіцін і ўхапіўся за гэтую думку:

— Да ладу? Варта давесці...

Ужо вярнуўшыся з Такавішча ў Лісань, наслухаўшыся парад і віншаванняў, Валошка падышоў да Караля — той, стаміўшыся, сядзеў на ганку канторы, асобна ад усіх, задумлівы. Сеў побач з Каралём і таксама маўчаў. Чакаў: вось зараз Кароль скажа ўсю праўду, чаго машына вартая. Нічыя думка так не цікавіла, як Каралёва. А той доўга яшчэ маўчаў, усё роўна як думаючы, што сказаць. І сказаў нарэшце. Тое, чаго Валошка ад яго не чакаў:

— Твайго Макара я буду доўга помніць.

Валошка здзівіўся — не зразумеў:

— А што ж ён нарабіў?

— Не ведаеш? Схаваў ад мяне ласёў. Я тады яго не мог зразумець. Што за ляснік? Дзівак? Мы ж з Зімаўцом — не разбойнікі з вялікай дарогі? Была ліцэнзія на адстрэл. А сёння падышоў, пытаюся, навошта ён тады схаваў ласёў. І што думаеш ён мне адказаў?

— Ведаю — што.

Кароль пранікліва глядзеў у Валошкаў твар, як чытаў яго. І, пэўна, прачытаўшы, спытаў:

— Ты яго падтрымліваеш?

— Падтрымліваю.

Кароль зноў не спяшаўся гаварыць, нібы зноў усё абдумваў.

— Вось семінар сабралі. Начальства прыехала. Размоў поўна. Ты машыну зрабіў, паказаў. Добра —

га? А што? Добра. А ўсё ж тое, што зрабіў тады Макар з ласямі, са мной і Зімаўцом, для лесу куды важней, як усе нашы размовы, семінары. Ты мяне разумееш, Валошка? Ты ўсё разумееш. Таму ў цябе і леснікі такія, як Макар...

А Валошка ўжо глядзеў на Рысева. Той стаяў ля плота з Зімаўцом, нешта яму даводзіў, матляючы кашолкаю.

«Ну, бабралоў!» — яшчэ мацней, як тады, у размове пра баброў, узлаваў на Рысева Валошка і падняўся з ганка, пайшоў да яго, да Зімаўца. Ціха падышоў — уставіўся на лесніка. Той яго заўважыў — замоўк.

Зімавец спытаў:

— Дык што, Пятровіч? Хай лавец ловіць?

— А мне здаецца, што гэты лавец ужо далавіўся. Ужо яго самога трэба садзіць у клетку.

— Не разумею,— нахмурыў бровы дырэктар.

— А што тут разумець? Хай ён на вас дыхне. Сказаў жа, каб ішоў куды ў кусты, праспаўся. Не, яму майго слова мала. Дык, можа, вы, Васіль Сямёнавіч, яго ўгамоніце? Тут госці, а ён сноўдае, гарам дыхае.

Зімавец аж пачырванеў ад злосці, разгубленасці — не чакаў, што Валошка гэтак размову паверне.

— Гэта праўда? — люта ўставіўся на лесніка.

— Яй-богу, Сямёнавіч, адно каліва...

Вінаваты ці не — Рысеў заўсёды апраўдваўся, змаўчаць — было не ў яго натуры. Кінуўся і цяпер апраўдвацца. Але Зімавец не жадаў слухаць — абсек:

— Вон адсюль! Знікніце!..

І Рысеў, адчуўшы, што даказваць — не той выпадак, хуценька крутнуўся, пашыбаваў за пуню.

З той самай лютасцю, з якой Зімавец глядзеў толькі што на Рысева, ён глядзеў цяпер на Валошку. П'яніц, п'янства ў рабочы час ён ненавідзеў люта, гэта Валошка даўно ведаў, але цяпер — гэта Валошка бачыў — Зімаўца страшэнна абурыла не столькі само п'янства, колькі п'янства ў прысутнасці высокага начальства — не хапала, каб дайшло да Караля ці Нікіціна!..

— Тут і мая віна,— сказаў Валошка.— Але я вас папрашу, Васіль Сямёнавіч, не памыляцца наконт Рысева.

— Тэк-тэк,— прамовіў Зімавец і, рэзка адвярнуўшыся ад Валошкі, падаўся ў кантору.

Валошка не любіў Рысева найбольш не таму, што

ляснік быў шарамыга і латрына, заўважаў найперш не работу, а доўгі рубель. Ён яго не любіў найбольш за тое, за што не любілі Рысева ўсе лісанскія леснікі, сумленныя працаўнікі,— што Рысеў вечна разлічваў на Зімаўца, хаваўся за яго шырокую спіну, карыстаўся больш за ўсіх яго даверам, падтрымкаю, часцяком аціраўся ў кабінеце дырэктара. Валошка не ведаў, адкуль гэтакая павага да гультая, за якія заслугі, але бачыў, што Зімавец кепска разумеў людзей і не ведаў Рысева. Пэўна, дырэктару падабалася, што Рысеў у пушчы ўсё мог — злавіць любога звера, любую птушку, рыбіну выкіне на бераг хоць удзень, хоць уночы. Валошка даўно гнаў бы хапугу з леснікоў, калі б не Зімавец. І вось цяпер паціраў рукі: «Добра, што сам убачыў як след свайго Рысева. Хоць і я, ляснічы, буду ў цябе вінаваты, але — добра...»

## 4

Змяркалася, калі ўсе, свае і госці, параз'ехаліся, калі Лісань патанула ў цішыні адвячорка. Валошка нахлышч расчыніў вароты ў пуню і тут жа, ля варот, паваліўся на сена. Шапатлівае, духмянае, хоць леташняе, яно, нібы свежая сарочка, узяло на сябе стому ног, рук, усяго цела. Недзе на Сінім возеры Зімавец частаваў гасцей, і, можа, было нядобра, што ён, ляснічы, адмовіўся ехаць з імі, але яму ўжо не хацелася ніякіх размоў, асабліва пра сваю машыну, хацелася адно цішыні і адзіноты.

Праз адчыненыя вароты далятаў блізкі гоман ветру ў голлі старога клёна, што ўзняўся над пуняю, а ў нудным гомане аднаго клёна Валошку чулася песня ўсёй пушчы.

Ён хоць і жыў у Гарадку, вырас на тым, правым беразе Сажа, з якога Лісань віднелася ў створы пушчанскіх бароў, але Гарадок так не ведаў, ды і не любіў, як ведаў і любіў пушчу, яе гонкія меднастволыя бары, глухія ельнікі, мурожныя, поўныя прастору і сонца, дубровы, белую ад чаромхавай квецені Трасцінку, бабровыя плаціны і хаткі на ёй, абваленыя бабрамі берагі Панскага возера, сенажаці пад лесам, травы і кветкі — па грудзі, грыбныя і ягадныя мясціны, белыя і чорныя паляўнічыя сцежкі, балоты — сухія і топкія, махавыя і травяныя. У гэтым пушчанскім гомане прайшло ўсё яго жыццё, якое ён памятаў,— і што яшчэ яму трэба

было любіць, чым яшчэ даражыць, калі не пушчаю?

Самі Валошкі былі не тутэйшыя, з-пад Гомеля, адтуль прыйшлі недзе ў трыццатыя гады бежанцамі з пагарэлае вёскі. У Гарадку ім далі пустую хаціну — вось і засталіся. Старая, дзіравая, халодная, хата прасіла падновы, і бацька падвёў пад аконныя луткі тры новыя вянкі, а большага зрабіць не паспеў — пайшоў на фінскую вайну. З фінскай ён трапіў на вайну [redacted] немцамі, і з яе не вярнуўся. Маці з сынам, ужо як вайна скончылася, уставілі новыя рамы, склалі новы комін, перакрылі страху. А новы дом, цяперашні, Валошка паставіў, як рабіў ляснічым.

Старую хату памятаў добра, на тым самым пляцы, дзе стаяла цяпер новая. І чым жа яна запомнілася? Людзьмі перш за ўсё, якія ішлі з-за Сажа, [redacted] пушчы. Чаму яны ні ля чыёй хаты гэтак ахвотна не спыняліся, як ля іх? Чаму ні ў чыю гэтак ахвотна не прасіліся пераначаваць, як у іхнюю? Няўжо толькі таму, што блізка, праз агарод, стаяла малая цэркаўка, а яны ішлі ў царкву? А можа, што маці, бывала, прывеціць кожнага? Не ўсе ж у царкву ішлі, каторыя заходзілі ў хату.

Ды чым бы старая хаціна людзей ні прываблівала, але тыя дні і вечары, калі бывалі чужыя людзі, ды яшчэ калі начавалі, Міхал вельмі любіў — ад людзей чаго толькі, бывала, не наслухаецца! Пра смерці і страхі, пра колішніх пушчанскіх паноў і немцаў, пра хлеб і бясхлебіцу, бары і дубровы, звяроў і птушак, лясных разбойнікаў і лясных духаў, злых і добрых, пра святых і велікамучанікаў, пра парадкі ў бога на небе і ў людзей на зямлі. У старых, вядома, песні старыя. Іх споведзі вялі некуды ў глыбіню пушчы, гадоў, памяці — столькі ўсяго таямнічага, загадкавага адкрывалася! І ўжо тады Валошка адчуў прагу нейкае пушчанскае глыбіні, кабісці і ісці туды, адкуль людзі, дзе ляжаць іх таямніцы, таямніцы самой пушчы. Можа, таму пасля і трапіў у лясны тэхнікум, адчуўшы, што праз яго вядзе дарога ў пушчу. Праўда, і да тэхнікума рабіў у лесе, з восьмага класа пайшоў на лесазавод — штабеляваў дошкі, ганяў пад пілараму вагантэкі, а пасля — стругам падсочваў хвоі, збіраў жывіцу. Ды і вучыўся ў тэхнікуме завочна, робячы ў лесе. На пушчанцаў за жыццё нагледзеўся, душу іх лясную, здаецца, зразумеў, але тыя людзі, што спыняліся некалі на ганку, начавалі ў хаце, засталіся вечна цікавай загадкаю. Чалавек — глыбіня, душа пушчы, плоць і

дух ад яе вечнасці, і таму не думалася, што ён можа быць у сваёй глыбіні лжывы. Ён — сіла, які б ні здаўся з першага погляду. І пазней, ужо ляснічым ведучы размовы з пушчанцамі, не раз лавіў сябе на тым, што глядзіць на людзей вачыма, якімі глядзеў на іх у дзяцінстве,— шукаў у кожным той галоўны Іванаў корань, на якім стаіць векавы дуб, ад якога не бывае пустога плоду, на якім зялёны пагон можа адно затрымацца ў росце, але падымецца абавязкова, калі яму на голаў упадзе цёплы сонечны прамень. І амаль заўсёды знаходзіў Іванаў корань у чалавеку. Той корань звычайна ішоў ад самае пушчы. Гэтак — і з Курнопам, і з Агейчыкам, і з дзедам Гарохам, і яшчэ шмат з кім. Вось чаму і задумаўся: «А дзе ж мой, Валошкаў, корань — Іванаў? Мае прадзеды і прабабкі не жылі ў пушчы, тут няма іх каранёў, каб ад іх і я здабыў свой Іванаў корань». Але думаў гэтак не доўга. Бо адчуў, што ўзяў і ён усё ж у пушчы свой Іванаў корань. Не ад прадзеда, дык ад людзей, якіх зразумеў душою.

У пройме варот над ссінелым лесам, у густа пашэрхлым небе Валошка заўважыў зорку — першую, самую раннюю. І згадаў ноч апошняга года вайны: заснежаны завулак, старую хату, маці пад акном у фуфайцы, без хусткі — яна стаіць ціха, склаўшы на грудзях рукі, глядзіць, узняўшы вочы, на самую зыркую зорку ў небе і варушыць вуснамі, шэпча словы да бацькі, які на фронце, праз зорку гаворыць з ім, кліча да сябе, моліць, каб жывым вярнуўся. Тады, маладому ды неразумнаму, карцела з маці смяяцца. Не верыў, што праз зорку можна гаварыць з далёка закінутым родным чалавекам, бачыць яго. Цяпер затое не смяяўся. Цяпер сам ведаў, што праз зорку на небе можна бачыць усю зямлю, весці гутарку з усім светам, можна ўсіх людзей зразумець, з усімі з'яднацца і жыць палюдску, бо пад адным небам — уся зямля, усе людзі, у адзін міг усе бачаць адну і тую ж зорку, а праз яе — адзін і той жа свет.

Над пуняю праляцела слонка, ды, пэўна, нізка, бо Валошка пачуў яе блізкае хорканне. Падумаў: «Вось і пачалася цяга». Падумаў гэтак таму, што недзе на цязе стаяў сын,— пашкадаваў, што не паехаў з ім.

Тым часам дзед Гарох сядзеў ля невялічкага цяпельца, падкідаў у агонь сушняк, а Юрась стаяў побач і на цяпло не зважаў. У руках ён трымаў навенькую тулачку і жыў у гэтую хвіліну адно небам, яго

таямнічай прастораю — прагна чакаў адтуль, з вышыні, слончын голас.

Але з неба не было чуваць ні гуку. Неба нібыта замерла і само чуйна прыслухоўвалася да ўсяго жывога на зямлі, нават, магчыма, да такхання яго, Юрасёвага, сэрца. Слонкі не ляцелі, і Юрасю здавалася, што дзед Гарох выбраў не тое месца, шкадаваў, што побач няма бацькі, што кароткі вечар мігам праляціць на вараных і з першай у сваім жыцці цягі ён, Юрась, на пасмешышча ўсяму свету, вернецца дадому з пустымі рукамі.

А ў той самы міг, калі боязь за сённяшняе няўдалае паляванне пачала асабліва моцна вярэдзіць душу, Юрась пачуў ледзь улоўнае хорканне. Ускінуў тулку...

А дзед Гарох — тут як тут:

— Жаб, шэльма, не пужай.

Пякучая кроў шуганула ў твар. «І ведаў жа... ведаў, што жабы падладжваюцца пад слончыну песню».

— А зараз? Чуеш?..

Юрась схамянуўся, зноў ускінуў стрэльбу. А дзед Гарох зноў ахаладзіў:

— Далёка. На гэтую песню адно вухам павядзі.

Сам узняў твар да неба, ажно шапка з'ехала на патыліцу, уважліва слухаў, рукою прытрымліваючы шапку, каб не звалілася,— усміхаўся небу, шырака разявіўшы сасмяглы рот. Нібы ротам лавіў нябесныя гукі.

Юрасю рупіла спытаць у дзеда Гароха, чаму слонкі ляцяць далёка ад Дамбы, але ў роце было суха — толькі сліну глытаў.

Валошка скалануўся ад стрэлу.

— Сын?!.

Цішыня... У пуні, у небе, у пушчы, у вёсцы.

«Няўжо гэта ты там, Юрась? Ты забіў слонку?.. Навошта я даў табе ў рукі стрэльбу? Што я нарабіў?! Ты, сын, даўно прасіў купіць табе лёгенькую аднастволачку, душа твая тужыла па паляванні. Я цябе разумею. Сын лесніка, паляўнічага, дзіця прыроды. Але ты яшчэ зусім дзіця, яшчэ не разумееш мовы, на якой стрэльба гаворыць з лесам. Дык што я думаў, калі даваў табе ў рукі стрэльбу? Што яна мацней здружыць цябе з пушчаю, пасобіць знайсці свой Іванаў корань? Вядома, узненавідзець смерць можа толькі той, хто блізка бачыў яе,— рэальнасць, хоць і жорсткая. Бачыць, як гіне прырода, і толькі ўздыхаць —

пустое. Ёй трэба пасабляць, каб яна жыла. А пасабляць — значыць ведаць. Хто яе ведаў найлепш, зрабіў для яе найбольш? Аксакаў, Тургенеў, Прышвін, Марозаў, Сабанееў, Арсеньеў... Іх, выдатных знаўцаў і абаронцаў прыроды, шмат, і ўсе яны былі выдатнымі паляўнічымі. Хто ў Лісані найлепш ведае звера, птушку? Хто ім першы памочнік? Міна. І той жа Міна — лепшы паляўнічы. Яшчэ ёсць, праўда, Рысеў. Ён таксама добры паляўнічы. Не! Ён — стралок. У яго няма душы, якая патрэбна паляўнічаму. Ты, сын, не будзеш Рысевым. Гэта я ведаю. У цябе матчына душа...»

— Цык, цык, цык...

«Мая... мая... мая...»

— Хор-р, хор-р, хор-р...

«Мая, дзед Гарох?! Ма...»

— Твая, Юрась. Ну?.. Цэлься над самай бярозкай... Чакай... Трымайся!

Старая бярозка стаяла насупраць Юрася, і Юрась хутчэй узняў стрэльбу, прыцэліўся — як сказаў дзед Гарох, не дыхаючы.

Слонка сапраўды вылецела з-за бярозы, нібы дзед Гарох скамандаваў не толькі яму, Юрасю, як цэліцца, але і ёй, птушцы, як ляцець. Нават падалося, што крылом чырканула па голай вершаліне, на якой яшчэ не выскачыў ніводзін лісцік, быццам тая вершаліна ўжо аджыла свой век, быццам вясна ўжо не мела сіл пабудзіць яе. Палец сутаргава, ці не ад страху, смаргануўся на курку — са ствала ў неба бліснуў агонь, і Юрасю, усё роўна як тым агнём, моцна — ледзь устаяў — пеканула ў плячо. Птушка на шырозным, нібыта падбітым, крыле спікіравала на Дамбу, але, мала не чыркануўшы зямлю, узмыла зноў у неба — растала ў ім.

«Ну, хітруха! Нічога. Гэта пакуль што першая,— супакойваў сябе Юрась. Але час бег, змрок гусцеў, гасла неба, з ім разам гаснуў лес, і Юрась ужо думаў інакш: — А калі першая — яна ж і апошняя?..»

Вечар блізіўся да ночы. Юрася кідала ў жах, што цяга вось-вось скончыцца, а ён так і не возьме сваёй слонкі. «Няўжо вярнуся з пустымі рукамі? — гадаў ён.— Як тады глядзець у вочы бацьку, бабе Юсце, Дзімку?»

— А можа, мы сталі на заклятае месца? — нясмела спытаў ён.

Дзед Гарох крутнуў галавою:

— Не, Юрась. Дамба — іх вечная цяга.

— Можа, мы іх адпужнулі вогнішчам ці стрэлам?

Дзед Гарох зноў упарта крутнуў галавою:

— Не. Што такое цяга? Ляцяць самцы, шукаюць каханых. А калі жывая душа кахае, яна тады нічогенькі, шэльма, не баіцца. Запомні!..

Ужо каторы раз дзед Гарох выцягваў, нібыта бусел, шыю, галаву схіляў да пляча набок, нібы вухам прыкладаўся да неба, слухаў у яго вышынях далёкую песню.

Шаптаў Юрась:

— Дзед Гарох, а навошта небу столькі зорак? Дробным макам павысыпалі.

— Трэба, Юрась. Каб душа душу бачыла.

— І птушыную, і звярыную?

— А-га!

— Праз зоркі?

— Праз іх, нябесных.

— Чаму ж тады... зорак многа, а слонак не відаць?.. І чаму адна слонка ляціць з песняю, яе бачыш, а другая ляціць таксама блізка, з песняю, яе не бачыш?.. Га? Ну чаму?

Задумаўся стары.

— Ёсць прычына,— буркнуў.

— Якая? — не адставаў ад яго прывязлівы Юрась.— Калі ёсць, дык якая?

— Якая? А вось паслухай...

І пачаў дзед Гарох расказваць з даўна-даўняга, як да лісанскага пана прыехаў пагасцяваць яго малодшы брат — з Пецярбурга. Жыве ён, малады, усю вясну ў Лісані, гуляе з дваровымі дзеўкамі, бабэхае, шэльма, з заморскіх стрэльбачак па звярах ды птушках, а па вечарах, ціхіх ды цёплых, верхам прыязджае да Дамбы на цягу. Коніка варанога прывяжа да дрэва, развядзе цяпельца на Дамбе, чакае, як сонейка за лес схаваецца, слонкі пачнуць ляцець. А слонак — цьма, ляцелі і ляцелі чародамі. Пастаіць на Дамбе, пакуль сцямнее, наб'е мех слонак, ускіне на каня, да сядзельца прывяжа, сам лёгка ўскочыць у сядзельца — вяртаецца ў маёнтак. І гэтак — кожны вечар. Потым ночку заморскія віны хлебча, слонкамі заядае — і жыве, шэльма, як у бога за пазухай. І вось аднойчы зноў

прыехаў на Дамбу. Коніка прывязаў да дрэва, цяпельца расклаў, стрэльбачку заморскую расчахліў, зарадзіў — чакае, як схаваецца сонейка. Ужо берасцяначкі адспявалі, за імі дразды і заранкі праводзілі свяціла за зубчастую пушчу на спачын, прыціхлі, тады пранеслася над Дамбаю першая слончына песня. А за першай — другая, а потым — трэцяя: разгулялася цяга. Але што за дзіва? Чуваць, як слонкі цягнуць, над галавою хоркаюць зноў і зноў, а ніводнай не відаць. Спяваюць — а ў небе пуста. Ён і ў адзін канец Дамбы бяжыць, ажно мокры, і ў другі бяжыць: чуе песні, а слонак — ніводнай. Назаўтра зноў настаў вечар — зноў не ўседзеў у маёнтку. На Дамбу верхам прыехаў, коніка варанога прывязаў да дрэва, стрэльбачку расчахліў, зарадзіў, песень слончыных дачакаўся, а слонак — зноў не відаць. На трэці вечар ужо не паехаў на Дамбу, падаўся новую цягу шукаць. І зноў чуў слончыны песні, над саменькай галавою пралятаді, ды ніводнай слонкі не бачыў. Страціў спакой, ахвоту піць, есці, баляваць з дваровымі дзеўкамі, чуць людзей і пушчу, пачаў зелянець, сохнуць. Павезлі яго да заморскіх дактароў...

— А слонкі?

— Што слонкі?

— Яны былі ці не былі?

Дзед Гарох пераевёў дыханне, падумаў:

— Не было іх, Юрась. Паночак усіх пастраляў. Але песні слончыны засталіся ў небе. Бо песню забіць немагчыма. Можна цела забіць, але не душу.

Юрась замоўк. Доўга маўчаць не мог.

— Гэта казка? — спытаў.

Ажно дзед Гарох узлаваўся:

— Ніякая табе не казка. Чыстая праўда!

Ужо Юрась сядзеў побач з дзедам Гарохам ля вогнішча, узяўшы тулачку на калені, сам не заўважыў, як, слухаючы старога, забыўся на стрэльбу, як знікла жаданне пакласці да ног сваю слонку, як супакоілася сэрца, і ўжо хацелася аднаго — слухаць і слухаць дзеда Гароха, ды каб не гасла вогнішча, не канчалася іх размова пад слончынымі песнямі, якія несліся і несліся над Дамбаю, хоць было ўжо цёмна і слонак не відаць было з-за цемені.

Але вогнішча дагарала. Настаў час збірацца дадому.

— Дзед Гарох?!.

— Што, Юрась?

— А гэта... Што гэта? — Юрась працягнуў да старога ладнае птушынае пяро.

— Дзе ты ўзяў?

— Вось тут, на чахле. Хацеў стрэльбу пакласці...

— Гэта ж слончына. Ад крыла.

— Дык я... я параніў яе?..— спужаўся Юрась.

Дзед Гарох моўчкі падсоўваў у агонь галавешкі, каб хутчэй дагаралі, і думаў цяжкавата, аж на лоб клаліся глыбокія маршчыны. Глядзеў у вогнішча, але і на Юрася паглядаў, зноў ды зноў, і бачыў, што не мае права змоўчаць.

— Не, Юрась,— уздыхнуў.

— Як жа?..

Дзед Гарох кінуў у полымя доўгую сухую галінку, і агонь учапіўся за яе канец, порстка пабег па ёй уніз, да чырвоных ад агню рук старога. Жывы агонь падвесяліў твар, дзед Гарох усміхнуўся, цёплымі ружаватымі вачыма паглядзеў на Юрася.

— Ты яе, хлопчык, не параніў. Не!.. І за гэта яна скінула табе пярыну. Ды самую прыгожую. На памяць...

Край неба, які быў відаць Валошку праз адчыненыя вароты пуні, ужо ўвесь абсыпаўся зоркамі, лес пад імі счарнеў, а слончыны песні не сціхалі, зноў і зноў праносіліся над пуняю, над Валошкам, і кожны раз, калі ён чуў новую песню, дыханне спынялася, замірала, нібы пад нейкім гіпнозам, тады здавалася, што слончына песня падымае яго душу ў неба, на высозную запаветную пуцявіну, па якой ён даўно сумуе. Зноў пачынаў думаць пра тое, што вясновая цяга — гэта не толькі слончына прага, яна існуе для кожнай жывой душы, бо гэта пуцявіна да найвышэйшай песні, да нейкага прызначэння ў жыцці, без яе нішто ў прыродзе не жыве і жыць не можа. Усё жывое мае сваю цягу. І ён, чалавек, таксама. Ён толькі не заўсёды ясна ведаў, дзе пралягае яго цяга, якая яна, яго песня, куды вядзе, на якую вышыню.

Сёння Валошка выразна адчуў сябе на сваёй цязе. Адчуў крылы, нібы вёслы, у душы адчуў песню, якая давала моц крылам і сэрцу, адчуў вышыню — усё, з чаго складаецца цяга і слонкі, і чалавека, і любой іншай жывой істоты.

Недзе гула машына. Нямоцна, нібы чмель. Але гул мацнеў, імчаў у Лісань. Потым з лесу выкацілася святло фар. Яно слізганула па выганішчы, уперлася ў клён, у плот за клёнам, заглянула ў адчыненыя вароты да Валошкі і адвярнулася — пагасла. Гул аціх. «Зімавец вярнуўся? — падумаў Валошка.— Прывёз Насцю? Нешта ж рана. Не можа быць, каб ён кінуў гасцей на Сінім, а сам з Насцяю — у Лісань...»

«Газік» спыніўся ля канторы. Валошку было відаць, як з яго выйшлі двое. Пачуліся галасы, мужчынскі і жаночы, хоць разабраць, што казалі, было нельга — далекавата. Зусім зачыніў бы вароты, каб нічыіх галасоў не чуць, ды пачнеш зачыняць — зарыпяць, сам сябе выдасі. Валошка адкінуў галаву назад — праз дзірку ў вільчыку ўставіўся на зоры.

Пачуліся асцярожныя крокі. Нехта наблізіўся да пуні, спыніўся. Цішыня. Валошка чуў, як чалавек прытаіўся ля варот.

— Вы тут, Пятровіч?

«Насця?.. Навошта прыйшла?» — падумаў. І нават не паварушыўся, не адгукнуўся.

Недзе воддаль, на лугавых азярцах, спеўна крумкалі жабы, потым ноч дзерануў драч — блізка, за пуняю. І адразу за драчом кашлянула Насця. Не ішла нікуды. Чакала.

— Што ты хочаш, Насця? — спытаў Валошка.

— Можа, вам прынесці дзяружку? Ці які кажух? Ноччу, пэўна, пахаладае.

— Не трэба нічога.

Яна нікуды не ішла, і тады ён сеў — убачыў яе перад сабою. Яна стаяла ў пройме варот, рукамі трымаючыся за канцы хусцінкі — яе даўняя прывычка,— глядзела на яго.

— Ну, што стаіш? Ідзі спаць.

Цяжка ўздыхнула, адказала:

— Раней вы мяне гэтак не гналі.

— Як юшка? — спытаў.

— Салодкая. Нібы мёд.

— Ты ж салодкае любіш?..

Яна стаяла бокам да Валошкі, а спіною прыхінулася да шула варот, галаву назад адкінула, цемем да шула прыцялася, і яе нос, падбародак, ражок хусцінкі над ілбом завастрыліся на фоне неба. Па-бабску склала на грудзях рукі.

— Эх! Мужыкі-мужыкі! Усе вы з аднаго цеста,—

задумліва ўздыхнула.— Разумнейшыя ці дурнейшыя, а на бабу гледзіце аднолькава. Роўна з сабою не паставіце, паўкроку не даруеце, калі што-небудзь не павашаму. Думаеце, Пятровіч, мае вочы сляпыя, нічога не бачаць, душа глухая? Вам не ў нос, што прыляпілася да Зімаўца? Калі ён мяне ўпіхнуў у машыну, павёз, дык ужо я кепская? А ці ведаеце, якой душою ехала? І як адтуль вярнулася? Ведаць не жадаеце? Дык і не трэба.— Замоўкла, чакала, што ён на гэта скажа. Але ён маўчаў. Яна зноў загаварыла. Ужо лягчэй, без тае крыўды ў голасе.— І скажу вам... Раней я вас абыходзіць старалася. З-за Веркі. Думала, Пятровіча ледзь зачапі, намёк адзін дай — з рук не выпусціць, грэх на душу абое возьмем перад Веркаю. А цяпер бачу, што дарэмна берагласяся. Вось адзінцом блукаеце, нібы той алень, і мне бывае адной моташна, а што я ад вас чую?.. Ідзі спаць, кажаце?.. Ну і пайду. Але ж смеху варта.

Валошка ўсхапіўся, як падсмалены. Стаяў, вачэй з Насці не зводзіў. Нібы чакаў, што яшчэ яна выкіне.

А яна ўмомант пацішэла, як перагарэла. Адхінулася ад шула, нетаропка павярнулася да яго тварам — голас ачах:

— Я, Пятровіч, вольны казак. Куды і як, дарага ці дзёшава ісці-ехаць, на тое мая ўдовіна воля. Хоць гэтая воля ў мяне ёсць. Ніхто забраць не зможа.

І, матлянуўшы падалом, пабегла ад пуні, у бок хат.

— Стой, Насця!..

Валошка выйшаў з варот, але тут і спыніўся, разгублены.

Збоку, дзе хвойная сцяна, бліснула святло. Якраз у тым месцы, дзе машынаю садзілі сасонкі. Вузенькі, востры прамень, усё роўна як з кішэннага ліхтарыка, штосьці вышукваў на раллі. То гаснуў, то зноў хліпаў.

Там хадзіў чалавек.

Насці ўжо не было відаць, і Валошку не было куды дзецца — падаўся да чалавека.

Той зводдаль асвяціў Валошку, пагасіў ліхтарык і рушыў, накульгваючы, насустрач.

— Здароў, ляснічы!

Ніколі б не падумаў, што сярод ночы да Лісані можа прыбіцца Ракіцёнак. Тут ён і днём даўно не бываў.

— Добрыя людзі спяць. А ты?

— Спяць добрыя. А злым куды дзявацца?

— Неўгамонная твая душа.

— Як і ваша, Данілавіч. Мая хоць у сябе дома, у сваёй Лісані. А вашу сюды што прыгнала?

— А я тваіх маладух развожу. Бо сам ты кавалер, бачу, зусім храновы.

Толькі цяпер Валошка заўважыў наводдаль Ракіцёнкаў «газік», падумаў: «Значыць, гэта ты, Данілавіч, Насцю прывёз? Але дзе ты яе падхапіў? Яна ж паехала з Зімаўцом на Сіняе. Зімавец павінен яе сёння вазіць».

Пад плотам ляжала нетаўстое, на шалёўку, яловае бярвенне — на яго прыселі, закурылі. Паслухалі танклявы голас Мая, які сумаваў, пакінуты дзедам Гаролхам. Драч за пуняю пачаў злаваць на перапёлку. Пазлаваў і змоўк, пачуўшы ў небе слонку.

— Новую машыну, значыць, прыдумаў? Добра содзіць.

— Вы ж не бачылі?

— Мне казалі.

— Хто? Насця?..

Ракіцёнак бліснуў пад ногі кішэнным ліхтарыкам, які ўсё трымаў у руцэ, пагасіў, зноў бліснуў, зноў пагасіў — забаўляўся, нібы малое дзіця.

— Глыбока плывеш, Валошка. Люблю моцных плыўцоў. А я плыў-плыў, усё жыццё на глыбейшае гробся, а на мель успёрся. Пузам на дно лёг. Да крыві абдзёрся.

— Ну... каб вас на мель выкінула?.. Не паверу.

Было тым часам чуваць, што душа Ракіцёнкава не на месцы, спакою не мае, самотная.

— Дохлая мая пасудзіна, Валошка. Не ў тую пасудзіну сеў. Не ў той плыў. Я пушчу люблю. З малых гадоў. Помню, у Гомелі мяне, малога бязбацькавіча, саплівага абарванца, зняў чэкіст з паравоза, з тэндэра, з вугалю выкапаў. Прывезлі ў Лісань, у камуну. Камуна і пушча — мае інстытуты. Ды яшчэ — вайна. Пасля вайны прасіўся пушчу даглядаць, а мяне кінулі карчаваць, начальнікам лесапункта паставілі. Даказваў, што не магу карчаваць пушчу, якая мяне гадавала, ратавала. А мне кажуць: «І цяпер будзе ратаваць. Вайна спаліла вёскі і гарады, людзям няма дзе жыць. Дрэва давай людзям, каб будаваліся». З таго часу і даю людзям дрэва. Цёпленькае. Адразу з пня. Трыццаць гадоў даю, а з іх усё мала. Трыццаць гадоў душа не на месцы. Як не сваю жытку жыву. Чужую. А сваю

жыўцом закапаў. Я на твайго Зімаўца пагляджу і думаю: з ім нас ляшак паблытаў. Яго бірку мне прышпіліў, а маю — яму. Вось каму трэба лес валіць, план даваць, а мне б — вартаваць. Яму рыхтавалася маё месца, а мне — яго. Наадварот атрымалася. Бог адно задумаў, а ляшак з'явіўся — хвастом-памялом богава параскідаў.

Ракіцёнак далёка выплюнуў бычок з яшчэ зыркім агеньчыкам, некага краянуў, мо таго лешака, грукнуў кіем. Валошка адчуваў, што вось-вось Ракіцёнак павінен усхапіцца на ногі, бо доўга сядзець не мог, як не мог і стаяць доўга на адным месцы — стары-стары, а рухавасці хапала.

— Вы ж тут і вайну адбылі? — спытаўся.

— На фронт не ўзялі. Сказалі: «Куды цябе, кульгавага, на фронт? На дзвюх не паспяваем уцякаць, а ты хочаш — на адной? Шыбуй, ядры тваю, не на захад, а на ўсход». Але я і на ўсход не паспеў. Сунуўся к партызанам. «На храна,— кажуць,— нам твая драўляная нага? Пільнуй яе сам». Хадзіў-бадзяўся па пушчы, пакуль у браневічок не сеў. Помніш браневічок?

— Не помню. Але ведаю.

— Дзе ж табе помніць? А чуў — ад каго?

— Вунь... дуброва шаптала.

Ракіцёнак ліхтарыкам бліснуў у той бок, дзе дуброва, і ў кволым святле, адбітым ад промня, Валошка заўважыў яго жывыя вочы, усмешку, а ў той усмешцы, нібы ў люстры,— далёкі ўспамін: агонь і чырвоны снег, чырвонае зарыва, разрывы снарадаў у дуброве, чырвоны, у агні, браневічок з ваганеткамі, пашматаную — рэйкі дыбам — вузкакалейку, мітусню людзей, вязняў лагера, чырвоныя ад агню дубы — бой у лагеры.

Той лагер, выгараджаны калючым дротам на расцяробе пад Лісанню, немцы трымалі, каб пляжыць дуброву. Дубы рэзалі на калоды, а калоды вазілі па вузкакалейцы за Сож, масцілі імі знявечаную Варшаўку — шлях на Маскву.

Лагернікі тады ўсе рынуліся ў пушчу і там знайшлі атрад Пінчука, які стаяў пад Ялоўкаю.

Мо не было б таго бунту і таго бою, калі б самі немцы не пачалі малаціць па браневічку з гармат, што стаялі на другім беразе Сажа. Думалі, што на лагер наваліліся партызаны. А партызаны пра той бой пасля ўжо дазналіся. Доўга ніхто і не ведаў, чыя была работа — захоплены ў немцаў браневічок.

Ракіцёнак устаў з бярвення.

У машыне ён уключыў святло і зноў выключыў. Сядзеў у цемені маўклівы, глядзеў перад сабою ў чорнае шкло. Пачуўшы ля машыны Валошку, адчыніў дзверцы — спытаў:

— Чаго лес квасіш на Такавішчы?

— Няма на чым вазіць.

— Колькі табе машын трэба?

— Але ж я спірцяк не бяру, Данілавіч.— Валошка нагадаў, як начальнік лесапункта частаваў Зімаўца.

— У-ух, хітруны, маць вашу! — вылаяўся Ракіцёнак і націснуў на старцёр, завёў машыну.— Каб заўтра з раніцы чакаў маіх хлопцаў. Дайшло?..

Цвілі сады. Пакуль што — слівы ды вішняк, якога поўна і ў Насціным садзе, паўз плот, і ля іншых хат, асабліва дзе даўно ніхто не жыў — там ён, ужо дзікі, усё заглушыў.

Але наймацней пахла чаромха. Яе было навалам і ля Насцінай хаты, і ўсцяж па Трасцінцы — з абодвух берагоў дыхала на ваду, на ўсю вёску.

Валошка як падышоў да Насцінай хаты — галава ад водару закружылася. Пастаяў ля цёмных вокан, падняўся на ганак. Быў ляснуў клямкаю, ды пачуў: цок-цок-цок — нібы хто маніў парсючка. Толькі гэтае цоканне было хутчэйшае, як у чалавека з языка. Азірнуўся — нікога не відаць. Здагадаўся — галаву задраў, глянуў на верхавіну бярэзіны, дзе буслянка. Ад яснага месяца бліпічала белая вострая піка — дзюба бусла. Той стаяў над гняздом, быццам белая здань уначы, вартаваў busліху.

За плотам, які дзяліў Насцін двор і двор Ягоравіча, танклява, нібы ледзь жывы, енчыў, давіўся слінаю Май. Яму было ўсяго якіх пяць месяцаў ад роду, а ён, малы, ужо таксама тужыў па нейкай сваёй пуцявіне. Жывому — жывое: адвечная цяга да свае песні. Закон прыроды быў аднолькавы для чалавека, птушкі, звера, дрэва. «Але... як гэта — аднолькавы? Гэтак можна дагаварыцца, што чалавек падобны на слонку, на жабу, на дрэва,— падумаў Валошка.— Не. Вось да Насці душа цягнецца. Але ж не ўсляпкі? Душа — душою, а ёсць яшчэ думка, развага. Душа — да Насці, а думка бярэ верх, не пускае. Прыйшоў на ганак — душа прывяла. Якія тры крокі — і Насця. За сцяною ложак, яна — на ложку. Ну, зрабі тры крокі... Не зробіш. Бо — сцяна. Ды каб толькі гэтая, з бярвення, а то і мацней-

шая, нябачная. Ну, а калі б на тваім месцы была слонка? Прызнала б яна сцяну? Яна б з лёту ўрэзалася ў яе, разбілася б, ажно тое, другое, сэрца, што на тым баку сцяны, разарвалася б ад болю. А жаба азёрная? Яна б крычала ўсю ноч, ад крыку лопнула б. А травіна? Яна да сонца праб'ецца праз што хочаш, нават праз камень. Значыць, ты, чалавек,— не прырода? Прырода! Але — і яшчэ штосьці. Яшчэ, мабыць, нейкі сурагат свае разумнасці. Ці, можа, Насця — не твая цяга? Некалі магла быць тваёй. Але прыгожая Насця выбрала прыгожага Зімаўца. Чымсьці яны былі падобныя. Абое чарнявыя, круглатварыя, гарачыя, кроў у абаіх кіпела. Побач з Зімаўцом ты, Валошка, прайграваў, вядома. Доўгі, хударлявы, ямкі на шчоках, нібы ў сухотнага, танклявая буслінaя шыя, глядзеў ваўкавата — маці казала, што і малы як быў, дык ваўчанём глядзеў,— няма (і не было) тае весялосці на твары, слова лёгкага, якімі Зімавец душу дзявочую чараваў. Цяпер Зімавец астыў, не так ад гадоў, колькі ад важнай пасады, а тады — мог збіць з панталыку любую. Ды і цяпер — калі ніхто не бачыць. Вера была ціхая, на ўсё ў жыцці згодная. Пэўна, былі яны — адно аднаму пара. Сышліся — жылі спакойна і дружна. Вялікага агню як быццам не выкрасалі, але і разладу не ведалі. Пэўна, дзе шалёны агонь — там пасля і сцюжа шалёная. Павінна быць ва ўсім раўнавага. Адно на адно. Адпаведнасць. Немалыя гады ўжо і ў Насці. Але дзе яе адпаведнасць? Хутчэй усё ж — Міцька, чым ты, Валошка. Цябе ўжо наймацней вядзе за сабою думка, як пачуццё, а Насцю — наадварот, яе вядзе ўсё яшчэ пачуццё. Цябе наймацней вабяць да сябе — сын, машына, пушча, людзі. А яе? Насця яшчэ як вясновая слонка — уся ў шлюбнай песні. А ты — нават ужо не паляўнічы. Дык і маўчы. Будзе так, як скажа прырода. Усё, урэшце, падначаліцца яе бегу. Ты гэты бег чуеш? Здаецца, што так. Дык не запыняй яго. Не трэба, калі ты разумны чалавек, калі ў цябе ёсць душа і цвярозасць».

Высознае неба густа абсыпалася зорамі. Нібы вясновая ралля — насеннем. Нібы зямля — людзьмі. Нібы пушча — птушкамі, звярамі, дрэвамі, кветкамі, мурашамі...

«А зоры таксама маюць сваю цягу? Колькі ад іх святла ў небе! Дык, можа, то святло цягі між зорамі? Альбо — святло цягі зор да людзей Зямлі, ці людзей

Зямлі — да зор? Можа, то святло вечнай міжпланетнае цягі?..»

Зноў крычаў драч.

## 5

Юрась у сне чуў, як недзе блізка скуголіў сабака, падбрэхваў і захліпаўся, плакаў і жаліўся; а прачнуўся — ні таго брэху, ні скуголення. За печчу на кухні тупала, сабе пад нос бубніла баба Юста. Можа, яна сваім бубненнем і пабудзіла? А можа, пабудзіў гультайскі дожджык, што поціхам шапацеў за акном у траве, у яблынях?

Акно ля канапы адчынена насцеж. Юрась весела, быццам на новы свет, глядзеў на зіхаткія ад чыстага дажджу і кволага ранішняга сонейка дрэвы, паміж дрэў — на чорныя тлустыя разоры, па якіх яшчэ не ўзышла бульба, на дамкі-вулякі ў глыбіні саду, з рання гудлівыя, хоць яшчэ не моцна, не як удзень, у спёку. Блішчала нібыта само паветра, бо ў ім зіхацела кожная дажджынка, галінка, кожны лісцік. Яблыні яшчэ дружна не цвілі, але святлелі ад пупышак, якія ўжо набрынькалі ружова-белым сокам, тлусцелі. Адно старая разгалістая яблыня ў кутку саду, ля суседскага плота, стаяла зусім чорная. Яна штовесну ачуньвала ад зімовых халадоў пазней, затое ўлетку яблыкамі абсыпалася, як ніводная іншая яблыня, аж какаты трашчалі пад восень — падпоркі не ратавалі. Памытая ўначы цёплым майскім дажджом, насагрэтая ласкавым сонейкам, яна стаяла быццам намаляваная чорнай тушшу, кожная, нават самая танклявая, галінка на ёй рэзала вочы.

Юрась скінуў з сябе коўдру, жыватом узлёгся на халаднаваты падаконнік, высунуўся з акна, агледзеўся, ціхутка свіснуў праз шчылінку ў рэдкіх пярэдніх зубах, і яму адразу адгукнулася Мальва — заскуголіла, нібы той сабака праз сон.

З кухні зноў пачуўся голас бабы Юсты і тут жа — дзеда Гароха. «Ага! — здагадаўся Юрась.— Значыць, дзед Гарох учора зманіў, што нанач вернецца ў Лісань. Не паехаў».

Гэтая думка не выпадкова занепакоіла Юрася. Усе апошнія дні ён адчуваў, што бацька з дзедам Гарохам употай нештачка збіраюцца рабіць з Мальваю, усю зіму чакалі цёплых дзён, а цяпер дні і ночы —

цяплей не трэба. Учора, калі вярнуліся з цягі, дзед Гарох сноўдаў па двары, то ў хлеў, то з хлява, поркаўся ў кладоўцы. Юрась спытаў, што ён шукае. Стары неахвотна адмахнуўся: маўляў, нейкі лямчык яму трэба. А баба Юста аж зазлавала: «Ідзі ўжо спаць!»

Босы, у трусах і майцы, Юрась выскачыў за акно ў халаднаватую росную траву. Сагнуўшыся, каб галавою не чапляць мокрае голле яблынь, шмыгнуў паўз хату да веснікаў — на двор. У будцы Мальвы не было, яна скуголіла недзе ў хляве, і ён скінуў з варотцаў хлеўчука чэп, ціха, без рыпу і ляскання, прачыніў іх.

— Мальва! — шапнуў.

Сука заскуголіла ў блізкім закуце.

Юрась шырэй адчыніў варотцы, каб упусціць у хляўчук паболей ранішняга святла, кінуўся ў закут.

Куры залопалі крыллем, закудахталі, шаснулі з куросадні на святло, у адчыненыя варотцы.

— Мальва!.. Мальвачка...

Яна ляжала на старой фуфайцы, матляла хвастом ад радасці, што прыйшоў Юрась, але самае першае, што ён заўважыў,— былі белыя бінты, якія спавівалі Мальву. Юрась укленчыў. Сука сунула яму ў рукі мокры нос, лізала цёплым шурпатым языком.

— Бедненькая мая!..

На двары, не суціхаючы, кудахталі куры. Нешта грымела ў сенцах. Рыпелі сенечныя дзверы. Чуўся голас бабы Юсты. Яна там на кагосьці злавала. Ужо бліжэй, з двара, пачулася яе звычайнае: «А-кыш!.. Няма на вас здыху...» Чуў, як пайшла з двара ў сад, ужо там ганяла курэй. Мабыць, яны павыскоквалі з двара, бо ён, як бег сюды, забыўся зачыніць веснікі. Ужо чуў, як баба Юста не курэй, а яго гукала:

— Юрась, дзе ты падзеўся?.. О божухна!..

## АДЦВІТАЛА ЧАРОМХА

### 1

Макар Курнопа хадзіў хмарна-маўклівы, схуднелы, прыгорблены, асунуўся з твару, у вочы людзям не глядзеў, нібы зямлю на сябе насіў. Ён вышэй за ўсё на свеце ставіў строгі парадак і лад у пушчы, у хаце, у гаспадарцы, у думках і ў душы чалавека, у адносінах паміж людзьмі, паміж людзьмі і пушчаю, а тут, неяк раптам, ды ў адзін і той жа час, за адну вясну, звыклы

парадак рушыўся і ў абходзе, і ў сям'і. У абходзе напалавіну высеклі Такавішча, якому аддаў столькі душы і працы, а ў сям'і — Міцька жыццё ўзбунтаваў. І тое, што сына выпусцілі на волю, не магло вярнуць ранейшы спакой. Выпусцілі — добра. Але ці ў гэтым уся справа?

Вярнуўшыся з міліцыі, Міцька без ранейшай ахвоты цягаўся з бензапілою ў лес, рэдзіў у Рысева маладнякі — абы дзень да вечара,— а на трэці дзень закінуў пілу ў пуню (піла ў яго была свая, не казённая, прывёз з Карэліі, дзе служыў у арміі) і на матацыкле прымчаўся ў Лісань, паклаў на Валошкаў стол заяву аб звальненні [redacted] работы. Дома ні з кім не параіўся. Макар пра заяву дазнаўся, але ад ляснічага.

У той жа дзень, калі ўсёй сям'ёю сабраліся за сталом вячэраць, бацька спытаў у сына, што ён сабе замысліў [redacted] заявою, як мяркуе жыць далей. Адмаўчацца Міцька не мог — чатыры пары вачэй чакалі адказу,— і ён, не хітруючы, прызнаўся, што рабіць у лясніцтве не жадае, душа бунтуе, а не слухаць душу не можа. «Гультаём паакалачвацца хочаш?» — на нервовым Макаравым твары ажно рабацінне счарнела. «І гультаём жыць не ў маіх правілах,— ад усіх хаваючы вочы, адказаў Міцька.— Паеду. Работы ўсюды поўна». Бацька змоўчаў, стрымаўся, каб не ўзарвацца, хоць цяжка яму было зразумець сынава нечаканае, як снег на галаву, рашэнне, а матка доўга маўчаць не змагла, Макаравай вытрымкі ёй не ставала. «Куды ж ты, сынок, з дому паедзеш? — Голас яе задрыжаў, нібы сухая лісціна на зімовым ветры.— Ці табе [redacted] намі цесна? Няміла? Цябе адсюль хто дрынам гоніць?» — «Ніхто не гоніць. І не цесна мне з вамі,— адказаў Міцька.— Але трэба ехаць. Душа загадвае. Куды? Свет не малы. Не ў адной нашай пушчы можна жыць па-людску, быць чалавекам. Едуць на БАМ, на КамАЗ. Дык, можа, дзе-небудзь і мае галава ды рукі спатрэбяцца». Ціша запанавала ў хаце. Матка, Сашка, Толік зіркалі то на Міцьку, то на Макара, чакалі важкае бацькава слова, рашучы загад. Але загаду не пачулі — бацька іначай разважыў: «Добра, сын. Едзь, калі надумаў. Адно памятай: чалавекам не можна быць, а трэба быць. Іншай дарогі няма». І тады ўсхапілася матка: «А што ж ты, Макар, яму патакаеш? Хочаш, каб на тым БАМе шальную галаву скруціў? На гэта пускаеш?» Бацька, аднак, не паддаўся на жаночы лямант і думку не змяніў, яшчэ рашучай сказаў:

«Едзь куды хочаш. Але галавы не губляй. Яна табе спатрэбіцца».

Не лёгка было Макару даць згоду на Міцькаў ад'езд. Дачка — акрайчык даўно адрэзаны, будзе рабіць блізка ці далёка ад Ялоўкі — не мае значэння, у яе знойдзецца муж-камандзір, свая сям'я. І Саша пабач ненадоўга. Падасца калі не ў інстытут, дык у армію, а пасля арміі — інстытут. Паедзе — у Ялоўку ці вернецца? Адзін Міцька, лесавы чалавек, мог хлебнічкам сядзець пры бацьках. Прывёў бы ў хату жонку — разам жыць весялей і лягчэй. Ды атрымоўвалася, што і Міцька пакідаў, і Саша, і Алёнка ўжо даўно не з бацькамі — нагадавалі дзяцей, а застануцца адны, з малым Толікам, падскрэбкам. Макара гэта, вядома, не радавала, але ён адчуваў: хай сын робіць як намеціў, хай едзе, бо нешта ж яго ў свет гоніць, ёсць нейкая сіла. Можа — што з людзьмі абняславіўся, гняце сумленне перад Зуйком ды Валошкам? А можа, адчувае, што трэба бегчы ад Насці, шальной каламуці, пакуль не прысмактала зусім? Дык хай едзе. Астыне на далёкіх дарогах, на сіберных вятрах хутчэй адумаецца, што натварыў. Насцю забудзе. Хай! І хоць жонка — у слёзы, а ён, Макар, сам назаўтра пайшоў да Валошкі: «Адпусціце, Пятровіч, Міцьку. Не трымайце. Хай робіць як надумаў».

Міцька, аднак, не спяшаўся з Ялоўкі. Рана, да сонца, ён пакідаў хату, выходзіў на Сож, блукаў берагам ля ціхай вады, потым знікаў з вёскі, а вяртаўся на ноч, як шарэла. Калі бацька ўзяўся дапытвацца, дзе швэндаецца, прызнаўся: «У Дзебры хачу ваўчыны вывадак узяць. Пашанцуе — паеду з поўнай кішэняй». Сашка, душа добрая, адразу выклаў старэйшаму брату грошыкі, што сабраў на паліто, была гатовая раскашэліцца матка, а Макар адчуў — не ў грашах загваздка. Якому чалавеку лёгка кінуць-рынуць кут родны, матку, бацьку, братоў? Кожнаму цяжка. Вось і бадзяецца па пушчы, пакутліва з ёю развітваецца.

А потым, аднойчы, Міцька зусім не вярнуўся на ноч. Не спала матка, ловячы кожны шолах ветру і дажджу за акном; варочаўся з боку на бок, злосна соп бацька, вачэй не звёўшы. Апоўначы, калі ўся Ялоўка заснула, старая і маладая, Макар устаў, апрануўся, накінуў на плечы цяжкі брызентавы плашч, узяў з сабою Сібірку і падаўся ў Лісань.

Выходзіў з вёскі — дождж ліў спорны, але ціхі, лагодны. А ўвайшоў у дуброву — ляснуў пярун, ды моц-

на ляснуў, як зямля пад нагамі не раскалолася, у небе загрукатала, і вось тады дождж хлынуў — быццам неба прарвалася. Плашч быў доўгі, з капюшонам, шыты з тоўстага брызенту, але і па ім, і пад ім цякло. Зямлю заліло. Усю дарогу Макар хлюпаў па вадзе, па лужынах. Дубы ад дажджу не ратавалі. Высозныя, кашлатыя, але ці з маладога, рэдкага, яшчэ вузенькага лісцяя заслона? Пярун ляскаў зноў і зноў. Як цэліў праз дубы ў Макара, у Сібірку. А Макар ішоў ды ішоў, і трухала паперадзе Сібірка. Макар як не чуў ні таго перуна, ні ліўню, ні пушчы, што адгукалася небу рэхам, аж стагнала.

Падыходзіў да Лісані — неба аціхла, быццам змаглося. Ужо недзе за Сажом, над Гарадком грымела і бліскала. Дождж пацішэў. Аціхла абмытая пушча. Сібірка атрэслася, пацягнулася, павесялела.

Міцькавых слядоў Макар не ўбачыў ні пад Насцінымі вокнамі, ні на вуліцы — якія сляды пасля гэтага ліўню? Але на ганку пад стрэшкаю ляжаў сухі лапік, недождж сюды не засякаў, і вось на лапіку заўважыў некалькі мокрых слядоў — Міцькавых. Адразу ўсё ўсярэдзіне скіпела. Схапіўся за клямку, злосна заляскатаў.

Яго ляскату як ніхто не пачуў — ціха і цёмна было ў хаце. Ужо Макар быў падумаў, што ў хаце нікога няма — Насця магла заначаваць хоць у Гарадку, хоць у якой вёсцы,— але злосць не меншала, ён усё ляскатаў. Нарэшце ўспыхнула святло ў сенцах — адчыніла сама Насця.

— Гэта няўжо вы, дзядзька Макар? — ажно сцепанулася ад нечаканасці.

— Міцька ў цябе?

— Не, дзядзька. Нямашака.— Насця крутнула галавою, пазяхнула ў кулак, нібы моцна спала, цяжка ўставала.

— Маніш, дзеўка! Ці я не бачу?

Ён разгублена таропіў вочы то на Насцю, у твар, то пад ногі на ганак, дзе ў святле, што сеялася з адчыненых дзвярэй, былі добра відаць сляды вялізных Міцькавых ботаў.

Насця спахапілася:

— Ага... Быў, ды пайшоў. У хату не пусціла.

Ішоў сюды — думаў люта вылаяць Насцю, што заманьвае да сябе Міцьку, а цяпер ад яе слоў, што Міцьку не пусціла, прагнала, як цяжкі камень адваліўся ад

сэрца, адразу палягчэла, і ён, раптам уявіўшы, што Міцька дома, чакае бацьку, што там, можа, усе не спяць, чакаюць яго — куды сярод ночы папёрся? — падаўся за веснікі. А на вуліцы зноў спыніўся, азірнуўся.

— Маніш ты мне?..

Макараў голас раптам зрабіўся слабы, знясілены, але да Насці яшчэ не дайшло, што чалавека трэба пашкадаваць, у гэтую хвіліну яна адчувала іншае.

— Крый божа, дзядзька Макар,— аж у самой задрыжаў голас.— Калі я вам маніла? Ці было такое?

І тады, як урэшце паверыўшы ёй, Макар падаўся назад у Ялоўку.

Ноч была цёплая. Імжыў дробны мяккі дождж. Не шумеў, не лапацеў, як раней, у маладой траве, у дрэвах — церусіў нячутна. Парыла. Гэтакі дождж быў надта жаданы вясновым лясам, палям, садам, у якіх ужо адцвіталі вішні, слівы, грушы, чаромха, у квецень убіраліся яблыні, бэз. Водар стаяў густы, салодкі, нібыта мёд.

Доўгім усхваляваным паглядам правёўшы Макара ў цёмную мокрую ноч, Насця стаяла на ганку. Ёй вельмі шкада было Макара. Карцела бегчы за ім следам, нагнаўшы, плакаць і каяцца: «Што ж гэта я нарабіла?..»

На даляглядзе, ужо недзе за Гарадком, гулялі ціхія ясныя бліскавіцы.

— Насця!..

Яна скаланулася, як раней перад Макарам, ускочыла ў сенцы, і тут жа, аднекуль узяўшыся на ганку, у сенцы ўскочыла Сібірка. Насця ажно спужалася, войкнула, але, пазнаўшы Сібірку, выпхнула яе з сенцаў і хутчэй накінула на дзверы кручок, пагасіла ў сенцах святло.

— Хто прыходзіў? — спытаў Міцька з ложка.

— Бацька цябе шукае.

Яна павесіла ля парога на вешалку плашч, скінула з ног хатнія шлёпанцы, у якія ўступілася, калі выходзіла ў сенцы, села ля Міцькі на ложак, рукі сашчапіла на грудзях, уставілася спадылба на плашч — ён, макраваты, блішчаў ад вокан — і толькі цяпер апамяталася, што гэта Міцькаў плашч, што ў ім яна выходзіла да Макара. «Няўжо бацька не пазнаў сынаў плашч? Як жа ён моцна перажывае, калі гэтак аслеп?»

— Уставай, Міця. Ідзі дадому. Супакой бацьку.

Я гэтак не магу. Не вынесу. Як я бацьку твайму ў вочы глядзець буду?

Міцька маўчаў. Яго цела дыхала млоснай гарачынёй. Гэтая гарачыня рабіла Насцю кволай, ціхай, пакорнай, вабіла да сябе, і ўжо Насця не прасіла ні аб чым, ад пустой прывязлівасці да ранейшай думкі — не ад пачуцця — паўтарала:

— Ідзі, Міця.

Моцныя гарачыя рукі ўзялі яе за голыя плечы, астылыя пад волкім брызентам, але не ад дужасці мужчынскіх рук, сама, ад свае слабасці, яна прыцялася да шырокіх Міцькавых грудзей, губамі адчула, як калоціцца ў мяккай лагчынцы яго ўпартае сэрца.

— Кароткая ў нас ночка,— прашаптаў ён, дыхаючы ёй у лоб, у валасы.

І яна падумала: «Значыць, як пачне світаць, ты ад мяне пойдзеш. Не хочаш, каб цябе бачылі ля маёй хаты. З-за бацькі не хочаш. Каб ніхто яму не сказаў...» Гэтыя думкі ўжо нічога агульнага не мелі з яе просьбаю, каб ён ішоў дадому, наадварот — яны з'явіліся ад жадання, каб ён нікуды не ішоў, не пакідаў яе.

— Не напамінай,— прашаптала.

Міцька маўчаў, і Насці падалося, што ён думае пра бацьку, хвалюецца за яго. «Не можа быць, каб не перажываў. Яшчэ як хвалюецца...»

— Там Сібірка,— сказала яна.

— Дзе? — насцярожыўся Міцька.

— На двары. У сенцы была ўскочыла. Ледзь яе выпхнула.

— Чаго яна тут?

— З Макарам, відаць, прыйшла.

— Бацька дзе?

— Ужо ў лесе.

— Гэта кепска.

— Што кепска?

— Што Сібірка засталася. Пачула, што я тут. Цяпер будзе сядзець пад дзвярыма, вартаваць. Бацька агледзіцца, што яе няма,— зразумее. Усё зразумее.

А Насця ўжо не думала пра Сібірку, ужо Сібірка яе не хвалявала, бо яна ўжо чула Міцьку — грудзьмі, тварам, губамі, рукамі, каленкамі,— аж вочы ад асалоды заплюшчыла. Бачыла лес. І яшчэ, акрамя Міцькі, босымі нагамі чула цёплую, як зараз Міцькавы грудзі, раллю ў Макаравым абходзе. Там два гады назад з бабамі садзіла на некарчаванай лесасецы сасну. Быў за-

гад садзіць машынаю, бо лясгас не выконваў працэнт механізаваных пасадак; машыну спачатку і пусцілі, прычапіўшы да трактара, ды яна як пачала скакаць па карчах, па карэнні, растрасаючы саджанцы — каторыя закапвала ■ макаўкамі, а каторыя кідала ўгару карэньчыкамі,— дык Макар пагнаў тых сейбітаў з лесу, кінуўся збіраць баб з мечамі. І сам у рукі меч узяў, і сваю Ганну паставіў з мечам на раллю, і хлопцаў сваіх, Сашку і Міцьку. Міцька тады толькі армію адслужыў, яшчэ хадзіў ва ўсім вайсковым, нават значкамі на гімнасцёрцы звянькаў, але пагоны сяржанцкія паздымаў. Тады яна, Насця, як нанава сабе Міцьку адкрыла. Да арміі быў зусім хлапчук, зялёная дзічка, усё вусы гадаваў, а рос мох. А тыя пасадкі, можа, запомніла, што там Міцька быў. Доўга да хлопца прыглядалася, падсоўвалася стаць з мечам ля яго, неяк яго зачапіць, плячом ці слоўцам калючым, вокам пякучым. Душу адвесці хацелася. А цётка Ганна ўсё бачыла і сапла, наравіла апынуцца паміж сынам і ёю, Насцяю, адцерці яе ад Міцькі. Смех з яе браў. Нібы квактуха куранятка пільнавала. А Макар таксама бачыў — казаў без хітрасці: «Насця, глядзі меч, а не Міцьку». Глядзела — і меч, і Міцьку. Праўда, залішняй волі сабе не давала. З павагі да Макара. Яго яна заўсёды паважала, нібы бацьку, калі-нікалі нават саромелася. Усе гады, колькі ведала, падабаўся ёй гэты чалавек. Былі ў ім і сіла, і розум, і душа, і абарона ўсяму жывому. Не адна яна, усе да Макара павагу мелі. Тады рабілі — капейчыны не ўзялі. Каб начальства не ўсклала віны на лесніка, што ўручную садзіў, запісалі культуры на механізатараў, ім выплацілі, хоць яны ў кустах адлежваліся. Іншаму лесніку на гэтакую ласку не пайшлі б. Пасля, як скончылі работу, Макар паклікаў усіх пад дуб, на чарку ды скварку. Селі кружком, усёй талакою, а Насця — зноў каля Міцькі. Ужо і не думала да яго падсядаць, неяк само атрымалася, што побач аказаліся. Цётка Ганна зноў паміж імі ўтачылася, ды неяк па-дурному, аж брыдка зрабілася ад яе хітрасці. Насцю зло ўзяло. Бо нічога ж яна да Міцькі не мела. Ну пажартаваць — ці то грэх? Налівалі ўсім віна па паўшклянкі, а яна, са злосці, набухала сабе поўную. Усе на яе глядзяць, не верачы, што вып'е. А яна перакуліла, узяла кавалак сала з хлебам, падзякавала за хлеб-соль ды і пайшла. Міцька ўсхапіўся, нагнаў, каб вярнуць, а яна яго адпіхнула ад сябе: «Патрэбны ты мне,

дзіця горкае? Ідзі накрыйся спадніцай матчынай». І — у лес. Вось тое, апошняе, Міцьку, пэўна, і ўрэзалася ў памяць, не давала спакою. Праз той выпадак, можа, і пачаў яе дамагацца.

Ціха, пакутліва ўздыхнула Насця.

— Што з табою? — спытаў Міцька.

— Ох, што гэта робіцца?..

— Усё як трэба,— Міцька цяплом дыхнуў ёй пад голую ключыцу, у лагчынку.

Ад шчыкатлівай асалоды пад ключыцаю яна заплюшчыла вочы, падумала: «А ўсё ж цётка Ганна не дурная была, як адцірала мяне ад Міцькі».

Прызналася:

— Я вінаватая, Міця. Баба ў маіх гадах — агарачак свечачкі. Усяго толькі. Гарыць яшчэ, але дагарае. А табе, маладому, доўга гарэць. Я гэта ведаю.

— Не дуры, Насця.

Ён чуў, як цяжка яна каўтанула сліну, адхіснуўся, глядзеў, што [redacted] ёю робіцца, глядзеў ёй у твар, паклаўшы гарачую руку на мяккі жаночы бок, на гладкую шаўковую камбінацыю, светлую ў цемені, бо белую, успамінаючы, як гэтую камбінацыю Насця ўчора купляла ў раймагу. Там, раптам убачыўшы побач з сабою Міцьку, была сумелася, схапіла з прылаўка камбінацыю, скамечыла, да грудзей прыціснула, нібыта бяду, не ведала, куды схаваць, запхнуць, быццам то ў яе руках апынулася нейкая бомба. А ён, праўда, у адзін міг зразумеў яе сарамяжлівую душу — адвярнуўся, пайшоў у суседні аддзел, нібы там штосьці хацеў купіць.

— Калі ж ты паедзеш на свой БАМ? — спытала.— Ці, можа, раздумаў?

Пэўна, яму не хацелася гаварыць з ёю пра ад'езд, маўчаў. Але пасля, памаўчаўшы, загаварыў — нібы жартам:

— Спачатку вазьму вывадак. Вось пачне світаць, пайду ў Дзебру і вазьму. А вазьму, тады нам, Насця, грошай хопіць на любую дарогу. І на БАМ, і за БАМ.

— Дзе ж твая стрэльба?

— А я голымі рукамі.

— Ваўчыца парве, раз'ятрыцца.

— Га! — рагатнуў.— Яна ведае, з кім справу мае.

— Там, глядзі, і мацёры.

— Усе будуць у авечай шкуры перад Міцькам. Ён казаў ёй пра лагво, якое яшчэ не знайшоў, але

з упэўненасцю, што знойдзе, казаў, што на ваўчанятах добра заробіць, казаў пра Сібір, БАМ, дзе яны будуць пракладаць рэйкі, жыць у цёплай лесавой хаціне пасярод тайгі, лавіць харыуса і паляваць на мядзведзя, а Насця слухала і не перапыняла, хоць ведала, што ўсё будзе іначай, як варыцца ў гарачай Міцькавай галаве, што іх сённяшняя ночка — не толькі першая, але, можа, апошняя. Не было б і яе, гэтае ночкі, калі б ён нахабна, хітрасцю не ўлез у хату. Ужо яна ляжала ў ложку, ужо сон змарыў, калі ён, нібы злодзей, падкраўся да хаты, драцінаю, без стуку-груку, парануў пад клямкаю, адкінуў дзвярны кручок. Пачула чалавека побач, калі той пераступіў парог. Напужалася да смерці, крычаць хацела, ды ён падскочыў, схапіў за голаў, далонню заткнуў рот, зашаптаў: «Гэта ж я, Міцька... Ты не пужайся...»

Усе запоры перахітрыў, а цяпер спакойна, нібы пераможца, казаў:

— Вазьму вывадак сёння, дык заўтра паедзем.

Яна маўчала, быццам не чула. Але чула — і словы яго, і душу, чула і думала: «Не, Міценька. Які ты мне сёння ні салодкі, а нікуды я з табою не паеду. Бяры сваіх ваўкоў і матай з імі. А я адна жыла, адна ў сваім куце і застануся. Шкада толькі, што вінаватая перад тваімі бацькамі, Валошкам, дзедам Гарохам. Але не прывыкаць удаве да камення людскіх слоў, вачэй. Хай!.. Можа, Лесік вернецца...»

— Што маўчыш, Насця?

— Бо ўсяго не скажаш.

— Дзіўная ты.

— Можа, дзіўная, а можа — дурная,— раптам успыхнула.— А ты хіба прыйшоў да мяне на размовы?

Прыціх Міцька.

Яна чула, як ён увесь сцяўся ад гэтай яе жорсткасці. Сама спужалася, бо не хацела такое казаць, не ад душы словы адскочылі — ад былой чэрствай жыткі, калі не было побач Міцькі, нікога не было, адна халадала ў хаце. Міцька моцна дыхаў, варочаўся, як на мулкім, ажно ложак парыпваў. І раптам ёй вельмі захацелася сказаць штосьці лагоднае, цёплае — пажартавала:

— Што гэта рыпіць?

— Ложак. Нейкі ён жывы.

— Якая гаспадыня, такі і ложак. Рыплівыя.

Ён шалёна схапіў яе аберуч.

— Можа, хопіць, Міця?.. Надурачыліся. Вунь... блізка раніца,— задыхаючыся, шаптала яна.

Ён прыўзняў над падушкаю галаву, не выпускаючы Насцю з учэпістых рук, зірнуў у акно. Ніякага світанку яшчэ і знаку не было. Але Насцін напамінак пра хуткую раніцу нібы падштурхнуў яго, і ён, бліснуўшы на яе шалёнымі вачыма, заўсміхаўся вялікім белазубым ротам, прагным і шчаслівым, яшчэ сарамяжлівым, нібы ў дзіцяці, тварам сунуўся ёй у грудзі...

Маёвыя ночы таропкія.

Шыбы ў вокнах і памыліся, і рана пабялелі, але абсыхаюць доўга, аж да сонца — пад маёвым потам.

А дождж аціх апоўначы. Ніхто не чуў і не бачыў — калі.

Міцька хроп, раскінуўшы рукі-ногі на ўвесь шырокі ложак, а Насця сядзела на краі ложка, глядзела ў Міцькаў малады твар, задумліва гуляла пальцамі ў яго залацістых мяккіх валасах, круціла з іх залатыя пярсцёнкі і шаптала, каб уставаў, гэтак шаптала, што і сама свайго голасу не чула.

Нарэшце, глянуўшы ў акно, заўважыла, што шыбкі пачынаюць абсыхаць, ружовець, захвалявалася, мацней шапнула:

— Міця!..

Ён расплюшчыў вочы, нейкае імгненне няўцямна глядзеў на яе затуманенымі вачыма, нібы штосьці прыгадваў, потым прыўзняў над падушкаю галаў — паглядзеў у акно.

— Што? Трэба ўставаць?

— Як хочаш.

Пакуль ён апранаўся, яна паставіла на стол гарлач з малаком, дастала з пасудніка хлеб, кубак, соль — ведала, што Міцька хлеб любіць з соллю. Наліла ў рукамыйнік вады, падала чысты ручнік. Ён памыў рукі, сказаў, што вочы прамые ў лесе крынічнаю вадою, і да стала не сеў. Стоячы, пасыпаў соллю лусту хлеба, узяў кубак з малаком, выпіў малако, уцёр вусны далонямю.

Накінуўшы на плечы плашч, моўчкі, па-мужчынску стрымана, як гаспадар гаспадыню, абняў Насцю, пацалаваў — і выйшаў за парог.

## 2

Яшчэ дзед Гарох не ўставаў, не выводзіў паіць Малога ды Машку, буслы яшчэ не падымалі ў гняздзе галовы, не цёхкалі доўгімі танклявымі, нібы нажніцы, дзюбамі, чыста вымытая цёплым начным дажджом, асмужаная лёгкім раніпнім туманом маладая трава блішчэла і мякка парыпвала пад нагамі — калі Міцька перайшоў Трасцінку па алешыне, падмытай і паваленай вадою, выйшаў да магільніка. Пад бярозамі пастаяў, паглядзеў на курганкі, парослыя маладой травою, бялява блішчастыя ад густой расы, усе агледзеў, каторыя ў агароджах і без агародж, з помнікамі і без помнікаў.

Яшчэ раз азірнуўся на Лісань, на Насціну хату, на яе бярозу, на буслянку з бусламі ды і падаўся праз дуброву.

Ідучы, слухаў птушак. Пушча стагнала ад птушынага граю. На ўсе лады заходзіліся салаўі, асабліва на Трасцінцы, у чаромхавых зарасніках, у духмяным, што мёд, паветры; свісталі шпакі; трымцелі жаваранкі; юрлілі, нібы зноў на дождж, юркі; у бары за сушняю на сухадрэвіне выводзіў рулады дзяцел, яму адгукаўся другі, з іншага боку Лісані, а недзе далей кувала, быццам яе ікаўка брала, зязюля.

З Міцькам, то злева, то справа, цюхкала Сібірка. Атрымалася так, як ён казаў учачы: сучка ўсю ноч праседзела на ганку пад дзвярмі, чуючы Міцьку, да якога была прывязлівая болей, як да Макара ці Сашкі, і калі ён адчыніў дзверы — яна адразу, тужліва скавычучы, кінулася яму на грудзі. Ён спіхнуў яе з ганка, тады яна крыху супакоілася, але ўсё лезла лізаць рукі, церлася бокам аб ногі. Ён зноў адпіхнуў яе.

Праз дуброву дарога вяла ў Ялоўку, але Міцька ісці ў Ялоўку пакуль што не думаў.

Раней, калі стаяла паводка, ён ноччу рыбаліў непадалёк ад Лісані з «казою» на носе лодкі, з агнём на «казе», [redacted] мехам смалякоў пад нагамі і асцямі ў руках. І вось у тую ноч з вады чуў, як у Дзебры выла ваўчыца. Тады падумаў: «Не інача як шукае пад лагво месца. Ні мацёраму, ні пераярым не давярае гэтую святую работу, сама шукае. Нервуецца, бо ўжо час сесці ў нару. Ажно скуголіць».

Нікому не сказаў, што ў Дзебры чуў ваўчыцу. Нават брату. Сашка мог прагаварыцца Міну, бо не

паляўнічы, яму абы кніжка ў руцэ ды губа ў малацэ, а Міна вывадак не ўпусціць.

Аднак Міцька і сам не спяшаўся ў Дзебру. Адно ўчора туды выбраўся, надвечар. Шукаў, пакуль не сцямнела. Старое лагва знайшоў, а каля яго — ніякіх слядоў, ні ваўчыных, ні чалавечых. Галаву і руку ў лагва ўсунуў, бліснуў ліхтарыкам: нічога не высвеціў, акрамя вільготнага пяску ды намеценага ветрам леташняга лісця з ігліцаю напалам — жаўтлява-бурага лісця і рудой ігліцы.

Два гады назад Рысеў забраў у лагве ваўчанят, і з той вясны ніхто не бачыў у Дзебры ваўчынага следу. Казалі, што ў Рысева рука цяжкая: дзе возьме — там доўга пуста бывае. Але рука рукою, а праз два-тры гады ваўчыца магла на старое месца вярнуцца — гэта Міцька ведаў. Ды і голас чуў, як з асцямі плаваў.

Яшчэ ён знайшоў у лагве дзве чорныя, ад крыла, пярыны старога крумкача. Ранейшыя гады, як былі ваўкі, крумкач гнездзіўся на вершаліне старой яліны, што над самым лагвом, і Міцька на ўсякі выпадак абышоў яліну. Гняздо на ёй заўважыў, але крумкача не пачуў. Няма ваўкоў — няма і крумкача?

Дзень толькі пачынаўся, і спяшацца не было куды. Міцька спыніўся пад дупластым Святым дубам. Скінуў боты, босы абышоў дуб па мяккай мокрай траве, памыў аб халодную расу ногі, скінуў плашч, паслаў ля Белай крыніцы, укленчыў на яго, звесіў над крыніцаю галаву і глядзеў на свой адбітак у вадзе, сам сабе ўсміхаўся. Схіліўшыся яшчэ ніжэй, прагна глытнуў сцюдзёнай вады — ажно зубы зайшліся. Апаласнуў твар, прамыў вочы.

Ля самага вуха загуў чмель. Нібы спужаўшыся яго, Міцька ўскочыў на ногі, агледзеўся.

Чмель лётаў з кветкі на кветку — цвілі дзьмухаўцы. «Цёплая ноч была,— падумаў Міцька.— Чмель рана вылецеў». Схіліўся над ім, уважліва разглядаў руды лабок, чорны носік, чорны паясочак-падпяразку, як ніколі не бачыў чмяля. Гэтак, здаецца, і сядзеў бы, глядзеў бы на яго, калі б Сібірка раптам не падскочыла. Яна бруднай мокрай лапаю грабянула па кветцы, на якой сядзеў чмель, скінула яго ■ кветкі ў траву, была пачала выграбаць з травы, ды Міцька адпіхнуў яе, не пусціў да чмяля. Той сам выблытаўся з травы і, сярдзіта загуўшы, паляцеў ад крыніцы.

Міцька сеў на камень.

Прыгожая бралася раніца. Ужо сонца ўзнялося, туманы, якія ляжалі ў лагчыне, дзе Трасцінка, і па дуброве, радзелі, ружовелі, пад імі ў травах ужо зіхацелі кветкі, усё жоўтыя: дзьмухаўцы, як насеяныя, густымі пэндзлікамі рассыпаныя, парасончыкі першацвету на доўгіх танклявых ножках, якія раслі рэдка, і таму кожная кветка была навідавоку, дробненькія браткі — тры пялёстачкі жоўтыя і два ўверсе, што заечыя вушкі, бялявыя, а найгусцей — кураслепу. Чым больш радзеў туман, тым жаўтлявей рабілася ў дуброве. Адно месцамі дол быў бялявы. Не ад туманоў — ад кветачак ветраніцы, якая расла малымі азёрцамі. Ды і туманы між дубамі трымаліся не так белыя ці ружовыя, як жаўтлявыя. Пэўна, ад жоўтых кветак ды ад дубоў, якія павыкідалі лісцікі, яшчэ вузенькія, мяккія, рэдкія, не так зялёныя, як жаўтлявыя.

Жаўтлявымі здаваліся адсюль, ад дубоў, і Насціны вокны — шыбы. Пэўна, што якраз насупраць узыходзіла сонца. А бяроза стаяла зялёная, светлая, свежая. І ўжо бусел кружыў над буслянкаю. Пакружыў і сеў, прынёс буслісе жабоцьку з балота. Міцьку было добра відаць, як бусел стаяў на паружавелым краі гнязда, узмахваў, каб не зваліцца, ружовым на сонцы крыллем, выцягнуўшы ўніз шыю, звесіўшы дзюбу, здаваўся ў гэтай паставе нейкі гарбаты, сутулы. Карміў бусліху, якая сядзела на яйках, не ўставала.

З лесу, пакрэктваючы разгайсаным кузавам, выехала грузавая машына. Гула, едучы да канторы, там спынілася, пад самымі вокнамі. Першы кліент прыехаў. Па лес.

Ад канюшні ўжо ішоў дзед Гарох — вёў Малога і Машку.

Таропка, быццам некуды познячыся, Міцька ўсцягнуў на ногі макраватыя, не прасохлыя за ноч ля парога боты, на плечы накінуў макраваты ад ранішняй травы плашч і шырокім крокам пашыбаваў далей.

Калі ўваходзіў у гушчар, калі Лісань за дрэвамі ды кустамі знікала, ён яшчэ раз спыніўся, азірнуўся, убачыў Насціны жаўтлявыя вокны, белую бярозу пад вокнамі, але буслянку засланілі дубы. Дзед Гарох стаяў на беразе Трасцінкі з коньмі, глядзеў на ваду. І Міцька, не бачачы ў гэтую хвіліну ні Трасцінкі, ні Белай крыніцы, ні ручая, што каціўся ад крыніцы ў Трасцінку, уявіў ланцуг жывой вады, як ён бярэ пачатак у малым, з чалавечы твар, крынічным люстры, бяжыць, пазвонь-

ваючы, па каменьчыках, па зялёнай латачыне, у Трасцінку, жывіць яе. І разам з ёю ўжо ў яе шырэйшых берагах, белых ад чаромхавай кіпені, прабягае пад Насцінымі вокнамі за вёску, між лугоў, зялёных траў і жаўтлявых кветак кіруе ў Сож, і ўжо ў яго берагах, з ім разам, спяшаецца ў Дняпро, а з Дняпром — у мора, у акіян. Увесь акіян быццам пачынаўся пад Святым дубам, ад пушчанскай крыніцы. Гэтакі малы пачатак, і гэтакі вялізны абсяг там,— абсяг сусветнага акіяна!..

За дуброваю пайшлі алешнікі, балацяністая лагчына, зарослая леташняй рудой асакою. З лагчыны Міцька выбраўся ў ельнік, яшчэ не ачышчаны ад зімовых лаўжоў. Прадзіраючыся гушчаром, падрапаў рукі, ледзь вочы не павыколваў. Затое за ельнікам пачалі свяціць бярозкі, спачатку рэдкія, пасля гусцейшыя; у падлеску пайшлі сасонкі, ядловец, зрэдку зелянелі малыя ялінкі — тут было больш прастору і для сонца, і для чалавека.

З ядлоўцу выпырхнуў чорны дрозд, і Міцька адразу сунуў нос у куст — там, у гняздзечку, ляжала пяць блакітных, усыпаных рабацінкамі яечак. Загарнуў куст, пайшоў далей.

Цяпер ужо Сібірка не круцілася пад нагамі, шастала то ў адным баку, то ў другім, час ад часу з'яўлялася між дрэў, азіралася на Міцьку і зноў знікала ў гушчары.

Нарэшце выйшаў на знаёмую сцежку, якая напрамкі вяла ў Дзебру. Сцежка была непрыкметная для чужога вока, нават і не сцежка, а ўсяго толькі чысцейшая ад зарасцяў нітачка — улукаткі, паміж дрэў. Ён гэтую нітачку ведаў. Выйшаў ёю на адхон раўка, спусціўся ў той равок, пайшоў ім. Равок шырэў, паглыбляўся, яго ўсё мацней глушылі ляшчыннік, крапіва, леташняя папараць, бурая і сухая. Пад леташняй папараццю ўжо адрастала маладая. Раней, як дзе ў лесе. Бо тут было зацішней, цяплей. Маладая папараць прабівалася з зямлі смешнымі пушыстымі кручкамі, лісцікі былі пакурчаныя і кволыя. У рове пахла цвіллю, вільгаццю, трухлявымі пнямі. Але па адхонах было яшчэ болей птушак, яшчэ весялей ад іх граю, асабліва салаўі шалелі, аж галаву вяло. Міцькава галава мо таму яшчэ кружылася, што сёння ён заўважаў і чуў у лесе кожную драбязу. Сам не ведаў, чаму гэтакі сёння наструнены, нервовы, і гэтакімі вострымі вачыма і слыхам. Як ніколі.

Калі выбраўся з рова, пад нагамі пайшоў чарнічнік. Уся зямля была ўсыпана ружовымі слёзкамі яго кветачак, падобных на дробненькія званочкі. Міцька нарваў жменю чарнічніку, спыніўся, разглядаючы ружовыя званочкі — дзе-нідзе была ўжо завязь. Падумаў, што сёлетняе лета выдае багатым на ягады, а яму не давядзецца і адной сарваць. Тужліва зрабілася на сэрцы. «Дальбог, як развітваюся з пушчаю,— падумаў, аж скалануўся.— З усім гэтым светам, без якога ці змагу жыць...» Цяпер толькі зразумеў, што ўся яго сённяшняя ўвага да кожнай травіны, кветкі, расіны, птушкі, да кожнага дрэва — адсюль: душа развітваецца.

Ён увайшоў у бор. Тут было больш сонца, якое ўжо ззяла з хваёвых шатаў, праз іх, і на святле туга адпусціла сэрца. Пайшоў хутчэй, але думка не знікала, усё вілася, як тая невідочная сцежка між дрэў — улукаткі: «А як жа я служыў армію? Там са мною не было мае пушчы. І не заўважаў, што яе няма. Там быў іншы лес. Такі самы? Не, не такі. Свой усё ж — гэта свой, родны. Ляжаш у ложак, заснеш — ён і ў сне шуміць. Тут усё вядомае. Кожная драбніца — твая. А што ў арміі гэтага не адчуваў, дык быў маладзейшы. Пэўна, такое з гадамі прыходзіць, калі сваё, роднае не пускае ад сябе нікуды, калі пачынаеш адчуваць, што тут, у родным кутку,— уся твая душа».

Зноў туга ахапіла Міцьку. Ён свіснуў Сібірцы, як на дапамогу сваёй душы. Сібірка з'явілася хутка — вясёлая, узрушаная, аж пазайздросціў ёй: «Ты тут застанешся. Табе лепей». Сучка кінулася яму на грудзі, і ён яе ўжо не адпіхнуў, схапіў аберуч за галаву, пачаў лашчыць, штосьці ласкавае шаптаць ёй. Лапы ў яе былі ўжо чыстыя, але макрушчыя, яна абслядзіла яму ўвесь плашч на грудзях, пінжак пад расшпіленым плашчом, штаны, а ён яе ўсё лашчыў, з рук не выпускаў.

Роў здаўна называўся Лісіным, мабыць, таму, што ў ім былі трывалыя лісінія нabроды, асабліва ў тыя гады, калі ў Дзебры знікалі ваўкі. Калі ваўкі зноў з'яўляліся — знікалі лісы. Тут, ад гэтага рова, пачыналася Дзебра. Міцька ведаў за ровам лісіную нару і цяпер кіраваў туды: можа, ваўчыца яе заняла?

Прадзіраючыся зараснікам, Міцька думаў і пра ваўкоў, і пра ліс, паспяваў і птушак слухаць, і заўважаць усё ў лесе, але ўжо нішто не глушыла ранейшага

адчування, што падкаціўся нейкі злом у яго жыцці, што гэты злом па-за межамі думак пра Дзебру, ваўкоў, лагво, што ён, пэўна, ад бойкі з Зуйком, ад той сілы, якая вяла да Насці, можа, ад кахання да яе — можа, і ад кахання! — ад дзён і начэй, праведзеных у міліцыі, ад разладу з бацькамі, ад віны перад Валошкам, і быў ён, гэты злом, не толькі болем душы, але новым дыханнем, адчуваннем блізкага прасцягу, сустрэчы з ім. Яшчэ нядаўна жыў неяк у адным дні, карацейшым ці даўжэйшым, у чымсьці будзённым, хуткаплынным, хвілінным. З раніцы, прачнуўшыся, браў да галавы звычайныя, штодзённыя клопаты: будзе сёння дождж ці суша, касьба ці жніво, чым падбіць бот, які ўчора цёк, як злавіць рыбы. Ішоў з вёдрамі па ваду, даваў карове сена, свінням — паранку, ішоў на работу — думаў пра пілу, дрэвы, кубаметры, людзей, якіх трэба бачыць. З пілою на лесасецы — тыя ж думкі пра дрэва, як яго зваліць, зручней на зямлю пакласці, пра кухталёўку, парадак у дзялянцы, а вечар надыдзе — куды, да каго пайсці, дзе пагрэцца чаркаю ды бяседаю? Гэтак — штодня. Але апошнімі днямі тое, што было навідавоку ды пад рукамі, надоўга не затрымлівала ні думак, ні пачуццяў, яны ўсё часцей пераскоквалі цераз малое, будзённае, кіравалі ў заўтрашняе, хоць і невядомае. Раней гэтакае заўважаў у Валошку, у бацьку — яны ўсё наперад глядзелі. Ён тады з бацькі кпіў: «Навошта казаць пра заўтрашняе, не пражыўшы сённяшняе, хваляваца вялікім, калі хапае малога?» А цяпер і ім самім гэтакае пачало рабіцца. Ён цяпер жыў, нібы тая Белая крыніца: цёк малым ручаёчкам, але ведаў, што наперадзе чакае шырозны прастор ракі, а можа — мора, акіян.

Задумаўшыся, Міцька забыўся выскачыць з Лісінага рова яго левым атожылам — да лісінай нары, прайшоў міма. Ужо роў скончыўся, за ровам пераскочыў цераз ручай, які пачынаўся злева ў лясной балаціне, і толькі тут, за ручаём, які не меў ні імя, ні прозвішча, спыніўся. Тут была самая-самая Дзебра. З трох бакоў яе акружала балота, не надта топкае, але непраходнае цяпер, увесну, і толькі Лісіным ровам, праз гушчэчу ляшчынніку, крапівы, папараці, можна было падступіцца. Міцька раздумаў вяртацца да лісінай нары, павярнуў направа, да выспы, дзе сушэй, дзе рос ельнік, пракідаліся хвоі.

Зноў выйшаў да старога лагва, якое агледзеў учо-

ра. Цяпер совацца ў яго не было патрэбы. Але куды падацца? Сеў на пень.

Раптам зусім блізка, як не над самай галавою, пачуў крумкача. Ускочыў з пня. Крумкач сціх. Міцька пастаяў, не варушыўся. Той зноў пачаў крумкаць. Пашарыўшы ўверсе вачыма, Міцька знайшоў на яліне старое гняздо. Пачаў кружыць вакол яліны, задраўшы галаву, то залазячы ў балота, то зноў выбіраючыся на пясчаную выспу. Крумкач маўчаў. Але доўга і ён не ўседзеў на адным месцы, залопаў крыллем, і Міцька ўбачыў, што ён узняўся якраз з тае яліны, дзе гняздо, пераляцеў на суседняе дрэва, бліжэй да балота. «Ага,— падумаў Міцька,— значыць, ты, груганнё, на старым седале? Адзін ты тут жыць не павінен. Цябе я даўно ведаю». Пашыўся ў малады ельнік і хутка адшукаў там лёжкі — мацёрага і пераярага. Лёжкі былі свежыя, пахлі псінаю. Свежыя былі сляды, шматкі шэрай, ад вясновай ліньки, поўсці, памёт. Валяліся косці, касуліны капыткі.

«Лагво!» — ёкнула шчаслівае Міцькава сэрца, і ён яшчэ з большай апантанасцю кінуўся кружыць вакол выспы. Загруз у балоце, паслізнуўся на куп'і, ускочыў у ржавую ваду, набраў поўныя боты, але ўсё хадзіў вакол груганавай яліны, чвякаў — адкуль бралася ўпартасць? Стаміўся, задыхаўся. А крумкач ужо не хаваўся, адкрыта пералятаў з дрэва на дрэва над Міцькавай галавою і на ўсё горла крумкаў, даводзячы сваім магільным голасам да шаленства. «Ну, дзе ты, ваўчынае семя?!» Міцька сеў пад ялінай на корч, нейкі час пільна глядзеў, цяжка дыхаючы, перад сабою на выспу, потым задраў адну нагу на ствол яліны, выліў з халявы рудую ваду, гэтаксама выліў ваду з другога бота — зноў глядзеў на выспу. Там, на жаўкве, стаялі сасна і бяроза, прыўзняўшыся на лапах, нібы выйшлі з балота і сушылі на цёплым пяску ногі. Міцька ўстаў з карчыны, зрабіў тры крокі на выспу і раптам у жаўкве пад сасною ўбачыў дзірку. «Нара?» Не думаў, што на голай выспе, на сонечным відавоку можа быць лагва з ваўчанятамі. «Але што гэта, калі не яно?» Падскочыў бліжэй — сляды! Свежыя, ваўчыныя. Міцька бухнуўся перад нарой на калені, сунуў у нару руку — пуста. Выхапіў з кішэні ліхтарык, сунуўся ў нару з ім разам, галаву туды ўшчаміў. Але ў нары была поўная немата. Адно пахла свежай псінаю, як на лёжцы, нават мацней. «Няўжо ваўчыца паспела вынесці ваўчанят?.. Пе-

рахавала?.. Га-а, гэта крумкач, паскуда, яе папярэдзіў! Далёка, крумкач, бачыш?.. Не, я не паеду, пакуль табе вочы не вырву. Я заўтра ж... са стрэльбачкаю да цябе з'яўлюся. Тады ты са мною гулі пастроіш».

Злосць узяла Міцьку: як так — усе знакі, што нядаўна тут была ваўчыца, што лагво жылое, цёплае, нават сляды ваўчанят, маленькія, высачыў на жаўкве, недзе тут ваўчыца і ваўчаняты, блізка, а не знайсці. Крумкач з ваўчыцаю абвялі вакол пальца? Ён жа — яшчэ і крумкае?..

На выспе, на пяску, быў след ваўчыцы: ямка ў ямку — гэтак асцярожна, мабыць, насіла ваўчанят ■ нары. Далей, у траве, сляды губляліся — цяжка было здагадацца, куды насіла малых.

«Дзе ты, Сібірка? — Міцька агледзеўся, свіснуў. Але сучкі не было відаць.— Ліха на цябе, воўчае мяса!..»

Сучка не магла кінуць яго, збегчы ў вёску. Хоць і такое бывала, збягала ■ палявання. Адзін раз, гады тры назад, з незнаёмым паляўнічым. Можа, і не сама, можа, той яе ўзяў на шворку. Надта даверлівая. Праз тры дні вярнулася. А другі раз — летась, калі ўвязалася за чужым кабялём. Праз тыдзень вярнулася: морда апухлая, парваная, пярэдняя лапа падбітая, сама схуднелая, ледзь валаклася, ішла і падала.

Сонца паднялося высакавата, прашывала маладзь лясок. Парыла. А Міцька і без сонца ўпарыўся. Да балота агледзеў кожны куст, кожную купіну, а на балота не палез — ваўчыца ў ваду малых не панясе. Сухі бок быў адзін — ад рова, і Міцька пайшоў туды. Далекавата адышоў — з пустым вярнуўся.

Раптам зусім блізка, знянацку, забрахала Сібірка. Міцька аж скалануўся: «Няўжо ў барсучыную нару гаўкаеш? Гэтага яшчэ не хапала, звяг тваіх!» Ён кінуўся ў той бок. Але сціхла сучка. Ён спыніўся. Ціха. Пайшоў зноў туды, дзе брахала.

Сібірка ляжала на баку паміж ядлоўцавых кустоў, лапаю ■ чымсьці жывым гуляла. «Во яшчэ! — падумаў Міцька.— Яшчарку ці жабу знайшла? Ёй гулі!»

І як здзівіўся, калі ўбачыў у Сібірчыных лапах ваўчаня! Сучка гуляла з ім, нібы з сабачкам, а яно поўзала ля яе, тыцкалася ў цёплы яе жывот, нічога не бачачы, было сляпенькае. Міцьку самому падалося, што гэта сабака. Ён узяў яго ў рукі, дробнае і худое, зусім кволенькае, глянуў у сляпенькі тварык, усміх-

нуўся, нібы дзіцяці, паклаў на крысо пінжака і гладзіў далоняю па цупкай галоўцы, на якой была чорная плямка, па гладкай спінцы, а ваўчаня поўзала, завальвалася на бок, добра на нагах не стаяла, тыцкалася мордачкаю ў пінжак, у плашч, у рукі, зяўкала ротам, як хацела спаць ці есці, каўкала па-каціному. Злавіла Міцькаў палец і смактала, нібы матчыну цыцку.

Тым часам Сібірка жвава ўскочыла на ногі, тудысюды крутнулася, прынесла ў зубах яшчэ адно.

— Ну, маё ты золатца, Сібірка! Дзе бярэш?

А сучка ўжо і трэцяе валакла — з мурашніка.

Міцька здзівіўся: ніколі не бачыў, каб ваўчаняты хаваліся ў мурашніку. Мурашнік быў стары, даўно пакінуты мурашамі, а ў ім ці не ваўчыца выграбла яміну, і ў той яміне ваўчаняты ляжалі адзін на адным, спалі. Міцька стаяў над імі і ўсміхаўся, радасны. Нагледзеўшыся, скінуў з сябе плашч, разаслаў на зямлі, паклаў на плашч тых дваіх і ўсіх астатніх — з мурашніка павыцягваў. Налічыў аж сямёра.

Яшчэ мацней крумкаў крумкач — трывожна, пагрозліва, пералятаючы з дрэва на дрэва.

Ваўчаняты распаўзаліся, а Міцька зноў і зноў кідаў іх на плашч, зноў і зноў пералічваў, каб не спаўзло ды не згубілася хоць адно, радаваўся: «Сем штук! Па трыццаць рублёў за штуку — во, гэта заробак!»

Сібірка сядзела ля плашча над ваўчанятамі, скуголіла, быццам чула Міцькавы жорсткія думкі і шкадавала малых.

Непакоіўся і крумкач — угары.

— Крычы, хоць парвіся,— здзекаваўся з яго Міцька.— Можа, ваўчыцу хочаш наклікаць? Во спужаеш ваўчыцаю!

Яшчэ ён не чуў такога выпадку, каб ваўчыца кідалася бараніць малых. Ад сабакі — магла. Калі б Сібірка была тут адна, то магла б налажыць галавою. Але на чалавека, ды яшчэ на паляўнічага, ваўчыца не ішла. Яна, вядома, недзе блізка затаілася, усё чула, ведала, але не ў яе правілах выдаваць сябе нават цяпер, калі ў яе забіралі вывадак. І не таму, што матка кепская. Матка яна была адна з лепшых у лесе, але ў яе ў крыві жыла іншая мудрасць: абы сама была жывая — тады будуць і яшчэ дзеці. Не сёлета, дык праз год. Выжыве сама — будзе множыцца ўсё ваўчынае племя, будзе яго ўлада над лесам.

Міцька зноў паскідаў ваўчанят на плашч, у кучу, сабраў полы, рукавы, каўнер плашча ў адзін жмут, закінуў вузляк за плячо і падаўся гушчаром у Ялоўку.

Але ісці не давала Сібірка, усё забягала наперад, блыталася ў нагах, задзірала галаву і скавытала, станавілася перад Міцькам на заднія лапы і жаласліва глядзела яму ў вочы, маліла аб нечым. Ён спыніўся, глядзеў на сучку, ёй у вочы, мо першы раз не разумеючы яе. Усё ж зразумеў нарэшце. І Сібірку, і праз яе — сябе. Бо і сам ужо ішоў без тае радасці, што была.

Выплюнуў бычок, скінуў з пляча сваё нечаканае багацце, за якім столькі ганяўся,— вытрас яго з плашча.

— Эх, ваўчкі-шарачкі! Жывіце!.. Помніце Міцьку...

### 3

У цёплым чыстым небе на ўсю моц ззяюць круглы месяц і зоры, а ў лесе, понізу,— цемень. Дзе-нідзе лес і дарога свецяцца ацьмелаю сівізною, змеценай на іх з высознага яснага неба.

І ціха-ціха. Божа мілы! Ці ёсць яшчэ дзе на свеце гэтакая ціша? Ні табе ветрыку, ні птушынага галасочка, ні жабінага крумкату, ні шэпту лісціны, ні хрусту галіны, хоць і вясна — самы, мусібыць, гармідар. Можа, птушкі за доўгі дзень скрычаліся, жабы паснулі на мокрых купінах, лісціны ды галіны — яшчэ маладзенькія, кволыя, мякенькія — за доўгі дзень усё дарэшты абгаварылі, налапаталіся, вецер заблытаўся ў лясным касмыцці, зваліўся дзе пад дрэвам, дрыхне? Адно колы воза танклява, пранізліва, нібы ў пустэчы, парыпваюць, тахкаюць дзе-нідзе на каранях, уплеценых у мяккую лесавую дарогу, ды конь час ад часу форскне, слінну з губы скіне — ад гэтых галасоў, калёсных ды конскіх, слабых і рэдкіх, лес зусім замірае, яны як бы лішні раз кажуць: «Нас таму і чуваць, што мы ў начы адзіныя».

Чаго-чаго, а цішыні за сваё доўгае жыццё ў Лісані Насця наслухалася ўдосталь, душа ад яе была атупела, аглохла. Ды гэтакай жаданай, салодкай, як сёння, ніколі яшчэ не чула. І чаму гэта так?..

Насця здагадваецца — чаму. Каб адчуваць асалоду цішыні, яе трэба душой жадаць, так жадаць, як

яна, Насця, жадае сёння. А раней? Бывала, чым большая ціша абложыць, тым мацней крычала, аж заходзілася, душа. Асабліва ўвесну. Бо вясною птушка птушку знаходзіць, звер — звера, кветка — кветку, увесь жывы свет на пары дзеліцца, і адна яна, заложніца ўсіхнага шчасця, не мела пары. Не знайшла, няўдаліца? Ці яе не знаходзілі? Хто каго павінен шукаць? Вунь, у слонак, ён шукае. Ляціць самец па-над лесам, рэчкай, пасечамі, ляціць і гукае на ўвесь лес, шукае самачку. А яе ці шукаў хто гэтак?..

Уранні, бывала, ідзе яна берагам Трасцінкі, да ўсяго прыглядаецца-прыслухоўваецца і недзе на беленькім пясчаным беразе бачыць слончыны сляды: іх многа, як насыпана, увесь пясочак-жвірочак стаптаны, размаляваны, пярынкі-пушынкі ляжаць на пясочку, па вадзе з ветрыкам плывуць-пагойдваюцца. Стаіць Насця над тымі слядамі чужога шчасця дый думае: «Вось і ў птушак была салодкая ночка...»

Нейкая шалахвостка сарока — і тая пару мае. Нейкі груган-цыган — і той усё жыццё верны груганісе. За ўсімі імі Насця любіла паназіраць увесну. Хоць душу развярэдзіць, але глядзець любіла, як іншым жывым душам, птушыным ды звярыным, у жыцці шанцуе.

Устане, бывала, завідна, усцягне на ногі боты, цяплейшае што на плечы накіне, кажух ці фуфайку, абвяжацца хусткаю, выйдзе з хаты, паглядзіць на неба, блізкае да світання, ды і шыбуе на Такавішча, на тую яго мяжу з лугам, дзе Падгорка цякла, ці яшчэ далей, пад Вышку. Там, ад краю, лес розны: елкі, хвоі, бярозы, асіны. Па драмняках прабярэцца ў цемені да свае запаветнае засідкі, на стары пень сядзе і — ані шолаху: чакае світання найпершага, таго імгнення, калі на ўзлеску, па-над лесам і полем з'явіцца жаваранак, пабудзіць раніцу. І вось тады, як заспявае жаваранак, адразу, нібы з-пад зямлі, пачынаецца спачатку санлівае, потым ужо і раз'ятранае мармытанне і чуфыканне касачоў. Яно доўгае, і доўга сядзіць Насця ў засідцы, не дыхаючы амаль што. Ужо развіднее, вось-вось сонца ўзыдзе над лесам, Насці будзе відаць, як на лясной паляне зусім блізка — хоць выскачы з засідкі, лаві чорныя, аж сінаватыя, з чырвонымі паскамі, расфуфыраныя хвасты — чуфыкаюць і б'юцца за цяцерак касачы, б'юцца з іх самыя прыгожыя, моцныя. Ужо спіна, ногі,

рукі занямеюць ад нерухомасці, ужо Насця пачне калаціцца ад нервовага напружання, ад гарачага дыхання, зачасціць сэрца, гатовае з грудзей выскачыць, і настане момант, калі далей немагчыма ўседзець, немагчыма без слёз глядзець на шлюбную радасць прыгожых, шчаслівых птушак — разравецца ўголас, спалох навядзе на ўсю паляну, касачоў і цяцерак на крыло падыме. Адна застанецца. Ужо сонца ўзнімецца над лесам, а яна ўсё будзе сядзець на пні, абліваючыся слязьмі.

А яшчэ ўвесну па начах Насцю трывожыла ваўчыца. Часцей — з таго боку, дзе была Дзебра,— з-за Трасцінкі. У прыглушаным, прагным, нібы перадсмяротным выцці Насця чула нейкі свой голас, сваю тугу, жальбу. Уначы выйдзе на ганак — стаіць і слухае. Ні ўзімку такога не чула, ні тым больш — улетку, адно ўвесну, як паводка падкоціцца пад плот, палову агарода залье, як зацвітуць пралескі. Выццё чуваць дзён пяць — сем — не болей. Ваўчыца і пазней, ужо ў маі, магла раптам завыць, але тое выццё іншае — працяглае, смялейшае, не такое тужлівае. Дык вось чула Насця ў выцці, што на пачатку вясны, нейкі свой, глухі, не вельмі зразумелы боль. Чаму — не ведала. Асмелілася спытаць пра ваўчыцу ў дзеда Гароха, і той сказаў, што ваўчыца вые перад родамі. Можа, дарэмна пыталася ў старога, бо пасля яшчэ мацней пачала баяцца вясновага голасу ваўчыцы: яе пачуе — хоць з Лісані бяжы. А ўсё роўна, хоць і баялася, па начах на ганак выходзіла, прыслухоўвалася: ці вые? Стаіць на ганку і быццам просіць-моліць-пытаецца: «Ну, матка ваўчыная, ці завыеш ты сёння?» І баялася, і чакала.

Наогул, першая вясновая цяплынь — дзесьці красавік, пачатак мая — несла Насці пакуты. Яны ішлі да яе ад таго руху ў прыродзе, які яна чула і бачыла вакол сябе. Ад руху новай крыві і душы — у звярах, птушках, травах, дрэвах, людзях.

З гадамі Насця заўважыла, што прырода круглы год, ад вясны да вясны, жыве без спешкі, спакойна, немітуслíва, на сонцы буяе тое, што павінна буяць, паміраe тое, што павінна памерці, і ўсё, што лёсам наканавана зрабіць, прырода робіць дакладна, сумленна, зноў жа — нетаропка. Але была пара, нейкія месяц ці два, калі яна паводкаю вырывалася з прывычных берагоў спакою, калі яе апаноўвала прага хутка-

плыннага жыцця, калі, быццам апамятаўшыся пасля зімовай спячкі, усё роўна як спалохаўшыся, што нешта незвычайнае не паспее зрабіць, яна раптам налівалася жыватворнымі сіламі, абуджала зямлю і неба ўсімі сваімі галасамі, рухамі, фарбамі, песнямі. У траў, дрэў, кветак самы грай пачынаўся пазней, пасля таго як сплываў снег і ўсталёўваліся цёплыя, па-сапраўднаму вясновыя дні, а ў звяроў і птушак — раней, калі па драмняках яшчэ ляжаў снег, праймаў сівер і сонца не мела той смеласці, каб сагрэць жывое. У гэтае паспешлівае, амаль шалёнае жыццё прырода кідалася, адчуўшы, што настаў час даць свету новае пакаленне звяроў, птушак, матылёў, дрэў, траў, адчуўшы прагу мацярынства, свой найвышэйшы абавязак перад усім светам.

Цяпер быў канец мая. Канчалася пара непадзельнай улады мацярынства ў прыродзе. Гэтая пара заўсёды пралятала хутка, як міг.

Колькі дзён назад Насця стаяла на ганку, дзівілася, як густа ўзяліся цвісці па Лісані яблыні, а ўчора ўранні, калі ад яе пайшоў Міцька, яна выйшла на вуліцу, на бераг Трасцінкі, спынілася над вадою і бачыла, вачам не верачы, як ужо яблыневая квецень плыла па рэчцы, густа плыла, змытая з дрэў начным, хоць і ціхім, дажджом...

Блізка пракрычала сава. Квола, нібы немаўля. Ніхто ёй не адгукнуўся — замоўкла.

Адной на возе Насці вольна, адной на ўсім сене. Міцька ляжаў побач, ды саскочыў ногі размяць. За возам чуваць яго крок, асабліва — калі спатыкаецца, нібы конь, аб дарожны корань. Насця трымае ў руцэ гаркавую сяніну, жуе, а ў галаве — рой думак.

Ці зможа яна доўга і моцна кахаць Міцьку, даць яму шчасце? Гэта ж столькі чаго на сэрцы ачахла, перагарэла-перасмылела! Калі Міцька заснуў, пад раніцу, яна, не хітруючы перад сабою, прызналася сама сабе, што ўчапілася ў хлопца як у сваю, можа, апошнюю надзею стаць маці. Можа, гэта і каханне, але хіба ахвота стаць маці ніжэйшая, як ахвота кахаць? Большая, усім патрэбная: зямлі, пушчы, людзям. Вось тут і будзе яе, Насціна, апраўданне перад усімі — перад Міцькам, Макарам, Валошкам, усёй Лісанню, перад усімі багамі, калі яны ёсць. Падумала, што ў гэтым жаданні яна будзе чыстая перад усімі, што нават маладыя дзяўчаты, шукаючы вясною сваё кахан-

не, тым самым шукаюць сваё мацярынства, самі гэтага не ўсведамляючы, і ў гэтым яны таксама перад усім светам чыстыя. Гэтага, мабыць, Міцька не ведае. Нават не кожная жанчына ведае. Бо не ў кожнай гэтакі лёс, як у яе, Насці. Яна — ведае.

Ад гэткіх думак на душы пасвятлела, захацелася камусьці сказаць слова, ад кагосьці слова пачуць, і яна гукнула ў цемень:

— Міця!..

І калі ён зноў ускочыў да яе на воз, сеў побач, цёплай рукою грэў пад каўняром кофты яе шыю, ёй зрабілася сорамна прызнацца ў тым, што думала пра сябе, як праваўчыцу. Адно сказала:

— Нешта мне, Міця, у бок таўчэ. Жывое нешта.

Яго цяжкая рука замерла ў яе пад шыяй.

— Ну, дзівачка!.. Хіба гэта пачуеш адразу? — сказаў сур'ёзна, з маладой наіўнай упэўненасцю, быццам сам усё даўно зведаў. Насця ціха засмяялася, і Міцька, пэўна, зразумеў, што сказаў не так, як трэба, паспешліва загаварыў пра іншае: — А ночка цёплая...

— Уся вясна сёлета цёплая,— пагадзілася яна.— Але гэтакай цёплай ночы яшчэ сапраўды не было.

— І я кажу.

— Калакалуша пахне... Чуеш?

— У Лісані адцвіла, а тут яшчэ цвіце.

— Ажно Малы бегчы не хоча. Галаву набок верне.

— І хай не бяжыць. Каб даўжэй...

З боку ад дарогі ў кустах зацёхкаў салавей, і адразу — замоўкла пад возам кола, рыпець кінула, мякчэй пайшоў Малы, перастаў грукаць капытамі.

Яны ехалі на чыгунку, да поезда.

Як выйшла, што ўдваіх аказаліся на гэтай начной дарозе, на возе, што побач з Міцькавым чамаданам пад бокам ляжаў Насцін клунак,— яна яшчэ не магла ўсвядоміць. Старалася пра гэта не думаць, бо, як пачынала думаць,— апаноўвала боязь.

Надоечы Міцька цэлы дзень цягаўся па лесе, па Сажы і толькі надвечар прыбіўся дадому з двума ладнымі, па паўметра, шчупакамі. У сенцах паклаў шчупакоў на ўслон, сеў побач, у хату не ішоў. Бацька на двары часаў дубовы шулак — збіраўся ставіць новую браму,— і Міцька выцягнуў з-пад услона сваю сякеру,

пайшоў пасобіць. Сякера скакала па дрэве абы-як, рук не слухалася, але шулак Міцька абчасаў. Бацька прынёс долата, пачаў выбіваць шпар, а ён заглянуў у хлеў. Свінні ўзнялі візгат, галодныя, і Міцька, не ведаючы, навошта да іх заходзіў, зноў зачыніў варотцы. Пад страхою пуні віселі біла — кавалак рэйкі — і жалезны прэнт, якім ляснік ці хто іншы біў у рэйку, калі гарэў лес — гэтак збіралі людзей на пажар,— і Міцька ўзяў прэнт, выцяў па рэйцы: выбухнула на ўсю вёску. «Што, рукі свярбяць? Месца сабе не знаходзіш»,— апусціўшы сякеру і долата на шулак, бацька строга паглядзеў на сына. А Міцька прысвіснуў, пераскочыў цераз жардзяную агароджу, падаўся ў агарод. Там ужо ўзыходзіла скараспелка, гуркі на градах выпусцілі другія лісцікі, адцвілі яблыні, пакінуўшы добрую завязь. Падышоў пад вулякі. Іх было небагата, усяго пяць, але раі падабраліся дружныя, моцныя, мёд рана пачалі насіць. Пчолы сядзелі па сваіх хатках, і ён спакойна стаяў, глядзеў за агарод на дуб, дзе пад густым галлём вісела старая борць. Раёк у борці быў малады, лазіць на дуб бацьку было не па сілах, і летась ён хацеў перасадзіць пчол у шосты вулей, борць скінуць з дуба, ды Сашка не даў — падабалася яму гэтая старызна. А бацька таму яшчэ хацеў яе скінуць, што збуцвела, прадзіравілася з галавы і з бакоў, ды яшчэ жаўна выбіла дзірку, хапала праз яе пчол. Міцька сам бачыў: сядзіць ля дзіркі і чакае, як пчала пакажацца,— яна тую пчолку хоп доўгім языком, другую чакае. Тады ён залез на дуб, наклаў на борць латкі з бярозавай кары, абкруціў дротам, даў новую шапку.

Цяпер яму было цікава паглядзець — ці варушацца пчолы, ды за спіною скрыгатнула жалеза — азірнуўся: за хатаю на прызбе сядзеў Саша. Міцька падышоў да яго. Брат вялізнымі нажніцамі кроіў з бляхі лісты, памерам з паштоўку, і на тых бляшаных паштоўках маляваў то вёдры, то сякеры і пілы, то рыдлёўкі, то багры. Пад рукамі на прызбе стаялі масляныя фарбы, слоік з пакостам, слоік з пэндзлямі ў шкіпінары. Гэта бацька прыдумаў на хатах у Ялоўцы павесіць бляшкі, каб кожны гаспадар ведаў, за што хапацца, за вядро ці сякеру, рыдлёўкі ці багор, калі ўспыхне пажар, і вось Сашка яму пасабляў — маляваў. Міцька моўчкі паглядзеў, як брат размалёўвае бляшку, жартаўліва спытаў: «А што б ты, братуха, павесіў на Насціну хату ў Лісані?» Сашка спакойна падняў на яго светлы, яс-

ны, як маёвая кветка, твар, мякка ўсміхнуўся сінімі, як і ў Міцькі, вачыма: «Насці? Ёй — лейцы».— «А чаму лейцы? Імі лес не патушыш?» — «Затое лейцамі цябе добра гнаць [redacted] яе хаты». Зарагатаў Міцька. «Не выганіш ты мяне з Насцінай хаты, братухна. Дарэмная работа». Сашка глядзеў яму ў вочы і маўчаў. Тады Міцька загаварыў пра вальеру, аленяў, спытаў пра Міну, якога даўно не бачыў, а потым, адчуўшы пяшчоту да брата, правёў далонню па яго светлай галаве ды падаўся ў хату.

Маці ля печы таўкла свінням бульбу ў чыгуне. Пачуўшы, як рыпнулі дзверы, яна зірнула ў парог, убачыла старэйшага сына і не сказала яму ні слова — зноў схілілася над чыгуном. Міцька пастаяў ля парога, паглядзеў на шафу, згледзеў на ёй чамадан, з якім некалі ішоў на службу ў армію і вяртаўся з арміі, зняў яго з шафы, узяў на кухні анучу, змахнуў з чамадана пыл, вытрас з яго ўсё барахло — Алёнчыны тоўстыя сшыткі, канспекты, кніжкі, фотаздымкі, старыя басаножкі,— паставіў чамадан ля парога. Маці кінула таўчы бульбу, аскрабла нажом таўкач, выпрастала спіну і насцярожана спытала, навошта яму чамадан. Адказаў прама: «Трэба ехаць». Тая — у слёзы, кінулася ўгаворваць, каб нікуды не ехаў, але тут у хату зайшоў бацька. Убачыўшы ля парога чамадан, пачуўшы іх, ён усё зразумеў — павысіў голас: «Хопіць, Ганна! Лепш збяры сына ў дарогу».

А што Міцьку было збіраць? Кінуў у чамадан дзве кашулі, пару бялізны, новы касцюм, чаравікі, ручнік, мыла, электрабрытву, паклаў буханку хлеба, брус тоўстага, у далонь, сала, два кольцы сухой каўбасы, прыгаршчы цыбулі, алюмініевую конаўку ды лыжку, чамадан зачыніў: «Хопіць. Не па галодным краі ехаць. Абы грошы». Грошай узяў. Тыя, што зарабіў у лясніцтве, ды Сашка сваіх даў сотню. Паклаў іх разам з пашпартам у кішэню пінжака, пінжак ускінуў на плечы. Сеў да стала. «Ну, радзіцелі... Дзе ваш пасашок на дарожку?»

Усёй сям'ёй павячэралі, пагаварылі пра лес, гаспадарку. Алёнку ўспомнілі. Кожны сказаў Міцьку на дарогу тое, што хацеў, узялі з яго слова, што ў далёкі свет не паедзе, у Сібір — ні ў якім разе, што як дзе ўладкуецца жыць ды рабіць — адразу напіша дадому.

Усталі з-за стала.

Па Ялоўцы якраз ехала калгасная машына — у

райцэнтр. У кабіне былі два свабодныя месцы. Міцька абняў маці, як абдымаў, ідучы некалі ў армію, далонню выцер ёй слёзы, сказаў, што не на смерць едзе, каб слёзы па ім ліць, тры разы чмокнуў у шчаку, бацьку абняў моўчкі, таксама тройчы пацалаваў, а Сашка ўскочыў разам з ім у кабіну.

Калі выехалі за вёску, Міцька папрасіў шафёра спыніцца, брата — каб вяртаўся дадому, а сам даехаў да лісанскай дубровы — там злез.

Пакуль не сцямнела, сядзеў за вёскаю на беразе Трасцінкі, а як сцямнела — з'явіўся да Насці. Ноч зноў выдалася месячная, поўня ззяла ў два акны; пры яе святле і ляжалі ў ложку, абняўшыся. «Вось і ты, Міця, кідаеш мяне,— праз слёзы казала Насця.— Не ведаю, як жыць далей. Але я цябе не віню. Не забуду...» Ён маўчаў. Усё думаў. Потым спытаў: «А што цябе трымае тут? Каровы ў цябе няма. Свіней няма. Сабакі няма. Буслы? Без цябе пражывуць. Ці кошка? Самапасам у лесе пракорміцца. Паедзем разам. Бо і я без цябе... Прысох, сама бачыш. А хата не ўцячэ. Дзед Гарох іншыя хаты вартуе і тваю прыгледзіць». Абхапіла Насця Міцьку, закалацілася ўся, нібы горкі асінавы ліст на ветры. «Што надумаў?..» А ў Міцькі — сваё: «Не цяпер надумаў. Я табе раней казаў. Збірайся. Вывадак не ўзяў, але грошай у мяне... хопіць».— «Куды ж мы паедзем, Міця? Куды я з Лісані?..» — «Куды я, туды і ты. Ёсць у мяне адрасы. Ёсць ногі і рукі. Не прападзём. Калі адзін паеду, што пра цябе тут вярзці будуць? Во, маўляў, і Міцька кінуў. Як табе будзе чуць гэтакае? Як будзеш глядзець у вочы Валошку? Ён жа ўсё ведае, што ў нас з табою было. Табе трэба ехаць. Чуеш?..» І яна пачула. Не толькі Міцьку. Сваю душу пачула. І Валошкаву. Зразумела, што праўду кажа Міцька. Няма ёй больш месца ў Лісані, побач з Валошкам. Толькі з Міцькам — нідзе больш. І, ужо на ўсё гатовая, абы не адарвацца ад яго, праз слёзы, праз нейкія даўнія камякі ў горле зашаптала: «Паедзем, Міця. Вязі куды хочаш...»

Пакуль Насця збіралася, Міцька выйшаў з хаты. Пераскочыў цераз плот дзеда Гароха, узышоў на яго ганак, ціхенька ўзяўся за клямку, паспрабаваў адчыніць дзверы — стары не заўсёды зачыняўся на кручок. Але дзверы былі зачынены. Ляскатаць не хацелася. Сышоў з ганка і дваром, садам, выганішчам шыбануў да канторы, а там завярнуў да канюшні, дзе стаялі ста-

рыя і новыя калёсы, вазкі, ляжалі новыя санныя палазы, восі, колы. Пашарыў рукамі па сцяне, напароўся на цвік у бервяне. Сагнуў яго, туды-сюды крутануў, вырваў са сцяны. Кончык цвіка сунуў у замок, асцярожна, намацваючы ў замку спружыну, крутнуў цвіком, нібы ключом.

Малога, як і Машку, чужому чалавеку ўзяць было нялёгка, але Міцька быў яму не чужы, яго рук конь паслухаўся — выйшаў на двор.

Калі Міцька вярнуўся да Насці, яна ўжо сабрала клунак, увязала барахло ў шарсцяную коўдру, сядзела на ім пасярод хаты ў лёгкім летнім пальцечку, у чаравіках, на галаве — вясёлая, у кветкі, хусціна. Сядзела, роздумна сашчапіўшы на каленях рукі.

«Можа б, ты, Міця, чаго з'еў на дарогу?» — «Сыты. Калі хочаш, еш. Я не буду».— «Дык і я сытая».

Яна праверыла ўсе вокны, ці зачынены на кручкі, паманіла кошку Долю, выкінула, пагладзіўшы па спіне, за дзверы, з пасудніка дастала кавалак сала, з печы — чыгун з бульбаю, усё гэта выставіла таксама за дзверы: «Во табе, кіса, хоць на першыя дні. Пакуль тыя мышы...» Узяла са стала замок, на нейкую хвілінку ўключыла святло, агледзела хату, кожны куточак, перахрысціла, чаго ніколі не рабіла, сваё жытло. Міцька падказаў чыркануць пару слоў дзеду Гароху, каб хоць сусед ведаў, куды дзявалася, каб ліхам не памінаў, хату прыгледзеў, і яна выдрала са школьнага сшытка, які ляжаў на стале, аркуш паперы, знайшла на пяколку, дзе запалкі, аловак. Яна пісала, а ён падказваў: «Не памінайце ліхам, Ягоравіч. Куды паехала і з кім, будзеце ведаць пасля, як напішу. Хату вазьміце на свае рукі. Вялікага клопату яна вам не задасць, а вока ваша ёй не лішняе. За ўсё вам дзякуй. Дасць бог — убачымся. Насця».

Гэтую паперку Міцька прыляпіў хлебным мякішам на дзверы, а ключ пакінуў у замку.

У буслянцы зашабуршалі буслы. Уначы яны ніколі не падавалі голасу, маўкліва чакалі світанку, а то раптам заклекаталі, нібыта штосьці казалі Насці на развітанне. Насці без іх клёкату было цяжка, хоць плач, камень на душы, хоць засілься, а тут — яны. Без іх немаведама як адарваць ад душы хату, печ, кошку Долю, садок, гародчык, кожную рэч у хаце і на двары, сваімі рукамі набытую, з нейкім успамінам звязаную, а таму дарагую, дык яшчэ — і яны, буслы. Іх яна шкадавала

мацней, як што іншае. Бо іх падарыў ёй дзед Гарох, добры Тамаш Ягоравіч. Столькі ён ёй дабра зрабіў! Не было б яго побач — ці дажыла б да гэтай начы? А цяпер — нават не развіталася з ім. Як ён будзе жыць? Зусім адзін застаецца ў Лісані. Яшчэ Лесік на лісанскім водшыбе — але дзе ён цяпер? Што з ім будзе, з хворым?

Пакуль Міцька прылепліваў на дзверы паперыну, Насця стаяла пад буслянкаю, не зводзіла вачэй з цёмных вокан дзеда Гароха, думала ўсё пра яго і пра Лесіка, пра буслоў і пра белых Лесікавых птушак. Мо тыя белыя Лесікавы птушкі — таксама буслы? Прыляцяць, а тут — ні Лесіка, ні яе не будзе. Няўжо ўсіх назусім пакідае?..

Прарэзлівыя, кароткія птушыныя крыкі ўначы. Ці драч падасць голас з рэчкі, з поплаву, ці крыкне па-дзіцячы жаласлівым голасам сава, ці прачнецца зязюля, якая давала доўгі канцэрт звечара, ці голубклінтух правуркоча ў сне, у нізкім бары — усім, здаецца, хто наіўна верыў у начную цішыню, як у штосьці доўгае і трывалае, яны нагадваюць: «Я — тут... І я... І я тут».

Кожны начны гук прыспешвае раніцу.

Адно зоры над дарогай, над разрывам цёмнага лесавога верхавіння, ззяюць, не на раніцу гледзячы.

Воз то дрогка падгопвае на каранях ды калдобінах, то плыве па мяккім пяску, нібы човен па вадзе, і капыты конскія то шлопаюць па дарозе мякка — у пясок, то гулка бухаюць — у дрэва ці камень.

Дарога скрозь моцна пахне чаромхаю, якая ўжо адцвітае, і бэзам, які зацвіў толькі ў апошнія дні. Водар густы, салодкі, хмельны, ажно галава ідзе кругам.

— А чаму гэтак позна дурыць калакалуша? — пытаецца Насця.— У Лісані ўжо адцвіла.

— Дурыць чаромха? — перапытвае Міцька.— А таму, што тут, паўз Трасцінку, халаднейшыя месцы. Крынічныя.

— Крыніц і ў Лісані хапае.

— Тут болей. Вада як лёд. Усё лета.

Насця прытулілася да Міцькі, галаву схіліла яму на грудзі, адным вокам глядзіць з-за Міцькавага пляча ў ноч, у неба. Бачыць чорную дугу, пад ёю — бліскучыя ад месяца вушы і грыву Малога, па вушах, на-

стаўленых, нібы рогі, бачыць, як конь раз-поразу верне галаву ўлева, нібы на іх азіраецца. Калі Міцькава рука лезе ёй пад кофту, калі ён надта горача пачынае цалаваць, яна шэпча яму ў твар, у грудзі, якія, здаецца, таксама пахнуць калакалушаю:

— Малы ўсё бачыць. Азіраецца.— Просіць накрыць ёй чым-небудзь ногі, хоць і не халодна. Ён адхінаецца ад яе, накідвае ёй на ногі свой плашч.— А можа, Міця, я здурнела, што за табою ўвязалася? — раптам пытаецца, бо гэта яе пачынае хваляваць.— Ну, прыедзем на чыгунку. А далей? Ты хіба ведаеш, дзе нас чакаюць?

— Усюды.

Міцька кладзецца на бок, абдымае Насцю, але пытанні, якімі яна ў яго сыпле, робяць хлопца задумлівым.

— Малога куды дзенем?

— Павязе нас на БАМ,— жартуе Міцька.

— Дарэмна ўзялі Малога. Выйшлі б на шлях, пачакалі б якую папутку, заехалі б у Гарадок на аўтобусную станцыю, аўтобусам — на чыгунку.

— А то табе кепска на возе?

— Век бы гэтак ехала.

— Я ведаў, што воз, гэтая дарога, ноч будуць табе па душы. Таму і ўкраў Малога.

— Не ўкраў. Не крадзёж гэта,— пярэчыць Насця.— Сваё ўзяў. Хіба ты не лісанец? Вось як вярнуць Малога?

— Знайду чалавека на станцыі.

— І праўда! — абрадавалася Насця разумнай Міцькавай думцы.— А ты кажаш...

— Я і кажу: на кані — не на аўтобусе.

— Абы з Ягоравічам якая трасца не сталася. Адчыніць канюшню — Малога няма. Паперу маю прачытае — што падумае?

— Нічога, перажыве. Пакуль Валошка ў кантору прыедзе, конь будзе стаяць на месцы.

— Я пра дзеда Гароха.

— І дзед Гарох...

— А Пятровіч?.. Што ён падумае?

— Што яму думаць? Падумае так, як яно ёсць.

Зноў буслы бачацца Насці. Сённяшнія, начныя. Як яны праводзілі яе ў дарогу. Як пад зорным небам адзін з іх стаяў у гняздзе, а другі сядзеў, звесіўшы дзюбу з гнязда. Глядзелі, як Насця ўцякае з Лісані.

— А можа, не будзем доўга па свеце цягацца? — пытае Насця ў Міцькі, які сядзіць, перавесіўшы ногі цераз ляжэйку, смаліць цыгарку.— Тут наша зямля, наш кут. Тут нам усё знаёмае, усё сваё, родненькае.

Міцька маўчыць, пакуль пад носам смыліць цыгарка, раз-поразу залівае яго твар чырвоным святлом, якое не трымаецца, зноў і зноў гасне. Сасмактаўшы ўсю, апошні раз раздзьмухаўшы яе вугольчык ля самых губ, таўстых і чырвоных, Міцька кідае бычок на дарогу, паварочваецца да Насці, якая зграрнулася ў яго за спіною, ласкава бярэ яе рукі ў свае, кажа:

— Там паглядзім.

Цёмна ў лесе, цёмна і на калёсах, хоць зоры падсвечваюць, як могуць. Міцька схіляецца да Насці, глядзіць ёй у твар.

— Кладзіся побач. Ды ціха ляжы.

І яны ляжаць побач, глядзяць у неба. Мірна, задумліва. Міцькава рука ў Насці пад галавою смірная, адно пальцы ледзь-ледзь казычуць шыю цёплымі чэрствымі мякішамі.

Насця не столькі думае, колькі прыслухоўваецца да сваёй душы, што ў ёй робіцца. Кідала хату, Лісань, з Міцькам садзілася на воз — страху не ведала. А цяпер, калі да чыгункі праехалі паўдарогі, а можа, болей,— апанаваў нейкі каменны жах. «Як адважылася ехаць з Лісані? Куды еду? Навошта? Чаму пакідаю пушчу? Што скажуць людзі — Валошка, дзед Гарох, Лесік, Курнопа, Міна?.. Што падумаюць?..» Душу раздзіралі дзве сілы: тая, што прывязвала да Міцькі, і тая, што да пушчы, да Лісані, да ўсіх лісанцаў прывязвала. І — ні ўзад ні ўперад. Хоць плач. Тады пачынала сябе ўгаворваць, суцяшаць: «Гэта — што ноч. Доўгая, цёмная, нямая. Ноччу заўсёды ў галаву лезуць страхі. Але ноч не вечная. Яна хутка скончыцца. Вось узыдзе сонейка, пабудзіць раніцу...»

Міцька звярнуў каня з дарогі ў лагчыну, сівую ад расы і ніцага туману, пад'ехаў да Трасцінкі, якая ўсю дарогу цякла побач з імі, хаваючыся ў дрэвах, кустах. Пад дубам спыніў каня, адвязаў ад аглоблі цераседзельнік, адпусціў супонь, лейцы прыкруціў да ляжэйкі, саскочыў з воза.

— Што?.. Прыехалі? — спытала Насця.

— Злазь. Тут развітаемся з пушчаю. Бо дарога паверне.

Абапёршыся на Міцькава плячо, яна саскочыла з

воза на мяккую мокрую траву, з асалодаю пацягнулася, пазяхнула, выйшла на бераг рэчкі і тут, яшчэ не падумаўшы, што гэта раніца, не заўважыўшы, што туман, плывучы па рацэ, ужо ловіць водбліскі далёкага, яшчэ не бачнага сонца, пачула ў небе першую песню жаваранка. Здаўна жыла-была думка, што жаваранак — гэта вясна, раніца. Можа, ад тых вёсен, як хадзіла на ток слухаць цецерукоў, як іх там у яе на вачах будзіў жаваранак? Цяпер на яго песню з кустоў азваўся салавей, ды моцна заліўся, нібы ўзлаваўся, што першым прачнуўся не ён, а жаваранак. За салаўём пра сваё існаванне нагадала зязюля, потым жаўна па ўсім лесе рассыпала дробны сухі гарох. Ранішнія песні былі доўгія, зусім не падобныя на начныя ўскрыкі-ўсхліпы, яны зліваліся адна з адною ў сваю раку раніцы. Насця заўважыла, што туман на поплаве адрываецца ад мурагу, плыве за рэчку, што вада ў берагах святлее, ужо блішчыць, што берагі Трасцінкі белыя не толькі ад туманоў, але яшчэ і ад калакалушы, якая буяе, густымі белымі гронкамі пазвешвалася да вады, ды яшчэ ад дробных кветак ветраніцы, што ўсыпалі нізкія берагі месцамі вельмі густа, нібы снегам.

Насця прысела да вады, апусціла ў яе абедзве рукі — і гэтак сядзела, быццам грэючы рукі ў свежай вадзе.

Міцька павесіў ёй на плячо ручнік.

— Будзем мыцца? — спытала Насця.

— Хоць вочы прамыць трэба.

— Праўда...

Яна разулася, закасала рукавы кофты, а Міцька, разуўшыся, скінуў з сябе і сарочку, і майку, закасаў калашыны.

Забрылі ў ваду. Нагам вада здалася халодная, у Насці ажно зубы заляскаталі. Але хутка пацяплела, быццам нагрэлася.

Калі, памыўшы твар, Насця выпрастала спіну, Міцькі побач ужо не было. Азірнулася: ён ішоў ад воза ў плаўках, выцягнуўшы да яе доўгія сухаватыя рукі, хітра ўсміхаючыся блакітнымі блазнаватымі вачыма. Яна войкнула, адскочыла ўбок, і ён міма яе бултыхнуўся ў рэчку.

Вада была вузкая, але глыбакаватая, і Міцька, фыркаючы, што конь, з ахвотаю плаваў, лазіў па карчах, зрываўся з іх, коўзкіх, зарослых травою, зноў плыў, даваў нырца за нырцом, рагатаў, потым знік

пад вадою і, вынырнуўшы, выкінуў Насці на бераг дзве ладныя стронгі. Рыбіны скакалі на траве, пераліваліся ўсімі колерамі раніцы, сонца, неба, вады. Насця кінулася да іх, пачала хапаць у траве, а яны, спрытныя, што маланкі, выслізгвалі з рук, і яна зноў лавіла, як гуляла з імі. Міцька падкраўся да яе ззаду, ухапіў мокрымі рукамі, ды яна выкруцілася, шыбанула па беразе. Ён нагнаў яе ля развесістага куста калакалушы, схапіў, прыхінуў да свайго мокрага пругкага цела, мокрымі вуснамі злавіў яе вусны і цалаваў, ажно яна была задыхнулася. А калі вырвалася з учэпістых рук, на ўсе грудзі глытнула чаромхавага водару — у галаве павяло-закружылася. Адышла да алешыны, пад якою ляжала стронга, схапілася за ствол, вочы заплюшчыла, зноў адкрыла — тады паяснела ў галаве, уваччу.

— Як ты яе злавіў, Міця?

— А так. Рукамі.

— Не. Стронгу рукамі не зловіш.

— Чаму? З кручка рукамі здымаў. Чым яшчэ? — весела зарагатаў Міцька, трымаючыся на беразе за корч і боўтаючы ў вадзе то адной нагой, то другою, абмываючы ногі ад пяску.

— А чые там кручкі?

— Донкі стаялі. Няважна, хто ставіў. Важна, хто ўзяў,— зарагатаў.

Узыходзіла сонца. Яго чырвоная дуга паказалася над зубчастай лясной грываю, і туман адразу пачаў радзець, заіскрылася росная трава, ружовым святлом умылася наваколле. Сонца імкліва падымалася над свежай зямлёю, усё саграваючы, песціла, і Насця з Міцькам, таксама сагрэўшыся, сядзелі на алешыне, падставіўшы твары да сонца, да яго цеплыні, пяшчоты.

Светла і супакойна рабілася на душы. Куды дзяваліся начныя страхі, цяжкія, нібы каменне, думкі.

На станцыю прыехалі, калі на Міцькавым пазалочаным гадзінніку стрэлкі паказвалі роўна шэсць. Насцін гадзіннік стаяў. Яна завяла яго, паставіла па Міцькавым.

З канём спыніліся за станцыйнай вадакачкаю на мурагу, пад старымі таполямі, закуранымі ад паравозаў чорнай сажаю. Месца, накшталт скверыка, было абнесена нізкім зялёным штыкетам, тут не хадзіла скаціна, але малады мурог паспелі спляжыць людзі —

трава толькі адрастала і ўжо мясцінамі ляжала ўкатаная, нібы на звярыных лёжках.

Міцька саскочыў з воза і пайшоў на вакзал, да касы.

Насця сядзела на возе. Зняўшы з ног чаравікі і звесіўшы ногі, слухала, як Малы, торгаючы воз, скуб мурог, азіралася, разглядала, што дзе вакол робіцца. Людзей на пероне было мала, ніхто нікуды не спяшаўся, не тоўкся, як бывае, калі чакаюць поезд, бо да поезда было далёка. Чалавек у чорным замусоленым камбінезоне, з чорным, як абкураным, тварам, машыніст ці качагар, падышоў да вадакачкі, наліў з крана ў чайнік вады і, уставіўшыся цёмнымі ямкамі вачэй на Насцю, жадна цадзіў з наска чайніка, а напіўся — даліваў яго да верху, зноў не зводзячы вачэй з Насці, пакуль з чайніка не палілося цераз край. Пайшоў сцежкаю ўздоўж штыкета, панёс ваду, пасвістваючы, нібы той малы паравозік, што воддаль катаўся на рэйках узад-уперад. Знік, але ў Насціных вачах усё яшчэ стаяў, як намаляваны, і яна падумала, што калі гэтакага сустрэць недзе ў лесе, ды яшчэ ноччу, дык можна аддаць богу душу. Адразу ўспомніла Міцьку — чаму ён гэтак доўга не вяртаецца?

Чуфыкаў, пасвістваў паравозік, катаўся паціху ўзад-уперад, ганяў вагончыкі без вокан, без дзвярэй, рыплівыя цялятнікі, пускаў белую пару пад сябе і ў неба. Праз колькі пар рэек за ім стаяў доўгі таварняк, удоўж якога з чорным пагашаным ліхтаром і жалезнай палкаю чыкіляў малы кульгавы чалавечак, нахіляючыся ля кожнага кола, пад кожным з іх адкідаў і зачыняў той палкаю малыя дзверцы, падобныя на паддувала ў грубцы. Цяжкія дзверцы моцна ляскалі.

З'явіўся нарэшце Міцька, ды не адзін — з незнаёмым заспаным дзядзькам.

— Што чуваць? — спытала Насця.

— Будуць паязды. Праз дзве гадзіны на Оршу, а праз чатыры на Баранавічы.

— Мы куды паедзем?

— На Оршу, вядома. Адтуль яны бягуць ва ўсе канцы свету. Білеты возьмем да Масквы. У Оршы перасядзем.

— Да Масквы?! — жахнулася Насця.— Ты што, Міця?..

Насця нечакана абрадавалася, што ўбачыць Маскву не на малюнках, не ў кіно, не па тэлевізары, а

жывую, будзе сама хадзіць па ёй, як масквічка, але гэта яе і палохала, бо не ўяўляла сябе ў Маскве. Незнаёмы дзядзька пачаў супакойваць, быццам ён толькі што адтуль прыехаў і ўсё тамашняе ведаў:

— Масквы, дзеўка, не бойся. Там ёсць кантора, якая кожнаму дасць работу. Любую, якая чалавеку падыдзе. Якая яму па руках, па галаве, па душы.

Насця глядзела то на дзядзьку, то на Міцьку, як пыталася, што гэта за чалавек. Міцька яе зразумеў:

— Гэта ж дзядзька Даніла, наш, ялоўскі. Кароў пасвіў у калгасе. Цяпер у рабочы клас падаўся.

— Да сына,— цішэйшым голасам удакладніў, як апраўдваючыся, чалавек.

— Ну, няважна. Малога ж у Лісань даставіце? — спытала Насця, хоць бачыла, што наконт Малога яны ўжо дамовіліся.

— Не сумнявайцеся.

Чамадан, клунак і сумку перанеслі з воза ў вакзал. Міцька адразу стаў у чаргу па білеты. Чарга была малая, і ён хутка ўзяў білеты да Масквы. Невядома на каго кінуўшы рэчы на вакзале, усё роўна як у сваёй вёсцы, зноў выйшлі да воза — зямляк ужо адвязваў лейцы ад таполі, каб ехаць. Спыніліся каля штыкета, а як толькі чалавек развярнуў каня, Міцька пераскочыў цераз штыкет, падбег да Малога, схапіў яго за аброць, галавою прыцяўся да сухой конскай сківіцы. Потым шлёпнуў далонню па гладкай пругкай шыі, і Малы рыссю панёс воз на дарогу.

У Насці з вачэй паплылі слёзы.

— Ну, не малая,— суцяшаў Міцька.— Пайшлі на вакзал.

На вакзале ўжо сабралася поўна людзей. Чарга ля касы выстраілася ўтрая большая, як была нядаўна. Пананеслі чамаданаў, сумак, мяхоў, клункаў, усе праходы і куты пазастаўлялі.

У канцы зальчыка Міцька заўважыў дзверы ў буфет. Узяў Насцю пад руку, павёў да тых дзвярэй.

У буфеце над пузатай піўной бочкаю ляскала помпа, струмень жаўтлявага піва біў з краніка ў шкляныя кубкі. Мажная маладая буфетчыца ў белым, даўно не свежым халаце патрабавала цішыні і парадку, іначай, гразілася, кіне наліваць піва. А мужыкоў сабралася шмат, і ўсе таўкліся бліжэй да бочкі, там жа, ля бочкі, пілі і закусвалі — мала хто садзіўся за стол.

Міцька і Насця прайшлі ў самы далёкі кут, селі за

хісткі, на танклявых жалезных ножках, стол, вакол якога стаялі такія ж хісткія, на жалезных ножках, крэслы. Міцька адразу падаўся да піўной бочкі, а да Насці як з неба зваліўся Рысеў. У руцэ ён трымаў за хахол мех — у мяху ляжала штосьці важкае. Апусціў мех на падлогу, сеў побач.

— Ты чаго тут? — спытаў Насцю.

Яна хоць і здзівілася Рысеву, вочы на яго вытрашчыла, але гаварыць з ім ахвоты не мела.

— Сакрэт,— адмахнулася, абы той больш не дапытваўся.— А вы чаго тут?

— Га, хітрая! — разявіўся Рысеў.— Твой сакрэт, а мой прывет? Не-э, тады і я — маўчок. Але ж... з Міцькам, бачу? — міргнуў рыжым вокам да буфета.

Насця строга ўставілася на яго:

— А чаму мне нельга з Міцькам?

Рысеў з'едліва хіхікнуў, падрапаў чорным пазногцем кончык носа і ўстаў, падаўся да буфета.

Мужчыны прынеслі тры куфлі свежага пеністага піва, бутэльку чырвонага віна, селядцы з цыбуляю. Выпілі, узяліся за селядцы. Рысеў схіліўся да меха, пачаў развязваць. Міцька адразу выцягнуў з кішэні другое паўлітра, спытаў:

— Дык чаго ты тут?

Рысеў выклаў з меха на стол пакунак у газеце, зноў завязаў мех, са скуранога чахла, які вісеў на дзязе, вывяў паляўнічую фінку, куртатымі пальцамі разгарнуў газету. У ёй ляжаў брус цёмнага, з мяснымі прорасцямі, сала.

— Дзікава? — спытаў Міцька.

— Не люблю дзікава,— сказала Насця. Са сваёй шклянкі яна даліла ў шклянкі мужчын, аднаму і другому, сабе на два пальцы пакінула.— Мыліш-мыліш, а не ўкусіш.

Рысеў утаропіў на яе вузенькія вочкі, як не разумеючы, што яна кажа, з кішэні дастаў меншы пакунак.

— А гэта? — разгарнуў пакунак — у ім была дамашняя сухая каўбаса.— Па губе? Ласіная!

— Добра цябе пушча корміць,— заўважыў Міцька.

— На тое яна і пушча.

Патрымалі шклянкі ў руках, пагрэлі, нібыта чакаючы, каб хто сказаў слова, нейкі тост, але ніхто ніякага слова не сказаў — моўчкі выпілі. Насця паглядзела на свой гадзіннік, як спяшаючыся, глянуў на свой і Міцька, а Рысеў нетаропка адкроіў фінкаю кавалак цвёр-

дай, нібы косць, перасохлай каўбасы, паклаў ля Насці, побач з яе куфлем, адкроіў кавалак Міцьку, астатняе загарнуў у паперу і сунуў назад у кішэню балоневай курткі.

Насця да каўбасы не дакранулася, а Міцька адкусіў, пачаў не то смактаць, не то жаваць.

Рысеў цадзіў праз зубы піва, з-за брыжа куфля недаверліва кідаючы вузкімі вочкамі то на Міцьку, то на Насцю.

— А чаго ж вы тут? — не давала яму спакою.

— Вось... едзем з Насцяю ў Маскву. Па песні.

Рысеў хмыкнуў у куфаль, ажно пена адтуль пырснула ў твар. Далонню ўцёрся, буркнуў:

— Не брашы.

— А ён не брэша,— заступілася за Міцьку Насця.— Чаму нам нельга ў Маскву? Чаму?.. Цябе Зімавец пасылаў на выстаўку як перадавога лесніка, а мы самі, на свой, не на дзяржаўны, рубель катаемся.— Яна заўсёды не пераносіла Рысева, а цяпер яе вочы, голас, усмешка яшчэ мацней выдавалі непрыязнасць.

— Па песні, значыць?

— Хоць і па песні.

— Вашы песенькі цёмныя.

Міцька адставіў куфаль:

— Ну, ты нашы песні не чапай!..

Рысеў спалохана зірнуў на Міцьку, загарнуў у газету брус сала, схіліўся над мехам, пачаў яго развязваць. Развязаў, уклаў сала. І раптам з меха выскачыў візгат: танклявы, кволы — адзін Міцька яго пачуў.

— Што ў цябе там? Ну-ка?! — спытаў.

— Ды... сабачаняты.

Міцька рашуча схіліўся да меха, разгарнуў яго і ў абедзвюх руках выняў, паклаў на стол двух шчанюкоў. Насця заўсміхалася, абрадаваная, гладзіла іх, а яны былі кволыя, ледзь поўзалі, на нагах не стаялі. Галоўкі дрыжалі і тыцкаліся абы ў што.

— Дзе ўзяў вывадак? — спытаў Міцька.

Рысеў хмыкнуў праз хітрую ўсмешку:

— Там ужо няма.

Ён хацеў схаваць ваўчанят назад у мех, ды Насця раней за яго схапіла абодвух, прыцяла да грудзей.

— А куды вязеш? — дапытваўся Міцька.

— У Мугулёў. Куды ж яшчэ?

Міцька зноў схіліўся над мехам і выцягнуў з яго

малую, як на рукавіцу, шкурку — мокрую, ліпкую, аж руцэ было мокра і ліпка. Трасянуў ёю перад носам у Рысева.

— І ваўчыцу ўзяў?

Рысеў адвёў нос ад шкуркі, спіною прываліўся да сцяны.

— Не ўдалося,— прабурчэў.

— Але ж браў?

— Ну... хацеў узяць. А што?..

Міцька здагадаўся, як браў Рысеў ваўчыцу. Аднойчы бачыў гэтую паляўнічую хітрасць, калі, кінуўшы ў мех вывадак, мужык прывязаў адно ваўчаня на вяроўку і валок яго ад лагва па зямлі, галлі, карчах, драмняку, не выбіраючы дарогі. Ваўчаня скігатала, пакуль было жывое, пакуль дыхала, а пасля... пасля Міцьку ўвесь дзень трэсла ліхаманка, нібы сам пабываў на той вяроўцы. Ён тады збег з лесу, не дачакаўся, чым тое ўсё закончыцца, але ведаў: першы і другі дзень ваўчыца плача па дзецях, шукае іх вакол лагва, кліча і кідаецца па следзе, які пахне дзіцем,— і натыкаецца на засідку.

Не, літасці да воўка ў Міцькавай душы не было. Але душа захлыналася ад агіды да чалавека, які, беручы звера, сам рабіўся горшы за звера.

Цяпер, трымаючы малую шкурку, не ведаючы, што з ёю рабіць, ён раптам заўважыў чорную, на самым цемечку, плямку. Пазнаў яе — тую плямку, якой любаваўся на жывым ваўчаняці ў Дзебры.

З-за стала ўсхапіўся:

— Ты!.. Дзе ўзяў вывадак?..

Рысеў спалохаўся, аж слова не мог вымавіць.

— У Дзебры?.. Па маіх слядах ішоў, сука?!.

І Міцька заляпіў шкуркаю ў твар Рысеву.

— За што?! — зароў той.

Насця схапіла Міцьку за рукі, павісла на ім:

— Пайшлі адсюль...

За суседнім сталом зазвінеў, б'ючыся, посуд, жаночы голас лямантаваў: «Міліцыя! Дзе міліцыя?!», а Рысеў, схапіўшы мех, валячы крэслы, між сталоў шыбануў да дзвярэй.

Два ваўчкі поўзалі па стале, вішчэлі. Насця сунула іх пад паліто на грудзях, трымала адной рукою, а другой трымала Міцьку, раз'ятранага. Ён упарціўся, ісці з буфета не хацеў, яе не слухаўся, нібы ашалеў ад злосці, і яна, да слёз расхваляваная, саромею-

чыся паказваць людзям свае слёзы, адна выбегла з вакзала.

Зайшла за вадакачку на мурог, дзе нядаўна стаяў воз. Цяпер там не было ні душы. Пад цаглянай сцяной вадакачкі села на нейкую тоўстую калоду і, трымаючы ваўчанят ля жывата пад паліто, уся калоцячыся, як ад лютага холаду, тулячы іх, цёплых і мяккенькіх, да грудзей, ціха хліпала носам, на ўсё забыўшыся. Слёзы каціліся па твары, па шыі, а яна не звяртала на слёзы ўвагі, усё гладзіла малых, іх галоўкі, вушкі, мокрыя і халодныя носікі, роцікі, якія даверліва тыцкаліся ёй у рукі, лавілі і смакталі пальцы — ваўчаняты былі галодныя.

Сцюдзёныя дрыжыкі даймалі Насцю. Зноў, як жывога, яна бачыла Рысева і была гатовая кінуцца, парваць на мэтлахі нават здань, мрою, цень чалавека, які знішчыў у пушчы жывую сям'ю, нібы то была не ваўчыная, а яе ўласная сям'я. У гэтую хвіліну яна ўсёй сваёй жаночай істотаю адчувала халодную пустату абрабаванага гнязда, адчувала, што і на яе, як на тую ваўчыцу, глядзяць драпежныя вочы Рысева.

— Насця, ты што?..

Побач стаяў Міцька. У яго ў руках былі чамадан, сумка і клунак.

— Паедзем, Міця. Хутчэй...

Яна яшчэ не ведала, куды паедзе, што знойдзе ў нязнаным далёкім свеце, дабро ці зло, загоіць там свае раны ці яшчэ больш развярэдзіць іх, не ведала, куды дзене ваўчанят, якіх туліла да грудзей, бароначы перад усім бяздушным светам, але адчувала — душа падказвала,— што трэба хутчэй ехаць, у любы зямны куточак. Абы — разам з Міцькам.

## 4

Тое, што зрабіла Насця, скаланула Лісань нечакана і мацней, як калі б у разгар зімы над вёскаю ляснуў пярун ці калі б у летнюю спёку ўзнялася снегавая завея. Каб хоць хто адчуваў, што гэтакае можа стацца, дык жа не адчуваў ніхто, нават дзед Гарох, пад бокам у якога Насця сустракалася і жыла з Міцькам, пад чыімі вокнамі яны, шалёныя, выправіліся ў сваю дарогу.

І хоць бы дзед Гарох моцна спаў у тую ноч, дык жа сну людскага не было, адно варочанне з боку на

бок за комінам, на халодным чарэне, думанне пра даўно пражытае, пра дзень заўтрашні — куды пойдзе-паедзе, да чаго прыкладзе рукі. Пад раніцу, як заўсёды, споўз з печы, у споднiках і галёшах схадзіў за хлеў, выпусціў з будкі Мая, сеў на калоду і лашчыў яго ля ног, частаваў хлебнымі скарынкамі, якія заляжаліся ў кішэні,— ад зімы трымаў Мая ў хляве ці ў будцы, не прывучаў да барскага жыцця ў хаце,— потым пастаяў ля веснікаў, паслухаў, як у гняздзе над Насцінай хатаю шабуршаць буслы, падыхаў свежым водарам раніцы, а калі ўбачыў, што за Сажом на ўсходзе палавее неба, вярнуўся ў хату і пачаў апранацца, збірацца да коней.

Есці яшчэ не хацелася — дзед Гарох наогул мала еў апошнія гады,— але падумаў, чым будзе палуднаваць. Паліць печ таксама не было ахвоты, і стары вырашыў зварыць крупнік у Насцінай печы. З шафкі дастаў кулёк з пярлоўкаю, дзве жмені ўсыпаў у чыгунок, укінуў туды сушаных грыбоў, заліў вадою. Але ісці да Насці не спяшаўся. Яшчэ адарваў лісцік з календара, які вісеў над сталом, начапіў на нос акуляры і зірнуў на час узыходу і захаду сонца — дзень падоўжыўся, на маладзік — якраз мянялася квадра, пачытаў парады гаспадыні, як чысціць нажы ды лыжкі, варыць яйкі, пасля набіў піпку тытунём і закурыў. Сядзеў ля акна, дым у фортку пускаў. Успомніў, што ўначы быў вецер, нешта ляскатала за садам, дзе Рудакова хата. Нібыта вецер адарваў шалёвіну ад луткі — забаўляўся. З-пад лаўкі выцягнуў скрынку з інструментам, з яе ўзяў жменю цвікоў, паклаў у кішэнь, сякеру за дзягу заткнуў, прыхапіў чыгунок — і падаўся з хаты.

У Насціных вокнах было шэра, не відаць было агню ў печы. Што за трасца? Не начавала? Ці справілася выпаліць печ ды збегла куды?

Узышоў на ганак — замок вісіць, ключ тырчыць у замку, нейкая афішка на дзвярах. Прачытаў афішку — чыгун з рук выпусціў.

— Святы Георгі!..

Стаяў на парозе, баяўся зайсці ў хату. Ужо з парога не адчуў ранейшай утульнасці, але адчуў, як за адну ноч пашэрхлі фіраначкі, настольнічкі, падлога, печка.

Кошка Доля, аднекуль узяўшыся, церлася аб ногі і каўкала, як бяздомная.

Дзед Гарох адкінуў кошку нагою, прайшоў у хату. Усё тут было перавернута. Куфар адчынены, адзежа з яго вывернута. Падняў з падлогі блакітную шаўковую сукенку, пазнаў — вабна яна ляжала на Насці. Другую падняў, таксама пазнаў: чорная, шарсцяная, з глыбокім выразам на грудзях, без каўняра — яе не любіў за той выраз. Пэўна, і Насця не любіла, бо ўсяго разы два бачыў Насцю ў гэтай сукенцы. Кінуў абедзве ў куфар, астатняе дабро згроб, таксама ў куфар укінуў — ляснуў цяжкім, жалезнымі паскамі акаваным, векам.

У парозе стаялі боты, гумовыя і ялавыя, валёнкі, на вешалцы вісеў кажух, вісела цёплая рабая хустка з доўгімі махрамі, якую Насця насіла зімою,— падумаў: «У чым, шэльма, паехала? Няўжо там, куды паехала, вечнае лета?»

Было па ўсім відаць, што збіралася ў поцемку, святло не запальвала, спяшалася, быццам хто над душою стаяў, падганяў. «Святы Георгі! Што ж гэта надумала? — аглядаючыся, дзівіўся стары.— Столькі багацця панажыла, адзежыны рознай! Чаго ёй не хапала? Усё кінула-рынула, на Міцьку, шэльму, праманяла. З ім гэтакае нажыве? Трасцы! З ім ты, Настуля, усё страціш, што маеш. Галаву ўжо страціла. Лісань, кут родны, страціла. Усё з ім, шэльмам рагатым... Не давядзі божа. Ой-ёй-ёй!..»

Хату дзед Гарох зачыніў на замок, афішку з дзвярэй садраў, ключ паклаў на лаціну пад стрэшкаю. Агледзеў двор, агарод, сад, заглянуў у хлевушок, дзе, акрамя дроў, не было нічога. Рыдлёўкі, сякеры, пілы, граблі, косы, вяроўкі, бочкі, вёдры, годныя і не годныя,— усё агледзеў і палічыў, запамятаў, узяў пад ахову.

Выйшаў на вуліцу, зашчапіў веснікі на кручок. Гэтакага запору, ды яшчэ калі хата засталася без гаспадыні, падалося мала, і ён вярнуўся на двор, адшукаў пад страхою хлява, у шчыліне бервяна, два ржавыя кастылі, выцягнуў з-за дзягі сякеру, ёю загнаў кастылі ў шульцы веснікаў, абчасаў жэрдку, зноў выйшаў за веснікі і заклаў яе за кастылі — завала трымала мацней, як той кручок.

Дзед Гарох успомніў пра коней, Малога і Машку,— падышоў да канюшні. Але тут спыніўся. Нейкая сіла назад цягнула, на вёску, быццам туды, на вёску, да хат, павінен быў несці сваю бяду, бо бяда

была не толькі ягоная — усёй Лісані. Стаяў, разгублены. Кашлянуў. У адказ яму зазвінела пустое вядро ў канюшні, тое, што вісела на сцяне ля Малога. «Што, шэльма? — загаварыў нібыта з канём.— Піць хочаш? Нап'ешся...» І, як узлаваўшы раптам за нешта на Малога, пашыбаваў назад, на вёску.

Першая хата за Насцінай была самая старая, Ліпаччына. Яе Клімаш аднойчы назваў квактухаю: асела ў зямлю, ніжнія вянкі распаўзліся па дзёрне, верхнія пачалі завальвацца ўсярэдзіну, быццам не сцены, а тыя ж стрэхі пакатыя, да вільчыка збежыстыя, счарнелыя, а дзе ў пазах зазелянелыя, ды і вокны ўжо амаль з зямлі глядзелі на свет белы. Шыбы ў апошнія гады самі сыпаліся нават у ціхае надвор'е, бо рамы перакошваліся, трушчылі шкло. Праўда, дзед Гарох зноў і зноў шкліў. Ён і цяпер абышоў хату, агледзеў вокны, папстрыкаў пальцам у шыбкі, доўга глядзеў на страху, на комін, які забурыўся,— цагліны ляжалі на страсе, а каторыя спаўзлі на зямлю, патрушчыліся. Заглянуў у хлевушок, не навейшы за хату,— там было поўна ламачча, бо некалі сама гаспадыня, ад'язджаючы, паскідала туды сваё дабро [redacted] двара, а што і [redacted] сенцаў, з хаты павыносіла. Мышы шаматнулі ў хляве, прыціхлі. Нічым жывым не пахла. Гадоў дзесяць, як гаспадыня з'ехала — што тут будзе жывое? Старэйшая дачка па матку прыязджала, забрала ў Варкуту. Дзень да вечара, улетку, пасядзелі ўдваіх пад акном, навязалі клункі ды падаліся на шлях. Яшчэ дзед Гарох праводзіў іх з Лісані, клункі падношваў. Ліпачка тады вельмі прасіла прыглядаць за яе хібараю, усё роўна як праз месяц-другі збіралася вярнуцца. Але ўжо дзесяць гадоў мінула — вачэй не паказвала. І не пакажа, мабыць. Навошта ёй ці яе дочкам гэтая порхаўка сярод лесу?

Стары выйшаў на бераг Трасцінкі, па кладцы перайшоў на другі бераг, апынуўся ля хаты Ахрэма Корчака, колішняга панскага пчаляра і грабара. У пана Ахрэм толькі пчалярыў, а грабарыў з вольнай брыгадаю, у якую браў мужыкоў і лісанскіх, і ялоўскіх, і пагарэліцкіх. Здаровы быў, здаравейшы за іншага быка, зямлю і карчы варочаў за пяцёх, ды і ведаў зямную працу. Ці балота асушыць, ці аблогу падыме — і травы, і хлеб родзяць дай бог. Таксама да дзяцей з'ехаў. Раней людзям зямлю чысціў, бярэз-

нік ды хмызняк карчаваў, а цяпер яго агарод і двор пазарасталі бярэзнікам, хмызамі, сіўцом, асотам, крапівою, нават трава добрая не бралася.

Хату і ўвесь пляц Ахрэмаў стары глядзеў меней, як іншыя, бо як Ахрэм ад'язджаў, дык вокны сваёй хаты пазабіваў дошкамі, а дзед Гарох гэтага не любіў. Вокны яму здаваліся вачыма жывымі, нават не разумеў, як можна забіваць вокны, быццам хаце ўжо і на свет глядзець забаронена. Чаму забаронена? Ды і выгляд вёскі гэтакія вокны псавалі. Вёска з забітымі вокнамі здавалася напалову мёртваю, а бачыць гэтакаю Лісань, думаць, што яна паміpae, дзеду Гароху балюча. Таму стараўся не глядзець на Ахрэмаву хату, абыходзіў яе. Сёння як злітасціўся, падышоў. Хату сапраўды ўжо забірала зямля, лес. Нават на страсе раслі дрэўцы. Дзед Гарох ссек на двары алешыну, абчасаў ад галля і ёю пачаў збіваць са страхі бярозкі, якія ўжо зазелянелі. Страха была нізкая, і ён збіў адно дрэўца — вывалілася са страхі разам са збуцвелай гонтай. Падняў, паглядзеў: «Шэльма!.. І за што ўчапілася? За дзве гнілыя гонціны, за лыжку зямлі, за ржавы цвік...»

За Ахрэмавым пляцам — яшчэ два пляцы аблогу. Там і хат ніякіх. Два гады назад у навальнічную ноч адна старая халупа забурылася, і Валошка загадаў спаліць той лоўж гнілля, а як яго запалілі, дык суседняя хата, яшчэ ніштаватая, захацела ля агню пагрэцца і сама згарэла. Да той, навейшай, гаспадар наведваўся — Зыль з Гарадка. Усё збіраўся перавезці халупу ў Гарадок, дзе жыў з братам, хоць на лазню перасыпаць. Спазніўся. Але не ўбіваўся. Пастаяў над асмалкамі, плюнуў, рукою махнуў: баба з воза — каню лягчэй. Валошка абяцаў даць макушы на лазню, бо разумеў, што хата згарэла не па віне гаспадара, хутчэй па яго, Валошкавай, віне. Але Зылю, мусіць, тая лазня была патрэбна, як здаровым нагам кавяла,— па лес не ехаў. Ці ў Гарадку няма лазні?

Стары спыніўся, дастаў з кішэні і сунуў пад два вялізныя зубы муштук піпкі. Па кішэнях — лаплап: ні запалак, ні капшука з тытунём.

— Шэльма! Ядры тваю!..

За ракою ўзыходзіла сонца, і лёгкі маёвы туман раставаў увачавідкі, травы пад ім дыміліся, пабліскавалі ружовай расою.

За хатамі стаяў стары кашлаты дуб. Ён ужо скі-

нуў з сябе белую кудзелю туману, пачысцеў, і на ім акрэслілася счарнелая ад старасці борць. Пчолы ў ёй вадзіліся, мёд насілі, ды стары нікога па мёд не пускаў — хай будзе хоць адна борць на ўсю Лісань, хоць адзін знак таго, што некалі мядовая вёска стаяла, хапала і борцяў, і вуллякоў.

Пастаяўшы, лепей агледзеўшыся, дзед Гарох заўважыў непадалёк малое акенца, ані дошчынаю не забітае, з фіраначкамі, усё роўна як там хто жыў,— тулы і падаўся, Маланку прыгадваючы.

Яна прыбілася да Лісані з дзіцём у сорак першым, ідучы з-пад Мінска, згаладалая, з разбітым у бамбёжцы каленам, знясіленая. Пажыла ў аднаго лісаньца, пасля ў другога, у трэцяга, пакуль не заняла халупу адзінокага кульгавага Рудака, які за два дні да вайны пагнаў па Сажы плот і не вярнуўся. Хатка была небагатая, але якое ў той час трэба было чалавеку багацце? Былі сцены, страха, печ, вокны ды дзверы, агарод ды сад. Лепш не трэба, каб вайну пераседзець. А жанчына ціхмяная, кожнаму ўслужлівая, руплівая ля свайго і чужога, чужую бяду перажывала як сваю, бо сваёй наглыталася,— такая ў вёсцы не лішняя.

Калі скончылася вайна, дзед Гарох вярнуўся з Еўропы — пасля партызанкі ён з войскам прайшоў яшчэ ўсю Еўропу,— а ў хаце — ні жонкі, ні сынка, вайна абаіх праглынула. Маланка яго бяду бачыла, а ён Маланку ўбачыў. Прыйдзе яна, бывала, словам ласкавым душу сабе і яму сагрэе, а то ён да яе заглянне — яна адразу пузаты Рудакоў самавар на стол паставіць: сядзяць, за чаем гамоняць. Каб не надта свежая бяда ў Ягоравіча ці каб гэтак побач пажылі яшчэ колькі гадкоў, дык, можа, і сышліся б пад адной страхою. Не выпала. Пасля вайны гады праз тры, увесну, ішла Маланка з дачкою па Сажы ў Гарадок, а лёд быў ужо азызлы, кволы — праламаўся, і яна шуснула пад лёд. А дачка засталася. Яе пасля забралі ў дзіцячы дом.

Перажываў тады Ягоравіч. Доўга не мог звыкнуцца [redacted] думкаю, што няма побач Маланкі. Як ідзе, бывала, міма Рудаковай хаты, дык і спыніцца, глядзіць у вокны, як каго выглядае, ці сядзе пад акном на лаўку, пасядзіць, задумлівы, а то і ў хату завітае — пастаіць ля парога, жытло асвяжыць чалавечым духам, цёплым курэцкім дымком, жывым словам,

Маланку ўспамінаючы. Прывучыў да гэтае сцежкі і Насцю. Яна, бывала, падлогу калі-небудзь памые, печ напаліць, каб прусакі не вадзіліся, фіраначкі з вокан паздымае, дома памые, адпрасуе, чысценькія прынясе, павесіць; а як знасіліся Маланчыны фіранкі, дык свае прынесла, павесіла на вокны. Ягоравіч глядзеў, каб страха не цякла, шыбкі не сыпаліся, плот не паваліўся, а летась, у суш, узабраўся на хату, з шалёвін паклаў новы вільчык, бо стары, з дранкі, вецер скінуў. Яшчэ і комін абмазаў цэментам.

Падышоўшы да Маланчынай хаты, агледзеў яе з усіх бакоў. Аканіцы аблупіліся, счарнелі. Памацаў адну — яна і адвалілася. Дастаў з кішэні два новыя цвікі, прышыў шалёвіну да лутк на ранейшае месца. І яшчэ дзве прымацаваў, каб вецер не адарваў. А потым застрахнуў сякеру ў сцяну і сеў пад акном на лаўку.

Маланчына хата стаяла на вясёлым зялёным грудку. З поўдня да яе вельмі блізка падыходзіў, аж на грудок узбягаў, лес, бярэзнік з алешнікам, а на поўнач і ўсход ад хаты, дзе цяпер узыходзіла круглае жоўтае сонца, зямны простор бачыўся вельмі далёка: усё лугі па Сажы, Засожжа. Пад грудком у бярэзніку, алешніку, хвойніку бегла Трасцінка, агінала грудок і цякла ў Лісань, па Лісані, дзе параскідала хаты налева і направа ад сябе, спяшала ў Сож. Ад хаты бачыліся і Сож, і баравая сцяна пушчы, пачырванелая на ранішнім сонцы.

Дзед Гарох акінуў паглядам абшар, лугавы і лясы, і раптам у алешніку, на беразе Трасцінкі, заўважыў лошу. Яна піла з рэчкі. Вялізную гарбаносую галаву то падымала высака, паварочвала ў бок вёскі, настаўляла чуйныя вялізныя вушы, нешта слухала, то, супакоеная, апускала да вады — зноў піла. На вушах ад сонца залаціліся рэдкія валасы, з адвіслай вялікай губы збягалі залацістыя кроплі, уся яна, бурая, чарнявая галавою і на спіне, паблісквала на ранішнім сонцы. Дзед Гарох усхапіўся з лаўкі — заўважыў і ласянятка: цыбатае, кволае, яно стаяла, шырака расставіўшы танклявыя ногі, церлася аб матку, а тая, выцягнуўшы шыю, соўгала яму пад санкі мордаю, падштурхоўвала да вады. Ласянятка было малое, вады баялася, хоць яна і мелкая ў Трасцінцы, да каленяў, яшчэ і травы як не даставала, ведала адно матчыну цыцку — дабралася да цёплай матчынай

пахвіны і пачало ссаць. З хвіліну матка стаяла смірна, паддаўшыся малому, адно вялікай цяжкой галавою марудна варочала ў бакі, паглядала на вёску, на лес, стрыгла лапушыстымі вушамі, а потым адступіла ад вады і берагам Трасцінкі падалася да лесу. Ласяня колькі крокаў цягнулася за матчынай цыцкаю і выпусціла яе, спынілася, аблізнулася, пабрыло следам за маткаю. Яно было рыжанькае, шмат святлейшае і чысцейшае за матку, бліпічэла на сонцы, пунсовела, асабліва калі выйшла з алешніку на сонечную зялёную паляну. На паляне лоша спынілася, схіліла галаву, пачухала чорнае калена, пачакала малое і, як толькі яно падышло — лізнула ў бок, аж тое, танканогае, захісталася. Праз паляну павяла дзіцяў надзейны хвойнік, а на тую паляну ўжо выйшаў здаровы сахаты. З пуза ў яго звісала чорная, яшчэ не выліналая, поўсць, а рогі тырчэлі малыя, куртатыя, пушыстыя — панты. Пастаяўшы, пайшоў са сваімі, у хвойнік.

Дзед Гарох пазнаў ласёў. Старых, вядома. З маладым першы раз бачыўся, а старых ведаў — колькі разоў яны падыходзілі да Лісані з Такавішча, з Курнопавага абходу. Тыя самыя, якіх Макар хаваў зімою ад паляўнічых.

Аж на душы павесялела. Дзед Гарох успомніў пра коней. Высмаргнуўшы сякеру са сцяны, пашыбаваў да канюшні.

Але такая выдалася раніца — не ішла яна да дзеда Гароха ні з жартам, ні з лёгкай усмешкаю, ні нават са звычайнай ласкаю. Калі адчыніў вароты — перад ім стаяла адно Машка, нервова бліпічэла цёмным пукатым вокам, і не было Малога. Стары спачатку мала што зразумеў, потым агледзеўся: не было ні хамута Малога, ні яго дугі, абвітай чырвоным раменьчыкам, ні аброці, ні сядзёлкі. І тады ўваччу памутнела, у галаве закружылася.

— Дзе Малы? Дзе твой сын, Машка?

Кабыла дробна дрыжала, а яе вочы, здавалася, усё круглелі, большалі, нібыта выкатваліся з вачніц.

— Маўчыш?.. Шэль-ма, ядры тваю!..

Стары злосна замахнуўся на яе, аж яна баязліва адступіла ад яго назад, захрапла, ды ён яе не выцяў — выйшаў на двор.

Толькі цяпер заўважыў, што няма і калёс. Дзе стаялі — там было нацярушана сена. Нехта насіў яго

з капюшні, накладаў на воз. Засталіся сляды ад ботаў. А боты вялізныя, новыя, пупыры на падэшве па капейчыне, яшчэ не збітыя. «Гэта ж Міцькавы! — здагадаўся стары.— А-га, на Малым збеглі. Ну, шэльмы! Вы ад мяне далёка не збяжыце. Я вас!..» Аж закалаціўся ад злосці, якой ніколі не меў ні да Насці, ні да Міцькі.

Хвалюючыся — рукі дрыжалі,— дзед Гарох накінуў на Машку аброць, вывеў на двор, ускінуў ёй на спіну сядло і павёў з двара.

З Машкаю ішоў да свае хаты, але спыніўся ля Насцінай. Зноў ля ног з'явілася кошка, закаўкала. З ёю стары ўвайшоў у хату — як не верыў яшчэ, што Насця з'ехала з Міцькам.

— Пуста, шэльма? Ну!.. Я вас вярну.

Час не чакаў, бег, прыспешваў, і ён заспяшаўся, падаўся назад у дзверы, ды схамянуўся: «Навошта прыходзіў? Глянуць — мо Насця вярнулася?» Адшморгнуў квяцістую занавеску, што адгароджвала спальню ад хаты,— там стаяў ложак. Пасцель была прыкінута коўдраю — абы-як, наспех.

— Сарамоцце!..

Глянуў у покуць за ложкам, адхінуў белы вышываны ручнік — застыў перад Георгіем-пабеданосцам. Ужо сонца добра свяціла ў хату, якраз у кут, дзе ікона, і белы конь пад Георгіем аж ззяў, ззяла ў руцэ ў Георгія пазалочаная піка, а ля конскіх капытоў ляжаў, як жывы, зялёны змей, і Георгій пікаю працінаў яго навылёт.

— Я Георгія з панскай капліцы вынес, табе не пашкадаваў, а ты?.. Ты і яго пакінула!..

Зняў ікону з цвіка, крысом пінжака выцер ад пылу, паставіў на стол, палюбаваўся ды схаваў пад пінжак.

Дома паклаў Георгія пад падушку, адшукаў пад ложкам навейшыя ялавыя боты, пераабуўся. Са сцяны зняў стрэльбу, закінуў за спіну, на галаву насунуў шапку.

Выйшаў з хаты.

Неўзабаве дзед Гарох ужо трусіў рысcю па мяккай лесавой дарозе — ехаў у Гарадок.

— Ну, шэльмы! Ад мяне вы не схаваецеся. Не такія петлі разблытваў. Но-го, Машка-а!..

Ведаючы гады і душу конніка, кабыла бегла спор-

на, але рахмана, мякка, нораў не паказвала, а дзед Гарох стараўся трымацца ў сядле молада, як некалі ў партызанку. Сустракаліся бабы з кошыкамі, пэўна гарадоцкія, спыняліся і пялілі вочы, дзівіліся. Яшчэ б ім не дзівіцца! Спераду на шапцы ў конніка ляжала чырвоная партызанская стужка, за спіною падгопвала стрэльба, а сядзеў ён у сапраўдным кавалерыйскім сядле — ногі ў страмёнах.

Каб тыя людзі ведалі, што рабілася на душы ў дзіўнага конніка! Зрэшты, ён сам пакуль што не вельмі ясна гэта ведаў. Адно адчуваў, што душу поўніць не толькі злосць да Насці і Міцькі, але і нейкая светлая мопрага, нейкае свята. І яшчэ — ведаў, што чалавек можа доўга жыць непрыкметна, нічога асаблівага не даказваючы свету, але выпадзе яму — кожнаму выпадае — дзень ці міг, калі павінен зрабіць такое, чаго ніхто іншы за яго не зробіць. Сёння як быццам гэты дзень настаў. Ён дакажа, што ёсць у Лісані толькі адзін абаронца — дзед Гарох, што пакуль ён жывы — будзе жыць і Лісань, што ён нікому не дасць яе ў крыўду, нават Насці не дасць.

— Га, шэльма! — шаптаў ён, падгопваючы на кабыле.— І вам дакажу, і ўсім дакажу!..

## ПАД ТЫМ ДУБАМ

### 1

— Андрэ-эй! — гукала Алёнка і, прытаіўшыся, слухала спачатку трапяткое рэха, гульню бору з яе голасам у хованкі, потым баравую цішу. Андрэй маўчаў, і яна зноў гукала, мацней: — Андрэ-э-эй, дзе ты-ы?.. Адгукні-іся!..

А ён аказваўся калі не побач, дык блізка. Праўда, не адразу адгукаўся. Памаўчыць, пачакае, адчуе, што яна пачынае хвалявацца, і тады з-за нейкага блізкага дрэва спытае спакойна, як ля самага вуха:

— Што, Алёнка?

Гэтага ціхмянага голасу, у якім жарт і насмешка, яна спужаецца, нібы крыку:

— Ой, ты тут? Ну, навошта палохаць?

Ці гукала іначай:

— Андрэ-эй, хутчэй сюды-ы!..

Ён ляцеў з усіх ног па маладняку, кустах, крапіве,

балацяным куп'і, праставаў, не выбіраючы сцежкі, як на пажар.

— Што здарылася?

А яна, хітрая, стрымліваючы ўсмешку, якую ёй заўсёды цяжка хаваць, з яго ж нядаўнім спакоем казала:

— Глянь, якое дрэва!

А дрэва, асіна ці бярэзіна, звычайнае. Ён дакорліва глядзеў на Алёнку, а яе твар ззяў, смеючыся, бо душа святкавала маленькую перамогу, і тады, прызнаючы сваё паражэнне перад яе дзявочай хітрасцю, хапаў яе ў абдымкі.

— Пакараць ці памілаваць?

— Карай,— шаптала яна.

Караю быў пацалунак, доўгі, аж яны, зачапіўшыся за корань ці пень, ляцелі ў травы, кветкі, на мяккі мох. Ляжалі побач і, прыціхлыя, стомленыя, глядзелі ў высозны лясны шум, у зялёнае, блакітнае паміж воблакаў неба. Тым часам яна не то пыталася, не то прызнавалася самой пушчы:

— Прыгожа?.. Пушча-а!..

Пушча адгукалася доўгім абложным водгуллем, усё роўна як гналася паміж дрэў за яе, Алёнчыным, голасам.

Яе галава не варушылася на Андрэевым плячы. Алёнка стоена слухала палахлівае рэха, птушак, неба.

— Андрэй? Пра што ты думаеш?

Ён маўчаў.

— Табе не здаецца, што мы прыйшлі не на гулі?

Усхапіўшыся, яна атрасала з зялёнай курткі і сініх джынсаў шыгалле, пачынала збіраць раскіданыя таксатарскія інструменты, карткі выдзелаў, фотаздымкі квартала. Ледзь адшукала планшэт, закінуты ў ядлоўцавы куст.

— А на гэты выдзел забыліся?

Тады ён уставаў таксама.

— Ай-яй!.. Малады спецыяліст!

— Будучы,— удакладняла яна.

— Які найпершы закон таксатара?

— Ну які?

— А такі. Не заўважаць ні птушак, ні ягад, ні грыбоў, ні арэхаў. Нават...

— Што дзень скончыўся? Ноч...

— Глянь... першыя ландышы!

Ён быў нахіліўся па кветкі, але яна схапіла яго за руку і пацягнула далей.

Абышлі выдзел, спыніліся.

— Ну, будучы спецыяліст?.. Тып лесу?

— Сасняк лішайнікавы. Па сухадоле.

— Бор чысты?

— Прымесь бярозы. Але мала бярозак.

— Як запішаш?

— Пяць сасонак, адна бярозка.

— Узрост?.. Паўната?..

Алёнцы трэба было добра круціцца, шарыць вачыма па баках, угары, пад нагамі, каб паспяваць адказваць Андрэю ды яшчэ і запісваць у картку выдзелу. А сумнявалася — на кожным слове.

— Гадкоў трыццаць? — не то адказвала, не то пыталася.

— Лічы па мутоўках.

— Дзве, пяць, восем... Пяцьдзесят дзве? Вось дык недаросткі! Быць не можа.

— Крутанём Бетэрліхам.

Андрэй скінуў з пляча рукзак, дастаў з яго бур, цупнуўся перад сасной, ля камля, на калені, пачаў увінчваць бур па цэнтры камля, пры самай зямлі, круціў спачатку лёгка, потым цяжэй, цішэй — бур жаласна рыпеў у смолкім дрэве. І раптам ля моху Андрэй заўважыў белы корань. Кінуў круціць, раскідаў мох, зямлю. Карані былі як соллю абсыпаныя.

— Губка? — усклікнула Алёнка.

— Пішы. Рэкамендацыі леснікам.

— Дрэвы з губкаю трэба высякаць. Вунь верхавіны сохнуць. Маладыя, а ім ужо не да росту.

— А ўзнаўленне?

— Стаксуем па маладняку.

— Думай пра будучы бор. Глеба пустая. Хвойная подсцілка яе не палепшыць. Ды яшчэ калі матачны гарызонт глыбака. Будзе добры бор?

— Мяняць пароду?

— Але сасна расце на любой глебе. Яна ў нашым лесе самая цярплівая. Можа, лячыць?

— Бярозку сюды?

— Ну-ну... Смялей!

— Падсодзім бярозку па вокнах, рэдзінах, яна і вылечыць сасонку. Вечныя сяброўкі.

— Так!.. Упартымі каранямі бярозкі паточаць вякамі зляжалую глебу, а пасля сваіх каранёў не пашкадуюць. Адамруць бярозавыя карані, век іх кароткі, застануцца вужакі-хады, процьма хадоў, і па

іх у рост пойдуць карані сасонак. Узнімецца баравы маладняк.

— І вырасце змешаны бор. Субар! — Яна радасна падскочыла, чмокнула Андрэя ў шчаку.— Лірыка?

— У нас, леснікоў, няма ў чыстым выглядзе ні прозы, ні лірыкі. Ва ўсім — субар!

Яны абышлі па візірах суседні выдзел — апынуліся ў асінніку, ужо немаладым, узноўленым парасткамі ад старых пнёў-каранёў. Па асінніку раслі шэрыя вольхі, бярозы, дзе-нідзе яліны. Апісаць стракаты выдзел не лёгка. Алёнка не адразу здагадалася таксаваць па ельніку, які рос рэдка, была стаксавала па асіне, якая густа вымахала вышэй, і калі Андрэй паправіў яе (маўляў, ялінка — у залатой цане, асінка — у дрывяной), яна захвалявалася, што ў яе нічога не атрымоўваецца як след, што адна, без Андрэя, нарабіла б бяды і лесу, і леснікам — усё не так. А тут яшчэ Андрэй, грукнуўшы па асіне, на слых пачуў схаваную хваробу, прайшоў дрэва бурам — гніль усярэдзіне, трутавік. Гэта зусім засмуціла Алёнку: чаму не яна хваробу знайшла? Можа, не за сваю справу ўзялася? Можа, нездарма ў экспедыцыі адны хлопцы — ніводнай жанчыны, акрамя яе, можа, гэта работа не жаночая і яна ніколі не стане лесапарадчыцай?..

Ужо ▪ тыдзень мінуў, як яна сюды прыехала, на пераддыпломную практыку. Магла жыць дома ў Ялоўцы, рабіць у бацькавым абходзе. Але ад Ялоўкі адмовілася. Жыла ў табары пад Лісанню, на беразе прыгожага Панскага возера, разам ▪ Андрэем. Ён быў цярплівым настаўнікам, яе лясным слыхам і зрокам, з ім было лёгка, але палохала думка: ці зможа калі-небудзь рабіць у лесе адна, без Андрэя?

І яшчэ заўсёды палохаў надыход вечара. Бо нават доўгага дня ў маі, нават побач з Андрэем, ёй не хапала, каб разабрацца з адным кварталам, асабліва калі трапляўся вельмі стракаты па пародах, паўнаце, узросту. Кожны таксатар спраўляўся апісваць квартал у дзень — а яна?..

Яны ўвайшлі ў яловы лес. Яму было гадоў семдзесят, стаяў ён густы, не выбіты ні сякерамі, ні хваробамі. Гэтакім можна было доўга любавацца, а можна было хутка яго спарадчыць ды шыбаваць далей: загадак мала, усё — як на далоні.

— Я даўно заўважыла: на кісліцу выйдзеш — камары заядаюць,— шаптала сама сабе.

Падняліся на ўзгорак, у сасновы бор, малады і стромы, з добрым сасновым падростам. Азёрцамі цвіў чарнічнік. Ад яго ружоватага цвету, ад ружовых чыстых стваловў, ды яшчэ перасыпаных белымі бярозкамі, падалося, што адвячорак адступіў, вярнуўся калі не поўдзень, дык нейкі ранейшы час — пад сонцам.

— Глядзі... як іх гоніць у рост! Па метру кожны год. І густа стаяць.

— Што ім цяпер трэба ад чалавека?

— Трэба прарэджваць. Так?

— А ты пішы, пішы. І глядзі на лес, а не мне ў вочы.

— Ой, Андрэйка! — заўсміхалася Алёнка.— Твае вочы... Першы раз як цябе ўбачыла... Памятаеш?.. Пасля трэцяга курса ты з намі, студэнтамі, ездзіў у лес на трэніроўку...

— Дык што — вочы?

— Мне яны тады здаліся круглыя, нібы ў рысі. А ты, значыць, пытаешся: «Скажыце, вы не з Ялоўкі выпадкам?» — «З Ялоўкі»,— кажу, а ў самой сэрца замірае ад страху. «А Макар Курнопа, ляснік, не ваш бацька?» — «Мой»,— кажу. «Тады, можа, вы мяне памятаеце? Я ў вашай хаце аднойчы прасіў вады, а вы мяне малаком паілі...» — «Не помню»,— кажу. «А я вас...» Ой, які прыгожы мох! Як шоўк.

Правей цякла рачулка, паўз якую над самай вадою, па адным толькі беразе, стаялі вольхі — раўнюткія, нібы сосны, чорныя, ажно блішчэлі, але і мяккія, шаўкавістыя. Маладзенькія, гадоў па трыццаць, яны молада кучаравіліся ў вершалінах, і такія ж смолкія блішчастыя кучары ліплі да ствалоў, звісалі да самых камлёў. Алёнку вольхі прыварожылі. Спынілася — вачэй не магла адвесці.

А шэрань гусла, трэба было спяшацца ў табар.

Андрэй выцягнуў з гушчару дзве яловыя валежыны, ладныя жэрдкі, абсек камлі і верхавіны, перакінуў выкацы цераз рэчку, паклаў побач, адну пры адной, высек даўжэйшы дубец з арэшніку, туды-сюды прайшоў з ім па кладцы, яшчэ і гайдануўся, для надзейнасці, перадаў дубец Алёнцы.

Яліны ляжалі не свежыя, сапрэлыя ў балаціне, кара на іх азызла, адхлупла, але Алёнка без боязі прайшла па іх, нейкія тры крокі засталося — і скачы на бераг, ды раптам пад ёю ў вадзе нешта жывое плёснулася, паплыло з-пад самае кладкі, рэжучы чарнявай мор-

даю чорную ваду. Алёнка зірнула на ваду — па шырокай вусатай мордзе пазнала выдру, загледзелася, забылася, дзе стаіць, і паслізнулася, сіганула з валежыны. Ля берага было мелка, але па калені ўскочыла. Падбег Андрэй — вынес на бераг, на сухое.

— Поўныя кеды?

— Дык і што? — смяялася Алёнка.— Бачыў выдру? Тут рыбы шмат, калі выдра жыве. Эх, сетку б!

Адно цяпер, з чысцейшага берага, Алёнка пазнала і вольхі, і рэчку. Гэта была Вужака, за якую ялоўцы спрадвеку хадзілі па маліну, ажыны, брусніцы, а яшчэ далей — па журавіны. Адсюль Ялоўка — рукою падаць, мо вярсты дзве. Можна было б ісці на ноч дадому. Алёнцы дамоў вельмі хацелася, бо ўжо з тыдзень там не паказвалася, але Андрэю пра гэта не заікнулася, бо той павярнуў бы дзеля яе куды хочаш, а ў табары іх чакалі, непакоіліся.

Ад Вужакі да Сажа цягнуліся мо з гадзіну: не вельмі пабяжыш, за доўгі дзень столькі выхадзіўшы, ды рознымі глушнякамі, дзебрамі. Ужо Сож пагас, дзе-нідзе пабліскваў не так ад апошняй яснасці ў небе, як ад нейкага свайго, заўжды жывога ззяння, якое нават у самую глухую чорную ноч выдае блізкую рачную плынь. Поплаў за Сажом ужо зусім сшэрх, звузіўся, накрыўся сіняй дзяружкаю, драмаў. І гэтаксама сшэрх, драмаў сасновы бор. Узнятыя ў неба шатры пагаслі, зліліся ў адзін цёмны, як начная дарога, пасак, зямлі ды рацэ нашэптвалі таемныя начныя казкі. Алёнка здзівілася, як у гэтакі змрок яны з Андрэем, не маючы ў нагах ніякіх знаёмых сцежак, знайшлі Сож, дарогу паўз бераг, што пад баравою сцяною вяла ў Лісань, сам бор — Крутаяр. Пэўна, вяла душа. Бо тут усё ж быў бацькаў абход, бацькаў любімы бор, якім ён ганарыўся, як ганарыўся яшчэ Такавішчам, ранейшым.

На беразе пад баравой сцяною, у зацішку, паскідалі з сябе рукзакі, разуліся, панацягалі галля, расклалі вогнішча. Ад ракі Андрэй прынёс у чайніку вады, паставіў на агонь.

Хлопцы з іх партыі парадчылі лес далей, ніжэй па Сажы, і была надзея, што сюдою, берагам, будуць вяртацца ў Лісань на матацыклах — падвязуць.

Пасядзелі каля вогнішча — як прыраслі да яго: не хацелася ўставаць, некуды ісці ці ехаць.

— Дома даўно была? — спытаў Андрэй.

— Учора бацьку ў канторы бачыла.

— Што чуваць ад Міцькі?
— Што і ад Насці.

Яна паслала ля вогнішча плашч, выклала з рукзака хлеб, сала, яйкі. Згаладалася, уплятала за абедзве шчакі, не чакаючы, калі той чай закіпіць.

— Бацькі перажываюць?

— Ат!.. Міцька не прападзе. Каб Насця за ім не прапала.

Андрэй здзівіўся, што за Насцю яна хвалюецца мацней, як за брата.

Уздоўж ракі, пад берагамі, крумкалі жабы, аж стагналі. А камарэча ад вогнішча адваліла. Рэдкі камар зумкаў ля вуха.

— Можа, тут заначуем? — спытала Алёнка.— Ноч ля агню прашушукаемся, а раніцай зноў у лес? Можа, ніякіх матацыклаў не будзе? Можа, нашы даўно паехалі?..

Пілі гарачы чай. З хлебам, цукрам, маслам, якое растала ў слоіку, зрабілася як смятана. Андрэй асіліў ажно тры кубкі. Смагу сагнаў.

— А Лісань недалёка.

— Дык ты паспрабуй мяне падняць. Ішла — не падала, а села — ногі як адняліся.

— Ночы яшчэ халодныя. Закалееш.

— Ля агню?.. Прыдумаеш.

Пад берагам плёснулася рыбіна, моцна плёснулася, ажно жабы пацішэлі, ▪ песні збіліся.

Завішчалі, быццам душачыся, лясныя птушкі. Прарэзліва, танклява закрычала сава. Ад яе пранізліва плаксівага крыку Алёнка ажно захвалявалася, прыхінулася да Андрэя. Паклала галаву яму на калені і глядзела ў неба — па ім ужо мігцелі зоркі.

— Як была дома апошні раз,— загаварыла зноў,— мама сядзіць ля мяне, уздыхае. Пытаюся: «Чаго ўздыхаеш?» А яна кажа: «Не да мяне ты ўжо, дачушка, хілішся. Не да старой вярбы. Да дубка маладога».

Усміхнулася і замоўкла. Тады Андрэй спытаў:

— А што бацька?

— А бацька кажа: «Чалавек табе любы, дык шануй».

— А Сашка?

— Хлебча малако, губы не выціраючы. Лыбіцца.

Андрэю падалося, што не ўсё распытаў:

— Ну... а маці? Яшчэ што казала?

— Кажа: «Пяць пальцаў на руцэ, і кожнага шкода».

— А бацька?

— Абы, кажа, вятры ў галаве не гулялі. Ён усё ветру баіцца. Міцьку, кажа, вецер забраў з хаты.

Пад берагам забразгацеў цяжкі ланцуг, заплёскалася вада, усё роўна як хвалі выкідалі на бераг жалеззе.

— Нехта ідзе?! — Алёнка прыўзнялася, углядалася ў цемень, у той бок, дзе рака.

Да вогнішча ад ракі ішоў чалавек. Ступаў павольна, шырака, абапіраючыся на дрын ці вясло.

Чалавек быў вельмі стары, высокі, хударлявы, у ботах, старой фуфайцы, з рукава якой лезла шэрая вата, пад пасівелай ад веку леснікоўскай фуражкаю. Доўгія белыя пасмы выбіваліся з-пад фуражкі. Перад вогнішчам спыніўся, грудзьмі абапёрся на вясло, пранікліва, адным вокам, другое прыжмурыўшы, глядзеў на незнаёмых яму людзей.

Андрэй запрасіў:

— Сядайце. Чаем пагрэйцеся.

Стары зняў фуражку, нібы ў хаце, заззяў белай, што поўня, галавою.

— А я пралупіў вочы — агонь. Кемаю, што за начлежнікі? Дажджу даўно не было. Лясы гарам прыпахваюць. Трэцяга дня Гнілое балота задыміла, яшчэ не патушаць. Тарфа выгарае, а яліны падаюць.

Пра балота Андрэй ведаў, а на што стары намякаў — таксама лёгка здагадаўся.

— Мы пеўня ў лес не пусцім.

— Як я пажыў у лесе, дык магу сказаць, што злейшага звера ў пушчы няма, як гэты певень.

Стары зноў прыжмурыў правае вока, правая шчака збеглася ў маршчакаваты камячок, белае брыво над левым вокам прыўзняло сваё крыло, доўгае і калматае, выкаціла з-пад сябе вока на чырвонае ад вогнішча святло — увесь твар падзяліўся на два светы: адзін, левы, здаваўся блізкі, знаёмы, а другі, правы, як бы адсунуўся ў цемру і адтуль, з цёмнага кута, з далёкага веку назіраў за жыццём, да якога ён, стары чалавек, меў і цікаўнасць, і недавер.

— А хто ж вы такея будзеце? Гарадскея? Нешта ж без музыкі? Тут усё з музыкамі ходзяць. З гэтакімі пушачкамі.

Стары агледзеў вакол сябе мурог, як шукаючы тую пушачку.

— Нам не да музыкі. Мы таксатары.

— Га-а! — дайшоў да яснасці начны госць. Яго твар зноў выраўняўся, дзве палавіны, левая і правая, як знайшлі адна адну, зліліся ў адно цэлае.— Гэта ваш табар на Панскім возеры?

— Наш.

— Значыць, сваё племя. А то гляджу на вас і не ведаю, ці мне што казаць, ці мне маўчаць. Цяпер жа так. І казаць трэба, і маўчаць выгадна.

Ён зноў накрыў сваю белую поўню фуражкаю і пасунуўся ў цемру, адкуль прыйшоў. Алёнка і Андрэй яго не зразумелі. Пераглянуліся, паціснулі плячыма.

— А вясло забыў? — дагледзела Алёнка.

Вясло ляжала каля вогнішча.

— Значыць, вернецца.

Стары сапраўды вярнуўся. Нават хутка. Прынёс на лазіне двух невялікіх шчупакоў, акуня і ладнага ліна. Падаў рыбу Андрэю:

— Кінь у прысак.

Алёнка адышлася да лесу, прынесла бярэмца сушняку, падкінула ў вогнішча.

Цяпер ужо стары сеў насупраць, прылёг на бок, моўчкі глядзеў, як Андрэй раскідаў галавешкі, клаў у гарачы прысак рыбу, прысакам і дробным вугалем прысыпаў.

Па рацэ, у цемені, без агнёў пратарахцела маторка.

Старому як надакучыла маўчаць — загаварыў:

— Вось тут, дзе мы зараз, раней кацярынка стаяла. Яшчэ за панам. Дно скалістае. Перакат на галоўцы. Бывала, як лета сухое, вада мелкая, колькі тых плытоў параскідае. Кацярынка днямі і начамі рыпела — ры-гу ды ры-гу. А кацярыншчыкам рабіў мой бацька. Бывала, той калаўрот два плытагоны ледзь пакруцяць, а ён — адзін з ім усё жыццё ўпраўляўся. А ў пятым годзе трос лопнуў, па галаве — і бацька не падняўся. Тады, у пятым, пан што лесу прадаў!.. Во, дзе сядзім-ляжым, лясіны адразу ў Сож сыпаліся — і плылі, і плылі.

— Сосны? — спытаў Андрэй.

— Векавыя. На Крутаяры заўсёды бор стаяў чысты.

Лежачы на баку, стары схіліў галаву на плячо, выцягнуў уперад, да агню, чырванаватую, спавітую жы-

ламі ды сухажылінамі шыю, глядзеў у баравое верхавінне і не варушыўся, прыслухоўваўся да высокага баравога шуму.

— Цяпер гэта Курнопава дача,— не адводзячы вачэй ад баравога верхавіння, зноў загаварыў.— А была Нікодымава. Калі б не Нікодым, дык не была б яна і за Курнопам. Як пан з быхаўскім купцом кантракт замочвалі, Нікодым не бачыў. А ўбачыў той кантракт — і да пана, каб пан дакумент скасаваў. Купец упёрся. А Нікодым як даказаў? Купец свой лес браў усё роўна. Нікодым толькі дапісаў, што падрост купец абяцае не пляжыць, выбіраючы спелыя лясіны, і за гэта яшчэ атрымае працэнт. А спляжыць — штраф. Купец рукі пацёр — працэнт яму ўсмак. А пачаў валіць лес — хоць сябе за локаць грызі, ды не дастаць. Бор стаяў векавы. Што ні хваіна — адзін не абхопіш. Гэтакі як паваліць ды стралявацъ, маладняк не ўпляжыўшы? І няма ахвоты штраф плаціць за кожнае малое каліва. Што рабіць? Ну і валіў, траляваў, сам пад дрэва клаўся, а кожнае малое каліва ашчаджаў. Каторае, вядома, і спляжыў, не без таго, але ладная моладзь засталася. Вось яна вымахала — люба-дорага паглядзець! Не скажу, Макар таксама за барок пастаяў. Нікодым, а пасля — Макар. Вось шуміць-красуе Крутаяр! Але ці доўга яму шумець-красаваць?..

Стары ўсё глядзеў на Андрэя, аж ніякавата ад яго вачэй зрабілася, быццам ён, Андрэй, правініўся ў нечым. Адказаў:

— Будзе стаяць.

Стары зноў прыплюснуў правае вока, адным левым бліснуў, з'едліва ўсміхнуўся.

— Сёння будзя, а заўтра і не відаць, дзе тваё будзя.

Андрэй выкінуў з прысаку рыбіну. Яна ўжо спяклася — павыкідаў астатнюю. Ладнага шчупака, абцёршы травою, падаў Алёнцы, старому — мякенькага ліна. Той узяў ліна на далонь, здзьмухнуў з яго попел і цераз агонь працягнуў Алёнцы. Яна ўбачыла руку ў агні — войкнула, нібы агонь яе самую апаліў, а стары ўсё трымаў на далоні ліна, у агні, і яна хутчэй схапіла рыбіну — вочы зажмурыла. Тады стары ўзяўся патрашыць шчупака. Алёнка і Андрэй здзіўлена глядзелі на яго руку — не верылі, што яна цэлая, варушыцца, што яе агонь не спаліў.

Стары абсмактаў шчупакову галаву, пацмокаў языком у зубах, выплюнуў у цемень костку.

— А Галоўчыцкі лясок, што за Крутаярам, мы з Нікодымам сеялі ў восьмым годзе. Як сеялі? Знацца, пан, прадаючы Крутаяр, сплавіў і Галоўчыцы. Прадаў Додзіку Рыўкіну з Быхава. Мы з Нікодымам таго купчыка добра ведалі, ён і раней купляў лес у нашага пана. Купіць, прывязе рабочых, зваліць, пусціць лес па Сажы, а недзе пад Кіевам прадасць, грошыкамі напакуецца. З выгляду купчык быў дробненькі, насіў мужыцкую світку, а на грошыкі — пузаты. У рэвалюцыю, пад той шум-гам, мужыкі забілі яго, на золата пасягнулі. Ну, знацца, Додзік лес галоўчыцкі скінуў у рэчку. Там тады дубы стаялі ды ліпа на падмешку. Пасля за Крутаяр узяўся, а галоўчыцкая дзялка затравянела, за адно лета абсыпалася бярозкамі, вольхамі. Неяк прывёз я пана на чацверыку з губерні, распрог, паставіў коней. Была ў мяне камора пры канюшні, там збруя ляжала, стаялі тапчанок, столік, грубачка-каменка. Я быў малады, адзінокі. Гукнуў, знацца, дружка Нікодыма. Мы з ім як браты жылі. Ён у пана лесаваў, і я лесаваў, пакуль фурманам не зрабіўся, ды і пасля хоць у фурманах быў, а ■ лесам заадно. Ну, пляшку на стол ды брус сала. Сядзім, грэем душы. А ўжо з зімы на вясну павярнула, помню. Нікодым у мяне пытаецца: «Што думаеш? Пан пасылае ў нейкае Хранавае вучыцца на ляснічага. Ці ехаць? Ці не загіну я дзе ў Расеі? Бо Расея вялікая, а я малы для яе». А мы з ім былі ў Лісані пасля пана адзіныя грамацеі. Я, знацца, і кажу: «Дык жа і мне пан казаў гэтак. Едзь у Хранавае, буду цябе два гады вучыць, грошы табе пад падушку класці, пасля вернешся ў Лісань, зраблю сваім ляснічым. Дык я даў адбой. Не, кажу, мне навука вораг. Галава ў мяне слабая. А ты, Нікодым, едзь, вучыся. У цябе і галава большая, як цэбар. Я цяпер фурман, пеша ногі не б'ю, а ты ходзіш пеша — пан каня дасць, а то і сам, забагацеўшы, узаб'ешся». Вось гэтак, пад чарку, слова за слова, і на трэці дзень Нікодым паехаў. Праз два гады вярнуўся з кукардаю падляснічага. А ляснічага ён у той школе не выслужыў. На ляснічага бралі з інстытута імператарскага. Ладна і так. Лес Нікодым ведаў не горш за ляснічага, а тут яшчэ навуку забратаў, і ўжо пан без яго ніводнага кантракту не падпісваў. Сам князь Абаленскі меціў пераняць Нікодыма. Дык вось... пра што я раней казаў? — Стары пашкроб за вухам.— Ага, пра галоўчыцкі лес, знацца. Яго пан прадаў Додзіку, як Нікодым у тым Храновым

сядзеў. А вярнуўся Нікодым, паглядзеў на ляда галоўчыцкае ды і кажа мне: «Давай паставім бор карабельны. Будзе ў Сож глядзецца!» А я смяюся: «Ці нам пад сілу? Калі пушча паставіць — дык паставіць. А ў нас пупы слабыя, ногі танклявыя». Але Нікодым казаў не ў пустую бочку. Што ён зрабіў? Угаварыў пана выпусціць на ляда скаціну, гавяду. Пан — сваю пусціў, і мужык — сваю. За лета-восень скаціна патравіла мурог, бярозкі, вольхі — яны ж былі маладзенькія, самае большае двухгодкі. Дзярніну скапыцілі. Даўжэй хадзіла б гавяда — было б, як там, дзе пясок засыпаў пусташ,— а тут — не. Гавяда паспела дзярніну капытамі ўзбіць, як капачамі. Ну, снег выпаў. Зіма паляжала. А вясною Нікодым прывёз ад Абаленскага два пуды насення сасны і растрос яго...

— А сама пушча не магла адсеяцца? — спытаў Андрэй.— Вакол жа лес.

— Які? Дуб галоўчыцкі выбралі, а сцены вакол — бяроза, альха ды асіна — вядомыя заваёўнікі! Сасны семянной блізка няма. Крутаяр? Ён быццам і блізка, а каб семечка на кволых крыльцах заляцела — далёка. Нікодым глянуў — зямля ладная, любата. Падумаў: ці сасне вечна з пяскамі ваяваць? Хай хоць раз на добрым суглінку пакрасуе. І што ён тады змікіціў — тое сёння шуміць. А як рабіў Нікодым — пан быў супраць. Пану — што? Ён не дурны, ведаў, што Нікодым робіць не яму: калі той бор вымахае? Казаў: «Ты, Нікодым, храноўскую навуку прывёз. Па-храноўску робіш свайго пана багатым». А ён не пана — вось вас, усіх людцаў, рабіў багатымі. Далёка глядзеў.— Стары адпіў чаю з кубка, які яму падставіў Андрэй, прамачыў горла.— І яшчэ скажу. Вось вы таксатары. А мы з Нікодымам таксама вашу астралябію насілі. Помню, рабілі кварталы. Якія там кварталы? Не меў наш пан ахвоты раскашэльвацца, скупы быў, сам любіў тлусты кавалак, а ты яму як не прыглянуўся, дык зімою лёду ў яго не дастанеш. І гэтакі да пушчы. Вось Абаленскі — той лес любіў, траціўся на яго. Той у сваім лесе зрабіў кіламетровую квартальную сетку. Тады гэта быў вышэйшы клас. А мы — як дзешавей. Нікодым пусціў праз пушчу адну прасеку, а да яе папрывязаў усе бары, гаі, маладнякі, балотцы. Затое план намаляваў — сам Абаленскі дзіву даўся. Во якая астралябія!..

Стары абапёрся на левы локаць, у цень ад пляча схаваў левае вока, а правым утупіўся ў вузенькі стру-

меньчык агню край вогнішча. Той кволы агеньчык разварушваў цемру на правай палове старога твару, зганяў з яго шэрань і сінізну, хісткую мрою, наліваў чырванню вока, якое глядзела ў агонь з глыбіні сваіх гадоў, штосьці ў агні шукала.

Алёнка падкінула сухія галінкі ў вогнішча, яны ўспыхнулі, і вока старога заззяла яшчэ гусцейшай чырванню.

— Я вось гляджу на пушчу і думаю,— разважаў ён.— Знацца, што такое адзін чалавек? Кажуць, што нуль. Ат — не згодны. Не нуль! Некалі пушча, не горшая за нашу, стаяла на тым беразе Сажа, у пана Панятоўскага. А цяпер? Наша шуміць, а той і знаку няма. А чаму? Можа, наш пан Казімір Васінеўскі пушчу бярог? Свісні ў лапаць. Пан, як мог, трыбушыў яе. Адзін Додзік колькі ляда папакідаў! Не, тут быў Нікодым! Ён, з аднаго боку, вязаў пану рукі, бо пан лесу не ведаў, а з другога боку, Нікодым мог залатаць на пушчанскай футры дзіркі. Умеў! Ох, адмысловы быў кравец! І бывае мне, людцы, дзіўна. Гэтакі чалавек зямлю красіць, а з чаго ён бярэцца? Часам з такой гісторыі, што і язык не варочаецца казаць. Але — як не казаць? Вось ты, Трахім,— дапякаю сам сябе,— завяршаеш свой круг пачоту. Пажыў — слава богу, дай іншым месца. Але куды ж ты, перад адыходам парадкуючы сваю гаспадарку, дзенеш тое, што ведаеш, што маеш? Калі б гэта было адно тваё — хоць у зямлю нясі. Але ж тое, што ты маеш, належыць пушчы, ты ўсё ад яе ўзяў. Дык і пакінь, калі не тваё. Сам памірай, а што маеш ці ведаеш — пакідай. Людцы пасля цябе жыць будуць, пэўна?

Ужо не крумкалі жабы. Не звянькалі камары. Роўна, працягла шумеў над галовамі Крутаяр.

Быў дзерануў горла драч на поплаве. Першы раз за вечар. І быццам падавіўся, пачуўшы старога:

— Туды тваю качалку! Пясняр мне...

«Адкуль ты з'явіўся? — думаў Андрэй.— Адкуль усё ведаеш?.. Хто — ты?..»

— Знацца, жыла ў Лісані дзеўка Марыля,— зноў пачаў расказваць стары, не адводзячы вачэй ад вогнішча.— Як на льнянішчы вырасла: бялявая, светлавалосая, валошкі ў вачах. Душою мяккая, норавам пакорная. У пана кухаркаю служыла. Смачны кавалак доўга рот не шукае, і яе, шчэ маладую, падхапіў Мардзін, хлопец лісанскі. На пана ён не рабіў, меў бацькаву

хату, зямлю, каня. Пажаніліся ўдала, а пажыць не паспелі. Марціна ў тую ж вясну паводка забрала. Плыў у чаўне з мястэчка, на ветры перакуліўся і даў дуба ў лядовіцы. А да нашага пана Казіміра, знацца, у Лісань кожны вечар наязджалі госці — брат яго, суседні, з Ялоўкі, пан Радзівон, пан Панятоўскі, з Засожжа, князь Абаленскі, з Пецярбурга на лета прыязджаў сын Казіміраў — Стасік, кадэт. Знацца, гулялі паны, з жыру бясіліся. Я тыя іх гулі добра ведаў, бо фурманам штоноч дзяжурыў, напагатове раз'язных коней трымаў, экіпажы. А паны як нап'юцца, разбушуюцца, тут ім падавай і волю, і бабу, на геройства кідала. Пан не пан, а кожан чалавек гэтакі, як падап'е. Па сабе, грэшным дзелам, ведаю,— стары ўсміхнуўся.— І вось, знацца, у гэтым гуляшчым жыцці паны на Марылю не забывалі. Праўда, тое ўжо не на маіх вачах дзеелася, я тады яшчэ прыкідку рабіў, як на свет белы нарадзіцца. А паны і тады гулялі. Марыля жыла адна, як дзічка ў полі. Пан Казімір яе, ляскоўку, і сам ласкаў, і гасцям дазваляў. Душа ў яе была на ласку ахвочая. І вось прынесла Марыля з тае панскае ласкі дзіця. Хлопчыка. Рос ён, рос, а як падрос — усе заўважылі, што копія князя Абаленскага. Вушасценькі, носік і вочкі востранькія, рухавы, як пчолка, вясёленькі. Куды той хлопчык падзеўся, не магу сказаць, а людцы казалі, што Абаленскі, каб пальцам не тыкалі, сплавіў вучыцца за граніцу. Ну, а пакуль тое вушастае, пад князя, бегала па Лісані, у Марылі з'явілася другое. Гэта ўжо быў Стахор. А за Стахорам нарадзіла Марыля дзеўку, а за дзеўкаю — Нікодыма. Марыля як прыслужвалася на красным двары, ў Казіміра, па яго святліцах ды лажніцах хадзіла, дык, знацца, адтуль і насіла крапіўнічкаў. Іх Лісань і звала крапіўнічкамі. І кожнае, падрастаючы, рабілася падобнае на нейкага пана. Стахор выйшаў увесь чыста ў Панятоўскага. Яшчэ ў Марылі быў адзін хлопец, памёр, дык той упадабаў Радзівона. А ўжо Нікодым удаўся, як дзве кроплі вады, у кадэта Стасіка. А як Стасік быў сынам Казіміра, скапіраваў бацьку, то Нікодым быў падобны і на Казіміра.— Стары пачухаў патыліцу, заўсміхаўся.— Ці, можа, і Нікодым, грэшным дзелам, ад Казіміра? Не! За ім пані сачыла, вачэй не зводзіла. Гэта той шалахвост Стасік падстроіў. Яшчэ дзеўка ў Марылі была, малая памерла, але тая, не скажу, уся ўдалася ў матку, бялявая.

Кроў шуганула ў твар Андрэю, запала ў целе. «Што

ён пляце, гэты стары? Хто ён? Можа, вораг Нікодыму? Цяпер паклёпнічае? Гэта ж... абраза Нікодыму?!» Не вытрымаў:

— Адкуль вы ведаеце, хто на каго падобны?

А стары хмыкнуў, як пасмяяўся:

— Тут доказу і суд не пытае. Калі ўся вёска бачыла і казала. Уся пушча. Які доказ? Вы Нікодыма не бачылі, і Стасіка не бачылі, і пана Казіміра. А я магу кожнага распісаць... І яшчэ што дзіўна... Ажаніўся Нікодым. Пайшлі дзеці. І як сын — увесь у бацьку, як дачка — у матку. І Сямён, сын Нікодымаў, у бацьку. Знацца, і ў Казіміра, і ў Стасіка. А Сямёнаў сын? Таксама выліты бацька.

«Божа мой! — нячутна, сам сабе, лесу, небу, зорам, шаптаў Андрэй.— Хто ён, гэты стары? Не спіць, калі ўсе людзі спяць. Па лесе блукае. Ноччу. Што разносіць па людзях? Дабро ці зло? Праўду ці хлусню? Сябра ён ці вораг?..»

— Ну, а дачка Нікодымава?

— А дзеўкі ішлі ў сваіх матак. І Марыліны, і Нікодымавы. Мужчынскую лінію, нібы сатану, абыходзілі.

— Не можа такога быць! — нервова ўскрыкнуў Андрэй.

Стары падняўся з зямлі, надзеў на галаў фуражку, узяў у рукі вясло, абапёрся на яго, як раней, калі падышоў да вогнішча, доўга глядзеў перад сабою, за Сож.

— Можа, вас завесці ў хату? — спытаў, не адводзячы вачэй ад тае зарэчнае цемені.— Выспіцеся палюдску.

— Не, дзякуй,— злосна адмовіўся Андрэй.

— Тады — бывайце.

І ён пайшоў у той бок, адкуль прыйшоў, з кручы да вады, дзе на хвалях плюхалася карма лодкі. Аддаляўся нетаропка, грукаючы вяслом у зямлю.

Вогнішча цьмела, астывала. Пацягнула свежасцю, волкасцю, холадам. Андрэй прывалок з лесу ладны смаляны корч, усцягнуў на вогнішча, абклаў драбнейшым сушняком, раздзьмухаў агонь.

Алёнка ляжала на плашчы прыціхлая, тварам і каленкамі да агню, крысом плашча ўкрыўшы ногі.

Андрэй сядзеў побач, ля яе ног, глядзеў у агонь, які густым чырвоным языком падымаўся ад смаловага карча ў чорнае неба. Перавёўшы пагляд на Алёнку,

заўважыў, што яна не спіць, вочы то адкрые, то закрые,— спытаў:

— Хто ён такі? Няўжо ты не ведаеш?

— Гэта Кулаш. Чуў пра такога?

— Кулаш? — здзівіўся, ажно захваляваўся, ён.

— Кладзіся, Андрэй. Давай паспім.— Яна супакойна заплюшчыла вочы, як засынаючы.

Але цяпер яму не спалася:

— Той самы Кулаш, які лячыў партызан?

— Ён усіх лячыў. І нашага Міцю, малога. І бацьку.

— Чаму ж ты раней не сказала, што гэта Кулаш?

— А я сама яго не пазнала. Гляджу — нейкі знаёмы твар. А хто гэта? Цяпер успомніла, як пайшоў. Тут Пагарэлішча зусім блізка. Яго вёска.

Яму ўспомнілася ўсё, што ведаў пра Кулаша, што аб ім некалі расказвалі Валошка і дзед Гарох, успомніў, як яшчэ нядаўна яму хацелася ўбачыць Кулаша, пагаварыць з ім пра Нікодыма, пра пушчу. Вось — сустрэліся...

— А ты чуў? — зноў загаварыла Алёнка.— Нікодым, твой дзед, таксама думаў пра карабельныя бары.

— Чаму таксама?

— А ты ж казаў, як Валошка за іх стаіць. Вось і Нікодым. А ён жа, Нікодым, ведаў, што Крутаяр і Галоўчыцкі бор росціць не на фрэгаты. Фрэгаты і тады, як ён жыў, ужо не будаваліся. Ну і што? Усё роўна гадаваў, бярог. Раней карабельным ці мачтавым бор таму называлі, што ён ішоў на мачты, а цяпер... карабельны — значыць... бор-казка, бор-песня, бор-мара... Калі гэтакі, хоць адзін, будзе стаяць у пушчы, тады пушча будзе моцна стаяць на зямлі. Не патрэбны фрэгаты, але карабельны бор патрэбны. І мне, і табе, і ўсім. Нават — для душы. А што? Ты не згодны?..

— Я згодны. Але... ты любіш марыць.

— А ты?.. Ты ж таксама любіш. Я гэта ведаю. Толькі ты сваю мару не заўсёды паказваеш. Я цябе разумею. Ты мужчына. Ты не можаш так, як я... Але...

— Мара, як жаваранак, павінна трымацца зямлі. Як бы высака яна ні ўзляцела.

— А хто цябе гэтакай мудрасці навучыў?

— Жыццё. Лес.

— А яшчэ хто?..

Яна задумліва, пранікліва, з лёгкай усмешкаю глядзела яму ў вочы — настойліва чакала адказу.

Ён бачыў: яна ведае, што ён скажа. І ён не зманіў:

— Ну... твой бацька, Валошка.

Усмешка адразу пагасла на яе твары. Яна адвяла вочы ад Андрэя, глядзела некуды ў ноч, далёка-далёка. Ціха, даверліва, але ўжо быццам не з ім, Андрэем, быццам з той цеменню, далечынёю вяла размову:

— А я, можа, не дачка свайго бацькі? Можа, ён бамяне вучыў іншай, не сваёй, навуцы? Можа, я не бачыла, якім насеннем ён адсяваў свае дзялянкі? Можа, не я пасабляла яму насіць з Крутаяра і Галоўчыцкага бору шышкі? Можа, не бачыла, як ён высыпаў іх на голы пячны чарэнь, тое насенне правейваў, ссыпаў у бляшанкі, хаваў на паліцах у каморы? — Яна павярнулася тварам да Андрэя, ужо ў яго спытала: — А думаеш, твой Нікодым горай за нас з табою марыў?.. Не, не горай. Каб ён не марыў, то не бачылі б мы ні Крутаяра, ні Галоўчыцкага бору...

Андрэй моўчкі падкідаў у вогнішча сушняку, каб яно не пагасла, гарэла.

За Сажом, недзе на нізкім поплаве, крычаў казадой. Цягавіта, прарэзліва, быццам з жывой душы вымаў штосьці жывое, балючае. Не спаў, калі спалі амаль усе вакол. Ён не спаў, ды Андрэй, ды Алёнка.

Ды яшчэ зоркі не спалі — зырка мігцелі ў небе.

Як прачыналіся зямля, пушча, рака — Андрэй і Алёнка не чулі, не бачылі. Яны не чулі і не бачылі, калі прачнулі пабялеў туман над Сожам і Засожжам, калі прачнуліся і заспявалі старыя песні ў новым дні птушкі, калі за ракою ўзышло сонца, калі яно запаліла на рацэ, скрозь рэдкі туман, доўгую, ад берага да берага, свечку, у шчаслівых галовах начлежнікаў высвеціла і запаліла высозныя свечы Крутаяра. Не заўважылі і той заўсёды чароўны момант, калі прачынаюцца гарластыя вясковыя пеўні, сабакі, каровы, жабы, калі калаўрот студні настройвае голас на старадаўнюю песню плытагонніцкай кацярынкі. Ужо зямля і пушча гукалі не самымі першымі галасамі, адзаравала раніца, перагаралі яе самыя мяккія фарбы, трацілі ранішнюю празрыстасць ставочкі расы ў сподачках гусялапкі, а яны, Андрэй і Алёнка, усё яшчэ не маглі прачнуцца.

У гэты смачны ранішні сон уварваўся далёкі, з-за лясоў і палёў, ракі і лугоў, высозны, нібы з нябёсаў, голас:

— Бом-м-м!..

Андрэй прахапіўся. Расплюшчыў вочы і ад святла, нібы ад болю, зноў заплюшчыў. Штосілы расплюшчыў зноў і агледзеўся.

Раніца была волкая, расяная, сонца ззяла з чыстага блакіту, і ўсё навокал зіхацела, іскрылася.

За галоўкаю Сажа, зусім блізка, блішчалі вокны ў хатах, з комінаў у ціхае неба струменілі сівыя дымы. Там была невялічкая, не шмат большая за Лісань, вёска — Пагарэлішча.

Зноў ударыў звон. Далёка. Але гулка, трывожна.

— Няўжо пушча гарыць? — спытала Алёнка.

Яна таксама прачнулася, сядзела на плашчы ля ачахлага вогнішча, падцяўшы каленкі да падбародка,— углядалася ўдалеч, за Сож, адкуль чуліся бомы...

— Нікодымаў звон!..

Андрэй і Алёнка азірнуліся на знаёмы голас: пад сонечнай баравой сцяною стаяў Кулаш. У той жа адзежы — фуфайка, фуражка, боты. Тая ж сівізна выбівалася з-пад фуражкі, лезла на вушы. А твар быццам іншы: мяккі, ружаваты ад стрэчнага сонца, ясны, нібы памаладзелы, падабрэлы, лагодны.

— Там, у вёсцы, калгасная машына. У Гарадок пойдзе. Можа, і вам па дарозе? — спытаў Кулаш.

— Да возера падкіне?

— А як жа? Ля возера шафёр вас высадзіць, а я з ім далей, у Гарадок. Травы ўжо глянь як вымахалі...

Ён задумліва глядзеў паўз бераг на росны зіхаткі мурог, а вуха, вялізнае і сухое, наставіў у той бок, у тую далеч, адкуль чуліся пругкія, круглыя, коткія бомы — далятàлі сюды, гулі ў нетрах Крутаяра, у кожнай яго хваіне.

## 2

З лясгаснага двара вылятаў звонкі рытмічны ляскат — жалезам па жалезе. Ідучы міма вуліцаю, Зімавец спыніўся, прыслухаўся і павярнуў у браму.

Пад раніцу папырскаў дожджык, і сонца яшчэ не справілася абсушыць зямлю, трактары, машыны, інвентар, шыферныя стрэхі — яны, мокрыя, блішчэлі, абсыхалі, дыміліся.

Ляскат чуўся з гаража, і Зімавец здагадаўся, што там Акімушкін — хто ж яшчэ з шафёраў ці механізатараў, акрамя яго, рупіцца з'явіцца на работу не ў дзе-

вяць, як усе, а ў восем? Каб гэтакіх рабацяг паболей, пасадзіць за кожны руль, во тады б ён, дырэктар, не ведаў бяды з аўтапаркам. Хапіла б чатырох лесавозаў, каторыя меў, бо як у Акімушкіна машына бегае, дык гэта ўсё роўна, што дзве ў іншых руках.

Зімавец перасек мокры двор, заглянуў у гараж. У сутані ля ціскоў Акімушкін кроіў зубілам рысорнае жалеза. Загледзеўшыся на яго шчырую работу, Зімавец успомніў, як вось тут, у гаражы, аднойчы прапанаваў хлопцу сесці за руль дырэктарскага «газіка», а той па-цялячы спакойна, шморгаючы тоўстым носам, выслухаў, высмаркаўся сабе пад ногі і, не то хітра, не то наіўна, спытаў: «А што я ўзвалю на вашага казла?..» Адмахнуўся, адным словам.

— Акімушкін!

Шафёр апусціў чырвоныя рукі з зубілам і малатком на ціскі, азірнуўся.

— Дзень добры! — кіўнуў.— Вось... рысору хачу мяняць.

Зімавец падышоў бліжэй.

— Можна ж аўтагенам?.. Ляскаеш зубілам, што цыган. У наш час зубіла не інструмент.

— Дык жа таго аўтагеншчыка трэба яшчэ дачакацца. А гэтая цацка заўсёды пад рукамі.

— Паўдня дзяўбці будзеш.

— Не!.. Хай толькі гаражны з'явіцца. Пуцёўку ў зубы — і ў лес. Рысора яшчэ не гарыць.

— З Ткачуком едзеш?

— Я і ўчора з ім валындаўся. Два рэйсы зрабілі разам, а на трэцім яго ад мяне буксір забраў.

— Ты хлопца не кідай,— папрасіў Зімавец.— Малады ён, залішне порсткі. Ды і машына ў яго... пара спісваць.

— А дакуль я буду яму за няньку? Хай робіць на маёй, новай, а я на яго старой. Пакуль новую атрымаем. Яму лягчэй, і мне ўсё ж адну глядзець — не дзве.

Зімавец не паверыў:

— Хітруеш?

— Не. Я ад душы.

Зімавец уважліва паглядзеў у вочы шафёру — хітрасць у іх як быццам не начавала і не днявала. А ўсё роўна засумняваўся: як гэта — каб чалавек самахоць адмаўляўся ад новай машыны, на якой заўсёды і лягчэй, і заробкі большыя? Не паверыўшы, нічога пэўнага не адказаў — падаўся ў кантору.

У канторы пахла смаловымі трэскамі, старой і свежай тынкоўкай, цэглай, фарбай. За зіму прыбудавалі ладны трохсценак, павыгарадзілі пакойчыкі спецыялістам, паставілі новую мэблю, [redacted] цяпер, з вясны, узяліся рамантаваць старую будыніну і ўсё ў ёй развярнулі — сам чорт ногі зломіць. Свой кабінет Зімавец пакідаў на ранейшым месцы, адно пашыраў, а на астатняй плошчы старога дома перагародкі пазносіў, зрабіў зальчык для сходаў. Ужо развалілі старыя печы, пракладалі трубы паравога ацяплення, прабівалі большыя вокны, сцены распісвалі пад арэх, ясень, дуб. У гэткі рэзрух не было дзе паставіць стол, і Зімавец доўга ў канторы не заседжваўся, тым больш што вясна гнала то на мехустаноўку, то ў лес, дзе гулі пілы, тралёвачнікі, лесавозы, а крыху раней — садзілі культуры.

Зайшоў у кабінет галоўнага ляснічага, дзе апошнімі днямі зрабіў сабе часовы прытулак. На стале — тоўсты, у чырвоным каленкоры, сшытак, на падлозе ля тумбы стала стаялі лічыльнікі. У сшытак Зімавец занатоўваў думкі, размовы, загады, прыбыткі і выдаткі, дні нарад і сустрэч, хто што павінен зрабіць, хто што не зрабіў і чаму — амаль усё, чым займаўся штодня. Да парадку, да лічыльнікаў і сшытка, прывучыў яго бацька, былы ляснік, лясны бухгалтар. Вядома, не ўсе падлікі-разлікі, якія рабіў за дзень, заставаліся ў сшытку, але аднаго сшытка хапала ўсяго на квартал — за восем гадоў дырэктарства гэтакімі талмудамі заваліў шафу. Калі б заняўся імі, разблытаў усе запісы, то з іх, пэўна, можна было б скласці шматтомны падручнік практычнага лесакарыстання, вывучыць тактыку дырэктара лясной гаспадаркі, дазволеную, а часам і недазволеную, у абыход усіх інструкцый,— таксама неабходную.

Зімавец адгарнуў сшытак на старонцы, дзе яшчэ звечара пазначыў сённяшні дзень — 20 мая, аўторак. Тут ужо і тэхніку разнарадзіў. Лесавозы Акімушкіна і Ткачука пасылаў на Пясчанку па лес, машыну з трактарным прычэпам — па хваёвую лапку. Трактар даваў Валошку. Той меціў вырваць тралёвачны, але занарадзіў яму «Беларуса», бо тралёвачнік пакуль што ваяваў на Пясчанцы, дзе [redacted] восені паклалі трыста кубоў сасны і яна там усё яшчэ марнавалася: спачатку бабры загацілі рэчку, затапілі лесасеку, потым маразы закавалі дрэва ў вадзе, снягі засыпалі, а вясною паводка доўга стаяла — прайшло ўсяго два тыдні, як лес

пачалі траляваць і вывозіць. Пра бабровую дыверсію пакуль што ведалі адно ў лясгасе. Ды яшчэ Ракіцёнак. Гэта быў якраз той лес, на які ён увосень меціў накласці лапу, а Зімавец яму не даў, пусціў пад свой план лесанарыхтовак. Ракіцёнак аж зубамі скрыгатаў ад злосці.

У дзверы заглянула прыбіральшчыца:

— Тут вам тэлеграмка...

Тэлеграма была з Магадана. Ужо трэці раз за гэтую вясну магаданскі абласны гандаль прасіў адгрузіць дзве тысячы дубовых калодак.

Зімавец не паспеў сесці за стол, як з калідора пачуўся знаёмы голас. Падышоў да парога, адчыніў дзверы: там, за дзвярыма, стаялі Шамрын і незнаёмы мужчына. Шамрына Зімавец паклікаў да сябе ў кабінет, а калі той зайшоў — сунуў яму тэлеграму, а сам вачэй не зводзіў з яго белага, быццам узімку, твару, гадаў, што скажа начальнік планавага аддзела. Той прачытаў і ўхмыльнуўся, пяцярнёю пачухаў патыліцу. Маўчаў. Тады Зімавец забраў тэлеграму і прачытаў уголас, як засумняваўся, што яе чытаў Шамрын: «Просим отгрузить две тысячи дубовых мясоразрубочных колодок. Деньги переведем по предъявлении счета».

— На калодках ужо тры гады катаемся. А што б мы без іх рабілі? — заўважыў Шамрын.

Ён быў рады тэлеграме, і гэта Зімавец заўважыў адразу. Нават ведаў — чаму. Хто адшукаў выгадных магаданскіх спажыўцоў на дубовыя калодкі? Ён, Шамрын. Праз свайго пляменніка, магаданца. Гэтая камерцыя была прафесійным гонарам Шамрына, бо калодкі з году ў год пасаблялі выконваць гаспадарча-фінансавы план. Але і хваліць Шамрына за яго хітры ход канём не хацеў, бо шмат галасоў у лясніцтве і абласным упраўленні было супраць калодак, на якія пераводзілі апошнія дубы. Было б тых дубоў насеяна, а то ж...

— Дык што скажаце? Зноў пакоцім дубы ў Магадан? Зноў будзем грымець імі праз усю краіну? — спытаў Шамрына такім тонам, быццам сам быў супраць. А спытаў Валошкавымі словамі, каб пачуць, як Шамрын адказаў бы на гэтае пытанне Валошку.

Той адказаў, доўга не думаючы:

— Трэба грымець.

— На Далёкім Усходзе няма дрэва? — зноў тое сказаў, што яму раней казаў Валошка, бароначы дубы.

— Ну... не наш клопат, ёсць ці няма. Абы выгада.

— Але ж дубу ў нас... адзінцы засталіся. Дзе мы ім назбіраем дзве тысячы? — Гэтак Валошка, можа, яшчэ не казаў, але гэтак думаў, мог сказаць у любую хвіліну, тут Зімавец як бы перахапіў яго думкі, каб імі загадзя праверыць трываласць сваёй пазіцыі.

Шамрын ці не адчуў гэту Зімаўцову хітрасць, бо насцярожана ўцяў голаў у плечы, зірнуў злосна, спадылба, схапіў лічыльнікі са стала, страсянуў імі — усе косткі, рублёвыя і тысячныя, мільённыя і капеечныя, зваліў у правы бок, а пасля грабянуў рукою — зваліў у левы бок, дзе ўжо яны ператварыліся ў грошы.

— Вось!.. Жывыя тысячы!.. Колькі — га?!

— Бачу, што тысячы. Але дубы... Дзе іх набрацца?

— А можа, летась вы не пыталіся, дзе іх узяць? Пазалетась не пыталіся?.. Узялі?.. Знайшлі?.. І сёлета можна.

«Эх, сядун ты канторскі, душа папяровая,— злосна падумаў Зімавец.— Пушчы не ведаеш, не бываеш у ёй. Думаеш, што яна — карова дойная. Не ты адзін гэтак думаеш...»

— Ідзіце,— ціха вымавіў.

Шамрын стаяў перад ім, не кранаўся з месца. Тады Зімавец паўтарыў тое, што сказаў, ужо не падымаючы вачэй, і Шамрын нячутна падаўся да парога, усё роўна як пакаціўся па мяккай дарожцы,— ціха прычыніў за сабою дзверы.

Зімавец схіліўся над сталом, ашчаперыў голаў рукамі, задумаўся: «А можа, ты геній, Шамрын? Можа, калі б апынуўся недзе ў сталіцы ды яшчэ павучыўся, быў бы старшынёю Дзяржплана? Ці хоць якім памочнікам старшыні? А што?.. Круткі, гнуткі...»

Адхінуўся на спінку крэсла, высунуў на сябе шуфляду стала, адразу, доўга не шукаючы, знайшоў у ёй дзве тэлеграмы, такія, як сённяшняя, усе з Магадана, усе — пра калодкі. Прыклаў да тых, ранейшых, сённяшнюю і зачыніў шуфляду.

Падняў тэлефонную трубку:

— Ало!.. Лісань?.. Вайцюк?.. Што ў цябе там чуваць?

— Усё ў норме, Васіль Сямёнавіч!

— Клімаш пілуе?.. Не хацеў?.. Ён — што?.. Не прызнае каманды?.. Пакліч да тэлефона... Пілуе?.. Ну, хай працуе. А хто там яшчэ ў канторы? Леснікі па абходах?.. Ну правільна. Няма чаго ім у канторы сядзець...

Зімавец паклаў трубку, зажмурыў вочы, як на свет

белы глядзець стаміўся, падумаў: «Вось так, Шамрын. Ты мяне агітаваў валіць дубы на калодкі? Я табе пярэчыў. А таму і пярэчыў, таму на цябе злосны, што раблю па-свойму. Сядзіш, нічога не ведаеш, а Клімаш у Лісані ўжо два дубы зваліў. Табе і не трэба ведаць. Нікому не трэба ведаць. Хай ведаюць Вайцюк ды Клімаш. Хай робяць. Табе, Шамрын, у план. Каб залатаць паркетныя дзіркі. Каб ты і я, і ўсе мы, у тыя дзіркі не праваліліся. А ўсё ж, Шамрын, ты не бог — не. Ты — д'ябал! Я некалі меўся выправадзіць цябе на пенсію і шкадую, што не выправадзіў. Без цябе не дайшоў бы да Магадана, да калодак. Даўно Валошка зрабіў бы станкі, якія б сыпалі паркет, сам набіваўся зрабіць. Ты, Шамрын, мяне збіў. Маўляў, калі тыя станкі будуць, план трэба сёння даваць. Не паслухаўся б цябе — былі б ужо і Валошкавы станкі, і паркет, і план. Ну, хіба ты не д'ябал, Шамрын? Вось і станкоў няма, і дубу заўтра не будзе, і план тады... усё роўна — гарэць».

Зазваніў тэлефон — Зімавец схапіў трубку:

— Вайцюк?.. Тэк-тэк... Што? Курнопа схапіўся з Клімашом? Ну-ка яго сюды, на тэлефон!.. Ды Курнопу!.. Няма ўжо? А куды ён паехаў? Не ведаеш?..

Раптам ударыў звон.

Зімавец скалануўся, апусціў трубку на апарат. Акно было зачынена, фортка — на кручку, але звон бомкаў нібыта ў кабінеце — гэтак моцна.

Увайшоў Славік.

— Паедзем, Васіль Сямёнавіч?

— Куды?

— Як куды? На аблаву. У дзевяць ноль-ноль — у Асечы... Ці, можа, і сёння выпусцім, як тады, зімою?

Зімавец хоць і еў шафёра вачыма, але чуў не яго — тыя бомы, што раз-пораз бухалі ў вокны, у дзверы, у душу. Пакуль не заціхлі. А заціхлі — спытаў:

— Гэта... Мураўка баўкае?

— Яму закон не пісаны,— усміхнуўся Славік, але ўсмешка тут жа і знікла з маладога твару.— Дык едзем?

— А машыну заправіў?

— Праз пяць хвілін.

— Ідзі запраўляй.

Шафёр выскачыў за парог, а Зімавец падышоў да акна, глядзеў, як на вуліцу з двара выязджалі машыны. Спачатку паехаў Акімушкін, за ім — Ткачук. Там стаяў і «газік», але Славіка нідзе не было. «За некага

зачапіўся,— падумаў Зімавец.— Трэба ехаць. Хутчэй — у лес. Хоць на аблаву, хоць у якую пятлю, абы ў лес».

Пасля дажджу дыміліся, абсыхаючы, шыферныя дахі гаража, на сонцы, абсеўшы вільчык, грэліся галубы. Табуніліся шараватыя хмары — ці не на дождж ізноў.

У кабінет зайшла Полькіна, сакратарка:

— Дзень добры, Васіль Сямёнавіч. Тут... кліенты да вас.

А яму ўжо так хацелася ехаць, ён ужо так абрадаваўся, што Славік нагадаў пра аблаву, прыспешвае, што ў Дзебры Міна абклаў ваўкоў,— ажно не ведаў, што рабіць з тымі кліентамі. Змоўчаў, як не пачуў. Сказаў, падумаўшы, каб Полькіна пашукала Славіка. «Шалахвост! Яго пяць хвілін. Паўгадзіны, не меней».

Раптам дзверы адчыніліся, ледзь-ледзь, і цераз парог нясмела пераступіла сукаватая кульба, абутая ў чорны гумовы атопак. Намацаўшы падлогу, кульба з атопкам падскочыла, як ад радасці, грукнула, дзверы яшчэ больш прачыніліся, і за кульбаю, на ёй верхам, у кабінет прасунулася сухарлявая шэрая рука, а над рукою — бялявая, нібы астылае зімовае сонейка, галава ў распатланым старэчым сівоцці. Ужо кульба, рука і галава былі ў кабінеце, амаль непрыкметныя выцвілыя вочы з-пад жаўтлявых броваў злавілі за сталом Зімаўца, а ногі, ды і ўсё тулава, заставаліся яшчэ там, за парогам, і ў гэтай нязручнай паставе стары замёр.

— Ці можна? — спытаўся.

Зімавец маўчаў, хоць вачэй са старога не зводзіў, як не ведаў, пусціць яго ў кабінет ці не пусціць.

Стары сам зайшоў, зачыніў за сабою дзверы, зноў грукнуў кульбаю ў падлогу, уставіўся на Зімаўца.

— Ну? Што скажаце? — спытаў Зімавец.— Па дровы прыйшлі ці па лясок на хату?

Стары зрабіў яшчэ два крокі да Зімаўца, але той адышоў ад яго за стол.

— Хатка, сынок, у мяне ёсцека. Порхаўка, але я сам не лепшы. Век на век — мір ды лад. Мае дрэўцы хай гадуюцца.

— А чаго не хапае?

Стары прыплюснуў выцвілае левае вока, левая шчака адразу ўсыпалася глыбейшымі, як у таго смаржка, маршчынкамі, а правае вока налілося пякучай праг-

насцю, упарта цэліла ў Зімаўца — быццам дзіўную маску стары напяў на сябе. Ды і апрануты быў дзіўна. Правы бот — халява высокая, гладкая, чыстая, а левы — халява гармонікам, закасаная наверх белым паднарадам. Фуфайка з правага боку чыстая і цэлая, а з левага — крысо блішчыць, зашмальцаванае, на грудзях чорная пракураная дзірка, з рукава клычыцца шэрая вата.

— Мурагу хачу.

— Якога мурагу?

— Ну якога ж?.. Таго, што ядуць кароўкі, цяляткі,— адвярнуўся, як засаромеўся свае мізэрнай патрэбы, але правым вокам зноў пацэліў у Зімаўца.— Чужое не прашу. Ані каліва не хачу чужога. Сваё, кроўнае. Я ж яго, лужок-муражок, зарабляю з адна тысяча... чатырнаццатага! Тады ўжо на світцы насіў бляху лесніка.— Стары грукнуў кульбаю.

Зімавец пачухаў нос.

— Тэк-тэк... Надта ж даўно было?

— Нядаўна, таварыш дырэктар. Пушчу спытайцеся, ці даўно? Што ёй вашага паўвека? Плюнуў і расцёр. Чалавек думае: што да яго веку — тое да Ноевага патопу. А век — устаў, азірнуўся і лёг, удыхнуў і выдыхнуў.— Стары яшчэ бліжэй падышоў да стала, ажно вопраткаю аб яго шаргануўся, выпрастаўся, грудзі выкаціў, што вайсковец на парадзе.— Вы, таварыш дырэктар, забылі мяне?.. Няўжо і праўда забылі?.. Я — Кулаш!

Зімавец заёрзаў на крэсле.

— Факт!.. Ведаю,— кіўнуў галавою, заляскатаў пальцамі па лічыльніках.— У вас кароўка?

— А як жа! Да аптэкі мне, інваліду ўсіх войнаў, сцежка далёкая, дык я кароўку маю. Лячуся.

— Ну... луг мы яшчэ не дзялілі. Яшчэ рана.

— А я ж не хачу, каб было позна...

— Не хапае на ўсіх лугу.

— Як?.. У лесе каб не хапала?

— У лесе. Трэба і леснікам, і аленям, і коням. Але... паўгектара неяк выкраім.

Рука старога затрымцела на кульбе, тая кульба дробненька задрынчэла аб падлогу.

— Не-э!.. Я ж кароўку хачу трымаць не толькі да каляд. І закон ёсцека. Кулашу, былому лесніку, цэлы гектар. А закон — не дышла, даруйце.

— Факт! Законы ведаем.

Зімавец разгарнуў перад сабою сшытак, як паказваючы старому, што яго, дырэктара, пільнуе іншы, большы клопат, як той луг, сенажаць, але, пагартаўшы сшытак, нібы не знайшоўшы таго клопату, які шукаў, пляснуў сшыткам аб стол ды моцна, ажно стары здрыгануўся, пачаў нервова бухаць кульбаю ў падлогу, хоць пакідаць кабінет, свайго не дамогшыся, як быццам не думаў. Зімавец гэта зразумеў і рэзка, нібы вецер, усхапіўся з-за стала, секануў:

— Пяць-дзе-сят со-так!.. Усё! Ідзіце!

Гэтая рашучасць падзейнічала мігам. Стары апошні раз таропка дзеўбануў кульбаю ў падлогу і неяк бокам, адным вокам зіркаючы на Зімаўца, заспяшаўся ў дзверы. А дзверы перад ім быццам самі адчыніліся — там, за парогам, прапускаючы старога, стаяў, выціраў лахмоткаю рукі Славік.

## 3

Доўгімі кавальскімі абцугамі скінуўшы з кавадла ў бочку з вадою яшчэ гарачы нарог, Валошка пачуў даўно, як свет, знаёмае:

— Бом-м-м!..

«Дзе звоняць?.. На пажарні?..»

Прыслухоўваючыся да звону, апусціў абцугі на кавадла, шырэй расчыніў дзверы кузні — на яшчэ вальнейшай хвалі да яго дакацілася тое самае, але грамчэйшае, пругкае:

— Бом-м-м!..

Валошка скінуў з сябе чорны брудны халат, пад гарачым кранам памыў рукі, твар, шыю, злёгку абцёр рукі і твар ручніком, накінуў на плечы пінжак, які вісеў на дзвярной лутцы, і пашыбаваў на прахадную.

На прахадной быў тэлефон. Ён пазваніў спачатку на пажарню. Адтуль дзяжурны сказаў, што пажару не відаць — Мураўка на каланчы забаўляецца. «Нішто сабе забаўкі»,— падумаў Валошка і пазваніў у лясгас. Трубку там ніхто не падняў. Набраў нумар Лісані — таксама ніхто не адказаў. Гэта ўстрывожыла яшчэ болей. Выйшаў за прахадную і полем, напрамкі, пашыбаваў да канторы лясгаса.

Саўгасная майстэрня, у якой Валошка даводзіў машыну, была за Гарадком, стаяла сярод поля, і да канторы было не блізка. Але дабег, як ніколі, хутка, лёгка, за якое паўгадзіны. Нікога не сустрэўшы ля брамы,

ля ганка, два разы сігануў — і ў калідорчыку. Тут людзей хапала, усё больш чужых, але ён ні з кім не запыніўся, адразу накіраваўся ў Зімаўцоў кабінет.

Полькіна сядзела на сваім звычайным месцы, пры дзвярах за машынкаю, выстуквала на ёй адным пальцам — у другой руцэ трымала цыгарэтку. Валошка кіўнуў ёй.

— Васіля Сямёнавіча няма,— сказала Полькіна.

Але Валошка паспеў адчыніць дзверы, сам убачыў, што няма дырэктара.

— Дзе ж ён? — спытаў.

— Толькі што паехаў. Сёння аблава. А можа, яшчэ тут? Хвілінак пяць як выйшаў.

Трымаючы палец на клавішы ¦ літараю, яна неяк няўцямна глядзела на яго, маўчала, і ён, больш ні аб чым у яе не дапытваючыся, выйшаў на калідор.

Заглянуў у кожныя дзверы — да эканамістаў, інжынераў, бухгалтараў, галоўнага механіка,— з усімі паздароўкаўся, але ні з адным не запыніўся, каб пагаварыць, бо не было чалавека, хто мог усё як след расказаць. Сунуўся ў планавы аддзел — Шамрына няма, у аддзел аховы — няма Марцыёнка. Прайшоў у кабінет палітвучобы — там за сталом сядзеў Шамрын, трымаў руку на тэлефонным апараце — сабраўся званіць. Валошка спытаў, дзе дырэктар, і Шамрын сказаў тое ж самае, што Полькіна — на аблаве. Хацеў зноў пазваніць у Лісань, ды планавік усё трымаў руку на апараце, быццам чакаў, калі Валошка выйдзе з кабінета. Валошка выйшаў. На калідоры наткнуўся на тэхніка-пажарніка, які дзяжурыў у гэты дзень па лясгасе.

— Дзе што гарыць? — спытаў.

— Поўны парадак,— весела адказаў хлапчына.— Ні агню, ні дыму. Нават не пагрэешся.

— А чаго звон баўкаў?

— А Мураўку закон не пісаны.

— Патруль пралятаў?

— Пакружыў. Але гасцінца не скінуў. Слава богу.

Неспакой ад душы адхлынуў, хоць не зусім. Валошка сышоў з ганка і нетаропка, звычайным ходам, падаўся паўз платы. Надумаў зайсці на пажарню, пабачыць Мураўку.

Выйшаў на скрыжаванне.

«А можа, з'ездзіць у Лісань? Не быў колькі дзён».

Тыдзень назад Зімавец загадаў давесці да ладу лесапасадачную машыну, бо з міністэрства раптам запа-

трабавалі поўную тэхнічную дакументацыю, аўтарскае апісанне, прасілі падрыхтаваць машыну для рэспубліканскай лесатэхнічнай выстаўкі, і таму ўсе гэтыя дні Валошка сядзеў у майстэрні. Але што там, у Лісані? Душа была неспакойная.

Стаяў, абапёршыся аб плот. Машыны за Сож ехалі, але яшчэ не ведаў, ці ехаць туды яму. Чакаў, мо хто са сваіх пушчанцаў пакажацца.

І раптам заўважыў, як па завулку, у якім стаяла яго хата, на матацыкле праехаў Макар Курнопа. Гэта здзівіла. Па-першае, Курнопа даўно не ездзіў на матацыкле, хадзіў пехатою; па-другое — рэдка бываў у Гарадку, наязджаў адно з надта пільнай патрэбы; а па-трэцяе — чаму гэтакая патрэба прывяла яго з раніцы да хаты ляснічага? Валошка зноў занепакоіўся. Хацеў ісці дадому, спытаць у маткі, чаго прыязджаў Макар, ды заўважыў, што на тым баку скверыка Макар спыніўся, стаяў, як не ведаючы, куды яму ехаць. Валошка выскачыў на вуліцу і здалёк гукнуў Макара. Той пачуў, азірнуўся — газануў насустрач.

— Бяда ў Лісані, Пятровіч! Сядайце! Хутчэй! — Ён не збаўляў газу, матацыкл роў, быццам недарэзаны бык, а Макар таксама крычаў з усяе сілы.

— Якая бяда? Што ты вярзеш?

— Сядайце! — Ён ужо тарагануў матацыкл [redacted] месца, і Валошка ледзь паспеў ускочыць за яго спіною на сядзенне.

Макар ляцеў як ашалелы. Быццам не ён сядзеў за рулём, а Міцька. Ды і матацыкл быў Міцькаў, шалёны, дрынчаў усімі жалезнымі трыбухамі, як рассыпаўся.

— Чаго маўчыш, Макар? Што здарылася?! — крычаў з-за шырокіх Курнопавых плячэй Валошка. Але ляснік быццам не чуў яго з-за рову матацыкла.

Звярнулі з асфальтоўкі на лісанскую каляю, паехалі па пяску мякчэй, цішэй, і, калі ўжо наперадзе паказалася кантора, Макар азірнуўся да Валошкі, крыкнуў:

— Дубы валяць, Пятровіч!

— Што вярзеш?

— А вы зараз самі ўбачыце!

— Хто валіць?!

Матацыкл мінуў кантору, па мастку пераехаў цераз Трасцінку, узняўся на ўзгорак, у дуброву, пра-

мчаў міма Святога дуба, вывернуўся з хмызняку, з ліповага і дубовага маладняку, і яшчэ не спыніўся, а Валошка ўжо ўбачыў пакладзены дуб, над якім узвышалася гара сонечнага неабсечанага галля. Саскочыў з матацыкла і ўподбег кінуўся да мужчын, якія сядзелі на камлі. Ён яшчэ не разгледзеў добра, хто там сядзіць і стаіць, адно ўвачччу мільганулі твары дзеда Гароха і Вайцюка, чыясьці спіна, а ўжо зароў невядома каму, невядома чыім, толькі не сваім, голасам:

— Што робіце?!

Хто сядзеў — мігам ускочыў на ногі, усе адхлынулі ад дуба, адступілі ўбок, а ён і не глядзеў на іх, на людзей, стаяў над паваленым дрэвам — глядзеў на яго магутны камель, на пень, з якога тачылася белая раса, на гару маладога залацістага лісця. Сэрца сціснула, горла перахапіла дзяркатая суш, аж сліну не мог пракаўтнуць. Моцна заплюшчыў вочы, галавою патрос, быццам ад нейкага чэмеру, што паплыў у галаве, зноў глядзеў на пень, на камель. Узняў вочы — далей убачыў яшчэ адзін дуб, таксама на бакавой. Ужо не крыкнуў, слова не сказаў, пайшоў да таго дуба. Пастаяў над ім, пайшоў далей, дзе ляжаў трэці дуб, раскроены на калоды.

Тры магутныя дубы, мо самыя раўнюткія, гонкія, таўстыя, самыя дуброўныя крапакі, ляжалі, і нават вецер па іх ужо не гуляў, не варушыў маладога лісця, адно сонца ад іх не адварочвалася, лашчыла. Кожны з гэтых дубоў Валошка ведаў, як іншага пушчанца,— у твар. Гэты, апошні, ля якога стаяў, быў асабліва дарагі Валошку. Ён, можа, быў вышэйшы за тыя два, таўсцейшы, але не быў прыгажэйшы, і вось за гэта якраз яго нельга было не любіць. Ён стаяў як малады дзед, якому баліць і справа, і злева, якому не павярнуцца, не дыхнуць і не войкнуць, бо ўвесь быў на каравых рубцах, увесь пакалечаны. Былі сляды ад лютага марозу, ад спёкі, ад маланак, якія выпалілі яму два чорныя шырозныя шрамы, нехта раскладаў пад ім вогнішча, і нават неаднойчы, ад тых вогнішчаў у камлі быў выпалены чорны, што ў печы, паўкругам, чалеснік, чыясьці сякера падсякала яму карані-лапы, ніжнія таўстыя галіны былі крučаныя, з густымі, адна за аднои, нарасцямі, хоць яшчэ ніводзін сук не пакінуў ствол, з дуба не выпаў, яшчэ не было ніводнага дупла, і, нягледзячы на ўсе свае калецтвы, дуб стаяў зялёны, непахісны. Цяпер — ляжаў. Раскрыжаваны на калоды.

Але раптам Валошка заўважыў, што дуб не быў раскрыжаваны да канца. Толькі дзве камлявыя калоды адрэзаны. Далей — белы, у пілавінні, надрэз і... кроў? «Чыя кроў?..» Валошку зноў апякло, быццам агнём. Ён бліжэй падышоў да таго надрэзу — кроў была на дрэве і на зямлі. Тут жа на зямлі ляжала сякера.

Валошка агледзеўся, павярнуў да мужчын.

Яны сядзелі сумныя, маўклівыя — Вайцюк, Зуёк, дзед Гарох. Адзін на зямлі пад камлём, другі на камлі, трэці на бензапіле. А перад імі на свежым пні, бокам да іх, адварочваючы ад усіх твар, сядзеў Клімаш. Ён ціха стагнаў, расхінуўшы пінжак і аберуч трымаючы на жываце белую, набрынялую чырванню споднюю кашулю.

— Што здарылася? — спытаў Валошка.

Падхапіўся Вайцюк:

— Ланцуг з пілы саскочыў. Ну... шахнуў па пузе.

— Што ж ты на яго любуешся? — закрычаў Валошка на Вайцюка.— Дзе «хуткая»? Чаму не вязеце?

— Звонім, Пятровіч. Там, на тэлефоне, Ліда.

Валошкаў твар зрабіўся чырвоны, аж страшны. Уся яго злосць, здавалася, была зараз на Вайцюка.

— Бяжы звані, сукін сын!.. Сам, а не Ліда!..

Спалоханы Вайцюк кінуўся да канторы. Валошка падышоў да Клімаша.

— Ну? Што ж гэта ты, га?..

— Не здохну, Пятровіч. Дуб, ядры яго! Увесь жалеззем начынены. Піла на асколак нарвалася. Не перагрызла.

— Ну-ка разагніся. Макар... Падтрымай яго за плечы.

Курнопа і Зуёк узялі Клімаша за плечы, Клімаш паспрабаваў разагнуцца, застагнаў.

— Пячэ...

Але на ногі ўстаў. Апусціўшы галаву, глядзеў на сябе. Крывёю былі заліты штаны, боты. Адну руку адарваў ад жывата, абцёр аб штаны.

— Перавязаць трэба.

— Не магу рукі адняць.

— Эх, сукін сын!..

Валошка шалёнымі вачыма кінуў управа, улева, як каго шукаў. Пачуў ад канторы Вайцюкоў голас.

— Што? — перапытаў.

— На «Скорай помачы» няма дзяжурнай машыны. Сказалі, як падыдзе, то прышлюць.

— Ты звані! Патрабуй!..— Валошка глянуў на дзеда Гароха, які сядзеў збоку пад дубам.— Ідзі, Ягоравіч, запрагай каня. Пакуль іх дачакаешся...

— А можа, я сам даеду? Не трэба званіць, запрагаць,— сказаў Клімаш.— Вунь... на сваім.

— Сядзь!.. Са сваім... А ты, Макар, прынясі што чыстае. Якую прасціну, сарочку, ручнік. Збегай да Насці. Цьфу ты... Забыўся...

Дзед Гарох шыбаваў да канюшні — азірнуўся:

— У мяне, Макар, хата адчынена. Бяры што пад рукі трапіцца. У куфэрку парыйся.

Клімаш падышоў да свайго малога матацыклеціка, які стаяў пад суседнім дубам. Адной рукой трымаючы жывот, другою дастаў з кішэні ключ, уключыў запал.

— Во і газануў бы,— сказаў ён.

— Зараз я сам пазваню.

Валошка пашыбаваў да канторы.

Ліда і Вайцюк сядзелі адно насупраць аднаго: яна — за сваім сталом, ён — за сталом ляснічага. Тэлефон стаяў паміж імі. Абое разгублена глядзелі на Валошку.

Валошка рашуча, жорстка зірнуў на Вайцюка і пачаў званіць не ў «Хуткую дапамогу», а галоўнаму ўрачу бальніцы. Дазваніўся — урач паабяцаў зняць машыну з лініі, выслаць у Лісань.

Толькі паклаў трубку, як пад акном загурчаў матацыкл. Глянуў у акно — жахнуўся:

— Клімаш?.. Здурнеў?!

Выскачыў на ганак.

За плотам, ля канюшні, стары запрагаў Малога. Валошка кінуўся да дубоў — там стаяў Зуёк, адзін, як горкая сіраціна. Ад вёскі да яго белай лахмоткаю ў руках ішоў Курнопа. Валошка — да Курнопы:

— Хутчэй, Макар, на матацыкл. Гані за Клімашом. Ну, сукін сын! Ну!.. Растрасе ўсё лантушша.

Калі Макар ускочыў на матацыкл і пагнаўся за Клімашом, Валошка вярнуўся ў дубы, стомлена сеў на свежы пень — сказаў Зуйку паклікаць Вайцюка. Сядзеў моўчкі, утаропіўшыся ў мурог пад нагамі. На мурагу ляжалі піла, скінуты з пілы і зблытаны ланцуг, палатняныя Клімашовы рукавіцы, абсыпаныя буйнаватым, з-пад бензапілы, пілавіннем. Побач сіротамі стаялі цыбатыя парасончыкі жаўтлявага першацвету — яшчэ цвілі. Валошка не чуў, як падышоў Вайцюк — убачыў перад сабою, ля Клімашовых рукавіц

і кветак першацвету, мардатыя, на тоўстых падэшвах, Вайцюковы чаравікі.

— Ну?.. Што ты мне скажаш на ўсё гэта? — Валошка падняў вочы на Вайцюка.

Той ужо сядзеў на дубе, апусціўшы галаву, звесіўшы доўгія блішчастыя валасы на вушы, на вочы, і Валошка ўспомніў, як прымусіў астрыгчыся Міцьку, падумаў, чаму гэта ён Міцьку прымусіў, а свайго памочніка не чапаў, хоць яго трэба было даўно пастрыгчы.

— А што мне казаць? — прабурчаў Вайцюк, ківаючы нагамі, якія не даставалі зямлі.— Клімаш пілуе, а стары, дзед Гарох, прыляцеў, як які вар'ят, крыку нарабіў, схапіў Клімаша за плячо, за рукі. А ў Клімаша ў руках піла. Клімаш адхіснуўся, піла заглохла. Гэтак раз, другі. Я прыбег. А той — аж пад пілу кладзецца. Ну, Клімаш ужо не на пілу глядзеў, а каб стары не ўлез у бяду. Піла наскочыла на жалеза, аскабалак ад снарада, з вайны шчэ, ну... тут трэба было заглушыць, а стары лямантуе, Клімаш газануў. Ланцуг асколка не ўгрыз, зляцеў з палатна. А як зляцеў — шахнуў па пузе. Вось як было. Стары... Хай бы галаву пад пілу сунуў, гэтакі спрытны...

— Гэта з Клімашом. А з дубамі? Тут хто быў спрытны?

— А што дубы? Дубы — законна. Сказана было.

— Хто сказаў?

— Сам Зімавец. Прыехаў, павёў у дуброву, паказаў, якія клеймаваць. Той, той, той — ашмыг. Самі ведаеце, як робіцца. Паводка гнала па дуброве крыгі, шыйкі дубоў паабдзірала. Ашмыг і ёсць. Па інструкцыі — пад пілу. Трыццаць дубоў заклеймавалі ў санітарную рубку. Сам дырэктар паказаў. А мне — што? Мне трэба загад выконваць.

— А сам што думаў? З ашмыгам.

— Ашмыг — пад пілу. Інструкцыя!

— Эх, вяртун!.. За інструкцыю схаваўся? Думаеш, да цябе гэтыя дубы не бачылі паводак, крыг, ашмыгу?..

— Ну, можа і бачылі.

— І стаяць? Жывуць?

Вайцюк соп, нервова хрупаў у руках галінкаю.

— Але... я таксама, Пятровіч... Паміж двух агнёў. Адзін — вы, другі — дырэктар. А мне як?

Дзед Гарох выехаў на Малым з двара, спыніўся ля ганка, стаяў з Зуйком. Валошка падумаў: «Стары ўжо,

мусіць, ведае, што ехаць нікуды не трэба, позна ехаць, няма каго везці. Хай вяртаецца на падворак, распрагае Малога, ставіць у канюшню». Але Зуёк зайшоў у кантору, а стары ўзлез на воз, разлёгся і не варушыўся, ляжаў і глядзеў у неба. Як чакаў новай каманды — распрагаць ці куды ехаць.

— Паміж двух агнёў, кажаш? — перапытаў Валошка.— А ведаеш, калі гэтак бывае? Калі чалавек увесь час чагосьці баіцца. Жыве ўлукаткі. Свае думкі не мае. Начальнік сказаў — закон. Закон — законам, але ж і самому не кепска падумаць? Даказаць сваю думку. Дык жа — не. Як лягчэй. А тады і бывае: як не было ніводнага агню, дык адразу — два, з двух бакоў. Ну і круціся. Разумнік. Яму дырэктар сказаў. А мо дырэктар таму Валошку і выправіў у майстэрню, таму Вайцюка і паставіў на замену, што з Вайцюком можна ўсё рабіць, яму скажаш — ён родную матку прадасць, пушчу спаліць, дуброву, адзіную ў пушчы, спляжыць. Твая галава гэта не падумала? — Валошка замоўк, як даючы магчымасць Вайцюку апраўдацца, але той маўчаў, ніякага апраўдання не меў. Тады спытаў: — Чаму гнёў у звон Мураўка?

— Па дубах і гнёў.

— Адкуль ён там дазнаўся, на званарні?

— Курнопа... гайсануў да дурня.

— Вось я думаю, што не таго дактары лечаць. Не Мураўку трэба было б.

— А каго?.. Вайцюка?..

Яны замоўклі, адзін на аднаго не глядзелі, хоць сядзелі адзін перад адным. Усё паміж імі было так складана, і ў той жа час абодва адчувалі, што адзін аднаму яны сёння не патрэбны. І таму Валошка не заўважаў Вайцюка, не глядзеў на яго, бачыў перад сабою адно мурог, а Вайцюк з тае ж прычыны споўз з дуба на зямлю і, ні слова больш не сказаўшы, пасунуўся да канторы.

Быў поўдзень. Ззяла сонца. Па небе між дубавых, з зялёнага каракулю, шапак плавалі нерухомыя аблачыны. І белыя, і шэрыя. З тых шэрых і пырснуў дождж. Нечакана. Пад сонцам. Сляпы. Пырснуў і хуценька суняўся. А потым зноў разахвоціўся. І сонца ззяла, і залаты дождж імжыў.

За дуброваю на Панскім возеры жаласна енчылі кнігаўкі. Лёталі і плакалі. Аж у дуброве чуваць было.

Дождж ліў і на пень, на якім сядзеў, не варушыўся, Валошка. Ён глядзеў на дуброву: пад дажджом і сонцам яна блішчала, аж зіхацела. Ад зямлі, ад дрэў, ад кожнай лісціны і травіны курэла белая пара, быццам дыміла залітае вадою вогнішча.

Нейкі светлы агонь чэз і ў душы.

Гула машына. Далёка. Як за краем пушчы.

Дождж неўзабаве сціх. Ад Сажа павеяў нямоцны вецер. Зашумелі вершаліны дубоў — атрасаліся ад макрэчы: буйныя дажджыны зашпокалі па фуражцы.

— Пятровіч? — спытаў нясмелы жаночы голас.

Валошка падняў галаву — перад ім стаяла Ліда.

— Што?

— Зімавец звоніць. Просіць вас ці Вайцюка.

— Скажы, што Валошкі няма.

— Я... я не магу так...

Валошкавы бровы здзіўлена ўзняліся.

— Га?! Даруй, Ліда. Ты малайчына. Хоць ты не можаш ілгаць... Але тады хай гаворыць Вайцюк. Ён там, ля канторы.

І яна пайшла.

Насупраць Валошкі падазрона шаматнулі кусты, нешта ў іх крохнула, чвякнула, пачуўся кашаль — хрыпаты, але гулкі, як у пустое.

Ён глядзеў у тыя кусты, у ляшчыннік.

Макаўка ляшчыны гайданулася — на святло выйшла старая. Спынілася за паваленым дубам, за зялёным дубавым галлём. Шэрая хустка, завязаная пад падбародак, доўгі рабы пінжак на плячах, рукавы закасаныя, белым сподам наверх, а твар апухлы, даўганосы, сівыя патлы з-пад хусціны лезуць на вочы, на твар. Баба, а бязгрудая, грудзі павысыхалі — пуста пад пінжаком. Шырокая, плоская, што падваротня. Яна пільна ўзіралася ў дубаву вершаліну, потым, крадучыся, зрабіла крок, другі, выйшла з-за зялёнага голля, стаяла босая — лыткі таўстыя і белыя. Павярнулася тварам да Валошкі, і ён пазнаў Мураўчыху, матку Лесікаву.

— Мураўчыха! — гукнуў.

Толькі кусты зашасталі ў тым баку ды буйны дождж, быццам спелы гарох, сыпануў.

Зноў пачуўся гул машыны, ужо блізкі. Валошка азірнуўся: бартавы таксатарскі газончык пад'ехаў да канторы, спыніўся — з кабіны выскачыў Андрэй. І Макар ужо быў там, ля Андрэя. Макараў матацыкл стаяў

ля машыны. «Калі ж ён паспеў вярнуцца?» — падумаў Валошка.

Андрэй адразу накіраваўся ў дуброву, а з ім разам — Макар, Зуёк, дзед Гарох. Аднекуль узяўся Агейчык, ішоў за імі следам. А з лесу яшчэ двое выехалі на веласіпедах, ды не да канторы — адразу да кладкі цераз Трасцінку. Адзін з іх — гарадоцкі аседлы цыган, а другога, маладога, яшчэ хлапчука, Валошка не ведаў. Гэтакае нашэсце здзівіла Валошку. Звычайна ў гэтакі дзень, калі лес не адпускалі, кліентаў не прымалі, ды ў час, блізкі да поўдня, у Лісані не было нікога, акрамя Ягоравіча і Ліды. Маглі быць ляснічы, памочнік ляснічага, хто-небудзь з тэхнікаў. А чаму сёння тут і Макар, быццам няма чаго рабіць у абходзе, і Андрэй, якому б цягацца па пушчы, і нават Агейчык, нават цыган з хлопцам?..

Паздароўкаўшыся з Андрэем, Валошка спытаў у Макара:

— Што з Клімашом?

— Ды... ужо ля бальніцы нагнаў. Падхапіў ды ў хірургію. Ну, хірург сказаў, што доўга ляжаць не будзе. Дуброву спляжыць яшчэ ўлетку.

— Гэтак і сказаў?

— Ну... гэтак.

— Адкуль ён дазнаўся пра дуброву?

— А Мураўка дарма ў звон гнёў? Ля бальніцы стаю — падыходзіць следчы. Лысы. Ён у мяне днямі дровы браў. Пытаецца пра дуброву. Ці праўда?.. Еду — спыняе настаўнік... Усе пытаюцца.

Шмат гаварыць Курнопа не меў ахвоты, падаўся да мужчын, якія стаялі і сядзелі каля пакрыжаванага дуба.

Валошка і Андрэй выйшлі на ўзлесак. За дубровою блішчэў мокры луг. Ужо трава добра паднялася, густа цвіла. Бераг азярыны і лугавыя латачыны былі жоўтыя. Цвілі дзьмухаўцы, кураслеп, браткі, казялец, дуброўка гусіная. Па азярыне на лапушыстых зялёных падушках жаўтком блішчалі дзябёлыя кветкі лотаці. Над жоўтым берагам бэкалі паветраныя авечкі — бакасы. Пачуўшы іх, Андрэй заўсёды ўспамінаў, як у студэнцкія гады прыязджаў сюды на лета.

Павярнулі назад, выйшлі да Святога дуба. Селі пад дубам на траву і адтуль бачылі, як да канторы пад'ехаў «Масквіч» — з яго вылезлі трое мужчын. Там быў раённы ветэрынарны ўрач і аграном насеннай станцыі.

Трэці — шафёр. Пастаялі ля паваленых дубоў, селі ў машыну і паехалі. За імі адразу падышлі яшчэ нейкія мужчыны. Ці не пагарэліцкія. Бо адтуль прыбеглі і хлапчукі, следам за мужчынамі. З вудамі.

— А што там за цётка? — спытаў Андрэй.

— Дзе?

— Вунь... глядзі лявей.

У глыбіні дубровы на старым пні сядзела Мураўчыха: здалёк — сама нібы шэры трупехлы пень, таўстая, абсунутая, нерухомая. Прагна ўставілася на дубы. Валошка глядзеў на яе і думаў: чаму Мураўчыха цяперся тырчыць у дуброве, чаму столькі людзей сабралася тут, сваіх і чужых, без аніякай справы, прыбіліся нават нейкія цыганы, дзеці, чаму Курнопу спынялі ў Гарадку і пыталіся пра дуброву, нават Салавейчык тут... чаму ён тут, няўжо і яго сюды прывёў звон, яго — ворага пушчы, які вазіў бярозавыя дровы замест асінавых, хітраваў, абдурваў леснікоў, браў у лесе не тое, што выпісваў, болей, як выпісваў, вечна выгадваў?.. Думаў пра ўсё гэта і адчуваў радасць, што людзі ідуць сюды, ідуць сюды тады, калі тут бяда, нібы бяда іхняя.

— А дзе ж Алёнка? — спытаў ён Андрэя, адчуўшы, што ў людскім натоўпе не стае яшчэ адной светлай душы.

— Спіць. Усю ноч праседзелі з ёю на беразе пад Крутаярам. Ля вогнішча. З Кулашам.

— Душы вам Кулаш не замуціў?

— Ноч была ясная,— адказаў Андрэй.

Не заўважылі і не пачулі, як з лесу вынырнуў Зімаўцоў «газік», праехаў міма канторы, спыніўся на беразе Трасцінкі. Убачылі ўжо тады, як у суправаджэнні свайго шафёра Зімавец набліжаўся да паваленых дубоў. Блізка да іх, дзе сабраліся людзі, не падышоў, спыніўся і зводдаль глядзеў на дубы, а потым павярнуў да Валошкі і Андрэя.

— Што ж гэта робіцца? — спытаў ён.

А Валошка калюча зірнуў на яго, спытаў пра іншае:

— Як аблава?

Зімавец не любіў, калі яго пытанне абыходзілі, але выгляду, што зазлаваў, на гэты раз не падаў.

— Узялі ваўчыцу і пераярага.

— А мацёры?

— Махануў праз сцяжкі.

Зімавец прысеў над крыніцаю, піў з яе поўнымі прыгаршчамі. Доўга піў, зганяў смагу — прыгаршчы за прыгаршчамі, потым уцёр мокры твар рукавом брызентавай паляўнічай курткі, устаў і глядзеў у той бок, дзе ляжалі дубы. Зноў спытаў:

— Дык... што ж гэта ён — Клімаш?..

Валошка і Андрэй маўчалі. Было чуваць, як крыху далей, у латачыне, на камянях, пазвоньвала вада.

— Пятровіч?..— Зімавец зрабіў паўзу, але ў яе ніхто са сваім словам не ўклініўся, і ён сказаў: — Скамандуйце, каб дубы ўбралі з вачэй падалей. Няма чаго людзей збіраць, як на памінкі.

Валошка марудна падняў цяжкія і шэрыя, што свінец, вочы, утаропіўся ў Зімаўцоў твар:

— Валіце астатнія. Стралюем усе разам.

Шчокі і вушы ў Зімаўца злёгку зачырваneліся, нібы ў хлапчука.

— Я прашу вас. Дубы пакрыжуйце, калоды звязіце пакуль што хоць на двор. Галлё спаліце.

Валошка ўсміхнуўся:

— Я помню, Васіль Сямёнавіч, як вы не далі валіць чорны дуб на Сінім возеры. Вы тады першы год рабілі ў нас пасля інстытута. Дырэктар — каб зваліць, а вы — на дыбкі. Таму дуб замінаў. Як жа? Ён там, на возеры, высокіх гасцей прымае, гарэлкаю ды юшкаю поіць, а дуб пакручасты, скалечаны, стары, краявід псуе. Як вы тады доказвалі? Хай стаіць. Каб людзі глядзелі на яго і не забывалі, як нялёгка жыць на свеце, колькі мудрасці, мужнасці трэба, каб вытрымаць усе пакуты, войны. Хай знявечанае дрэва жыве і людзей вучыць, як жыць. А што? Разумна казалі. Дык, можа, і гэтыя дубы хай паляжаць? Вунь — людзі да іх усё ідуць...

Зімавец глуха маўчаў, разгублена ўтаропіўшы вочы ў крыніцу, у яе жывую ваду, жаўлакі ганяў на скіўіцах пад зачырванелай скураю, і Андрэй бачыў, што большага выбуху паміж Зімаўцом і Валошкам ужо не трэба, што ўжо Валошка ўцяў у самую душу.

— Як жа гэта ты, Васіль? — уздыхнуў Андрэй.

З хвіліну ўсе трое маўчалі, потым Валошка заклаў рукі за голаў і лёг на спіну пад Святым дубам, а Зімавец адвярнуўся ад яго і падаўся да спілаваных дрэў.

Зялёнае дубава неба разлягалася шырака, высака. Яшчэ зусім нядаўна жаўтлявае, вузенькае, што пальчыкі, лісце, бліскучае ад маладой веснавой смалы,

змыла з сябе ранейшую маладую жаўцізну, разраслося, загусцела, засланіла неба ад зямлі і зямлю ад неба, ужо шаты старога дуба самкнуліся з такімі ж зялёнымі шатамі суседніх маладзейшых дубоў, і на ўсё лета ў іх і пад імі ўсталяваліся жыццядайная ціша і прахалода, мяккі блакітнаваты змрок. Уважлівае Валошкава вока заўважала, як увесь час мянялася акраса дубавага шатра, бо мянялася акраса самога неба, як калывалася, плавала, то радзела, то гусцела, ззяла альбо цьмела ў тым высозным шатры ледзь прыкметная мроя, як у той мроі, быццам у магутным дубавым дыханні, буяла і песцілася жыццё. Цяпер ужо над дупламі не відаць было чорнай старой смолі ад колішняга агню, яна патанула ў зялёным лісці, ужо і дуплы нібы зазелянелі на брыжах, паменелі.

Углядаючыся ў свежы шацёр, Валошка адчуваў сябе яго жыхаром, адчуваў, што яму гэтая зялёная хаціна вельмі па душы, што тут ён хацеў бы жыць вечна і ніколі не быць у гэтай хаце ні айчымам, ні свёкрам, ані якім камандзірам.

Недзе пекануў стрэл. Глуха, далекавата. І яшчэ два — дуплетам. У тым жа месцы.

«У Дзебры?.. Можа, мацёрага ўзялі?..»

Валошка прыслухаўся, але пачуў Зімаўцоў голас — воддаль:

— Глянь... на што Клімаш напароўся.

— Асколак? — спытаў Андрэй.

Маўчалі, разглядаючы той асколак. Праз хвіліну Валошка пачуў зусім побач крокі, Зімаўцоў голас:

— Глянь, Пятровіч. Зуёк з дуба высек.

Валошка ляжаў, не падымаўся, як вачэй не мог адарваць ад зялёнага верхавіння. Пачуў, як штосьці малое, цяжэнькае пляснулася яму на жывот,— рукою правёў па жываце, усляпкі ўзяў тое, цяжэнькае. Абмацаў кавалачак вострага жалеза.

— Тут усе дубы на асколках, пасечаныя,— услых падумаў Валошка, сціскаючы кавалачак жалеза ў руцэ.

— Дзед Гарох расказваў,— успомніў Андрэй,— як ён з Мураўкам хаваўся ад немцаў у Святым дубе. З акружэнцамі. Ад Кулаша ідучы. Які тут быў бой.

— Баеў тут хапала,— раптам пачуўся чыйсьці нечаканы голас, ажно Валошка ўсхапіўся. Голас падаўся блізкі, з-за дуба, але там нікога не было відаць.— Вы ж, Пятровіч, ведаеце, як сюды браневічок уварваўся? Па калейцы...

Валошка, Андрэй, Зімавец — ўсе глядзелі ў камель дуба і толькі цяпер заўважылі, што за ім варушыцца чалавек. Твару не паказваў, але рукі і ногі былі відаць, бо разуваўся — сцягваў з ног боты, запіхваў у іх анучы. Ужо босы ўстаў, выйшаў з-за дуба. Гэта быў Кулаш.

Аберуч абапёршыся на кульбу, стары глядзеў на траву, задумліва жмурачы вочы. Спытаў:

— Ракіцёнка ведаеце? Гэта ён тады... на браневічку.

Падняў з травы авоську, у якой ляжала колькі буханак хлеба, павесіў авоську і боты на кульбу, узяў кульбу на плячо, пастаяў, пашкроб патыліцу і падышоў да Зімаўца. Уставіўшыся адным правым вокам, зажмурыўшы левае, ён прашаптаў:

— А пад гэтым Святым дубам, таварыш дырэктар, сканала ваша прабабка, зямля ёй пухам. Як яе звалі?..

Зімавец стаяў нерухома, нібы скамянеў. Адно крылы носа нервова торгаліся ды жаўлакі пад скураю на скіўцах бегалі. Вачыма еў старога, а сказаць нічога не мог.

Кулаш хмыкнуў і адвярнуўся да дуба.

— Гэтак спрадвек вялося. Паміраў лісанец, ці пагарэлец, ці яловец, бацюшкі дачакацца не мог, каб зямныя грахі з душы зняць, ідучы ў царствіе нябеснае. Тады нябогу везлі да Святога дуба. Таму ён і святы, што пушчанцы яму спавядаліся. А Марыля, матка Нікадымава, канала — нікога не было блізка. Зіма была лютая. Яна адна сюды давалаклася. Дый ночкаю. Тут, пад дубам, і замерзла. Назаўтра знайшлі. Во як, таварышок!.. А гэтага не ведаючы, можна і яго, Святы, зваліць... Га?..— зноў павярнуўся, уставіў адно вока на Зімаўца.— Дзела няхітрае...

Таргануў сухім плечуком, на якім вісела авоська, паківаў галавою, што дзяцел, і падаўся праз дуброву.

Калашыны ў старога былі караткаватыя, а ногі вялізныя, белыя, нібы камякі снегу, і ён, увесь стракаты ад сонца, якое падала праз голле дубоў, ішоў, здавалася, як не подбегам хутка, бліскаў белымі нагамі па маладой зялёнай траве, між пасвятлелых дубавых ствалоў.

## 4

Машына дала нырца ў калматы арэшнік, і там, у хмызняку, Зімавец спыніў яе, адчыніў дзверцы.

За арэшнікам быў відаць луг, усыпаны жаўтацветам, за жаўцізною блішчаў Сож. Па лузе зрэдку сталі каржакаватыя дубы, івы, кляны. А з другога боку быў Буёк — клін разнастайнага лесу, зацішны, хоць і ля Сажа, бо з трох бакоў яго атулялі высозныя баравыя сцены. Сосны раслі і на Буйку, але найбольш тут расло ліпы, ясеню, клёну, дубу. Асабліва славіўся Буёк самай першай узяткаю пчол — з івы, арэшніку, ваўчынага лыка, асабліва [redacted] арэшніку, які тут, на ўзлеску, рос ахвотна, зацвітаў рана, раней, мабыць, за ўсе іншыя меданосы. Пазней на тым беразе Сажа цвілі калгасныя сады, а ўжо цяпер — лугі. Ды і чыстая вада, неабходная пчалярні, была побач — хоць Сож, хоць Буёк, малая лясная рачулка. Бывала, што бацька выстойваў тут са сваёй пчалярняй усю вясну і ўсё лета, нават на грэчку не выязджаў, як іншыя пчаляры.

Зімавец абышоў вуллякі, але бацькі нідзе не знайшоў. Сеў на ўкапаную ў зямлю лаўку ля століка, за якім бацька еў і піў. Не ведаў, чакаць ці ехаць.

Вечарэла, але парыла, як днём. Смягла ў роце. Васіль узяў са стала зачарнелую на агні дзюралевую конаўку, спусціўся з адхону да рэчкі, дзе крыніца. Толькі напіўся, як пачуў шоргат каля вулляў. Азірнуўся — убачыў бацьку, [redacted] кашолкаю ў руцэ.

— Куды хадзіў? — пацікавіўся Васіль, падышоўшы.— Па ягады рана. Да грыбоў далёка.

Пацiснуў шурпатую бацькаву руку.

— Сабраўся ў вёску, ды тваю машыну пачуў.

— Чаго ў вёску?

— А есці мне што-небудзь трэба? Ты ж не прывязеш ні бульбіны, ні сала, ні малака. Табе ўсё некалі.

— Гасцей прывязу. Зноў начальства з Мінска. Сёння ці заўтра. Мядком пачастуеш?

Бацька спадылба глянуў на сына:

— Цяпер у цябе свая хата, свой стол. Сам пасі сваіх начальнікаў. Мяне не чапайце.

З гэтымі словамі стары нырнуў у хмызняк, вярнуўся са слоікам мёду і вялікім тэрмасам. Паставіў слоік і тэрмас на стол, падаў кубкі, якія віселі на бярозцы, на ніжэйшых абламаных галінках, зноў знік у кустах і прынёс два сподачкі, дзве лыжкі.

— Хоць бы самім, кажаш, хапіла?

— А чаго мне хавацца? Летась я мёду ўзяў. Можна было і болей, ды... калі б не свірэпа.— Бацька развязаў шпагаціну, садраў паперыну, якая моцна прыліпла да слоіка. Мёд быў леташні, густы, колерам свежы, чырванаваты.— Я ўсё жыццё гляджу на свірэпу як на другі меданос. Пасля ліпы. Якое ні лета, а свірэпа заўсёды дасць узятак.

Васіль ведаў, чым не дагадзіла старому свірэпа. Не так яна, як самалёт, што з'явіўся над полем, дзе пасліся пчолы, сыпануў на іх воблака нейкага дусту, прапалоў і пустазелле, і пчол — аж тры сям'і выпалаў.

— Хімія цяпер у хаду,— заўважыў Васіль.

— Прыдумалі на сваю галаву.

— Ну, ты дужа не замахвайся,— не пагадзіўся сын.— Калі ў цябе тыя пчолы загінулі, дык яны — кропля для вобласці. Ужо не кажучы пра рэспубліку ці краіну. Зразумеў?.. Кропля! І маўчы.

— Па кроплі можна мора вычарпаць.

— Адно мора вычарпаем, другое нальём. Цяпер гэтакая сіла! Чалавек цяпер усё можа. Чалавек — уладыка!

— Лупіш, Васька, як па пісаным.

Бацька нервова адставіў кубак, ляснуў па стале лыжкаю і, насунуўшы на самыя вочы капронавы капялюш, увесь на дробных, што макавінкі, дзірачках, падаўся да вулляkoў.

А Васіль піў з мёдам чай і думаў, што не пра тое пачаў з бацькам размову. Што яму мёд, пчолы? Не яны пяклі душу, сядзелі ў галаве, гналі сюды, на пчалярню. Зусім іншае. І ён, аблізаўшы лыжку, пайшоў следам за бацькам.

«Шчаслівы ты чалавек,— думаў Васіль.— Жывеш сабе ў райскім кутку з пчолкамі. Ні табе службы, ні табе згрызот між людзьмі. Сто гадоў так пражывеш».

У лесе ўжо шэрхла, пчолы сядзелі па вуллях, і стары, скінуўшы з канцавога вулляка шапку, адганяючы пчол дымаром, аглядаў рамкі. Васіль падышоў, стаў побач. Рамкі ўжо напалову былі запячатаны — вясна на мёд выдалася не горшая за леташнюю. Задаволены, стары накрыў вулляк і толькі тады глянуў на сына. Нешта хацеў сказаць, ды Васіль яго апярэдзіў.

— Ты Кулаша добра ведаеш?

Бацька ўсміхнуўся, фукнуў на вулляк дымаром.

— Нешта вы сёння ўзяліся за Кулаша?

— Хто — мы? — не зразумеў Васіль.

— Ты, Андрэй. Таксама з'явіўся, пытаецца.

— Ён быў тут? — здзівіўся Васіль.

— Ён і цяпер тут. Напіўся чаю ды залёг у будцы. Кажа, што ноч кепска спаў, а чаю ■ мёдам налупіўся — у сон павяло. Пасплю, кажа, а пасля вы мне, дзядзька Сямён, раскажаце пра Кулаша. Навошта табе, пытаюся? Трэба, кажа, дужа трэба. І пра Кулаша, і не толькі пра яго, пра ўсё старое.

— Во як!..

Гэтага Васіль не чакаў, і, пэўна, іншым разам такая навіна ўсхвалявала б неверагодна, збянтэжыла б, але сёння ўжо было столькі хваляванняў, перажыванняў, што сэрца любую нечаканасць пачало ўспрымаць неяк спакойна.

І тое, што Андрэй тут, у бацькі, раптам падалося Васілю чымсьці звычайным, быццам ён і чакаў, што Андрэй сюды з'явіцца, каб распытаць пра Кулаша, пра Нікодыма, пра старую Лісань, пушчу і прабабку Марылю.

— Ну, а Кулаша ты добра ведаеш?

— Як жа не ведаць? Колькі сябе ведаю, столькі і яго. У адной пушчы жывём.

— Што ты пра яго ведаеш?

— Табе біяграфію?

— Не біяграфію, але...

— Ну... з Нікодымам ён леснікаваў у пана. Адзін воз цягнулі.

— Карэту панскую?

— Гэта ў яго спытай. Але... што табе — Кулаш?

— Сёння ён лугу прасіў.

— Ці даў жа ты яму?

— Абяцаў. Але не столькі, як ён хоча.

— Пашкадаваў?

— На ўсіх не набяруся.

Памаўчаўшы, бацька нагадаў, што немцы прыйшлі ў Гарадок дзевятага ліпеня, што за два дні да іх прыходу Васілю споўнілася ўсяго-наўсяго чатыры гадочкі.

— Навошта ты мне ўсё гэта кажаш? — спытаў Васіль.

— Ды... малы ты быў, каб вайну памятаць.
— Усё памятаць не будзеш. А тое-сёе ведаю. Сам расказваў.

Бацька сапраўды тое-сёе расказваў сыну пра вайну ў пушчы. У маштабах усёй вайны, на карце ўсіх баёў, вядома, пушчанскія баі былі не самыя гучныя, іх лёс вырашаўся адносна малымі сіламі, малым агнём, пра іх не пісалі ў падручніках па гісторыі; маладзейшыя, што нарадзіліся пазней, як баі, вялікія і малыя, мінулі, пажары патухлі, сляды вайны пазарасталі травамі, хмызнякамі і дрэвамі, аддавалі свае сэрцы Сталінграду, Брэсту, Ленінграду, там бачылі самы моцны вобраз вайны, а не ў баях пад Лісанню ці Ялоўкаю; але той, хто сам гарэў у мясцовым агні, ведаў, што малы агонь такі ж смяртэльны, як агонь вялікі. Гэта ведаў бацька, ведаў Кулаш, недарма бацька меў за вайну тры медалі, а Кулаш — Чырвоную Зорку. Праўда, Кулаш ваяваў сваёй зброяй — лячыў людзей травамі, зямлёю, змяіным ядам, тлушчамі лясных звяроў, загаворамі, паставіў на ногі шмат хворых і параненых партызан, акружэнцаў, бежанцаў, шмат каго хаваў ад немцаў.

Яго кардон немцы спалілі, але ўжо ў сорак трэцім, адступаючы. Спалілі б і Кулаша, ды ён выслізнуў.

— Хочаш, бацька, сказаць, што калі Кулаш лячыў параненых, дык я павінен яму адваліць лугу, колькі ён загадае? — спытаў Васіль.— Усе ваявалі. Ён лячыў раны, а нехта тыя раны меў, ад ран паміраў.

— Не тая песня, Васька.

— А якую ты хочаш пачуць? Спяваю, што ведаю.

Але ведаў ён не ўсё. Ён не ведаў, як у лютую марозную ноч сорак першага партызаны ўзарвалі драўляны мост цераз Сож, што звязваў Гарадок з пушчай, быў бой і ў тым баі аўтаматнай чаргой бацьку прашыла абедзве нагі. Колькі дзён ляжаў на партызанскай базе. Ногі распухлі, азызлі, сінюшныя пухліны паўзлі вышэй галёнак. Пачыналася гангрэна. Ужо атрадны фельчар навастрыў нажоўку, наліў літровы карац першаку, каб бацька выпіў перад аперацыяй, але ён заўпарціўся — самагонку ў рот не ўзяў, пілаваць ногі не даўся.

Ён прасіўся да Кулаша. А да Кулаша даро-

га была адрэзана — немцы стаялі па ўсім шляху, які вёў з Гарадка праз пушчу, і ўсе вёскі, што па Сажы — Ялоўка, Лісань, Пагарэлішча, Малінаўка, Варацец,— былі адрэзаны ад партызанскай зоны. Але неяк усё ж прарваліся. Ноччу, у адлігу, калі не рыпелі санныя палазы, бацьку прывезлі да Кулаша, і два месяцы ён плазам ляжаў у парні, дзе раней парылі дугі, палазы, абады, усё, што пасля гнулі побач з парняю на гібале — драўляным станку. Там стаяла печачка, у якой па начах Кулаш грэў ваду. Зачыніўшы трубуакенца ў столі, напускаў пары і гарачымі, нібы вугалле, венікамі, то бярозавымі, то хваёвымі, хвастаў ногі падоўгу, пакуль яны не пачыналі пахнуць жывым мясам, пасля ўціраў у ногі мазі, якія сам варыў, абкладаў травамі, распаранай дубовай карою, а то прыносіў — хоць і зіма, усё ляжала пад снегам-лёдам — глыжы сіняй, ажно блішчастай, нібы руда, зямлі, грэў яе да гарачыні і ёю мураваў ногі, абкручваў іх кажухамі. А то, калі бацька засынаў, Кулаш прыносіў змей, пускаў на хворыя ногі.

Змеі — узімку! Гэта было яшчэ большае дзіва, як тая сіняя зямля. Вер ці не вер, а на ногі Калаш бацьку паставіў. Зрабіў тое, што, мабыць, ужо ніводзін доктар зрабіць не мог.

І яшчэ Васіль не ведаў, як сам ачуняў у Калашавым шпіталі. Гэта ўлетку сорак другога, калі немцы адразалі партызан ад вёсак, заганялі ў багністыя Іржаўскія балоты, а партызаны кожны дзень увязваліся ў бой, дзе-нідзе рвучы блакаду. Прарываліся і да Кулаша на кардон, бо шмат было параненых. У тое лета злёг і Васька.

Камандзір адпусціў Зімаўца з сынам да Кулаша і яшчэ даў трох хлопцаў, каб разведалі на Сажы ахову пантоннага моста. У дубах, паміж Лісанню і Пагарэлішчам, завязалася страляніна. Трэба адыходзіць, пакуль ноч, а тут — малы на руках. Зімавец паспеў убіцца ў Кулашава жыта, там на гаспадара наскочыў. «І-эх, трасца, Сямён, хто цябе прыгнаў жыта ноччу таптаць?» А Зімавец — да яго: «Вырасце, Яўхім, тваё жыта. Прымі сына. Канае мой Васька. Калі не выхадзіш — канцы аддасць». Расхінуў жыта — дзіця ляжыць на ватніку, як не жывое. «Дыхае?» — спытаў Кулаш. «Дыхае. Але гасне свечачка. Пасоб, Яўхім. Век не забуду».

Падхапіў Яўхім дзіця на рукі разам з ватні-

кам, па жыце шаматнуў, нібы крот, у яміну. А Зімавец — да сваіх у дубы, у тую стралянiну. Тым летам немцы ўсё ж загналі партызан у балоты, непраходныя, і адно ўвосень, праз колькі месяцаў, Зімавец з'явіўся па сына да Кулаша. Сын ужо быў здаровы, вясёлы, адмыўся ад лішаёў, нібы не тое дзіця стала. Калі Зімавец пытаўся ў Кулаша, як ён лячыў Ваську, Кулаш не ўдаваўся ў свае лекарскія сакрэты, нікому іх не адкрываў, але сказаў, што лячыў жытам. Тады жыта сама красавала, і Кулаш па начах выносіў Ваську са свае нары, у жыце рассцілаў кажух, клаў на яго хлопчыка, голенькага, як маці нарадзіла, галоўкаю да маладзіка — атрасаў на яго красу з каласоў. Ночы стаялі цёплыя, парныя, каласы купаліся ў жаўтлявых аблачынах пыльцы. Краса абмывала хворага хлопчыка, ліпла на яго.

— Што ж ты, бацька, гэтага раней не расказваў? — як прачнуўся Васіль.

Стары замоўк і здзіўлена, усё роўна як сам сабе адкрываў нешта сваімі ўспамінамі, глядзеў на Сож.

— Чуеш, бацька?

— Чую, сын.

— Дык кажы, калі чуеш!

— Пасля вайны мы з Кулашам былі адзіныя на Лісаншчыне пчаляры. Якіх тры сям'і было ў яго, і тры ў мяне. Кожная пчолка была залатая, бо вайна звяла пчол. І помню, што ліпа цвіла. Буйна цвіла. Асабліва ў Лісані. Панскія абсады. Прывёз я туды свае вулякі, а там ужо Кулашавы стаяць. Не захацеў я ўступіць ліпы, бо яшчэ да вайны браў з іх мёд. Ну, нашы пчолкі тады і парэзаліся. Смертным боем. З трох сямей ледзь адну зляпіў. Кулашавы перамаглі. Яго парода была зласнейшая, каўказская, з доўгімі крывымі хабатамі.

— Дык вы з-за пчол зрабіліся ворагамі? Ад смерці адзін аднаго ратавалі, баранілі пушчу, а тут... Як заваявалі мір, ворагамі зрабіліся?

— А мы гэтакія спрадвек. Мужыкі.

— Мужыкі-і!..

Кроў гарэла ў Васілёвых жылах.

— Ідзі паглядзі Андрэя,— сказаў ён бацьку.— Пакінулі аднаго.

Бацька пайшоў, але хутка вярнуўся:

— Спіць. Але ўставаў, пакуль мы тут... Увесь чай з тэрмаса выхлебтаў, паўслоіка мёду з'еў.

— Абы на здароўе.

Бацька падаўся да вуллякоў, а Васіль адчуў стому ў нагах, сеў на трухлявы бярозавы пень, разгублена глядзеў на сцьмелы луг, на Сож і Засожжа, на дальгляд неба і зямлі.

Зноў з'явіўся бацька. Хадзіў-шнураваў паміж Васілём і вуллякамі, туды-сюды, як што згубіўшы.

— Яшчэ я табе скажу, сын,— загаварыў нервова.— Скажу, бо... Я ўсё жыццё марыў убачыць Зімаўцоў гаспадарамі пушчы.

— Яе гаспадары — усе мы, людзі.

— Ат, не кажы, Васька. Усе! Можа, і ўсе. Але ж дырэктар — ты, Васіль Зімавец! Некалі пушчаю правіў пан. Тады казалі, што пан ды воўк — два цары ў пушчы. А Зімаўцы былі ў пана парабкамі. Паздзекаваўся ён і з твайго дзеда Нікодыма, і з твае прабабкі Марылі.

— Прабабку не ведаю.

— Дык я ведаю. Паздзекаваўся. А я даказаў, што Зімаўцы не вечныя парабкі. Сам з нястачы выбіўся. Цябе ў людзі вывеў. Былі Зімаўцы парабкамі. А цяпер? Хто ў пушчы гаспадар? Зімавец! І я цяпер магу паміраць з лёгкай душою. Бо даказаў. І нішто, ніводзін чорны дзень успамінаць не хачу. Што было — як не было. Быллём парасло. Гэтак хачу жыць. І каб ты гэтак жыў!..

— Ну... ідзі пабудзі Андрэя. Трэба ехаць.

Але бацька стаяў, не варушыўся. Як не чуў.

Пайшоў Васіль.

З будкі ўроскід тырчалі Андрэевы ногі ў ботах, чуўся салодкі храп.

Васіль сеў супраць будкі на калоду. Не давалі спакою думкі: «Што ж гэта са мною? Перад кім вінаваты? Перад Кулашам? Але столькі гадоў мінула, як была вайна! Ніхто дагэтуль не казаў, што я вінаваты. Сам чалавек хіба можа ўзяць на сябе віну? — не зводзіў вачэй з Андрэевага вялізнага бота.— Ты, братуха, шчаслівы. Можа, таму, што малады? І я быў гэтакі, пасля інстытута. Садзіў ля канторы блакітныя елкі. Цяпер глядзець на іх няма часу. Можа, уся праўда — у маладых гадах? Можа, дзіця да праўды бліжэй, як стары? Але якое дзіця?.. Тое, што ў жыцце?.. Голенькае?.. У красе?.. На руках у Кулаша?..»

Звечарэла, калі Зімавец выехаў на шлях, спыніўся на ўзбочыне.

Час быў позні, дома чакалі, а душа вяла на лісанскую дарогу, і ніякай цвярозасцю сябе не пасіліў — звярнуў.

Даехаў да канторы, але тут не спыніўся — газануў міма, на Пагарэлішча.

Сам не ведаў, навошта ехаў да Кулаша. Ну, пабачыць яго — што скажа? Паабяцае лугу? Смеху варта, калі з-за лугу.

А што яшчэ? Ды і Кулаш як паглядзіць? Можа, як у канторы — адным вокам будзе пяліцца, а другое схавае? І калі, пакінуўшы машыну збоч дарогі, ідучы да Кулашавай хаты, зводдаль заўважыў на дзвярах накінуты на прабой чэп, а ў прабоі драўлянае, на шпагаціне, заткала — раптам абрадаваўся, што гаспадара няма.

Ад хаты, якую пасля вайны Кулаш ставіў на сваім старым дворышчы, дзе быў кардон, сцежка вяла праз жыта ў хвойнік.

На жытняй руні Зімавец спыніўся. Яму падалося, што жыта тое самае, ваеннае, хоць гэтаму да красы яшчэ далёка. Захваляваўся мацней. Хутчэй падаўся ў хвойнік.

Ад парні тое-сёе засталося. І гібала ля парні стаяла.

Яно, праўда, ужо даўно спарахнела, сыпалася, хоць некалі рабілася з камлёвага дубу. Адно жалезныя абручы тую парахню трымалі.

Высыпаліся і дзверы парні. Крывое кручча, на якім лускою адставала рудая ржа, тырчала з дубовых стаякоў, таксама трупехлых. Уваход быў завалены жэрдкамі, дошкамі, ламаччам. Відаць было, што Кулаш даўно закінуў гэты кут, не блюў тут ніякага парадку.

Зімавец адкінуў ламачча, спусціўся ў падзямелле.

Пахла цвіллю, мокрай цэглаю, трупехлым дрэвам, гніллю. Але не відаць нічога — цемень. Зімавец чыркануў запалкаю. Пасівелі асыпаныя, аброслыя белай цвіллю сцены, пад нагамі — трэскі, анучы, іржавы дрот, цэлы скрутак, шчарбаты чыгун. Падчапіў чыгун носам бота — той адляцеў і глуха грукнуўся ў цёмным куце.

Закаўкала кошка.

Зімавец ажно скалануўся — не спадзяваўся пачуць тут жывы голас.

Запалка пагасла, а кошка ўсё каўкала, як прасіла ратунку. Тады ён пасвяціў у кут, куды шпурнуў чыгун.

Спачатку згледзеў два зялёныя агні, кошчыны вочы, а пасля ўбачыў разламаны кош, у якім тыя вочы сядзелі. Падышоў бліжэй. У кашы, на анучах і сене, ляжала вялізная рабая кошка, а ля яе поўзалі яшчэ сляпыя рабенькія, як матка, кацяняты. Каб не палохаць жывое, каб яно супакоілася, замоўкла, Зімавец адступіў назад.

Ён ніколі раней тут не быў, першы раз разглядаў парню, а падалося, што ўсё гэта недзе бачыў: рабую кошку з рабымі кацянятамі ў кашы, на анучах і сене, чыгун пад нагамі, недзе раней чуў гэты, ніякі не іншы, пах цаглянага друзу, трупехлага дрэва, іржы, гару, едкага пылу. Усцёр яшчэ адну запалку і выйшаў.

За Пагарэлішчам пачаліся дубы. З левага боку, дзе Сож, блішчала старое рэчышча. На яго беразе, воддаль, мігцела цяпельца.

Зімавец спыніўся, вылез з машыны і адразу заўважыў Кулаша. Той падышоў да цяпла — у адной руцэ вясло, у другой рыбіна. Вяслом разгарнуў вугалле, кінуў рыбіну край вогнішча, прыгарнуў прысакам, сам сеў, выпрастаў на траве босыя белыя ногі. Доўга сядзеў не варушачыся. Адно вусны варушыліся. Зімаўцу падалося, што стары з кімсьці гамоніць. А з кім? Ён там быў адзін. З агнём? Успомніў, як год назад Дзімка, яго сын, уляцеў у хату, пачаў расказваць, аж захлёбваючыся, што нейкі Кулаш з Пагарэлішча можа выклікаць да сябе змяю — гэтак Валошкаў Юрась казаў. Нібыта Юрась з сябрукамі развёў за Сажом вогнішча, а да іх падышоў Кулаш, і старэйшыя хлопцы пачалі са старога кепікі строіць: пакажы ды пакажы, дзед, як ты змяёй камандуеш, калі не брахня. Кулаш ім што ні казаў — яны не верылі. Маўляў, манюка ты, дзед. Вось дакажы, што не манюка.

Тады стары пайшоў ад вогнішча ў лес і праз колькі часу вярнуўся са змяёю — яна паўзла ля яго ног побач.

Зімавец зноў бачыў, як Кулаш варушыць вуснамі, нібы з кімсьці гамоніць. Зноў падалося, што насупраць

старога хтосьці сядзіць. Можа, гэткі малы, што не відаць нікому, акрамя Кулаша? «А калі — той хлопчык? Замшэлы, запляшывелы лясны валунок... з вайны?.. На кажусе, у жытняй красе...»

Ад раптоўнае думкі схаладала ў грудзях. «Што гэта? Адчуванне радасці альбо жаху? Той хлопчык не мог дагэтуль застацца маленькім. Бо ён — гэта я, Васіль Зімавец! Я даўно — не хлопчык. Але... калі я — не хлопчык, то, можа, той хлопчык — не я?.. Можа, я некалі быў тым хлопчыкам, а пасля... Можа, той хлопчык застаўся назаўсёды з Кулашам, а я — гэта я, сённяшні, усяго толькі сённяшні, і нічога ўчорашняга ва мне няма? І гэтакім мяне зрабіў бацька? Бо гэта яго словы: «Што было — як не было, быллём парасло. Хачу, каб і ты, сын, гэтак жыў. Глядзі ўперад, не азлядайся...»

Зімавец сцяўся ад нейкае халоднай жудасці, разгубленасці, закалаціўся, парывіста адвярнуўся ад вогнішча, грудзьмі і тварам сунуўся ў дуб, які стаяў побач, у яго шурпатую, нібы сшэрхлая дарога, кару.

Недзе забрахаў сабака. За дубамі, ля Сажа. Забрахаў, а пасля ўсчаў візгат, быццам яго хто душыў. І — замоўк.

Блізка была вёска.

## 5

У дуброве даўно сцямнела. Нікога не было чуваць і відаць і ў Лісані, на дзвярах канторы вісеў замок. Нават дзед Гарох усё роўна як пакінуў вёску, некуды знік.

А дубы ляжалі.

Валошка даў кругаля вакол дубровы, абышоў яе ўсю, пабыў на тым месцы, дзе да вайны і ў вайну стаяла пільня, дзе немцы пілавалі дубы на калоды ў шашу, узышоў на ледзь прыкметную ўжо наспу, па якой ад былое пільні праз пушчу ў адзін бок і праз Сож у другі ляжала вузкакалейка, уявіў — дзе, на якім месцы грымеў браневічок Ракіцёнка. Тое месца — каля самае пільні. Дубоў там цяпер — дзе-нідзе, зусім звёўся гай. Усё агледзеўшы, пабыўшы нават на панскім дзядзінцы і магільніку, вярнуўся да спілаваных дубоў, сеў на свежы пень і сядзеў яшчэ доўга, ужо ў цемені.

На адзіноце з дуброваю заўсёды добра думалася.

А думкі былі не новыя, тыя самыя, што ўдзень. Хіба толькі яшчэ ніколі гэтак балюча не думалася аб тым, як хутка мяняецца навакольны свет. Мяняюцца людзі, дрэвы, вёскі. Усяго гадоў пятнаццаць рабіў у Лісані, а як яна за гэтыя гады змянілася! Усяго трыццаць гадоў, як вайна адгрымела, а дзе ўсё тое падзелася, што было?

Дзе тая вялізная дуброва, пра якую расказвалі старыя людзі? Дзе тая пільня ў дуброве? Дзе вузкакалейка, па якой да вайны вазілі з глыбінь пушчы лес да Сажа і праз Сож — на рум? Ад вузкакалейкі адно месцамі наспа відаць, аселая і зарослая, удзірванелая. Ад пільні не засталося ані знаку. Здагадвайся, дзе была. І лясы не тыя. Адны павысякалі, другія павырасталі. Гэта за трыццаць гадоў. А калі ўзяць Нікодымаў час ці камунараўскі? Устаў бы Нікодым — нізавошта не пазнаў бы сваю Лісаншчыну. Як чалавек жыве ўсе гады на адным месцы, дык не вельмі заўважае змены, бо ўсё на вачах робіцца спакваля. Як на вачах у Кулаша, дзеда Гароха, Ракіцёнка. А і то ўздыхаюць — не тая пушча. Балюча ад змен. І не таму, што змены — к горшаму. Дзе к горшаму, а дзе к лепшаму. Балюча, пэўна, таму, што знікае памяць пра тых людзей, якія жылі, пра тыя дрэвы, сцежкі, падзеі. Няма, пэўна, нічога страшней, як калі памяць знікае. Калі чалавек забывае, што было да яго. Бо тады ён не бачыць, што будзе пасля яго, нават мо і пры ім, але пасля, пазней. Нібы курыца, грабецца ён у сваёй ямцы, пад сабою. Абы зараз, у гэты міг, было як след, а далей, навокал,— нібы чужое. Страшней няма, як жыць гэтак.

Цямнела, а Валошка, пра што б ні думаў, бачыў два колеры: зялёны і чырвоны. Зялёны — зразумела адкуль. А чырвоны? У чырвоным было ўсё, што за мяжою сваёй памяці, што было да яго, але пра што яму казала памяць дубоў, Сажа, пушчы, дзеда Гароха, Кулаша, маці, Нікодыма — праз іх ён бачыў зямлю быццам на ўласныя вочы, адно толькі ў чырвоным колеры, у агні, мо нават у тым самым агні, які бушаваў тут, у дуброве, у якім згарэў маленькі Ракіцёнкаў бранявічок.

Зоркі высыпалі па ўсім небе, калі раптам Валошкавы думкі перапыніў дзікі Лесікаў крык. Ён узнік

недзе ля Мураўчысінай хаты, па той бок Лісані, за Трасцінкаю, але набліжаўся.

Лесік ішоў у дуброву.

Валошка ўсхапіўся з пня. З тым Лесікавым гуканнем яму пачулася бомканне звона, якое чуў уранні, якое прывяло сюды, у дуброву. Ажно сэрца моцна затахкала, быццам дзень цэлы, увесь вечар толькі і чакаў тут Лесіка. Быў рушыў насустрач, на яго страшны, як зімовае ваўчынае выццё, голас, ды схамянуўся — ці варта зараз лезці Мураўку на вочы? Валошка ведаў, што пад гэтую сваю песню Мураўка не шукае людзей, нават уцякае ад іх, бо з гэтай песняй ён шукае сваіх белых птушак і баіцца, каб хто-небудзь не спалохаў іх, не разагнаў. Але ён ішоў сюды, у дуброву. І Валошка падаўся не насустрач, а ў процілеглы бок — праз дуброву на дарогу, што вяла да шашы.

Месяц над лесам стаяў шчарбаты, як сходам. Святло [illegible] неба ліў зыркае, чыстае.

Доўга, амаль да самага шляху, у спіну, з Лісані, чуўся Лесікаў крык. Ужо прыглушаны, але вусцішны.

Валошка выйшаў на асфальтоўку. Машыны не ішлі. Ні ў адзін бок, ні ў другі.

Было позна.

Падаўся ў Гарадок пешкі.

Ноч стаяла ціхая, без ветру. Парыла, быццам зноў перад даждждом. Ад духаты сушыла ў роце.

Дайшоўшы да мастка цераз Трасцінку, Валошка спусціўся пад адхон — да вады.

Хоць і цемень, а не шукаў доўга, як падысці напіцца, бо ведаў на гэтай дарозе кожны камень, кожны след, тут сваіх слядоў папакідаў — адзін на адным.

Прыгаршчамі напіўся, пастаяў у цішыні над вадою, прыслухоўваючыся да начнога лесу. Ціша, ні галасочку. Адно ўскрыкнула сава.

Падняўся на асфальт, азірнуўся: ці не падсвечваюць створ дарогі, край неба ці лесу далёкія фары? Не, машыны ўжо не хадзілі.

З абочыны зрабіў якія тры крокі на шлях і раптам стаў як укопаны, далей — ні з месца. Перад ім, усяго крокаў за дзесяць, якраз пасярэдзіне асфальту, стаяў — вочы ў вочы — воўк. Вялізны, гарбаты, вушы — тарчма, а вочы блішчаць белым святлом, нібы зоркі нябесныя.

«Божа мілы! Адкуль узяўся?..»

Воўк быў увесь як абсыпаны тым самым белым святлом, што ззяла ў яго круглых вачах. Гэтак на ім блішчэла старое сівоцце — халодным срэбрам.

«Мацёры! — мільганула ў Валошкавай галаве.— Ну?! Што ты ад мяне хочаш? Навошта ты мяне пераняў? На якую размову? Дый на асфальце... Надта ж ты смелы...»

Рукі неяк самі, не чакаючы каманды, намацалі кішэні, але тут жа і замёрлі — Валошка ўспомніў, што сёння пры ім няма нават нажа, што чахольчык ад фінкі пусты. Не забыўся, проста даўно не насіў фінку з сабою.

Гэтак і стаялі — адзін перад адным. Чалавек і воўк. Абодва здранцвелыя, разгубленыя ад нечаканасці, ад сустрэчы, але страху адзін перад адным не адчувалі. Чалавек шмат пабачыў іх, шэрых, добра ведаў іх і сілу, і слабасць, і нораў. Тым больш не баяўся тут, на асфальце, ды яшчэ на пачатку лета, калі ваўкі асцярожныя, бо не галодныя. А воўк, вядома, таксама не спалохаўся чалавека, бо ў чалавека не было стрэльбы, а без стрэльбы ды без сабакі чалавек слабы — гэта воўк ведаў. Ды і абрыдла ўвесь век баяцца. Воўк быў стары, сівы, колькі разоў за сваё жыццё ён ішоў праз агонь, праз сцяжкі, з-пад стрэлаў, абыходзіў смерць. Гэта быў той самы мацёры — Валошка ўжо здагадаўся,— які ўсю зіму вадзіў вакол Асечы ваўчыцу і пераярага, вадзіў-вадзіў, а пасля знік з усёй сям'ёю і вясной зноў прывёў ваўчыцу — у Дзебру. Вывадак забраў Рысеў, ваўчыцу і пераярага мацёры страціў сёння. І вось, вырваўшыся з-пад сцяжкоў на аблаве, недзе ў балоце, у нейкім гіблым месцы пераседзеўшы, пакуль сцямнее, аціхне, ён адзін, асіроцелы, пакідаў Дзебру, Асечу, гэты жахлівы лес, ішоў шукаць іншыя, цішэйшыя лясы.

«Ну што скажаш, стары?.. Цяжка аднаму?.. Я цябе разумею».

Воўк унурыў галаву ў плечы, яшчэ больш згорбіўся, прыўзняў азадак, падцяў хвост, як згатовіўся накінуцца. Але Валошка быў спакойны. У гэтай грознай паставе воўка ён убачыў не толькі гатоўнасць кінуцца на чалавека, але і тую ж гатоўнасць бегчы ад яго.

«Не, ты ўжо не воўк,— падумаў Валошка.— І ты, і ўсе твае сваякі — ужо не тыя ваўкі, якіх мы, людзі, калісьці ведалі і баяліся. Вы — зайцы. І ты — заяц... апошні пушчанскі воўк...»

Валошка прагна ўглядаўся ў белыя блішчастыя вочы мацёрага, быццам увесь свет быў зараз у спалоханых ваўчыных вачах, і чым даўжэй углядаўся, тым глыбей, здавалася, адчуваў самога сябе, свой неспакой, свой даўні боль за ўсё жывое.



# ДЗЕНЬ БАРЫСА І ГЛЕБА

## АПОВЕСЦЬ

Гэта каб цеплаход, сапраўдны белы цеплаход, прыплыў у Сычыкі, ды пад самыя вокны,— такога тут яшчэ ніколі не бачылі і ў снах не снілі.

Па Сажы цеплаходы хадзілі здаўна, уверх-уніз, але вёска не ля самай ракі прыгрэлася, яна аблюбавала ўзгорак над вялікай затоняю, з усіх бакоў парослай зялёным вастрапёрым аерам, нібы маладое вока буйнымі вейкамі. Затоня разлілася ад Сажа ледзь не на паўвярсты, а ўсё роўна гэта не тое, што Сож,— не раўня. Сож паўнюткі, глыбокі ў любую пару, а яна то ападзе ў берагах летняй спёкаю, глядзіш, укрыецца гарлачыкамі ды раскаю, то падымецца, нальецца-напоўніцца — гэта ўвесну ці ў залеву,— а ў гарлавіне, дзе затоня і Сож цалуюцца не нацалуюцца, неспакой вечны: вада то бяздонныя яміны павымывае, дасць акуням ды ляшчам прытулак, то пяску нагоніць — бабы, задраўшы спадніцы, уброд ходзяць. Дык ці сюды, у гэтую пасадку, цеплаходам дарога?

І раптам — навіна, ад хаты да хаты:

— Цеплаход пад Гапачкінай вярбою!..

Дзіва дзіўнае адбылося надвечар, калі налітае маё-

вай пяшчотаю сонца скацілася з канцавой страхі, села за канцавым садам, апошнімі прамянямі дастаючы адно самы высокі ў Сычыках шыферны вільчык трохпавярховай, з белай іскрыстай цэглы школы. На высокім беразе гэтай парою тырчалі адны малыя: з вудамі, веласіпедамі, сабакамі. Згледзеўшы белы-бялюткі, па-вяснοваму чысты і светлы цеплаход, яны пусціліся ў скокі, нібы зроду не бачылі цеплахода, а калі той развярнуўся і вострым лычом парнуў жоўтую пясчаную кручу — замоўклі, хто дзе быў — той там прыкіпеў. Хвілін колькі стаяў цеплаход, ніхто не выходзіў на белую палубу, і маўчалі на беразе хлапчукі, а потым адзін з іх, самы спрытны, ускочыў, апамятаўшыся, на веласіпед, галёкнуў: «Цыган, за мною!» — і панёсся, скрыгочучы старымі педалямі, сеючы вецер і навіну незвычайную. За галёкалам следам далі драла Цыган, чорны, нібы вугельчык, вясёлы сабачка, і двое меншых хлапчукоў, якія не маглі ўгнацца за веласіпеднымі коламі і чацвераногім, адсталі, але шыбавалі колькі таго духу, азіраючыся, і ўсё крычалі: «Цеплахо-о-од!..»

За лабавым шклом рубкі ля штурвала з берага была відаць высокая сіняя фуражка з бліщчастым крабам — капітан ці механік гартаў сшытак і туды-сюды варочаў галавою, пазіраючы то на ваду, то на бераг, на людзей і хаты.

Круглы сівенькі дынамік над рубкаю варухнуўся і самавіта, усё роўна як сам начальнік, павярнуўся да берага.

— Глянь, морду выставіў,— заўважыў хтосьці з малых.

Дынамік, як пачуўшы абразу, грозна прахрыпеў, адкашляўся, быццам хворы дзед, падаў каманду:

— Кідай швартовы!

На палубе ніхто не паказваўся, на бераг з цеплахода ніхто нічога не кідаў, і праз нейкую хвіліну дынамік скалануў паветра на ўсю сваю сілу:

— Ну што... маржовыя?! Паглухлі?..

Дзятва на беразе адгукнулася дружным рогатам, свістам; дынамік, нібы засароме́ўшыся, прыціх, аддыхаўся, яшчэ раз адкашляўся і ўжо іншым, нясмелым ці вінаваатым, нудна заспаным голасам завёў:

Когда внезапно возникает
Еще неясный голос труб,
Слова, как ястребы ночные,
Срываются с горячих губ...

Пад гэтую песню, узнёслую, але і нейкую мудрагелістую, асабліва вясковай малечы, на палубу выйшлі двое: адзін — малады мужчына, яшчэ хлопец, танклявы, доўгі, маруда-маруда, ледзь жывы, хворы ці гультай, а другі — пажылы, нават стараваты, ростам малы, поўны, ажно пуза цераз рэмень вывалілася, аднак рухавы, усё роўна як рабіў, баючыся, што могуць выправадзіць на пенсію, па старасці ды па слабасці. Нічога матроскага ў іх абліччы не было — ні цяльняшак, ні бесказырак са стужкамі, якарамі, ні бліпчастых бляшак на жыватах,— штаны і кашулі звычайныя, што і на вясковым чалавеку, але з берага іх прызналі за матросаў, бо хто служыць на цеплаходзе, як не матросы? Малады ледзь з'явіўся на палубе — выкінуў рукі ўгору, прыўзняўся на дыбачкі, дастаючы рукамі неба, шырака, на ўвесь рост, ладны, нібы ў жабы, мусіць, са сну, пазяхнуў, развёў рукі ў бакі, сціснуў кулачча, баксануў паветра і агледзеўся. Пакуль ён рабіў зарадку, пажылы абабег палубу, падхапіў дошчыну — трап,— адзін яе канец юзам пусціў з палубы пад кручу на мокры пясок і затупацеў па дошчыне ўніз. Малады нетаропка паскідаў яму за борт вяроўку, лом і доўбню. Цяжка хакаючы, пажылы доўбняю загнаў лом у пясок, накруціў на яго вяроўку — прышвартаваўся,— зноў узбег на палубу.

Папрацаваўшы, не грэх і закурыць. Малады дастаў з кішэні бліпчасты, у цэлафане, пачак з цыгарэтамі.

Стаялі, пыхкалі сівым дымком у неба дый спакваля, адпачываючы, разглядалі бераг, людзей на беразе, хаты...

У дзверы нехта асцярожна дзеўбануў дзябёлым, як драўляным, пальцам, але ў кают-кампаніі быццам не пачулі — ніхто не адгукнуўся. Дзверы ўсё ж ціхенька прачыніліся, зазірнуў капітан цеплахода: спакойны, мажны, сталых гадоў, з загарэлым, як спелы жолуд, тварам і пасівелымі скронямі, уважлівы, нават далікатна паблажлівы да сваіх трох пасажыраў, якія ахвотна, нібы родную печ, асядлалі кают-кампанію і выходзілі з яе зусім рэдка: снедаць, абедаць, вячэраць ды яшчэ, вядома, у гальюн. Заўважыўшы на адкідным століку ля круглага ілюмінатара карты і вялізную, мо на цэлы літр, чорную, як смерць, «бомбу» — пляшку з танным віном,— капітан ніякавата зачмыхаў у востры танклявы нос, заплюскаў разумнымі вачыма, ад-

вёў іх, каб нічога таго не бачыць. Ён, вядома, не таму занепакоіўся, што ўбачыў пляшку ды карты,— непакоіла іншае: як бы людзі не падумалі, што ён, салідны гадамі і стажам, можа, самы немалады і салідны ў сваім параходстве капітан, сочыць за імі, ловіць на пляшцы, на картах. Колькі плаваў, гэтым не славіўся. А падумаць людзі — хто яго не ведаў — маглі, несправядліва маглі падумаць. Быццам ён вінен, што ўжо два дні і дзве ночы на століку нішто іншае не ляжала і не стаяла, акрамя чорных «бомбаў», шклянкі, адной на траіх, пашарпаных карт і попельніцы, заўсёды заваленай бычкамі.

Адвёўшы вочы ад століка, таропка паведаміў:

— За бортам вёска Сычыкі.

Адно Ціма, прыгожы чарнявы барадач, азваўся:

— Доўга будзем стаяць?

— Колькі вам трэба,— прыемным ветлівым басам адказаў капітан.— Хоць да раніцы.

Пытанняў да капітана больш не было, і ён выйшаў, нячутна прычыніў за сабою дзверы.

— Сямёрка бубі! — абвясціў Мазепа, пераможна адкінуўшы назад галаву і прыўзняўшы бараду. Яна ў яго была кудлатая, сівавата-шэрая, па краях рудая.— Твае слова, Князь?! — кінуў з выклікам у хітраватых вузкіх вачах, пляснуў аб стол картамі і зарагатаў.— Ну, сталіца?! Мацъ вашу, сычыкі!..

На ложку, прыкінутым коўдраю, тварам прытуліўшыся да ілюмінатара, па-дзіцячы ўпліпічыўшы нос у шкло, сядзеў маладзейшы за сябрукоў Ромка. Ціха і ўзнёсла, самому сабе, казаў:

— Вунь і чайкі, як на моры. Белыя.

Яго ніхто не слухаў.

— Віст! — сказаў Ціма і — да Ромкі: — Ляжам?

— Без двух, Князь,— не гледзячы ў іхнія карты, кінуў Мазепа.— Прашу сорак на горку.

— Якія сорак? — Ціма згроб Мазепавы карты.— Зноў галаву марочыш? Пры чыстай дзевятцы сем абвяшчае! Бачыў такога? — заклікаў у сведкі Ромку.— Махляр! — Ціма заўсёды гуляў сумленна і не любіў круцельства.

— А ты лічыў? Ты іншы? — усхадзіўся Мазепа.

— Сумленне трэба мець! — Ціма схапіў сябрука загрудкі. Пад сталом ля ног зазвінелі і пакаціліся пустыя «бомбы».

— Ну чаго вы звярэеце? — цвярозым, разважлі-

вым голасам спытаў Ромка, які гуляў таксама, але абыякава глядзеў на выйгрышы і на пройгрышы, да сэрца, як яны, не браў, гуляў, абы падтрымаць кампанію.— Князь!.. Адпусці яго. Гарбатага магіла выправіць.

Паслухаўшы Ромку, нібы голас уласнай душы, Ціма адштурхнуў ад сябе Мазепу, пасадзіў на месца, запісаў у сшытак ачкі, свае і Мазепавы, на свой і на яго рахунак, наліў у шклянку чырвонага, залпам выпіў і, паспакайнеўшы, адваліўся на вузкім, супраць Ромкі, ложку, спіною да сцяны, стомлена заплюшчыў вочы. Не бачыў, адно чуў, як моўчкі паўставалі Ромка і Мазепа, выйшлі за дзверы, падняліся на палубу — чуў іх крокі. З хвіліну пасядзеўшы, расплюшчыў вочы, падсунуўся бліжэй да ілюмінатара.

За бортам ляжала нерухомая, зусім нежывая, шэрая, ані бліскаўкі, вада, над вадою кружыліся чайкі, белыя, але не такія гладкія, як на моры, драбнейшыя, і не было відаць берага, ніякіх нідзе не было Сычыкаў.

Ціма дастаў з бакавой кішэні пінжака стары, у зялёнай вокладцы, пашпарт. З фота шчасліва ззяла наіўная блазнаватая фізіяномія. Ухмыляючыся свайму маладому партрэту, урачыстым голасам прачытаў: «Мурашка Цімафей Міхайлавіч. Месца нараджэння — вёска Сычыкі». Адкінуў пашпарт на стол, на растрэсеныя карты, закурыў і з цыгарэткаю ў зубах, заклаўшы за галаву рукі, паваліўся на ложак. Ведаў, што на палубе яго чакаюць Раман і Мазепа, чакае капітан Краб, чакае, выставіўшы з-пад караткавага белага халаціка круглыя каленькі, гаспадыня камбуза «міс кок Зіначка», яшчэ зусім дзіця, чакаюць механік і матросы — усе цяпер там, на палубе, бо ўсім не церпіцца ўбачыць, як ён, князь Цімафей Міхайлавіч, першы раз у сваім сталым жыцці сыдзе на родны бераг. Але ён не спяшаўся ім на вочы, на вочы сваёй вёсцы, радні, ляжаў і выглядам, быццам тое, што рабілася навокал, яго не датычыць, быццам ніякіх Сычыкаў на беразе няма, а калі ёсць, дык у яго з імі — нічога агульнага, нічога блізкага.

Вось толькі сэрца не падманеш — сэрца хвалявалася. І зноў, каторы ўжо раз, Ціма выцягнуў з-пад падушкі лоцыю.

Учора гэтую лоцыю прынёс капітан. Тады Ціма яшчэ не ведаў, што наперадзе па іх водным шляху будзе ягоная вёска. Адно ўвечары, калі адстралялі чар-

говую пульку ў прэферанс і Раман, прайграючы ўжо цэлага траяка, здаваў карты пад наступную, Ціма разгарнуў лоцыю, пальцам правёў па звілістым блакітным пункціры фарватэра, і сярод лоцманскіх знакаў, назваў вёсак, прыстаней, плёсаў, перакатаў палец упёрся ў дробненька выпісанае слоўца: «Сычыкі». У галаве зазвінела, нібы ў склеротыка. Прыгадаліся пахілая хата, плот і веснікі з частакола, вузкая пыльная дарога, барадаты сівы дзядок, аблеплены пчоламі; пчолы поўзалі па барадзе, галаве, твары, белай палатнянай кашулі, узляталі з дзеда, нібы з вулляка, а іншыя прылятылі і садзіліся на яго, нібы на вулляк. Можа, пчолы і поўнілі галаву звонам?..

Не, гэта яна, яго вёска. Душа заныла, падказвала, што яна, родная. Ды і назва рэдкая, другой такой, мабыць, няма ва ўсім свеце. І раён супадаў. І рака — правы бераг Сажа.

Ціма ўсхапіўся з ложка, нервова захадзіў па каюце. Зноў сеў. Галава была цяжкая, нібы свінцом налітая.

Заплюшчыў вочы...

Звон у галаве не аціхаў. Ён быў танклявы і нудны, быццам недзе пад чэрапам зумкаў камар. Здавалася, што ўжо не адчэпіцца, давядзе да вар'яцтва.

Але з таго нібыта нуднага звону раптам узнікла музыка — тая, якою яшчэ і цяпер жылі, хоць не абавязкова, як раней, ціхія, хоць ужо не вельмі, ужо толькі адносна ціхія селавыя дарогі, вузкія і доўгія, прашнураваныя ўлукаткі, падобныя на сцежкі.То была музыка колаў фурманкі. І сама фурманка — тут як тут. І конь шэры, у белых яблыках. І бурая дарога пад капытамі, пад коламі. З-пад колаў і конскіх капытоў курэў буры пыл.

Фурманка бегла між зялёных, да цёплага бляску сагрэтых сонцам палёў, туды, дзе віднеўся вялікі лес. Дарога да лесу блізкая, а лес усё не набліжаўся, хоць колы беглі і беглі, спяваючы адвечную, як зямля і неба, песню: рыгу-рыг, рыгу-рыг...

А дзе ж сам фурман? І фурман быў на месцы, нават два: з глыбокага воза тырчалі дзве галавы — адна ніжэйшая, малая, чарнявая, з лапушыстымі вушамі, якія на сонцы прасвечвалі не ружовасцю — белізной, а другая вышэйшая, вялікая, на вузкім доўгім

карку, сівая, быццам дарожным пылам прысыпаная.

Дзед Акім?..

Ціма пазнаў старога і, пазнаўшы, убачыў раптам нізкую шэрую столь, чорную сцяну з круглага бярвення, чорны мох паміж ім, у пазах, мутнае акно, завешанае фіранкамі, выразанымі з газеты, даўно пажоўклай. Стаяла чырвоная, глінаю абмазаная печка з дзвюма цёплымі, як вочы, пячуркамі — з іх тырчалі рукавіцы, пашытыя са старой кажушыны, і шарсцяныя шкарпэткі, вязаныя дзе з чорных, дзе з белых — якія былі — нітак. Ля печы пад пячуркамі стаяў слончык, на ім ляжалі боты, падэшвамі да печы — Цімавы, з усіх бакоў аблепленыя латкамі, дзедавы понеданоскі. Сам Ціма ляжаў на палку за печчу, а побач з ім стаяў дзед Акім, трымаў у вялізных, як праснакі, руках жоўтую, са снараднай гільзы, конаўку,— лагодна казаў:

«Ну падыміся. Ну выпі адвару...»

Дзед Акім высокі, хударлявы, з выгляду слабы — вецер паваліць,— але плечы шырокія, рукі доўгія, вялізныя, сіла ў іх дай божа, твар доўгі, усё на твары задоўгае: нос, піла пілою, вушы-лопухі, барада. Не, ён зусім не страшны; хто яго не ведае, таму ён можа здацца і д'яблам, а на самай справе дзед Акім ласкавы, голас у яго, як у маткі Цімавай, не кажа — кавалачак просіць:

«Ну, Цімафей?.. Ці доўга я буду стаяць з зеллем?»

«Баліць»,— стогне, апраўдваючыся, Ціма.

«Анягож?.. Хочаш, каб не балела».

Ён адстаўляе конаўку, адкідае з Цімы дзіравы кажух, варочае Ціму на жывот, задзірае на спіне сарочку і пальцам пачынае мазаць балючыя мясціны. На пальцы ў яго цёплая канаплянка — мазь, якую варыць з канаплянага семя, палец мяккі і цёплы. Але спіна садзее, Ціма курчыцца, стогне, і дзед Акім, каб не чуць таго стогну, кажа:

«Яшчэ б не балела. Надумаўся да пчол у дупло лезці. Салодкага захацелася. Яны ж, пчолкі, самі галодныя на вясну вылецелі. Ім яшчэ трэба дажыць да кветак».

Нібы ад шкадобы да пчол, Ціма пачынае румзаць:

«Мяне Віцька падвучыў».

«А дзе ж ён сам быў, што яго ніводная не ўкусіла, усе на цябе навaліліся?»

«А ён далей стаяў, за другім дубам. Кажа, бяры

халудзіну, дастанеш ёю дупло і пары ў дупле, пчол выпорвай, а як выпараш, тады мы палезем на дуб, мёд забяром, наядзімся ад пуза і яшчэ ўдвору прынясём. Там, кажа, цэлы пуд мёду. Вой!.. Балюча...»

«Бачыш, які Віцька твой хітры?..»

«Вой!..»

«Ну вось і ўсё. Яшчэ пакладу мяккія лісцікі...— Тыя лісцікі вялікія, нібы лопух, мокрыя. Абляпіўшы імі спіну і карак, стары абцягвае на Цімавай спіне сарочку, накрывае кажухом.— Павярніся на бок».

Ціма слухмяна кладзецца на бок, і тады дзед Акім яшчэ раз падсоўвае яму жоўтую конаўку. Ціма п'е малымі глыткамі, бо дужа нясмачнае дзедава зелле, і пакуль п'е, дзед вымазвае канаплянкаю апухлы твар, шыю, грудзі. Мазі Ціма не баіцца, а п'е цераз сілу, ажно зубы ляскочуць аб конаўку, дробна-дробна.

«Не хачу болей...»

Дзед Акім часам таксама слухаецца Цімы: адстаўляе конаўку, прыкладае далонь да лоба. Далонь халодная, нібы льдзіна.

Жыў дзед Акім ля фермы. Ціма памятаў тую ферму — доўгі драўляны хлеў пад чорнай саломаю. І хатку ля фермы памятаў. Яна стаяла за хлявом на узгорку. Вакол — скапычаная каровамі паша, чорныя загоны, дзікі хмызняк, сажалка з жабамі. Агарод дзед Акім меў, як усе вяскоўцы, але ў вёсцы, дзе і хата яго стаяла, уласная. Дзедаву салодкую грушу Ціма помніў, а тую хату не помніў, і гэта, відаць, таму, што дзед Акім дняваў і начаваў больш на ферме, а ён, Ціма, жыў ля дзеда. На ферме дзед Акім прыглядаў скаціну. Якая тады, адразу пасля вайны, была скаціна? Каровы з Нямеччыны: кульгавыя, падбітыя вайною і доўгай дарогаю. Іх дзед лячыў, карміў, а Ціму трымаў пры сабе на ферме, дзе малому перападала і малако і лекі дзедавы.

Зноў рыпяць колы, дрынчыць-бяжыць фурманка з шэрым, у белыя яблыкі канём, і тыя дзве галавы ў фурманцы зноў бачацца Ціму. Вялікая — вядома, дзедава. А другую, малую чарнявую, ён ужо таксама пазнае — яго, Цімава. Але куды яны едуць?

Сонца ззяе ў шыбы, шэрыя і мутныя. Дзед зляпіў іх з кавалачкаў шкла, фанеры, паперы, але і праз іх прабіваецца шчырае сонца, у хаце светла.

Дзед Акім сядзіць пасярод хаты ў ватняй камізэльцы на малым слончыку, аберуч трымае перад са-

бою на падлозе чыгунок, а чырвонае даўганосае цяля ўсунулася ў чыгунок і смокча не адрываючыся, соўгае мысаю, аж стары ледзь утрымлівае пасудзіну. Цяля ад прагнасці калоціцца, вінціць курдупым хвосцікам, гулка бесперастанку тэпае па падлозе, галавы не падымаючы. Высмактала з пасудзіны ўсё да апошняй кроплі — тады, паспакайнеўшы, узняло галаву, салодка аблізваецца.

«Во дык малое! Во дык хворае! — весела дзівіцца дзед Акім.— Як да малака, дык і сваё і тваё, Цімафей, выдула».

Ён трымае ў абвіслых руках пусты чыгунок, глядзіць на цяля, як яно з асалодаю аблізваецца, і ўсміхаецца. Сонца свеціць у твар, робіць яго яшчэ святлейшым, мякчэйшым, дзед сам ужо падобны на тое сонейка, здаецца, што гэта ад яго, дзеда Акіма, у хаце святлынь ды цяплынь, і Ціма, хітрун, адчувае: вось яна, тая хвіліна, калі ў дзеда Акіма можна ўсёўсё вымаліць, выпрасіць. І ён пытаецца:

«Дзеду, а я таксама ўжо здаровы?»

«Ого! — Стары жвава ўскідвае галаву, рэдкая пазалочаная сонцам бародка завастраецца, вочы хітра дабліскаць.— Ты цяпер за мяне здаравейшы. Ану давай сюды свой палец, зараз мы с табой пацягаемся».

Гэта яго любімая гульня-забаўка — пацягацца на пальцы. Сагнуўшы доўгі сярэдні палец кручком, ён працягвае яго Ціму.

Але Ціму цягацца з дзедам няма ахвоты:

«Значыць, дзеду, паедзем у лес па мёд?»

Дзед яго разумее:

«Паедзем, Цімафей. Але цяпер ты будзеш стаяць за тым дубам, за якім стаяў Віцька, а я ўсуну свой доўгі нос у дупло».

«А цябе пчолы не пакусаюць?»

«Я ім, можа, не такі салодкі, як ты...»

Полем да лесу бяжыць фурманка, нудна вядуць сваю доўгую песню колы. У фурманцы два фурманы. Цяпер Ціма ведае: гэта яны едуць у лес да дуба з пчоламі, па мёд. З дзедам — не з Віцькам. З Віцькам, гадком Цімавым, добра ганяць па вёсцы сабак, біць жаб на сажалцы ля дзедавай хаты, латашыць па чужых градах гуркі, бегаць на рэчку, а ляснога мёду з ім не возьмеш, не паясі, мёд трэба браць з дзедам Акімам. Дзед ведае, як узяць, ён усё ведае, з ім не прападзеш. Маці не раз казала: «Тваё шчасце, сынок,

што ў цябе ёсць дзед Акім. Каб не ён, дык даўно б, можа, памёр ці з галадухі, ці ад якой хваробы».

А таго каня, шэрага, у яблыкі, Ціма таксама памятае. Конь жыў на дзедавай ферме разам з каровамі. Дзед вазіў на ім ваду, дровы, траву, гной. І фурманка стаяла заўсёды ля дзедавай хаты. То была ваенная фурманка: глыбокая, зялёная, доўгая. Нібы труна. Яе дзед знайшоў недзе за вёскаю, на бальшаку.

Зноўку звон у галаве, танклявы і роўны, доўгі-доўгі. А можа, гэта трымціць-спявае цёплае сонечнае праменне? Можа, тое праменне не ад сонца, ад дзеда Акіма, ад яго ўсмешкі, хітраватай і добрай, заўсёды светлай?..

Аднекуль чуваць крокі: чах, чах...

Дзе гэта?..

— Князь! Ты ўсё яшчэ сядзіш? — прарэзліва, пад хмяльком, крычыць ад дзвярэй каюты Мазепа. Ціма супакойна глядзіць на яго і думае: «Гэта ён, яго чаравікі чахкалі».— Ды ўставай ты, Князь! — не то моліць, не то патрабуе Мазепа.— Там, на беразе, народ чакае.

— Не залівай.

Цімавы развага і нетаропкасць перадаюцца Мазепу, і ўжо без таго шалёнага імпэту, як пацверазеўшы, ён падыходзіць да століка, бярэ «бомбу», падымае яе, чорную, на святло, глядзіць, прыплюснуўшы адно вока, ці шмат у ёй засталося, вялікім пальцам дзеліць тое, што ёсць, на дзве роўныя долі і першую вылівае ў шклянку, падае Ціму:

— За тваю, Князь, сустрэчу ■ радзімай!

Ціма задумліва глядзіць сябру ў вочы.

— Добра сказаў. Душэўна,— шчыра ацэньвае.

Далонню ўцёршы вусны, ён цяжка, без вялікай ахвоты ўстае з ложка, здымае з металічнага гамака, які вісіць пад нізкай столлю — у ім спіць лягчэйшы Ромка,— саквяж, адшуквае ў саквяжы электрабрытву, торкае канец шнура ў разетку ля дзвярэй, на століку прыладжвае круглае люстэрка.

За два дні жыцця на вадзе яшчэ не аброс, ды і дзе разгулядца брытве за барадою, хоць яна не такая кудлатая, як у Мазепы. Пашмуляў па шчоках ды сунуў брытву назад у саквяж.

Змяніў кашулю, рабую на белую, чыстую, накінуў на плечы пінжак, а Мазепа высакародна сцягнуў са сваёй таўстой шыі шыкоўны, ў бліщчастыя зорач-

кі па сінім полі, арабскі гальштук — ён вельмі пасаваў да цёмна-сіняга, у чорную палоску Цімавага касцюма. І нечага яшчэ не хапала. Зняў са сцяны Ромкаў новы, з вузкім модным полем капялюш, раздумліва пакруціў на пальцы і спрытна, нібы цыркавы жанглёр, ускінуў на галаву. Мазепа не ухваліў: капялюш у гэтакую цяплынь? А Ціма і сам ведаў, што цяплынь,— хай, для большага шыку. Зірнуў на чаравікі: вось яны псавалі выгляд — танныя, вельветавыя, ды яшчэ дзіравыя, пальцы лезлі. Кінуў вокам на Мазепавы цэлыя, хоць таксама не новыя: малыя — шкада. Ніжэй абцягнуў на сабе штаны з завужанымі ўверсе і шырокімі, расклёшанымі ўнізе калашынамі, каб калашынне пахавала дзіркі ў чаравіках, паглядзеўся ў люстэрка.

— Вышэй корачак, Князь,— фантан! Але корачкі...

— Што рабіць? — разгублена спытаў Ціма.

— Паказвай сябе вышэй корачак. Хавай іх пад стол, пад лаўку, у траўку-мураўку, як дзе зможаш. Цаляй так стаць і сесці, каб яны ў вочы не кідаліся.

Мазепа выхапіў у Цімы люстэрка, пачаў выглядацца, твар крывіць. Ціму гэта абурыла:

— Не пазнаеш сваё буржуйскае мурло?

Той паспрабаваў асадзіць:

— Не вельмі далікатна, Князь.

Але Ціма ўжо завёўся:

— Ты калі бараду скінеш?

— А сам?

— Аднаму можна, а двое, дзве барады — уніформа. Не даходзіць? Што людзі падумаюць? З аднаго манаскага ордэна прыехалі? Фірму падводзім. Ясна?..

Ціма пранікліва паглядзеў у ружаватыя, нібы ў труса, Мазепавы вочы, на яго круглы сыты твар, прыдзірлівым позіркам змераў усяго, малога і шырокага, пузатага, у шэрым махеравым джэмперы, які шчыльна аблягаў пухлыя грудзі і плечы,— не то джэмпер сеў, не то Мазепа апошнім часам, на свежым паветры, раздаўся. Маўклівы сябар яму раптам нечым спадабаўся. Палагаднеўшы, Ціма спытаў:

— Ты мне хто будзеш?

— Свой да магілы.

— Дык блаславі.

Мазепа, быццам які поп, перахрысціў, басам прагугнявіў у калматую бараду:

— Госпадзі, цар нябесны, памілуй раба свайго п'янага, грэшнага, блуднага, акаяннага...

Ціма адвярнуўся, глыбока, на ўсе грудзі, удыхнуў паветра і выйшаў за дзверы.

Ён прайшоў цераз кубрык, у якім звычайна снедалі і абедалі, па вечарах пілі чай і глядзелі тэлевізар, падняўся па трапе. Ля борта сутыкнуўся з капітанам. Спыніўся, уважліва, як нядаўна на Мазепу, паглядзеў на яго сумны твар, падумаў: «Што, капітан Краб? Надакучылі табе твае пасажыры? Уздыхаеш? Адкуль іх, маўляў, піжонаў, прынесла на тваю пасівелую галаву — князёў, гетманаў?.. Вунь Ромка, ціхоня, усю ночачку ціскаў на камбузе твайго, Краб, кока Зіначку, а раніцай у Зіначкі балела галоўка, прыгарэла манная кашка... Няма парадку?..»

— Усё абыдзецца, капітан. Вышэй галаву! — звысака, як бацька сыну, як сябе з ім паблытаўшы, вымавіў Ціма, моцна, падбадзёрваючы, сціснуў капітанава плячо і падаўся на палубу.

Ішоў насвістваючы.

Свет, даўно абжыты чалавекам, адно здаецца просты ды зразумелы, а на самой справе — складаны, загадкавы. Гэтак думаў капітан, пазіраючы ўслед дзівакаватаму пасажыру.

За гады і гады, пражытыя на рацэ, ён пабачыў розных людзей, навучыўся чытаць людскія душы. Але гэтых трох, якія нечакана, быццам з неба, зваліліся яму на галаву, раскусіць як след не мог. Яны былі з Мінска, плылі з законнымі камандзіроўкамі тэлебачання, шукалі на рацэ і яе берагах тое жыццё, тыя вёскі, тых людзей, пра якіх збіраліся здымаць фільм, якія павінны былі іх, творцаў, натхніць і ўзрушыць. Справа, як кажуць, дзяржаўная, народу патрэбная, бо народ увесь сабраўся ля тэлевізараў, і невыпадкова ён, капітан, меў інструкцыі ад начальніка параходства дагадзіць гасцям, плыць, як яны скажуць, спыняцца там, дзе скажуць, паказаць людзям жыццё.

Для гэтакага вольнага рэйса цеплаход быў зручны. Адно выглядам ён паходзіў на малы пасажырскі, мясцовы рэйсавы, а ў сапраўднасці гэта быў агітцеплаход, які ўсю навігацыю вазіў да рачнікоў самадзейных артыстаў, лектараў, бібліятэчку, кінафільмы, наглядную агітацыю. Ніякі расклад руху, ніякія графі-

кі для яго не існавалі, ён мог заплысці ўсюды, куды скамандуе капітан. Але капітана здзіўляла, што пасажыры, якія плывуць, як самі сказалі, «па жыццё», амаль не вылазілі з каюты на бераг, дзе буяла вясна, дружная і цёплая, зямля квітнела, набрынявала сокам і пяшчотаю да ўсяго жывога, да кожнага яе парастка, дзе людзі, дачакаўшыся цёплых дзён, шчаслівыя, аддавалі зямлі сваю ласку, шмат чаго добрага рабілі на ёй у ахвотку, з любасцю, быццам стомы не чулі. Вось дзе жыццё — бяры жыўцом у любы фільм,— а яны ад раніцы да ночы, нават ночы да раніцы, рэзаліся ў карты, позна, забыўшы на снеданне, спалі, уставалі к абеду і толькі зрэдку выбіраліся на палубу, сыходзілі на бераг, дзе нічога не заўважалі памутнелымі вачыма, акрамя вясковых крам, вярталіся ад іх, адтапырыўшы кішэні — з кішэняў тырчалі ўсё тыя ж чорныя «бомбы». Узышоўшы з берага на цеплаход, давалі нырца ў каюту і зноў доўга адтуль не паказваліся.

Часцей на палубе і на беразе відаць было Ромку. Ён не лётаў, як сябры, па крамах, у яго ў руках заўсёды была кінакамера, на шыі вісеў фотаапарат, ён не насіў у кішэнях тыя «бомбы», быў не такі порсткі ды шумны, як сябры, задумлівы, часцяком стаяў на палубе адзін, углядаючыся ў рачное, вясковае, лясное наваколле, нешта думаў, сумна ці радасна. Па ім было відаць, што кают-кампанія яго не прываблівала, прастора зямлі і вады яму куды мілейшая, як той тлумны закут, але Мазепа і Князь волі яму не давалі, аднаго не пакідалі надоўга, зноў і зноў гукалі да сябе — ім яго, трэцяга, не хапала ў картах,— а ён супраць не ішоў, слухаў як маладзейшы. Капітану Ромка спадабаўся, ён яго шкадаваў, як бацька, думаючы, што калі Ромка даўжэй паплавае з сябрукамі, дык зробіцца такім, як яны,— гэтыя паставяць на свой капыл. Асабліва калі з Мазепам паплавае. Мазепа здаваўся злосным, хітрым — і да Ромкі, і да ўсяго, мабыць, жывога, да ўсяго свету.

А Князь таксама меў за душою не ўсё пустое. Спачатку ён падаўся капітану звычайным сталічным фраерам, якому галоўнае — знешні бляск, форс. Толькі на другі дзень заўважыў, што Князь — не такі ўжо фраер, яго форс — гульня, пад гульнёю ёсць глыбейшае, ён адкрыты, шчыры ва ўсім, добрым і кепскім, не хаваецца, не хітруе, не дзярэ, як Мазепа, горла, ёсць

у ім незалежнасць і ад Мазепы і ад усяго свету, ён робіць, што яму па душы, а тыя, Мазепа і Ромка, робяць што хоча ён, Князь, хоць, можа, самі гэта не заўважаюць. Была ў ім спакойная мужчынская трываласць, улада над жыццём, над сябрамі. Праўда, сёння раніцай, за чаем, калі капітан застаўся ўдвух з Ромкам, той казаў, што галоўны сярод іх траіх Мазепа, ён рэжысёр фільма, што Князь Ціма, дырэктар фільма, і ён, Ромка, аператар, ходзяць пад камандаю ў Мазепы. Капітан на гэта нічога Ромку не адказаў, а сам падумаў: не, дырэктар — гэта дырэктар, на фільме ці на заводзе, ён парадам камандуе. І ўжо ведаючы, што Князь — дырэктар, яшчэ вышэй паставіў яго над Мазепам і Ромкам.

Вось і цяпер ён, Князь Ціма, Цімафей Міхайлавіч, стаяў на палубе высокі, стройны, горды, стаяў трывала, шырака, на шырыню плячэй паставіўшы ногі, заклаўшы за спіну рукі, прыгожы ў сваім сінім касцюме, пад гальштукам і капелюшом,— князь князем. Аж на душы ў капітана абудзіўся гонар за свайго незвычайнага пасажыра. Аж радасць ахапіла, што сёння Князь яму спадабаўся. Хай не вельмі, але спадабаўся.

З гэтым радасным пачуццём, як апамятаўшыся, капітан сігануў да рубкі, рэзка адчыніў дзверы і, убачыўшы перад сабою механіка, весела, нават урачыста скамандаваў:

— Музыку!

І тады ў мірнае вясковае неба, у цёплы маёвы адвячорак, ужо без папярэдняга хрыпення і пакашлівання адразу на чыстай высокай ноце палілося любімае Цімава:

Когда внезапно возникает
Еще неясный голос труб...

Пад гэтую музыку, пад гэтыя словы, таямнічыя і ўрачыстыя, душа Князя адкрылася ўсяму навакольнаму свету, і ён убачыў адразу ўсіх, хто яго вітаў: дзятву на кручы, дзвюх бабулек пад таўшчэзнай, знявечанай, але па-маладому зазелянелай вярбою, Зіначку, як яна, да ўсяго цікаўная, выглянула з камбуза ў сваім беленькім накрухмаленым каўпаку і ў белым халаціку, матросаў, высокага маладога і нізкага пажылога, як яны навыцяжку стаялі паўз борт палубы, нібы на парадзе, жартуючы, убачыў ля трапа, які злучыў палубу з берагам, Мазепу і Ромку — так-

сама чакалі яго, Князя. І, шчаслівы ад гэтай усеагульнай увагі да свае асобы, нібы ён сапраўды нейкі заморскі князь — у гэта яму ўжо няцяжка было паверыць,— узрушаны, яшчэ больш самому сабе спадабаўшыся, Ціма забыў на дзіравыя чаравікі, смела рушыў па гулкай палубе да трапа, на родны бераг.

Усё ж як магло атрымацца, што дажыўшы да сталага веку, ён ніводнага разу дагэтуль, да сённяшняга дня, не падумаў пра дарогу ў родныя Сычыкі, што гэтая дарога ніколі не паклікала яго да сябе?

Тут, мабыць, да месца сказаць, што Ціму выпала быць сынам кадравага ваеннага. У сорак пятым, сумленна дайшоўшы да перамогі, абсыпаўшы грудзі ордэнамі і медалямі, Міхаіл Мінавіч Мурашка ў званні маёра артылерыі застаўся на афіцэрскай службе ў новай Германіі, куды толькі праз год, у сорак шостым, змог забраць сям'ю, жонку і сына, якому ішоў сёмы гадок. Жыццё ваеннага чалавека, нават пад мірным небам, не скупілася на пераезды, і Ціма, прывязаны да бацькавых пашарпаных чамаданаў, яшчэ праз два гады праехаў праз усю Беларусь, не затрымаўшыся, у Казахстан, а яшчэ гадоў праз пяць апынуўся на Далёкім Усходзе. Калі бацьку нарэшце ў званні палкоўніка перавялі ў Мінск, Ціма скончыў сярэднюю школу. У Мінску паступіў вучыцца ў політэхнічны інстытут на аўтатрактарны факультэт, але, год правучыўшыся, кінуў, бо душа да трактароў не прыкіпела. Вандроўнае, нібы ў цыганоў, жыццё афіцэрскай сям'і зрабіла і яго вандроўнікам. Яму ўжо мутарна было сядзець на адным месцы, ды яшчэ абклаўшыся кнігамі, карцела лётаць, бегаць, ездзіць. А дзе знойдзеш інстытут на колах? Няма такога. Уладкаваўся вучнем токара ў аўтобусным парку, але праз дзве палучкі — слёзы, не грошы — перабег на шафёрскія курсы. Атрымаў правы, сеў за руль. Думаў: вось работа па душы. Але толькі спачатку, пакуль не рабіў, здавалася, што баранку круціць лёгка, весела. Пачаў круціць — убачыў, што і гэта не па ім: быццам на месцы не стаіш, увесь час у дарозе, усяго пабачыш, але дзень цэлы прыкаваны да баранкі, нібы той Праметэй да скалы. Забраў і адтуль дакументы. Каля года пажыўшы на бацькавых харчах, зноў пачаў думаць пра інстытут. Паступіў на акцёра ў тэатральна-мастацкі і адразу ад-

чуў, што тут яго паласа, хоць упадабаў не так вучобу — яна ўсюды аднолькавая, гарбатых любіць,— як вір, у які трапіў. Тут студэнты жылі не так, як зануды-політэхнікі, весялей, вальней, не жыццё — феерверк. Ад прыроды вясёлы, дружбацкі, Ціма зрабіўся для ўсіх у інстытуце сваім чалавекам. Ды зноў не пашанцавала. Першы курс скончыў — забралі ў армію. Скінулі з Цімы доўгую, нібы ў жарабка, грыву, заслалі служыць далей, як служыў бацька,— аж на Курылы. Тры гады з аўтаматам у руках адстаяў на марской граніцы, далёкай і халоднай да лютасці. Вось дзе адчуў, што такое інстытут, якая там цяплынь і музыка. Марыў: толькі б вярнуцца. І вярнуўся. Адслужыў і вярнуўся. Праўда, феерверк не паўтарыўся. Вучыцца прынялі на другі курс, а ён за першы, які скончыў да арміі, усё забыў. Трэба было карпець, не разгінаючыся, над кнігамі, а кішка, як кажуць, тоненькая. Пачаліся семінары, курсавыя работы, сесія — і засыпаўся, з марай сваёй, інстытутам, развітаўся. Тады сустрэў колішняга аднакурсніка Васіля Мазепу.

Была вясна. Як цяпер, дружная і цёплая. Бярозкі на плошчы Якуба Коласа выкінулі першыя лісцікі — здавалася, што на дрэўцы апусціліся раі зелянцовых, бліскучастых на сонцы матылёў. І сонца чыстае, ласкавае, і неба чыстае, лашчыць усё жывое, і касцюм на Ціму новы, светлы, з таго высокага блакіту.

Было і кафэ побач — на плошчы. Ціма зайшоў у кафэ.

За столікам сядзеў Мазепа, а побач з ім дзяўчына, светленькая, маладзенькая, яшчэ дзіця, але ўжо з той мерай жаноцкасці, якая прыходзіць звычайна з гадамі. Мабыць, яе першую і заўважыў, яе, а пасля Мазепу. Яна сядзела над кубачкам кавы, далікатна, двума танклявымі, яшчэ дзіцячымі, пальчыкамі клала ў яго кавалачкі цукру і тымі ж чыстымі, з манікюрам, пальчыкамі памешвала каву лыжачкаю, задумліва глядзела на пару, што падымалася ад кавы, паміргвала падфарбаванымі вейкамі і ўважліва слухала, што ёй казаў Мазепа.

Не, Ціма не кінуўся адразу абдымацца з Мазепам. Ён спачатку падышоў да стойкі, узяў бутэльку шампанскага, тры фужэры, паставіў шампанскае і фужэры на стол перад незнаёмаю і Мазепам. Той падхапіўся — вось тады абняліся.

Мазепа шмат гаварыў — колькі гадоў не бачылі-

ся! — а Ціма вачэй не зводзіў з дзяўчыны, і яго першымі, мабыць, словамі былі: «Што ж ты нас не знаёміш?» Ён сказаў «нас» так, быццам яны, яна і Ціма, яшчэ незнаёмыя, былі ўжо блізкія, даўно блізкія і цяпер разыгрывалі Мазепу, прыкідваліся, што не ведаюць адно аднаго.

Яе звалі Мілаю. Яна ніякіх інстытутаў не канчала, нідзе не вучылася, пасля дзесятага класа рабіла ў Мазепы памочніцаю рэжысёра. Тады, у тыя дні, яны збіраліся ў новую экспедыцыю, і Ціма адчуў, што яго дарога — [redacted] імі, дакладней — з ёю.

У групе якраз не хапала адміністратара. Мазепа закінуў слоўца начальству, зрабіў, як цяпер кажуць, пратэкцыю, і Ціму ўзялі на пасаду, улічыўшы, вядома, што вучыўся ў тэатральным, чалавек з жыццёвым вопытам.

Так пачалося ў Цімы новае жыццё. Работа не хітрая, абы замнога не спаў, быў лёгкі на нагах, з жывым языком, асабліва там, дзе трэба штосьці раздабыць, хоць з-пад зямлі, арганізаваць, гладка апраўдацца за страчаную капейку, спісаць, дагадзіць рэжысёру, дырэктару. Гэта ў яго ладзілася. Парабіў год — дырэктарам фільмаў паставілі. Клопату прыбавілася. Трэба было весці стосы дакументацыі, фінансавай і тэхнічнай, на кожную страчаную капейчыну мець паперы, законныя і незаконныя, як калі, дзе якія, адказваць за транспарт, здымачную тэхніку, рэквізіт. Але затое хадзіў у начальстве, на адным месцы не засяджваўся, меў пад рукамі машыну, жыў на колах, у дарогах, з музыкай, з вясёлымі людзьмі, заўсёды з жартамі, з хмелем у галаве і ў душы — новы феерверк. І побач была Міла. Спачатку Мазепа раўнаваў, а пасля, убачыўшы, што ён яе ў Цімы ўжо не вырве, ды сябе не верне, зміРыўся. Ды і ўсе бачылі, што Міла і Ціма — адна сям'я, адно для аднаго як нарадзіліся. Яна хоць і называлася па-ранейшаму памочніцаю рэжысёра, а была заўсёды з ім, Цімам, яго каханнем і памочніцаю. Гэтак — цэлы год, пакуль не пажаніліся. У лепшым рэстаране Мінска згулялі вяселле. Цімавы бацькі раскашэліліся, тысячу знялі з кніжкі, ды яе, заможныя калгаснікі з-пад Слуцка, грошыкі выкінулі — хапіла і на вяселле і на Чорнае мора.

А пасля была экспедыцыя на Палессе, ужо на пятым месяцы пасля вяселля. Жылі ў Пінску, у гасцініцы. І выдалася нейкае свята, увосень. Гармідар стаяў

усю ноч. Ціма не памятаў, як давалокся да ложка. У іх з Мілаю быў асобны пакойчык, але ў ложак той ноччу ён лёг адзін. Раніцай прачнуўся: дзе жонка? З ложка саскочыў, усцягнуў штаны, накінуў пінжак — спаў без штаноў, але ў нейлонавай сарочцы, пад гальштукам,— выбег з пакоя. Не заўважыў, што без чаравікаў, у адных шкарпэтках, якія таксама на ноч не здымаў. Куды кінуцца, дзе шукаць? Світала, але ў гасцініцы — ні гуку, усе спалі. Шыбануў на ніжэйшы паверх, да Мазепы. Дзверы незамкнёныя — увайшоў у пакой без стуку-груку. Мазепа спаў, укрыўшыся з галавою. Будзіць ці не будзіць? Адкінуў коўдру і... жахнуўся: на грудзях у Мазепы ляжала жаўтлявая галоўка. Ціма рвануў коўдру, скінуў на падлогу. Міла ўсхапілася, закалацілася ў белай камбінацыі, захліпала, заплакала, хаваючы ад Цімы твар. А Мазепа — хоць ты ў яго страляй — спакойна ляжаў на спіне ў адных плаўках, вылупіўшы на Ціму нахабныя вочы. Ціма — за крэсла. Мазепа ўскочыў, схапіўся за тое крэсла, а ў Цімы кулак ёмкі, як развярнуўся, дык Мазепа з крэслам дагары, загрымеў за ложак, пад стол, разам з Мілаю і крэслам. Са стала на падлогу пасыпаліся графін, шклянкі, бутэлькі. Ціма выйшаў за дзверы.

У тую ж раніцу ён выехаў у Мінск. Пераводзіць з Мазепавай экспедыцыі начальства доўга не згаджалася, але Ціма свайго дамогся. Пра Мілу — ні слова, усе бочкі пакаціў на сябе і Мазепу: нелады, маўляў. А тут яшчэ адна здымачная група знайшлася, дзе рэжысёр не ладзіў з дырэктарам, тапілі адзін аднаго, вось і памянялі: таго дырэктара — да Мазепы, а Ціму — на Віцебшчыну.

Пакуль сядзеў у Мінску — Міла прыкаціла. Ціма за яе — і на развод. Сямейны вузельчык развязалі проста, бо не было той сям'і, ні дзяцей, ні кватэры, дзяліць не было што. Калі выйшлі з загса, ён завёў яе ў кафэ, дзе некалі першы раз убачыліся, пазнаёміліся. Селі за той самы стол, пілі, як тады, шампанскае. Хацеў, каб усё было, як тады, але яе гэтакая лірыка не кранула, яна тое, былое, нават не ўспомніла. Ён нагадаў. Яна ўсміхнулася з прыкрасцю. І тады ён адчуў прыкрасць да сябе самога — можа, першы раз у жыцці такое адчуў — што гэтак сослепу, па-дурному некалі кінуўся да Мілы. Як мыш да сала ў мышалоўцы.

Паганы выдаўся год. Абрыдла не толькі Міла — усё жыццё. Пачаў піць, у гарэлцы шукаў ратунак.

Каб яшчэ за свае грошы, а то за казённыя. Пасля, здаючы фільм, не мог звесці канцы з канцамі. Ад турмы і сумы, як кажуць, уратавала бацькава ашчадная кніжка. Выдаіў да апошняй капейкі.

Гэтакая склалася жытка. Не музыка, але кроіў і шыў яе сам, вінаваціць не было каго. І калі нейкі праведнік, як Ромка, папракаў, што за трыццаць гадоў ніводнага разу не заглянуў у родную вёску, што не ведаў, хто з радні ў ёй жывы і хто мёртвы, дзе чыя хата і дзе чыя магіла, дык Ціма не апраўдваўся. Было б толькі гэта не так, як трэба, як людзям і сабе люба.

Кручаю, пясчанай сцежкаю, Ціма ўзабраўся на бераг, яшчэ раз, нібы чымсьці моцна здзіўлены, прысвіснуў і павітаўся — у думках:

«Ну здаровы былі, Сычыкі. Не чакалі?..»

Пастаяў, агледзеўся.

Яго найпершым жаданнем было адшукаць у абрысах вёскі хоць што-небудзь памятнае з маленства, з тых часоў, калі тут жыў. Але хаты стаялі новыя, ашаляваныя, усе пад фарбаю — блакітныя, чырвоныя, зялёныя,— вербы таксама першы раз бачыў, хоць было ім гадоў па сотні і былі яны вузлаватыя, выпаленыя агнём, ваенным ці мірным, можа, нават і мірным. Пад вербамі — круча, сыпкі жаўтапёс, аплецены палушчанымі сухменню каранямі; вада пад кручаю, а за ёю, на другім баку затоні, лугі і там — усё новае, невядомае. Што-што, а затоню, здавалася, мусіў памятаць, бо ўсім малым вада — радасць найпершая, свет самы прывабны, загадкавы, ля яе дзятва вечна пасецца, асабліва ўлетку, ад цямна да цямна. Але не памятаў, як ні ўглядаўся, нават затоню, кручу і вербы. У памяці вачэй вада блішчала, але рачная, доўгая, жывая, яна не стаяла на адным месцы, як тут, па той вадзе вечна штосьці плыло: крыгі, бярвенне, рыба, копы сена, змытыя з паплавоў залівымі дажджамі, паводкамі. Хаты над самай ракою стаялі: па вечарах ды па начах вокны ззялі з вады, з-пад берага, высокага, як і ў гэтай затоні. Значыць, тая вёска была над саменькім Сажом, а за Сажом ляжаў луг, ад хат відаць быў, і ў тым лузе аднойчы надвечар у летнія высокія травы, яшчэ не кошаныя, сеў самалёт з чырвонымі зоркамі на хвасце і на крылах. Гэта здарылася адразу пасля таго, як немцаў пакацілі за Сож. Уся вёска, усхва-

ляваная, высыпала на бераг, узіралася ў той бок, на самалёт, а самыя нецярплівыя пераплывалі рэчку на лодках, на пароме, хто як мог, беглі да самалёта. І Ціма быў з нецярплівых, бегаў, блізка бачыў чырвана-зоры самалёт, нават лётчыкаў у шлемах. Хадзілі размовы, што немцы-дыверсанты хаваліся ў травах, іх лавілі. Дык дзе тыя, у самай вёсцы, Сож і паром? Ні Сажа, ні парома. Затоня — вялізная лужына. Як толькі Краб загнаў у яе цеплаход?

«Можа, гэта і Сычыкі, ды не тыя,— падумаў Ціма.— Каму-небудзь тыя, а мне... Не...»

Ён ветліва ўсміхнуўся дзвюм бабулькам, якія вузенькімі вочкамі ўчэпіста глядзелі на яго з-пад вярбы, дастаў з кішэні пачак цыгарэт, яшчэ новы, садраў цэлафан, фарсіста шчоўкнуў, не гледзячы, пальцам у донца, працягнуў пачак хлапчуку, які апынуўся перад ім, заглядаў то ў вочы, то ў рукі, скрывіўшы набок галаву, адно вуха схаваўшы пад вялізнай кепкаю. Хлапчук чмыхнуў, адвярнуў усыпаны вяснушкамі нос ад курыва, адступіў назад і раптам кульнуўся на белага кудлатага сабаку, які ўсеўся пад нагамі. Сабака адскочыў, а на малога — усе хлопцы:

— Кучка невялічка!..

Падышоў Мазепа:

— Што, Князь? Прашвырнёмся?..

З'явіўся Ромка, з вершыкамі на языку: «Эта улица мне знакома, и знаком этот низенький дом, проводов голубая солома опрокинулась над окном...»

— Піжон,— падсек яго Ціма. Той рот разявіў, каб спытаць, чаму піжон, бо дайсці ва ўсім да яснасці — у яго грунтоўнай сялянскай натуры, і Ціма, угадаўшы святое жаданне сябра, загадзя адказаў: — Вершыкамі загаварыў.— Адвярнуўся ад хлопцаў, падышоў да бабулек, якія стаялі воддаль, вачэй не адводзілі ад незнаёмых людзей. Адна з іх, высокая і мажная, гром-баба, глядзела спадылба нявета, як на чужых, а другая, меншая, у чырвоных гумовых боціках, маўчала таксама, хоць адчувалася, была цікаўная, дападная, шустрая, ва ўсім яе аблічы жыла лёгкая паразумеласць са светам, знаёмым і незнаёмым.— Дзень добры, маткі! — павітаў іх Ціма.— А дзе ваша школка?

Старыя быццам чакалі, калі ён да іх падыдзе, бо нават большая, гром-баба, змянілася ў твары, палагаднела. Абедзве загаварылі, адна адну перабіваючы:

— А вунь, дзядзька... Ву-унь белая камяніца, вокны ў тры рады. Дзетак у нашай вёсцы шмат, ды яшчэ з суседніх ходзяць. А вы ў школу? Можа, праверішчыкі з Гомеля?..

— Не пляці кашалі, Лёкса,— шапялява асадзіла суседку гром-баба. У яе спераду не было зуба, дзірка мільгацела з-пад верхняй губы, можа, таму шапялявіла.— Праверішчык зімою прыязджаў, на захлюпаным кані. А гэтыя... не бачыш хіба? — кіўнула на цеплаход.

— Дык той быў з раёна.

— А ты адкуль хочаш? З Масквы на ераплане да цябе прыляцяць? Шышка ты вялікая.

— Ды не да мяне! Чаму да мяне? — пачала злавацць старая ў чырвоных боціках, Лёкса.

Каб не Мазепа, дык, можа, і пасварыліся б. Ён іх мігам суняў і развёў:

— Няма нам што правяраць, бабкі.

Хацеў адвесці ад іх Ціму, ды Лёкса ўчапілася ў Цімаў рукаў, запярэчыла:

— Як гэта няма што? Як гэта?..

— Пайшлі, Князь.

Былі не радыя, што звязаліся з лапатухамі, а тыя ўжо разам, у адзін голас, ішлі ў наступ:

— Ыйш, князі барадатыя! Ім, бачыш, няма што! А як гэта няма? Можа, і школу не абакралі?

— Зямны глобус быў, ды сплыў,— пад'ялдыкнуў ціпіком малы, той самы, што кулдыкнуўся на сабаку, ляжаў пад хлопцамі. Цяпер ён стаяў паміж Цімам і бабамі, камечыў у руках кепку, хоць яго сябрукі ўсё яшчэ валтузіліся. Раней за ўсіх выграбся.

Ціма не паверыў:

— Як гэта глобус?

— Глобус! — упарта страсянуў чубком хлопчык.— Праз яго наша геаграфічка хацела павесіцца.

— Не брашы, Пецька,— заткнула яму рот громбаба.

А Лёкса тут як тут, удакладніла:

— Не такая дурная, каб з-за нейкага глобуса ў вяроўку лезці.

Падышоў Ромка. Падняўшы, як грозны суддзя, руку, папрасіў:

— Кажыце хто-небудзь адзін. Па парадку.

— Во Пецька ўсюды бегае, усё ведае,— прашамкала бяззубым ротам гром-баба.

Але Пецьку ўжо трымаў за калашыну сабака, цягнуў, упінаючыся ўсімі чатырма, ад людзей, і хлопчык паскакаў за ім на адной назе.

— Настаўніца, Светка Шацькава, звяла глобус,— загаварыла шустрая Лёкса, радая, што яе слухаюць.— Яна геаграфію выкладае, яна і звяла. А хто яшчэ? Каму яшчэ ён патрэбен? Капуста, участковы, даказаў. Ён узяў след, а след прывёў да Шацькавай хаты, пад хлеў. Адчыніў хлеў, запалачку — чырк, а пад нагамі, у гнаі, даруйце, зямны глобус. Капуста за Светку — і павёў. У сельсавет на замок пасадзіў. А дырэктар школы прыбег, дзверы — смаргень, замок — пад ногі. Пазорыце, крычыць, маладую настаўніцу!

— Во табе вучыцелька! Ай-яй! Свет скруціўся,— заекатала, заўздыхала гром-баба.— А такая прыгожанькая! Ого, краля! Каб вы толькі глянулі...

— Ці, можа, Капуста не той след вынюхаў? — засумнявалася Лёкса.

— Ну не! У Капусты нюхаўка, што ў ганчака. Гэты браку не дасць.

На цеплаходзе зноў зайграла музыка, ужо ціхая, працяжная, без слоў; усе павярнуліся ў той бок, замоўклі. На палубе не было ні матросаў, ні капітана, адна Зіначка стаяла ў белым халаціку, у белым каўпаку, з чарпаком у руцэ, сумна глядзела на бераг. Ціму падалося, што яна не зводзіць з яго вачэй, і ён зняў капялюш, памахаў ёй. Яна заўважыла, павесялела, заўсміхалася, махнула яму чарпаком. На душы ў Цімы пацяплела, але тут жа прыгадаў, што з Зіначкаю ўсю ночку правёў Ромка, да раніцы чытаў, мабыць, вершыкі, і на сэрцы зноў зашчымела. Сам вінаваты. Першы яе заўважыў на цеплаходзе, калі яшчэ садзіліся ў Гомелі, ды правароніў дзяўчыну за картамі, за віном. Гуляў у карты і Ромка, але ён, зараза, не піў віна, хітрэйшы, часцей тырчаў на камбузе. Ціма злосна, як на ворага, зірнуў на Ромку, груба напяліў яму на галаву капялюш, каб Зіначка бачыла — яго, Ромкаў, капялюш,— і, мігам выкінуўшы з галавы казку пра глобус і настаўніцу, ды і саміх бабулек, засунуў рукі ў кішэні штаноў і падаўся на вёску. У душу зноў вярнуўся сум. І ад таго, што ўпусціў Зіначку, і яшчэ ад чагосьці, ад чаго яшчэ — сам не ведаў.

Крокаў сотню адмераўшы, спыніўся. Ускрай вуліцы, пад плотам, ляжаў урослы ў зямлю, у маладую траву, круглы пляскаты валун. Ціма пагладзіў яго, ні-

бы цёплы бохан, далонню. Валун быў гладкі, чысты. Сеў на яго і разгубіўся: куды ісці? Быў бы жывы дзед Акім — да яго пабег бы з радасцю. І дзед Акім узрадаваўся б. Во была б сустрэча дык сустрэча! Але дзед Акім, пэўна, памёр. Ён ужо тады ледзь ногі цягаў. Хіба схадзіць на магілу? Каб быў адзін, а то ж з ім людзі, якія плылі ў вёску, як на свята. Мазепа ад раніцы пуза пагладжваў, казаў, што сёння ўвалье ў сваю бочку на дармавінку, пагуляе на свяце ў Князя.

Не, недарма белапалубны цеплаход заплыў пад музыку ў лужыну. Позна адступаць.

А можа, яшчэ не тыя Сычыкі? Штосьці іх не пазнаць. Вось калі не тыя — дай божа, каб не тыя! — тады можна і назад павярнуць. Тады лягчэй.

Ціма агледзеўся: дзе хлопцы? Яны стаялі воддаль каля плота, успёршыся на яго, глядзелі ў агарод — людзі садзілі бульбу. Малады мужчына ішоў за плугам, хлопчык вёў за аброць каня, а дзве жанчыны, старая і маладая, матка з дачкою ці свякроў з нявесткаю, кідалі, нагнуўшыся, бульбіны ў разору. Ціма падумаў: хай хлопцы глядзяць, хай ведаюць, як людзі на зямлі працуюць. Ромку не навіна, а Мазепа хай вучыцца.

На цеплаходзе іграла музыка.

Успомніліся бабкі на беразе, іх казка пра глобус і настаўніцу — усміхнуўся. Але... чаму зайшла размова пра школу, настаўніцу? Ён сам спытаў пра школу, а пра настаўніцу — ужо яны. А навошта яму школа?.. Га-а... Вера — настаўніца?.. Яго сяструха. Маці казала, паміраючы... О божа! Гэта ўжо не першы раз: пра Веру падумае — маці ўспомніць. На ложку...

...яна абаперлася на локці, прыўзняла галаву над падушкаю, намагалася, відаць, сесці, ды сілы не хапіла, галава зноў звалілася на падушку. Засаплася, цяжка дыхала.

«Ты хочаш устаць?» — спытаў Ціма.

«Не»,— хітнула яна галавою.

Аддыхалася — тады цяжка, ледзь не стогнучы, павярнулася на бок, тварам да сына, і доўга глядзела яму ў вочы, з нейкай мальбою. Аж вачам балюча зрабілася глядзець на яе. Ён апусціў вочы на рукі, якімі яна трымала край коўдры, моцна сціскала, ажно відаць былі кожная жылка, кожная костка пад скурай. Яна сказала, відаць, тое, што даўно думала:

«Сынок, а дзе ж гэта апошняе Верына пісьмо? Куды я яго паклала? Галава пустая, не помніць».

«Я не ведаю, дзе яно».

«А ты паглядзі ў камодзе, у верхняй шуфлядзе. Я туды яго раней паклала».

Ён высунуў шуфляду, усё ў ёй перавярнуў, а пісьма не знайшоў. Тады маці папрасіла пашукаць у тумбачцы ля ложка. Ён і там усё ператрос — і там не знайшоў. Тады яна папрасіла яго сесці побач. Ён сеў на край ложка, і яна загаварыла пра тое, што даўно думала-перадумала, што не давала спакойна памерці:

«Абяцай, Ціма, што ты напішаш Веры пісьмо».

У яе запалых, з вільготнай сінізною вачах жыло столькі болю і столькі надзеі, што ён яе зразумее, паслухае, як слухаў некалі, дзіцём...

«Напішу, мама. Абавязкова напішу».

Ёй было мала яго абяцання ці, можа, яна яму не паверыла, бо спытала:

«Сёння?»

Ён паабяцаў:

«Сёння».

Белыя, ані крывінкі, павекі задрыжалі, слёзы пакаціліся на шчокі. Яна пачала выціраць слёзы пальцамі, але размазала па ўсім твары. Ён дастаў з кішэні чыстую насоўку, узяўся выціраць яе твар, супакойваў, каб не плакала. Яна легла на спіну — так было лягчэй дыхаць,— доўга глядзела ў столь, потым сказала, зноў тое, што мучыла:

«Ты, сынок, не забывай вёску. У ёй ты нарадзіўся, вайну перажыў. Там цябе ведаюць. Радніся з Вераю. Яна ў кожным пісьме пытаецца пра цябе, хоча, каб ты ёй пісаў. Бацька ўсю сваю радню страціў. Каго вайна выбіла, а хто па свеце рассеяўся. Нікога ў яго няма. Дык ты хоць за маю радню трымайся. Горад нас адарваў ад вёскі, ад сваіх людзей, зрабіў нейкімі адшчапенцамі. А жыць без сваіх цяпер нельга, цяжка. Чужыя так не памогуць, як свае. Вось памру — з кім застанешся? Бацька пакуль ходзіць, але і ён не вечны. Ні братоў, ні сясцёр у цябе няма. Як жыць будзеш?»

«Нічога, мама. Як-небудзь».

«Што нічога?.. З'ездзі ў вёску. Там цябе помняць, рады будуць. Там ты свой».

«Я ўсюды свой».

«Не, гэтак табе здаецца».

«Ну добра. Я з'езджу».

«А Веры напішы цяпер. Сядзь і напішы. Чуеш мяне?»

«Чую, мама. Я напішу».

«Не, ты цяпер, сынок. Пры мне. Каб я бачыла. Сядзь і напішы...»

Абяцаў напісаць — не напісаў. Абяцаў з'ездзіць у вёску — не з'ездзіў. Прыехаўшы да маці па бацькавай тэлеграме, два дні пасядзеў каля яе, хворай, і паехаў зноў у Карэлію — там здымаўся фільм, чакала работа. А яна праз колькі дзён памерла. Не бачыў, як памірала, як хавалі. Была зіма, самалёты лёталі не кожны дзень, і пакуль з Кемі вылецеў — з'явіўся ўжо на белы, пад снегам, курганок. І хто вінаваты? Ён ці зіма? Бацька яго не вініў. І сам сябе не вініў. Работа... Непагода...

Сядзеў, задумаўшыся, пакуль не ўбачыў перад сабою на траве дзве нагі. І яшчэ дзве — побач, у чаравіках. На тыя, другія, [redacted] хвіліну глядзеў уважліва, потым павольна падняў вочы, прыўзняў галаву — глядзеў Ромку ў твар. Той яму ўсміхаўся. А Ціму было нявесела.

— Сорак пяты? — спытаў.

Зноў не зводзіў вачэй [redacted] чаравікаў, яшчэ амаль новых, і Ромка зразумеў пытанне:

— Ды не, сорак трэці. А што?

— Не веру,— крутнуў галавою Ціма.— У мяне сорак трэці, а твой ступак вунь, лыжына, хоць ты за мяне драбнейшы. Можа, памераемся? Не чаравікамі, босыя.

Ромка даверліва зняў чаравікі, у шкарпэтках стаў на чыстую мураву побач з Цімам — нага ля нагі. А Ціма ў адно імгненне ўступіўся ў Ромкавы — самы раз, па назе. Ажно прытопнуў, павесялеў.

Ромка пазнавата зразумеў Цімаву хітрасць:

— Князь!.. А як жа я?..

— Жывы будзеш.— Ціма лагодна паляпаў сябра па плячы.— Цябе Сычыкі не ведаюць. Да цябе тут ніхто не прыглядаецца. А Зіначка... Яна пазнае і босага.

Ціма зводзіў на жарт, але Ромку было не да жарту:

— У капелюшы і... босы?.. Не, Князь!..

Ён і прасіў, і маліў, ды перад Цімавым нахабствам быў бездапаможны. Чаравікі яго, але з ног не здзярэш. Ціма гэта разумеў — здзекаваўся: зняў [redacted] Ромкавай

галавы капялюш, зноў ускінуў сабе на галаў. Ромку падсунуў свае стаптаныя вельветавыя. Натхнёна аглядзеўшыся, адчуўшы радасць — яна ішла і ад чаравікаў, якія нечакана прыдбаў, і ад таго, што ўжо ведаў, каго шукаць у Сычыках (тут у яго, аказваецца, была сяструха Вера),— з асалодаю выбухнуў:

— А здарава, братва, на нашым вясновым глобусе! Сырадоем пахне. Чуюць вашы насы?..

Магчыма, пахла і сырадоем, бо ўсё, да чаго дакраналіся цёплыя сонечныя промні, пахла востра, моцна, як пахне вясною, але, відаць, мацней, як што іншае, пахлі сады, пабеленыя першай квеценню ігруш і вішань, зямля, дзе-нідзе ўзараная і засеяная, бульба, дзе-нідзе выкінутая на паветра і сонца з вільготных ям і капцоў, у якіх хавалася ад маразоў, кісла і прарастала, гной, выкінуты [illegible] хлявоў. Гэтай парою людзі не аднолькава ўпраўляліся на сваіх сотках: адны адсеяліся, другія яшчэ і не думалі, чакалі трывалай цеплыні.

А можа, увесь гэты складаны, востры, густы водар якраз і здаўся Ціму водарам цёплага сырадою?

На душы рабілася светла, радасна. Заўважыўшы ля плота старую, Ціма глядзеў на яе з усмешкаю, нібы на маладзіцу, нібы з ахвотаю зачапіць, пажартаваць. А яна яго не бачыла. Сагнуўшыся, ірвала пад плотам маладую траву, кідала ў кошык.

— Знаёмая? — спытаў Мазепа, заўважыўшы, як пільна ўзіраецца Ціма. Той яго не зразумеў.— Уставіўся, кажу, быццам на знаёмую.

— Гэта ж яна крапіву рве. Голымі рукамі.

— Сучасны кадрык,— не здзівіўся Мазепа.— У хаце мех грошай, а на рукавіцы рубля шкада.

— Ну... ты вёску не гань. Вёска горад корміць. І цябе, дарэчы, таксама.

— Знаўцы вёскі,— з'едліва кінуў Ромка, усё яшчэ злуючы на Ціму, а можа, і на Мазепу.

— А што? Не ведаю? Я ў вёсцы нарадзіўся. І фільмаў колькі пра вёску зняў. Ну, і ты здымаў, і Мазепа, але ж і я... Без мяне вы не абыходзіліся, здаецца.

— Фільмы... Кароткі метраж.

— Хай сабе. Але ж...

— Кароткаметражнае веданне вёскі, Князь.

Ціма ўставіўся ў Ромкаў круглы, шыракалобы, як у маладога бычка, з яшчэ леташнім бурым загарам твар, памалоджаны вяснушкамі, з наіўна зласнаваты-

мі шэрымі вачыма, адчуў крыўду на Ромку за словы і думкі, якія зневажалі, прыніжалі перад роднымі Сычыкамі. Было жаданне пекануць, каб замоўк і не вякаў. І пекануў:

— Зануда ты... поўнаметражная.

З годнасцю адвярнуўся ад Ромкі і зноў глядзеў на жанчыну ля плота. Тая ўжо разагнула спіну, дзівілася на незнаёмых, трымаючы ў руцэ кош.

— Што, цётка, уставілася? — пад тую злосць, якая накацілася, грубавата спытаў Ціма.

— Ды... хто вы такія, дзіўлюся.

— А мы правершчыкі,— не задумваючыся, паляпнуў Ціма.— Настаўніца Шацькава дачка ваша?

Жанчына быццам спужалася: паставіла на зямлю кош, падышла, як без ахвоты, нечага баючыся, як вінаватая.

— Не, дзядзечка. Не дачка. Чужая і не чужая. У вёсцы мы ўсе свае. Калі жыць па-людску. Але яна ціхмяная. Яе, скажу вам, і дзеткі любяць. А вы... вы ці не за тым глобусам?.. Ох! — цяжка ўздыхнула.— Нарабіў... каб ён скруціўся.

— Ну... не кажыце. Глобус — наша з вамі зямля, планета! Не дай бог, каб скруціўся. Тады ж і мы... Дзе яе хата?

Цётка порстка, нібы ў агонь, торкнула пальцам:

— Вунь... трэцяя злева. Шыферам крытая.

Хатка стаяла прыветная, чысценькая, у садку, самым, здалося, белым з усіх, і Ціма, разглядаючы яе, усё роўна як па ёй, па яе аблічча, выгляду чытаючы душу незнаёмай настаўніцы, падумаў, што тая Шацькава, пэўна, добра ведае Веру, бо разам працуюць. Але раптам, падумаўшы пра Веру, успомніў дзядзьку Кузьму. Бывае ж гэтакае: галаву ломіш-ломіш, дзень і ноч думаеш — не ўспомніш, а то раптам, нібы якая маланка ў галаве бліснe,— во яно, тое, што трэба. Быў такі дзядзька Кузьма, яго, Цімаў, дзядзька. У вайну Ціма разам з маткаю жыў у дзядзькавай лазні, а пасля вайны дзядзька пісаў ім пісьмы. Цімаў бацька высылаў яму, як і дзеду Акіму, свае вайсковыя неданоскі: боты, гімнасцёркі, штаны, аднойчы нават шынель выслаў. У яго рукі не было, аднарукі. Ціма аж захваляваўся ад радасці, быццам ужо знайшоў таго дзядзьку. Спытаў:

— А Мурашку ці ведаеце? Кузьму?

— Ведаю,— ужо і жанчына пасвятлела з твару.— Ён у нас таксама часняга. Дальбог, не брашу. Але ён, Мурашка, не Кузьма, не-не, ён Мікола. Га-а, вы ці не з самбеза?.. Во-во, Мікола даўно пэнсію чакае. Даўно заслужыў. Ужо як ён усё жыццё рабіў у калгасе, пераваўся, дык ніхто, відаць, гэтак...

Пакуль яна гаварыла, як спявала, Ціма згадаў, што Кузьма матчын брат, што матчына прозвішча не Мурашка, а Селянок, уся яе радня — Селянкі.

— Дык, можа, і Кузьму Селянка ведаеце? — паправіўся.

— Ну, а як жа? Вунь яго хата, насупраць Шацькавай. Сінія вокны. Калодзеж ля брамы. Яго вы, можа, за Акімава Ляда? Але ж не Кузьма ўзараў, то яго сын Іван, трактарыст. Івана ўжо на праўленні разбіралі. Адны казалі, што добра зрабіў, узараўшы, а другія — каб штрафаваць. А за што? Зямля там, пад лесам, не масла, вядома, але ж зямля калгасная, бульбачка родзіць. А яны яе, бачыш, сабраліся спісаць лясгасу. Кажуць, што працэнт ураджайнасці зніжае, калгас на ніз цягне. Вось разбярыцеся, калі сілу якую маеце. Ці можна гэтак зямлёю кідацца? — Замоўкла і ўсё паглядвала то на Ціму, то на Мазепу, то на Ромку, на кожнага глядзела насцярожліва, хітравата, штосьці сваё думаючы.— Вы, значыцца, не з самбеза?.. Пэнсіі не даяце?..

Жанчына была мірная, спагадлівая, за ўсіх заступалася, ад дабраты, відаць, і гаваркая, шчырая, адразу столькі чаго вывернула Ціму пра вёску, вяскоўцаў, іх жыццё. Ціму гэта было цікава, але доўга слухаць не мог — вушы абвялі, стаміліся. То на самога была найшла ахвота балбатаць, быў напусціў на сябе нейкую пустэль і лёгкасць, а то, як стаміўшыся, адвярнуўся ад жанчыны, падаўся далей. За ім следам рушыў Ромка, сумна паглядаючы на свае, на Цімкавых нагах, чаравікі.

А Мазепа ўсё стаяў и цёткаю, тлумачыў, нібы дзіцяці:

— Ты, цётка, помні: доўгі язык — знаходка ворагу.

Тая, нібы адчуўшы пагрозу, разгубілася:

— Дык жа вы... Думала, вы пэнсіі даяце...

— Індык думаў, ды ў суп трапіў. Во як! А пэнсіі... У нас у саміх кішэні дзіравыя.

— Га-а!..

Жанчына толькі цяпер дайшла да нейкай значнай ісціны, але здзіўленне з яе твару не сышло, яна доўга яшчэ стаяла на тым месцы, дзе яе пакінулі хлопцы, ля каша з маладой крапівою, разгублена глядзела ім услед, не разумеючы толкам ні іх саміх, ні іхніх размоў.

Прайшоўшы колькі крокаў, Ціма спыніўся, задумаўся:

«А чаму — Акімава Ляда? Што за Ляда? Чаму Акімава?..»

Азірнуўся на цётку, быццам зноў найшла ахвота пагаварыць, дапытацца пра тое, чаго не ведаў, але яна, падхапіўшы кош, ужо борздзенька шыбавала па вуліцы, у процілеглы бок.

Пяцісценак, да якога падышлі Ціма, Ромка і Мазепа, хаваўся за маладымі, добра зазелянелымі, круглымі, нібы мячыкі, клянкамі. Хата была ладная, харомі-на дай божа, моцная, хоць не вельмі новая, пастаўленая самае малое на два вякі, бацькам і дзецям, ды і ўнукам, атуленая з двух бакоў старым садам, з гародчыкам пад вокнамі, з моцнымі, як і хата, хлявамі, паветкамі. Перад гэтым трывалым, на доўгае сямейнае плаванне, каўчэгам, нібы варта, ёмка стаяла на тоўстых дубовых шулах, пад стрэшкаю з дранкі, брама, каля брамы — калодзеж: цэментавы круг, калаўрот, над калаўротам — шапка, таксама з дранкі. Над брамаю, калодзежам і хатаю ўзвышалася ліпіна, абкіданая яшчэ чорным голлем — старое дрэва зелянець не спяшалася, цярпліва чакала свае пары. Пад таўстым ліпавым сукам, аброслым струпамі, шрамамі, бародаўкамі, віселі вераўчаныя арэлі, на іх сядзела-калыхалася, чыркаючы па зямлі пашэрпанымі сандалікамі, бялявая дзяўчынка ў блакітнай сукенцы, з кніжкаю на каленях.

Каля калодзежа хлопцы спыніліся, загледзеліся на светлую, нібы аблачына ў ясным небе, дзяўчыну. Тая рабіла выгляд, што нікога не заўважае, зачыталася, але гарэзе цяжка было рабіць выгляд, і натуральнае, дзіцячае нарэшце перамагло: рашуча закрыла кніжку, зашчаміла яе паміж каленяў, аберуч ухапілася за вяроўкі і лёгкай птушкаю ўзляцела пад голле.

Ромка апусціў вядро на ланцугу ў калодзеж, раскруціў калаўрот. Вядро было драўлянае, цяжкое, гул-

ка білася аб сцены калодзежа, пад рыплівую песню калаўрота.

Ціма піў першы, доўга піў, усмак. Ён даўно хацеў піць, але неяк не заўважаў смагі, толькі цяпер адчуў. Мазепа стаяў над ім, не мог дачакацца, калі Ціма адарвецца ад вядра. Не дачакаўшыся, пацягнуў вядро на сябе, абліў ногі, адскочыў, але зноў ухапіўся за вядро.

Цімаў твар быў мокры, цякло па барадзе, па шыі.

— Ух, халодная, зубы заходзяцца,— екатаў, п'ючы, Мазепа.

Напіўшыся, ён хацеў выліць астатнюю ваду пад ногі, ды Ромка не даў:

— Куды льеш?..

Ад калодзежа на калочках бег драўляны, з дошак, жолаб, спадаючы ўсё ніжэй, цераз плот, у агарод, і Ромка, напіўшыся, па-гаспадарску выліў астатнюю ваду ў жолаб — яна весела, ззяючы на сонцы, палілася-пакацілася.

— Глядзі, прыдумалі! — здзівіўся Мазепа.— А я не здагадаўся. Бачу карыта, а для чаго?..

Пакуль дзяўчынка гушкалася, а хлопцы пілі ваду ды дзівіліся то з яе, то [illegible] вады, з хітра прыдуманага жолаба, па якім вада кацілася ў агарод, на грады і бульбу, побач з брамаю адчыніліся веснікі — з іх выйшаў невысокі пажылы чалавек у жаўтлявым, сталінскіх часоў фрэнчы. Спыніўся, марудна папоркаўся левай рукою ў левай кішэні, пасля тою ж левай папоркаўся ў правай кішэні, дастаў цыгарку, сунуў у рот, зноў левай рукою ў левай кішэні адшукаў запальнічку, шаргануў па яе галоўцы таўстым пальцам, закурыў. Ціму кінулася ў вочы дзядзькава нязграбнае порканне па кішэнях адной левай рукою, а пасля заўважыў, што ўверсе, ля пляча, правы рукаў поўны, унізе — пусты, ды і канец заткнуты ў правую кішэню. І фрэнч, падалося, знаёмы. Ці не з бацькавага пляча? Гэтакія, навейшыя, некалі бацька насіў, а старыя, злінялыя, высылаў у вёску. Абрадаваны, усміхнуўся, развёў рукамі, ажно пінжак на плячах трэснуў у нейкім слабейшым шве.

— Дзядзька Кузьма!..

Ніводзін мускул не тарганууся на крамяным твары чалавека. Яго халодны спакой нечакана збянтэжыў Ціму. То быў гатовы абхапіць, як свайго, блізкага, а то рукі апусціў.

— Вунь ён, Кузьма,— мужчына кіўнуў на веснікі, а сам, хмурны, падаўся на вуліцу.

З двара чуўся глухі, як у бочку, кашаль. Праз адчыненыя веснікі быў відаць стары — сядзеў на ганку.

Ціму апанавала нерашучасць: а ці Кузьма — той стары? Ішоў да яго ўжо нясмела, не адводзіў вачэй ад яго рук, якія ляжалі на каленях, і чым бліжэй падыходзіў, чым даўжэй глядзеў, тым мацней пачынала вадзіць галаву: у чалавека былі — о жах! — абедзве рукі. Значыць, зноў не Кузьма? Верачы і не верачы вачам сваім, падышоў блізка, нясмела падаў руку, не столькі дзеля прывету, колькі дзеля таго, каб памацаць, што за рука ў старога, хоць адна з дзвюх — якая, ці жывая? Рука была шорсткая, сухая, цёплая. І тады, ужо без ранейшай цікавасці, сумна, нібы просячы прабачэння, Ціма сказаў, што шукае Кузьму Селянка, калі гэтакі жыве ў вёсцы. Сказаўшы, усё роўна як выканаў цяжкі абавязак,— на душы палягчэла, і ўжо быў гатовы павярнуць назад, ды стары нечакана запрасіў у хату. Ціма пачаў быў аднеквацца, але той першы пераступіў парог. Што паробіш? Ужо хочаш ці не хочаш — ідзі. Калі вядуць, быццам палоннага.

У пярэднім пакоі за сталом сядзела дзяўчынка, знаёмая — з вераўчаных арэляў. Перад ёю на стале стаяў збан з малаком. Дзяўчынка піла са шклянкі.

За гаспадаром следам Ціма прайшоў у наступны вялікі пакой, у святліцу, хоць сам не ведаў, навошта ідзе, навошта яму гэтая святліца без дзядзькі Кузьмы? Гаспадар пасадзіў на канапу, сам сеў насупраць на малы дзіцячы табурэцік, уставіўся на Ціму і разглядаў, нібыта дзіковіну.

— Скажы мне, дзед, колькі табе гадкоў? — раптам спытаў.

Што гэта ён? Здзекаваўся ці вар'ят? Ціма не ведаў, што адказаць. Не ён пытаецца, а той, шмат старэйшы за яго чалавек, сапраўды дзед, пытаецца ў яго, маладога, быццам у старога, сабе роўнага ці нават за сябе старэйшага.

Чалавек глядзеў не ў твар, не ў вочы, а на Цімаву бараду, і Ціма здагадаўся — здзекуецца.

— Я... мне трэба Кузьму Селянка! А вы...

Зазлаваўшы, мог разануць, не шукаючы лагаднейшых слоў, але стары не даў дагаварыць:

— Навошта я вам?

Свет паплыў уваччу. Ціма глядзеў, як у пустое.

— Хто вы такі?..— Мне Кузьму Селянка трэба.
— Дык я ж і ёсць Селянок. Кузьма Трафімавіч.
Рукі старога па-ранейшаму ляжалі на каленях, і Ціма раптам заўважыў, што левая вельмі белая, жаўтлявая, быццам стэарынавая, з падсіненымі кончыкамі пальцаў, пальцы ляжаць аднолькава, ледзь сагнутыя, як нежывыя. «Можа, пратэз?» — мільганула ў галаве.
Ён ускочыў з канапы, аберуч схапіў дзядзькаву руку, тую, якую яшчэ не мацаў, левую, і адразу адчуў, што яна сапраўды нежывая. Сціскаў яе моцна, не выпускаючы, усё мацней, колькі сілы хапала, трос і невераго́днаю радасцю, як жывую, ажно дзядзька не ўседзеў, усхапіўся.
— Вы цішэй!.. Адарвяце.
А Ціма трос і вымаўляў горача, аж захліпаўся:
— Я ж Ціма!.. Не пазнаяце?! Ціма, ваш пляменнік. Цімафей Міхайлавіч Мурашка. Вы ж ведаеце майго бацьку, Міхаіла Мурашку? Ён вам слаў свае гімнасцёркі, боты афіцэрскія. І кіцель, вось гэты, што на вас, га?.. Па маці я — Селянок. Як і вы. Мы з вамі Селянкі — га?..
Цяпер ужо стары вочы вытрашчыў:
— Няўжо Клавін?..
— Ну... мая маці — Клаўдзія Трафімаўна. І вы Трафімавіч, Селянок. Брат і сястра, родненькія. А я, значыцца, ваш пляменнік, родненькі.
Яны шчыра абняліся і рагаталі ад нечаканай радасці, абодва, а мацней рагатаў Ціма, узрушаны:
— Во гэта сустрэча! Во гэта радасць! А я ўзлаваў быў на вас. Аднаго быў прызнаў за дзядзьку Кузьму там, ля веснікаў, ён з хаты выходзіў, бязрукі. Хацеў абняць, вось як вас, расцалаваць, як дарагога, кроўнага, ужо рукі расставіў, а ён — не Кузьма, нават адвярнуўся.
— Дык то Пляскач да мяне заходзіў, крамшчык. Прасіў, каб я за яго радоўку адбыў, яму на базу ехаць, па тавары. А я кажу: прадай мех камбікорму кабанчыкам. Няма, кажа. Ёсць, кажу. Я ж цябе, Пляскач, наскрозь бачу: каму ў цябе ёсць, а каму — няма. Дасі камбікорм — адбуду радоўку. Ну ладна, кажа, падыдзі, як сцямнее. Ён такі, Пляскач. Рука ў руку. Я табе, ты мне.
— Ага, Пляскач. Во які! — заківаў Ціма, усё роўна як даўно ведаў таго Плескача.— А пасля вы... Думаў, ну вы ўжо напэўна мой дзядзька, Кузьма Трафімавіч

Селянок. А на рукі вашы — зір: абедзве, заразы, нармальныя, жывыя. Я ж ведаю, што адну руку вам вайна адбіла, а тут — на табе, абедзве. Зноў апёкся? Другі раз? Дык што ж гэта робіцца? Не ў сваёй хіба вёсцы? І вёску не пазнаў, і дзядзьку не знайду? Душа разрываецца, хоць плач. А тут яшчэ вы жарцікі строіце. Да барады прычапіліся, дзедам назвалі. Ух, закіпела душа! Такая злосць, ну такая!.. І раптам: ён самы. Кузьма Трафімавіч Селянок. Вочы вылупіў і не веру. Але тут ужо здагадаўся. Глянуў на вашу левую... Ну, сцервы, рукі робяць! Ляжыць на каленцы, быццам жывая, хоць ты яе пацалуй, любую. Гэта ж трэба! Ну і прамысловасць у нас, дзядзька Кузьма! Якая культура! Які сервіс!

— Што-што?..

— Сервіс, кажу. Зрабілі з нейкай дохлай пластмасы, а яна ажно дыхае, як жывая. Ну не любата, скажыце? Во радасць у мяне на душы, дык радасць!..

Ціма сыпаў і словы і рогат, усё разам, не мог суняцца і ўсё абдымаў старога, ляпаў па хударлявых плячах, а той таксама казаў з усмехам — яму таксама было весела:

— Ну пляменнічак, ну блудны сын! Дзе ж цябе нячыстая ганяла? Трыццаць гадоў у вёску родную не паказваўся. Трэба ж! Барадою аброс. У нас бароды носяць дзяды, ды і то не ўсе. Гэтае памяло хоць і дзеду — на халеру яно? Вошай разводзіць? Малых дзяцей, прабач мне, пужаць?

— Мода, дзядзька Кузьма.

— Гультаю мода, а работніку адно няшчасце. Быў у нас у калгасе, помню, брыгадзір з барадою. Яшчэ да вайны. Прыйшоў на гумно, да малатарні. Што за тэхніка: тарахціць і не малоціць. Палез да яе ў чэрава, каб блізка глянуць, а шасцярня яго за бараду — цап і павалакла. З-за барады галаву страціў. Томка!.. Ідзі сюды! — гукнуў дзяўчынку, якая ўжо з парога глядзела на іх, на дзеда і незнаёмага, яснымі вочкамі, дзівілася з іх смешнай размовы.— Глянь ты на свайго дзядзьку. Не ведала, што гэтакі барадаты ў цябе дзядзька? І нават не сніла?

Дзяўчынка падышла без боязі, як да свайго чалавека, не чужаючыся, можа, таму, што даўно цікавала на Ціму, гадала, што за ён, прывыкла ўжо да яго. Смела падала руку і, употай кінуўшы позірк на бараду, сарамяжліва апусціла вочы.

— І ты, Паўлік, тут? Ідзі і ты...

У дзвярах з'явіўся хлопчык гадкоў пяці, мурзаты, светлагаловы, як сястрычка, з дзедавымі сінімі вачыма.

Ціма намацаў у кішэні цукеркі. Ён іх купляў раніцай у пасёлку, дзе спыняўся цеплаход, купляў разам з віном, бо віно было алжырскае, кіслуха-кіслуха, цукеркаю лепш праганялася. Выклаў ласунак на стол дзецям і пашкадаваў, што мала, не здагадаўся, як купляў, што цукеркі ў вёсцы спатрэбяцца.

А дзядзька пахваляўся, усадзіўшы хлапчука на калена, пяцярнёю прычэсваючы калматую галоўку:

— Мае ўнучкі. З сынам жыву, з Іванам. Нявестка ціхая, паважлівая, Ксеня. Іван яшчэ ў полі, на трактары. І Ксеня ў полі. Бульбу садзяць.

Дзед, адчувалася, любіў малых. Але хлопчык доўга не ўседзеў пад ласкавай дзедавай рукою: крутануўся, нібы ўюн, скочыў з калена старога — і за парог. Тады і Кузьма ўстаў. Падышоў да акна, адчыніў на абедзве палавіны. З вясновага саду ў хату шыбанула цёплае духмянае паветра.

Вечарэла. За ацьмелымі дрэвамі шарэў плот, шарэлі хаты. З хвіліну Кузьма маўчком глядзеў туды, чакаў, відаць, сына і нявестку з поля.

— Сонца, бачыш, у хмары села. На дождж,— сказаў у акно, нібы камусьці на вуліцу.

— Ат! Вада ды гразь,— падхапіў Ціма.

Дзядзька павярнуўся да яго, прыжмурыў рахманыя, з халадком, вочы, сеў зноў на табурэцік, паклаў рукі на калені.

— А што такое адзін вясновы дожджык для вёскі? Ці ведаеш? — спытаў.— Гэта не гразь, Цімафей. Гэта тысячы, дзесяткі тысяч рублёў з неба. Можа, нават сотні тысяч! Іван вунь арэ, плугі сухія, пыльныя. Па раллі ідзе — з-пад ботаў прысак свішча. Бульбачку ў зямельку паклалі, а яна марнуецца, дожджыку чакае. Юр'я прайшло, а калгасныя кароўкі яшчэ ў хлявах ды загонах, трава без дожджыку не адрастае. Людзі сваіх тры дні як павыганялі, хай хоць на сонцы адагрэюцца. Не, зямельцы ўсё трэба — і дождж і сонца. А інакай жываты падцягнем. Як мы тут, у вёсцы, так і вы там, у горадзе.

Ціма маўчаў як мыла з'еўшы. Вось дык уліп, спёкся на дожджыку. Яму гразь, а селяніну — тысячы рублёў, хлеб і бульба, зіма сытная ды цёплая. Нават не

глядзеў дзядзьку ў вочы. Падышоў да акна, моўчкі разглядаў вуліцу — яна, зазелянелая, супакойвала і вочы і душу.

— Дык кажы, як вы там жывяце, у Мінску? — спытаў стары.— Што матка памерла, ведаю. Зямля ёй пухам. Сам тады хворы ляжаў, ногі былі адняліся, не мог устаць, кроку ступіць. А Іван служыў армію. Як там бацька? Ты што робіш? На каго вывучыўся? Мы ж тут сядзім — нічога пра вас толкам не ведаем. Была жывая Клава, дык хоць зрэдку, бывала, напіша, як ды што, а вы, мужыкі... Ды я вас разумею. Сам гэтакі гультай, каб сесці ды напісаць хоць якіх два словы...

За акном на вуліцы стаялі Мазепа і Ромка. Да іх падышоў высозны танклявы міліцыянер. Нешта ім сказаў. Мазепа дастаў з кішэні пачак цыгарэт, даў закурыць.

Ціма сеў на канапу супраць Кузьмы.

— Як жывём? А так і жывём...

Гаварыць пра сябе, калі папраўдзе, Ціма любіў, але добрае, Мазепу ды Ромку, такім, як сам, сябрукам, дзе можна казаць, што ў галаву ўзбрыдзе, абы сябе паказаць,— любая пахвальба сыходзіла з рук. Ды і пра што звычайна языкі часалі? Пра жанчын, хто якую якім макарам ахмурыў, пра віно, хто колькі заклаў за каўнер, а калі пра работу, дык пра сваю, пра фільмы, свае і чужыя, пра Джульету Мазіна і Брыджыт Бардо, рыр-экраны і планы, планы, планы — буйныя, сярэднія, розныя, ды яшчэ гісторыі-чуткі — хто з кім ажаніўся, хто з кім развёўся, хто каго купіў, хто каго прыбіў (усё адтуль, з вялікага і маленькага кіно), ды яшчэ — анекдоты: італьянскія і армянскія, галівудскія і масфільмаўскія... і тэлефільмаўскія, вядома. А тут? Што сказаць пра сваё жыццё дзядзьку Кузьму? Тут не збрэшаш і анекдоцікам не адкупішся. Не дзеля анекдоціка трыццаць гадоў плыў-ехаў. Ці па душы прыйдуцца яго інстытуты дзядзьку Кузьму, селяніну? Ці спадабаецца старому ягоная жытка? Наўрад каб па душы была. А Ціму вельмі хацелася, каб дзядзька Кузьма, усе ў Сычыках, уся радня, ад малога Паўліка да дзеда Акіма, калі ён — а раптам! — яшчэ жывы, каб уся радня і нерадня добра пра яго думалі, каб усе адчулі, што ён, Цімафей Мурашка, не нейкі там шлапак і валацуга, а чалавек, якога трэба цаніць, шанаваць, які нечага варты. Яму здаецца, яшчэ ніколі ў жыцці гэтак не хацелася спадабацца людзям. Можа,

што адчуваў перад імі сваю віну? Можа, і так. Але яшчэ... раптам вельмі захацелася быць тут сваім чалавекам, сваім у сваёй вёсцы, каб усе бачылі, што ён не чужак, свой, ад свайго вясковага кораня, ні ў чым не горшы за іх. Адчуў — ажно сам здзівіўся,— што яму гэта сёння вельмі патрэбна.

І таму не ведаў, з чаго пачаць.

— Ну як жывём?.. Як усе...

Яго позірк зноў апусціўся на дзядзькавы рукі, зачапіўся за іх, быццам у іх быў паратунак. Усміхнуўся, ужо не ад душы, без той ахвоты. Дзядзька заўважыў і яго позірк і яго ўсмешку, паклаў руку на руку, жывую на мёртвую, як хаваючы.

— Вось трэба ехаць у раённую бальніцу, на ВТЭК. Выклікаюць, каб інваліднасць пацвердзіць. Першую групу як далі, дык кожны год цягаюць на праверку, каб руку дактарам паказваў. А можа, я ўжо не інвалід? А можа, у мяне за год новая рука вырасла?

— Як гэта? — не зразумеў Ціма.

— А так, як кажу. Парадак такі.

Ціма зноў паспрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка не атрымалася, шкада зрабілася дзядзьку Кузьму.

— Ладна. Пра жытку мы яшчэ нагаворымся,— сказаў Кузьма і ўстаў з табурэткі. Зноў паглядзеў у акно, за якім ужо не толькі шарэла, але і цямнела.— Штосьці Івана і Ксені няма,— цяжка ўздыхнуў.— Вунь ужо карова з пашы вярнулася, плот бадае. Ты, Цімафей, пасядзі, я хутка вярнуся.

У дзядзькі, мабыць, была добрая душа, спагадная і да ўнукаў, і да дзяцей, і да каровы, і да ўсіх на свеце. Убачыў, што яму, госцю, цяжка пра сябе казаць — не настойваў, пайшоў. Пазней, кажа, пагаворым. А іншы б знарок насядаў, убачыўшы, што цяжка чалавеку.

Бразнула ў сенцах вядро. Усё роўна як дзядзька сабраўся па ваду.

Мазепа, Ромка і міліцыянер усё стаялі за акном, курылі. Мазепа і Ромка паслі вочы на міліцыянеру, а той раз-поразу пазіраў спадылба на іх абодвух: то зірне, то апусціць вочы. Нарэшце шпурнуў цыгарэтку пад бот, прытаптаў, ускінуў руку пад казырок, шчоўкнуў абцасам па абцасе, назваўся:

— Участковы Капуста! — Голас прарэзаўся рашучы, зычны, асабліва калі запатрабаваў: — Вашы дакумэнцікі!

І руку працягнуў: вазьмі ды пакладзі.

Ціма стаяў каля адчыненага акна, усё чуў і бачыў, што там, на вуліцы, рабілася. Падалося, што хлопцы разгубіліся. Мазепа нават руку прыклаў да голае галавы, як участковы да картуза:

— У арміі не служыў. А прозвішча — Мазепа. Імя...

Імя назваць не паспеў — перапыніў Капуста:

— Дакумэнцік, гражданін Мазепа?!

Участковы пільна ўглядаўся ў калматую Мазепаву бараду, чмыхаў вастрагорбым носам, нібы адчуваў перад сабою схаванага за барадою злачынцу, прынюхваўся да яго.

— Адкуль прыехалі?

Мазепа ўнурыўся, маўчаў. У яго быў такі выгляд, быццам ён трапіў у пасадку і не ведаў, як вырвацца.

— Адкуль, калі і з якой мэтаю трапілі ў вёску? — Капуста сыпаў пытанні, не даючы апамятацца.— Месца работы?

Ціма бачыў, што выпадак не так цяжкі, як па-дурному смешны, але ўчастковы гэтакі сур'ёзны ды строгі, што злаваць яго, як злаваў Мазепа, не варта. Ціма быў гатовы выйсці з хаты, каб усё растлумачыць прадстаўніку ўлады, але тут Ромка падаў Капусту сваё службовае пасведчанне — яшчэ новенькае, малінавае. Капуста трымаў пасведчанне, як пякучы вугаль, перакладаючы з далоні ў далонь, ледзь на яго не хукаючы, углядаўся, моўчкі параўноўваў фота ■ арыгіналам, з жывым Ромкам, потым вярнуў дакумент, падцяў жывот, выпучыў грудзі, правёў далонямі па баках, разгладзіў на сабе кіцель, разгублена скінуў з рукава нейкае пакулле і прабачліва, ліслiва, у самыя вочы, паглядзеў на Мазепу.

— Кіно? — спытаўшы, крактануў, як зваліў ношку.

— Так точна! — голасам самога Капусты рэзнуў Ромка.

— Пра Сычыкі,— дадаў Мазепа, яхідна ўставіўшыся на Капусту.— Пра вашы маякі. Ну і... участковы — не апошні ў вёсцы, га?.. Парадак, сумленне, справядлівасць...

— Так точна! — Капуста зноў прыклаўся да казырка.

З акна Ціма не бачыў Мазепавага твару, але прадчуваў, якія хітрасць і радасць на ім напісаны. Мазепа намацаў стрэмку ў душы чалавека і цяпер выпадку не

ўпусціць, каб лішні раз не наступіць на тую стрэмку — хай пабаліць.

— Вось глобус... Шацькава...

Ніжняя губа ў Капусты адвісла, нібы ў старога каня, зрабілася нежывая. Не варушачы ёю, вымавіў:

— Вы ведаеце Шацькаву?

— Сталіцы ўсё вядома,— шматзначна адрэзаў Мазепа.

Капуста нібы памяняўся з Мазепам месцамі, ужо сам апынуўся ў пасадцы, міргаў і чмыхаў, аглядаўся на ўсе бакі, губляючыся. А Мазепа ўчапіўся ў глобус, што рак у жабу:

— Як было?.. Думаю, ад нас вы можаце не хавацца. Мы самі і правершчыкі і следчыя. Дык няўжо маладая настаўніца...

Капуста заўважыў у акне Ціму.

— Адыдзем адсюль. Я раскажу. Але гэта не кожнаму трэба чуць. Факт...

Капуста штосьці яшчэ казаў, ды Ціма ўжо не чуў. Адно бачыў, як участковы павёў хлопцаў ад хаты, за клёны.

У хаце цямнела. Ціма выйшаў у сенцы.

Пад столлю, падшытай чыста абгабляванымі шалёўкамі, яшчэ свежымі, жоўценькімі, тлела жаўтлявая лямпачка. З сянец на двор былі адчынены дзверы — праз іх па двары сеялася кволае святло. Выйшаў з сенцаў на прыступак, не паглядзеў добра, куды зручней ступіць, стаў на мокрую дошку, пaслізнуўся і адной нагою, Ромкавым чаравікам, убухаўся ў гразь. Ціхенька, каб ніхто не пачуў, загнуў мацюка, сплюнуў пад ногі, аб сушэйшую дошчыну абшкроб чаравік. Дошак на двары хапала, ляжалі адна на адной, у сціртах, для справы прыгатаваныя. Яшчэ тут ляжалі нятоўстыя бярвенцы, жэрдзе, грудок цэглы, буту. А насупраць быў хлеў — у ім нехта даіў карову. Малако пругкімі струменямі бегла ў вядро, звінела, нібы шклянка, але тыя гукі не зліваліся ў песню, кожны струмень спяваў паасобку, з перадышкамі, і Ціма здагадаўся, што даіў Кузьма адной рукою.

Дзядзька невыпадкова паабяцаў дождж — імжыла. Ціма стаяў ля сенцаў пад страхою, на дождж не спяшаўся, а ён сыпаў, дробны і цёплы, не аціхаючы.

Паўз самыя сенцы, дзе сушэй, не ліло на галаву,

Ціма прайшоў да плота, за якім святлеў сад. Пералез цераз жардзіны. Паміж яблынямі заўважыў сцежку — падаўся ёю. У канцы саду выйшаў на дарогу, за якой пачыналася поле — вялікае, шэрае, вусцішнае.

Пасярод дарогі спыніўся, азірнуўся на дзядзькаву хату. Змакрэла-блішчастая, шэрая пад шэрым небам, яна стаяла нейкая размытая ў змроку вечара, падалася большаю, як раней, пры святле, нямою, сляпою. І душою, не хітруючы перад самім сабой, Ціма раптам адчуў лёгкую, як мімалётны санлівы ветрык, прыкрасць да гэтага селішча, падумаў: а што добрага, што тут за жыццё, у гэтай шэрані, макрэчы, глушэчы? Ім... гразь — тысячы рублёў, багацце, сытасць. А гары яно, такое багацце, каб сядзець у гразі. Іван і Ксеня маладыя, за яго, Ціму, маладзейшыя, а жытка — ад цямна да цямна ў полі, пад вятрамі, дажджамі, добра — калі цёплымі, яшчэ і трактар жалезным чэравам у вушы гырчыць усе гады, не дае спакою. Хіба яны ведаюць сапраўдную чысціню, музыку, лёгкасць? А дзядзькава жытка? Штодня сядзіць у хляве пад кароваю, адной рукою за цыцкі цягае. Пакуль з усіх чатырох па струменьчыку выдаіць — малака не захочаш. Маладых дзень цэлы не бачыць, з малымі, што якая баба, гушкаецца, а бабы свае няма, каб пасобіць. Яго бабу немцы забілі — Ціма гэта ад маці ведаў. На ноч сыдуцца ў хаце, бацькі ды дзеці, павячэраюць — і спаць. Не да размоў, не да тэлевізара, як наробяцца за доўгі дзень, ды і да свету ўставаць, каб зноў бегчы ў поле. Гэта жыццё? Ціма аж скалануўся, падумаўшы, што тут, у гэтым жыцці, ён сам некалі нарадзіўся, мог прысохнуць, у горад не вырвацца, мог застацца тут назаўсёды, калі б бацька з вайны не вярнуўся — маці адсюль не вывезла б. Паставіў бы хату з хлявамі, як Іван, завёў бы карову, абсыпаўся б курамі, свіннямі, дзецьмі. Можа, нават на гэтым самым месцы стаяла б яго хата, бо тут, можа, дворышча матчынага і дзядзькавага бацькі, корань Селянкоў. Вось толькі мясціна гэтая — сам корань — не помнілася. Нічога гэтага раней не бачыў: ні хаты, ні хлявоў, ні саду, ні дарогі за садам, дзе зараз стаяў, нудзіўся, ні поля, што за дарогаю. Няўжо ўсё новае на старым месцы? Няўжо гэтак хутка зямля мяняе абновы? Як маладая дзеўка. Сад не прыгадваўся ніякі: ні ў лісці, ні ў галлі, ні ў кветках, ні ў яблыках. Ні свой, ні чужы. Можа, у вёсцы садоў не было? І дарога, на якой цяпер стаяў, не помнілася. І поле.

Хоць сцямнела, імжыла, але на полі Ціма бачыў азіміну — блішчала, мокрая. Жыта тых гадоў, ваенных і пасляваенных, прыгадаў: даспелае, жоўтае, вышэй галавы. Можа, што галава тады яшчэ не высока ад зямлі ўзнялася? Але не ў гэтым месцы тое жыта было. Яно расло абапал віхлястай, нібы змяя, пясчанай дарогі, паміж узгоркаў. А дзе тыя ўзгоркі? Зруйнаваны плугамі часу? Ці плугарамі-меліяратарамі?

Ішоў далей, далей...

Вецер з поля нёс у твар сяйво, мокрае і цёплае. Спачатку Ціма не вельмі зважаў на дождж, ішоў і ішоў за ўспамінамі, але пачынала плысці па твары, ліць за каўнер — павярнуў назад. Ля плота спыніўся, узяўся за штыкеціны. Яны ўжо набраклі вільгаццю — рукі ўвэдзгаў. Шаргануў далонню аб далонь, потым аб траву — аж рыпела, мокрая,— абмыў. Дастаў з кішэні насоўку, насуха абцёр рукі. І твар выцер. Мокрая была галава, з галавы цякло ў вочы, за каўнер. Мацюкнуў Ромку. А чаму Ромку? Ён хіба вінаваты, што забыў яго капялюш у дзядзькавай хаце? Каб ведаў, што будзе дождж, мог ускінуць на плечы Ромкаў плашч — на цеплаходзе. Не, на Ромку злосць усё роўна была. Можа, за Зіну? Не, не за Зіну. За тое, што Ромка лез у спрэчкі, папракаў яго, Ціму, быццам ён, у вёсцы нарадзіўшыся, вёскі не ведае. Вядома, Ромка вёску ведаў куды лепш. Адно, што сам адтуль нядаўна, а другое — часцяком і цяпер бываў недзе на Віцебшчыне, у маткі ды бацькі, сясцёр ды братоў, яго туды вечна цягне, як магнітам. Які ён гарадскі? Адной нагою ў горадзе, другою — у вёсцы. Галоўнае — душою там. Таму і кпіць з Цімы, гарадскога чалавека. Ну, гарадскі. І слава богу. Сам Ромка чамусьці не жыве ў вёсцы. Трэба спытаць — чаму? А што тут, у гэтым шэрым куце, добрага? Дзяроўня, як кажа Мазепа. Яшчэ ўлетку тыдзень-два можна пажыць, пакуль нудота не загрызе, з нейкай Зіначкаю пад кусцікам, а што рабіць без Зіначкі, ды яшчэ дажджамі, снягамі, маразамі?

Ціма адчуў, як яму брыдка. Пабачыў дзядзьку, яго сумную жытку, паглядзеў на вёску — і ўжо быў гатовы бегчы на цеплаход, зашыцца ў кают-кампаніі, хутчэй плысці далей. Цяпер ён тырчаў тут не па сваёй волі — ад нейкага абавязку дачакацца Івана, браценіка, пасядзець за дзядзькавым сталом за вячэраю, бо гэтак усюды водзіцца, без гэтага нельга: назваўся сваяком,

госцем — садзіся за стол. Не хацелася, каб пра яго кепска думалі.

А можа, пара і за стол? Можа, яго ўжо чакаюць? Ціма падаўся назад, да дзядзькавага саду.

Каля яблынь спыніўся, дастаў з кішэні запалкі, паднёс агеньчык да чаравікаў. Левы быў чысты, блішчаў, мокры, а правы таксама блішчаў, ад макрэчы і белага бруду — відаць, яшчэ там, на двары, убухаўся ў гліну ці вапну. Шаргануў чаравікам па мокрай траве раз, другі, трэці, крыху абмыў — скокнуў за плот.

Іван вяртаўся з поля цяжкаватай хадою, брудны, але вясёлы, нібы ■ гулянкі. Дваром ішоў насвістваючы, шлёгаючы трактарным пасам ад рухавіка па халяве бота, моцна грукаючы абцасамі па насланых дошках. Ужо на ганку, шоргаючы нагамі аб анучу, выціраючы боты, заспяваў:

Нашто мне жаніціся,
нашто тая жонка,
ёсць у мяне суседачка,
добрая прыяцелька...

Ціма, прытаіўшыся, стаяў блізка ад ганка і добра чуў браценіка, яго блазнаватую песню. Праз адчыненыя сенечныя дзверы чуў таксама дзядзьку Кузьму, як той спытаў:

— Вясёлы ты сёння. А дзе Ксеню падзеў?

Сын гаварыў ахвотна, нібы ўвесь дзень маўчаў, басам:

— Вясёлы, бацька. Гэта праўда. Але не прыглядайся, яшчэ не выпіў. Дзікавы Капцы засеялі. Ад рубца да рубца. Паспелі. Сам брыгадзір не паверыў. Тут табе і дождждык на бульбачку. Можа, разгуляецца на ўсю ночку.

— Дзе ж Ксеня? — зноў спытаў бацька.

— Да Плескача па гарэлку зайшла. Кажуць, у нас госць?

— Цімафей прыехаў, Клавін.

— А дзе ён? У хаце?

— Недзе на вуліцы. Ведаеш, чым прыехаў?

— Ведаю.

— Адкуль?

— А ўся вёска трубіць.

— Во як!

Іван моцна бразгацеў у сенцах рукамыйнікам, мыючыся, салодка, як дзіця, фыркаў, зноў спрабаваў мармытаць сваю песеньку, і па ўсіх тых гуках, што даляталі да Цімы, няцяжка было адчуць, які Іван чалавек, які вясёлы, шумлівы, малады і здаровы, бо гады і хваробы робяць чалавека іншым, ціхім і злосным.

Дождж мацнеў. Ён ужо не імжыў, а ліў, шумеў па кустах і ў дрэвах, вада цурком бегла з шыфернага даху, пялёскала пад сценамі ў капяжах. Сенечны дах быў з нескупым напускам, але дождж і пад ім знайшоў Ціму, вытурыў. Ціма ўскочыў на ганак, з ганка — у сенцы, а ў сенцах... там быў Іван. Ён стаяў з ручніком у руках, да пояса голы, выціраў магутныя грудзі і плечы, шырока расставіўшы босыя ногі, стаяў трывала, нібы на цёплай раллі, сінімі бацькавымі вачыма, яснейшымі, як у бацькі, яшчэ не злінялымі, па-добраму ўсміхаўся з-пад жаўтлявых купчастых броваў і такога самага жаўтлявага растрэсенага чуба. Адразу здагадаўся, хто перад ім,— ускінуў ручнік на плячо, працягнуў рукі да Цімы:

— Ну, Цімафей!.. Ядры тваё качанне, сын блудны. Во ты які! Можа, абдымемся, брацені́к? — спытаў, пасміхаючыся, бо Ціма крыху разгубіўся ад яго нечаканай шчырасці.

Ціма быў няўломак, але Іван абхапіў — дых заняло. Ён не так вымахаў пад столь, як Ціма, хоць быў таксама не малы, але ў шырыню — дай божа, карчысты.

— Я цябе адразу пазнаў,— прызнаўся, не схлусіў, Ціма.

— А я колькі ўжо разоў думаў: ну вось упраўлюся з работаю, пастаўлю трактар на рамонт, сам матану ў Мінск, падзіўлюся, што ў мяне там за брацені́к, які носа не кажа ў Сычыкі, у каго ён такі ўдаўся? Ну задам чосу!

— Усё не было калі,— як мог, апраўдваўся Ціма.

— Ад самай вайны дня не знайшлося? — зноў з тою самай усмешачкаю, з яўным недаверам перапытаў Іван, але раптам нібы пагадзіўся: — Вось гэтак і ў мяне. Поле ды трактар далёка ад сябе не адпускаюць.

Ціма адразу адчуў, як лёгка гаварыць з Іванам, хоць той не ашчаджаў яго самалюбства, гаварыў, што думаў, па сваёй натуры мог сказаць не толькі салодкае, але і горкае.

— Даўно, відаць, на трактары? — пацікавіўся Ціма, бо гэта яго сапраўды раптам чамусьці зацікавіла.

— Як з арміі прыйшоў, дык і асядлаў. Помню, пасядзеў два дні дома і пайшоў на бальшак. Старшыня калгаса Пятровіч сустракае, запыняе. Добры быў старшыня, памёр. Франтавік, кругом інвалід, дысцыпліну трымаў ваенную. І хітры-хітры. Пытаецца, куды іду. У ваенкамат, кажу, на ўлік трэба стаць. А рабіць, пытаецца, дзе будзеш? У горад, як іншыя, збяжыш? Не, кажу, застануся на бацькавай зямлі. А ў арміі дзе службу нёс? Кажу: танкіст-гвардзеец. А цяпер, пытаецца, што, гвардзеец, думаеш рабіць? На жалезнага каня, кажу, сеў бы, бо па гэтай часці ў мяне і бацька быў, шафярыў да вайны, і дзед Акім. Глядзіць, нязгодны. Я яго зразумеў, кажу: дзед Акім аграном, гэта ясна, але ж і коні былі пасля вайны ў яго руках, не жалезныя, дык жывыя. Хто лепш за яго коней глядзеў, любіў? Ніхто. Значыць, дзед Акім як бы таксама быў механізатар. Пятровічу такая размова спадабалася, даў ён мне старэнькі ДТ. Вось і варочаю зямельку ўжо гадоў пятнаццаць. Спачатку на ДТ, цяпер — на «кіраўцы». То ў пяць плугоў, а цяпер — у дзесяць.

— А дзед Акім?..

Ціму карцела спытаць, ці жывы дзед Акім, але язык заплёўся, адубеў за зубамі: як спытаеш? Калі памёр, дык жа будзе сорамна, што пра гэта ён, Ціма, не ведае. А памёр, відаць.

Іван думаў сваё, сваё і казаў, як не пачуўшы госця:

— Яна ж, зямелька, такая пані. Паляжыць на левым баку — на правы яе пакладзі, а на правым паляжыць — павярні на левы.— Ён накінуў на галаву чыстую белую кашулю, якую бацька прынёс з хаты.— Вось і варочаю.

У сенцы ўвайшла маладзіца з сумкаю. Яна была ў гумовых ботах, у мокрай ад дажджу фуфайцы.

— Во і гаспадыня,— узрадаваўся дзядзька.

Іванава буйная галава вынырнула з каўняра:

— Га, Ксеня? Ну знаёмцеся, сваякі.

Ксеня нетаропка паставіла сумку на падлогу, нейкія два словы сказала пра дождж, пра бульбу, выцерла аб ручнік, якім выціраўся муж, мокры, чырвоны з дажджу твар, тады толькі ўважліва паглядзела на Ціму і падала руку.

— Чаго тут сабраліся? Ідзіце ў хату,— ветліва, але спакойна, не падкрэсліваючы сваёй ветлівасці, сказала

яна, найперш, вядома, да Цімы, госця, а ў бацькі адразу спытала пра дзяцей — дзе яны, ці дома?

— У хаце. З гасцямі...

З дзядзькавых скупых слоў Ціма зразумеў, што за госці ў хаце, навошта прыйшлі, каго чакаюць, адразу і галасы пачуў, прыглушаную размову, хоць слоў не мог разабраць, здагадаўся, што самае нялёгкае, чаго найбольш баяўся ў сваіх Сычыках, пачнецца ў хаце, там быццам сабраўся над ім нейкі суд. Пашкадаваў, што побач няма ні Мазепы, ні Ромкі — як-ніяк, свае хлопцы, падтрымка.

На ганку за дзвярыма грукнула, шоргнула. Іван шырэй адчыніў дзверы — у сенцы ўляцела старэчая буркатня:

— А каб ім бог дзетак не даў...

— Цётка Варвара! — гучна, з радасцю, усклікнуў Іван, усё роўна як запрашаючы жанчыну з двара ў сенцы.

Маленькая бабуля курчылася пад мокрым блішчастым, з празрыстай плёнкі, плашчом, глядзела перад сабою ў падлогу з-пад такога ж блішчастага, як той плашч, башлыка, насунутага на самыя вочы; з башлыка цякло па плашчы, па твары. У руцэ яна моцна сціскала галоўку кія, які таксама блішчаў на святле, быццам нікеляваны. У сенцах расшпіліла плашч, скінула з сябе на бочачку ля дзвярэй, разам з башлыком, стаяла нерухомая, аберуч абапёршыся на кій, уся ў чорным — чорная кофта, чорная спадніца, чорная хусцінка на галаве,— падоўгу ўзіралася ў кожнага, як слепаватая.

Усе глядзелі на яе, маўчалі.

— А гэта ты, Кузьма? — спытала нарэшце.

— Я, Варвара. А ты ўсё іх клянеш?

Старая ўставілася на Ціму.

— Каго ж мне клясці, як не іх, ірадаў? Гэта да мяне Лёкса прыбегла і кажа, што Клавінага мальца бачыла. Ці праўда, што ён тут, у вас?

— Праўда, Варвара. Ідзі ў хату. Усе заходзьце.

Старая пасунулася ў хату адразу, а Ціма стаяў ля Івана ў сенцах, пакуль той абуваўся, стаяў і слухаў; за дзвярыма ішла гаворка, можа, і пра яго — не мог зразумець. Калі нарэшце і яны з Іванам пераступілі парог, размова ў хаце аціхла. Там былі адны жанчыны. Яны сядзелі каля акна на доўгай лаўцы, а насупраць, каля печы, на табурэціку, маўчаў, схіліўшыся,

мужчына. У хаце было прыцемна, малая лямпачка над сталом ледзь ззяла ў фарфоравым абажурчыку, падвешаным да столі, і Ціма як след нікога не мог разгледзець. Затое святла хапала, каб заўважыць, што ўсе жанчыны глядзелі на яго, госця, быццам ён адзін завітаў у хату, нават той мужчына ўзняў голаў.

— Ну, Цімафей, знаёмся з раднёю,— сказаў Іван.

Дыханне заняло — вось яно! Але Ціма не падаў выгляду, што хвалюецца, усміхнуўся, быццам вельмі ўзрадаваны, падышоў да маленькай, пад чорнай хусцінкаю, бабулі, якая сядзела на самым краёчку лаўкі, трымаючыся за калені. Яму падалося, што гэта баба Варвара, ён быў упэўнены, што яна: як зайшла ў хату, так і села ад краю, ля парога. Зараз назаве па імені і не памыліцца, усіх здзівіць, што помніць бабу Варвару, сваю цётку, якой маці некалі слала з Мінска пасылкі з лекамі ад радыкуліту — раптам нават гэта згадаў.

— Дык здаровы былі, цётка Варвара!

Весела, упэўнена, як пераможац, глядзеў ёй у твар, быццам неверагодна рады сустрэчы. А яна...

Яна заміргала часта-часта, быццам ён расплыўся ў яе вачах і яна яго не бачыла, быццам разгубілася.

Але загаварыла:

— Я... Ляксандра. Твая, Цімафей, хросная матка. Ці ты мяне не пазнаў?

О божа! Матка знайшлася! Не ведаў, што адказаць. А яна схапіла яго за руку, сціснула моцна, нібы які мужчына, усхапілася з лаўкі, наблізіла да яго дробны румяны тварык, праніклёна, як што просячы, глядзела ў вочы. Ён не адразу здагадаўся, што яна цягнецца да яго вуснамі, а здагадаўся — сам нахіліўся, і яна хуценька, нібы ўкрадні, цмокнула ў шчаку сухім халадком — адразу выпусціла яго руку, супакоена села. І толькі цяпер ён пазнаў у ёй тую самую Лёксу, якая першай прывітала яго на беразе ля цеплахода, першай, разам з гром-бабай і хлопчыкам Пецем, расказала пра такія-сякія вясковыя навіны, пра глобус і настаўніцу. Вось дык дзіва! Матка хросная...

Іван узяў Ціму за плячо, павярнуў лявей, і Ціма, ужо не чуючы, што там мармытала Лёкса, убачыў перад сабою, цяпер ужо напэўна, Варвару — тая сядзела на лаўцы, выставіўшы ўперад кій, дзяўбла кіем у падлогу. Калі ён павярнуўся да яе, яна таксама прыўзнялася, і ён таропка, нібы спяшаючыся апраўдацца, разам з галоўкаю кія схапіў яе рукі, касцістыя і шурпа-

тыя, як у Лёксы, але слабейшыя, схіліўся нізка, сам цмокнуў у шчаку і даў сябе цмокнуць. Зблізу ўбачыў, як у адным воку старой заблішчала слязіна. Мільганула думка, што сваю хросную ён у шчаку не цмокнуў, як Варвару, адно хросная цмокнула, ён тады не адважыўся, і гэта, напэўна, была яго памылка, якую ўсе заўважылі. Хоць ты цяпер вярніся да хроснай маткі Ляксандры, каб загладзіць віну. Але прыкра зрабілася: якая яна яму матка? Адна ў чалавека матка, а дзвюх няма і быць не можа.

Задумаўся, а Іванава рука ўжо кіравала далей, і Ціма ледзь паспеў прамямліць, зрабіўшыся надзвычай далікатны:

— Прабачце, цётка Варвара. Вы з цёткай Ляксандраю нейкія вельмі падобныя.

І яшчэ мог нагаварыць глупстваў, ды заўважыў, як нядобра, з крыўдаю, заблішчэлі вочы старой,— замоўк. Яна ад яго адвярнулася, квола махнула рукою:

— Ат!.. Чаго не бывае на гэтым свеце?..

Не тое, што яна яму адказала, а тое, што холадна адвярнулася, падалося зняважлівым. Навошта яна гэтак? Можа, яны, Варвара і Лёкса, варагуюць, а ён сказаў, што падобныя. Хіба не бывае, што ворагамі жывуць суседзі, сваякі?

У Цімы ўжо не было ахвоты гадаць, хто ёсць хто, зразумеў, што нікога ён тут не пазнае. Але, апынуўшыся перад дзяўчынай з задумлівым свежым тварам, бялявымі, зграбна закінутымі за плечы доўгімі валасамі, у блакітнай сукенцы [illegible] белым чыстым каўнерыкам, надзвычай мілай, зірнуўшы, зніякавелы, у яе прытуманеныя таямнічым перажываннем сінія вочы, Ціма адчуў, што гэта Вера, сяструха. Яна некалі пісала ў Мінск лісты, і па тых лістах ён палюбіў яе. Даўняе прыязнае пачуццё да Веры прачнулася, ён падміргнуў ёй вясёлым блазнаватым вокам, даючы зразумець, што паміж імі існуе даўняя блізасць, сяброўства, а яна, нібы таксама адчуўшы яго блізкую душу, сваё з ім даўняе сяброўства, сагнала з вачэй маркотны туман і ахвотна, прыязна яму ўсміхнулася. І ён ужо ніколечкі не сумняваўся, што перад ім Вера, радасна падумаў: вось тут я дакажу нарэшце, што кагосьці ў вёсцы ведаю, помню, што не чужак я тут людзям.

— Вось ты якая, Вера...

Не паспеў дагаварыць, да канца выліць сваё захапленне, як жанчыны зарагаталі, і нават Іван з імі ра-

зам, не стрымаўся. Ціма ўжо не сумеўся, як тады, не ўгадаўшы цётку Ляксандру, цяпер ён смяяўся з усімі разам, бо бачыў, што смяюцца не [redacted] яго, смяюцца з самога здарэння, нязлосна.

— Нешта я зусім заблытаўся ў радні,— шчыра, весела, пад той смех, прызнаўся.

— Во як табе. Часцей будзеш ездзіць да нас.

Пад гэтакія размовы і ён смялеў:

— Але ж Вера... Веру я ўсё роўна пазнаю.

— Верка!.. Дзе ты, малая, схавалася? — гукаў Іван.

— Хавайся, Вера!..

Іван зазірнуў за квяцістую шырму і адтуль, з-за печы, за руку вывалак таўсценькую чарняўку. Ціма як глянуў на яе, дык і пляснуў у далоні:

— Яна! Я ж ведаў, што Веру пазнаю.

— Ды ўжо ж, як цяпер не пазнаць?

Усіх развесяліў, маладых і старых. А Вера, глянуўшы Ціму ў вочы, зачырванелася, засаромелася, бо, пэўна, адразу ўбачыла, маладой душою адчула, што хлопец ён — зух!

Ён ніколі б не падумаў, што Вера, настаўніца, якая пісала ў Мінск некалі шчырыя і доўгія лісты, гэтакая сарамяжлівая. Узяў яе за рукі, абхапіў, каб пацалаваць, але яна не далася, і ён адчуў, якая яна трапяткая, як нецярпліва чакае моманту, калі ён яе адпусціць, каб зноў схавацца за квяцістую шырму ад позіркаў, смеху, кпінаў. Пашкадаваўшы, ён адпусціў, павярнуўся зноў да дзяўчыны ў блакітнай сукенцы, можа, гады на тры маладзейшай за Веру.

— Дык каго ж я з Вераю зблытаў? — спытаў.

— Гэта не ты зблытаў,— басам пачаў яго выгараджваць Іван.— Гэта ў хаце такія гаспадары, святла людскага не ўключаць, каб чалавека разгледзець.— Ён ускінуў рукі ўгару да лямпачкі, скрыгатнуў ёю ў патроне. Святло хліпнула і пагасла.

Бацька і жонка — у адзін голас:

— Ты чаго?..

— Іван!.. Чаго дурэеш?

А той, не адказваючы, адчыніў дзверы ў сенцы, каб у хаце было крыху святлей.

— Дзе нашы лямпачкі? — спытаў, ляскочучы ў шафцы, якая вісела на сцяне.— Сотка дзе?.. Знайшоў.

Укруціў тую сотку: зыркае, аж блакітнаватае, святло лінула па тварах, па сценах, па печы. З-за шырмы,

пасмялеўшы, выйшла Вера, усе зноў павесялелі, загаманілі, і ўжо ніхто Івана не лаяў, усе хвалілі:

— Хоць адзін здагадаўся.

— Цяпер мы госця разгледзім.

Яшчэ адзін жаночы голас падказаў:

— І госць нас.

Пакуль Іван шукаў сотку, Ціма на паўкроку не саступіў з месца, бо стаяў ля той мілай, светлай, як сонейка, дзяўчыны, думаючы пра яе, адчуваючы яе адну, а яна таксама не адышла ні на паўкроку, і цяпер, ледзь бліснула святло, яны глядзелі адно аднаму ў вочы пільна, нібы штосьці чыталі ў вачах адно аднаго. У зырчэйшым святле яна здалася яшчэ святлейшай, мілейшай, найраднейшай з усіх, нават падалося, што яна яго разумее лепш, як хто іншы. І вось, быццам пачуўшы яго думкі, яго душу, быццам адчуўшы ў яго думках і пачуццях нейкую небяспеку, хвалюючыся і хаваючы хваляванне, яна паспяшалася ахаладзіць яго пыл:

— Я вам не сваячка.

Наіўная! Хіба гэтым магла астудзіць Ціму. Такое пачуўшы, ён ахвотней, гарачэй усміхнуўся ёй, ажно яна, не вытрымаўшы, апусціла вочы, абрадаваўся, што не сваячка, быццам вось цяпер у яго на шляху запальвалася зялёнае святло. Ні словам, праўда, пакуль што не адказаў. Але тое, што падумаў, за яго сказаў Іван, зразумеўшы Ціму як мужчына мужчыну:

— Дык сяброўка сваячкі. Можа, гэта і не горш? Можа, яшчэ лепей? Ну?.. Святлана Шацькава... Абдыміцеся!

Шацькава?.. Няўжо тая настаўніца геаграфіі?.. Такая светлая, мілая і... і — той глобус?..

Яму падалося, што ён некалі раней ведаў гэтую дзяўчыну, недзе бачыў, нешта даўно да яе меў. І пры чым тут глобус?.. Ён быў ні пры чым. Вось толькі... Дзе, калі ён яе бачыў?..

Госці садзіліся за стол...

Так, так... была вясна.

Снег яшчэ не ўвесь сплыў, ляжаў — дзе белы, дзе шэры, дзе чорны — па равах, канавах, пад елкамі, на паўночных схілах узгоркаў, пад высокімі берагамі. Ля кароўніка разлілася рудая багна, пахла ўпрэлым на

сонцы гноем. Ціма стаяў пасярод рудой лужыны ў вялізных дзедавых ботах і праз нахлышч адчыненыя вароты глядзеў у глыбокую, ад варот да варот, сутань кароўніка. Там ляжалі, не падымаючыся, раўлі, не змаўкаючы, галодныя каровы, крычалі жанчыны, не то на кароў, не то адна на адну, каламі ды вяроўкамі падымаючы быдла. Той крык Ціма чуў, але нікога ў сутані не бачыў са сваёй лужыны. Яму нікога і не хацелася бачыць, акрамя Рэні, без яе было вельмі сумна. Ведаў, што яна робіць у кароўніку, і зайшоў бы туды, да яе, ды там былі жанчыны, маці, якая абавязкова спытае, чаго ён прыйшоў, пагоніць дадому. А калі ён не скажа, чаго прыйшоў, дык дазнаецца па вачах, што да Рэні. Аб гэтым ніхто не павінен ведаць. Нават маці.

Рэня была ладнай дзяўчынаю. Маці казала, што яе можна ўжо было выдаваць замуж. Але ён, малы, яе кахаў і не хацеў, каб яе выдавалі замуж. Ён яшчэ не ведаў, што такое каханне, але жыць без Рэні не мог. Яго маленькае сямігадовае сэрца пакутавала, калі доўга яе не бачыў, калі не чуў яе голасу.

Пазней, стаўшы дарослым, ён зразумеў тую пакуту як каханне, сваё самае першае каханне.

А яшчэ раней, як тая вясна, была зіма. Была зімовая раніца. Ціма ляжаў на палку за печчу, падклаўшы пад грудзі стары кажух, глядзеў, як дзед Акім, усеўшыся ля акна, лапіў хамут. Той ляжаў у яго на каленях, а ў руцэ была вялізная іголка-шаршатка з доўгай суравой навошчанай ніткаю.

Рыпнулі дзверы, з ночы прымёрзлыя да лутак, адчыніліся, і ў хату ўвайшла дзяўчына. У яе ў руках было штосьці вялікае, накрытае ватоўкаю, яна трымала перад сабою нібыта бярэмца дроў.

Дзед Акім кінуў хамут на падлогу, падбег да дзвярэй, зачыніў іх за дзяўчынаю, а тая апусцілася на калені, скінула ■ рук на падлогу ватоўку і на яе паклала малое, мокрае, ледзь жывое цяля.

«Бычок?» — спытаў дзед Акім.

«Ды не, кароўка вырасце»,— адказала дзяўчына, радасна ўсміхаючыся.

«Залатыя ў цябе рукі, Рэня»,— сказаў дзед Акім.

«А пры чым жа тут я? Рабуню хваліце».

«На ферме яшчэ хто быў?»

«Не, я адна начавала. Усё роўна як ведала, што сёння мая Рабуня ацеліцца».

Дзед Акім апрануўся, пайшоў па салому, а Ціма ўжо сядзеў на падлозе каля цяляці, гладзіў яго, мокрае, па слізкай поўсці, мацаў капыткі, цёплую мыску, вушкі.

«Як жа цябе зваць, хлопчык?» — спытала дзяўчына.

«Цімафей».

«О, ты зусім дарослы, Цімафей!»

«А цябе як?» — спытаў ён.

«Мяне Рэня».

«Гэта ты нарадзіла?» — спытаў Ціма.

Яна доўга смяялася, ажно ёй горача зрабілася: скінула з сябе паліцечка і хустку. Потым выцягнула з печы чыгун з цёплай вадою, паставіла на падлогу, дзедавым ручніком пачала абмываць цяля. Мыючы, пазірала на Ціму, казала:

«У чалавека матка чалавечая, а ў кароўкі кароўская. Ты не ведаеш карову Рабуню?»

«Ведаю».

«Дык вось яна і нарадзіла. Гэта яе дзіця».

«А чаму ў цябе вочы як у цяляці?»

Яна зноў рагатала з яго, але ён не крыўдаваў, яму нават цікава было слухаць яе рассыпісты звонкі рогат, глядзець у яе вялікія шэрыя вочы, параўноўваць іх з цялячымі і радавацца, што яны падобныя.

«А твары ў вас не аднолькавыя. У цябе белы, як снег, а ў цяляці чырвоны, толькі зорка на лбе белая».

Яна задумліва пагладзіла Ціму па галаве цёплай пяшчотнай рукою, як ён гладзіў цяля.

«Пацешны ты, Цімафей».

«А дзед кажа, што ў мяне таксама твар белы, таму што малакроўны. Мы з табою аднолькавыя».

Яна з ім пагадзілася:

«Во гэта праўда».

Саломы дзед Акім не прынёс, не знайшоў нават той шэрай гнілой, якую здзіралі са стрэх, каб неяк пратрымаць ёю да маладой травы пяць калгасных кароў, на якіх разбагацелі пасля немцаў, ды каня. Тады на ферму пайшла Рэня. Саломы яна таксама не знайшла, але прынесла збан з малаком. З соскі малаком паілі цяля, а што засталося — вылілі ў чыгунок, паставілі ў печ. Яно ў печы зрабілася густое, жоўценькае, на дзірачках, і Ціма еў яго лыжкаю.

Малозіва... Нічога, здаецца, смачнейшага Ціма не еў ні тады, ні пасля.

«Дзед, а хто яна такая, Рэня? Адкуль яна?» — аднойчы спытаў ён.

«Бежанка»,— адказаў дзед Акім.

Ціма задумаўся. Ён, вядома, спытаў бы, чаму яна бежанка, ад каго і куды бегла, але дзед Акім сам расказаў, як на пачатку вайны яна з'явілася ў Сычыках, як усю вайну хавалася па хатах, бо была палячкаю — немцы лавілі палякаў. А якая з яе палячка? Толькі што з Польшчы. А гаварыла па-беларуску, як усе ў вёсцы.

Пакуль цяля жыло ў хаце, Рэня прыходзіла кожны дзень. Прыносіла збан малака, разбаўляла малако цёплай вадою і паіла цяля. І заўсёды адлівала Цімафею.

Калі растаў снег, пацяплела, цяляці ў дзедавай хаце не стала, і Рэня ўжо не заходзіла. Ціма засумаваў. Ён яшчэ ніколі не сумаваў гэтак моцна, яго душа ніколі раней гэтак моцна не тужыла на адзіноце. Калі дзеда не было ў хаце, ён падоўгу сядзеў ля акна, глядзеў у той бок, дзе стаяў кароўнік. Вельмі хацелася бегчы туды, ды не было што абуць. Чакаў, як пацяплее, калі не спатрэбіцца абутак — бяжы басанож куды ўздумаеш. Але вясна познілася, халады стаялі доўга, душа зусім змаглася чакаць.

Аднойчы ён спытаў у дзеда:

«А дзе Рэня? Чаму яна не заходзіць да нас?»

Дзед Акім уважліва паглядзеў на Ціму, быццам першы раз не мог яго зразумець.

«А навошта яна табе?»

Ціма сам не ведаў — навошта.

«Ці прынясе яна мне малозіва?»

Дзед усміхнуўся:

«Не, Цімафей. Цяпер — не. Каровы даўно пацяліліся. Міне вясна, лета, восень, наступнай зімою... Праз год».

Яшчэ ніколі Ціма не крыўдаваў на дзеда Акіма, а тады ўвесь дзень не гаварыў з ім, і дзед падумаў, што ён захварэў. Прыйшла маці. Яны пачалі распытваць, што з ім, дзе баліць, але Ціма маўчаў, не хацеў маніць і яшчэ больш не хацеў казаць праўду. Пасядзеўшы, паўздыхаўшы, маці сказала, што заўтра ёй трэба ісці на ферму, выкідаць гной. І тады Ціма ажыў:

«А мяне ■ сабою возьмеш?»

Яна строга паглядзела на яго:

«Калі б ты, сынок, быў здаровы...»

«Я здаровы, мама. Мне трэба боты. Я хачу з табою на ферму».

Боты даў дзед Акім, свае, а сам палез на хату, знайшоў старыя чуні і сеў падшываць гумовымі шынамі.

Дзень выдаўся цёплы, сонечны. Ціма тады як падышоў да кароўніка, як стаў ля варот у рудой лужыне, дык і стаяў, усё глядзеў у кароўнік. Да вечара прастаяў бы, калі б не Рэня. Яна ішла па двары, сонца свяціла ёй у твар, яна ўсміхалася ці сонцу, ці яму, Ціму, а на галаве ў яе было штосьці чырвонае, нібы агонь. Увесь сонечны свет разам з Рэняю расплыўся ў вачах у Цімы, у галаве закружылася.

«Ты чаго тут стаіш, Цімафей?» — яна ўзяла яго за руку, вывела з лужыны на сухое.

«А мне не страшна стаяць у вадзе. Бачыш, якія ў мяне боты?» — пахваліўся ён.

«Дык ты хочаш усім паказаць, што ў цябе боты?»

«Я табе адной хачу паказаць. Во, бачыш?.. А ты куды хадзіла?»

«Шукала дзеда Акіма. Каб ён запрог свайго каня. Трэба гной вывозіць з кароўніка».

У яе на галаве была чырвоная шапачка. Рэня была вельмі прыгожая ў шапачцы. Ціма глядзеў то ёй у твар, то на шапачку, вачэй адвесці не мог.

«Ты, можа, прыйшоў да мамы?» — спытала яна.

Ён маўчаў.

«Дык ідзём са мною, я цябе завяду. Яна там гной дзярэ. Яшчэ даваенны. Усю вайну не выкідалі».

І тады ён зрабіўся смелы:

«Я да цябе прыйшоў».

«Каб паказаць боты?»

«Ага... Не!..» — разгубіўся ён.

«Навошта ж я табе?»

«Ты прыгожая...»

Ён глядзеў, як зачараваны, на яе чырвоную шапачку.

«Табе падабаецца мой берэцік? Гэта мамін. Яе забіла нямецкая бомба, калі мы хаваліся ў лесе. Я закапала яе там, у лесе, а берэцік узяла сабе на памяць. Я табе яго падарыла б, але... гэта маміна памяць».

Яны зайшлі за кароўнік. Там, пад сцяною, добра прыгравала сонца. Селі побач на бервяно, аб нечым гаварылі-чырыкалі, як вераб'і на жардзіне. Потым Рэня прынесла вялікі алюмініевы кубак малака, яшчэ цёплага, з-пад каровы. Пілі па чарзе.

Яму з ёю было вельмі радасна. Нават калі ўсё малако выпілі і маўчалі. Нават тады, калі Рэню з кароўніка паклікалі жанчыны і яна зноў пайшла выкідаць гной. Хоць сядзеў адзін, але ўжо ведаў, што яна тут, блізка, што, як наробіцца,— зноў да яго прыйдзе, сядзе побач. Ён мог чакаць бясконца доўга, вечна. Як адданы сабака гаспадара.

Ці доўга сядзеў тым разам — не помніў. Помніў, што ў лужыне ля яго купаліся вераб'і, вецер ганялі, а далей па рудой зямлі паважна хадзілі гракі. Неба было чыстае, з блакіту, ані хмурынкі, прыгравала сонца...

Аднаго з усіх у хаце Ціма ўсё ж пазнаў — Плескача. Той сядзеў на нізкім табурэціку, ціхманы, непрыкметны, у размовы не лез, як і на вочы, але калі сабраліся за сталом — тут ён разышоўся, гаварыў шмат, гучна, нібы глухім, і ўсё садзіў сябе ў грудзі кулаком, бухаў, як калатушкаю ў барабан.

— Яй-бо, людзі! — І зноў — бух у грудзі.— Сам ля таго тупарылага студара стаяў, бачыў. Гляджу, наш Цімахвей аберуч у борт уклешчыўся, вісіць, нібы тая гліста ля аднаго месца. Ручкі танклявыя, слабенькія, далібог, як сапелькі. Не ўтрымаўся — плясь на зямлю, у пясок, і зароў, слёзы і соплі пусціў. Тут яго падхапілі, глядзь — кроў з вуха свішча. І твар і сарочка ў чырвонай юшцы. Яй-бо, не брашу! — Зноў — бух кулаком у грудзі.— Вухам за борт зачапіўся, за нейкую амерыканскую жалезіну, парваў вуха, як анучу. Бог сведка, не брашу, клянуся!..

Але Кузьма недаверліва круціў галавою:

— Не веру я табе, Пляскач. Ты збрахаць мастак.

Той гнёў сябе ў грудзі, а кулак ёмкі, чырвоны, нібыта пародзісты бурак. Не мог змірыцца:

— Клянуся, Кузьма!

— А ты не кляніся. Быццам я цябе не ведаю. Я такі. Мне адзін раз збрэшаш — другі раз не паверу.

— Ну калі я табе збрахаў?

— Было, Пляскач. Ой было. Не раз.

— Ну калі?.. Калі?..

Пляскач насядаў, і Кузьма, абы ад яго адчапіцца, абы ён неяк супакоіўся, раптам узяў на сябе:

— Можа, мяне ў вёсцы не было. Што не помню.

І тады Пляскач усхапіўся з-за стала:

— Пакаж ім, Цімахвей, недаверкам. Чаму гэта

яны на нас з табою цень узводзяць? Пакаж ім. Дакажы!..

А Ціма ўжо думаў пра іншае. Ён не зводзіў вачэй са Святланы, якая сядзела насупраць, побач з Іванам, бачыў яе пад чырвоным берэцікам бежанкі Рэні, дзівіўся, якая яна, Святлана, падобная да Рэні, як да твару ёй Рэнін берэцік, ажно падумаў: можа, яна і ёсць — Рэня? Даўно было? Дык, можа, яе дачка? Уся ў матку?..

А тут — Пляскач, са сваім горлам:

— Ну Цімахвей!..

Яшчэ і Вера прыліпла, што гарачы, у лазні, венік:

— Пакажы вуха. Ану пакажы.— Яна ўжо не саромелася, як раней, пасмялеўшы, аберуч схапіла Ціму за галаву, павярнула вухам да стала.

— Ды не тое! — крычаў Пляскач.— Глядзі левае.

Вера рашуча павярнула Цімаву галаву ў другі бок, і ўсе, хто быў за сталом, павыцягвалі шыі, той-сёй нават прыўзняўся з месца, усе ўтаропіліся ў Цімава вуха.

— Гляньце! — торкаў пальцам Пляскач.— Ну?.. А вы не верылі, недаверкі. Шрам і цяпер відаць. Мочка рваная...

Пляскач быў круглы, што пень, здароеўм аж пыхкаў, гарласты, усіх перакрываў горлам, нібы самы крыклівы ў вёсцы певень, але і ён заціх, калі гаркнуў Іван:

— Ну што вы чалавека разглядаеце? Ці ён вам божая кароўка пад мікраскопам?

І супакоіў, і насмяшыў. Усе, смеючыся, паселі на свае месцы. Аднаму Ціму было не да смеху. Найшло адчуванне, быццам яго сапраўды разглядалі пад мікраскопам. А Плескачу ўсё язык свярбеў:

— Я ж вам кажу... Я ўсё чыста помню. Як твой, Цімох, бацька прыязджаў у Сычыкі на «студабекеры», як вёз вас з усім рассем на станцыю, на поезд, у Германію вёз, там пасля вайны служыў. Тады ты і зачапіўся вухам.

Тут ужо Кузьма ўзлаваўся:

— Ды што ты ўсё адно мелеш? Як выпіўшы, да вуха прычапіўся. Вуха і вуха. У цябе не такое? Не дасі слова ўставіць.

— Ну кажы, я маўчу,— пацішэў Пляскач.— Што ты скажаш? Паслухаю.

Кузьма і застрыг вейкамі.

— Я... я пра цеплаход.

— А навошта нам цеплаход?
— Як навошта?
— А так. Пры чым ён тут?
Пляскач хіхікнуў у кулак, але Кузьма не збянтэжыўся:
— Пры тым, што цеплаход прыплыў у нашу вёску. А на цеплаходзе прыплыў Цімафей. Вось мяне вельмі здзіўляе, як гэта ён апынуўся ў нашай лужыне?
— Хто апынуўся ў лужыне? Цімахвей? — зноў усунуўся Пляскач, зноў хіхікнуў.
Кузьма ад злосці на Плескача аж крывёю наліўся:
— Я пра цеплаход, калі ты, Пляскач, зусім аглух.— Апусціўшы вочы ў стол, памыляў вуснамі і працягваў, ужо з ранейшым спакоем: — Яна-то, наша лужына, вясною, яшчэ і ў гэтую пару, глыбозная, але ж капітану трэба ведаць, што на мель не ўспарацца, рызыкнуць трэба. Ён рызыкнуў. І ўгадаў. І каб не цеплаход, то, можа б, Цімафея мы сёння не ўбачылі. А як сёння, дык і заўтра, і паслязаўтра. І яшчэ, можа б, трыццаць гадоў. Вось я і кажу, што трэба выпіць за цеплаход.
Тады ўсхапіўся Іван:
— А я, бацька, не зусім згодны з табою. Хай цеплаход стаіць спакойна пад берагам, чапаць яго не будзем, а вып'ем за госця, за Цімафея, за яго прыезд.
Лёкса смешна высунулася з-за шырокага Плескачовага пляча, утачыла танклявы галасок:
— Вось гэта разумна. Што значыць галава маладая.
Але Іван яшчэ не скончыў:
— Ты, Цімафей, сярод нас чалавек свой, а ў сваё гняздо прыехаў як у чужое. Я не пытаюся, чаму гэтак у цябе атрымалася. Можа, хто іншы спытаецца, ды і сам ты ў сябе спытайся, а я маўчу. У кожнага чалавека свая душа ў целе, свае вочы, свая галава на плячах. Яны кожнаму свой свет паказваюць. Цяпер цябе павярнула да нас, і мы гэтаму рады.
— Бог убачыў, павярнуў. Бог усё бачыць,— прашаптала Лёкса, але яе ніхто, відаць, не пачуў.
Іван зірнуў на Ціму, як пытаючыся, ці разумна кажа, ці тое слова, ці лепшае яно за бацькава. А Кузьма вачэй з Цімы не зводзіў і сваё зноў уставіў, улучыўшы момант:
— Цімафей падобны на таго ваеннага бежанца,

Яго спачатку з гнязда, як птушку, выкінула, аж пер'е ляцела, а пасля — зноў у гняздо.

Пад сталом грукнула. Усе дружна глянулі на Варвару. Яна сумна, апусціўшы вочы, сядзела побач з Кузьмою, як ні ў чым не бывала. Але, не вытрымаўшы, зноў грукнула кіем у падлогу, нібы таўкачом у ступу.

— Кузьма! Ты вайны не чапай,— прамовіла ціхім сярдзітым голасам, патрабуючы.

Гаспадар вінавата схамянуўся:

— Ну... не буду, Варвара. Але як жа ты яе, пачвару, не зачэпіш? Мой Іван, ці Ксеня, ці Вера пра вайну не кажуць. Яны яе не бачылі. А з нас яна столькі крыві ды слёз выдушыла...

Тут і Пляскач разявіўся:

— Гі!... Калі б яе, заразу, не спамянулі, дык не ўсё б і пра вуха Цімахвеева ведалі.

Яго гігіканне было ўжо недарэчы, ніхто не падтрымаў, ніхто не адгукнуўся. Іван павёў у іншы бок:

— Дык што? Чаркі напоўнілі, каб ліць на стол?

— За здароўе Цімафея,— прапанаваў дзядзька Кузьма.

Ксеня за стол яшчэ не садзілася, насіла стравы ды глядзела, каб усім хапала. Яна паклала на сподак перад Варварай бульбіну, катлету, лыжку грыбоў, але старая на яду не зважала, як і на пітво, нічога не піла і не ела, адно скарынку хлеба трымала ў руцэ, грызла пярэднімі зубамі, нібы вавёрка шышку.

— Нешта вы, цётка Варвара, да скарынкі прычапіліся? — заўважыла Ксеня.— Як няма чаго лепшага з'есці.

Ёй, гаспадыні, хацелася, каб гасцям было не горш як дома, таму і папракнула цётку, але Іван яе асадзіў:

— Першы раз бачыш цётку Варвару са скарынкаю? — Кінуў пагляд на Ціму і ўжо нібы яму, каб ён, госць, усё зразумеў, згадаў: — Яшчэ хлопцам быў. Прыйшоў да цёткі Варвары, а яна сядзіць у хаце на парозе са скарынкаю ў роце. Пытаюся: можа, вам чаго мякчэйшага прынесці? А яна мне: занядужала я, Іванка, у грудзях баліць, спасу няма, агонь ходзіць, дык во... села і грызу сабе, лячуся.

Старая сядзела, апусціўшы галаў, быццам не хацела, каб людзі глядзелі ёй у вочы. Але калі Ціму ўдалося зазірнуць у іх, ён здзівіўся, якія яны пустыя, халодныя ў сваім бяздонні.

— Ты з мяне смяешся, пляменнічак? — ціха, нібы здалёк, нібы рэхам свайго голасу, спытала яна Івана.

— Не смяюся. Кажу як ёсць. Вам скарынка — і яда і лекі. Можа, не так?

Старая згодна заківала галавою:

— Так, Іванка, так. Але ці мне адной? Хлебушак, дар божы, кожнаму і яда і лекі.

Калі Ксеня заўважыла, што госці мала ядуць, Пляскач, зразумеўшы яе абурэнне па-свойму, схапіўся за пляшку. Ціма ўжо прыкмеціў, які ён ласы на гарэлку, бачыў гэта і па тым, як ён спрытна хапаўся за пляшку ды шклянку, і па носе, таўстым і чырвоным, што налыванка. Праўда, цяпер яму ўсе карты зблытала Лёкса: высунулася з-за Плескачовага пляча, уставілася на Ціму і пачала прасіць, каб ён што-кольвек расказаў пра сябе, бо ў вёсцы, маўляў, нічога пра яго не ведаюць. Ціма адвярнуўся, нібы не пачуў, але пачулі іншыя — Іван падхапіў:

— Ну, Цімафей?

Не давалі нават памаўчаць ды падумаць. Тая ж Лёкса яшчэ і падганяла:

— Ты, Цімафей, нас не саромся. Мы людзі свойскія. Мы цябе зразумеем, як ні скажаш.

Паспагадала, называецца. Яе няпрошаныя суцяшэнні толькі злавалі. Ужо яму таксама карцела заліць гарэлкаю вочы, каб не бачыць і не чуць старую. Дзядзька Кузьма яго зразумеў — загаварыў, блытаючы карты Лёксе, як тая зблытала Плескачу:

— А ці помніш, Ляксандра, як Клава, Цімафеева матка, царствія ёй нябеснае, прыслала ліст з Германіі? Помніш яе слёзкі? Як мы, сваякі, сабраліся ў Акімавай хаце, чыталі ўголас. Акім і чытаў, накінуўшы на нос акуляры. А мы ўсе слухалі, уздыхалі. Як цяжка было ёй там, на чужыне, без нас! Без нашага слова. Без вёскі, лесу, раллі, рэчкі. Без вясковага нашага духу. Во дзе наплакалася, нагаравалася.

Цётку ўзяла ахвота штосьці адказаць Кузьме, зноў была высунулася, заміргала ад нецярплівасці вочкамі, ды Пляскач хамавата засланіў яе плячом, сам сказаў:

— А то мы тут не нацярпеліся? Можа, Варвара ў пярынах качалася, пірагі з тоўчаным макам ела? Ці я...

Тут Лёкса і прарвалася са злом на суседа:

— Маўчы, Пляскач! У сваім гняздзе цярпець можна. Не на чужыне. А ўжо як ты гараваў... памаўчы.

Пляскач замоўк, засоп. Яму карцела адплаціць Лёксе, ды Іван не даў:

— Дык за цётку Клаву падымем... Зямля ёй пухам.

Другая чарка развязала языкі яшчэ больш, гаваркім і негаваркім, усе ўраз забыліся, што меліся слухаць Ціму, пачалі гаварыць хто пра што, хто з кім, наперабой. Гаварылі пра дружную, цёплую, але скупую на дажджы вясну, пра благі апошнім часам хлеб крамны, цяслявы і пуставаты, пра колішні свой, са сваіх печаў, з якога зваліся, відаць, назаўсёды, бо ўжо калі б і ўзяўся, дык не спёк бы, бо і той рошчыны ні ў кога няма, і дзежкі парассыпаліся, пра базарныя цэны на парсючкоў, высокія, як ніколі, выгадныя таму, у каго ў хляве свінаматка, пра калгаснага заатэхніка, які налыгаўся гарэлкі і начаваў у свінарніку са свіннямі і паабрыгаў свіней, пра азіміну, якая пакуль што радавала, пра пашу, якая не вельмі зелянее без дажджоў. А Ціма хоць і прыслухоўваўся да гэтае гаманы, ды адчуваў сябе недзе на яе ўскрайку, лішнім у размове, яна шылася неяк без яго, ён не зводзіў вачэй са Святланы, зноў бачыў яе пад чырвоным берэцікам, і ўжо як бы не яе — Рэню. Але чаму Рэню? Цяпер ёй было б пад пяцьдзесят, Святлана сышла б за дачку, якраз. Аж горача зрабілася ад гэтай думкі, сэрца закалацілася, у вачах паплыло, паміж ім і Святланаю з'явіўся, закружыўся малы зямны шарык, замільгацелі акіяны і мацерыкі, а Святлана пачала адплываць некуды ўдалячынь, пачала знікаць яе чырвоная шапачка. І тады Ціма адчуў, як нехта збоку дыхае яму ў шыю, як цёпла і казытліва ад таго дыхання.

— Вера?!

Сяструха лагодна ўсміхнулася, быццам абрадавалася, што ён нарэшце заўважыў яе, спытала:

— Дык што ты маўчыш? Як жывеш там, у Мінску?

Цяпер гэтае пытанне ніколечкі не збянтэжыла, не раззлавала, нават ахвота з'явілася расказаць Веры, адной ёй, пра сябе, штосьці абавязкова добрае, светлае, і ён пачаў пра сваю работу, дзе бываў, што бачыў. Верын пагляд зачапіўся за яго прыгожы гальштук, і Ціма, паправіўшы пад барадою вузельчык, кінуў, быццам між іншым, што гальштук у яго арабскі, ажно з Дамаска прывёз, і Вера вушы развесіла: маўляў, як цікава — кажы далей, далей. Далей дык далей — яго і панесла: як здымаў у Дамаску фільм, якія там людзі, парадкі, адзенне, стравы, віны. У Веры вочы блішчалі

ад захаплення і Дамаскам і братам, найперш братам, вядома, бо дзе, у каго яшчэ ёсць такі брат? Ні ў кога, толькі ў яе, Веры. А Ціма, вопытным вокам угадаўшы ўзнёслую да самазабыцця Верыну душу, неўпрыкмет апусціў пад стол руку, паклаў на сваё калена, а пасля, быццам няўцям самому сабе, у адзін момант перакінуў руку на круглае, голенькае пад караткавай спаднічкаю Верына каленка... цёплае-цёплае. Аж душа зайшлася. Вера сядзела як пад гіпнозам, забыўшыся, на якім яна свеце, не чуючы ні сябе, ні Цімавай рукі. Але, аддаўшыся пачуццю, ён раптам страціў нітку расказу, на момант замоўк, і тады Вера пачула, як яго рука гладзіць, нібы кацяня, яе каленка,— ускрыкнула.

На Цімава шчасце, якраз штосьці ўчудзіў Пляскач, за сталом стаяў рогат, і ў шуме, у тлуме, у рогаце не пачулі, як Вера ўскрыкнула, не ўбачылі, як яна зачырванелася, адсунулася ад Цімы, нібы ад агню, апёкшыся, апусціла вочы пад стол.

Ціма збянтэжана, але спакойна агледзеўся. Ніхто не звяртаў на іх увагі. Адно Іван. Ён, падалося, убачыў, усё зразумеў. Ціму зрабілася няёмка, крыўдна, быццам яго хто зняважыў, ён адчуў сябе адзінокім, нібы сярод чужых людзей, захацелася ўстаць з-за стала, выйсці і не вяртацца.

Але ўстаў Іван, падаўся за печ, дзе пад агульны гоман ішла вайна паміж дзецьмі, Томкай і Паўлікам, там узяўся іх мірыць.

— Я на цябе пакрыўдзілася,— сказала Вера.

— Дарэмна,— адказаў Ціма.— Няма за што.

— Гэтак брат з сястрою не робіць.

— Кепска не робіць. А я нічога кепскага не зрабіў.

— Можа, у Дамаску было б не кепска. А тут...

— А я яшчэ не ведаю, як тут, у вас. Я Дамаск ведаю лепш, як Сычыкі.

Веру гэта нечакана рассмяшыла, і ўся яе крыўда пагасла ў адзін міг, быццам у Цімавай шчырасці знайшла апраўданне брату, даравала. Толькі спытала:

— Больш ніколі гэтак не будзеш?

А ён ужо бачыў перад сабою Святлану, яе адну, чуў яе голас, хоць яна нічога яму не сказала, адно лагодна глядзела на яго яснымі, нібы ў дзіцяці, вачыма, чуў яе ўнутраны голас, цёплы, ледзь насмешлівы: «Я ўсё бачыла. Ну і зух ты, Цімафей! Ну і любіш ты маладзіц! Нават на людзях не можаш сябе стрымаць». І ён падумаў: «Вось ты не злавала б на мяне. Ты мяне ведаеш

лепш, як Вера». У гэтую хвіліну яму вельмі захацелася дакрануцца да яе, светлай і чыстай, ды зноў пачуў Веру:

— Што маўчыш? Не будзеш болей?

— Не ведаю.

Вера выпусціла [redacted] рукі відэлец, ён звякнуў аб сподак, адскочыў і зазвінеў на падлозе, пад нагамі. Ціма адсунуў сваё крэсла, споўз [redacted] яго пад стол, падняў відэлец ля Верынай тоўсценькай, у гумовым боціку нагі і паспеў заўважыць стройныя, у чаравічках на высокіх абцасіках, Святланіны ножкі. Быў загледзеўся, але спахапіўся: калі заўважаць, што ён задоўга кешкаецца пад сталом?.. Хутчэй сеў на крэсла, паклаў відэлец, ды гучна, каб усе чулі і бачылі, чаго лазіў пад стол.

Адчыніліся дзверы.

— Во і пяюхі! Якраз не хапала,— усклікнуў Іван.

На парозе стаялі дзве немаладыя, пэўна ў адных гадах, жанчыны. Яны былі ўсё роўна як блізняты, у аднолькавых квяцістых хусцінках, у аднолькавых балоневых куртачках. А тварамі і постацямі неаднолькавыя. Адна поўная, жывая, усмешлівая, а другая збляжэлая, нібыта хворая, [redacted] ціхімі вялікімі вачыма, якія разгублена і нетаропка блукалі па хаце.

Ксеня пазабірала ў іх хусцінкі і куртачкі, пасадзіла за стол.

— Дык знаёмцеся, дзеўкі, з Цімафеем,— сказала.

У гармідары Ціма не пачуў, якой раднёю даводзілася яму драбнейшая жанчына па імені Танечка, але другая, Манечка, была яму, аказваецца, пляменніцаю. Выявілася, што ў Цімы быў яшчэ нейкі дзядзька Грыша, пра якога ён ніколі не чуў, які загінуў на фінскай граніцы, а ў таго дзядзькі застаўся сын, які зблытаўся недзе ў Сібіры, і Маня была яго дачкою. Ціма разгубіўся: пляменніца падалася старавата́й бабаю. Ажно сам у адзін міг састарыўся, дзедам зрабіўся.

Кузьма наліў чаркі. Спачатку тыя, што Ксеня паставіла для Манечкі і Танечкі. Манечка, выпіўшы, зачырванелася, пахарашэла і, ні на кога не глянуўшы, завяла песню пра салдаціка. Песня была нядоўгая, бо ёй не далі разгону: дзверы зноў адчыніліся, у хату ўвайшоў не то хлопец, не то мужчына — адразу не пазнаць. Твар дробны, гладкі, малады, а постаць цяжкаватая, можа, што быў у цяжкіх ботах і доўгім, з цяжкога брызенту, плашчы, пад цяжкім капюшонам. Павдароўкаўся, адкінуў мокры капюшон на плечы, і та-

ды Ціма заўважыў, што гэта сапраўды яшчэ хлапчук, чарнявы, нібы шпак.

— Вось і начальства да нас,— сказаў Іван.— Скідай, Пятровіч, свой балахон, садзіся вячэраць.

Той хуткімі вочкамі абвёў застолле, самавітым, як не сваім, баском не то папракнуў, не то здзівіўся:

— Ого, вячэра! Як свята.

— Браценік з Мінска прыехаў,— сказаў бадзёра, са шчырай радасцю, Іван і павярнуўся да жонкі.— Вазьмі, Ксеня, плашч у Пятровіча.

Ксеня ўжо стаяла ля госця, але той не жадаў распранацца:

— Я на хвілінку.

— А чаго там на хвілінку? Можна і болей. Сонца зайшло — якая спешка?

— Спешка.— Ён сам падсунуў пад сябе табурэтку, сеў ля парога, не далей, далонню ўцёр мокры з дажджу твар.— Табе, Кузьміч, трэба, відаць, заўтра ехаць пад лес.

— На Акімава Ляда?

— Ды ўжо ж.

— А Пончык? Яму ж занарадзілі?

— Баюся я за Пончыка. Там зямля, сам ведаеш, усяго на два пальцы, пясок-жаўклец блізка, араць трэба з галавою. А Пончык наліжацца чэмеру — той жаўклец як піць даць увесь наверх выверне.

Тут ужо Ксеня ўспыхнула:

— А дакуль, Пятровіч, будзеш мірыцца з п'яніцамі? Пончык п'е, з трактара не злазячы, Суглоб на хаду з трактара, як куль, вывернуўся. Колькі яны зямлі нашай папсавалі?

Ціма ўжо здагадаўся, што Пятровіч брыгадзір ці інжынер, але не мог паверыць, каб гэтакі малады, яшчэ хлапчук, паспеў выбіцца ў начальнікі, камандаваў вёскаю.

— Кажаш, не мірыцца? А каго на трактары пасадзіш? Добра, прагонім і Пончыка і Суглоба. А хто будзе араць ды сеяць? Адзін Іван выцягнецца.

— Чаму ж адзін?

— А таму. Мікітку забіраюць у армію, а Пончык ужо і сам пагаварвае, што заяву падасць. Кажа, на старасці хачу пабыць культурным гегемонам. На чыгунцы рэйкі паржавелі, дык ён, бачыш, пойдзе іх чысціць.

— Во як! Зямлю араць нікога няма, акрамя Селянка Івана, а вымову каму — таксама Івану Селянку,— абурыўся дзядзька Кузьма.

— Маўчы, бацька,— абрэзаў Іван.

— Што маўчы? Вось і маўчым, даўно маўчым. Не даў спісаць Акімава Ляда? Дык вось бульбу на ім пасадзім.

— Далося вам тое Ляда. Агарод пад вокнамі.

— Нам, брыгадзір, усё калгаснае поле — свой агарод. Ты рос не тут і вучыўся не тут, ты з намі адзін год робіш, праз год цябе, можа, тут не будзе, прыехаў, парабіў і паехаў. А нам тут векаваць. Мы тут, Селянкі, нараджаемся і паміраем...

— Ды замоўкні ты, бацька! — павысіў голас Іван.

Усе замоўклі.

Брыгадзір устаў з табурэткі, зашпіліў плашч.

— А можа, Пятровіч, пасядзіш з намі? — спытала Ксеня.

— Не, пайду.

Брыгадзір рашуча, са злосцю, адчыніў дзверы і ўжо быў выйшаў за парог, але раптам — назад, дзверы прычыніў, пастаяў, падумаў, глянуў у канец стала.

— Пляскач? — накінуў на галаву капюшон.— Ты гарэлку ўсё ж прадаеш? Рашэнне праўлення табе не ўказ? Пасяўная, а ты людзей спойваеш?

— Нічога, Пятровіч, ён нас не споіць,— заступіўся за Плескача Іван.— Заўтра са светам буду на Акімавым полі.

— Я не пра вас.

— А тады пра каго? — рынуўся ў наступ Пляскач.

— Сам ведаеш. Гапінаму прымаку прадаў?

— А Гапін не калгаснік. Яго ўжо выключылі з калгаса. Ён цяпер не сейбіт і не жнец.

— Але ён адзін не п'е. Мікіта яшчэ да арміі павінен тры дні за рулём сядзець, а ён ужо сёння набраўся з Гапіным — лыка не вяжаў. Глядзі мне, Пляскач!.. Хочаш рабіць, дык рабі, а пойдзеш супраць праўлення калгаса... Глядзі мне!..

На гэтым, прыгразіўшы Плескачу, брыгадзір і выйшаў за парог.

Вось калі ціша запанавала ў хаце. Усё роўна як брыгадзір заказаў не піць, не есці, не казаць ні слова, памаўчаць і на тым разысціся.

Такой маўчанкі не вытрымала Ксеня:

— Камандуйце, мужыкі. Чаго маўчым? — І сама

павяла размову: — Бачыш, Цімафей, які ў нас начальнік?

— Няўжо брыгадзір? — яшчэ ўсё не верыў Ціма.

— На стары лад — брыгадзір, на новы — начальнік вытворчага ўчастка. Восемсот гектараў зямлі, тры вёскі, трыста двароў, дзве фермы — во ўчастак! І не глядзі, што яшчэ вусы не растуць. Цяпер калі чалавек не хлешча гарэлку, ды парцейны, ды з дыпломам — яму ў рукі ўсе козыры, усе дарогі адкрыты, па якой хочаш бяжы-каціся.

— Але ж і не дурны, казаць нечага,— уставіла Лёкса, мусіць, радая, што Плескачу дасталося ад брыгадзіра.

— Абы не піў,— разважыла Ксеня, цяжка ўздыхнуўшы.— Цяпер гарэлка страшней за вайну.

Пад сталом зноў сярдзіта грукнуў Варварын кій.

Але не замоўкла Ксеня:

— Ды я, цётка Варвара, не пра вайну. Я кажу Цімафею, якія ў нас мужыкі. Цяпер у калгасе ўсё машыны робяць, на іх уся надзея, а ў чыіх руках машыны? У руках Пончыка, Мікіткі, Суглоба. Ад іх машын ужо не саляркаю, а гарэлкаю смярдзіць.

— Праўду кажаш, Ксеня,— падтрымала Лёкса.

— А што? Хіба не так?

— І нічога ты, баба, не зменіш,— азваўся захмялелы Пляскач.— Як ёсць, так і будзе.

— А трэба бабам не папускацца. Трэба пабраць у свае рукі трактары, машыны, камбайны. Толькі тады і парадак навядзём. Смяешся, дзядзька Пляскач? А не смейся. Я ўжо, калі хочаш ведаць, магу на трактар сесці і паехаць. Восені дачакаюся — на курсы трактарыстаў падамся. Правы дадуць.

— Можа, Пашкай Ангелінай станеш? — зарагатаў Пляскач.

— Пашкай не Пашкай, а Ксеняю [redacted] трактарам спраўлюся.

Тут ужо Іван не стрымаўся:

— Глядзі, жонка, каб пуп не нарвала. Там не толькі за штурвал трэба трымацца. Яшчэ і на пуп трэба браць. Як-ніяк, а жалеза ўсё ж.

Але Ксеня не адступала, як за ўсіх вясковых жанчын ішла ў атаку на мужчын:

— Ужо ў Пончыка клёку... Пуп не нарваў.

Ціма слухаў і дзівіўся: вось яна якая, аказваецца, ціхая Іванава жонка. Мужчын за пояс пачала заты-

каць. Нават Пляскач, пасправабаваўшы з ёю спрачацца, заціх. А жанчыны — усе за яе, старыя і маладыя. Усе з яе вачэй не зводзілі, яе словы лавілі. Адна Вера, відаць, больш глядзела на Ціму, быццам нейкага ягонага слова чакала.

— Я ў цябе, братуха, спытаць хачу,— прашаптала раптам, ледзьве Ціма зірнуў на яе.

— Што? Пытайся.

— Чаму ты не жанаты? І прыгожы, і ўлюбчывы.

— Шукаю. А ты знайшла?

— Даўно. І мужа і дачку. А ў нашай вёсцы,— падміргнула вясёлым вокам, нібы змоўшчыца,— дзяўчат хапае. Хлопцаў добрых мала, а дзяўчат...

— Мне шмат не трэба, адну, але слаўную. На нейкі дзянёк-вечарок.

— Усяго на вечарок? Дык такія жывуць у сталіцы.

— А ў вас? На вякі?

— У нас на вякі. Табе такую і трэба. Каб чужых жонак не лапаў.— Яна пырснула ад смеху, жывыя чарнявыя вочкі яе заблішчалі ад цёплых, нібы расінкі, слёзак.— Я ўжо ведаю, якая табе па душы.

— Няўжо ведаеш?

— Ой, ведаю...

Яна ўзяла Ціму пад руку, прыціснула да сябе, сама ўставілася на Святлану, паказвала позіркам на сяброўку. Яшчэ штосьці вясёлае збіралася сказаць брацeніку, ды ў гэты момант каманду падала Варвара:

— А ці не хопіць вам, дзеўкі, есці? Дома паясце. Завядзі, Маня, тую, пра сыночка.

І адразу, усё роўна як даўно чакалі гэтай каманды, Манечка і Танечка ўзнялі галовы, адкінуліся на спінкі крэсел, задумаліся, чымсьці засмучоныя, апусцілі рукі на калені, паглядзелі перад сабою ў вокны і вышэй акон, у столь, штосьці, пэўна, успамінаючы, і завялі нетаропкімі, нямоцнымі, поўнымі балючага жаночага роздуму галасамі:

Ой вайна, вайна,
Ты пастылая,
Мела маці сынка,
Дый таго няма.

Сумная была песня, сумная і доўгая. Яна затапіла сумам усю хату, усе душы, і Ціму здзіўляла, што гэтай сумнай, пра жах вайны, песні захацела сама цётка Варвара, якая дагэтуль скаланалася і злосна дзяўбла ў падлогу кіем пры адным слове «вайна», нічога, зда-

валася, не магла чуць пра вайну. Ды і спявалі, нібы ўспамінаючы тое, што было вось тут, нядаўна, вось з гэтымі людзьмі, спявалі ціха, быццам баяліся некага пабудзіць, падняць таго матчынага сынка з магілы. Не ўсе і спявалі. Адны маладзейшыя. А старыя толькі слухалі, знямелыя, апусціўшы вочы. І ўсе, хто спяваў ці маўчаў, зрэдку, употай паглядалі на Варвару, нібы над гэтай песняю яна была камандзірам, нібы кожнаму трэба было ўгадаць яе настрой, яе думкі, каб спяваць далей ці ўжо замоўкнуць. Яна сядзела, заплюшчыўшы вочы, падпёршы падбародак рукою, у якой трымала ўсё тую ж чорную скарынку, не варушылася, нібыта спала. Толькі скарынка, калі прыгледзецца, ледзь-ледзь дрыжала ў яе руцэ.

Нехта зноў грукнуў у сенцах, і песня адразу замоўкла, але, відаць, не ад таго грукату — скончылася.

— Яшчэ не ўсе? — прашаптала Вера.

У хату ўвайшоў Мазепа.

Ён быў добра выпіўшы. Гэта Ціма заўважыў адразу, па яго вачах, якія ад гарэлкі рабіліся чырвонымі і лупатымі, па тым, як ён соп у нос — у яго быў застарэлы гаймарыт і калі ён прастуджваўся ці выпіваў, нос хліпаў, нібы галёша дзіравая. Ніхто ў хаце, акрамя Цімы, яго не ведаў, таму ўсе замоўклі і пaглядалі адно на аднаго: што за птушка? Але за ім следам парог пераступіў Капуста — нехта з дзяўчат войкнуў, быццам участковы прыйшоў арыштоўваць.

Капуста зачыніў за сабою дзверы, стаў побач з Мазепам. Аднолькава прыдзірлівымі вачыма яны аглядалі пакой, застолле, кожнага, хто сядзеў за сталом.

— Дык што стаіш, Капуста? — чамусьці да аднаго яго звярнуўся Іван.— Зайшоў у хату, дык садзіся за стол.

І тады ўсхапіўся Ціма:

— Гэта Мазепа. Знаёмцеся.

— Сам гетман? — перапытаў Іван і засмяяўся.— Ці не з аднаго вы цеплахода? — ён паглядзеў, пытаючыся, на Ціму.

— З аднаго. Сябры,— кіўнуў Ціма.

— Во, бароды... Не стрыгуць і не брыюць у Мінску?..

Мазепа і Капуста не прымусілі доўга сябе ўгаворваць, паселі за стол. Мазепа ўмасціўся паміж Святланай і Манечкай, а Капуста яшчэ падумаў, дзе яму сесці: абышоў стол і сеў нарэшце побач з Цімам.

— Ну-с!..— Прынюхваючыся танклявым носам, ён пацёр рукі, адна аб адну, калючымі, нібы шыльцы, вачыма яшчэ раз абвёў застолле і ўставіўся на Святлану, якая сядзела якраз насупраць.

Наліў сабе ў шклянку газіроўкі.

— Прыйшоў выпіць вады? — не зразумеў яго Іван, трымаючы перад Капустай пляшку [redacted] гарэлкаю.

— Я на службе.

— Во як! — насупіўся Іван.— Прыйшоў да нас выконваць службовыя абавязкі?

Капуста закруціўся на крэсле.

І тут Святлана, нібыта вецер, усхапілася з-за стала, шыбанула да парога, замітусілася, сашмаргнула з вешалкі сваю куртачку — і за дзверы. Ляснула дзвярыма, аж скаланулася хата.

Вера схапіла Ціму за руку.

— Хай бяжыць,— шапнула.

Капуста сядзеў злосны, нервова торгаў, чмыхаючы, кончыкам носа, дробналяскатаў відэльцам аб стол. Ціма паглядзеў на яго і зразумеў, што вінаваты ён, адзін ён, гэта ад яго шыбанула за парог Святлана. Ды яшчэ Мазепа вінаваты. Навошта прывёў сюды ўчастковага?

Мазепа як угадаў, што думаў і адчуваў зараз Ціма.

— Ты, Князь, не знаёмы з сяржантам? — ускочыў, залепятаў паспешліва.— Падайце адзін аднаму краба. Я вас хачу пазнаёміць.

Але Ціма не глядзеў ні на Капусту, ні на Мазепу. Ён устаў з-за стала і выйшаў з хаты.

Ужо і Вера не ўтрымала.

Пасля дажджу ноч была свежая, прыціхлая, як жывая душа пасля лазні, з цёплым прыпаркам. Цемень разлілася амаль восеньская, бо неба яшчэ не ачысцілася ад хмар, яшчэ не відаць было ні зорак, ні месяца, але волкім халаднаватым святлом паблісквалі платы, вокны, бляшаныя стрэхі, лужыны, налітыя вадою каляіны. Ад садоў ішоў духмяны мядовы водар.

З таго боку, дзе стаяў цеплаход, з тае затоні, чулася да ачмурэння прагнае, нейкае пакутлівае крумканне жаб — можа, ім адным не было сну, спакою.

Не ведаючы, куды і да каго падацца, Ціма прайшоў у адзін канец вуліцы, павярнуў, пайшоў у другі канец. То спыняўся, прыслухоўваўся да кожнага гуку, то зноў ішоў, прыглядаўся да кожнага слупа і плота, да кож-

нага дрэва і каменя, быццам штосьці згубіў і не знаходзіў.

Ціша была ля хат і платоў, за кожным вуглом, пустыя стаялі лавачкі, цёмна было ў вокнах. Не тое што людзей, нават сабак не чуваць, быццам павыміралі.

Цёмнымі, як усе, былі і Святланіны вокны. Ціма спыніўся пад імі ля лавачкі, ціха, не варушачыся, пастаяў, прыслухаўся і, нічога не пачуўшы, паклаў на халодную лавачку гарачыя далоні. Лавачка стаяла пад кашлатым дрэвам, дождж яе не вельмі змачыў. Сеў на краёчак, і ўжо не хацелася ўставаць.

Насупраць двума вокнамі ззяла дзядзькава хата. Ціма бачыў, як там хтосьці выйшаў на ганак, моўчкі пастаяўшы, падаўся да веснікаў.

Святло ад дзядзькавых акон лілося на нізкі плот гародчыка, на ліпу, на голле і маладое лісце, але Ціма сядзеў у цяньку. І чалавек стаяў у цяньку, пад ліпаю.

— Светка? — пачулася з-пад ліпы Верын ціхі голас.

Яна заўважыла Ціму, але не пазнала. І ён не адгукнуўся. Тады яна перасекла вуліцу, падышла, села на лаўку побач.

— А ты чаго збег? — спытала.— Ну Светка... яна бачыць Капусты не можа. А ты?..

— Дзе яна?

Вера ўстала. Ціхенька, не рыпнуўшы і не стукнуўшы, адчыніла веснікі, знікла ў змроку двара. Не чуў ні яе крокаў, ні яе голасу. Адно жабы, падалося, закрумкалі мацней, ды недзе за хлявамі пачаў надрывацца драч.

— Няма і дома,— раптам у яго за спіною падала голас Вера. Яна падышла з іншага боку, калі і як — ён не заўважыў.— Дзверы адчынены, я ў хату зайшла. Бацькі храпуць, а яе ложак пусты.— Памаўчаўшы, спытала: — Ты дзе спаць будзеш? Ідзі да Івана. Ён будзе чакаць.

— Цеплаход мяне чакае.

Вера пачула ў яго голасе крыўду, занепакоілася, што Ціма, ад крыўды, можа пакінуць Сычыкі на сваім цеплаходзе ўжо гэтай сумятошлівай ноччу.

— Мы яе знойдзем. Ідзі за мною. Ды ціха, а то... матрос Сцяпан не дай бог прачнецца. Мужык ён круты, яму ў рукі лепш не трапляць.

— Які матрос?

Вера не адказала — пэўна, не пачула Ціму. Праз веснікі завяла яго на двор, з двара — у сад, пад яблыні.

— Ты, Цімафей, і не быў жанаты? — Яе, жанчыну, гэта хвалявала, мабыць, мацней як што іншае.

— Не.

Салгаў, не хочучы, бо нават тыя некалькі месяцаў, калі быў жанаты, жанатым сябе не адчуваў.

— Што ж ты вушы развесіў?

— А можа, і не развесіў.

Вера хіхікнула ад яго даволі яснага намёку і, нізка згінаючыся пад маладымі, у самай квецені, сліўкамі, прывяла да нейкай лазні.

— Ціш-ш! — шапатнула ў самае вуха.

Над галовамі танклява і кароценька, як спрасонку, свіснуў шпак. Сядзеў недзе над яблынямі, над лазняю.

У лазню Вера зайшла адна.

— Запалкі ёсць? — спытала.

Ціма чыркнуў у прымыльніку запальнічкаю, асвяціў чорныя сцены, паўз сцен — лаўкі. На шырэйшай даўжэйшай лаўцы ляжалі кажух, посцілка, падушка — тут нехта спаў. Пад столлю на жэрдцы, павязаныя парамі, віселі сухія бярозавыя венікі. Пакуль Ціма аглядаўся, Вера знайшла агарак свечкі, запаліла, паставіла на драўляную бочку. Яны селі на лаўку, на кажух.

— Трэба бегчы дадому,— сказала Вера.— Дачку маці паклала, але сама, ведаю, не спіць мяне чакае.

— А чаго мы тут сядзім?

— Сюды прыйдзе Светка.

Ціма ўзяў Веру за плячо, прыгарнуў да сябе. Яна не адхінулася, рукі яго не спужалася, як там, у дзядзькавай хаце, адно спытала, калі ён яе абняў:

— Гэта ты мяне як сястру?

— Як сястру,— сказаў і сам здзівіўся: сапраўды так, першы раз у жыцці ён абдымаў жанчыну як сястру, сваячку, з нейкімі новымі, раней невядомымі, не то чысцейшымі, не то проста цішэйшымі пачуццямі. Адчуўшы гэта, здзівіўся яшчэ больш, нават збянтэжыўся. Нібы апраўдваючыся, саромеючыся гэтых сваіх пачуццяў, сказаў: — У мяне, Вера, няма ні сясцёр, ні братоў. Адны вы, ты ды Іван. Вы мне самыя блізкія. Ну... бацька яшчэ жывы. Але ён стары, маўклівы. З ім гэтак, як з табою, не пагаворыш. Не заўсёды разумее...

І зноў здзівіўся: з жанчынамі бываў нахабны, цы-

нічны, ніколі гэтага не саромеўся, а тут раптам адчуў да Веры нейкую, быццам не сваю, пяшчоту — сорам узяў.

— Гэтак цяжка жыць, праўда? — спытала яна.— Калі побач няма сваіх родных. Мы ў вёсцы жывём свой ля свайго. А як сярод чужых людзей?.. Не, я не хачу ў горад.

— А я прывык.

— Ты маніш.— Яна ажно скаланулася.— Хіба можна прывыкнуць да такога? Але чаму ты ад нас, сваіх, адбіўся? Ты ж наш, Цімафей. Усё збіраліся з Іванам у Мінск. Дні выкрайвалі, ніяк не выкраілі. Такая работа. Іван вальнейшы зімою, калі трактар на рамонце. Ад вясны да зімы ў яго няма вольнай хвіліны. А я летам вальнейшая. Зімою мяне школа нікуды не пускае. Дзядзька Кузьма, бывала, слухае нас і кажа: «Заганарыўся Цімафей, не жадае ведаць ні нас, ні вёску. Калі б жадаў ведаць, дык за трыццаць гадоў хоць раз голас падаў бы, вочы паказаў бы. Што ж вы паедзеце да яго ў радню набівацца?» Ужо і я пачынала думаць: а можа, дзядзька праўду кажа, прыедзеш, а Цімафей рукі не падасць, на парог не пусціць.— Вера памаўчала, сумна задумаўшыся, цяжка ўздыхнула.— Не, Цімафей, гэтак жыць я не змагла б. Каб без радні...

— А я прывык,— паўтарыў ён сваё.— Мне ад жыцця што трэба? Абы добрая работа.

— А якая яна, добрая?

— Каб не надрывацца. Каб кожны дзень жывая капейка звінела ў кішэні. Каб воля была. Што хачу, тое раблю. Куды хачу — іду і еду. І як хачу. Тады я кум каралю, князь. Мая шыя хамута не церпіць.

— А можна так? Работа — гэта не як хачу, а як трэба. Калі ўсе будуць жыць, як ім хочацца...

Ціма змоўчаў. Адчуў, што вось тут яны з Вераю ўсё ж розныя людзі, тут яна яго не зразумее. Вера гэтага яшчэ не ўлавіла, не адчула. Ціма і не хацеў, каб яна гэта адчула.

Вера сядзела побач, паклаўшы галаву яму на плячо, глядзела на падлогу, на свечку, якая пакрысе дагарала, сядзела моўчкі, нечага чакаючы не то ад свечкі, не то ад Цімы. Зноў захвалявалася:

— Дык пайшлі да мяне? На пярыну пакладу.

— Пасядзім.

— Хочаш дачакацца Светкі? Ох і ўлюбчывы ты! Я гэта адразу заўважыла. Твой сябра такі самы?

— Спадабаўся?
— Ён як наш парсючок. Толькі што барада, а ў парсючка яе няма. Вочкі аднолькавыя. Малыя, ружовыя, тлушчам заплылі. І лычыкамі, відаць, аднолькава поруць.
— А што ён там, у дзядзькі, пароў?
— А ў яго спытаеш.
Можа, Вера і збегла ад Мазепы, як ад Капусты збегла Святлана, бо хамаваты Мазепа мог вытварыць такое, чаго не прыдумаеш, але распытваць не было ахвоты.
— Думаеш, яна прыйдзе? — спытаў ён.— Позна. Што ёй рабіць ноччу ў лазні?
— А спаць.
— У яе хаты няма?
— Светка дзіўная, людзей пачала баяцца. Тут і кажух і падушка. Тут яе ніхто не чуе, не бачыць.
— А чаго ёй баяцца?
— Ды... не тое каб баялася...
— Пасля таго, як... з тым глобусам?
Вера адхіснулася ад Цімы, насцярожылася:
— Ты адкуль ведаеш?
— Падслухаў, бабы на вёсцы казалі.
— Во нарабіў Капуста. Ох!..
— Гэта няпраўда?
— Што?
— Ды з глобусам.
— А ты падумай. Ці можа настаўніца, ды такая, як Светка, украсці глобус? Лепшая ў раёне геаграфічка. Ён ёй у школе патрэбны, а не дома ля печы. Вар'ятам трэба быць, каб такое сказаць, каб падумаць...
— Але ж Капуста даказаў?
— Не ведаеш ты Сычыкаў. Тут адзін збрэша, а ўсім — кіно. Хто ён такі, Капуста? У Гомелі на заводзе рабіў, пакуль не прагналі за гарэлку. У вёску вярнуўся, а ўжо ні да плуга, ні да касы. Пачаў у жаніхі набівацца, чырвоную фуражку надзеў. Светцы кляўся ў каханні. Ты, казаў, інтэлігентка, і я інтэлігент — чым не пара?
— Няўжо сватаўся? — не мог паверыць Ціма.
— Яшчэ як улягаў. Пакуль яна яго качаргою з хаты не выперла. А цяпер як сустрэне, дык і запыніць: «Вашы дакумэнцікі, гражданачка». Гэтакі ў яго жарт. Інтэлігент вялікі. Ну... я пабягу,— схамянулася.
— Правесці?

— Сядзі, чакай сваю Светку.

— А што за матрос Сцяпан? — спытаў Ціма, бо з галавы не выходзіла яшчэ і гэтая скабка.

— Га-а, спужаўся?

— Ды не... Ён хто Святлане?

— Жаніх!

Вера, гарэза, моцна абхапіла Ціму за шыю, падскочыла, пацалавала ў шчаку і, як апёкшыся, пабегла праз сад.

Ён стаяў, разгублены.

Які ранні быў у Сцяпана певень, такі ранні быў і сам гаспадар. Яшчэ не світала, да світання можна было выспацца, і вёска спала, а Боцман ужо знаходзіў тую дзірку пад варотамі хлява, вылазіў на двор, дзе цемень яшчэ не растала, як і ў тым хляве, на ўсю вёску пачынаў драць горла. Вёска Боцмана не любіла, сто разоў прасіла Сцяпана кінуць у чыгун, але гаспадар ім даражыў і заўсёды першы ў вёсцы падымаўся на яго званок. Падняўшыся, пачынаў тупаць па хаце, шукаць сабе клопат, запальваў святло, выходзіў на двор, прыносіў дровы, згружаў, пачынаў распальваць у печы. Тады падымалася жонка, бо які ўжо сон, калі мужык тупае па хаце, а Боцман пад акном дзярэ горла. Яна, як на якім адказным пасту, змяняла мужыка ля печы, і ён ішоў на калгасную канюшню, дзе чакала Сляпуха, старая кабыла. На канюшні хапала і маладых, вясялейшых коней, конюх мог запрэгчы любога, але ён быў чалавекам вельмі прычэпістым да чагосьці аднаго, не здрадлівым і, некалі запрогшы Сляпуху, застаўся верны ёй на доўгія гады, адну яе запрагаў штораніцы, на ёй адной ездзіў, куды пасылалі: у поле трактарыстам вазіў ваду ці салярку, ад буртоў на ферму — бульбу, каму — дровы, каму — гной. На конях рабіць ахвотнікаў цяпер было мала, асабліва з маладых, тыя цягнуліся да машын, трактароў, а Сцяпан змалку любіў коней, любіў сваю Сляпуху, іншае цягло не шукаў.

Запрогшы, ён і сёння пад'ехаў да хаты, зайшоў паснедаць. Нізенькі, хударлявы, ён шмат не еў, шмат у яго і не месцілася, ужо хвілін праз пяць, аблізваючыся, выціраючы даланёю вусны і падбародак, блішчастыя ад скварак, выйшаў на ганак. Стаяў у адной цяльняшцы, пакурваў цыгарку. З раніцы было ядрана, і, адчуўшы спіною холад, Сцяпан з надзеяй паглядзеў на

неба. Сонца не ўбачыў, але ўбачыў, што за ганкам яно соўжо грэла зямлю, дрэвы, плот. Сышоў з ганка на сонечны муражок, зноў абвёў позіркам неба, убачыў сонца, павярнуўся да яго тварам і вочы зажмурыў ад асалоды, нібы кот, адаграваючыся.

Над галавою пасвіствалі шпакі. Іх Сцяпан слухаў, але не бачыў ніводнага, стаяў нерухома, нібы слуп, па-ранейшаму зажмурыўшыся.

Калі нарэшце расплюшчыў вочы, то адразу ўбачыў пасярод двара скрыню, у якой не так даўно, гэтай вясною, перакладаючы печ, замешваў гліну. Скрыня ляжала ўгару дном. Сцяпан убачыў яе, зрабіўся нервовы, злосны. Мацюкнуўся, падышоў да скрыні, выплюнуў недакурак, тупым носам бота выцяў скрыню, рэзка павярнуўся на сто восемдзесят і падаўся ў сад.

Пад яблынямі бялеў і іскрыўся ўсыпаны расою мурог, яшчэ зусім маладзенькі, нібыта поўсць на селятку. Сцяпан стаяў, цешыў вочы. Пачыналі зацвітаць яблыні, ён і на іх глядзеў доўга, радуючыся.

У кветках шчыравалі пчолы — таксама радавалі. Вуллі стаялі за лазняю. Гаспадар падышоў да лазні, дзівіўся, як адны пчолкі ўзляталі п лётак у квецень, а другія садзіліся на лёткі з ношкамі мёду. Загледзеўся на гэтую радасць і на ўсё іншае забыўся, нават на Сляпуху, якая стаяла пад плотам, запрэжаная, у мажару.

У гэтым раі, у сваім садзе, мог доўга стаяць, жыццём любуючыся, да кожнай жывой драбніцы прырастаючы душою, але раптам падалося, быццам нехта блізка храпе. Агледзеўся, потым прысеў, абвёў позіркам усё навокал — нідзе нікога не заўважыў. Зноў устаў, прыслухаўся: храпе.

Зрабіў да лазні два крокі — храпе. Яшчэ два крокі — храпе. Падышоў да самых дзвярэй, вухам прыклаўся да шчыліны паміж дзвярыма і луткаю: храп чуўся адтуль, ды моцны, мужчынскі. Асцярожна прачыніў дзверы — у прымыльнік шыбанула сонечнае святло, асвяціла дзве босыя нагі: таўстыя, з шырокімі ступакамі, яны ля самых дзвярэй, на лаўцы, тырчалі з-пад посцілкі. Сцяпан стаяў, глядзеў на іх. Пяты былі ружовыя, нібы лычы парсючыныя. Вось толькі твар нельга было разгледзець, ён быў схаваны пад посцілкаю.

— Ты хто такі? — густым, як не сваім, басам гукнуў Сцяпан. Голасам хацеў настрашыць, успароць чалавека.

Той храпануў апошні раз і замоўк. Яго ногі застрыглі ружовымі пальцамі, пачухаліся адна аб адну.

— Ты хто такі, пытаюся?! — яшчэ грамчэй паўтарыў Сцяпан, ажно сам ад свайго крыку папярхнуўся і закашляў.

Чалавек устаў — на падлогу спаўзлі пінжак і посцілка. Сядзеў, спусціўшы з лаўкі ногі, у белай кашулі, пад гальштукам, без штаноў, у стракатых плаўках. Твар цёмны, аброслы чорнай барадою, а вочы на святло глядзець не хацелі.

— Ты хто такі, дзед? Ты чаго тут?..

Барадач не спяшаўся ні апранупца, ні гаварыць. Аберуч чухаў калматую галаву, кулакамі цёр вочы.

— А табе што трэба? — спытаў нарэшце, усё жмурачыся, яшчэ добра не бачачы Сцяпана.

Той абурыўся:

— Ану выкульвайся з маёй лазні! Знайшоўся гаспадар. Разлёгся, як дома на печы.

Барадаты быў не з палахлівых, ён усё роўна як і не чуў Сцяпана, не заўважаў яго злосці. Працягнуў руку, пстрыкнуў ледзь не пад самым носам у гаспадара лазні пальцамі:

— Дай закурыць.

Голас быў спакойны, лагодны, такі, што не адмовіш,— у Сцяпана адышла злосць на чалавека. Дастаў з кішэні пачак «Прымы», пачаставаў барадатага і сам закурыў, за кампанію. Потым усеўся на вузенькі парог, спіною да лутка, нагамі ўпёрся ў процілеглую лутку, рукі сашчапіў на каленях, а цыгарэтку з рота не выпускаў, пасмоктваў бесперастанку, перакідаючы з аднаго кутка рота ў другі, жмурыўся ад едкага дыму, які лез у вочы, і прыдзірліва разглядаў госця, гадаў, што за птушка заляцела ў лазню. Ні аб чым не пытаўся, сам хацеў зразумець, што за ён. А той усё дыміў цыгарэткаю, нават штаны не думаў усцягваць, як у сваёй спальні сядзеў.

— На флоце служыў? — спытаў, уставіўшыся на старую, з абтрапанымі рукавамі цяльняшку.

— На флоце,— скупа адказаў Сцяпан.

— Я таксама служыў на Ціхім акіяне. На Камчатцы. На пагранзаставе.

— А я ў Савецкай гавані.

— Ну во... бачыш?

Адзін аднаму ўсміхнуліся, быццам раптам адчулі, якія яны блізкія, быццам даўно адзін аднаго шукалі,

каб гэтак вось пасядзець побач, па-мужчынску, пакурыць, успомніць службу.

Зусім блізка, пад лазняю, загарлаў певень. Сцяпана як ветрам змяло з парога. Схапіў камлюжыну і знік за дзвярыма. Чуваць было, як смалянуў камлюжынаю ў плот, як заекатаў і пабег, дай бог ногі, певень.

Вярнуўся ўжо без цыгарэткі ў роце. Зноў сеў на парог, упёрся нагамі ў лутку, спытаў:

— Боцман цябе не пабудзіў?

— Які боцман?

— Ды певень. Боцманам заву. Здаровы на горла.

— Га!.. Што на горла... сапраўды.

— Ён у мяне калі-небудзь нарвецца. Галавой пад сякеру. Чыгунок па ім даўно плача.

— Хай жыве. Калі службу ведае боцманскую.

— Гэта праўда,— усміхнуўся, адтаяўшы душою, Сцяпан.

А Боцман сапраўды зарана пабудзіў Ціму. Расплюшчыўшы вочы, нічога не ўбачыў, быццам ляжаў у нейкай чорнай яміне. Але дзе ляжыць — успомніў адразу. Не такі п'яны быў учора, каб не помніць, а спаць уклаўся амаль цвярозы.

Калі Боцман замоўк, Ціма доўга не мог заснуць. Ляжаў і думаў пра ўчарашняе, зноў бачыў і чуў дзядзьку Кузьму, цётку Варвару, Івана, Ксеню, Веру, усіх, каго бачыў і чуў учора, быццам яны і цяпер былі з ім тут, у цемені чужой лазні. Паступова пачаў трохі бачыць і сцены, і дзверы, адчыненыя ў сад. Можа, вочы прызвычаіліся да цемені? А можа, пачынала світаць? Нават яблыні за парогам разгледзеў — пасівелыя ствалы, шапкі.

Усё ж сапраўды світала. Дый хутка. Ужо шпакі пасвіствалі ў садзе, святло праз адчыненыя дзверы завітала ў прымыльнік: разгледзеў шэрае бярвенне ў сценах, ранцікі чорнага моху ў шчылінах паміж бярвення, пад столлю — венікі, пры святле раніцы яшчэ вастрэй пачуў пах печы, цэглы, тых самых венікаў, сухіх траў, халоднага дыму. Падалося, што ляжыць у гэтай лазні не першы раз і ўсё, што бачыць і чуе, бачыў і чуў неаднойчы, што ўсё тут даўно знаёмае, сваё, роднае. Спужаўся: а навошта яму гэта, навошта, каб яно было ягоным, сваім, ды яшчэ родным? Навошта, каб ягоным быў гэты малюпенечкі свет пракурадымленай лаз-

ні? Не, яго свет не месціўся ў гэтым катуху. Але, пратэстуючы думкаю, душою адчуваў, што нейкай жылкаю прывязаны да гэтае лазні, яе чорных сцен, нізкай чорнай столі, чорнага моху паміж бярвён, да едкага водару венікаў, аўчыны, цэглы. Адкуль прывязь? Ляжаў і думаў. І, думаючы, згадаў лазню дзядзькі Кузьмы. Яна была такая самая малая, толькі парог высокі — Ціма браў яго жыватом: ляжа на парог і — кулень за яго. А за парогам маленькай лазні — вялікі, зваблівы, таемны свет: травы з кветкамі, снягі, сонца, дажджы. І — вайна. Яна была таксама за тым малым мірным парогам...

Ціма нацягнуў на галаву посцілку, заплюшчыў вочы, каб хутчэй зноў заснуць. І заснуў.

І ўбачыў сон.

Лета.

Навокал лугі, жоўтыя ад кураслепу, іскрыстыя, абмытыя цёплым дажджом.

У кураслеп, нібы ў вялізную цёплую лужыну, садзіцца пераспелае чырвонае сонца. Вечарэе.

Чуваць ласкавы жаночы голас:

«Ідзі да мяне. Ідзі, не бойся».

Голас адтуль, дзе сонца і курасьлеп — мора чырвані і жаўцізны, цеплыні і шчырасці.

«Хто ты?» — пытаецца Ціма.

«Ідзі, не бойся. Не пазнаеш?..»

Ціму здаецца, што гукае Рэня. Ён прагна ўглядаецца ў жаўцізну лугу і заўважае яе сярод кветак: на галаве чырвоны, нібы акрайчык сонца, берэт, а ў руках — жоўтыя кветкі. Яна рве іх і складвае ў букет. То знікае ў кветках, ірвучы, то зноў стаіць, глядзіць на Ціму, кліча да сябе:

«Ідзі, ну?..»

Ён ідзе да яе, але яна не набліжаецца. Ён бяжыць да яе, бяжыць доўга, спачатку лёгка, як на крылах, потым цяжка, ледзь адрываючы ногі ад зямлі, бяжыць, баючыся, што яна можа знікнуць, пакуль ён дабяжыць. Знямогшыся, падае ў кветкі, ніцма ляжыць у іх і баіцца падняць галаву. Яму жудасна, што згубіў Рэню, што не дабег да яе, паваліўся. Гэта — як смерць. І ён горка плача.

Вецер варушыць, прычэсвае і блытае валасы на галаве, нібы суцяшае. Ціма прыўзнімае галаву, садзіцца

і бачыць побач Рэню. Яна глядзіць яму ў вочы, усміхаючыся. Яе рукі лашчаць яго галаву, забаўляюцца з яго валасамі.

«Гэта ты, Рэня? — пытаецца ён, усё яшчэ не верачы, што яна побач з ім, усё яшчэ плачучы.— Скажы, што ты».

«Я, Ціма».

«Я ўсё жыццё шукаў цябе. Баяўся, што не знайду».

«Ты не там шукаў, дзе я цябе чакала»,— кажа яна, цёплай далонню выціраючы слёзы на яго твары.

«Але ж я цябе знайшоў?»

«Гэта я цябе знайшла».

«Значыць, ты мяне таксама шукала?..»

Яна ўстае і вядзе яго за руку. Яны ідуць жоўтым лугам, пабраўшыся за рукі, як малыя. Рэня кудысьці вядзе яго, вядзе доўга — паступова гаснуць жоўтыя кветкі, хаваецца сонца, цені ад іх усё доўжацца, расплываюцца па кветках.

«Ты куды мяне вядзеш?» — пытаецца Ціма.

«Да дзеда Акіма»,— кажа яна.

«Але дзед Акім даўно памёр. Хіба ты не ведаеш?»

«Ён даўно чакае цябе».

Ціма аглядаецца і бачыць крыжы. Яны стаяць густа, на магілках. Адкуль сярод кветак гэтыя магілкі? І хто там... хто сядзіць?..

Пад крыжам сядзіць стары, сівы-сівы, увесь белы. І апрануты ў белае: кашуля, споднікі. Магілка пад ім высокая, ён сядзіць быццам на печы, звесіўшы белыя босыя ногі.

Ціма падыходзіць да яго, пытаецца:

«Ты чаго тут сядзіш, дзед Акім? Ты стаміўся ляжаць пад цяжкім крыжам?»

Стары ўзнімае галаву, моўчкі, як чужога, разглядае Ціму, не пазнаючы. Не можа быць, каб не пазнаў. Можа, не рады сустрэчы? Але ж які ён бядак! Хударлявы, худзейшы, як у вайну, скура ды косці. Ціму вельмі шкада дзеда Акіма. Божа мой, думае ён, чаму я забыўся пра старога, чаму ні разу да яго не прыехаў? Ён даглядаў мяне, як маці, лячыў, карміў, ён мне аддаў свае боты, каб я пайшоў да кароўніка, пабачыў Рэню, а я пра яго забыўся, нічым ніколі не аддзячыў. Хоць бы купіў калі-небудзь якія порткі, ці кашулю, ці што смачнае. Пакрыўдзіўся, відаць. Любіў, як сына, а цяпер глядзець у мой бок не хоча.

«Дзед Акім?!»

Ціма садзіцца побач на магілку і хоча абняць дзеда за плечы, прыгарнуць да сябе, нібы дзіця, але ўжо бачыць, што ён на магілцы адзін, старога побач няма. Навокал крыжы ды магілы, адны яны, а дзеда Акіма няма. Ціма хоча закрычаць колькі сіл, каб хоць хтонебудзь жывы пачуў яго, ды раптам... нечы голас:

«А ты хто такі?..»

Калі Ціма пачуў, а пасля ўбачыў у дзвярах чалавека, ён адразу здагадаўся, што вось гэты і пабудзіў. Гэты прагнаў у сне дзеда Акіма, не даў душу адвесці, прызнацца дзеду, што ён, Ціма, заўсёды любіў яго, у чым не прызнаўся пры жыцці. Ажно злосць узяла.

Ды і той злаваў на Ціму, невядома за што.

А неўзабаве, пакурыўшы з аднаго пачка, дазнаўшыся, хто дзе служыў армію, яны сядзелі зусім іншыя, дабрэйшыя, лагаднейшыя, і ўжо гаспадар лазні лісцівіа казаў:

— Дык кладзіся, храпі сабе ў шапку колькі ўлезе. А мне трэба ў поле. Павязу бульбу.

— Лепш вады прынясі. Піць ахвота.

Той усхапіўся, рады ўслужыць.

— Перабраў, відаць, учора? Ажно ў чужы сад убіўся. Дзе гэта ты так?

Ціма змоўчаў.

— Ці, можа, лепш капуснага расолу? Ой, добра на пахмелку. Я, браток, па сабе ведаю. Таксама, бывае, зграшу.

Ціма ўстаў, накінуў на плечы пінжак. Спытаў:

— Як цябе зваць?

— Мяне Сцяпанам. А цябе?

— Цімафей.— Пільна паглядзеў у твар чалавеку.— Сцяпан-матрос?..

— Ну... Адкуль ведаеш?

— А як прозвішча?

— Шацькаў.

— Усё ясна як божы дзень — аж на душы палягчэла.

— Што табе ясна?

— Ды ўсё. Цяпер — усё,— усміхнуўся Ціма.

Яны сядзелі за сталом у хаце. Стол быў вялікі, круглы, нібы для дыпламатычных размоў, засланы прыгожым, у вялікія чырвоныя кветкі, тканым абрусам. На стале стаяў збан з рэзкім капусным расолам.

Халодны, толькі з ямкі, ён добра асвяжаў усярэдзіне — змываў гар, млоснасць, цяжар.

— А можа, весялейшага збугорым? — спытаў Сцяпан.

Ціма піў, быццам глухі, і той зноў паўтарыў. Аддыхаўшыся, Ціма перапытаў:

— Што прыдумаем?

— Ну... па цалковым скінемся?

— Не дайшло.

— Ты што? — ускіпеў, запыхкаў гарачай параю, нібы чайнік на агні, Сцяпан-матрос.— Ты, можа, не славянін? Мовы славянскай не разумееш? Я... па рубліку.

Ціма адваліўся ад стала на спінку крэсла, цяжка, як напрацаваўшыся, выдыхнуў паветра, пагладзіў жывот і, падабрэўшы, сказаў:

— Я напіўся. За такі расол рубля не пашкадую.

Сцяпан, нібы падсмалены, ускочыў з-за стала, замахнуўся на Ціму кубкам і закрычаў:

— Вось я табе... як кіну рубля!..

Усхапіўся і Ціма:

— Ды ты што?..

Сцяпан-матрос ганяўся вакол стала за гасцём, замахваўся, як выбіраў момант, каб лаўчэй агрэць яго кубкам.

— Ыйш, барада калматая! Знайшоўся мне Карла! Рубель завёўся? Ты мне свой рубель не суны!..

Ціма схапіў Сцяпана за рукі, а той быў хоць драбнаваты, але жылісты, круты, як вар,— не ўтрымаць.

— Ды ты нейкі замініраваны.— Ціма стараўся казаць як мага лагадней, шукаў міру і згоды.— Адно маё слова — і ўжо накінуўся, як воўк на авечку. Я ж пажартаваў.

Сцяпан-матрос і Ціма пачалі супакойвацца, бура паміж імі аціхала. Гаспадар зноў сеў да стала, сам налёг на расол.

— І як цябе, такога шалёнага, узялі на лінкор? — з'едліва разважаў Ціма.— Ты ж мог там не на тую кнопку націснуць, і... бац — вайна сусветная.

Але Сцяпана не вайна хвалявала:

— Не веру я табе. Цяпер такіх няма, каб не пілі. Не можаш? А ўчора мог?

— Учора хацеў, а сёння не хачу.

— Са мною табе гідка?

— Не хачу, каб ты ў маіх вачах дваіўся.

Сцяпану-матросу Цімаў жарт прыйшоўся па душы, ён адразу павесялеў, нібы мураш на сонцы.

— Ну дык... я таксама не хачу, каб ты дваіўся. Думаеш, я сапраўды падбіваў выпіць? — крутнуў хітра ў іншы бок.— Я цябе правяраў, які ты гвардзеец. А мне піць нельга. Мяне кабыла чакае. Людзі ў полі чакаюць. Трэба загружацца бульбаю.

Ён рашуча адставіў кубак з недапітым расолам і выйшаў з хаты.

Сонца ўзнялося над стрэхамі, прыгрэла, зямля пад ім паравала, цвярдзела, святлела, пасля начнога дажджу святлелі хаты, хлявы, платы.

Па двары важна пахаджваў Боцман, трасучы высокім чырвоным грэбенем, сумуючы па чубатках, якія заседзеліся, можа, у хляве, а можа, дзе ў шкодзе.

Ціма ледзь сышоў з ганка, як Боцман кінуўся пад плот і знік, ды мігам, нібы яго і не было блізка.

Не было відаць і Сцяпана.

Ціма ўбачыў пасярод двара скрыню. Яна ляжала ўверх дном. Узлез на яе, пачаў цікаваць цераз глухі, ані шчылінкі паміж дошчын, плот: там, за плотам, быў агарод, ужо ўзараны і засеяны, за агародам — пясчаны пляц, на пляцы стаяла белая камяніца з шыльдаю над ганкам, усё роўна як крама, а ля камяніцы — конь у калёсах (можа, Сцяпанаў, можа, Сцяпан пайшоў да таго каня?), брындалі сабакі, хадзіла чарада гусей і не было ніводнага чалавека. Там, відаць, была вясковая плошча, можа, нават цэнтр Сычыкаў.

— Куды ўспёрся?! — раптам разануў па вушах знаёмы голас.

Ціма азірнуўся: Сцяпан стаяў за ганкам з пустымі мяхамі на плячы.

— Там крама? — спытаў Ціма.

— Злазь, туды тваю маць!

Ціма вытрашчыў вочы: чаго чалавек горла рве? А Сцяпан падбег, схапіў за руку, смаргануў — Ціма мігам зляцеў са скрыні, ледзь не ў плот носам.

— Ты што?.. Я ж таксама магу...

Пагроза не кранула Сцяпана. Ён прыўзняў скрыню за рог, паставіў на папа, глядзеў пад яе.

— Вунь бачыш?

Ціма нічога пад скрыняю не заўважаў.

— Сляпы?.. Слядоў не бачыш?

— Сляды бачу, але каму яны патрэбны?

— Капусту патрэбны. Арышт наклаў на сляды.

Сцяпан злосна кінуў скрыню на зямлю — яна была з таўстых дошак, цяжкая, гоцнула, аж хрупнула,— мігам збегаў у хату, прынёс пару новых мужчынскіх чаравікаў. Трымаючы ў кожнай руцэ па чаравіку, павярнуў падэшвамі ўгару. Падэшвы былі шырокія, тупарылыя, рабрыстыя, з літае гумы, як і сляды пад скрыняю. Ціма пачынаў здагадвацца, што да чаго.

Сунуўшы адзін чаравік пад паху, Сцяпан вольнай рукою склаў дзябёлую, нібы карэнь, фігу:

— А во яму! Я дакажу. Не адзін я купляў у Плескача гэтыя «чамберлены».

— А хто яна табе? — спытаў Ціма.

— Ты пра каго?

— Ды пра Шацькаву. Яна табе... сястра?

— Дачка. А што?

Сцяпан задумаўся, гэтакі задумлівы панёс свае «чамберлены» ў хату.

Згледзеўшы ў плоце дошчыну, якая вісела, матлялася на адным цвіку, тую самую, пад якую раней нырнуў Боцман, Ціма адхінуў яе ўбок і праз дзірку пралез у агарод. Дошчыну паставіў на месца, каб не відаць было дзіркі, а сам мяжою, якая трапілася пад ногі, падаўся туды, дзе стаяла белая камяніца.

— Цімафей?! Дзе ты?.. Цімох?! — чуўся за спіною, з двара, Сцяпанаў прарэзлівы голас.

Ціма пастаяў, вагаючыся: ці адгукнуцца? Душою Сцяпан-матрос яму спадабаўся. Толькі што пазнаёміліся, першы раз пагаварылі, а ўжо Ціма, здаецца, бачыў яго наскрозь. Асабліва цяпер, калі дазнаўся, што ён, Сцяпан, бацька Святланы Шацькавай. Не верылася, што гэта так, што ён яе бацька, бо з ім, Цімам, быў як раўня, як гадок, ды і з выгляду...

Пакуль стаяў, гадаў, куды ісці, назад ці ўперад, за дваром на вуліцы штосьці загрымела, панеслася, і ў тым баку, за дрэвамі, Ціма ўбачыў Сцяпана-матроса на возе. Ён сядзеў бокам да каня, звесіўшы ногі, круціў над галавою лейцамі — конь імчаў, быццам на пажар.

— Ну... кацісл,— прашаптаў Ціма і пайшоў далей.

У камяніцы сапраўды была крама. Смела, як не першы раз, пераступіўшы парог, не паспеўшы агледзецца, упэўнены, што недзе тут сам Пляскач, Ціма загаварыў:

— Штосьці няма купцоў. Можа, у вас няма тавару?

— Тавару хапае,— адказаў жаночы голас.

Пачуўшы вясёлыя, як прывітанне, словы, Ціма ўбачыў за прылаўкам ля паліц, заваленых белымі батонамі і буханкамі чорнага хлеба, белую і пухлую, як той батон, маладзіцу. Падышоў бліжэй, з ухмылачкаю дацягнуўся цераз прылавак да яе пухлага локця, але яна вырвалася, залямантавала:

— Ну! П'яны ці здуру?

Тады за яе плячыма з'явіўся Пляскач:

— Ты на каго тут, Волька, крычыш? — І ўбачыў Ціму.— Цімафей?.. Дык здаровы быў!

Ён адразу выйшаў з-за прылаўка, зашчапіў дзверы на кручок, размахваючы пустым рукавом пінжака, пачаў вадзіць госця ля паліц, паказваць, чым багаты магазін. Тут было амаль усё, што чалавеку трэба на кожны дзень: хлеб, боты, фуфайкі, сарочкі, мыла, чыгуны. Яшчэ Ціма вадзіў вачыма па паліцах, а на прылаўку ўжо з'явіліся пачатая пляшка гарэлкі, нарэзаная вяндліна і хлеб. Ціма заўважыў усё гэта, калі Пляскач зняў з паліцы слоік з марынаванымі зялёнымі памідорамі, вялізным нажом спрытна, адным махам, сарваў накрыўку.

— Не... не магу, не буду,— узмаліўся Ціма.

Гарэлка ўжо бегла ў шклянкі.

— Вып'еш, нікуды не дзенешся,— казаў Пляскач.— Я не магу, я на рабоце. Ды і... каліва ўжо хапіў.

— Бачу, што пляшка пачатая.

— Ляснічы заходзіў. З начальствам трэба дружыць. Сёння ты яму, заўтра ён табе. Такая, браток, жытка. У мяне тут людзі не супыняюцца. Як у папа ці ў міністра.— Пляскач зірнуў на прадаўшчыцу, пальцам торкнуў Ціму ў грудзі.— Во бачыш, Волька, якая барада! Сваяк, пляменнік Кузьмы Селянка. Дык што?.. За знаёмства!..

Пляскач быў такі: мёртвага падыме, жывога да ўсяго прымусіць. Але тут Ціма сам упёрся, мацней за Плескача. Адставіў шклянку, узяў крамшчыка за руку, павёў да дзвярэй. Той адразу змікіціў, што гаварыць госць хоча адзін на адзін, без сведкаў,— правёў за дзверы.

— Што табе? — спытаў адразу.— Ёсць свіная тушонка, ікра мінтая. Дэфіцыт! Што яшчэ?..

— Мне нічога гэтага не трэба.

— У Мінску днём з агнём не знойдзеш.

— Ды не...

Яны стаялі на дварэ, застаўленымі пустымі скры-

нямі, бочкамі з-пад селядцоў. У гэтым салёным смуродзе раямі лёталі мухі, ды здаровыя, зялёныя, як тыя селядцы.

— Ну а... дзеўка, Волька? Во баба! — Пляскач выставіў вялікі, з чорным ногцем палец.— Хоць ззаду, хоць спераду. І адна жыве. Ні мужа, ні смужа. Без браку.

Пляскач глядзеў на Ціму з ухмылачкаю, дабрадзеем, твар і вочы аж ззялі. Ціма адвярнуўся. Было прыкра гаварыць з ім і пра дзеўку і пра тушонку.

— Ты мне вось што скажы,— пачаў Ціма.— Чаравікі, англійскія, чорныя, Сцяпан Шацькаў у цябе купляў?

Пляскач доўга не ўспамінаў:

— «Чамберлены»? Былі, але няма. Чаго няма — таго няма.

— Шкада. І шмат было?

— Шмат добрага тавару ў Сычыкі не завозяць. Было... дзве пары.

— З-пад прылаўка?

— Сцяпан мне які сваяк?

— А другую пару?

— А другую купіў Уладзік Прыкуры Порах.

— Што за Порах?

— Капустаў брат. У дзесяты клас ходзіць, а здаровы бамбіза, метр дзевяноста... Чаму Прыкуры Порах? А хлопцы паддурылі, замест табакі пораху ў папяроску насыпалі. Быў вочы высмаліў.

— Падурнелі.

— Нашы вясковыя жарты.

— Дурныя жарты.

У той бок, дзе трыма паверхамі на выгане высілася школа, ад крамы вяла дарога, абсаджаная старымі ліпамі. На ліпах ранішні грай спраўлялі чорныя, нібы галавешкі, гракі, і Ціма, у адначассе думаючы пра гракоў і Плескача, сам сабе заўважыў, што горлам Пляскач вельмі падобны на гэтых птушак. Такія ж вялізныя, нахабныя, а галасы пустыя, непрыемныя.

Ліпы скончыліся, дарога павярнула, а школа стаяла блізка, за хатамі, за садамі, і Ціма не ведаў, як да яе падступіцца — ні дарогі, ні сцежкі. Вакол сады, платы, хаты, агароды, нейкі тупічок, пацягнуты свежым сонечным мурагом. Пасярод мурагу — белая каза

на прывязі. Сады цвілі гусцей, як падалося ўвечары і ўначы, ад іх павявала мёдам, хмелем, цяплынню, светлым людскім існаваннем на белым свеце, мірам. Ціма адпусціў на шыі гальштук, расшпіліў каўнер кашулі, каб вальней дыхаць.

Белая каза забылася на муроґ, уставілася на Ціму чырвонымі, нібы стоп-сігналы, вачыма.

Ціма спыніўся, глядзеў на казу. У яе былі чыстыя ногі, яна ўся, ад капытоў да рагоў, была белая, чыстая, мірная.

На бліжэйшым двары зарыпеў калаўрот. Ціма заўважыў там старую. Адчыніў у плоце веснікі. Старая не чула і не бачыла, як ён падышоў.

— Давайце пасоблю.

Голас быў нечаканы — яна спалохана азірнулася:

— Дык гэта ты, Цімафей?

— Цётка Варвара? — ён таксама здзівіўся.

— Як ты мяне знайшоў?

— А белая каза паказала.

Яна зразумела жарт, усміхнулася.

— Раней у мяне Галка была, чорная-чорная.

— А малако? Белае?

— А малако белае. Ат...— махнула рукою.— Табе, маладому, абы пажартаваць са старой бабы.— Замоўкла.

— Ды не, цётка Варвара, кажыце. Гэта я так...

— Ну... як які чалавек да хаты, дык яна ў крык, лямантуе, аж разрываецца. І я ўжо, бывала, ведаю, што нехта ідзе. Мне і сабакі не трэба было. Галка за сабаку. А на малако скупілася. Цяпер у мяне Белка. Ціхая, ласкавая, лішняга голасу не падасць. А доіцца — як іншая карова. І мне хапае, і людзям. Праўда, ужо загадзя не ведаю, як хто ідзе. Тут мая Белка — маўчок. Але пражыву без сабакі.

Папляваўшы на далоні, Ціма ўзяўся за калаўрот. Выцягнуў вядро ■ калодзежа, паставіў на брыж цэментавага круга.

— Гляньце, цётка Варвара! Я вам скарб выцягнуў.

У вядры боўтаўся прывязаны абораю да дужкі бляшаны бітончык. Старая выняла яго з вядра, абцерла фартухом.

— А што ты думаеш? Ну... нясі яго ў хату.

Хата ў цёткі Варвары малая, закураная доўгім векам, сцены нетынкаваныя, нават шпалерамі не аклееныя, шэрыя бярвёны ў сценах сухія, патрэсканыя, дзе-

нідзе памазаныя глінаю. І столь голая — шэрыя дошкі. І падлога фарбы не нюхала, адным ходнічкам, ад парога да процілеглай сцяны, пад стол, засланая. Але ў хаце чыста, светла, светла не столькі ад вокан, бо малыя, колькі ад печы, вялізнай і белай, ад белых, у дробныя кветкі занавесак на чалесніку, над ляжанкаю.

Якія сцены — такія і рэчы: стол, канапа, табурэткі, шафка на сцяне для посуду, ложак ля печы — усё паса старога дрэва, з даўнейшых гадоў, даваенных ці пасляваенных, куды бяднейшых. Але калі звычайна старызна і беднасць прыгняталі Ціму, калі раней ён ад іх адварочваўся, дык тут рабілася штосьці новае, тут яго душа не спужалася шэрасці, старызны, вочы не адвярнуліся, з цікавасцю ўсё разглядалі, быццам шэрыя сцены і прымітыўна старыя, асабліва па цяперашнім часе, рэчы славянскага побыту былі яму дарагія, свае, родныя. Можа, у гэтакай вось хаціне і ён нарадзіўся? Можа, душа прачнулася, адгукнулася?

Цётка паставіла на стол бітончык, і Ціма сеў, працягнуў да яго рукі — бітончык быў халодны, асвяжаў. Старая прынесла вялізны зялёны кубак, пэўна літровы, наліла ў яго малака — паўнюткі.

— Выпі, Цімафей.

Сама села насупраць, рукі паклала на стол, уважліва глядзела на госця.

— Ад белай козкі?

— Ад Белкі,— радасна кіўнула цётка Варвара.— Гэта ж маё, Цімафей, золатка, не каза. Адной мне і літры на дзень досыць, а яна дае тры, нават болей. Ды малачко-малачко! Салодзенькае, адна смятанка. Кароўка гэтакага на дасць, не. Ты пі...

Ён прыклаўся да кубка, баючыся, што не пракаўтне і два глыткі, бо ніколі не піў казінага малака, але, праглынуўшы тыя два, піў і піў. Малако сапраўды было смачнае, саладкаватае, ды і халоднае, аж зубы заходзіліся.

— Добры ў вас халадзільнік,— дзівіўся Ціма.

— А мне лепшы не трэба. Гэта Іван... Прывёў цыгана і кажа: капай бабе калодзеж. Навошта мне, думаю, адной калодзеж? Вядро вады на два дні я і ад суседа прынясу. А Іван сваё: цыган мне, кажа, вінен, дык хай адробіць. Той і выкапаў. Цяпер у мяне вада свая, хоць заліся, і халадзільнік.

— А чаму ж вы адна жывяце?

Старая глядзела на свае спрацаваныя рукі і маўчала. Тады ён яе зачапіў з іншага боку:

— Дзе вашы дзеці? Чаму не з вамі?

За акном пратарахцелі калёсы — нехта праехаў на кані,— пачалі сварыцца бабы. Быццам ад той сваркі, рукі ў старой затрымцелі, яна цяжка ўздыхнула:

— Ах, каб ім бог дзетак не даў.

Ціма скалануўся:

— Вы каго гэтак?

— А ўсё іх, ірадаў.

Старэчыя вусны сцяліся моцна, ажно збялелі, вочы зрабіліся нерухомыя, застылі. Ціма пашкадаваў, што даў волю языку, хутчэй вярнуў размову да ранейшага:

— Я ніколі не піў казінага малака. Не думаў, што яно гэтакае смачнае. Піў ласінае, ад кабылы, кумыс, нават вярблюджае піў, а казінае — ніколі. Гідзіўся. Ат, думаю, недарослая карова. А вашу козку ўбачыў — адразу спадабалася. Іншыя ад крыку парвуцца, дзень-ноч не змаўкаюць, а ваша разумніца жуе жвачку і думае. Гэтакая чысценькая.

Як мог, расхвальваў Белку, аднак Варвара ўжо не пра Белку думала, загаварыла зусім пра іншае:

— Ці помніш, Цімафей, майго Віцю? Вы з ім, бывала, паробіце з дратоў ражончыкі, кручкі на канцах і ганяеце па вёсцы абручы. А тыя абручы кралі ў Акіма. Акім рабіў шайкі, бочкі, кублы, у лазні лазу парыў, гнуў. Панавешвае на сцяну за хатаю, а вы з саду падкрадзяцеся — за абручы і ганяеце. Адным разам ён вас падпільнаваў — вядзе да мяне. Ці помніш гэта?..

— Віцю помню. І дзеда Акіма. А дзе ён цяпер, ваш Віця?..

Ціма сапраўды шчыра абрадаваўся, што ўспомніў таго хлопчыка са свайго далёкага маленства. Адно дзе-давы абручы не помніў. І каб дзед Акім рабіў кублы, бочкі, шайкі — не помніў. Каб кралі ў дзеда Акіма?..

— А можа, ты, Цімафей, і майго Аляксея помніш? — зноў пыталася цётка Варвара.— Ён быў старэйшы за вас на цэлых восем гадкоў.

Ціма задумаўся.

— Помню, цётка Варвара.

Не, ніякага Аляксея не помніў. Але калі ўбачыў, як павесялела цётка Варвара, то не пашкадаваў, што змапіў. Яна, радая, што Ціма помніць яе сыноў, зноў абедвума схапіла бітончык, ды Ціма ўжо наліўся — адзін

глыток, здавалася, у жываце не памесціцца. Адставіў кубак.

— Выпі, Цімафей,— прасіла, ледзь не плачучы.

— Няма ўжо куды.

— А ты знайдзі. Ну?.. На сам налі колькі хочаш.

Яна падала Ціму бітончык, і ён, убачыўшы, як прасілі і малілі яе вочы, пакорліва ўзяў, наліў у кубак, адпіў глыток.

Пакуль маўчаў з глытком малака за шчакою, цётка Варвара зайшла за паркалёвую ў кветкі шырму, што адгароджвала маленькую спальню, вынесла адтуль вялікую, пад шклом раму. У раме былі фотаздымкі.

— Ну... каго ты тут пазнаеш?

Каго ён мог пазнаць? Тым больш што здымкі былі старыя, пажоўклыя, пабляклыя. Пазнаў цётку Варвару, яшчэ маладую. Яна сядзела побач з мужчынам, здаровым, круглатварым, у фуражцы. Ці не з мужам? Абаім гадоў па трыццаць. Нават сам здзівіўся, што пазнаў Варвару. А па чым? Па тым, як яна сцяла вусны, утаропіла ў адну кропку вочы — гэтакая і цяпер. І нос не змяніўся: даўгаваты, танклявы, востры, нейкі птушыны. Хацеў быў пахваліцца, што яе пазнаў, ды стрымаўся, бо не гэтага яна ад яго чакала. Дзе сыны, на якіх здымках? Доўга ўглядаўся. Заўважыў, што вакол здымка, дзе Варвара з мужам, адны хлопцы, падумаў: сынамі, відаць, абсадзіліся? Але нешта многа іх? Самы цікавы быў здымак, дзе хлопчык гадкоў дзесяці стаяў, рукою абхапіўшы за шыю белае жарабятка, смяяўся шчарбацінкаю, белагаловы, танклявы, босы, у кароткавых, са шлейкамі цераз плечы штоніках.

Тыцнуў пальцам у той здымак, кідаючы насцярожаны позірк то на хлопчыка, то на старую:

— Вось ён... Віця?

Як захвалявалася цётка Варвара! Быццам Ціма знайшоў ёй сына, якога сама знайсці не магла. Заміргала памакрэлымі вачыма, носам зашморгала, нібы дзіця, глытаючы сліну і слёзы.

— Ён, Віця. Меншанькі,— прамовіла, нарэшце сабраўшыся з сіламі, пальцамі тручы вочы.

Ціма толькі цяпер заўважыў, што пальцы ў яе страшэнныя: косткі павыпіралі, суставы бугрыстыя, ногцяў амаль зусім няма, нейкія пакурчаныя кіпцюры. Аж у грудзях схаладнела, аж вочы зажмурыў.

А яна прыгаворвала:

— Во бачыш? Майго Віцю пазнаў.

— Як жа я мог не пазнаць? — Ціма быў шчаслівы, мабыць, не менш, як старая, што ўгадаў, не памыліўся.

— Ну, пі малачко, пі. Я ж козку і да вайны трымала. Віця вельмі любіў малачко. Табе мо адрэзаць хлеба?

— Не, хлеба не трэба. А малако дап'ю,— пагадзіўся, адчуўшы, што яна просіць яго, нібы свайго Віцю, сына.

Адпіў колькі глыткоў.

— Ну а яшчэ, можа, каго пазнаеш? — усё дапытвалася, заглядаючы, як малое дзіця, у вочы.

— Яшчэ вас пазнаў. З мужам?

— Ага, з ім, маім Хвядосам. Гэта мы ў Гомлі здымаліся. Яшчэ ў трыццаць восьмым годзе, летам. Хвядос у Гомлі рабіў, прырабляў, клаў цагляныя дамы. Вясною, бывала, адсеемся, тады ён пакідае ў мех кельмы, малаткі, шнуры, хвартух, мех за плячо і на Сож. Па Сажы хадзілі баржы з драўмі. Ён на баржу — і ў Гомель. А я, бывала, прыеду да яго, прывязу сала, бульбы, гуркоў, дзецям што-небудзь куплю ў горадзе.

Ціму была ахвота спытаць, дзе яе муж, што з ім сталася, ды і яна сама, пэўна, адчула, што гэта трэба сказаць, бо Ціма тут не жыў, не ведае, хто куды падзеўся.

— Хвядоса забілі ў вайну. Ногі ў яго былі памарожаныя, на фронт не ўзялі, а ў партызанах і гэтакі згадзіўся. У лес пайшоў і не вярнуўся. Забілі, ірады. Яны б і мяне прыкончылі, за Хвядоса, бо ён быў партыйны. Помню, вывалаклі з хаты і давай мясіць нагамі. У снег затапталі, содзюць ботамі пад бакі, у грудзі, пад бакі і ў грудзі, і па галаве, па галаве. А боты ў іх, ірадаў, цяжкія, што гіры, жалезам падкаваныя. Забілі б, каб не снег. Снег быў глыбокі.

— За што ж яны вас?

— А за Хвядоса. Усю ссінілі, скрывянілі. Дзеткі мяне падабралі, Аляксей і Віця. Гэта ж трэба было ім такое за мяне перажыць, малым. Яны мяне ў хату нежывую ўцягнулі, на ложак паклалі, збегалі па Гапачку, яна мне ўсю ноч клала прымочкі. Гапачку ці ведаеш? Кузьма пра яе табе не казаў? Яе немцы, ірады, забілі. Ускорасці пасля таго, як мяне памясілі. Мяне на стрэчанне, а яе на Юр'я. Зямля зелянела. Яна пайшла на Сож па вербалоз. Несла бярэма маю. А яны на

машынах выязджалі з Сычыкаў. Спыніліся каля калодзежа, дзе старая школа стаяла, ваду пілі. П'яныя, сытыя. Ну, нешта і ёй гыркнулі. А яна як ішла, так і пайшла, не спынілася, не азірнулася. Ідзе сабе, нясе май, бярэма цэлае. Дык яны «тра-та-та-та» — з аўтамата па ёй. І паклалі бедную бабу. Дзе ішла, па-над кручаю, берагам, там і сунулася на свой май.

— Пад вярбою?.. Яна ж і завецца Гапачкінай?

— Людзі яе так назвалі.

Цётка Варвара прынесла з-за шырмы старую, злінялую на галаве пад сонцам, хусцінку, задумліва вадзіла ёю па шкле, выцірала пыл, а Ціма зноў разглядаў яе рукі, спрацаваныя, пакурчаныя, нібы карані, пальцы, дзівіўся, чаму яны без ногцяў, чаму ад ногцяў застаўся нейкі ўрагавелы шэры накіп.

— А ці помніш ты, Цімафей, як у вёску прыязджаў фатограф? У самы сенакос. Яшчэ вайна грукатала, але не па нашых ужо спінах. Гэта ў сорак чацвёртым. Надвечар, помню, прыехаў. Дзе цяпер Плескачова крама, пасярод вёскі, паставіў свой апарат і здымаў усіх, хто хацеў, хто меў чым плаціць. Мне так карцела, каб ён Віцю зняў. Прынесла я паўвядра бульбы, стаю, а Віці няма, ён коней за Сажом пасвіў. Панесла бульбу назад. А праз колькі дзён прывёз той чалавек здымкі. Вось тады і мне давялося адсыпаць яму бульбачкі. Ён, значыць, як [illegible] вёскі пайшоў, пераплыў паромам Сож, на лузе ўбачыў Віцю з коньмі, там зваліў з пляча мех з апаратам, паставіў на тры нагі і зняў Віцю. Вось і стаіць са сваім Белым. Глядзі і плач.— Тупымі шэрымі пальцамі цётка зноў і зноў выцірала з вачэй слёзы.— Ну а яшчэ каго пазнаеш? — дапытвалася.— Паглядзі на гэтага вось ваяку. Не пазнаеш? — Ткнула пальцам у здымак, дзе на ўвесь рост стаяў малы салдацік пад каскаю, у фуфайцы, з аўтаматам на грудзях.— Ці ён на мяне не змахувае?

Ціма глядзеў то на здымак, то на цётку Варвару.

— А што? І змахувае.

— Гэта ж мой Аляксей.

— Колькі яму тут?

— Ат... дзіця горкае. Вайну пераседзеў у вёсцы, а пасля і туды паспеў, на фронт. Пятнаццаць было... Нашы як увайшлі ў Сычыкі, тады Аляксей і знік. Увечары, помню, Віця прыбег з пераправы, з пантонаў, кажа: бачыў Аляксея, сядзеў на машыне з салдатамі.

Пасля прыйшло пісьмо, салдацкі трохкутнічак, а ў ім гэты здымак. А следам і пахаванка прыкацілася.

У акно штосьці жывое зашкрэблася. Ціма адхінуў фіранку — убачыў кацінную вусатую морду, шэрую, як у тыгра, з белымі вусамі і вушкамі. Кот закаўкаў, і старая пайшла адчыняць дзверы. Упусціла ў хату, наліла ў бляшанку малака, паставіла ля парога. Кот адразу, як з галадухі, пачаў хлябтаць.

— Вось і жывём з Пушком ды з Белкаю,— сказала старая.— А Пеця і Грыша... Ты іх ці ведаеш? Гэта Пеця,— паклала палец на яшчэ адзін здымак,— а гэта Грыша.— Хлопцы былі падобныя, нібы блізняты, абодва чарнявыя, у чорных пінжаках і белых кашулях, вастраносыя, чубатыя, ужо юнакі, мужчыны. Памаўчаўшы, цётка панесла рамку са здымкамі за шырму, ужо адтуль казала: — Пеця ляжыць пад Унечаю, а Грыша ў брацкай... пад Курскам.

Шырма прасвечвала, і Ціма бачыў, як цётка сядзела на ложку, трымала рамку са здымкамі на каленях.

Выхлебтаўшы ўсё малако, нават вылізаўшы бляшанку, кот разлёгся на парозе, смачна аблізваўся, глядзеў на Ціму задаволенымі вачыма. Сытае кацінае мурло падалося Ціму агідным, абразлівым пасля таго, што пачуў ад цёткі Варвары, і Ціма адчыніў дзверы, выспяткам выкінуў ката за парог.

— Цімафей? — усхапілася старая.

— Я тут, цётка Варвара.

— А я думала, што пайшоў,— супакоілася.

Ён праз шырму бачыў, як яна вешала на сцяну рамку з фотаздымкамі, доўга шкрабала па сцяне, ніяк не магла зачапіць аборкаю за цвік. Падышоў, узяў у яе з рук тую рамку, павесіў на месца, дзе вісела.

Зноў сядзелі за сталом, зноў Цімавы вочы не маглі адарвацца ад яе пальцаў.

— Чаго яны ў вас такія? — асмеліўся нарэшце спытаць.

— Хто яны? — не зразумела старая.

— Ды пальцы... Як памарожаныя.

Яна сама пачала ўважліва разглядаць свае рукі, нібы першы раз бачыла.

— А гэта яны ад серы.

— Ад якой серы?

— Было... як фронт ад нас адкаціўся. Прыбеглі, помню, дзеці з Сажа, навіну прынеслі: коні на беразе ходзяць, ваенныя. Мы, бабы, туды: што за коні? У нас

жа тады ніякага цягла не было. Ну, мы за тых коней ды ў вёску. А яны ўсё чыста то кульгавыя, то надарваныя, у балячках. Тут — зіма. Акім, першая галава ў вёсцы, кажа: бярыце, бабы, коней па дварах, лячыце, як сваіх, без коней мы вясною зямлю не падымем, не засеем, на хлеб не ўзаб'ёмся, ногі выцягнем. Даў і мне кабылу з жарабяткам. А куды ставіць? Хлевушок дзіравы, халодны, снегам напханы. Мае коні запляшывелі, каростаю пакрыліся. Я спужалася, зацягнула іх у хату, пачала каланіцаю мазаць. А не памагае. Тады Акім прынёс серы. Я тую серу ў ступе стаўку, з дзёгцем змяшаю, коней сваіх на ноч вымажу, а раніцай вадою цёплаю абмыю, зноў вымажу. Гляджу на іх, цівіхіх, слёзы льюцца. Жывое ўсё ж, хоць і коні. А тут Віця, яшчэ і за яго баюся, каб не набраўся хваробы. Ён жа такі, аж ліпне да жарабятка. Вось я сераю рукі і спаліла, усе пальчыкі, бачыш, суродавала. Былі чырвоныя, папечаныя, пасля скура тая з іх злезла, мяса пазлазіла, голыя косткі тырчалі. Мяса на костках нарасло, але як не маё, чорнае. І ногці куды дзяваліся. Крышыліся і адляталі. Іду, бывала, па вёсцы, рукі трымаю ў кішэнях. Хавала ад людзей, не хацела, каб бачылі. Спаць не магла ад болю. А днём як робіш — не чуеш.

— Ну а жарабятка... ці выжыла? — спытаў Ціма.

Цётка падперла галаву рукою, паклала лоб на далонь, чорнымі пальцамі абхапіла вышэй ілба, глядзела з-пад рукі ў стол, моўчкі ківала галавою — Ціма зразумеў: выжыла, вядома, выжыла. І абрадаваўся, нібы ў тым жарабятку быў лёс і яе, цёткі Варвары, і яе Віці, і ўсяго свету.

— На здымку ж бачыў? З Віцем. Бялюткае, а на лабку рудая зорачка. І шкарпэткі, вышэй капыткоў, рудыя. Да Віці прывязалася — што сабака. Віця ў школу — Лыска за ім. Да школы давядзе, як стане ля ганка — паўдня стаіць, з месца не сыдзе, пакуль ён у школе.

Пайшла зноў за шырму і зноў з'явілася — на галаве чысценькая, у кветкі хусцінка, сіні пінжачок на плячах, быццам у госці сабралася. Накрыла бітончык векам, узяла ў руку, пастаяла ля парога, падумала і пайшла з хаты. Следам за ёю выйшаў і Ціма.

Яшчэ на двары пастаялі, памаўчалі. Цётка Варвара — нешта думаючы, а Ціма — аглядаючы яе гаспадарку: хлевушок ля калодзежа, дроў штабялёк, жалез-

ная бочка з вадою пад страхой, рыдлёўка са зламаным цаўём ля бочкі, іржавая, нікому, відаць, не патрэбная барана ля плота, на частаколінах — гліняныя збаны, слоікі, старыя валёнкі, анучы, дубовая калода пасярод двара, на калодзе — сякера са зламаным на шыйцы тапарышчам, тупая, вышчарбленая ці на смаляных карчах, ці на цвіках. Узяў з калоды сякеру, падзівіўся з яе, спытаў:

— Гэта піла ці сякера?

— Ды я ўжо сама думала.

— Мужчына павінен думаць.

— А дзе мне таго мужчыну ўзяць? Пайду да Плескача, куплю новую.

— Навошта новую? Я вам гэтую направлю. Як агонь будзе.

Старая недаверліва ўсміхнулася:

— Калі табе з ёю вазіцца?

«А сапраўды...» — падумаў ён. І ўжо неяк няпэўна запярэчыў, быццам не адмаўляючыся ад таго, што паабяцаў, і ўжо не абяцаючы, што зробіць:

— Трэба зрабіць, цётка Варвара. А новую не купляйце. У вас няма лішніх грошай.

Расчуліў старую спагадаю.

— Добрая ў цябе душа, Цімафей.

Як цёплыя словы мёдам леглі на сэрца, захацелася яшчэ ў чымсьці паспагадаць, і ён, загледзеўшыся на хату, заўважыў:

— Вось вы чалавек заслужаны, светлы, а хата ў вас шэрая. Халупа, не хата. Самая старызна ў Сычыках.

Яна пагадзілася, але не бедавала:

— Мажа, і самая. Цяпер хаты ў людзей новыя, вялікія.

— А ў вас? Дзе той калгасны старшыня? Дзе яго вочы?

Ціма чакаў, што вось зараз цётка пачне скардзіцца на калгас, на старшыню, як яму людзі неаднойчы скардзіліся, спадзеючыся, што ён там, у Мінску, бліжэй да ўлады, можа чымсьці пасобіць. Але яна не пагадзілася з Цімам:

— Старшыня сам казаў, каб ішла жыць у новы катэдж, каб цягнула туды свае клункі. А навошта мне катэдж? Якая сама, такія і сані. Там маладыя хай селюцца. Ім даўжэй жыць.

Яе спакойная развага збянтэжыла Ціму: як гэта

так? Чалавек яшчэ жыве, а ўжо яму нічога не трэба.

Сонца ўзнялося ў чыстае, ні аблачынкі, неба, абсушыла зямлю, хаты, дрэвы, ужо знаку не засталося, што звечара ліў дождж. Зноў парыла. Відаць, на дождж.

Цётка Варвара выйшла на вуліцу: у адной руцэ — бітончык, у другой — кіёк, той самы, з якім учора была ў Кузьмы. Тры крокі зрабіла і села пад вокнамі на лаўку. Ціма падышоў, сеў побач.

— Куды далёка сабраліся? — пацікавіўся.

Старая паставіла бітончык у цень пад плотам, а кій трымала аберуч, абапершыся на яго, уставіўшыся на казу.

— Ціхая ваша Белка. Маўчыць, быццам карова,— заўважыў Ціма.

Думаў, што пра казу цётка загаворыць ахвотней, а яна як і не пачула. Тады ён закурыў.

— А мне яна і Лыску нагадвае і Віцю,— нечакана прызналася старая.

— Што белая, светлая?.. Ці што ціхая?

Ціма наравіў угадаць, аб чым думае цётка Варвара, ды не мог, быццам тая знарок яго блытала, не тое казала, што думала, што ён хацеў пачуць, ці сам быў няздатны ўгадваць душу, думкі. Вось і цяпер: ён пра казу, яна — пра жарабятка.

— Ты, Цімафей, пытаўся, што з Лыскай?.. А тое, што і з Віцем. Як тут жылі душа ў душу, так і... Ох, Цімафей!.. Ходзяць па свеце іроды. Маткі іх нараджаюць. Зямля іх носіць...

— Вы пра каго?

— Ды... Помню, капалі мы, бабы, калгасныя буракі. Сухая, цёплая восень выдалася. Віця ў школе быў. Гэта ўжо на трэці год пасля вайны. Лыска вырасла, добрай кабылкаю стала. З намі ў полі была, мы на ёй буракі вазілі. Абедаючы, выпраглі, у хамуце пусцілі на буракі. І раптам бабы мне кажуць: «Глядзі, Варвара, нештачка твой Віця нясе». Я ўстала з зямлі, на капач абаперлася, гляджу. А Віця сапраўды ідзе з пашы, нешта нясе на руках перад сабою, як малое дзіця ці ляльку, а за ім следам — Лыска, як на вяроўцы. На баку ў Віці палатняная торбачка з кніжкамі, вісіць на аборцы, аб калена цялеп-цялеп. Я гляджу на яго і думаю: што за цацу нясе? І бабы то сядзелі, а то паўсхапіліся, глядзяць. А ён нясе сваю цацу, усміхаецца. Пінжачок, помню, на ім картовенькі, шарачок, без шапкі, галоўка жаўтлявая, блішчыць на сонцы. Спыніўся крокаў за

дзесяць ад мяне ды кажа: «Глядзі, мамка, што я знайшоў». Тут мяне як якім токам прашыла. Стаю, нібы слуп, нежывая ці жывая напалавіну. Кажу: «Навошта ты мне гэта прынёс? Мне толькі гэтага не хапала». Бабы нас акружылі, завохкалі, а Лыска за спіною ў Віці стаіць, цераз плячо мордаю цягнецца, нюхае, нібы сабака, тую цацу.

— Дык што там было? — не ставала цярпення ў Цімы.

Цётка Варвара казала па-свойму, не так, як ён прасіў, падганяючы, кожнаму слову ведала сваю чаргу:

— Бабы кажуць: «Кідай з рук, Віця! Навошта табе?..» Дурныя такія, бачыш. А я як залямантую: «Не кідай, сынок! Бо ўсе мы тут ляжам і ты з намі. Нясі, як трымаеш. Нясі ціхенька, асцярожненька, не спатыкніся, глядзі». Лыску за аброць схапіла, каб яна да Віці не лезла, кажу: «Ідзі, сынок. Вунь у тую блізкую траву пакладзі, ды мякенька, а сам, як паложыш, бяжы хутчэй да нас. Пасля прыдумаем, што рабіць». Ён праўда, паслухаў. Але сам, бачу, спужаўся, збялеў. Як нёс да мяне, дык думаў, што гэта ў яго ў руках гульня, цацка, а цяпер сам спужаўся. Адышоў колькі крокаў, тады я Лыску кінула ды да яго: «Дай, сыночак, я сама панясу». А ён: «Не, мама, я сам». А мяне нейкі нутраны голас штурхае: «Дай сюды, Віця». Рукі мае да яго цягнуцца: «Кладзі мне на рукі». А Віця ад мяне адварочваецца: «Не, я сам». Тут і бабы на мяне: «Ды адступіся ты, Варвара. Знайшла чым гуляць, яшчэ з рук на рукі будзеш перакладаць?» Я замоўкла, і Віця панёс. Пайшоў і пайшоў па нескапаных бураках, па полі, да мяжы, да кустоў, што былі за мяжою. Я гляджу ўслед і ледзянею. Хочацца за сыночкам услед бегчы, і не магу, ногі падубелі, ды і бабы трымаюць за рукі. Раптам Лёкса кажа: «Як гэта мы, бабы, дзіця адпусцілі з бомбаю?» Тады я як закрычу: «Віця, сыночак, стой, не ідзі!» Ён спыніўся, але ўжо каля той мяжы азірнуўся, крычыць мне: «Я тут пакладу, мамка! У мяжу пакладу!..» Крычу: «Пачакай, Віця, я сама!..» Бабы мяне не пускаюць, але я вырвалася, бягу і бягу і бачу, як ён прысеў з той цацкаю, кладзе яе на зямлю і Лыска ля яго стаіць, галаву звесіла, хамут на вушах... I раптам... як бабахне!.. Свет у мяне ў вачах памутнеў, счарнеў, чую, што падаю, ногі падкасіліся, а бабы ўжо ля мяне, з абодвух бакоў трымаюць. Самі бягуць і мяне валакуць пад пахі. Гэтак я з імі давалаклася, гля-

джу, а мой Віцечка ляжыць, ручкі-ножкі раскінуўшы, на краі ямкі, зямлёю ды буракамі прысыпаны, вочкі ў яго адкрытыя, а не варушыцца. Я ў крык, бац на калені, схапіла яго галоўку: «Сыночак, прачніся!» А галоўка да рук маіх ліпне, уся ў крыві, кроў і з рота і з носа. І Лыска тут ляжыць, галава яе ў Віці пад рукою. Лыска яшчэ, помню, хрыпела, у горле ў яе хрыпела, кроў з губ плыла, як у Віці, а ног не было, паадрывала. Гэта помню. А больш нічога не помню. Пяць дзён ляжала без памяці, вачэй не адкрываючы, знаку жызні не падавала. Толькі што сэрца тахкала. Моцнае, халера, сэрца ў мяне было. Іншаму хапіла б на два жыцці. Пакуль ачомалася, дык і Віцю без мяне ў зямельку паклалі. Нічога не помню. Як яго з буракоў забіралі, як ён дома ляжаў, як хавалі. Адно помню, як ляжаў з Лыскай на краі зялёнага поля, на тых бураках...

Пакуль цётка Варвара расказвала, яе кій выкруціў у зямлі дзірку, і яна, расказваючы, вачэй ад дзіркі не адводзіла, быццам з яе, з зямлі, брала ўсе ўспаміны. І Ціма, рукамі абапёршыся на калені, глядзеў у тую дзірку пад кіем, глядзеў, слухаў і думаў, як гэта адна вайна забрала ў цёткі Варвары ўсіх яе сыноў, нават малых пабрала? Ужо адгрукатаўшы, назад вярнулася, каб забраць апошняга, самага меншага, Віцю. А яе, маці, пакінула жыць, не ўзяла. Каб было каму плакаць?

Ціма падняўся з лаўкі.

— Ты куды? — спытала цётка Варвара.

І сама паднялася.

Яны ішлі далей па вуліцы. Цётка Варвара ішла блізка ад плота, дзе мякчэй і не было пылу, шаркаючы па траве лёгкімі сандалямі, а Ціма крочыў з ёю побач — дзе травою, а дзе пыльнай дарогаю. Ён нёс бітончык, у якім ледзь чутна плёскалася малако, другой рукою падтрымліваў старую за востры сухі локаць. Старая ішла, угнуўшы галаву, бачыла перад сабою адно зялёны лапік травы, а Ціма ішоў стромы, лёгкі, з высока ўзнятай галавою, варочаючы ёю, нібы гусак, ва ўсе бакі, аглядаючыся навокал, быццам стараўся бачыць вакол сябе як паболей, як падалей. Часам яго ўвага да вёскі, да свету як бы знікала, калі адчуваў цётку Варвару, яе руку, хаду, боль, калі чуў яе голас — яна, аказваецца, магла засланіць яму ўвесь свет,— тады і сябе, дарэчы, адчуваў іначшым. З'явілася ахвота, ажно прага, каб на вуліцы былі людзі, шмат

людзей, каб яны ў вокнах тырчалі, каб стаялі і сядзелі каля хат, ля веснікаў, каб людзі бачылі, як ён вядзе цётку Варвару, які да яе ўважлівы, якая яна з ім блізкая. Хай бы глядзелі і думалі, што яны ідуць, як сын з маткаю.

Штосьці незвычайнае адчувала і старая. Гэта Ціма ўгадваў па яе хадзе, дыханні, па тым, як яна локцем прыціскала да сябе Цімаву руку. Нібыта ішла з сынам, з Віцем.

Раптам спынілася.

— Стаміліся? — уважліва спытаў ён.

Яна маўкліва правяла далонню па лобе, падаткнула пад хусцінку валасы, каб не лезлі ў вочы, з-пад рукі загледзелася на сцяжыну, што збягала з пагорка, ад старых ліп. Той сцяжынаю спускалася жанчына. У адной руцэ ў яе была кашолка, накрытая белым ручніком, другою яна вяла за руку дзяўчынку ў сіняй балоневай куртачцы, за якую трымаўся, цягнучыся і плачучы, яшчэ меншы хлапчук.

— Гэта ж Манечка,— сказала цётка Варвара.— Пяюха ўчарашняя. Не пазнаеш?

Пакуль Ціма ўглядаўся ў жаночы твар, Манечка падышла блізка, паставіла паміж ног кашолку, падала яму вызваленую руку:

— Дзень добры,— і тут жа да старой: — Дзень добры, баба Варвара. Далёка сабраліся? — Старой лагодна ўсміхнулася, Ціму задзёрыста падміргнула.— А я свайму Федзю абед нясу.

— Куды ж ты яму нясеш? — спытала Варвара.

— А на комплекс. Палац кароўскі будуе, сякераю махае ад раніцы да вечара. За дзень намахаецца — вала з'есць. Учора шыфер завезлі. Сёння крыюць.

Маня была ўсхваляваная, задыханая, усё роўна як бегла не азіраючыся, і потнага хамута вырваўшыся. Твар зачырванеўся, лоб блішчаў, спацелы, валасы лезлі з-пад хусткі на лоб, у вочы, яна рукою падсоўвала іх пад хустку. Ціма глядзеў на сваю пляменніцу і здзіўляўся, што яна, за яго маладзейшая, выглядае пажылой бабаю, у яе гадах бачыў свае, яшчэ большыя, у яе затуркана-неахайным выглядзе,— сябе, не такога неахайнага, але старэйшага, як быў. Свае сорак пяць ён яшчэ ніколі, здаецца, не адчуваў гэтакімі цяжкімі, як перад Маняю.

— Вас барада старыць,— з'едліва ўсміхнулася яна.— А так яшчэ малады. Скінеце бараду — і зусім

юнаша. Горад усё ж не вёска. Там вы на ўсім гатовым. Не араце, не сеяце, не жняце. А мы тут... Ці быў вось у бабы Варвары той дзень, каб пасядзела склаўшы рукі?

— А ў цябе, Маня, калгатні мала?

— І ў мяне. У поле бяжы, ля хаты засявай ды яшчэ свае соткі за вёскаю, пад бульбу. Скаціну накармі, напаі. З печчу ўпраўся, з чыгунамі. А яшчэ гэтых во... панасеялі,— яна прыціснула да жывата дзве чарнявыя галоўкі, прылашчыла.— Ці многа ў вас дзяцей? Арцель вялікая?

Ціму зручней было адмаўчацца, ды Маня, адчуў, зноў спытала б, яе гэта вельмі цікавіла,— паспрабаваў звярнуць на жарт:

— Ды... хапае. Па свеце...

Жарт не ўдаўся, пытанне ў яе вачах не пагасла, яна быццам не зразумела яго. І гэтаксама, не разумеючы, глядзела цётка Варвара. Ціму зрабілася млосна ад іх вачэй.

— Няма нікога ў мяне. Ні жонкі, ні...

— Яна вас кінула? Ці вы яе? — усё дамагалася Маня.— Цяпер век такі,— цяжка ўздыхнула, нібы на жыццё, на век цяперашні спіхвала нейкую Цімаву не то бяду, не то віну,— пажывуць-пажывуць разам і разбягуцца. У горадзе асабліва.

— Не, Маня,— не вытрымаў.— Ніхто нікога не кідаў. Не было ў мяне жонкі.

Вось гэта яе зусім збянтэжыла:

— Як гэта?.. Можа, хворыя? А ў армію ж вас бралі?

Крыху і смешнавата рабілася ад гэтай Манінай сур'ёзнасці, не то дураслівай, не то наіўнай.

— Армію адслужыў.

— Бачыце? Значыць, без браку. А ці ў горадзе ўсе такія? Вунь мой Федзя кажа, што трэба Кітай наганяць, а то кепска нам будзе. Калі Вася нарадзіўся,— Маня моцна прыціснула да сябе, да спадніцы, калматую галоўку хлопчыка,— кажу Федзю: ну цяпер, можа, хопіць, давай завяжам, хай Васька будзе нашым хлебнічкам, апошнім. А ён, ненажэра: не, Маня, яшчэ Кітай не нагналі, не бастуй.— Паглядзела на свой круглы жывот, усміхнулася і адвярнулася, як засаромеўшыся.

Яна не скардзілася на лёс, на мужа, гаварыла жартуючы, весела, як пра звычайнае, як пра радасць, і Ці-

ма глядзеў на яе, не разумеючы: што тут, у яе жыцці і гаворцы, весёлага, з чаго жартаваць, смяяцца?

Дзяўчынка тузала матку за спадніцу, нібы стамілася стаяць, слухаць дарослых, пачынала хныкаць, румзаць.

Цётка Варвара паставіла на зямлю бітончык, зняла з яго накрыўку, у накрыўку наліла малака, падала дзяўчынцы. Тая, ахвотна п'ючы, супакоілася, толькі вочкамі лыпала на старую. Выпіла да апошняй кроплі, і тады Варвара наліла хлопчыку, які ўжо даўно паглядаў на бітончык, аблізваўся, калі піла сястрычка. На хлопчыка старая глядзела з нейкай асаблівай радасцю, гладзіла яго па галоўцы, казала: «Гэта мой любімчык». Напаіла дзяцей і сама павесялела.

— Можа, ты, Маня, вып'еш? — спытала.

— Не, цётка Варвара. Дзякуй вам. Усіх не напоіце.

— Усіх не ўсіх, а табе хопіць.

— Дома напілася і наелася.

— Ну дык ідзі. Там Федзя галодны. Заморыш мужыка.

— Пабягу.

Адной рукой падхапіўшы кашолку, яна злавіла другою даччыну ручку і пашыбавала ўподбег, як схамянуўшыся, што позніцца да свайго галоднага Федзі. Дзеці ледзь паспявалі.

Цётка Варвара і Ціма стаялі, глядзелі ўслед.

— Добрая яна, Маня,— прагаварыла цётка.— Валачэ, як які трактар. А думаеш, той Федзя вялікае золата?

— П'е? — наўгад спытаў Ціма, ведаючы цяперашнюю віну мужчын перад жонкамі.

— А ўсяго хапае.

Цётка Варвара з нейкім даўнім злом не то на Федзю, не то на ўсіх мужчын, на такіх, як Федзя, плюнула пад ногі і, ухапіўшыся за Ціму, за локаць, павяла далей па вуліцы.

Ён ішоў і азіраўся. Ужо і Мані відаць не было, а ўсё яшчэ азіраўся.

Бачыў сваё...

Пад летнім паўдзённым сонцам Дняпро здаваўся выгаралы, зіхацеў срэбрам і жаўцізною.

Выгаралі, жоўклі над Дняпром пясчаныя кручы.

Белае, ушчэнт выгаралае, было неба.

Гэтакі, пабляклы ў гарачыні, пад спякотным сонцам, быў увесь гарадок з усімі дамамі, платамі, садамі.

Першы раз — гадоў колькі назад — Ціма прыехаў у той маленькі гарадок на работу, здымаць фільм, і ў першы ж дзень адчуў, што гарадок яму па душы, што сюды ён будзе прыязджаць зноў і зноў, па справе ці без справы, як у слаўны зямны куточак, дзе цудоўная рака, цішыня і спакой для душы, чыстае паветра і нікога знаёмага, ніхто не будзе надакучаць.

У гарадку па вуліцах прадавалі мясцовае піва, халоднае і свежае, з бочкі, да піва заўсёды знаходзілася таранка — яе выносілі рыбакі, па грыўню за штуку.

А крыху пазней Ціма зразумеў і тое, што ў гарадок ён будзе прыязджаць не толькі з-за рэчкі, сонца, цішыні, піва і таранкі, але яшчэ — да Яе.

І ездзіў. Калі мог і калі не мог. Ездзіў, дакладней, да яе, а гарадок, Дняпро, сонца, цішыня, сады і лугі за Дняпром, піва і таранка былі таксама. Яна, і пасля ўжо — яны: вада, сонца, піва, таранка...

«Ты зноў прыехаў да мяне? — радавалася Яна і непакоілася: — А як з работаю? Адпусцілі?»

«Да цябе хіба могуць не адпусціць?»

«Любы...»

Яна была зусім маладзенькая, першы год пасля педагагічнага тэхнікума, ён — даўно не такі малады. Яна, магчыма, яшчэ добра не ведала, як паміж людзьмі загараецца вогнішча, што з ім бывае, з тым вогнішчам, а ён гэта ўжо ведаў, неаднойчы грэўся ад таго вогнішча. І ўсё ж сам дзівіўся: вогнішча было не такім, як усе ранейшыя, яно разгаралася доўга, незвычайна доўга, ужо больш як год, і не гасла, як гаслі ўсе тыя.

Аднойчы, калі ён зноў з'явіўся ў гарадку і яны сядзелі на цёплым рачным беразе, звесіўшы загарэлыя ногі ў цёплую чыстую ваду, Яна зноў спытала:

«Цябе лёгка адпусцілі да мяне?»

Ён адказаў не так, як раней:

«Апошні раз».

«Што?!» — Яна ўскрыкнула, выхапіла з вады ногі, падцяла пад сябе, быццам вада апаліла іх.

«Я сказаў не тое, што ты падумала,— супакоіў ён, абдымаючы Яе за плечы.— Цяпер мы будзем заўсёды разам».

«Праўда?.. — як не паверыла. Прытулілася да яго і ціха, нячутна заплакала. Яе слёзы ён пачуў і зразумеў, што сказаў тое, чаго Яна ад яго даўно чакала, чакала і баялася: а раптам не скажа? І тады, у тую хві-

ліну, ён як ніколі моцна адчуў, якая Яна яму дарагая і блізкая.— Значыць, ты застаешся са мною?»

«Не. Ты паедзеш да мяне».

Яна задумалася.

«Але ж я настаўніца. Мне трэба закончыць навучальны год, перадаць свой клас, дзяцей іншай настаўніцы. Засталося два тыдні. Тады і паедзем. Добра, любы?..»

Вечарэла. Сіняя смуга клалася на раку, на луг, на лес. Пабраўшыся за рукі, яны брылі, як дзеці, па цёплай вадзе пясчанымі водмелямі, брылі мокрым берагам, пакідаючы на мокрым пяску свае сляды, якія адразу наліваліся вадою, ішлі ў той бок, дзе нехаця клалася спаць чырвонае сонца. Ён нёс Яе сумку. У сумцы ляжалі Яе і яго джынсы, кашулі, шчупак, якога ўдалося злавіць у траве пад берагам голымі рукамі. Калі выйшлі на вышэйшы мурожны бераг, пад раскідзістыя дубы, расклалі вогнішча. Джынсы і кашулі паўсцягвалі на сябе, а шчупака кінулі ў гарачы прысак.

Сцямнела. З'еўшы печанага шчупака, яны ляжалі каля агню і маўчалі, як могуць маўчаць двое шчаслівых людзей, калі ў іх сэрцах жыве адна і тая ж песня.

Яна сказала:

«Мы заўсёды будзем разам, любы?»

«Заўсёды».

«Значыць, у нас будзе адна сям'я? І ўсё-ўсё так, як у добрых сем'ях?»

«І яшчэ лепш».

«Дык цяпер я не баюся сказаць табе тое, што баялася сказаць раней...»

«Цяпер ты нічога не бойся. Я з табою».

Ён падсунуў пад Яе галаву руку, схіліўся над ёю. Вялікімі шчаслівымі вачыма Яна глядзела ўжо не ў неба, дзе загараліся начныя зоркі, а яму ў вочы, і ён таксама глядзеў у той вечны агонь, які блішчаў у Яе вачах.

«А я, дурная, баялася. Думала, што гэта цябе напужае. Што ты не захочаш...»

«Ты пра што?»

«Я баялася... А раптам ты не захочаш, каб у нас...»

«Што — у нас?»

«Каб у нас было дзіця...»

«Якое дзіця?» — не адразу зразумеў ён.

«Дай тваю руку».

Яна ўзяла яго руку, паклала сабе на жывот.

«Ты што?!» — у яго перасохла ў горле.

«Не, любы, не радуйся, ты яшчэ не чуеш. А я чую. Я ўжо чую. Не верыш? Сёння раніцай, як прачнулася, чула. Ты праўда рады? Хай будзе хлопчык. Мы назавём яго тваім імем. Будуць у нас Ціма вялікі і Ціма маленькі. Ён ужо ёсць, ужо дыхае. Ён ужо з намі. Я сапраўды чую яго...»

Ён ляжаў побач з Ёю нерухомы, нібы палена. Усё ў ім абмерла. Ён нічога не адчуваў, акрамя разгубленасці, гарачыні, якая мігам абдала яго ўсяго, а пасля адліла, і тады па ўсім целе расплылася цяжкая, ■ дрыжыкамі, стынь.

«Ты чаго маўчыш?» — спытала Яна, не адчуўшы яго страху.

Яму цяжка было гаварыць, але ён сказаў:

«Мы яшчэ зусім мала былі ўдваіх...»

Яна не дала дагаварыць:

«Траім будзе лепей».

«А можа...»

Ён хацеў загаварыць пра дактароў, але ўспомніў зіму, снягі белыя, сваю апошнюю, перад цяперашняй, сустрэчу, згадаў маленькую, вясёлую, усю ў бліскаўках, навагоднюю ёлку ў Яе кватэры, у пакойчыку, які Яна наймала ў старых за дзесятку ў месяц, прыкінуў, як многа месяцаў прайшло з таго часу, і з яшчэ большым жахам зразумеў, што пра дактароў казаць позна.

Вогнішча гасла, чэзла чырвонае вугалле. Ціма ляжаў нерухомы, цяжарам свайго лёсу прыкаваны да зямлі. Дрыжыкі не праходзілі. Ён не ведаў, што рабіць.

Сцямнела. Цемень літасціва хавала ад Яе яго разгубленасць, страх, думкі, ды ён і сам рабіў, здаецца, усё, каб Яна не ўбачыла, не адчула яго выгляду, яго думак.

У тую ж ноч паехаў. Ён мог ехаць удзень, мог ехаць праз дзень, раней такая думка была, ехаць праз дзень, але раптам спужаўся, што ноч скончыцца, настане раніца і на святле Яна заўважыць усё, што ў яго на душы, здагадаецца, што ён думае,— па вачах, па твары, па голасу. Ды ўжо і настрою не было, каб радавацца гэтай сустрэчы. Паехаў першым начным аўтобусам.

Можа, Яна і здзівілася яго нечаканаму ад'езду, але выгляду не падала. Толькі сказала на развітанне:

«Дык я чакаю цябе, любы. Праз два тыдні. Добра?.. І тады я паеду з табою, куды ты скажаш».

«Я прыеду. Чакай».

Але ён не прыехаў ні праз два тыдні, ні праз два гады.

Сам хоць перажываў? Вельмі. Думаў, што без Яе ўжо зямля — не зямля, сонца — не сонца, рака — не рака, жыццё — не жыццё. Але душу сваю да Яе не пусціў. Пабаяўся. Душа душою, а была яшчэ трывожная, нібы здань, думка: на чыю галаву ўсё гэта? На чые рукі? А раптам на яго? Не ўяўляў: як гэта ён, Князь, апынецца з дзіцём на руках?

Калі камандзіроўка выпадала праз гарадок, некалі такі мілы, дарагі сэрцу, ён аб'язджаў яго кругавымі дарогамі. Адно праз тры гады, штосьці на чацвёртае лета, адважыўся — заехаў. Каб убачыць Яе? Не, проста каб дазнацца, дзе Яна цяпер: душу тачыў неспакой. Пазваніў, набраўшыся смеласці, у школу — Яна там ужо не рабіла. Дзе цяпер — не ведалі. Адшукаў хату, у якой Яна некалі мела пакойчык. Старая гаспадыня памерла, у хаце жыў стары, глухі і сляпы, ён не пазнаў Ціму. Сказаў, што былая кватарантка выехала з гарадка, куды — не ведаў. Паехала не адна, з хлопчыкам на руках. Стары нават не ўспомніў, як звалі хлопчыка.

Тады Ціма не то супакоіўся, не то прымірыўся.

А цяпер...

Цяпер ён вельмі хацеў сказаць Мані, што ў яго таксама ёсць сын... Недзе...

І не сказаў.

Яны моўчкі ішлі па вёсцы.

Ціма ўжо не аглядаўся па баках, як раней, нішто вакол не заўважаў, быццам паспеў усю вёску разгледзець, да ўсяго прызвычаіцца, астыць. Уваччу стаялі то Яна з дзіцём на руках, то Маня з дзяўчынкаю і хлопчыкам ля спадніцы. Вочы ў Мані былі калючыя, здзеклівыя. Яна глядзела хітранька, быццам ведала і пра яго каханне ў гарадку на Дняпры, і пра яго сына.

— Стой,— шмарганула за руку цётка Варвара.

Яны спыніліся каля веснікаў, адчыненых у двор. Двор быў направа, а налева — хатняя сцяна ў два акны. Пад акном на лаўцы сядзелі мужчына і хлопчык. Мужчына курыў, пускаў сіні дым, сінім здаваўся і яго

твар, можа, ад таго дыму, а хлопчык трымаў на калених беленькую, з новай лазы, кашолку і шустра, нібы птушка, круціў галавою — усё разглядаў, як чужое, незнаёмае.

Цётка Варвара ўважліва паглядзела на дзядзьку і хлопчыка, паздароўкалася і паднялася на ганак.

У хаце было змрачнавата, але дзвюх жанчын, два павернутыя да парога твары, доўгія і халодныя, Ціма заўважыў адразу. Ён іх не пачуў, адно адчуў: нешта яны гаварылі, пакуль не адчыніліся дзверы, пакуль у хату не ўвайшлі цётка Варвара і ён, Ціма.

Старая паставіла на стол бітончык, стала перад кутам, у якім вісела іконка ў белым ручніку, перахрысцілася, потым падышла да стала, змахнула далонню крошкі, узялася складаць раскіданую на канапе адзежу, быццам у сваёй хаце.

Зноў загаварылі жанчыны. Не кожнае слова Ціма мог разабраць, але заўважыў, што гаварылі яны да старога, які ляжаў ля сцяны на ложку.

Ён быў вельмі стары: галава ўся белая, у белай шчэці твар, барада рэдкая, таксама белая, вочы паўвальваліся, ямкамі апалі шчокі, уваліўся рот, зубы тырчалі, як у нежывога, завастрыліся нос і косткі на скронях. Ён быў накрыты шэрай шарсцяной коўдраю, рукі ляжалі на коўдры: танклявыя, нібы дзіцячыя, косці ды скура, адхлуплая ад касцей, зморшчаная. Стары трымаў у руках кулёк з газеты.

Адна жанчына казала старому ў самае вуха, як глухому, што ў яе баляць грудзі, па начах падпірае і душыць, што дактары пасылаюць у Гомель на праверку, а яна не едзе, баіцца, што знойдуць «рака», як раней у яе знайшлі «жабу», грудную. Гаворачы, захліпалася.

Стары паказаў на мех, які стаяў на падлозе ля ложка. Жанчыны бліжэй паднеслі мех і тады рука старога, што была ад краю, спаўзла на той мех, пачала ў ім штосьці шукаць.

Усляпкі знайшоў венічак травы, паднёс да вачэй, пасля падаў жанчыне. Тая схавала ў сумку венічак і папяровы кулёк.

Ля ложка стаяла шмат мяхоў, кошыкі. Ціма ўжо здагадаўся, што ў іх зелле. Глядзеў і дзівіўся: няўжо стары ведаў усе травы, якія ў мяхах і кашах, у кожным паасобным кулёчку, няўжо ведаў, якая травіна ад якой хваробы, сілу кожнай?

І няўжо цётка Варвара прывяла яго па гэтае зелле? Можа, яна думала, што яму яно таксама патрэбна?

Злосць узяла на цётку Варвару. Няўжо?..

Жанчыны выйшлі з хаты.

Варвара ўстала з-за стала, узяла Ціма за руку і падвяла да ложка, на якім ляжаў стары.

— Вось гэта Цімафей, Клавін сын,— гучна, у самае вуха сказала яна старому і так паглядзела ў твар Ціму, быццам не стары, а ён быў павінен штосьці адказаць.— Ты, Цімафей, помніш дзеда Акіма?

Ціма ажно схаладнеў ад гэтакай нечаканасці, кроў нібы ўся да апошняй кроплі шухнула з яго, у кволай галаве закружылася.

«Няўжо! — прашаптаў ён.— Няўжо гэта праўда? Няўжо гэта дзед Акім?»

Стары заварушыў рукамі.

— Ты хочаш сесці, Акімка? — спытала Варвара.

Ён маўчаў, але яна яго зразумела, узяла пад рукі. Ён абапёрся аб ложак, каб пасобіць сабе і ёй, каб сесці, але ў іх абодвух сіл не хапіла, і тады Ціма ўзяў старога, прыўзняў. Той быў — адны косці, але цяжкі-цяжкі: не пасадзілі. Стары пачаў махаць рукою, нервуючыся, і цётка Варвара сказала, што не трэба падымаць. Ціма апусціў яго на вышэйшую падушку, якую падсунула цётка.

Пакуль старога падымалі ды апускалі, ён стаміўся, цяжка дыхаў, у грудзях ці ў горле клекатала. Галаву павярнуў набок і вачэй не зводзіў з Ціму, глядзеў на яго прагна, усёй глыбінёю свайго яшчэ жывога свету.

— Я цябе не пазнаў,— нарэшце, аддыхаўшыся, супакоіўшыся, сказаў ён ціхім нямоглым голасам.— Ты ўжо не той, як быў. Нічога таго не засталося.

Паказаў рукою на край ложка. Ціма сеў.

— А я вас пазнаў,— зманіў.

Кволая ўсмешка на імгненне сагрэла старэчы твар. Дзед Акім пасунуў руку па коўдры да Ціму, узяў за руку, сціснуў і не выпускаў. Рука ў старога была сухая, як лёд халодная — яе ўжо кроў не грэла.

— Дзе ты быў? — прашаптаў ледзь чутна.

Ціма глядзеў на старую руку і маўчаў. Ён не ведаў, што адказаць. Душа поўнілася жалем, шкадобаю да дзеда Акіма, аблівалася даўняй віною перад ім, і ад гэтага пякучага жалю, ад гэтай сваёй віны Ціма загаварыў:

— Я помню, дзед Акім, як мы ездзілі на кані ў лес па мёд. Помню той мёд, салодкі, з дуба. І як мяне пчолы пакусалі, вы абкладалі мяне цёплымі лапухамі, гасілі боль. Помню, як я жыў у вашай хаце на ферме. Вы шылі хамуты, сядзёлкі. Помню, як вы сушылі травы на падаконніках. Травы пахлі па ўсёй хаце.

— А цяпер ты здаровы? — спытаў дзед Акім.

— Здаровы. Мне цяпер не трэба ніякага зелля.

— Слава богу,— прашаптаў стары.

— А ў вас баліць?

— Баліць.

— Дзе ў вас баліць?

— А ўсюды. Балеў бок, балелі грудзі, усё паперабалела. А сёння ноччу сэрца... Усё баліць.

— Можа б, якія ўколы?..

— Ужо нішто не паможа. Мяне ўжо ў Гомлі і прамянямі лячылі. Бачыш, высушылі.

Коўдра на грудзях у старога была адкінута, сарочка расшпілена, і Ціма бачыў, якія чырвоныя, ажно чорныя, апечаныя тымі прамянямі грудзі былі ў старога. Ціма зразумеў яго хваробу, зразумеў, што парад стары наслухаўся без яго, усе парады пустыя, ужо нічога разумнага, не пакрывіўшы душою, не параіш. І, адчуўшы гэта, збянтэжыўся: няўжо нічым нельга пасобіць дзеду Акіму?..

Цётка Варвара стаяла ў покуце перад іконаю — хрысцілася, шаптала малітву. Яна спадзявалася пасобіць малітваю. Ціму так хацелася верыць хоць у якую сілу, што яшчэ магла б выратаваць дзеда Акіма, ажно на Варвару, на яе размову з богам глядзеў з нейкай спадзеўкаю!

— Можа, ты, Акім, малака вып'еш? — закончыўшы сваю малітву, спытала Варвара.— Я прынесла.

— Не.

— Як жа гэта так, Акім? Ужо дзесяць дзён нічога ў рот не бярэш. Хоць глыточак?

Яна наліла малака ў кубак, паднесла старому. Ціма прыўзняў яго галаву, і ён адпіў глыток, крутнуў галавою, каб забралі кубак. Цётка Варвара паставіла кубак на стол і ўсё глядзела, ці праглынуў ён той глыток малака. А ён трымаў яго ў роце доўга, пакуль малако не пацякло з рота на грудзі.

— Ох, Акімка! — цяжка ўздыхнула цётка Варвара, выціраючы яму грудзі ручніком, які вісеў на спінцы ложка.— Што ў рот, тое і з рота. Божа-божа...

Стары быў падняў руку, нібы ўзяць штосьці хацеў, але рука, слабая, упала на коўдру.

— Адгані мух, Варвара,— прашаптаў ён.

— Якія мухі? Няма ніякіх мух,— сказала яна, але ручніком махнула над старым, над яго тварам.— Гэта як у каго на двары скаціна, дык у таго і мухі ў хаце, а ў цябе ніякай скаціны, адкуль тыя мухі.

Стары змоўчаў, моўчкі сядзела над ім цётка Варвара, і Ціма бачыў, што мухі сапраўды поўзаюць па твары дзеда Акіма. Сам спачатку не заўважаў у хаце мух, а цяпер убачыў, як яны лезуць у вочы, у нос, у рот. Агідна зрабілася. Цётка Варвара, мабыць, не бачыла, у яе былі слабыя вочы, а Ціму прыкра было глядзець на тых мух, вялікіх, агідных. Ён зноў сеў на край ложка, узяў у цёткі ручнік і адагнаў мух ад дзеда. Толькі адагнаў, а яны зноў селі на яго, зноў лезлі ў нос, у вочы. Ён махаў над старым ручніком і думаў: гэта яны чуюць слабога чалавека, таму і лезуць да яго, можа, чуюць яго канец? Ад гэтае раптоўнай думкі ажно скалануўся: няўжо канец?

Стары закрыў вочы, быццам ні з кім не хацеў гаварыць. Але раптам, не адкрываючы вачэй, спытаў:

— Варвара?

— Што, Акім?

— Дзе сёння Іван?

— Тваё, казаў, поле засяваць будзе.

— Чым?

— Бульбай, вядома. Ярыну адсеялі.

— А зямля цёплая? Маё поле сярод лесу, там халады і цяплынь пазнейшыя.

— Ужо ўсюды цёплая.

— Глядзіце... А то будзе бульбачка ляжаць каменем у халоднай зямлі. Скажуць, такое Акімава поле. Як не зародзіць...

— Зародзіць, Акім. Бульбачка там заўсёды радзіла.

— Скажы Івану, каб прынёс мне з поля зямлі шапку. Я сам пагляджу, якая яна, ці дайшла.

— Я, дзед Акім, прынясу,— раптам вырвалася ў Цімы.

Стары адкрыў вочы, доўга глядзеў на Ціму, быццам не пазнаваў. Зноў закрыў, як і не пазнаў. Галава абвісла набок, на лобе заблішчалі кроплі поту.

— Вам цяжка? — спытаў Ціма.

Стары варухнуў вуснамі, быццам штосьці хацеў

сказаць і не мог. Зубы яшчэ больш адкрыліся, з вуснаў на зубы спаўзла муха. Ціма як убачыў яе — зажмурыў вочы, закалаціўся.

— Давай яго лепей пакладзём,— сказала цётка Варвара.

Ціма ўзяў дзеда Акіма пад пахі, з цёткай Варварай яны паклалі яго на спіну, падаткнулі пад бакі коўдру. Цётка Варвара паправіла падушку, а Ціма зноў прагнаў з дзеда Акіма мух.

— Дзе мая кошка? — спытаў стары.— Ты яе не бачыла, Варвара?

— Ты засні, Акім. Кошка твая недзе бегае.

— Здыхля. Учора як пачула, што жыць мне два дні, дык і збегла з хаты.

— Ты што кажаш, Акім? — павысіла голас Варвара.

— Дай таблетку, можа, засну.

Таблеткі ляжалі ля ложка на падаконніку. Убачыўшы, што дзед Акім п'е наркатычныя, Ціма зразумеў, як цяжка старому: гэтыя таблеткі муцілі, нібы хмель, галаў, каб чалавек не чуў болю, былі адзіным сродкам, які даваў нейкую, хоць на гадзіну, палёгку.

— Сёння які дзень? — спытаў дзед Акім, глыточкам вады запіўшы таблетку, якую Варвара растаўкла на паперцы, усыпала яму ў рот — цалкам ён ужо не глытаў.

— Сёння субота прарока Іерэміі, а таксама святой Тамары, царыцы Грузіі,— сказала Варвара.

— Заўтра, значыць, Барыс і Глеб. Заўтра я пайду ад вас. На Барыса і Глеба. Помніш, я табе казаў, як прысніў іх? У чаўне пад харугвем. Як Аляксандр Неўскі іх прысніў. Ты помніш?

— Ну спі. Засні, Акім.

— Дзед Акім! — раптам ускрыкнуў Ціма.

Ён хацеў ціха, нікога не пужаючы, адарваць дзеда Акіма ад цяжкіх думак пра смерць, адвесці размову некуды ў святлейшае, але не стрываў, ускрыкнуў, ажно сам спужаўся свайго крыку — замоўк. Яго крык не крануў дзеда Акіма, думак ягоных не спыніў, бо ўжо, відаць, не дзед Акім меў уладу над сваімі думкамі, а думкі мелі ўладу над ім.

— Ты, Варвара, скажы Кузьму, каб прыйшоў да мяне,— ледзь варушачы вуснамі, прагаварыў ён.— Я дам апошнія ўказы. Як і што рабіць заўтра.

Варвара не вытрымала:

— Ах, Акімка!.. Як ты не можаш памаўчаць. То гаварыць табе цяжка, а то памаўчаць...

Ён яе не слухаў, як і Ціму. Цяпер у яго была свая настойлівая хада думак:

— Паглядзі мой клунак у шафе. Ці ўсё там ёсць. Боты Мішавы, афіцэрскія. Ён мне іх з Уладзівастока прыслаў. Я іх мала насіў, бярог. А дошкі ў хляве. Ну... я Кузьму сам скажу. Заві тых людзей... Мне ўжо лягчэй.

— Якіх людзей?

— Што пад акном. Па зелле што...

— Там нікога няма. Ты спі.

Вочы яго раптам адкрыліся, уставіліся на Ціму. Яны былі паўнюткія ледзь улоўнага жыцця, ледзь улоўнай журбы і ціхасці, на Ціму глядзелі доўга, ажно Ціма захваляваўся і ў хваляванні паўтарыў тое, што казаў раней:

— Я прынясу зямлі з вашага поля.

Кволы праменьчык святла сагрэў твар старога.

— А ты не забыў, дзе маё поле? — спытаў ён.

— Я знайду...

Акімава рука, нібы якая белая здань, вылезла з-пад коўдры, пасунулася да Цімы, дрыготкія кончыкі белых пальцаў штосьці нервова намацалі пад сабою, шукалі.

Ціма здагадаўся, што трэба старому: асцярожна паклаў сваю руку на яго, маленькую і халодную, нібы лёд. Рука дзедава тарганулася і замерла.

Стары зноў закрыў вочы, супакоіўся.

Душа Цімава была поўная слоў, якія ён збіраў для дзеда Акіма ўсё жыццё, поўная пачуццяў, якія ўсё жыццё не выліваў з душы, і цяпер чакаў моманту, калі дзед Акім, адпачыўшы ад размоў, зноў адкрые вочы — тады скажа ўсё.

Але цётка Варвара прашаптала:

— Заснуў, дзякуй богу. Выпіў таблетку і заснуў.— Памацала яго ногі пад коўдраю, вушы.— Ногі халодныя. Увесь халодны.— Цяжка ўздыхнула, перахрысціла старога.— Пайшлі, Цімафей. Хай ён паспіць.

Ціха ступаючы па падлозе, яны выйшлі з хаты.

— Ірады...— шаптала цётка Варвара.

Здаецца, Ціма ўжо ведаў цётку Варвару, тое-сёе з яе горкага жыцця, разумеў, адкуль узяўся, чаму гэтак трывала, як клешч у целе, у душы старой сядзеў праклён, чаму такім неадчэпным ценем ён ужо дзе-

сяткі гадоў валачыўся па вёсцы са старою разам, але не мог даўмецца, чаму цётка Варвара казала яго ўсюды, нават там, дзе не было ніякіх ірадаў, нават у хаце дзеда Акіма, дзе ўсе пачуцці і думкі ішлі да яго, дзе быў ён адзін, дзед Акім.

Чаму так? Чаму нідзе, ні на міг з яе памяці не выходзіла тое, жахлівае?..

Смаліла паўдзённае сонца.

Ціма сядзеў на высозным беразе пад Гапачкінай вярбою, можа, на тым самым месцы, дзе некалі Гапачка рассыпала пад ногі свой май, пластом ляжала на ім, не чуючы стрэлаў.

На беразе не было ні душы, не было і цеплахода. Ён адплыў раптам, нядаўна. Ціма нават не падняўся на палубу. Пастаяў на беразе з Мазепам, Ромкам і капітанам, папрасіў, каб зваротным рэйсам, праз дзень-два, заплылі, забралі яго ў Сычыках, і застаўся на беразе. Цеплаход адплываў ціха, нават неяк сумна, без музыкі, усё роўна як не жадаў, каб чулі і бачылі, як ён пакідае вёску. Ніхто, магчыма, і не чуў, ніхто не бачыў, акрамя Цімы. Праводзіны былі зусім не тыя, што сустрэча. Быццам ён, белапалубны, ужо не цікавіў вёску. Нават Ціма глядзеў на яго, калі ён адплываў, нейкімі чужымі вачыма. Глядзеў на цеплаход, як на нейкае белае, ветрам адагнанае ад берага воблака, і на палубе нікога не заўважаў. Зіну, праўда, заўважыў. Яна выбегла з камбуза ўжо тады, як цеплаход далекавата адплыў, уваходзіў у Сож, выбегла ў белым, як заўсёды, халаціку, у каўпаку і, як заўсёды, з чарпаком. Узняла чарпак над галавою — махала Ціму. Гэтак развітвалася. А яму падалося, што грозіла тым круглым белым чарпаком.

Зрэшты, і на Зіначку ён глядзеў іншымі, як учора, вачыма. Абыякавымі, ці што? Як на цеплаход, як на Мазепу.

Мазепа яго не зразумеў. Калі Ціма прызнаўся, што на дзень ці два застаецца ў Сычыках, той спачатку нічога не адказаў. Быццам не пачуў. Калі яшчэ раз паўтарыў, што застаецца, Мазепа паглядзеў на яго пустымі, без усякага здзіўлення, вачыма, спытаў:

— Ты, Князь, рэхнуўся?

— Не,— спакойна і цвёрда адказаў Ціма.— Мне трэба застацца. Ёсць работа. На дзень ці два.

— Дурыкі, Князь. На Шацькавай свет клінам не сышоўся. Яшчэ не такую сустрэнеш.

— У мяне тут цётка Варвара, старая,— цярпліва тлумачыў яму Ціма.— Адна жыве. Плот валіцца, дровы не рэзаныя, сякеры людскай няма, трэба натачыць, насадзіць на новае тапарышча. І дзед Акім прасіў... Ён ляжыць, хворы. Ты разумееш, хто для мяне дзед Акім?

Мазепа не разумеў. Нават капітан разумеў лепей — маўчаў, слухаючы іх сварку. А Раман зразумеў як трэба: не на яго, Ціму, напусціўся, а на Мазепу.

— Не бунтуй чалавека,— казаў.— Яго вёска родная трыццаць гадоў чакала...

Згадаўшы Ромкава заступніцтва, Ціма глянуў на ногі, на чаравікі, здзівіўся, што Ромка пра іх не ўспомніў. То злаваў, што Ціма абхітрыў, разуў, а то нават не ўспомніў пра чаравікі.

Падалося: нехта гукнуў. Усхапіўся, агледзеўся — нікога нідзе няма. Пастаяў, паслухаў — ані гуку.

Можа, хто і гукнуў, ды замоўк? Можа, Вера ці Святлана? Калі Вера — пазаве яшчэ раз, а Святлана, пакрыўджаная Капустам, ганарлівая, лішні раз не аклікне: не адгукнуўся — не трэба. Яна, відаць, такая.

Берагам падаўся ў той бок, дзе за хатамі віднеўся грэбень шыфернага школьнага даху. Але спыніўся: не, цяпер ісці да школы нельга, там занятк. Святлана яшчэ на ўроках. Як гэта ён будзе тырчаць пад вокнамі?

Знайсці Капусту? Але дзе яго шукаць?

Іначай вырашыў: ісці на поле, прынесці дзеду Акіму зямлі, як абяцаў, пасядзець ля старога, пагаманіць адзін на адзін, пасля пайсці да цёткі Варвары, паставіць плот, насадзіць сякеру на новае тапарышча, натачыць, можа, чурбакі справіцца пакалоць, а ўвечары, як людзі папрыйдуць [redacted] работы, як усе збяруцца па хатах, адшукаць Капусту і Прыкуры Пораха, даказаць ім, дзе праўда і дзе хлусня [redacted] тым глобусам, калі што — узяць Капусту і Пораха за хаўбоцце, пыху з іх вытрасці, паабяцаць чырвонае сонейка ў клетачку — калі, вядома, знойдуцца Пораховы чаравікі, калі яны супадуць са слядамі пад скрыняю Сцяпана-матроса,— прывесці абодвух да Святланы Шацькавай, сычыкаўскай красуні: грызіце, сабакары, зямлю, прасіце літасці, па-

куль не позна, пакуль князь Цімафей Міхайлавіч добры, пакладзісты.

З гэтымі высакароднымі думкамі Ціма падаўся берагам у той бок, дзе канчалася вёска і пачыналася поле, дзе за полем зубчаста чарнеў лес. Ён не ведаў, дзе там Акімава Ляда, разумней было б спытаць у каго, але хацелася знайсці самому, бо ўжо і дзеда Акіма запэўніў, што сам знойдзе. Стары будзе рады.

Затоня канчалася за вёскаю. Бераг тут быў нізкі, чысты, жоўты пясок з дробным жвірам. Пясчанае было і дно.

Ціма разуўся, закасаў калашыны вышэй каленяў, кінуў пінжак на траву, зняў з шыі прыгожы Мазепаў гальштук — душыў усю раніцу,— запхнуў у кішэню, увайшоў у ваду, сеў на камень.

Ад Сажа веяў мяккі вільготны вецер. Ён наганяў сонечныя хвалі, падкатваў да Цімы, яны лагодна плёскаліся ля ног. Ад ног лагода вады разлівалася па ўсім целе, хвалявала душу. Вада і сонца, відаць, таксама разумелі Ціму.

Яго разумеў і жаваранак, які ўвесь час не змаўкаючы паліваў сваёй светлай песняю неба, якраз над берагам, над Цімам.

«А затоня — гэта ж Сож, колішняе, з даваенных часоў, рэчышча. Старык! — азарыла Ціму здагадка.— Вось чаму яна ў высокіх берагах, доўгая. Карыта, налітае вадою. Пасля вайны Сож знайшоў новыя берагі, змяніў рэчышча, адбег ад вёскі».

Гэтае маленькае адкрыццё агарнула Ціму яшчэ большай радасцю, быццам ён напаткаў не толькі родны бераг, сваю рэчку, сваё маленства, але цэлы Свет, які быў страціў. І, нібы голас гэтага роднага, па-новаму ўбачанага берага, раптам дайшло-данеслася:

«А што ж ты не даў беднаму чалавеку?..»

Усё роўна як нехта блізка стаяў — спытаў. А можа, голас быў з душы, з памяці? Але — чый? І што... што ён павінен даць беднаму чалавеку?

Ціма глядзеў на сонечную ваду, празрыстую наскрозь, да самага дна.

«Дай бульбіну, калі няма хлеба. Ці цыбуліну. Хоць паспачувай. А ты схаваўся за печ. Чалавек пастаяў-пастаяў і пайшоў з пустым».

«А я спужаўся,— раптам адказаў другі ціхі голас, дзіцячы.— Ён быў у лахманах, з торбаю, з крывым кіем у руцэ».

І зноў той, першы:

«Не трэба пужацца беднага чалавека. Ён працягнуў да цябе руку — не пашкадуй апошні кавалак. Холадна яму — сарочку здымі са свайго цела, аддай. Над ім і над табою ў гэты час анёлы лётаюць, богавы дзеткі, і калі ты даеш беднаму чалавеку, твой анёл за цябе радуецца. І яго анёл рады. За цябе і за яго».

«А ты ж, дзед, казаў, што бога няма?..»

Ціма скалануўся: гэта быў ягоны голас — ціхі, слабы, дзіцячы — і пытанне ягонае. Але пытанне — недзіцячае, сённяшняе. Яно з'явілася ў галаве, калі дзед Акім згадаў дзень святой Тамары, царыцы Грузіі, і прарока Іерэміі, калі згадаў, што заўтра дзень Барыса і Глеба. Няўжо ён верыць у бога? Няўжо за гэтыя трыццаць гадоў змяніўся, як змяніўся ў берагах Сож? Можа, і ў яго новыя берагі? А можа, ён і тады верыў? Пра анёлаў, богавых дзетак, ён казаў даўно, калі Ціма быў малы.

І раптам:

«Гэта мне расказвала мая мама. Пра анёлаў. І пра кавалачак. Пра беднага чалавека. А маме — яе мама. А ўжо я — табе. А ты — сваім дзеткам раскажы. Гэтак і будзе хадзіць па зямлі дабрыня чалавечая...»

Дабрыня? Тут усё пра дабрыню, не пра бога?..

Ціма захваляваўся, але не так, як ад сонца, вады, травы, кветак. Не было светлай радасці ў яго хвалянні, а быў нейкі жах. Было адчуванне, што ўся тая дабрыня, якая хадзіла па свеце ад дзеда Акіма, яго мамы, мамы яго мамы, замкнулася на ім, Ціму, і ад яго залежала, жыць ёй ці памерці. Ён не быў упэўнены, што яна будзе жыць далей, што ад яго пойдзе па зямлі, спужаўся, што вось тут яна і памрэ, назаўсёды. Бо ён забыў гэтую дзедаву казку. Калі і ўспомніў — заўтра зноў забудзе. Ды і каму перадасць яе, дзе тыя яго дзеці?..

Ён усхапіўся з каменя, узышоў на курган — з закасанымі калашынамі, босы, накінуўшы на плечы пінжак і ўзяўшы ў рукі чаравікі. Зямля з вышыні кургана падалася такой вялікай, вольнай, нават свавольна раскінутай і прыгожай, пяшчотнай да ціхай душы, што глядзець на яе было невыносна балюча. Навокал была прастора заліўных, расквечаных жаўцізною лугоў, перасыпаных кучомкамі зазелянелага лазняку і ўзятых пад ахову не то вербамі, не то дубамі — здалёк не мог пазнаць; далей, за лугамі, чарнела поле, яшчэ свежае,

нядаўна, відаць, узаранае; паміж лугамі і полем, паміж зялёным і чорным, выдаваўся клін лесу, цёмназялёнага, ажно бурага, пэўна, хваёвага. Большыя лясы былі за чорным полем. Яны стаялі ў сіняй смузе, і Ціма падумаў, што вось туды, у тыя лясы, ён ездзіў некалі з дзедам Акімам па дзікі лясны мёд, і ці не тады, пэўна, на той дарозе да лесу, дзед Акім расказваў яму пра беднага чалавека, кавалачак хлеба, анёлаў — дабрату чалавечую. Ехалі праз поле, што пад лесам. Можа, яно і называлася Акімавым? Тады там стаяла жыта.

Лугі і палі вакол Сычыкаў былі немалыя, а дарог, меж і сцежак так многа, і так многа карцела праклясці па тых лугах і палях сваіх сцежак, сваіх слядоў, што ў вёску Ціма вярнуўся надвечар, захадам сонца, нацягаўшыся, убіўшыся, упарыўшыся, але шчаслівы ад усяго, што ўбачыў і адчуў за гэты незвычайны дзень.

У вёску ён увайшоў следам за каровамі, якія вярталіся з маладой пашы, знаходзілі кожная свае веснікі, разбрыдаліся па дварах. Ішоў нібы ў адным з імі табуне, крыху адстаўшы, нібы пастух, стомлены, задаволены пражытым днём. Каровы неслі ў вёску малако, неслі рахмана, паважна, як дарагі скарб, а ён гэтаксама паважна нёс у Ромкавым капелюшы прыгаршчы зямлі з Акімавага поля.

Хату дзеда Акіма знайшоў адразу, нібы сваю, як кожная карова знаходзіла свае веснікі, але, падышоўшы, спыніўся, разгублены: ля хаты, на ганку і на двары, пад вокнамі і ля плота стаялі і сядзелі людзі, старыя і малыя, нейкія ціхія, маўклівыя. Няўжо ўсе хворыя? Няўжо ўсе да дзеда Акіма па травы, па лекі?

На двары зашоргаў гэбель.

На стосе дошак пад хлявом сядзелі два мужчыны, адзін перад адным, тварам у твар, у чатыры рукі ганялі гэбель-баран туды-сюды, змяталі пад ногі жоўтыя, налітыя сухой смалою сасновыя стружкі. Аднаго з іх Ціма пазнаў — Сцяпана.

З варот хлява паказаўся дзядзька Кузьма. У адной руцэ, пад пахаю, ён нёс шырокую дошчыну, зверху прытрымліваў яе пустым рукавом.

Сэрца закалацілася як ніколі. Ціма аслупянеў. Ён здагадаўся, што робіцца, убачыўшы дзядзьку Кузьму з дошкаю.

У сенцах людзей таксама хапала, стаялі ўсё жанчыны, у чорных хустачках. Яны прапусцілі яго, і ўжо

з парога ён убачыў, што рабілася ў хаце. Таго ложка, на якім пакінуў дзеда Акіма, не было відаць, а дзед Акім ляжаў пасярод хаты на шырокай лаве, белай галавою да покуці, нагамі да парога, ляжаў чысценькі, памыты, у чорным, маланошаным, касцюмчыку, акуратна запраўленым у высокія афіцэрскія боты. Стары ляжаў, склаўшы на грудзях рукі, звязаныя адна з адною белым бінтам, і з яго маленькіх рук угару падымалася высокая, танклявая, з чыстага жоўтага воску свечка. На высокім яе кончыку калыхаўся васкова-жоўты, ледзь чырванаваты, кволы і халодны, быццам апошняе дыханне, агеньчык. Другая свечка, меншая, стаяла ля галавы на стале, побач з малым абразком і букетам белай чаромхі.

У хаце пахла чаромхаю і гарачым воскам.

Ціма не адводзіў вачэй ад дзеда Акіма, дзівіўся, чаму ён гэтакі дробны? Рукі ў яго заўсёды былі вялікія, нібы лапаты, здаровыя, ён імі столькі чаго парабіў, а цяпер глядзець няма на што. І ногі. Падэшвы ботаў, якія яму некалі прыслаў Цімаў бацька, яшчэ з Далёкага Усходу, афіцэрскія, былі стаптаныя, але чыстыя і нейкія дужа малыя, хоць, здавалася, ногі ў дзеда Акіма былі таксама вялікія, ступакі шырокія, нібы разбітыя лапці, хадзіў дзед Акім заўсёды ўразвалкі, ногі на зямлю ставіў ёмка, трывала, як можна ставіць толькі вялікія ногі, з шырокімі ступакамі — збіць з ног, здавалася, дзеда нельга было ніякай сілаю. Ды і твар здрабнеў. Такі вялікі нос быў, а цяпер? Доўгі, але ж нейкі вельмі танклявы. Адно барада тая, што была, не змянілася — белая-бялюткая.

Ля галавы дзеда Акіма сядзела, схіліўшыся над ім, цётка Варвара. Яна то махала над дзедавым тварам рукою, зганяла мух, то далонню ціха вадзіла па твары, абмацваючы на ім кожную маршчыначку, кожную косточку.

— Казаў, што памрэ заўтра, на Барыса і Глеба, а памёр сёння. Мала і памыліўся.

— Не. Барыс і Глеб сёння.

— Няўжо?..

Ціха, збіваючыся на шэпт, як баючыся пабудзіць дзеда Акіма, гаварылі за спіною ў Цімы нейкія бабы.

— А хто такія Барыс і Глеб? — спытаў таксама ціхі дзявочы голас.

— Князі. Ікона ёсць. З мячамі стаяць. Святыя.

— Бацюшку ці гукалі?

— Акім быў супраць. Калгас будзе хаваць. З чырвоным сцягам. З музыкай.

Замоўклі.

Цераз парог увесь час ішлі, то ў хату, то з хаты, і Ціма адышоў убок, прыхінуўся спіною да сцяны, стаяў за нейкімі жанчынамі, трымаючы перад сабою капялюш з зямлёю і не ведаючы, што яму цяпер з ёю рабіць.

На двары, за дзвярыма, шоргала піла, чахкала, адколваючы трэскі, сякера.

— Бедны. Гэтак доўга хварэў! Цэлы год у ложку. І такі быў боль! Ажно, бывала, крычаў. Пакутлівая смерць.— Голас быў ціхі, але малады, дзявочы. Знаёмы. І блізкі, побач. Але Ціма на яго не азірнуўся.— Ведаў, што памірае, а не хацеў, каб гэтак хутка. Быццам кагосьці чакаў перад смерцю, хацеў дачакацца.

Усё навокал памутнела, закалыхалася ў вачах у Цімы. Зямля паплыла з-пад ног.

Ён мацней прыхінуўся спіною да сцяны, нібы спадзеючыся зачапіцца за яе плячыма.

Штосьці сыпалася...

Сыпалася па руках, цёплае і лёгкае, з рук — на ногі, і Ціма, быццам у сне, падумаў, што гэта на яго сыплецца зямля, якую ён нёс дзеду Акіму.



# ПАГОННІК

## АПОВЕСЦЬ

### 1

Вясной, пад самы вясновы шал, калі шчупак ламае на Сажы кованы маразамі лядовы мост, падымаючыся на нераст у рачулкі і ручаіны, а паводкі пачынаюць саграваць пойму,— у Дубравенку, да прыстані, прыходзяць першыя кацеры. Яны прыплываюць па дрэва, якое тут усю зіму возяць з лесу да берагавых эстакад, і тады сплытчыкі юзам пускаюць у ваду лагі, скатваюць па іх бярвенне — дружна бяруцца вязаць плыты.

Пазней, калі паводкі схлынуць, вада сядзе ў трывалыя рачныя берагі, судны ўжо не паказваюцца: Сож улетку таксама не вузкі, ды змялее, куды ні ткнешся — усюды брод. Лес пачынаюць вазіць на чыгунку, [redacted] ёю клопату — і вочы б не бачылі, і вушы б не чулі, бо яна яшчэ ніколі не прымала ўсяго таго грузу, што давала Дубравенка. Дзень пры дні начальнік лесапункта ганяў на станцыю разгойсаны на лясной бездаражы «газік», кожны вагон пад лес вырываў нямалымі нервамі, горлам, і нарэшце, знясілены, не вытрымаўшы беганіны па чыгуначных службах, збіраў у кабінет мужыкоў, прывычных да плытніцкага шаста.

Першы выхад плытоў на шастах — заўсёды свята, як і першы вясновы рэйс катэраў, бо плыт для Дубравенкі і суседняй з ёю Кавалёўкі — таксама транспарт, ды яшчэ на ўсё лета, свой, дармовы. Вёскі, што спакон веку жылі сярод вады і лесу, нават цяпер, у час асфальтовак і аўтобусных экспрэсаў, не развучыліся цаніць падарожжа па рацэ. Надумаўся ў горад па сукенку ці кніжку — плытом не горш, чымся тым аўтобусам, калі няма спешкі. Цішэй, вядома, плывеш, але затое не дрогка, не горача; хоць улева павядзі вокам, хоць управа — уся прыгажосць зямная з табою. Праўда, начальства не давала плытагонам дазволу браць «зайцоў», але дзе ж ты кожнага дапільнуеш?

На самым пачатку восені плыла ў райцэнтр Юлька. За Дубравенкай, дзе рака звужаецца і чорнымі вірамі падточвае густыя, навіслыя над вадою хмызы, яна скокнула з адхоннага берага на плыт, ды крыху раней, чым Ягор Кавалёк падаў руку,— каўзанулася на акораным бервяне і, войкнуўшы, шаснула ў ваду.

— Цяпер мне як?

— А вось гэтак, ну?!

Дужымі ўчэпістымі рукамі ён, рагочучы, схапіў яе пад пахі, пасобіў узабрацца на плыт. Яна хуценька скінула з ног чаравікі, выплеснула з іх ваду, выставіла на сонца, выкруціла падолак лёгкай, у жоўтыя кветкі, сукенкі і намоклыя рукавы шарсцяной кофты, села на плытніцкі рэчавы мяшэчак і зарагатала таксама.

— Табе чаго смешна, птушка мокрая? — жартаваў Ягор, шастом адганяючы плыт на сярэдзіну ракі.

— Душа ж не намокла.

— І бяда — не бяда?

— А ты думаеш?

— Я і думаў, што з табою не засумуеш.

Мясцінамі Сож ляжаў на няроўным дне — пільнуй, не лаві варон, каб на мель не ўспароцца, і Ягор то выганяў плыт на стрыжань, то здаваў да высокага правага берага, пасля зноў ціснуўся да левага — без пярэдыху ўсімі жыламі налягаў на шост.

Юлька сядзела пасярод плыта на шырокай вяршковай дошцы, раскінуўшы на круглых каленях мокры падолак сукенкі, не зводзіла з Ягора вачэй. Такія вочы Ягор, бывала, вярнуўшыся з лесу і сеўшы за стол, бачыў у маці, калі яна, выставіўшы з печы вячэру, не ведала большай радасці, як глядзець на сына, шчырым

паглядам дарыла яму сваю дабрыню, адданасць. Юлька, праўда, не падыходзіла яму ў маткі, як ён — ёй у сыны: век у абаіх быў роўны, нават гадоў на пяць ён пажыў болей, значыцца, усяго, добрага і благога, пабачыў. У гэтую хвіліну яе захаплялі мужчынскія рукі, не зусім адпаведныя целу, бо і ростам Ягор не сказаць каб удаўся, і целам хударлявы — нескладуха, ды і толькі,— адно рукі моцныя, жылістыя ад вечнай работы. Па руках Юлька адчувала душу Ягора, хоць яе даўно ведала.

У вёсцы — не ў горадзе: як не ведаць? Малыя, старыя адзін аднаго ведаюць як аблупленых. А яны ж, як-ніяк, на адной вуліцы пясок басанож мясілі, абое з Кавалёўкі, дзе кожная хата, душа кожная — на людскіх вачах ад калыскі да дамавіны. У адным класе не вучыліся, але ў школу, у Дубравенку, хадзілі разам. Дарогі мералі-перамервалі і зімовыя, завейныя, і восеньскія, і рана-расяныя, і позна-цёмныя, аж чорныя. Запомніліся ўсялякія. А кадрылю каленаў на восем хіба разам не выбівалі па хатах — цярпі, гаспадар, не кашляй. Часы змяніліся, кадрыля выйшла з моды, прыціхла, а раней — хто яе не скакаў, таго за танцора не прызнавалі.

Праўда, Ягор на вечарынках аб'яўляўся рэдка. Калі яму было гуляць вечарынкі? Кавалькі вечна ў рабоце па вушы сядзелі, хвіліны вольнай не мелі, хоць багацей за іншых не жылі ніколі. Бацька Ягораў, падгалы Анані, чорны, як пракапцелы ля кавальскага горна,— ды і дзед, з людскіх слоў, смаляна-чорны быў, увесь род гэтакі,— не ў працу адну глядзеў, а яшчэ ў чарку, што ж да багацця, дык не збіраў ніколі. Ад самай вайны, улетку і ўзімку, цягаў на сабе бушлат вайскавага крою, сівенькую шапку-аблавушку з чырвонай эмалевай зоркаю — як не паўзла з патыліцы, выстаўляючы напаказ смаляны чуб. Адно колерам адзежа мянялася. Некалі зялёны бушлат пажоўк, нібы восеньская паша, пасля збялеў, нібы яго прыхапіла зімовая намаразь. А шапка, наадварот, счарнела. Калі б хацеў, то меў бы дзесятак шапак і бушлатаў на змену — не было такой ахвоты. Грошы ў руках трымаў, і немалыя, зарабіць мог адным махам, лягчэй як хто іншы. Гэта апошнія гады сеў на хімлясгасаўскі аклад у смалакурні, калі сілы здалі, рукі ў крукі пайшлі, а раней — лепшых кавалёў, сталяроў, цесляроў, як Ананi з сынам, усцяж па Сажы не ведалі, усе бліжэйшыя

вёскі за імі, майстрамі, ганяліся: то хату новым вуглом, у лапу, зрубіць, то ганак з разны́мі паясочкамі ды ручнікамі змайстраваць, то аканіцы, ліштву змудрагеліць, якіх ні ў кога няма. Нібыта зарок далі Кавалькі: не рабіць — абы з рук.

Бывала, шкандыбае Анані па вёсцы ў сваім бушлаце, пад зорачкаю на шапцы, брыдзе, гуляючы, на бакі пазірае, нагу левую валачэ — у вайну перабіла, як у партызанах кавальнічаў,— дзесяць разоў спыніцца, пакуль вуліцу асіліць. Ля зялёнага штыкета, процi акна, левую нагу падцягне да правай, доўгім пляскатым, што ў качкі, носам тыцне цераз штыкет у чырвоныя мальвы, нюхне зацяжна, ажно грудзі пад бушлатам расшырацца, закіне голаў, твар і вочы — да неба, быццам да свайго ўнутранага голасу прыслухаецца, пакліча: «Марыля!..» Маці Юльчына пазнае голас, зірне ў шыбку, а ён і пытае — разважліва, без смеху: «Скажы, Марыля, твой грац зубоў шчэ не скаліць? Нешта пусцее ўсярэдзіне, ці не паміраць я іду. Каб жа і без мяне ў цябе ўсё ладзілася, каб жалеза не гнулася і дрэва не лопалася. Скажы, а кручча на варотах не абвалілася? Значыць, яшчэ сто гадоў адслужыць. Табе і зяцю твайму, хай падвернецца здаровенькі ды вясёленькі». Маці адмахнецца кароткім жартам, яшчэ раз падзякуе за паслугу, прыгадае, што ні за грац, ні за кручча сусед яшчэ не ўзяў з яе платы,— спытае, чым ёй разлічыцца, бо няможна, каб дарма, не па-людску гэта. Анані звесіць голаў, пакрыўджана памаўчыць, сам з сабою пачне гаварыць пра пагоду, ураджаі на бульбу, фасолю, без якой жыць не мог, пра пчолы, вядома, бо калоды чатыры заўсёды трымаў у садзе. Нібыта між іншым дадасць: «Хітрая ты, Марыля. Хочаш заплаціць ды забыцца, што Анані каваў кручча, наварваў грац. А я хачу, каб ты колькі жыцьмеш памятала Ананія...» І пасунецца далей, пакуль яшчэ каго не спаткае на вуліцы, не заўважыць у акне.

Сваё апошняе лета ён выхадзіў таксама ў бушлаце, зусім ужо сівенькім, аслаб, ссухастоіўся, ні з жалезам, ні з дрэвам управы ўжо не меў. З маладзейшых каваля да яго кавадла не знайшлося — па новых часах моладзь і працу шукала новую, весялейшую ды лягчэйшую, чым махаць каля горна молатам. Кузню перадалі ці прадалі хімлясгасу, і Анані яшчэ гады два варыў у ёй смалу. Пасабляць бацьку патрэба адпала, Ягор пачаў працаваць на прыстані, у лесе. То з электрапілою

падхаджваўся на эстакадах, то з трактарыстамі траляваў лес, улетку ганяў плыты — рабіў усё, што да рук прасілася.

Неяк увосень Юльцы ніхто не знаходзіўся парэзаць дровы, а муж пра гэта і не шманаў. Навокал бензапільшчыкі, і ва ўсіх поўна работы. Сустрэла неяк Ягора, ды не з таго боку зайшла, як трэба было: «Во запыніла, а сказаць баюся. Нейкі ты злы апошнім часам, як воўк...» — «Не разумееш мужыкоў,— кінуў ён, быццам сякерай адсек.— Мужчынская дабрыня не на тварыдзе ляжыць, каб зірнуў і ўбачыў».— «А можа»,— згодна кіўнула Юлька і зусім сумелася. «А што ў цябе за бяда?» — спытаў, як здагадваючыся. «Дровы парэзаць няма ні рук, ні пілы».— «Нешта ж ты сама бегаеш? Мужык на лёдзе ў піліпаўку разадраўся, ці што?» — «Не твая справа!» — успыхнула Юлька і, сунуўшы рукі ў кішэні ватоўкі, кінулася дахаты, кленучы і Каралька, і сябе з ім разам за такую гамонку. А ўвечары, пакуль сядзела ў клубе, глядзела кіно, пакуль мужык недзе піў гарэлку, Ягор, вяртаючыся з лесу, завітаў на яе двор, і калі яна прыбегла — убачыла: дапілоўваў апошнюю бярэзіну. Сумелася мацней, як тады, раніцай, хацела кінуцца ў краму, ды ён, адкаціўшы з-пад ног самы тоўсты цурбан, шапкаю выцер ■ ілба пот, схапіў за руку, спытаў, зірнуўшы ў вочы: «Ну, а цяпер што скажаш? Ці злы я?» — Было — хоць скрозь зямлю праваліся. «Не,— сказала, апусціўшы галаў.— Ты дабрэйшы за ўсіх. Няпраўду казала я».— «Вось бачыш!» — першы раз, здаецца, усміхнуўся ён з тонкім намёкам на нешта далёкае... А было такое — хацеў закруціць ■ ёю. Толькі хіба са сваёй асцярожнасцю мог стаяць супроць Анкуды, які пёр напралом? Не мог. Сам, не дамагаючыся, і адшыўся. Праўда, і яна ў той час не змяняла б Анкуду на Кавалька. Гэта Ягор, відаць, таксама бачыў.

Ускінуў пілу на плячо і пайшоў. А ў яе ў галаве ўсе думкі ўміг скаламуціліся. Нагнала яна яго, схапіла за руку і разгубілася яшчэ мацней. Маўчала, пакуль словы знайшліся: «Куды бяжыш? А грошы за работу? Я не жадаю так. Я разлічуся».— «Надумалася. Ці мы чужыя? Сорамна мне браць з цябе грошы».— «Не, не хачу задарма. Я не бедная!» — уперлася. А ён усміхнуўся і пайшоў. Яна тады доўга стаяла за весніцамі, жмакала ў руках хусцінку, ні пра што пэўнае не думала, не магла думаць, адно чула, як пячэ сэрца ад крыў-

ды, і глядзела яму ўслед, пакуль шэрая заечая шапка не схавалася за гарою. Ледзь схавалася шапка, як Юлька ўспомніла бацьку Ягоравага, старога Ананія, успомніла, як у яго маці пыталася, колькі плаціць за кручча, за грац, а той упіраўся, платы не браў. Шмат хто тады пасміхаўся з суседа: дзівак, маўляў, выбіўся стары з розуму. І вось Юлька, правёўшы Ягора, дапяла, што стары Анані ведаў нейкую асаблівую акрасу мужчынскай натуры, якую перадаў сыну. Можа, з гэтай акрасы Ягор у маладосці і не лез дзеўкам на вочы, як Анкуда?..

— Ну?.. Падыдзі да мяне. Ды кідай ты шост. Нешта сёння ён табе даражэйшы,— гарэзліва ўпікнула яна.

Жартам і Ягор адказаў:

— З ім шчасця не знойдзеш, але і бяду абмінеш.

— Са мною не абмінеш, значыць?... Затое...

— Што затое?..

Яна глядзела яму ў вочы, быццам штосьці прасіла, але маўчала, загадкава ўсміхаючыся.

— Ну, кідай жартачкі. Плыт пасодзім.

— А пасодзім, дык пасядзім.

— Супакойся...

На момант Ягор выпусціў плыт з вачэй, і той якраз падлавіў вадамерны кол, наскочыў на яго, сагнуў пад сябе, толькі ляскат прайшоў пад грабёнкаю.

— Не, сёння мы з табою наскочым...

Ён казаў не пустое: на гэтакіх рачных круцялях трэба было глядзець ды глядзець. Юлька замоўкла. Яе вочы зноў пачалі сачыць за яго дужымі, напятымі на шасце рукамі.

Залатыя рукі былі ў Ягора. На любую справу. На мастацтва нават. Яна ведала, як вечарамі, вярнуўшыся з работы, ён садзіўся да бацькавага варштата, браў долата, малаток і са звычайных ліпавых, асінавых, лазовых палак, з кары і карэння, мяняючы долата і малаток на разцы, пілкі, лобзікі, майстраваў хоць людзей, хоць чарцей. Хадзілі чуткі, што не Анані, дык дзед Ягораў захапляўся гэтым у маладосці — за хатаю, у падлеску, кожнае зламанае навальніцаю дрэва, кожную выварацць па-свойму пераробіць то ў чалавека, то ў звера. Дзедава ўмельства, мабыць, вярнулася да Ягора. Гады два назад дазналіся ў раёне — прыехалі глядзець незвычайнае мастацтва. І паслалі Ягора ў вобласць на выстаўку. А вярнуўся — паклікалі ў Селішча,

у школу-інтэрнат, каб дзяцей свайму мастацтву вучыў. Тады ён і ад школы не адмовіўся, і прыстань не кінуў. Усюды, на два франты, паспяваў.

Ці тое яшчэ ведала Юлька пра Ягора Кавалька? Усялякім бачыла. Хлопцам і мужыком, сытым і галодным, босым і ў блішчастых чаравіках, у працы і ў кадрылі.

Як не ведаць, не бачыць, калі абое [redacted] аднае вёскі, з аднаго берага?

## 2

Ад дубравенскай прыстані плыт адчаліў паміж полуднем і вечарам, на той мяжы сутак, дзе неўпрыкмет дзень пачынае вянуць, а вечар яшчэ нічым сябе не выдае. Неба спакваля зацягвалася воблакамі, якія то збіраліся ў крутабокія гурты, то разбрыдаліся вольнымі авечкамі і засыналі ўроссып, чакаючы, што вось зараз нехта падплыве і акрые ўсіх адной коўдраю.

— Дрыжыкі прадаеш ад такога купання,— пацепваючы плячыма, прызналася Юлька, і светлыя вочы яе гарэзна сустрэліся з ціхмяна-глыбокімі вачамі Ягора.

— Пачым просіш?

Ён нарэшце выпусціў з рук шост, падышоў, ахінуў яе спіну сваім лёгенькім картовым пінжаком, угрэтым на гарачых плячах, сеў побач.

Пачынаўся ціхі шырокі плёс.

— Я табе яшчэ не казала, як сыночак Ладуцькаў раніцай пад акном стаяў? Вытыркся з-за штыкецін, лыпае вочкамі. «Што, Васёк, стаіш?» — пытаюся. А ён, зараза хітрушчая, двайную губу накапыліў і цэдзіць, як сырадой: «Ноццу вас дзядзька з рэцкі гукаў».

— Салапека, а вушлы.

— Натура матчына. Што-якое дазнаецца — панёс па хатах. Навошта Дубравенцы тое радыё.

— Але ж не збрахаў, бачыш? Я гукаў. Пастаяў, пакурыў ды і падаўся ў Кавалёўку.

— А дзверы ў хату былі адчынены ўсю ночачку. Да раніцы.

— Можа, каму іншаму.

— Не жартуй гэтым.

Яе рука легла яму на плячо, пальцы ўпаўзлі ў жарству валасоў, затрапяталі — дробныя птушкі ў сілках.

— Галава не кружыцца? — спытала.

— А чаго ёй?
— Мая дык як у віры гарачым. Мы дзе плывём?
— Порткі Донькавы ведаеш?
— І далі ж назву!
— Ад паншчыны засталася. Кажуць, пры пане Васілеўскім мужыкі тут лясы па начах церабілі. І Донька з Селішча сюды наведваўся, пакуль не нарваўся на бізун панскі. З-пад бізуна выкруціўся, даў дзёру лесам, часаў цераз пні-калоды, ажно дзяга на пузе лопнула, порткі зваліліся, у нагах запляліся, дык ён іх скінуў. З таго часу і назвалі Порткамі волак, дзе Ручай да Сажа выбягае з лесу.
— А зараз і Кавалёўка твая.
— І твая. Вунь ужо вокны матчыны.
— Не соладка жыць адной бабе,— на іншае павярнула Юлька.— Са мною хоць хлопцы. Мала, праўда, помачы, ды радасць нейкая. Жэўжыкі, а ўсё весялей.
— Юрку да сябе забрала?
— Учора з работы вярнулася, шукаю, а яго і след прастыў. Добра, што людзі бачылі, як пёр лесам да дзеда з бабаю. Хай бы абодва там сядзелі да школы. Малако сваё, не куплёнае. Дык жа яны то туды, то сюды. Як заведзеныя.
— У Кавалёўку мяне самога заўсёды цягне. Нідзе гэтак не магу прыжыцца. Але зімка вернецца — то ў Селішчы заначуеш, то ў Дубравенцы. Дарогі і ногі пацяжэюць.
— Ат, столькі матка і цяпер цябе бачыць.
— Яно і праўда. Яшчэ вось сена няма. Адзін воз першым укосам прывёз, ды воз няпоўны, ды паўвоза атавы. Мала будзе.
— Атаву ж усім давалі.
— Даць далі, ды рукі не дайшлі.
— Скажы калі, пасоблю.
— Ну, яшчэ... Сам як-небудзь.
Ён устаў, пайшоў на край плыта.
Сатлелая кара на бярвенні паабівалася, ногі коўзаліся, ды спрыту ў Ягора хапала на любым бервяне: хоць салам змаж — пройдзе, збоку зірнеш — танцуе на кругляшы, артыст. Увесну, калі цэлыя штабялі круглага лесу спускаюць у ваду на сплытку і ён плавае тарэц да тарца, сучок ля сучка, Ягор і на ім — быццам на беразе. Скача з бервяна на бервяно, боты не замочыць — здалёк бачыць, на каторае ступіць, каторае абмінуць, дзе ўстоіш, а дзе на дно каменем пойдзеш.

Цяпер ён падняў з-пад ног шост, боўтнуў канцом у ваду, жалезным рачыкам дзеўбануў жвірыстае дно — яно паўзло блізка, які метр ад плыта, аж чувадь быў танклявы звон каменьчыкаў пад рачыкам. Не здаючы плытам да берага, каб не зрушыць са стромы, кінуў шост пад ногі, вышэй каленяў закасаў штаніны і скочыў у ваду.

— Ты куды? — спытала Юлька.

— Дамоў збегаю. Пакуль ты галоўку абагнеш.

— Даўно з дому? Начаваў жа...

— Начаваць начаваў, ды старой не пабачыў.

— А чаму ж гэта?

— Цёмна прыйшоў, цёмна пайшоў. Сёння ж субота, здаецца? Будзе паліць лазню, чакаць, не ведаючы, што плыты пагнаў.

«Во нагадала пра матку!» — падумала Юлька і змоўчала: няхай бяжыць, калі наважыўся. Сож пайшоў роўны, чысты, ненаравісты — тут не страшна было і адной плысці.

Усцяж вады лужок стапталі жывёла, людзі, птушкі, ён за лета пабурэў, пасох, аж калоў у босыя ногі. Ужо за ім, ля агародаў, Ягор азірнуўся: Юлька стаяла на плыце высокая, танклявая, здавалася зводдаль дзяўчынаю, зусім маладой. Можа, што ўся ззяла пад астылым сонцам і гэтае ззянне крыху мяняла яе постаць, аблічча? Кветкі на сукенцы запаліліся, як жывыя, пазалацелі загарэлыя рукі, ногі, рассыпаныя на плячах доўгія валасы, якія яна звычайна збірала каснікам у косы, звівала на галаве, а сёння распусціла, вольна адкінула, не прызнаўшы раптам свае ранейшае моды. Ад вёскі, здаля, яна была падобная на размытае сонцам дрэўца, што стаяла пры сцежцы і пачало ўжо ўплятаць у зялёную вопратку жоўтыя восеньскія строчкі. Гэта — калі глядзець здаля... А нейкія восем гадоў назад?..

Той вясной Ягор пачаў рабіць на прыстані, дамоў вяртаўся пазнавата, калі Юлька з Анкудам залівалася рогатам на ўсю вёску, шчасцем сваім выхвалялася. На Ягора, як ішоў міма, бывала, вокам не кіне: ведай нашых. Ды і што ёй Ягор? З работы прывалачэцца — работа дома чакае. З такім не да гуляў. То бяжыць у кузню старому пасабляць, то ля хаты падхаджваецца, ля каровы, свіней, у агародзе спіну гне. Адзін жа сын у бацькоў — хто яшчэ ім, хворым, пасобіць? Рабіў і Анкуда ў Селішчы, дзе жыў, на калгасным трак-

тары, ды таму нейк удавалася больш на рамонце стаяць-загараць, як рабіць. Бывала, кіне-рыне свой ДТ, на велік ускочыць ды і газуе ў Кавалёўку. Ведаў, сабака, што дзеўкі ад яго без памяці. Шмат каторыя мецілі, вока на яго мелі, а Юлька ўсіх абставіла, з носам, як кажуць, пакінула. Зямлі пад сабою не чула, дурніца.

Сцежка вывела да жардзянага плота. Злева, за плотам, ляжалі агароды, яшчэ зялёныя, хоць сады зарана пачыналі жоўкнуць і асыпацца; справа, воддаль, ад самага лесу, віднеліся пасохлыя шкілеты буданоў, расшкуматаных вятрамі, а дзе і зусім параскіданых навальніцамі. Уздоўж ракі, за буданамі, пачыналіся сенажаці. Лепшыя ў гэтых мясцінах, яны кожнае лета распальвалі сэрцы кавалёўцаў, ды чамусьці, яшчэ здаўна, не ім належалі — зусім іншаму раёну. Ледзь пачынаўся сенакос, як незнаёмыя касцы наязджалі сюды разам ■ жанкамі, маладымі дзеўкамі, прывозілі чыгуны і гармонікі, жылі сваім вясёлым табарам, пакуль да апошняй травінкі не пускалі лугі пад косы, пакуль не высушвалі і не вывозілі апошнюю копку сена. Пасля іх ад'езду буданы служылі пастухам, рыбакам, плытагонам, дзятве, птушкам. Неаднойчы за лета хто-небудзь паднаўляў буданы, і яны аж да позняй восені давалі прытулак начлежнікам, хавалі ад вятроў і дажджоў.

Ягор весела пераскочыў цераз плот і, насвістваючы, мяжою шыбануў паўз матчын сад.

Не новая, але ладная, дагледжаная яшчэ бацькам хата стаяла ў лагчыне, на выгане. Двума вокнамі ў блакітных аканіцах, аздобленых карункамі, глядзела на Сож, двума астатнімі — на вёску, глухой сцяною, нядаўна абшаляванай і прапакошчанай Ягорам,— да лесу. Мясціна — лепшай не выгадаеш. Гусям, качкам, пчолам, сабе. Пад бокам лес, вада, паша... Воля!

Ягор лёгка ўскочыў на ганак — замок на дзвярах. Абышоў хату — маці анідзе не згледзеў. Зноў узышоў на ганак, з яго вышыні акінуў вачыма суседскія двары і задворкі, з ганка спусціўся да веснікаў і выйшаў на вуліцу.

Немаведама з якіх часоў Кавалёўка сялілася і жыла на гэтай доўгай, адзінай вуліцы ўсцяж Сажа. Хаты ставіліся высокія, у лапу рубленыя, з ладнымі, сотак па пяцьдзесят, шнурамі садоў і агародаў. Вёска ніколі не належала ні калгасу, ні саўгасу, яна разам з усёй

сваёй рабочай сілаю, як і Дубравенка, адыходзіла пад лесапункт. У гэтым былі свае выгады і свае страты. Большыя выгады, хоць і перад Селішчам, прыпадалі на той час, калі калгасы, раскіданыя і абяскроўленыя вайною, кармілі галаднавата, людзі петаваліся на бульбе ды шчаўі, а тут, лесапунктаўскія, жылі ўсё ж на акладзе, з пашпартамі, з якімі можна было ў любы час адарвацца ў горад на заробкі ці вучобу, тут мелі і соткі, і, акрамя сотак,— сена ўволю, орсаўскую краму, куды багацейшую за сельпоўскую, дроў колькі хочаш, выгану. Але часы мяняліся. Цяпер ужо Селішча не глядзела на лесапунктаўскага суседа як на багатага дзядзьку — калгас падняўся з каленяў на ногі, грашыма амаль зраўняўся з лесапунктам, да таго ж калгаснік меў мацнейшую ўласную гаспадарку. Кавалёўцы, праўда, і цяпер не вельмі зайздросцілі селішчанцам, бо з імі быў лес — родны бацька, які заўсёды накорміць і напоіць. Хаты стаялі — званочкі, якіх на правым бязлесным беразе Сажа не шмат знойдзеш: ■ прасторнымі верандамі, высокімі ганкамі, разьбянымі аканіцамі, карнізамі. Амаль ніколі не жывучы ў нястачы, людзі тут думалі пра сады і кветкі, ля ракі ставілі лазні, разводзілі пчол, і амаль над кожнай страхою, як сытая светлая песня, жылі буслiныя пары. Да Селішча і Дубравенкі, працуючы там і там не адзін год, Ягор не мог прывыкнуць, як да Кавалёўкі, дзе заўсёды пахла садавінаю, мёдам, ляснoй ягадай, рыбай, смалою, ні ўлетку, ні ўзімку не выводзіўся водар свайго, самасаднага, тытуню.

За вёскаю Сож крута абгінаў сенажаці, буданы, малады гаёк, вяртаўся назад, як нешта забыўшы ў вёсцы, але цёк ужо з іншага ад яе боку — доўгай пятлёю абвіваў і вёску, і клін спелага сасновага бору.

Лес маўчаў. Адно дзяцел цюкаў дзюбаю ў бярозу, недзе высока, ды сойка крычала ў кустах. Ягор свіснуў у бярозавы ліст, і яна, на хвілінку замоўкнуўшы, яму адгукнулася. Ён зноў свіснуў — яна зноў. Гульня спадабалася чалавеку і птушцы, ды раптам яе парушыў Юрка, сын Юльчын. Ён выскачыў з гушчару — босы, без кашулькі, з рабенькім шчанюком каля ног, а следам за ім лапацелі яшчэ два падшывальцы. Юрка заўважыў Ягора — кінуўся насустрач, з лёту абхапіў, прытуліўся кудлатаю галавою.

Ад шчырай Юркавай ласкі зрабілася не па сабе, быццам Ягор быў у нечым вінаваты перад дзіцём, пры-

маючы яго даверлівую цяплынь, быццам штосьці дарагое прысвойваў сабе, не маючы на гэта ніякага права. Пэўна, дзіцячаму сэрцу не хапала пяшчоты, увагі — мужчынскай, бацькоўскай. Такі, пэўна, узрост. Вунь Вовік, трохгадовы Юркаў брацік, гэтага яшчэ не ведаў — натапыраны,ваўчанё ў кошыку. А Юрка іншы. Варта было Ягору раз-другі пракласці сцежку да Юльчынага парога, паднавіць плот, ганак, выразаць хлопцам драўлянага коніка, як ён ужо і прыляпіўся.

Смалакурня стаяла на голай выспе, урасла ў пясок. З чорнага коміна валіў густы дым. У лясной цішыні ён строма падымаўся ўгару і высока, над верхавінамі ялін, клаўся набок — ад ракі цягнуў вецер. Гаркава патыхала смолкім паленым дрэвам.

Хацелася піць. Ягор падышоў да студні, аберуч злавіў апушчаны ў зруб вочап з цяжкім, жалезнымі паскамі акованым цабэркам, пагнаў уніз, насустрач чорнаму блішчастаму воку.

Вада залягала глыбока, цабэрак глуха біўся па мяккіх, што грыб, сценках зруба.

Рыпнулі дзверы смалакурні, але ад цабэрка, п'ючы, Ягор не адарваўся, адно вочы ўскінуў над вільготным бухматым брыжам: з дзвярэй высунулася спачатку нага ў шэрым боце, за ёю выплыла прыгнутая пад нізкім вушаком белая поўня — галава дзеда Малаха, а там — і чырвоная, навыпуск, кашуля, тонкім раменьчыкам перахопленая пад жыватом.

Дзед стаяў каля парога, цёр кулаком вока. У смалакурні ён не толькі гнаў смалу, але і жыў — у дашчанай бакоўцы.

— Прыйшоў? — спытаў, падыходзячы да студні.

— Ну і вада ў вас! — адарваўшыся ад цабэрка, пахваліў Ягор.— У Кавалёўцы тры калодзежы, а ні ў адным няма такой вады. Чаму? Усе як быццам на адным гарызонце.

— Гарызонт адзін, а жылы розныя. Тут жыла сярэбраная.

Ягор яшчэ раз ахаладзіўся серабранкаю, знарок міма рота пусціў ручаёк, і ён пакаціўся пад сарочку, на грудзі, прыемна заказытаў.

— Як гэта — жыла?

— А так. У кожнай студні свая. І ў чалавека. Я, скажам, сваю маладым на суднах знайшоў. Плаваў. Бацька — ля горна. Там былі і наш хлеб, і нашы песні.

— Калі па-вашаму, дык мая жыла — плыты ганяць?

— Твая — у дрэве. Бацька твой з жалеза ды дрэва мог душу выняць, на сподачку людзям паднесці: міласці просім... Мог і ўставіць душу. Тое і ў цябе. Кажуць, твае драўляныя звяры Мінск бачылі? — спытаў, але адказу не чакаў: — А што? Дрэвам можна ўвесь свет зваяваць.

— Золата цяпер не ў модзе, а дрэва — сапраўды...

Вось ужо дзед Малах абшчапіў рукамі цабэрак на зрубе, нахіліў на сябе, і нешта аж заквактала — не то ў цабэрку, не то ў горле. Піў доўга, нібы конь, прысёрбваючы. Кашуля на ім вісела свабодна, бы крыху за лета ўсохся, падбіўся каля карчоў. Пяць гадоў назад, здаецца, спраўнейшым вярнуўся ў Кавалёўку, хоць сам казаў — слабейшым. Тую раніцу Ягор памятаў. Цёплую, на пачатку мая. Хоць нядзелька выдалася, але вёска не гуляла. Чысцілі агароды ад леташніку, садзілі бульбу. Дзеці на беразе палілі прынесеныя паводкаю кусты, галлё, лом розны. Ягор ішоў берагам з Дубравенкі, дзе надоечы да цемені крыжаваў Данбасу рудстойку, і бачыў, як у сітнік ля вёскі ўшылася маторка, як з яе на бераг выскачыў чалавек, вопраткаю падобны на гарадскога, з чамаданам, паліто на руцэ. Маторка, развярнуўшыся, паплыла ўніз, адкуль прыплыла, а чалавек адышоўся крокаў дзесяць ад вады, паставіў чамадан на зямлю, сеў на яго, прыпаліў люльку і не ўставаў, курыў і глядзеў на вёску, вачэй з яе не зводзіў. Ягор спыніўся, думаючы: хто ж такі? Хацеў падысці, ды чалавек, ужо сабраўшы ваколсябе хлапчукоў, устаў з чамадана, узяў яго ў руку і падаўся напрамкі ў вёску.

Праз нейкую гадзіну ўся Кавалёўка толькі і гаварыла аб тым, што Малах вярнуўся, той самы, які яшчэ годзе ў дваццатым, калі па хатах хадзіла халера, пахаваў адразу, у адзін дзень, бацьку і маці, пакінуў двух братоў, а сам, зусім маладым хлопцам, паплыў з дубравенскімі плытагонамі ў заробкі на новыя месцы, некуды на поўдзень, у цёплыя краі.

З таго часу недзе па моры і плаваў. Там, на моры, пастарэў, на пенсію выйшаў. Адразу пасля вайны прыязджаў у Кавалёўку, але не знайшоў ні хаты — згарэла пры немцах, ні братоў — абодва з вайны не вярнуліся. Паглядзеў на вёску і паехаў назад. На марскім беразе домік купіў, там сабраўся дажываць свой век.

Ды сталася дзіва дзіўнае з чалавекам: занудзілася сэрца па родным краі — усё там кінуў-прадаў, паміраць вярнуўся ў родную вёску. Вугла не асталося, ды асталася, аказваецца, прывязь для душы.

— Падсобніка не даюць? — спытаў Ягор, нібыта пашкадаваўшы старога.

Малах абыякава махнуў рукою:

— Адзін упраўлюся. Вунь... мой памочнік.

На ўзлеску паказаўся Юрка. З тым самым рабым шчанюком, але ўжо без сябрукоў. Дарослыя гаманілі паміж сабою, і ён падышоў ціха, аблёгся побач на зруб студні, да вільготнай свежасці, цераз зруб, звесіў дападны нос. Рабы цёрся аб яго ногі.

Пачуўся выбух. Юрка занепакоіўся, зірнуў на старога.

— Не пужайся,— супакоіў дзед Малах, паклаўшы на голаў малому далонь.— То нашы. Заўтра карчы прывязуць.

— І рыбы? — хуценька спытаў Юрка.

— Рыбы не прывязуць.

— А чаму, дзед?

— А таму, што збаяцца дзеда. Я ім пакажу рыбу! Дзень лес карчуюць, а як сцямнее — рыбу. Я ім...

— Мясцовыя? — спытаў Ягор.

— Ды не. Прыблуды.

З-за галоўкі вада выганяла плыт на шырокі спакойны плёс. Там пабліскваў агонь, і Ягор здагадаўся, што гэта Юлька развяла, збіраецца гатаваць вячэру, нібыта нават учуў пах гарачае бульбы, смажаніны — усміхнуўся: за ўвесь дзень крошкі не было ў роце — галоднаму ваўку авечка сніцца. Гэтак атрымалася што з раніцы катаў бярвенне на сплытку, вязаў, а потым гужбы не хапіла — пакуль кладаўшчыка знайшоў ды ланцуг на ўвязку плыта. Той не адразу і ланцуг даў: назад, маўляў, не вернеш, пасееш у запані, плыт здаўшы.

Калі б яшчэ разам з усімі, з усёй брыгадаю адчальваў, то справіўся б і ў сталоўку збегаць. Хацелася ж паперадзе ўсіх плысці, ад усіх адарвацца, каб людзі лішні раз не бачылі яго з Юлькаю, каб языкі не часалі.

— Шыбуй дадому, Юрка,— загадаў Ягор.— Цябе там баба шукае, з ног збілася. Ну?!

— Не шукае,— пакрыўджана запярэчыў хлопчык, але тут яго яшчэ і дзед Малах падагнаў:

— Сып-сып! Заўтра прыбяжыш карчы складаць.

Пацяжэлае барвовае сонца стомлена садзілася за ракою, але зямлі яшчэ не кранулася, яшчэ ўсёй сваёй поўняю асвятляла зарэчны луг, рэчку, лес. У гэтым вечаровым святле было куды больш лагоды і чысціні, як ўдзень,— мяккія і разложыстыя, супакоеныя далячыні адкрываліся вачам высокага левага берага. Пачатак і разгон яны бралі, здавалася, ад дзедавай смалакурні, ад яго берага, высокага, стромага, пад якім цягнулася густая сіняя палоса вады, адгароджаная ад зялёных даляглядаў вузкім жоўтым шнурам пяску.

Ягор часта бываў тут, каля смалакурні, бываў і гэтакай пароюю года, і ў гэтакую пару дня, безліч разоў бачыў гэты барвовы і разам з тым, адначасова, пасінелы вечаровы Сож, зарэчныя лугі, пагорыстыя далягляды, але, мабыць, ніколі яшчэ не бачыў у гэтай маляўнічай прасторы столькі новых фарбаў — нібы глядзеў іншымі вачыма.

— Ягор!..

Ён аж скалануўся — гэтак далёка адышоў раптам у думках ад Малаха, смалакурні, студні.

— Хачу паказаць табе адно бярвенца,— працягваў стары.— Давай з гары спусцімся.

Плыт набліжаўся. Юлька сядзела каля агню. Яшчэ далёка, праўда, яшчэ не разбярэш, хто там, яна ці не яна, але Ягор ведаў, што яна.

— Нельга мне ісці. Плыт ганю.

— Які плыт? Дзе ён? Гоніш — і не на плыце?

— Ідзе сваім ходам.

— Дык гэта ж побач.

Яны завярнулі за смалакурню, сыпкай пясчанай сцежкаю спусціліся ў нізовінку, пароослую маладым хвойнікам. Стары ішоў моўчкі, рыдлёўкаю пагрукваючы ў зямлю, паплеценую каранямі, у пянюхі, а Ягор, ідучы за ім следам, яшчэ не здагадваўся, куды той вядзе, хоць кавалёўцы неаднойчы бачылі — і Ягор гэта ведаў,— як Малах капаў-перакопваў тут, у нізовінцы за смалакурняю, зямлю, штосьці шукаў, ды і чуткі па вёсках хадзілі — Ягор і гэта ведаў,— нібыта недзе тут пралягала старарэчышча, у якое французскі імператар Напалеон, уцякаючы з Масквы, пусціў пад лёд сваю залатую карэту, каб яна не трапіла да Кутузава. Такая была глыбіня — дна ніхто не мог дастаць, а з часам старое рэчышча занесла глеем, глінаю, пяском,

яно зраўнялася з берагамі, назаўсёды пахавала карэту, ды не размовы аб ёй. Гісторыя з гадамі была забылася, але варта было з'явіцца ў гэтых мясцінах Малаху, ды яшчэ з рыдлёўкаю, каб яна зноў ажыла. Вось цяпер і пайшлі размовы, быццам Малах затым у Кацяпер і пайшлі размовы, быццам Малах затым у Кавалёўку вярнуўся, каб знайсці і раскапаць залатую карэту, што не дарэмна ён днюе-начуе ў смалакурні: старарэчышча побач — капайся сабе колькі ўлезе, ад людскіх вачэй падалей, каб ніхто не бачыў.

Гэтую мясціну стары, аднак, абмінуў, скіраваў у размыты паводкамі лог. Летась тут малінавымі мятлушкамі цвілі лясныя гваздзікі, зумкалі пчолы. Увесну слабы на пясках дзёран сагнала вада, паналівала ставочкі. За лета ставочкі павысыхалі, і цяпер на пяску ляжалі танюсенькія дарожкі, мудрагелістыя карункі, панатаптаныя птушкамі ў пошуку чарвякоў і казюрак, якія ў сваю чаргу таксама пакінулі сляды яшчэ больш тонкай, дакладнай работы.

Збоку зелянелі ялінкі. Стары падышоў да іх, спыніўся, не кажучы ні слова, выцягнуў з-пад дрэўца сякеру і хваёвы венік. Тут пясок быў парыты, з яго тырчаў канец чорнага бервяна. Стары рыдлёўкаю яшчэ больш раскідаў пясок, сякераю чахнуў па бервяне — жалеза адскочыла з сухім звонам. Яшчэ раз ударыў — з сякераю адскочыла трэсачка. Ягор падняў яе і здзівіўся: цвёрдая, нібы камень, чырванаватая, нібы старой крывёю набраклая, прыгожая нечаканай свежасцю, дробнай чорнай сеткаю пражылак. Мораны дуб? Некалі над Сажом скрозь стаялі дубровы. Дубы валілі разам з сасной, елкай, бярозай, але сплаўляць іх было цяжка — плыты з дубам часта тапіліся. Ды і Сож падмываў берагі, рушыў дубы — яны стагоддзямі моўчкі ляжалі на дне, у берагах, хавалі самоў у глыбокіх ямах-вірах, і не гнілі там, у вадзе, наадварот — набывалі трываласць і прыгажосць.

Дзед Малах узрушана пазіраў на Ягора. Ён зноў узяўся за рыдлёўку і побач з бервяном хуценька раскапаў чорны квадрат падмурка ад нейкай старадаўняй будыніны, асцярожна абмёў яго венікам, паміж колішніх вянцоў раскідаў пясок, і Ягор убачыў наздраватыя рудыя зліткі шлаку — сведкі жыцця і працы былых кавалёў. Дрэва кузні ўжо не дыхала, ляжала чорнае, сатлелае, ад дотыку сыпалася, але густы пах жалеза яшчэ, здавалася, не выветрыўся з котлішча, быў настоены ў агні і змешаны з пахамі дрэва, зямлі, вады.

Некалі бацька Ягораў казаў, што для кавальскага малата няма лепшага дзяржальна, як з моранага дуба,— у ім і моц жалезная, і цёплая мяккасць рукам. А яшчэ ён казаў, быццам у вёсцы калісьці жылі адны кавалі, нават прозвішчы мелі гэтакія: Кавалі, пасля ўжо з'явіліся Кавалькі, Кавалёвы, каб неяк адрозніваць двары. Вось і Малах — Каваль. Пазней тут папрыжываліся Завойскія, Сідорыкі, Палітыкі. І яшчэ чуў Ягор, што кузні ўскрай вёскі стаялі шэрагам, нібы яўрэйскія крамы на местачковым рынку, хоць вёска лічылася невялікай. На бацькавай памяці вяскоўцы штогод выкоўвалі тысячы пудоў рачных і марскіх якараў, ланцугі, дробную аснастку на судны, сплаўны такелаж, і ўся гэтая работа, асабліва якарная, высока цанілася маракамі ды рачнікамі. Шмат старых якараў сюды завозілі на перакоўку, зусім непатрэбныя скідалі на беразе, блізка ад вёскі, дзе цяпер шуміць лес. Пасля, калі іх там назбіралася цэлае кладзішча, закапалі ў зямлю. Гэта — пасля рэвалюцыі. На месцы таго кладзішча цяпер спелі суніцы, з-пад моху лезлі баравікі, і маладзейшыя кавалёўцы ўжо не ведалі, чаму бор называецца Якарным.

Шэрымі, быццам запыленымі доўгай летняй дарогай, вачамі дзед Малах глядзеў на Сож. Сухая шэрань у вачах хавала перажыванні, але іх выдавала засяроджаная маўклівасць. Змалку прапахлы каля горнаў сваіх продкаў, ён зараз, напэўна, думаў пра тыя горны, мораныя дубы, іх лёс, хоць вочы пачыналі жвавець, нешта цікавае ўжо знайшлі на Сажы, зачапіліся...

— Глядзі, Ягор, дзеўка плыт гоніць.

Там, зусім блізка, плыла Юлька, і Ягор сышоў да самай вады, каб яна яго з плыта ўбачыла.

— Ці не Анкудава? Га?..

— Не ведаю,— адмахнуўся Ягор.— Ну, я пайду. Хто на плыце — не ведаю, а плыт — мой.— Ягор пачаў закасваць штаніны.

— Твой?! — Ад нечаканасці ў Малаха аж рот разявіўся і не зачыняўся.— Вось дык яно-о!.. І дурні жывы-ы! Гэтакай дзеўкаю кідацца! — Стары цяжка ўздыхнуў, нібы шчасце адвярнулася ад яго самога.— Той дурань, ядры яго санкі...

Ягор сышоў з берага ў ваду, пабрыў урозвалкі. Вышэй каленяў вада не падымалася, але Юлька падагнала плыт як мага бліжэй да берага, да Ягора. Яшчэ ён быў у вадзе, трымаўся за плыт, а яна ўжо зноў сядзе-

ла каля вогнішча, кінуўшы шост, адвярнуўшыся ад берага, ад яго і дзеда Малаха, і Ягор зразумеў, як ёй не хацелася зараз мазоліць вочы старому, як саромелася яна перад ім, хавалася за вогнішчам, нібы лісіца за бараною. Хай бы Малах шыбаваў да свае смалакурні, дык жа стаіць на беразе, вачэй з плыта не зводзіць.

— Гэ-эй, Ягор!.. Заўтра бярно забяры! З'явяцца прыблуды — звалакуць!..

— Ды забяру,— ужо злуе на яго Ягор.

— Глядзі ж, каб заўтра!..

Ягор выбраўся з вады на плыт, схапіў шост і таропка, з усіх сіл на яго налягаючы, пагнаў плыт ад берага, на глыбіню.

3

Шырокі плёс — не наравісты. Хоць сны сні, хоць песні спявай — вада сама разумна выкіруе плыт, павядзе куды трэба.

Сонца кацілася па самым краёчку зямлі. Яно забегла наперад, куды плыў плыт, села на самую ваду і апусціла ў яе залатое вясельца. Золата на ім пабялела, потым ссінела, дагараючы разам з сонцам, вадою, зямлёю, небам.

Чыгунок з бульбай Юлька паставіла ў самы агонь — вада ўжо кіпела. Кінула ў чыгун шчэпаць солі, задзёрыста зірнула на Ягора і кінула другую шчэпаць, жартуючы:

— Хоць раз я табе насалю.

— Яшчэ гэтага не было?

— А то было?

— Не ведаю.— Ягор усміхнуўся, быццам штосьці ўспомніў.— Як мне насоліш, дык гэта ж і сабе таксама.

Юлька дастала з Ягоравага мяшэчка кавалак сала, ужо старога, жоўтага, цыбуліну, сырыя яйкі, парэзала сала на скавараду, узялася лушчыць цыбуліну. Ягор выхапіў цыбуліну ў яе з рук:

— Дай я паплачу.

— А можа — разам?

— Надта громка атрымаецца.

Пакуль плыт абгінаў галоўку, пакуль Ягор блытаўся берагам, Юлька і бульбы начысціла, і вогнішча

расклала, і нават бок адлежала. Лежачы, што толькі не перабрала ў памяці. Плыла пад ёю вада, над галавою плыло неба, а ў галаве — успаміны, перажытае. Як некалі ў лузе — на спіну ляжа, уставіцца ў неба, а там замест неба — мора.

Не сонечныя пляжы, не белыя цеплаходы вабілі ў той невядомасці Юльку. Яе мора было іншае: халоднае, зледзянелае, жорсткае. І нават, бывала, на ложку ляжыць, у столь глядзіць — тое самае мора бачыць. Не адну ночачку яно ёй мроілася. Прыгорнецца да сынкоў, а ўваччу — аброслыя белым інеем канаты, скаваныя лёдам прычалы, плаўбазы, траўлеры, рыбацкія рокаты, бушлаты. Нават у вушах застывала далёкае: цяжкі звон якарных ланцугоў, паласкун-штармяга, матроскія мацюкі... і пах — рыбны, салёны, як хто бочку з селядцамі адкрые, пад самы нос падкоціць. І ляжала гэтак да раніцы, не звёўшы вачэй, з думкамі пра мужа. Жывога мора зроду не бачыла, плаўбазы ды траўлеры бачыла толькі па тэлевізары ды ў кіно, пра рокаты, швартовыя хіба ў кніжках чытала, матросы гарлалі і лаяліся ёй галасамі сплаўшчыкаў, пільшчыкаў, трактарыстаў, шафёраў, але цяжкое дыханне мора яна чула — нутром. І ўсё з таго часу, як муж яе, Паўлюк Анкуда, падаўся ў Мурманск лавіць рыбу.

Тым летам, калі ад'язджаў, ды і пасля — узімку, праз год і два Юлька прыбірала лесапунктаўскую кантору, гасцініцу на два пакойчыкі ды яшчэ клуб, усюды за парадкам глядзела. Улетку пуп не надрывала — не трэба было паліць печы,— а зімою клопату хапала і з печамі, і з дровамі, і з вадою. Бывала, яшчэ дасвеццем, не выспаўшыся, усхопіцца, пакіне сыноў на ложку, а сама ляціць у кантору паліць грубкі! А іх — аж пяць штук. Да кожнай трэба дровы прынесці, кожную напаліць, з кожнай галавешкі ды вугалле, дзе агонь сіні, у тазік з вадою выкінуць, каб людзі не ўчадзелі, прыбраць, падмесці. У канторы ўправіцца — у клуб бяжыць. А пад вечар — у гасцініцу. Пастаяльцы не заўсёды былі, але ёсць яны ці іх няма — паліла ўсё роўна, на дровы не скупілася, бо хтосьці мог і сярод ночы заехаць. Чаго скупіцца, калі дроў на прыстані колькі хочаш і якіх хочаш?! Ды і прыязджалі часцяком начальнікі, хоць невялікія, але начальнікі: рэвізоры, фінагенты, інструктары, інспектары. Вышэйшае начальства мясцовыя кіраўнікі разбіралі па сваіх кватэрах, але астатнія запыняліся ў гасцініцы, і ўсе яны праглі

цяпла не меней, як Юлька мора. Сам начальнік лесапункта, бывала, загляне, кіне быццам жартам, а разумець належала як загад: «Юлька, не памарозь мне людзей». І вось прыцемкамі альбо ўдзень прывозіла яна на дзіцячых саначках звонкія з марозу, нібы шкляныя, бярозавыя ці альховыя дровы, уносіла ў пакой, скідала з рук на бляшаны насціл ля грубкі, пачынала распальваць. Сухую лучыну, смалякі, бяроставыя кругялі заўжды збірала, блюла на падпал за комінам, а таму доўга каля дзверцаў не заседжвалася.

Здаралася, што такой парою, калі паліла грубкі, прачыняліся дзверы і ў пакой рашуча прасоўваўся танклявы, з гарбінкаю Просеччын носік: «Юлька, закругляйся. Па тэліку пачынаюць селядцоў лавіць».— «А ў якім моры?» — абавязкова спытае Юлька, і ўжо, у якім бы моры тых селядцоў ні лавілі, ніякая грубка, ніякая работа не магла ўтрымаць пры сабе. Былі пастаяльцы — таропка тлумачыла, калі згарнуць ачахлае вугалле, зачыніць комін, прасіла не забыць на дзверцы і паддувалы, каб не напусціць у пакоі чаду і разам ■ тым цёплы дух не выпусціць у неба, а сама ляцела на Просеччын тэлевізар. Калі ў гасцініцы не было нікога — сама, хапаючыся, выграбала галавешкі ў тазік з вадою, выносіла ў сенцы і хутчэй чапляла на дзверы замок.

Пакуль муж лавіў рыбу ў далёкім моры, Юлька пабачыла па тэлевізары рыбныя промыслы Поўначы і Далёкага Усходу, Каспійскага і Балтыйскага мораў, нагледзелася, як рыбачаць узімку і ўлетку, якімі сецямі і суднамі, дазналася, што такое кнехты, кранцы, важакі, кухтылі, кашалі. Думала: самой бы ўлезці побач з Паўлюком у той рыбацкі рокан, скураю адчуць мужаву рыбацкую вопратку — блішчастую, пабітую штормам і соллю. Калі б не дзеці, кінулася б следам, не азіраючыся, ды цяпер, з Юркам і Вовікам, малымі, куды кінешся? Далёка не пабяжыш, не паедзеш, калі рукі-ногі звязаны. Добра мужыкам. У іх — воля, ніякія путы не трымаюць. Асабліва гэтакіх як Анкуда. А яе радасць — Просеччын тэлевізар. Сядзе, бывала, каля экрана і ў кожным рыбаку намагаецца пазнаць свайго Паўлюка. Як ні намагалася — не магла пазнаць. Калі ён не такі, як усе рыбакі, думала-гадала, ох, цяжка яму там, у моры, у той бяздоннай бочцы з селядцамі. Яны ўсе прасальваліся гадамі, а ён што? Новенькі, малады. Праўда, наўрад каб Паўлюк

каму-небудзь паддаўся хоць і там, на Поўначы, у моры. О-го, Анкуда!

Яшчэ калі не жаніўся, маладым хлопцам па дзеўках лахаў з настаўленым каўнерыкам, шапкі не прызнаючы нават узімку, тады ўжо быў адзіны гэтакі і на прыстані ў Дубравенцы, і ў Кавалёўцы, і ў Селішчы, дзе жыў пры бацьках. Роўных яму не было. Дзе якая бойка, дзе якая гулянка — там і Анкуда. Усё, бывала, гарыць на ім і пад ім: сарві ды падай. Дзеўкі зуха здалёк прыкмячалі, бо з ім заўсёды весела, а матка ўсё маліла Юльку абысці яго старанай, пашукаць цішэйшага. За яго прыгожым партрэтам, вучыла, доўга не нарадуешся. Але Юлька не паслухалася матчыных слоў: уліпла, нібы муха ў мёд, і якраз перад майскімі святамі распісаліся. Тады адно маці прыціхла: позна рукамі махаць, прыбіўся зяцёк да печы — кладзі на печ. Праўда, на цешчыну печ ён не захацеў. І Юлька да яго ў Селішча не паехала. Далі ім ад лесапункта пакойчык у інтэрнаце, у Дубравенцы. Не пакойчык — стадола, хоць ваўкоў ганяй. Прывёз Паўлюк шалёўку, перагарадзіў: атрымалася два пакоі. Усе дзівіліся, як Юлька зацугляла Анкуду, шал з галавы выбіла. Але гэта — ненадоўга. Адно першыя гады, тры леты ды зімы тры, папрацаваў Анкуда ў лесе на тралёвачным трактары, ціха ды мірна выседзеў з жонкаю ды сынам у Дубравенцы. Мінуліся тыя зімы-леты — і ўдарыла яму ў голаў ранейшая шалёная кроў. Тры гады быццам мяняўся і не змяніўся, цішэў і не пацішэў: воўка як ні кармі — усё ў лес глядзіць. Спачатку не паверыла, што сур'ёзна задумаў вербавацца ў Сібір, дарогі класці, а як зайграў пра Мурманск — убачыла, што не жартуе, зноў кроў зайграла. Адгаворвала, ведала — дабра з гэтай крутні не будзе, пераконвала, што не той час, каб капейку на старане шукаць, усё цяпер пад рукамі, працуй, не лянуйся. Не паслухаў — паехаў. І як вырваўся з дому, дык толькі аднойчы паказаў свае прыгожыя вочы. Пасля таго адзінага за ўсе гады прыезду нарадзіўся ў Юлькі Вовік.

Чатыры гады як карова языком злізала, і за ўсе чатыры — адно пісьмо. Па святах тэлеграмамі суцяшаў: «Віншую жывы здаровы Паўлюк». Разы тры грошай падкінуў. А Вовік як нарадзіўся — зусім ні слыху ні дыху. Быццам сыну не рады, быццам ён яму і не сын. Неяк сэрца не вытрымала, напісала пісьмо, ды доўгае, слёзнае — маліла, каб вярнуўся. А што яму да

яе слёз? Зноў тэлеграму кінуў, нібы костку сабаку: «Святкуй дзень рыбака не забудзеш Паўлюка». Сорамна было ў вочы паштарцы глядзець. А тут яшчэ і матка сунула вочы ў тэлеграму, падліла газы ў агонь: «Памінай чым звалі, дачушка». Юлька трымалася як магла: «Не хавайце загадзя. Мала іх, мужыкоў, разбрыдаецца па гарадах з Кавалёўкі, Дубравенкі, Селішча? Вунь Хоня дубравенскі пасядзеў у шахтах і вярнуўся, грошай мех прывёз. Ваўчок з Грыбам вербаваліся на Поўнач — таксама дома. Меця кавалёўскі прыджгаў з Казахстана». А маці сваё дзяўбе, нібы дзяцел: «Хоня ціхі, цяля цялём, мухі не пакрыўдзіць. Ваўчок і Грыб усяго на год адскочылі ў заробкі. І Меця сур'ёзны. Гэтакі дзесяць гадоў будзе ездзіць — на сям'ю не забудзе, з тропу не саб'ецца, галаву не прап'е, што заробіць — усё ў сям'ю валачэ. А Паўлюк — па вадзе, пэўна, хвастом распісаўся. Двух сыноў табе на шыю павесіў — шукай ветру ў полі». Тут Юльку і кінула ў слёзы. «Знайду, калі трэба. Адрас ё. І закон савецкі ё!» — крычала і плакала. А маці: «Хаця ляменты сарві, пакуль не змяніў адрас».— «Не патрэбны мне вашы ляменты! — лямантавала Юлька.— У мяне ё муж, Паўлюк Анкуда! І дзеці ё! Два сыны як выгадую — усіх возьме зайздрасць! Чуеце, мама?..» А сама ўжо не верыла, што ёсць у яе муж, не верыла і ўсё большую волю давала слязам.

Неяк заседзелася ў гасцініцы. Адна. За вокнамі мароз лютаваў, вецер скігатаў, нібы галодны воўк, дрэва ў сценах страляла, нібы хто дровы калоў. Вечар быў нядзельны, жыльцоў у пакоях — ніводнага, але трымала Юльку ў гасцініцы адчуванне: кагосьці ў гэтакую пару прынясе, кагосьці свайго, вясковага, бо камандзіровачныя прыязджалі звычайна ў панядзелак, аўторак, а пакідалі гасцініцу ў пятніцу, суботу — на выхадныя дамоў спяшаліся. Яна спаліла санкі дроў, сядзела, вязала шарсцяныя шкарпэткі. Каму? Сама не ведала. Надумалася і вязала. Вялікія, мужчынскія. На такую нагу, як у Паўлюка.

Пад акном спынілася машына. Ляснулі дзверцы, і зноў зарыпелі скаты па снезе. Нехта на ганку абабіваў ногі.

Юлька ўскочыла з крэсла, але не паспела падбегчы да парога, як дзверы адчыніліся і ў пакой разам з белай марознай параю, разам са снегам уваліўся Ягор Кавалёк.

— Гаспадынька на месцы? — спытаў, весела прытупваючы.

— А што? Начаваць? — разгубіўшыся, хітнулася ад парога Юлька.

— У сваты,— зарагатаў Ягор.

Яго шчырасць супакоіла Юльку, і яна адказала, таксама шчыра:

— Адхадзілі сваё. Позна.

— Тады хоць заначую. Пусціш?

— Пытаешся, калі ўваліўся. Нешта дамоў не пайшоў?

— Да свету ехаць аж пад Старую Буду. Дзялянку адбілі.

— Ганяе вас у гэткі мароз.

Ён ускінуў на спінку крэсла чорны, на добрай аўчыне, кажух, сцягнуў з ног і прыткнуў да гарачай грубкі разношаныя валёнкі, падсунуў да дзверцаў крэсла, сеў, паклаў у грубку яшчэ некалькі паленцаў, працягнуў да агню рукі.

— Скачанеў,— паспагадала Юлька.

— Дзіва што. Мароз гэтакі. У кажух ўваб'ешся, дык ён, зараза, нос кусае.

Ягоравы ногі былі ў белых пакасмычаных ад валёнак шарсцяных шкарпэтках, вялікіх, як і на Паўлюкову нагу. Вось гэтакія і трэба вязаць, прыкінула Юлька. З вялікімі не прамахнешся.

— Дзе ж ты пілу сваю кінуў? — спытала, успомніўшы, як Ягор пілаваў ёй дровы.

— Тут, са мною. У сенцах паставіў.

— Няхай бы і яна ля грубкі пагрэлася,— нібы пра жывое, сказала Юлька. Яна ўсхапілася і тут жа прынесла з сянец Ягораву карміцельку, дзівячыся: — Малая, а цяжэнькая. Дзень пацягаць...

— Пад канец дня палягчэла.

— Бензін увесь спаліў? На дрывотні вунь бочка поўная. Хочаш — налью? Вядро дала незнаёмаму шафёру. Ехаў міма — заглух.

— Мая перабіра гэткі, як у цябе, не п'е.

У пакоі запахла адталым кажухом, вільготнымі ад снегу і поту валёнкамі, бензінам, хвояй. Такога водару сюды не прыносілі гарадскія камандзіровачныя, яго мог прынесці адно лясны чалавек, як Ягор, і Юлька была радая, што ён завітаў на яе агеньчык.

— У шапцы, як на вакзале.

Яна сама зняла з яго галавы шапку — валасы пад

ёю збіліся ў лямец, як год грабянца не бачылі,— узяла з крэсла кажух, усё павесіла на вешалку ля парога.

— Расчасацца ё чым? — спытала.

— Знойдзецца.

У нагруднай кішэньцы картовага пінжака ён адшукаў нейкую частку расчоскі, узяўся расскубваць чорную, нібы смала, грыву. Юлька глядзела, вачэй ад яго не адводзіла, пакуль не спахапілася: што гэта яна робіць? Кажух, шапка, расчоска... Хіба ён ёй вельмі блізкі, свой?.. Што з таго, калі з аднае вёскі? Ці мала гэтакіх — з адной вёскі?.. Хутчэй схапіла вязанне, села насупраць Ягора, падалей, пачала хуценька набіраць вочкі на спіцы.

Маўчалі. Але нядоўга. Ягор загаварыў ціха, проста, неяк па-хатняму, па-свойску, і Юлька неўпрыкмет зноў апусціла вязанне на калені, зноў уцягнулася ў размову. Ягор не асуджаў Паўлюка. Можа, у душы — іншая справа, а ў размове — ні паўслова аб ім. І не раіў нічога. Гэта Юльцы было даражэй за ўсё. Ах, колькі яна наслухалася спачуванняў, парад, нагавораў на Анкуду — абрыдла ўсё.

Юльчыны вокны якраз насупраць акон гасцініцы, праз вулачку. І ганкі насупраць.

Назаўтра яна ўсхапілася зацемна, бо зацемна збіраўся ў Старую Буду Ягор. Хоць бы не праспаў, думала-трывожылася, бо лёг позна, але ісці ў гасцініцу, каб пабудзіць, не адважылася. Доўга стаяла каля шэрага акна — у адной начной сарочцы, хустку на плечы накінуўшы,— пакуль ён не паказаўся. Познячыся, спяшаўся. Ужо на ганку насунуў на галаву шапку, у кішэню кажуха запхнуў рукавіцы, на плячо ўскінуў пілу, сышоў на снег, агледзеўся, пастаяў, як штосьці забыўся і вагаўся — вяртацца назад у гасцініцу ці не вяртацца? — а потым сарваўся з месца і пашыбаваў размашлівым крокам. Ідучы паўз яе вокны, кінуў усё ж і на іх позірк. Юлька была падалася да акна, прыпала тварам ледзь не да шкла, ды ён ужо міма прабег. Заўважыў ці не заўважыў?

Ніхто не прыязджаў у гасцініцу ні ў панядзелак, ні ў аўторак, ні ў сераду, але яна ўсё роўна штовечар паліла грубку — як сабе, думала і чакала: а раптам адчыняцца дзверы і ўваліцца Ягор — стомлены, перамёрзлы? Але ён не ішоў, не ехаў. Усе гэтыя дні з-пад Буды на прыстань вазілі лес, бярозу ды елку, і Юлька праз шафёраў дазналася, што туды, на балоты, па зім-

ніку загналі ажно цэлую калону машын, нават вагончыкі пад жыллё. Больш ні пра што не распытвала, сама пра астатняе здагадалася: на дзень-два вагончыкі ў тую прорву не пацягнуць — гэта не менш як на паўмесяца.

У адзін з тых вечароў, памятаецца, прыбегла Просечка. Нясмела прачыніла дзверы, прасунула востранькі, [illegible] гарбінкаю носік, вачамі, вострымі і шустрымі, нібы ў птушкі, агледзела пакой.

— Ну, заходзь,— узрадавалася Юлька.

— Ты адна? — спытала Просечка, неяк з хітрынкаю, ажно Юлька падумала: няўжо дазналася пра яе вечар з Ягорам?

Паспяшалася і яе і сябе супакоіць:

— Адна. Хто маразамі сюды паедзе?..

Не, наўрад каб ведала Просечка пра той вечар. Іначай не змаўчала б, цікаўная, пачала б распытваць.

— Ну, абы рэвізоры не наляцелі. Як прыедуць, каб ты мяне адразу папярэдзіла. Ты першая будзеш ведаць.

— Баішся?

— Не столькі таго страху, колькі марокі. Вось вясны дачакаюся і кіну склад. Дакументы ў інстытут рыхтую, на эканаміста. Стаж ёсць, прымуць. Можа, разам паедзем?

— Куды мне за табою? Мой інстытут ля печы, ля дзяцей. А ты малайчына, што замуж не выскачыла.

— Ой! — спахапілася Просечка.— Я ж чаму прыбегла? Па тэліку будуць рыбакоў сустракаць. З аркестрам.

— Якіх рыбакоў? — залілася чырваннню Юлька.

— З мора вяртаюцца.

— Дзе? З якога мора?

— Ды ў Мурманску.

— Зноў брэшаш?.. На тым тыдні пацягнула да тэліка, казала, што ў Мурманску селядца ловяць, а там маракі з загранкі вярталіся.

— Дык што, не пойдзеш?

— А калі пачынаецца?

— У сем.

— Дык ужо ж сем?! Ну, варона. Сядзе і каркае. Пакуль дабяжым...— Юлька хуценька накінула на плечы паліто, на галаў — шарсцяную хустку.— А можа — у клуб? Усё — бліжэй.

— Там сход.

— Дык сход у восем.

— Ну, пабеглі.

Людзей у клубе сабралася не вельмі густа — на сходы ніколі яшчэ не спяшаліся,— але ўсе, хто быў, сядзелі каля тэлевізара. На экране ўжо гайдалася густая, масляна-сівая вада, і па гэтай цяжкой вадзе да пірса размытай туманам махінаю набліжаўся траўлер. Ён усё большаў, на борце ўжо відаць была каманда, маракі стоўпіліся каля парэнчаў, махалі рукамі, шапкамі, а ўнізе, на пірсе, іграў духавы аркестр, таўкліся людзі, і ўсім на галовы вялізнымі хлапякамі валіў снег.

Траўлер падплыў да берага, і на бетонку, лязгаючы ланцугамі, спусцілі трап. На ім з'явіўся першы марак. Юльчыны вочы ліхаманкава забегалі па трапе, па борце.

Паказалі аркестр. Юлька ад злосці аж падскочыла: навошта ёй той аркестр? Першыя маракі тым часам былі на пірсе, там іх хтосьці абдымаў, цалаваў, кудысьці вёў. Маткі, жонкі, нявесты.

Юлька чаплялася позіркам то за аднаго марака, то за другога, за тых, што былі на пірсе, і за тых, якія яшчэ стаялі на палубе каля борта, ціха спускаліся па трапе, за ўсіх тых, каторых абдымалі і цалавалі дзяўчаты, жанчыны. Яна шукала Паўлюка — кожнага марака быццам вырывала позіркам з абдымкаў дзяўчат і жанчын,— але не знаходзіла, не пазнавала.

Маракі ішлі марудна, нясмела, іх вадзіла з боку на бок, нібы п'яных. Відаць было, што даўнавата яны не чулі нагамі цвёрдай, надзейнай зямлі.

— Ён, можа, не на гэтым? — шапнула каля вуха Просечка.— Гэты называецца «Лейтэнант Шмідт». А твой?..

— Адкуль я ведаю?

— Вунь! Глядзі! — крыкнуў хтосьці за спіною, і Юлька скаланулася, падумаўшы, што ўбачылі яе Паўлюка.— Вунь як бабы на мужыкоў віснуць! Глянь, цалуюць!..

Паўлюка сярод маракоў не было, і Юлька нават радавалася гэтаму — а то б яго таксама якая-небудзь краля цалавала на вачах усёй Дубравенкі, усёй краіны: ведала, што бабы і там для Анкуды знойдуцца. Яна яшчэ глядзела на пірс, на людзей, але ўжо без ахвоты, без цікавасці, стомлена, абыякава, усё часцей пераводзіла позірк на мора, неба, чаек, якія стагналі ў небе.

Хтосьці каля дзвярэй крыкнуў на ўсю залу, каб Юлька выйшла, і яна ўсхапілася адразу, ажно павесялела.

На парозе стаяла маці — яшчэ раніцай яна прыйшла ■ Кавалёўкі паглядзець унукаў.

— Цябе, дочка, чалавек чакае,— паведаміла.

— Які яшчэ чалавек?

— Ад Паўлюка. Разам рыбу ловяць.

— Праўда, мама?! — нібыта спалохалася, але тут жа і абрадавалася.— Вось... бачыш!..

— Бяжы. Я хлопцаў паклала.

Юлька ляцела нацянькі, не разбіраючы дарогі, нібы там, у хаце, яе чакаў сам Паўлюк, і яна ўжо зла на яго не мела, усё яму даравала. Нават удзень баялася хутка хадзіць на коўзкіх абцасіках, а цяпер імчалася — колькі таго дыхання ў грудзях хапала. На ганку, пакрытым лёдам, не сцішыла крок — ускочыла ў сенцы і толькі тут, перад абабітымі лямцам дзвярамі, ужо схапіўшы рукою намёрзлую клямку, перавяла дыханне, паправіла хустку, далонню змахнула з твару снег і пот. Увайшла.

Ён, незнаёмы, сядзеў каля стала, курыў. У вочы адразу кінулася жорсткасць на чырвоным твары, у шырокіх сківіцах і прыпухлых вачах, быццам чалавек чакаў яе не з добрым вястункам ад мужа, а на суд.

Юлька паздароўкалася, хвалюючыся.

Ён падняўся ёй насустрач. На карабку запалак пальцам пагасіў папяросу, моцна сціснуў яе руку, як некалі Паўлюк.

— Я ненадоўга. Павел прасіў перадаць гарачы прывет і падарунак. Прывет з пацалункам,— усміхнуўся.

Юлька змоўчала. Ён разгарнуў на стале газеты.

— Што гэта? — не зразумела Юлька.

— Наш мурманскі селядзец.

Ажно моташна зрабілася ад гэтакага падарунка. Раскашэліўся за чатыры гады — на дзве бляшанкі селядца. Ну што тут скажаш? Падзякавала.

— А што яшчэ перадаў? Якія словы?

— Каб не хвалявалася. Вясною, можа, прыедзе.

— Можа? — нервова, з болем, вырвалася ў Юлькі.— А чаму «можа»?

Села на крэсла і гаварыла штосьці блытанае, не столькі чалавеку, колькі самой сабе, сябе суцяшаючы.

Ён таксама нібыта хацеў яе суцешыць:

— Думаеш, там, на моры, лёгка? — надта хутка

на «ты» перайшоў.— З мора вылезеш, не паспееш абсохнуць, як зноў у мора, у гэтую дзікую прорву.

— Разам плаваеце?

— Вядома. Плавалі.

— Вы сваё, значыць, адплавалі?

— Сыты морам. Усё. Хопіць.

— А Паўлюк? Ён яшчэ не насыціўся?

Госць на момант сумеўся.

— Павел чакае сезон на сялёдку. Хоча зарабіць грошы.

— А вы? Вы — не хочаце?

Душа чалавека на міг нібы прачынілася:

— Стаміўся. Да мора мы, сухапутныя, непрывычныя. Нас зямля да сябе цягне. А хлеб ды рубель цяпер усюды аднолькавыя. Што там, што тут.

Раптам замоўк, зубы сцяў, нібы чымсьці незадаволены.

Па ўсім было відаць, што ён аднае пароды з Анкудам, хоць і пацягнула яго да сябе зямелька родная раней, як Анкуду. Не тварамі яны былі падобныя, а нейкай унутранай жорсткасцю, якую Юлька навучылася добра бачыць у мужыках — жыццё навучыла. Госць быў у скураным паліто, падбітым белым футрам, і Юлька згадала, як Паўлюк тры гады назад пісаў — у першым і адзіным сваім пісьме,— што купіў скураное паліто на белым футры, а таму грошы прысылаць не можа, прасіў, каб знайшла спосаб перабіцца. Такі спосаб яна знайшла. І не адзін. Даўно перабіваецца. Дапамогі ад яго даўно не чакае. А паліто на чалавеку, падумала, хутчэй за ўсё Паўлюкова. Прадаў сябруку ці прапіў? Спытаць? А ці ён, гэты, скажа праўду? Адчуўшы нейкую няпэўную зайздрасць да невядомай жанчыны, якая дачакалася мужа, Юлька пацікавілася, ці ёсць у яго сям'я, але ён не адказаў. Тады яна зноў пачала выцягваць [illegible] яго слова за словам пра Анкуду, хоць бачыла, што і пра яго гасцёк гаворыць не вельмі ахвотна, з большай ахвотаю меле пра рыбу, мора, селядцы ў тралах. І ўсё ж, выцягваючы па слоўку, удалося ёй дазнацца, што стаіць Паўлюк на кватэры ў нейкай удавы, што мае шмат сяброў, што з грашамі ў Мурманску весела, асабліва ў марскім рэстаране. У гэтакім раздоллі яна лёгка ўяўляла сабе Анкуду. І раптам страціла жаданне распытваць далей. Ужо ёй хацелася, каб чалавек пайшоў з хаты. Сама першая ўстала, скінула з плячэй паліто, выйшла ў суседні пакой па-

глядзець на дзяцей — яны спалі за шырмаю каля печы: танклява пасопваў Юрасік, нячутна дыхаў Вовік. Ад выгнутай скібы месяца ды ад снегу за вокнамі дзіцячыя тварыкі ахінала мяккае блакітнае святло.

Спыніўшыся каля акна, Юлька пачула, як за дашчанай перагародкаю рыпела скуранае паліто. Падумала, што госць нарэшце збіраецца ісці.

Але ён не ішоў. Скінуўшы з сябе паліто, нібы ўзапрэўшы, ён выйшаў да яе. Юлька павярнулася: ён стаяў побач і ўжо браў яе за плечы чужымі цяжкімі рукамі. Яе аж усю калатнула — скінула яго рукі з сваіх плячэй і сказала-апякла:

— Адной вы пароды... Кабялі...

У святле месяца нахабна гарэлі яго вочы, і яна, не падумаўшы, што робіць, не паспеўшы падумаць, хлёстка агрэла яго аплявухаю па нахабнай мордзе, уклаўшы ў гэтую аплявуху ўсю сваю крыўду, увесь боль, што накіпеў у душы. Мацюкнуўшыся, госць выскачыў у пярэдні пакой, схапіў там сваё дарагое паліто і ўжо ў сенцах гэтак грукнуў дзвярыма, што здрыгануліся сцены.

За печчу зарумзаў Вовік. Юлька падышла да ложка, падсунула руку пад падушку — хуценька супакоіла. Накінула хустку, паліто і выбегла на ганак.

Цёмная постацьківалася ўжо далёка, у канцы вуліцы. Юлька пабегла ўслед, але спынілася, нерашучая, і зноў пабегла, каб дагнаць чалавека, вярнуць, хоць не ведала — навошта ён ёй, навошта яго вяртаць? А яго ўжо не было — знік у цемені.

Там, наперадзе, вёска канчалася, дарога паварочвала ў поле. Юлька доўга стаяла ў шэрых начных снягах. Скуголіў на волі вецер, з дзікай радасцю замятаў сляды і калдобы, замятаў зоркі на небе, а яна ўсё стаяла, стаяла, пасля зноў ішла, не разумеючы, куды і навошта.

А калі стамілася, калі астыла ў яе ўсярэдзіне, ёй вельмі захацелася да людзей. І яна заявілася ў клуб.

Ішоў сход.

На Юльку ніхто не звярнуў увагі, і яна непрыкметна прайшла ў самы канец залы, абаперлася аб падаконнік.

Выступаў начальнік аўтакалоны. Ён рэзка махаў рукой над трыбунаю, быццам шаткаваў капусту, нешта хуценька гаварыў, а што — Юлька не чула, бо не прыслухоўвалася, думаючы аб сваім.

І раптам пачула сваё прозвішча. Начальнік гаварыў, што людзей не хапае, летуноў поўна, асабліва ўвосень, як ліст з дрэва ляціць, бягуць у зазімак, калі загробкі на лясных эстакадах зніжаюцца і сплаву няма. Вясною вяртаюцца, але ненадоўга.

— А мы цяпер будзем так рабіць! — сякануў у паветры рукою.— Паехаў — бывай здаровы. Назад можаш не вяртацца. Не прымем.

Разышоўся, аж кашуля на грудзях расшпілілася. Накінуўся на баб, што мужыкоў адпускаюць па свеце лётаць. І тут Юлька не стрывала, крыкнула на ўсю залу:

— Абы-што кажаце!.. Хіба мы іх ад сябе гонім?!

Рука павісла над трыбунай, але зноў, яшчэ больш рашуча, падскочыла, паказала пальцам на Юльку:

— А што твой Анкуда — элемент з элементаў! Без рабсілы задыхаемся, а ён чацвёрты год селядцоў ловіць, ніяк не пераловіць.

Па зале пракаціўся рогат.

— Вам абы рабсіла была,— ускіпела яшчэ больш падагрэтая людскім рогатам Юлька.— А мне муж патрэбны! Дзецям маім бацька патрэбны! Гэта вам зразумела?.. Эх вы, рабсіла!..

Усе павярнуліся, глядзелі на яе моўчкі, нібы разгубіліся, а яна адчула, як на вочы набягаюць слёзы, адчула, што не стрымае іх, і выскачыла за дзверы.

Той ноччу колькі ўсяго паперадумала! Усё жыццё сваё Пepaтacaвала па дзянёчках, па вечарочках, як калоду карт, Анкудавы і свае костачкі паперамыла. За ўсю ноч ні разу вачэй не звяла. Першы, здаецца, раз гэтак балюча і выразна адчула, што засталася яна назаўсёды адна з хлопчыкамі. Удава...

Адна!..

І вось — плыў плыт, сядзела яна на плыце з Ягорам Кавальком, а думкі ляцелі ў далёкае.

— Проську ці памятаеш? — спытала Юлька ў Ягора.— Мы з ёю доўга вадзілі дружбу.

— Як жа... Шустрая была дзеўка.

Прыгадала сяброўку — душа зноў заныла. Юлька моўчкі перавярнула на скавародзе сала, цыбулю, разбіла да іх яйкі, шкарлупінне кінула ў агонь.

— На днях заязджала. Куды там... модніца.

— Вучыцца?

— У інстытуце.

— Свайго дамаглася.

— А што ёй?.. Ці ў яе сям'я, дзеці?

— Сапраўды.

Ягор пашкадаваў, што падтрымаў нечаканую Юльчыну размову пра сяброўку, бо гэтая размова несла Юльцы адны перажыванні. Не дурнейшая за Просечку, а не ўгналася. Таму што была занадта шустрая з Анкудам. І сляпая.

— Неба нахмарыла,— уздыхнуў Ягор.

— Перад дажджом,— не глянуўшы на неба, адказала Юлька.— Хай пройдзе. Збажыну і травы ўбралі, грыбы пачнуць расці.

Нізка над рэчкаю на поўдзень, куды цёк Сож, стомлена вяслуючы крыламі, ляцеў шнур вялізных цяжкіх птушак. Яны цягнулі нетаропка, прыглядаючыся да зямлі,— дзе б сесці на ноч.

— Ужо адлятаюць,— сумна падумала Юлька, доўгім позіркам праводзячы птушак.

— Паўночныя. Нашы буслы яшчэ з намі. Тут, глядзі, яшчэ і ночы цёплыя, а там, адкуль лятуць, ужо халады прыціснулі.

— Злётаюць на зіму і зноў вернуцца. Як і нашы.

Птушкі расталі ў небе, недзе наперадзе плыта зліліся з цёмным лясным макаўем. Юлька здагадвалася, што яны селі на купніку, дзе пачыналася балота. Адпачнуць, падмацуюцца жабамі, закусяць салодкімі ажынамі — і далей, далей. Ляціце, любыя. А можа, цяплынь і ежа затрымаюць на балоце не на адну ночку? Навошта спяшацца ў чужыя краі? Яшчэ апрыкрае чужына. Дзіўныя яны, птушкі. Вясною, ледзь задыміць цёплай парай зямля,— ужо ляцяць назад, у родныя гнёзды. Можа, вось гэтым вяртаннем да родных гнёздаў птушкі і блізкія людзям. Хіба не як птушкі вярнуліся ў родную вёску Ваўчок, Грыб, дзед Малах? Людзі, праўда, не ўсе вяртаюцца. А можа, і птушкі не ўсе вяртаюцца? Каторыя ў дарозе гінуць — тыя не вернуцца. Але астатнія, самыя моцныя, мабыць, усе вяртаюцца. Хай бы і людзі гэтак — у птушак вучыліся. Калі разабрацца, дык начальнік аўтакалоны на тым сходзе ў Дубравенцы казаў разумна: не трэба пускаць назад тых, каторыя лётаюць без патрэбы па свеце, лёгка забываюць роднае гняздо, тады толькі пра яго ўспамінаюць, як прыпячэ.

У тым баку, дзе селі буслы, над лесам усплыў зусім кволы, яшчэ ледзь прыкметны зубок маладога месіка.

## 4

— Ты еш, Ягор, еш,— раз і другі паўтарала Юлька, падсоўваючы яму на скаварадзе таўсцейшае сала, яешню.— Ты на мяне не глядзі. Мужыку трэба болей, як бабе.

Ён адклаў да скаварады лыжку, абхапіў Юльку за круглыя плечы, і яна сама прытулілася да яго, горача дыхала ў шыю.

Ціха ляжала вада ля плыта, нідзе не плёскалася. Воддаль, таксама на вадзе, пачулася песня. Ці гэта падалося?

— А памятаеш той вечар у гасцініцы? Зімовы. Калі ты з пілою ўваліўся. Начаваў. Назаўтра ехаў у Старую Буду. Вось тады, у той вечар, штосьці са мною зрабілася. Пачала цябе і чакаць, і шукаць. Але нікому не паказвала сваёй трывогі. Нават ад цябе хавалася. Баялася, што ты ўбачыш, усё зразумееш.

Ён маўчаў.

На беразе стракаталі конікі, яшчэ не паснуўшы, а гарачыя губы ўсё шапталі Ягору каля самага твару, каля шыі:

— Скажуць, што няверная. Не дачакалася мужа.

— Няма на цябе суддзі, Юлька.

— А што?.. І няма!

— Дурны, можа, скажа. А хто пажыў, усё ў гэтым жыцці разумее, той не будзе цябе судзіць.

— А хто скажа, дык хай спачатку пачакае ды нагаруецца, як я. Ну была б вайна — сто гадоў чакала б. А то ж проста так, за гульбою, забыць на дзяцей, на жонку...

Яе губы раптам абдало холадам. Яна хітнулася ад яго, сцялася.

— Думаеш, навошта села на твой плыт? У суд плыву. Пецька Голуб, каторы з Дубравенкі, следчым у раёне, казаў, каб заяву прывезла. Развядуць.

— Во ты якая! — здзівіўся Ягор.

— Не чакаў? — з горыччу ўсміхнулася.— Вядома, не ранейшая. Можа, кепска раблю! Але... хопіць!..

Ягор заўважаў, як дваіліся яе пачуцці, як ёй хацелася мужчынскай увагі, пяшчоты, цеплыні, як знудзілася яна ў шматгадовай адзіноце, як разам з тым штосьці змрочнае, сумятлівае таілася ў душы, і яна жыла-кідалася паміж гэтых супярэчлівых пачуццяў, ад чаго здавалася то ласкавай і шчодрай, вясёлай, а то

стрыманай, замкнёнай, журботнай. Не магла ці нават не жадала хаваць усю гэтую сумятню ў душы? Але Ягор бачыў.

— У суд зручней было б аўтобусам. Мінскі экспрэс ідзе ў сем нуль-нуль. Раніцай села — і раніцай там. На плыце доўга.

— А я захацела на плыце. З табою на адным бервяне. Колькі гадкоў згубіла, дык што значыць адзін лішні дзень?

Думаючы, як бы яе развесяліць, Ягор знайшоў у сваім мяшэчку смешны лазовы корань.

— На каго ён падобны? — задаў загадку.

— Нібыта баксёр?

Юлька ўжо не думала пра ранейшае, ужо ўсміхалася, разглядаючы загадкавы падарунак прыроды.

— Штукар жа ты, Ягор. Я б міма прайшла. А ты... Каму-небудзь падорыш?

— Юрку. Даўно за кішэні тузае.

— Глядзі, прывязаўся ён да цябе. Бацьку не тузаў.

Ад гэтых яе слоў Ягору зрабілася ніякавата — быццам ён загаварыў пра Юрку, чужога сына, не маючы на гэта права.

— Малы быў. Тузаюць, як падрастуць,— нібыта апраўдаўся.— Яму сёлета ў школу? Куды павядзеш? У Дубравенку?

— А куды яшчэ?

— Ну, можа, у Селішча? Дзесяцігодка ў нас, інтэрнат. На ўсім дзяржаўным вучыўся б. І накормяць, і адзенуць.

— Не сірата, каб у інтэрнат. Ды і памочнік дома. Ужо за меншым Вовікам прыгледзіць.

Вогнішча то аціхала, то зноў разгаралася, і гэтая гульня агню і цемені адбівалася на Юльчыным твары — ён то ружавеў, то шэрх. Набліжалася ноч, але яшчэ ніштонавокал не клалася спаць.

Вецер, падганяючы плыт, дыхаў у спіну, і тады, разам з яго дыханнем, далятала чыясьці песня. Калі вецер аціхаў — змаўкала і песня.

— Нехта з нашых следам плыве. Знаёмы голас,— сказаў, прыслухоўваючыся да песні, Ягор.

Песня была ўсё лепей чуваць, асабліва на галоўках, дзе самы вецер, яна ўжо плыла недзе блізка, чыйсьці плыт з песняю мог вось-вось нагнаць, і Юлька перасела на бярозавую калоду, далей ад Ягора. Яна сядзела, адкінуўшы назад галаву, накрыўшы плечы

доўгімі хвалістымі валасамі, задумліва, насцярожана глядзела на рэчку, якая ляжала за плытом, быццам у вечаровай шэрані, у няяснай далечыні павінна была вось-вось кагосьці заўважыць. Ягор гэта адчуваў так-сама, але не хваляваўся. Ён не зводзіў вачэй з Юлькі, думаючы сваё: прыгожая, моцная, яна магла б у любой рабоце замяніць мужыка, ганяла б, калі трэба, плыты, садзіла б ці секла лес, нарадзіла б і выгадавала яшчэ не аднаго сына — усё ёй пад сілу, усё б яна рабіла без цяжкога ўздыхання і наракання, без плачу, весела, ні на міг не трацячы ні жаноцкасці, ні прыгажосці. Адно дай ёй крыху ўвагі, пяшчоты, кахання. А калі — не крыху, калі столькі, колькі патрэбна жанчыне?

Зноў пачулася песня.

— Даганяе? — спытала Юлька.

— Як быццам Генік Ладуцька.

Ужо і словы дакаціліся:

> У суботу Янка ехаў ля ракі,
> Пад вярбой Алёна мыла рушнікі...

— А хіба Генік плыты ганяе? — здзівілася Юлька.

— З ахвоты. Дзесяць класаў скончыў, у Ленінградзе ў мараходку паступіў.

— Усіх мора прываблівае — дубравенцаў, кавалёўцаў.

— Такога хлопца не страшна і ў мора пусціць. Разважлівы, галавасты. Сёння першы раз гоніць. Сам набіўся. Дайце, кажа, адбыць марскую практыку, да вады прывыкнуць, перш чым ехаць вучыцца. З дзядзькам заадно пабачуся.

— А дзе яго дзядзька?

— Ды Саўка аднавокі. Не ведаеш? Пасля вайны ў Дубравенцы жыў, плытаваў, цяпер у запані нашы плыты прымае, падлічвае.

— Здаецца, ведаю,— успомніла Юлька.— Малая яшчэ была, калі ён да нас у хату прыходзіў. Добры пяюн быў. Бас вёў. Усе плытніцкія песні ведаў. І Генік ад яго, відаць, ведае.

— У Геніка песні іншыя, маладыя.

— А я бабчыны яшчэ памятаю. Праўда, не ўсе. Як яны мне запомніліся? Бывала, выберамся з ёю па шчаўе, цягнемся лугам. Яна ў кошык пакладзе і чабарок — на чаёк, і багун — бадрун, і падбел —кроў спыняць, і цынтаўрыю — ад сэрца. Пра кожную тра-

вінку слоўка скажа, тут жа песеньку заспявае. А голас звонкі, заслухаешся. Асабліва любіла гэтую — пра каліцу:

Чырвоная каліна
Над вадою хілілася,
Над вадою хілілася,
А я, молада, журылася,
Што без долі радзілася.

Ягор памятаў, якой галасістаю была і Юлька ў дзеўках. Вечарамі, бывала, ідзеш з работы, а яна ўжо хлопцаў ды дзяўчат водзіць па вёсцы, усіх сваім галасам пабівае. Спяваць магла ночачку напралёт, да раніцы, пакуль пеўні яе не зменяць, а песні былі ўсё пра каханне — то «міленачак мяне», то «я міленачка». Штосьці бабчыных ён ад яе тады не чуў. Можа, саромелася старыя спяваць? З маладымі гэта бывае. Затое цяпер ужо не саромелася бабчынай песні, спявала з пачуццём, як сваю, кожнае слоўка вымаўляла з любасцю, да кожнага гуку быццам сэрцам прыкладалася, быццам сама грэлася ў слоўках і гуках:

Я ў бога прасілася —
Не кінь, божа, удавою,
Дзетак маіх сіротамі.
А бог мяне не паслухаў,
Кінуў мяне ўдавою,
Дзетак маіх сіротамі.
А я пайду пагуляю,
Як рыбачка па Дунаю.
Рыба-шчука з акунямі,
Я, молада, з малайцамі.

Гэтай песні Ягор ніколі ні ад каго не чуў, але падалася яна яму знаёмай, блізкай. Можа, таму, што нагадала маленства, доўгія зімовыя вечары, калі жанчыны з усёй вёскі збіраліся ў хаце з прасніцамі на пасядушкі? Маці масцілася каля кроснаў, запальвала над імі пузатую трохлінейную лямпу, выкручвала пабольш кноту, абы толькі шкло не чарнела ад дыму, і, жыватом упёршыся ў пруг, які расцягваў ушыркі тканае палатно, запявала. Мякка ляпалі па ставах набілкі, парыпваў навой, паважы грукалі пад нагамі — доўга цягнулася песня. Бацька, вярнуўшыся з кузні, пазней за ўсіх павячэраўшы, майстраваў што-небудзь у сваім кутку на варштаце, а малы Ягорка ляжаў на печы, закінуўшы ногі на жэрдку, дзе звычайна віселі пляцёнкі цыбулі, і, падпёршы галаву рукамі, уважліва лавіў з усіх галасоў — матчын. Яе рукі спрытна, часам

няўлоўна перабіралі ніткі асновы, гулялі чаўнаком, і калі ў хаце абрывалася песня, дык Ягор заўважаў, што здараецца гэта ў той момант, калі на кроснах парвецца або заблытаецца нітка. Песні ліліся доўга, розныя, вясёлыя і сумныя, яны — Ягор тады ўжо гэта разумеў — пасаблялі жанчынам у працы, давалі рукам разгон, нейкі дакладны і патрэбны рытм, глушылі стому і клопаты.

Гэтак, у чыстым паветры бабінага лета, ткалася са слоў і Юльчына «Калініца», перадаючы настрой нейкага іншага руху, можа — руху вады, вечара, надыходзячай ночы, цяперашніх думак і пачуццяў. Бабчына песня не злятала з яе вуснаў ні споведдзю, ні жальбою, не была і ўспамінам, хоць словы песні нечакана расказвалі і пра яе нібыта ўдовін лёс. Юлька не тужыла з гэтай невясёлай песняю, як тужылі пад гэтакія песні жанкі ў матчынай хаце на пасядушках, яна хутчэй за ўсё толькі ўспамінала сваю бабку, кланялася ёй у ногі, здалёк любавалася яе песеннай душою.

За думкамі ды песняю Юлька не заўважыла, як наблізіўся, выплыўшы з-за галоўкі, чыйсьці плыт. Калі плыты сутыкнуліся, яна ўся здрыганулася і замоўкла.

— Ну і пірат ты, Генка! — падаў голас Ягор.

— А можа, ваш выратавальнік? — Хлопец рагатаў, стоячы пасярод свайго плыта з шастом на плячы, вачыма хітра пялячыся на Юльку, якая сядзела каля вогнішча.— Не бачыце, што топіцеся? Ад канцавой грабёнкі адны паклёсы тырчаць.

— Дубу панавязаў, ядры яго...

Ягор быццам апраўдваўся, але Генік з'едліва насядаў:

— Відаць, таму дуб і браў, каб весялей плысці?

— Табе — хаханькі. А хто першы катаў лес на сплытку? Я катаў першы. Ад вады адны дубы і ляжалі, як хто знарок падклаў. Куды дзенешся? Што адкінуў, а ўсё не адкінеш — давялося вязаць. Не я, дык ты б, можа, тапіўся.

— Я — паўбяды. Я без экіпажу,—ківаў Генік на Юльку.

Ягор паспрабаваў збіць яго з жартаў:

— Лепш пашукай дошчыну. Ёсць лішняя?

Хлопец прагрукатаў ботамі па бярвенні, падхапіў шырокую дошчыну, юзам сапхнуў яе на Ягораў плыт, але зноў калянуў:

— Дошчына — пад бок аднаму. Пакуль не позна, магу прыняць пасажырку на борт сухагруза.

Тады ўжо і Юлька не вытрымала:

— Ты сабе пасажырку знойдзеш. Як сонейка ўзыдзе.

Яна ведала, што на выгане райцэнтра, дзе раніцою павінны праплыць плыты, за трыма карчастымі прыбярэжнымі вербамі жыла дзяўчына, пра якую Генка думаў больш, як пра дзядзьку Саўку, і, убачыўшы, што Юлька пра гэта ведае, ужо сам баючыся яе вострага языка, хутчэй пачаў адпіхвацца ад Ягоравага плыта, абыходзіць яго, каб выйсці наперад.

— Спадарожнага ветру вам,— пажадаў, рагочучы.

— Прыхапі яго з сабою,— адказаў Ягор.

— А што? Пагонніка баіцеся?..

Ён вывеў плыт на сярэдзіну ракі, паплыў папераддзе Ягора і Юлькі, усё больш адрываючыся ад іх, павялічваючы ваду паміж двума плытамі.

Плыў лёгка, весела, спяваючы:

Чырвоная калініца
Над вадою хілілася...

— А ўсё ж падслухаў, кроў Ладуцькава,— без усякай злосці на Геніка, яму наўздагон кінула Юлька і заўсміхалася, быццам хлопец пакінуў у яе на душы штосьці прыемнае.

Той, відаць, пачуў яе, не мог не пачуць — блізка,— але не азірнуўся, яшчэ грамчэй заспяваў.

— А ты, Ягор, сапраўды баішся пагонніка?

— Чаго мне яго баяцца? Але ж сама ведаеш, што ён, гэты вецер, робіць у паводкі. Хто пад ім пабываў...

— Клянуць яго больш, як ён таго варты.

— А памятаеш, як з-пад Белае Грывы прывезлі нежывога Восіпа Хомку? Чула, мабыць?

— Калі тое было?.. Я тады пад стол пешкі хадзіла.

— А як шыбанула на бераг Банчыка, аб дрэва грудзьмі гнетанула? Тры рабрыны выламала.

— Ну, гэта было.

— А чаму Саўка аднавокі?

Юлька засяроджана глядзела ў вогнішча, якое дагарала, быццам зусім пра іншае думала.

— Ну, чаму?..

— Усю вайну прайшоў — ні разу не параніла. Здаровы мужык быў, ордэны і медалі злева і справа — на ўсе грудзі. Узяўся плыты ганяць. Аднойчы пагнаў

на ноч гледзячы, вось як мы сёння. Пад ім месца, плыт значыць, ды яшчэ з дзесятак следам. А ў той час бярвён у плыт вязалі болей, як цяпер. Ноччу іх нагнаў пагоннік. Спачатку — гэта сам Саўка пасля расказваў — быццам і весялей было з ім, спадарожным ветрам, у спіну падганяе. Але Саўка не бачыў, што з яго плытам робіцца. Вядома — ноч, цемень, у сон гне. А грабёнкі ён вязаў абы-як, абы звязаць. У адну панаклаў дубу камлюкаватага, у другую і тое і сёе, пераходнае, а ў трэцюю — асіну ды елку. Дуб цягне на дно, асіну, вядома, перацягвае, і елку перацягвае, вось грабёнка з асінаю ды елкаю хвост і задрала. А тут — галоўка пад Селішчам. Саўка як заплыў у галоўку — пагоннік і паддаў яму пад лёгкі асінавы хвост. Грабёнка ўзляцела над Саўкам, а цемень, што да чаго — не зразумець. Добра яшчэ, што паклёсы не вытрымалі, зламаліся, плыт і склаўся, нібы тая кніга, грабёнка на грабёнку леглі. Саўку тады і выкінула на бераг, у трыснёг.

— Ну а пры чым тут вока? — спытала Юлька.

— А пры тым, што напароўся на чараціну. Вайну прайшоў — ніводнай драпінкі, а тут, на мірнай вадзе...

— І гэта часта бывае, Ягор?

— Што бывае?

— Ну... калі спадарожны вецер... Быццам пасабляе, заадно з табою, а потым... Не ведаеш, дзе ён цябе зломіць.

Задумаўся Ягор, усё роўна як не ведаў, што адказаць. І Юлька ўжо маўчала, ні пра што не пыталася. Нібыта ўсё ў гэтым свеце зрабілася ці безнадзейна загадкавым, ці ясным — ясней не трэба.

Дагарала вогнішча. Яны абое ўжо не заўважалі, што трэба падкінуць галлё, ужо абое глядзелі не на вогнішча, не на плыт, не на рэчку, а на высокі правы бераг, дзе паказваліся хаты вялікага Селішча.

## 5

Каля Селішча Сож здаўна віхляў, кожны год мяняў рэчышча. Дзе за былымі часамі плытагонаў пільнавалі водмелі і плыты садзіліся на пясок, там раптам вымывала глыбачэзныя яміны — прытулак акуням, ляшчам і падлешчыкам; дзе шост плытагона, бывала, не кратаў дна — там, наадварот, намывала цэлыя астравы пяску, жаўквы. Рака круціла, вiравала, пераворвала дно, быццам увесь час хавала і перахоў-

вала пад сабою скарбы. Хай бы пераворвала адно сваё рэчышча, а то ж лугі, лепшыя заліўныя пашы змывала, кідалася то ўлева, то ўправа, наравіла ўхапіць паболей прасторы, хоць дзе ёй ухапіць столькі, дзе той вады набрацца, якой менела з году ў год.

З абодвух бакоў Сажа здаўна стаялі кашлатыя поймавыя дубы — кожны кругоў па дзвесце ці трыста ў камлі. На свет яны глядзелі мудра і велічна, асабліва ў тую пару, калі сухая звонкая восень, як цяпер, густымі барвамі пенілася на іх і пад імі — на мурагу. Пабітыя маланкаю, падмытыя вадою, яны тым не менш стаялі трывала, ахоўваючы свае загоны, пойму. Можа, дуб, які Малах знайшоў каля смалакурні, і быў адным з іх продкаў?

Наперадзе, на высокім правым беразе, разварочвалася Селішча, даволі вялікае сяло, колішняе мястэчка са сваімі купцамі, якія ўдала прыбіралі да рук тутэйшыя караблёвыя бары, пляжылі і сплаўлялі іх аж у Чорнае мора, на суднаверфі. Цяпер найбольшым гонарам сяла была школа — вялікая, на тры паверхі, цагляная, з садам.

Недзе за школай, у далёкім канцы сяла, жалобна, нібы галодны, завыў сабака, і ўсе яго сваякі, што неслі па дварах сваю адвечную службу, усчалі сумятлівы, раскацісты ў чыстым вечаровым паветры, перабрэх.

— Ці яны костку не падзялілі? — здзіўлена заўважыла Юлька.— А ўжо час супакоіцца. І зверу, і чалавеку.— Агледзелася вакол сябе.— Ночка ціхая будзе.

Ягор змоўчаў, прыслухоўваючыся да цішыні, і Юлька ці то спытала, ці то ўспомніла пра свой клопат:

— Пайду пасцялю.

Ён прытрымаў яе за руку:

— Яшчэ рана.

Юлька паглядзела яму ў твар і здагадалася адразу: утрымаў ён яе не таму, што рана,— нерашучасць скоўвала яго і цяпер, у гэтую хвіліну, і раней, з таго часу, як апынуліся ўдваіх на плыце. З ім рабілася штосьці незвычайнае, і Юлька яго, гэтакага, не магла зразумець. «Ужо ж не хлопчык,— думала,— не першы раз блізкія, усё тут ясна, ясней не трэба, дык чаго ж ён?..»

Яшчэ ўдзень, калі Юлька села на плыт і, скінуўшы з ног мокрыя чаравікі, на каленях сушыла падолак сукенкі, ды і пазней, калі Ягор сышоў у Кавалёўцы на бераг, агародамі крочыў да матчынай хаты, азіраючы-

ся на рэчку, на плыт, і нават яшчэ пазней — калі стаяў ля Малахавай студні, ля кавальскіх котлішчаў з іржавай рудою, калі з высознага берага бачыў, як з-за галоўкі Сажа выплывае Юлька, седзячы на плыце каля вогнішча,— тады яшчэ, у тыя хвіліны ён з радасцю і хваляваннем зразумеў, што дзень гэты незвычайны ў іх жыцці, у жыцці ягоным і Юльчыным, незвычайныя і гэты рэйс на плыце, і рэчка, і берагі, і ўся навокал зямля, усё неба над ёю, над імі, і пэўна штосьці вялікае адбудзецца, здзейсніцца пад сённяшнім небам. Ён чакаў гэтага з доўгім, ад Дубравенкі да Селішча, хваляваннем, і чым далей плыў плыт, тым усё менш салодкім ды лёгкім было хваляванне — збіралася трывога. Ягор сам ведаў: гэтая трывога была прычынаю бетаго, што ён пакідаў плыт, сыходзіў на бераг, на беразе шукаў сустрэч, размоў, быццам у сустрэчах і размовах мог знайсці раўнавагу, быццам, апынуўшыся сам-насам з прыродаю, адышоўшы ад Юлькі, мог набыць яснасць у думках, у пачуццях. Але гэта было не так. Думкі і пачуцці, якія апанавалі яго побач з Юлькаю, ужо не знікалі і на адзіноце, не пакідалі яго ні на беразе, ні на плыце, разам з ім плылі і плылі па рацэ, і ён над імі ўжо не меў улады.

— Ты адна пасядзіш? — раптам спытаў Ягор, зноў адчуўшы, як яму патрэбна нейкая хвіліна адзіноты, тая хвіліна, калі ён яшчэ можа штосьці неабходнае зразумець, супакоіцца.

— А навошта — адна? — не зразумела Юлька.

— Збегаю на школьны двор. Я хутка. Туды і назад.

— Ну... прыдумаў!

— Трэба. Скажу, каб заўтра маторку на ваду спусцілі. Дуб ад Малаха забраць трэба.

Тлумачэнне атрымалася нечаканае, і Ягор абрадаваўся, што не схлусіў, сказаў праўду — сапраўды, не цягнуцца ж яму за пяць вёрст у школу, калі можна ўсё зрабіць цяпер, па дарозе. Ды і Юлька ўжо як быццам зразумела яго,— адказала мякка, згодна:

— Без работы хвіліны не пасядзіш.

— Тут такая справа — не я вазьму, дык іншыя знойдуцца. Дуб мораны. Сотні гадоў мяне чакаў.

— Ды цябе кожная трэска чакае. Бяжы.

Плыт рэзнуўся ў бераг. Ягор адшукаў паміж бярвення арала — кол з тросам, які другім канцом мацаваўся да плыта,— і саскочыў на мокры пясок.

Бераг быў высокі. Пакуль на яго ўзабраўся — вада

адагнала плыт, панесла далей. Ягор абагнаў яго, завостраным канцом усадзіў кол у зямлю, ды ў спешцы — няўдала: плыт вырваў кол з зямлі. Ягор зноў бег, яго абганяючы, зноў, ужо мацней, з усіх сіл, увагнаў арала ў жвірысты дзёран — плыт тузануўся, напяў трос і, змогшыся, пакорна і мякка тыцнуўся рогам у жаўкву.

## 6

Спякотны жнівень да мядовай духмянасці выспеліў белы наліў і чырванабокія рэпкі. Лопаліся пераспелыя слівы, разліваючы ў паветры водар брагі, пахла прывялым гуркоўнікам, кропам, бульбоўнікам, каноплямі, якія людзі высявалі пад яблынямі, каб адбіць пладажэрку. Надышла самая пара збіраць садавіну, гародніну, але ў школьным садзе панаваў зацішак — тут чакалі блізкі дзень, калі настаўнікі і вучні збяруцца пасля летніх канікул, каб за работу ўзяцца дружна, усёй талакою.

Ягор абышоў школьны сад, у высокім глухім плоце адшукаў даўно, яшчэ ўвесну, выламаную дзецьмі дзірку і праз яе пралез у двор. Шукаючы лодку, ён абшарыў усе закуты пад павецямі, старымі і новымі, праз мутнае акенца зазірнуў у гараж — там, у цемені, нічога не разгледзеў. Пуні былі адчыненыя, іх таксама абшарыў — маторка як у ваду канула. Ягор выйшаў на сярэдзіну двара і прыслухаўся.

За школаю іграла музыка. Не ў клубе — клуб стаяў на другім канцы сяла,— а бліжэй, у нечай хаце. Туды і падаўся.

Ягор ішоў хутка, і музыка набліжалася, мацнела, быццам ён яе да сябе прыцягваў. А потым раптам замоўкла. Ён зрабіў яшчэ крокаў трыццаць, спыніўся каля гародчыка, зарослага буйнымі вяргінямі і касачамі. Хата была быццам Лёнікава, школьнага гаспадарніка, але рогат з яе чуўся не яго — басавіты, мацнейшы.

За брамаю забрахаў сабака. Нехта выйшаў ■ сенцаў:

— Замоўкні ты, ваўкарэзіна! — Сабака агрызнуўся і павалок па зямлі ланцуг, як у будку.— Здыху на цябе няма.

Ягор адразу пазнаў Крыжадзюбіху, матку Лёнікаву.

Праз хвіліну ў жалезнай скабе веснікаў бразнула засаўка — на вуліцу выглянула старая.

— Ананевіч? — здзівілася, як не адразу пазнаўшы.

— Ды... як быццам.

— Дык праходзь,— шырэй расчыніла веснікі перад Ягорам.— Гасцём будзеш.

— Можа, у вас вяселле? Музыка...

— Дзе там! Хіба з маім глумаком дачакаешся?

— Што вы так на сынка?

— А яй-бо, Ананевіч. Яно, праўда, і ты... Згаварыліся, ці што? Ды праходзь у хату. Там і цябе спаміналі.

У пярэднім пакоі каля самага парога, на шырокім зэдліку, стаялі чыгуны з цёплай паранкай, місы, конаўкі, ляжалі таўкачы і лыжкі, тут трымаўся звычайны для раніцы, не для вечара, гаркава-кіслы бульбяны дух, а далей, за дашчанай перагародкаю, гучна гаварылі мужчыны. Праўда, размова заціхла, калі ў хату ўвайшоў Ягор, і праз якую хвілінку ў дзвярах, што з залы, з'явіўся Лёнік: п'яны, расхрыстаны, вочы чырвоныя.

— Хто да мяне?.. Га! Ананевіч?..

— Да цябе,— пацвердзіў Ягор, а сам падумаў: дарэмна прыйшоў, з п'яным гаварыць — дурня катаць.

— Дык садзіся! Пасядзі, Ананевіч.— Гаспадыня зняла з зэдліка чыгуны, на падлогу паставіла, махнула па зэдліку анучаю.

— Няма часу сядзець. Бегчы трэба.— Ягор паглядзеў у акно: на двары ўжо сцямнела, счарнела старая груша, густая сінька разлілася па небе. Падумаў пра Юльку, плыт, рэчку — узяўся за клямку.— Заўтра, Лёнік, як праспішся, кацер на ваду спусціш. Зразумеў? — Папрасіў гаспадыню: — Вы яму нагадайце. А то ён па п'янцы забудзе.

— Ці далёка ж паплывеш? — пацікавілася старая.

— Далёка,— адмахнуўся Ягор.

Яму карцела хутчэй пайсці, ужо ён папракаў сябе, што прыйшоў сюды, у гэтую прасмуроджаную гарэлкаю і свіною запаркаю хату, а можа, нават не столькі гарэлкаю і запаркаю, колькі нейкім чужым брыдкім духам, пашкадаваў, што пакінуў Юльку адну на плыце, і раптам зусім блізка, бліжэй, як там, на рацэ, адчуў яе побач, быццам і яна разам з ім зайшла ў хату. Ён ужо быў гатовы выскачыць за парог, ужо бразнуў клямкаю, як раптам за спіною пстрыкнуў выключаль-

нік, пад столлю заззяла жаўтлявым святлом лямпачка, і моцны бас як ухапіў за каўнер:

— Стары-ы! На якар!..

У грудзях у Ягора штосьці жывое адразу скамянела ад гэтага знаёмага, нібы даўно забытага, але забытага, аказваецца, не назаўсёды, голасу. На імгненне замёр, думаючы: хто ён, знаёмы?.. Азірнуўся, кінуў позіркам па хаце — перад ім у дзвярах стаяў Анкуда, стаяў і лыбіўся гладкай мордаю, выкаціўшы круглы жывот, адставіўшы нагу ў чорным лакіраваным чаравіку.

— З марскім прыветам, сваячок! — Ён ужо не зводзіў вачэй з Ягора.

Ягор маўчаў.

Анкуда быў у белай нейлонавай кашулі, пад чорным нейлонавым гальштукам, з тоненькімі парыжэлымі бачкамі, сыты, гладкі, румяны. І вясёлы, як раней, як колькі гадоў назад, калі ад'язджаў у Мурманск. Раздабрэў, мабыць, залішне, хоць яму і гэта было да твару. Прыгожы, халера.

— Дык, можа, паздароўкаемся?

— Здароў, калі без жартаў,— адказаў Ягор, але рукі не падаў.

— Мазгуеш, адкуль зваліўся зямляк? Не чакаў?

Пад пухлай верхняй губою бліснуў залаты зуб — раней залатога ў Анкуды не было.

— Не чакаў.

Душа Ягорава зноў прасілася з хаты, але вочы не маглі адарвацца ад Анкуды: там, дзе ён стаяў, з ім побач, бачыўся і Юльчын твар, яе разгубленыя вочы. Адно тут, здаецца, упершыню, гледзячы на Анкуду, Ягор падумаў, як змяніліся за апошнія гады Юльчыны вочы, куды дзяваліся ў іх ранейшыя задзёрыстыя агеньчыкі, уся яна была ўжо не тая — дзе маладосць, лёгкасць, якім, здавалася, зносу не будзе? Затое Анкуда быў той самы, малады і вясёлы, хмельны, як заўсёды. Пракантаваўся чатыры гады на Поўначы і не пастарэў нісколькі.

— Значыць, не чакаў? А я, стары, заўсёды гэтак — нечакана, як снег на галаву. Ну, што стаім, землякі? — Зарагатаў, кінуў позірк на Лёніка, які ўжо сядзеў каля акна на кушэтцы, звесіўшы да пляча слабую галаву і заплюшчыўшы вочы, на гаспадыню, якая ціха стаяла каля печы, уважліва глядзела на ўсю гэтую сцэ-

ну.— Прашу да стала. Я частую — сахалінскі рыбак Павел Анкуда.

— І сапраўды,— жвава падхапіла старая.— Ну, Ананевіч?.. Праходзь. У нагах праўды няма.

Цяжэй цяжкога было сесці за стол, дзе частаваў Анкуда, тады як Юлька чакала на рацэ, вочы прагледзела ў цемені, але ўжо і бегчы адсюль не выпадала, як пабяжыш, калі праз Анкуду ляжала нітачка да Юлькі, калі сустрэча з Анкудам была для Ягора не проста сустрэчаю, жаданай ці нежаданай, а сутыкненнем, паядынкам, які ўсе адчувалі. Ды і цікаўнасць апанавала Ягорам: навошта прыехаў Анкуда? Жыць разам з сям'ёю? Тады чаму ён, прыехаўшы, абіваецца тут, у Селішчы, не ідзе ў Дубравенку, дзе сям'я, дзеці? Чаму якраз сёння, калі Ягор і Юлька ўпершыню плылі да сваёй доўгачаканай паўнасці жыцця, Анкуда апынуўся тут, на іхняй дарозе, можа, сам нічога пра ўсё гэта не ведаючы? Выпадковасць? Але Ягор не верыў у выпадковасці. Хутчэй бы ён паверыў у сувязь паміж усім, што адбываецца, таму што не адасабляў сябе ад руху жыцця на зямлі, і ў той жа час ведаў, як моцна ўсё, што насяляе зямлю, звязана паміж сабою: чалавек, лес, вада, звяры, птушкі.

— Дзе стары? — гучна спытаў Анкуда.— Канцы аддаў?

— А ўжо зваліўся,— прапела Крыжадзюбіха, сядаючы побач з Анкудам на рыплівае крэсла.— Абы гаспадынька трывала, Павэлачак. Хай ён паспіць.

— Не можа быць, каб шкіпер з брандвахты аддаў канцы! Стары-ы! — гаркнуў дарагі госць і прыслухаўся — замерла ў яго руцэ паднятая над сталом бутэлька з гарэлкаю.

За сцяною ніхто не адгукнуўся.

Выпілі, моўчкі закусвалі. Старая зноў імкнулася завесці нейкую размову, але ні Анкуда, ні Ягор не звярталі на яе ўвагі — яна заціхла.

— Як жа ты тут апынуўся? — спытаў нарэшце Ягор. Час бег, прыспешваў і думаць, і гаварыць.

— А ты пі. Да дна. Пытанні пасля. І адказы пасля. Кульнулі яшчэ па адной.

Ягору было ўсё цяжэй сядзець, маўчаць.

— А ўсё ж?

Зноў старая прачнулася:

— Ты скажы нам, Павэлачак, як вы там, рыбач-

кі-марачкі, па акіянах ходзіце-бродзіце? Страхоцце, мусібыць, не жытка.

Але яе ніхто не слухаў.

— Навошта прыехаў? — Анкуда злосна зірнуў на Ягора.— Ды не затым, каб вашы любошчы гушкаць. Я, стары, нюхаўкай чую. Мора навучыла. Усё ведаю, Усё бачу. А караць вас, ладна, не буду. Дарую. Падару табе бабу. Хто дорыць, ведаеш? Хто мае. Багаты дорыць. Вось я, Анкуда, магу падарыць. Такому, як ты,— бедалагу.

Гаварыў — як цвікі заганяў у мяккае дрэва. Пасля кожнага слова на імгненне змаўкаў, думаў, быццам любаваўся хлёстка кінутым словам.

— Караць, значыць, не будзеш?

— Не бойся, стары.

— І што ж ты гэта — з жаласці?

— Ты зразумеў.

— Значыць, пашанцавала мне?

— А мог бы. Ой, мог бы! — не заўважаючы іроніі ў словах Ягора, Анкуда сціснуў кулак, ды так, што хруснула ў ім. Сцяў зубы, прыжмурыў вочы, грукнуў кулаком па стале і зноў злосна глядзеў на Ягора.

— Усё ты брэшаш. Я цябе ведаю.

Ягор глядзеў насустрач рашуча, адкрыта, угадваючы думкі Анкуды, і той нібыта губляўся перад яго рашучасцю.

— Во!.. Ужо і на дыбкі. Жартуе Анкуда.

— Я цябе ведаю,— паўтарыў Ягор.— Ты заўсёды на кулак слабака шукаў. Але тут табе не абломіцца.

— Ну, не злуйся,— зноў віхлянуў той.— Пагрэюся, як кот на печы, ды і махну на свой Сахалін. А ты... ты, Ананевіч, працуй, не аглядайся. Смялей, Ананевіч!

Замоўк, задумаўся. Гэтая задумлівасць, якая нават тут, за сталом, пры людзях, пад чарку авалодвала Анкудам, больш за ўсё здзіўляла Ягора. Як быццам не з тых ён быў, каб пакутаваць у думках, усё ў яго заўсёды ладзілася, усё давалася лёгка і хутка, мала што хвалявала, ён нават быццам саромеўся паказваць нейкую заклапочанасць, заўсёды быў упэўнены ў сваёй сіле, лёгкай перамозе, і раптам — гэтая задумлівасць, ужо, вядома, ад новага жыцця, зусім не лёгкага, можа, ад адчування, што прайграе?.. Ці, можа, ужо прайграў?..

А думаць у гэтую хвіліну Анкуду прымушала не столькі само жыццё, не столькі тое, што ў ім адбывала-

ся, колькі блытанка жыцця, усяго таго, што рабілася вакол яго і з ім у гэтыя апошнія дні. Вось — навошта прыехаў? Душа пацягнула ў родны край? Якая далікатная душа! Ды і пры чым яна, калі тры дні хлешча гарэлку з Лёнікам, гэтага краю не бачачы! І хіба кепска жылося там, на марскім беразе, вольнаму чалавеку? Галадала душа? Не сказаць. Чатыры гады яна там не стагнала, люба жылося ёй. А што здарылася? Вярнуўся з апошняга рэйса — і кінуўся ў кантору, патрабаваў адпачынак за два гады, адпускныя, паімчаў на самалёт легкакрылы. Ляцеў — усё дзіўна ў душы мянялася, блыталіся думкі, пачуцці, то радаваўся, што родны дом блізка, то зялёная нуда навальвалася, брыдка рабілася ад гэтай радасці. А пасля — што знайшоў? Выйшаў на правы бераг Сажа перад самай Дубравенкай з чамаданчыкам, поўным розных трантаў, падарункаў, як кажуць,— каму, невядома,— і не пазнаваў сваю Дубравенку. Заваліўся на мяккую траву, там, дзе яна вышэй, каб не бачылі з процілеглага берага, доўга туды глядзеў, чакаў: можа, лодка чыя-небудзь падплыве — перакіне на той бераг. Але ніхто не плыў, усё роўна як нікому ён не быў патрэбны. Людзі на тым беразе былі, можна было паклікаць, хто-небудзь пачуў бы, але быццам баяўся голас падаць — ляжаў ціха, не варушыўся. Гадзіны тры адлежаўшы, не меней, нікога не ўбачыўшы, не паклікаўшы, падняўся і пайшоў у Селішча, каб там дачакацца вечара, каб потым, як сцямнее, прыйсці да жонкі, да дзяцей. У Селішчы, у бацькавай хаце, цэлы дзень адседзеў, а звечарэла — быў ужо п'яны, набраўся з сябрамі маленства, на Дубравенку і забыў. Пачуццё стрымлівала, што не свой дом у яго ў Дубравенцы, сям'я быццам не свая — усё там напалавіну чужое, бо ад усяго адвык, адбіўся, нават пачаў здзіўляцца, чаму яго сюды пацягнула з мора? І Дубравенка чужою падалася, і Селішча, разам з родным парогам. Праўда, да сям'і ў Дубравенку ўсё роўна пайшоў бы, у тую ж першую ноч, калі б не ўваліўся ў хату Лёнік, калі б ён не ляпнуў: «Правароніў ты, Паўлюк, бабу сваю. Там ужо Кавалёк пасецца». Спачатку — як жартам сказаў, рагочучы, а пасля паўтарыў і без жарту: «Праўду кажу. Кавальку трэба морду набіць». Ускіпеў быў Паўлюк, ды тут жа і астыў — хутка зміkіціў: навошта — морду? Баба з воза — каню лягчэй! На Кавалька цяпер усё можна было спісаць: дайшлі чуткі — вось і не вяртаўся да

сям'і, да жонкі, не пісаў лісты, не слаў грошы. А другое: як ён мог перад усім народам прызнаць, схапіўшыся з Кавальком, што Юлька яму здрадзіла, ад яго адвярнулася? Не мог, гонар не дазваляў. Заўсёды было іначай: ён, Анкуда, рабіў выбар, яму падначальваліся.

І вось — Кавалёк сам з'явіўся, сядзеў насупраць. Бяры загрудкі, матлашы, душа з яго вон. А навошта? Малайчына Кавалёк. Дапамог, можна сказаць, у сямейнай сітуацыі разабрацца.

— А чаму ты пра Сахалін загаварыў? — раптам спытаў Ягор.— Ты ж у Мурманску?

Анкуда прыжмурыў вочы, зарагатаў, зноў бліснуў Ягору залатым зубам, лянiва, без ахвоты, заспяваў:

Па шпалах, па шпалах, па шпалах,
Та-та-та, ці-та-та...

— Ды за ім, чортам, хіба ўследзіш? — лісліва лыбілася гаспадыня, не зводзячы вачэй з Анкуды.

— Адсталы ты ямент, Ягор Ананевіч. Здаецца, Ананевіч?.. Га, маманя?..

— Ананевіч, як жа,— пацвердзіла гаспадыня.

— Ягор Ананевіч Кавалёк... Не ведаеш натуры сучаснага чалавека. Закапаўся ў дзярме, адстаў ад жыцця. Што ён, сучасны чалавек, любіць — ведаеш? Водку ды малодку — во якая любоў! А яшчэ — прастор, волю! Гэта я люблю больш, як малодку. Зразумеў? Дайшло? Дзе табе... Маё жыццё такое — адной нагою ў Мурманску, другой — на Сахаліне. Крок чалавека, які пішацца з вялікай літары. Чытаў Горкага Максіма? Чалавек — гэта гучыць горда! Бачыш — горда! А ты?.. Агледзься, сваячок. Свінушнікам дыхаеш. А вось вакол Анкуды — дыстыляванае паветра. Гуляй, вецер, гуляй, людзі... Дваццаты век! Га, так я кажу, маманя?..

Рагочучы, Анкуда раскінуў аграмадныя рукі, крутнуўся ў бок, дзе павінна сядзець старая, нібы абдымацца з ёю надумаў, але той ужо не было побач: ці яна пайшла глядзець сыночка, ці яе ўзяла крыўда, што госці няўважлівыя да яе асобы,— знікла ціха, непрыкметна.

Анкуда крутнуўся ў другі бок, да Ягора, мутнымі вачыма ўтаропіўся на яго, увесь сцяўся, быццам гатовы кінуцца ў бойку, ды раптам нервова, цяжка выцяў кулаччам па стале.

Зазвінеў посуд. Пустая бутэлька падскочыла, звалілася пад стол — рассыпалася на шклянне.

Закінуўшы руку за спінку крэсла, Анкуда абвіс на ім, галаву цяжка звесіў на плячо, звесіў свае доўгія валасы, працягла і без усякага сэнсу ў вачах глядзеў на падлогу, на зялёнае шклянне.

— Хай, на шчасце,— выдыхнуў, не падымаючы галавы.— А што? Можа быць... На дробныя-дробныя...

— Чакаеш?

Анкуда як не пачуў:

— Што ты сказаў?

— Шчасця, кажу, чакаеш?

Залыпаў вачыма:

— А ты?.. Ты не чакаеш?.. Усе чакаюць.

— Чаму ж, як усе, да дзяцей не бяжыш? — раптам, як не па яго волі, зляцела з вуснаў Ягора пытанне, якое яму цяжка было задаць свядома, хоць яно і мучыла яго ўсё больш і больш.

Застылі, зрабіліся як шкляныя, вочы ў Анкуды. Ці ад выпітай гарэлкі, ці ад лютае злосці на Ягора.

— Хітруеш? Адно на языку, другое ў галаве? А я цябе бачу. Баішся, каб не зблытаў вашы планы? А хочаш?.. Як анучу, любошчы вашы з Юлькаю — ш-шах, пад ногі. На швабру! Гальюн драіць! Га? — рагатаў, але без ахвоты.— Ладна, не кране цябе Анкуда. Мы з табою, Ананевіч, цяпер усё роўна як сваякі — га? Радня! На бабе парадніліся. Не чапаю. У мяне хапае гэтага зелля. Там, па марах-берагах. Іх у мяне... ад Мурманска да Сахаліна... Не перастравіш...

Ягор глядзеў у вочы Анкуду, і чым далей глядзеў, чым далей слухаў, тым мацнейшая агіда напаўняла яго і тым лепш бачыў, што Анкуда ўжо не такі малады, як падалося. Пацяжэў, твар аплыў, пашэрх, вочы памутнелі. Толькі дарагі жоўты зуб блішчаў, калі адчыняў, ікаючы, рот.

— А можа, і дзеці ў цябе ад Мурманска да Сахаліна? — яшчэ раз падкалоў Ягор.

— Дзеці? — раптам ускінуў голаў, нібы прачнуўся, Анкуда.— Не чапай, сваячок!.. Дзяцей маіх не чапай! Дзеці бацьку заўсягды прызнаюць. Во як — прызнаюць!..

— А калі не прызнаюць?

— Маўчы, салага!.. Не такіх бачыў! У штармягу замест швабры цягала па палубе, кішкі на кнехт наматвала, а я... думаеш, здрэйфіў?.. Хрэна!.. А ты?!

У гэтую хвіліну ён зноў быў поўны нянавісці да Ягора, быў гатовы накінуцца на яго з кулаччам і, каб узвысіцца над Ягорам, ад злосці на яго, пачаў успамінаць свае геройствы на далёкіх марах. Успамінаў, праўда, нядоўга, бо раптам звяў, стомлена звесіў галаву, замоўк. І зразумеў Ягор: не, не салодка жывецца Анкуду, у душы ў яго ўсё іначай, як на словах, і нават жорсткасць, магчыма, ад разладу паміж словамі і пачуццямі. Калі расказваў пра штормы, пра сваю марскую адысею — Ягор яму верыў. Вядома, Анкуда — мужык моцны. Але іншае таксама ведаў Ягор: моцны — заўсёды добры. А якая дабрата ў Анкуды? Да каго? Завёў сям'ю — кінуў, успомніў — зноў забыў. Гуляе, як кот з мышшу. А сам у гэтай гульні ці шчаслівы? Што яго сюды, у родныя мясціны, прыгнала? Не да жонкі, не да дзяцей прыехаў. І зразумей ты яго. Не першы ён у белы свет кінуўся, да яго колькі мужыкоў кідала родныя вёскі, хаты, сем'і, штосьці ў далёкіх краях знаходзілі, штосьці гублялі — але назад вярталіся людзьмі. Узяць Селішча. Спакон веку вядомае мулярамі, можа, самым вандроўным за ўсе часы людам. Ледзь набухалі вясною дарогі, з першым нераставым шчупаком кранаўся лёд на Сажы — яны ўжо збіралі ў торбы малаткі, шнуры, кельмы, адвесы, мокрымі дзеркачамі драілі лубяныя, што бляхі, хвартухі. Адсеюцца — і разбрыдуцца па Беларусі, Расіі, Украіне. Праводзілі хадакоў усёй вёскаю — у Маскву, Пецярбург, Мінск, Гомель. Дабіраліся да Чарнігава, да Адэсы. Дзе толькі не ставілі саборы, палацы, але зімавалі заўсёды на сваіх вясковых печах, заўсёды дамоў вярталіся і якія яшчэ сем'і заводзілі — дзятва табунамі бегала. А ўзяць Кавалёўку ці Дубравенку? Кавалі, матросы, плытагоны — народ рухавы, вясёлы. Плавалі па Дняпры, Прыпяці, у Чорнае мора выходзілі, і куды ні нырнуць, а вынырнуць заўсёды ў роднай вёсцы. Той хіба не вяртаўся, каго не прывязвалі ні бацькі, ні жонка, ні дзеці. Ды і такія канцоў не абсякалі. Недалёка хадзіць — дзед Малах. Нічога ў яго не засталося ў Кавалёўцы, ні кала ні двара, а вярнуўся.

Анкуда хроп, сунуўшыся тварам у бераг стала.

Ягор падняўся, каб ісці. Ледзь рыпнуў крэслам, як Анкуда ўскінуў галаву — глядзеў неўразумела.

— Бяжыш, сваячок? — спытаў, але галава зноў цяжка легла на стол. Захроп.

Пад ціхім вячэрнім небам мірна адпачывала вёска.

У загусцелым змроку яна не жадала губляцца ў зямной прасторы і высыпала агні — ззялі амаль усе вокны. Пад павеццю ў будцы ланцугом грымнуў сабака, але і ён не адважыўся палохаць цішыню — не падаў голасу.

Вузкай, на тры жэрдзі, кладкаю Ягор прайшоў паўз вокны да веснікаў. Каля варот цяпер толькі заўважыў цяжкі, з каляскаю, матацыкл — ён блішчаў у кволым святле ад месяца і акон. Матацыкл быў стары, той самы, на якім Анкуда некалі прыязджаў у Кавалёўку да Юлькі.

Ягор выйшаў на вуліцу.

Недалёка, праз дзве хаты, на бярвенні рагаталі хлопцы, жартавалі з дзяўчатамі.

Загуменнем, недзе ў блізкім полі, пратахкаў і замоўк трактар.

Нехта зачыняў вароты — рыпелі.

Недзе блізка звякалі вёдры, стагнаў калаўрот калодзежа.

Усе галасы і гукі ў цішыні вечара здаваліся мацнейшыя, як удзень, і ўсе яны балюча кранаюць сэрца: трэба ж было гэтак заседзецца ў хаце, калі там, на рацэ, чакае Юлька. Ягор яшчэ раз азірнуўся на вокны хаты, з якой толькі што выйшаў, заўважыў рухомы цень чалавека — у бліжэйшым акне, абрадаваўся, што ён ужо тут, на вуліцы, і заспяшаў да рэчкі.

Мацнеў вецер, гнаў хмары з-за рэчкі на Селішча, гнаў хутка, гэта — у небе, а на зямлі, унізе, было ціха. Мірна блішчала вада пад месяцам, драмаў прышыты аралам да берага плыт, санліва туліліся адна да адной вербы, быццам ім не было дзе прылегчы, прыхінуць кучматыя галовы, не шапталіся, як звычайна, кусты і чарот, паветра астыла, і Юлька, зліўшыся з цішынёю і змрокам, непрыкметна сядзела на мурожным адхоне, спіною прыхінуўшыся да тоўстага цёплага дрэва.

— Спіш? — спытаў Ягор.

Яна ўскочыла на ногі. Белае святло месяца асвятляла яе твар, вочы блішчалі. Ягор, рады, абняў яе за плечы.

— Не ты там весяліў Селішча? — спытала яна.— Прыгожая музыка адтуль неслася.

— Было каму без мяне...

Адказаў — і адразу працяла думка: а можа, Юлька і Анкуда па-ранейшаму належаць адно аднаму, можа, Анкуда толькі выпендрываецца перад іншымі, не

паказвае выгляду, што прыехаў да жонкі, да дзяцей, казырае сваёй незалежнасцю, гэта ў яго натуры, а заўтра зразумее, як усё гэта смешна, зразумее і вернецца ў сям'ю? Можа, і яна па-ранейшаму чакае яго душою, сэрцам, адно розумам ды памяццю помсціць, можа, у яе сэрца і розум спрачаюцца, не знаходзяць паміж сабою ладу, і калі гэта так, то сэрца пераможа розум, як гэта бывае, асабліва ў жанчын. Па Юльчыным твары Ягор бачыў, што тая, з сяла, музыка, якую на радыёле круціў Анкуда, усё яшчэ жыве ў ёй, нябачнай ніткаю злучае яе душу з Анкудам, хоць, можа, яна сама гэта не ведае. Ягор ведаў. І гэта, і тое, што ёсць яшчэ ў Юлькі сувязь з берагам, на якім зараз Анкуда, Ягор быў, вядома, не супраць — хай у Анкуды жыццё наладзіцца, але і свой светлы дзень, сённяшні і заўтрашні, Ягор намацаў, адчуваў і ўжо нікому не жадаў аддаваць. У гэтых яго думках, можа, былі нелады з сумленнем, але Ягор ведаў, што цяпер ужо на сваёй дарозе да Юлькі ён будзе ўпарты, як ніколі раней, і нікому, нават Анкуду, яе не аддасць.

— Нашы прайшлі? — спытаў Ягор.

— Тры плыты прайшло.

— Мы, значыць, апошнія.

— Нічога. Раніца ўсіх збярэ ў адной запані.

Юлька збегла з берага на плыт, а Ягор, не марудзячы, высмаргнуў з зямлі арала, з ім разам ускочыў на бярвенне, кінуў арала пад ногі, узяў шост і павёў плыт далей ад берага — на прастор таямнічай у святле і цемені ночы вады.

Плыт імкліва, нібы на буксіры, вынесла за сяло, за гару. Агнёў у Селішчы, здавалася, высыпала яшчэ болей, а змрок гусцеў, змываў на даляглядзе чорныя бухматыя сілуэты. Напружана думаючы пра сённяшняе, пра тое, што так нечакана адбылося на вадзе і на беразе, Ягор не апускаў шост, не спяшаўся загаварыць з Юлькаю пра Анкуду, хоць яшчэ там, у сяле, адчуваў, што, як прыйдзе, раскажа ёй аб усім, нічога ад яе не схавае. Адно цяпер засумняваўся: можа, не варта лішні раз трывожыць яе душу? І разам з тым падумаў іншае: а раптам душа абрадуецца? Ён не мог хітраваць — не хітраваў ніколі. Падвярнуўся Юльцы выбар — хай выбірае.

— А ты, Ягор, чаго там стаіш? Каго вартуеш?

— Можа, цябе.

— Мяне? — здзівілася.— Я вось паслала. Кладзіся.

— Трэба чыю-небудзь капу сена развярнуць.

— Навошта?! І гэтак нам будзе мякка.

Яму спадабалася, як яна адказала, але свайго задавальнення ён не паказаў:

— Вунь... стагі чарнеюць.

Стагі і копы выплывалі з цемені, асабліва густа стаялі копы — трава сёлета ўдалася. Ягор падплыў бліжэй да берага, перадаў Юльцы шост, каб яна ім плыт падпірала, не адпускала ад берага, сам скінуў з ног боты, закасаў вышэй каленяў штаніны і скочыў у ваду, зусім мелкую, на цёплае пясчанае дно.

Бярэма сена, мяккага, і яшчэ духмяным, не выпетраным вятрамі настоем, прынёс ад зусім блізкай капы. Юлька раскінула сена на сухіх шырокіх дошках, пад галовы паклала Ягораў мяшэчак і сваю сумку, на іх яшчэ нагарнула сена, усю пасцель накрыла дзяружкаю, якую прыхапіла з сабою з Дубравенкі, залезла пад яе. Доўга шамацела сенам, ямчэй укладвалася. А Ягор усё не клаўся, хоць плыт спакойна плыў па ціхай вадзе, не патрабуючы ні каманды, ні шаста. Юлька не вытрымала — спытала:

— Класціся не думаеш? Не бойся, плыт ад нас не збяжыць.

— Ведаю. Не збяжыць.

Ён стаяў на канцавым бервяне, глядзеў на ваду. Вада халодна зыбалася каля плыта, і разам з ёю, у яе начным холадзе, зыбаўся, нібы ў тытунёвым дыме, твар Анкуды.

— У цябе, можа, якая непрыемнасць? — спытала яна.

— Ды не. Усё як трэба.

— А калі што якое — скажы.

Ён змоўчаў.

У гэтую хвіліну ён адчуваў, быццам Юлька рабілася да яго нейкай іншай, чым гадзіну назад, быццам яна марудна адплывала кудысьці, а ён, насуперак яшчэ нядаўнім сваім думкам і пачуццям, пакорліва, не пратэстуючы, праводзіў яе ў невядомасць, і толькі таму яны былі пакуль што побач.

— Усё роўна як мяне баішся? — з усмешкаю, якую ён не ўбачыў і не пачуў, але якую ўгадаў, спытала Юлька.

— Не, не баюся.

— Тады кладзіся.

Ён спакойна лёг побач з ёю і, ледзьве датыкнуў-

шыся да яе голага пад дзяружкаю пляча, усёй сваёй істотаю адчуў гарачыню яе цела — захваляваўся неяк па-новаму. У гэтым хваляванні яму раптам захацелася адкінуць усе сумненні, здагадкі, аддацца пачуццю, якое разлівалася па целе, мабыць, з крывёю. Але ён гэтак не змог — загаварыў:

— Скажы... А калі заўтра да цябе з'явіцца Анкуда?

— Выкінь з галавы.

— Не, усё ж?

— Запрашу на вяселле.

— На чыё? — разгубіўся Ягор.

Што яму адказаць? Папракнула:

— Не чуеш ты маю душу. Глухі.

Тады ён не вытрымаў:

— А Паўлюк тут.— Сказаў і замёр, быццам перад выбухам. Але Юльку гэтая навіна не кінула ні ў гарачыню, ні ў холад. Гэта ўразіла Ягора мацней, як з'яўленне Анкуды.

Яна толькі спытала:

— Ну і што з таго? Ты яго бачыў?

— Бачыў.

— З ім і выпіў?

— Выпілі.

— Вясёлая ж у вас была сустрэча. Вось бы паглядзець.

Больш яна ні пра што не распытвала, але Ягор адчуў: тая лёгкасць, з якою Юлька вяла размову пра Анкуду, была гульнёю. А Юлька ўжо сапраўды не змагла маўчаць, загаварыла, і быццам не з Ягорам — сама з сабою:

— Ведаю, скажаш, што цяпер да яго пабягу. А як жа: бабе абы мужык. Няма Анкуды — іншы сыдзе, з'явіўся Анкуда — зноў да яго. Памыляешся ты, Ягор. Не ведаеш ты Юльку.

— Ну а-а... можа, ён змяніўся? Можа, ён ужо не такі, як ты думаеш? — спытаў, сам не ведаючы — навошта?

— Прыгожы рысак, ды воза ён не пацягне. І нішто яго ўжо не пераробіць. Магіла хіба? А што сядзіць у Селішчы, дык я гэта і без цябе ведаю. Не першы дзень ён тут жрэ гарэлку. Не нажрэцца.

— Ты ведала, што ён тут? — здзівіўся Ягор.

— Бабы адразу данеслі, як прыехаў. Бяжы, Юлька, лаві, пакуль ловіцца. Так Юлька і разагналася.

— А што?.. Хіба... не чакала?

— Дурная была, дык і чакала. Знайшла чым даражыць. Прыгожы матыль, крылцы чырвоненькія з паясочкамі, ляціць-пырхае, сядзе, пасядзіць, зноў ляціць. Можа, матылю гэтак і добра, але чалавеку трэба інача жыць. Ты вось хоць дзеравяку ў рукі возьмеш, хоць жалезіну — яны ж у цябе спяваюць. Юрка чаму да цябе прывязаўся? Дзеці душу чытаюць, не памыляюцца.

— Ну, спі.

— Дзе ўжо?.. Чуе сэрца — не на добрае ён тут.

У нейкі момант Ягору падалося, што сувязь паміж імі напялася, пагражаючы лопнуць, вось-вось можа здарыцца штосьці нечаканае — нейкі вельмі патрэбны абодвум агеньчык блісне апошні раз і пагасне. Але Юлька, быццам адчуўшы тое самае, спалохаўшыся за той самы агеньчык, раптам ірванулася да Ягора, прыціснулася да яго ўсім целам, ласкавым, усхвалявана-цёплым, схапіла галаву Ягора ў свае гарачыя далоні, губамі, якія аж апякалі, знайшла яго губы, і ён забыў аб усім, аб чым думаў. Гэтак ляжалі хвіліну, дзве, тры — моўчкі, не рухаючыся, як ніколі блізкія, чуючы дыханне адзін аднаго, пакуль Юльчыны рукі не сплылі з яго галавы, шыі, пакуль яны не спаўзлі яму на грудзі, не ўпёрліся ў грудзі, пакуль яна не адпіхнулася моцнымі рукамі ад яго, не адкінулася побач з ім на спіну.

Па небе плылі і плылі, усе — у адзін бок, ад лесу, воблакі, месяц па-ранейшаму вартаваў рэчку, плыт, яго і яе на плыце, усю круглую зямлю пад імі, і было там, уверсе, усё незвычайна яснае, чыстае, пяшчотнае і казачнае. І Ягор яшчэ мацней адчуў, што ў гэтым свеце ён не можа існаваць асобна ад Юлькі, што яна даўно ў яго ў душы, што ён надта доўга трываў, гэтакі цярплівы, і вось прыйшоў канец яго доўгай цярплівасці. І, адвярнуўшыся ад зорак, ад месяца, ён ласкава абхапіў яе рукою,— другая рука ўжо намацала гузічак у яе на грудзях, пальцы зачапіліся за яго. Тады і ў яе ўваччу абкладзены хмаркамі месяц пакаціўся некуды ўбок, з ім разам пакаціліся хмаркі — вочы Ягоравы блізка, каля самых яе вачэй, blішчалі. Гучнае, нібы стогн, дыханне вырвалася з яе грудзей, і ў дзіўным хмелі яна закрыла вочы, страціўшы адчуванне нейкіх адных, неабавязковых у гэтую хвіліну, пачуц-

цяў і востра, нібы салодкі боль, адчуўшы іншыя пачуцці — новыя, пяшчотныя, даўно жаданыя.

Ноч бегла па сваім вечным коле, нетаропка мяняла фарбы. Ці даўно яны былі густыя, цёмныя, і вось ужо — светлыя, зрэджаныя, быццам іх хтосьці вадою разбавіў.

Надыходзіла раніца. Які ўжо раз Юлька падумала: добра было б на паўгадзінкі заснуць. Але сон да яе не ішоў.

Праз салодкі сон, варухнуўшы галавою каля яе плячa, штосьці прамармытаў Ягор. Яна прыслухалася — ці не прачынаецца? Не, спаў Ягор моцна, пасапваючы. Яшчэ б яму не заснуць: гэтакі дзень выстаяў на нагах з шастом. Ды і заснуў запаўнач. Яна асцярожна зняла з сябе яго цёплую пакорлівую руку, прыўзнялася, абаперлася на локаць, схілілася над яго тварам, які і ў сне ўсміхаўся, адгарнула з вачэй пасмачку валасоў.

Зямля, вада, неба мяняліся хутка, мянялі настрой і фарбы, быццам позна прачнуліся і цяпер спяшаліся навесці ранішні глянец. Сонца нетаропка паказала з-пад белага туману чырвоную макаўку, ўзнялося вышэй, зноў быццам прысела на ваду, памылася ў ёй, бесцюдзёнай уранні, пачысцела, бліскучастым ад расы берагам падкацілася пад стог сена, запаліла яго, пераскочыла на дрэва і яго запаліла таксама.

Упартая пасма зноў легла на вочы Ягору. Юлька зноў, асцярожна, адным пальцам адвяла яе ўбок.

Ягор усміхаўся, а Юлька глядзела на яго і думала: што яму сніцца? Хацелася ведаць — што? Напэўна — лес, дрэвы, плыты, розныя разцы ды пілачкі, якімі працуе па дрэве, а можа, бачыць, як цягне па вадзе маторкаю ад Малахавай смалакурні мораны дуб? Юлька зноў прылегла каля Ягора — шчакою на яго цёплае плячо.

А сніў Ягор тое, пра што Юлька не здагадвалася: карэту, запрэжаную чацверыком чырвоных, нібы ахутаных полымем, коней. У карэце на ўвесь рост стаяў Анкуда: высокі, чубаты, у белай нейлонавай кашулі, з чорным бліскучым гальштукам. Карэту з Анкудам коні неслі па-за рэчкаю, паўз ваду і лес, а нехта наўздагон крычаў: «Глядзі!.. Напалівон у залатой карэце!.. Лю-у-дзі! Напаліво-он!..» Анкуда чуў гэты крык, гана-

рыста круціў галавою, рагатаў, размахваў бізуном, блішчаў залатым зубам, і паўз яго ўсё неслася хутка, мільгацелі дрэвы, кусты, хаты, людзі. Усё ляцела і знікала, а ён не знікаў — імчаў на чырвоных конях і рагатаў, быццам з усяго свету здзекуючыся. Хтосьці ўсё крычаў і крычаў, надрываючыся, каб далёка чуваць было: «Напаліво-он!..» Ягор, пэўна, адзін ведаў, што ніякага Напалеона няма, што ў карэце імчыць Паўлюк Анкуда, а карэту выкапаў з зямлі дзед Малах, знайшоў яе на беразе Сажа, непадалёк ад сваёй смалакурні. Можа, Анкуда ўкраў яе ў Малаха ці, можа, дзед Малах сам яму яе аддаў — красуйся сабе, сукін сын, перад народам. Але дзе ён узяў гэтакіх прыгожых коней? Украў у калгасе ці на лесапункце?

І зноў чуваць: «Глядзіце, людзі добрыя!.. Напаліво-он!» Але ўжо не відаць нідзе Анкуды. І карэты нідзе не відаць. Адно лес, рэчка, палі, лугі навокал...

І яшчэ — хтосьці нібыта штурхае ў плячо...

## 7

Юлька і не спала і не заўважыла, як плыт наскочыў на корч — стаў. Супакоеная, з адчуваннем, што вось і зрабіла даўно патрэбны ў яе жыцці крок, цяжкі і неабходны, яна ляжала на спіне, бокам адчуваючы ўгрэтае, ажно гарачае цела Ягора, а вачэй не зводзіла з неба. Узышло сонца, але востры рог месяца тырчаў перад вачыма. Месяц быў танклявы, празрысты, нібы сточаны воблакамі, якія ўсю ноч каціліся па ім. Але чаму, думала Юлька, месяц ужо немалы час стаіць на адным месцы, не пасунецца ні ў адзін бок, ні ў другі? Ды і плыт бяжыць па рацэ, рака пятляе — усю ноч гэтак было: месяц то з аднаго боку блішчыць, то з другога. Што з ім? Яна прыўзнялася на руках, агледзелася: вярба таксама стаіць на беразе блізка — не рухаецца, на адным месцы — жоўтая пясчаная каса, зялёны пагорак, чарот. Няўжо плыт стаіць? Сапраўды, стаіць. Падалося Юльцы, што надта ціха вакол, ажно вусцішна. А Ягор нічога гэтага не бачыць, не адчувае. Ён спакойны. Выпрастаўся, на голае бервяно адкінуў загарэлую руку, твар павярнуў да Юлькі. Яна ўглядалася ў яго твар і думала: можа, у гэтым няма нічога дзіўнага, ніякай бяды, што стаяць, не плывуць? Яшчэ прыплывуць куды трэба. Хай Ягор паспіць, адпачне. А спаў ён зусім не па-мужчынску, як дзіця: не храпеў,

не сапеў, усміхаўся, быццам і не спаў, прыкідваўся, закрыўшы вочы, што спіць, да ўсяго на рацэ, на яе берагах прыслухоўваўся. Ці дыхае хоць? Юлька схілілася над ім — дыхае, адно ціха.

Дзень пачынаўся волкі, свежы, хоць ноч выдалася — сухмень, цяплынь. З таго боку, дзе ўзыходзіла сонца, налятаў лёгкі, яшчэ не прагрэты ранішнім сонцам ветрык. А небасхіл хутка наліваўся чырванню, быццам яго паклалі на брыж у кавальскім горне.

Юлька адчула прахалоду. Яна ўсцягнула канец дзяружкі на голае Ягорава плячо, падумала: навошта ён зняў з сябе кашулю, быццам дома ў ложку? Няўжо яму зусім не халодна? Ля галоў, за плытніцкім мяшэчкам, убачыла кофту — дацягнулася да яе, накінула на плечы. Седзячы, няёмка было яе апранаць, і Юлька паднялася ціха, каб не пабудзіць Ягора.

Стоячы на краі плыта, заўважыла, што вада з-пад яго ажно віруе. Змікіціла: ваду рэзаў корч, на які ўспёрліся ў цемені, лежачы, забыўшыся на плыт, на шост, на карчы. Гэты корч учапіўся за плыт недзе ад краю, пад чацвёртым ці пятым бервяном — відаць было па вадзе. Юлька ўзяла шост, адышла на рог плыта, ціха, каб не пялёскацца ў вадзе, не пабудзіць Ягора, запусціла шост пад плыт, намагаючыся намацаць той корч, падважыць плыт, але вада лёгка аднесла шост. Тады Юлька змерала глыбіню — дно недалёка.

Можа, пабудзіць Ягора?

І зноў пашкадавала: хай паспіць.

Аднак трэба было плысці. Ведала: плытагоны будуць чакаць Ягора ў запані. Саўка ні ў кога не будзе прымаць плыты, пакуль усе не збяруцца. Вось будуць мацюгаць Ягора!..

Юлька скінула [illegible] сябе кофту, сукенку, пастаяла, калоцячыся ад ранішняй рачной прахалоды, падумала, ці не скінуць і споднюю сарочку, і не скінула, не адважылася. Села на канцавую акораную бярэзіну, пабоўтала нагамі ў вадзе, узяла шост і рашуча скочыла разам з ім у рэчку. Вада падалася вельмі сцюдзёная, ды і глыбокая, вышэй, як па грудзі. Праўда, холадам апаліла адно спачатку — потым пацяплела, памякчэла, нібы сваім цяплом Юлька яе нагрэла.

Стоячы ў вадзе, лягчэй было намацаць корч: вось ён, зусім блізка, але ж вельмі цупкі ды коўзкі — ніяк не ўдзёўбнуць рачык, жалезны наканечнік шаста,— шост адлятаў, вада яго адносіла. Зноў і зноў Юлька

дзяўбла ў корч вастрыём і нарэшце зачапілася за яго, налегла на шост — корч паддаўся, адышоў, ды спружыніў, і рачык зноў адскочыў. Юлька не адступала, але рачык быццам натыкаўся на жалеза, цвярдзейшае за яго. Ужо рукі забалелі. І зноў пра Ягора падумала: ён адразу б даў рады. Але хацелася самой справіцца, спіхнуць плыт з карча, без Ягора.

Яна паклала шост на бярвенне, сабрала на галаве раскіданыя валасы, завіла іх у зграбную куксу, каб не лезлі ў вочы, і надумала дацягнуцца да карча рукамі: калі дрынчыць пад рачыкам, паддаецца, значыць, не моцна трымае плыт, значыць, можна, ёмка ў яго ўчапіўшыся, упёршыся, зламаць ці хоць спіхнуць убок. Чаго баяцца? Ныраць і плаваць Юлька як трэба, як усе беражанцы, што на Сажы павырасталі.

Але ад ніжніх тарцоў, дзе стаяла, супраць плыні не данырнеш. Яна абышла рог плыта, зайшла збоку, ад берага,— адсюль хоць і далей, але затое вада сама пад корч падгоніць.

Ужо за ракою палымнела ляснoе макаўе, сонца вытыркнула над ім свой расплаўлены горбік, быццам сачыла за Юлькаю. Ну-ну, прывеціла яна яго, пасвяці мне пад плыт. Зажмурылася, прыгрэтая сонечнымі промнямі, цяплынь адчула вачыма — добра зрабілася. Расплюшчыла вочы — зірнула туды, дзе ляжаў Ягор. Яму, відаць, не горш — таксама сонца прыгрэла, песціла твар, валасы. Юлька парадавалася, што не пабудзіла яго. Навошта будзіць? Прачнецца, а плыт плыве. І ведаць не будзе, што доўга на карчы сядзелі, што яна, Юлька, адна — падумаць толькі! — зняла плыт.

Вось ныраць не хацелася. Юлька стаяла на сонцы, грэлася, думала, як бы і плыт сапхнуць з карча, і ў ваду не ныраць?

Раптам да яе данёсся знаёмы роў матора, нямоцны, але жахлівы. Ён быў яшчэ далекаваты, прыглушаны глыбокай прасторай берага, пабурэлымі, пажоўклымі ўзгоркамі, але набліжаўся імкліва — вось-вось павінен быў вырвацца з-за ўзгоркаў.

Юлька замерла, пахаладзелымі вачыма ўставілася ў нерухомую далячынь. Там не было, здаецца, нічога, акрамя чыстай узгорыстай канвы далягляду: ні дрэўца, ні кусточка, ні хаткі. З жахам чакала, калі на ўзгорку з'явіцца той гул — ужо блізкі, нічым не прыглушаны, а ў ім, у тым гуле,— матацыкл. Гэта ён, ма-

тацыкл, ляціць сюды, да вады, да плыта, да яе, Юлькі, да Ягора. Гэта ён — Анкуда.

Яна зажмурыла вочы, моцна-моцна, да болю, каб нічога там, на ўзгорку, не бачыць, і тады штосьці магутнае, ад сэрца, штурхнула яе пад плыт, да таго карча, каб схапіцца з ім.

З глыбокім, нейкім падводным уздыхам плыт падняўся і апусціўся, як праваліўся ў яму,— вада залапатала паміж бярвення.

Ягор прачнуўся. Святло рэзнула па вачах. Ён зажмурыўся, агледзеўся вакол: Юлькі няма і плыт стаіць. Дзе Юлька?

Ускочыў на ногі.

А неба — высознае! Ружовае і блакітнае. Сонцаззяе, ажно вачам балюча. І нідзе ні душы жывой. Адны коні. Чырвоныя, а грывы ружовыя — ад сонца. Коні — на зялёнай атаве.

Ягор прыставіў далоні да рота:

— Юлька-а!..

— А-а-а!..— Рэха неслася з-за пажоўклых узгоркаў, быццам безнадзейны чалавечы плач.

Цішыня...

Раптам з-за ўзгорка да Ягора даляцеў гул матацыкла. Ягор насцярожыўся: хто там едзе? Ён з жахам адчуў нейкую сувязь паміж знікненнем Юлькі і матацыклам, якога яшчэ не бачыў. Ягор захваляваўся, яго позірк, поўны роспачы, забегаў па берагах, чапляючыся за кожную водмель, лагчыну, за кусты і дрэвы, шарыў па вадзе, чароце, кідаўся то далёка, на грэбені ўзгоркаў — там было пуста, то амаль пад ногі на плыт — тут ляжаў грудок прысаку ад учарашняга вогнішча, махныткі, чорны, як махныткі, чыгун з задзеравянелай бульбаю, бярэмца зляжалага пад бакамі сена, плытніцкі мяшэчак, кофта... Кофта?.. Ягор падхапіў кофту... Пад ёю — суконка: кветкі жоўтыя...

— Юлька-а!..

Ягор кінуўся ў ваду.

## 8

Зіхацела раніца. Яна ўжо змыла з берагоў і рэчкі апошнія лахманы ценяў, якія трымаліся ад начы, раскатвала па небе ружовыя і блакітныя дарожкі. І ніякія

зямныя драмы, як быццам не адбіваліся на спаконвечным раскладзе, па якім жыло неба.

Ды і на зямлі, як на небе, усё цякло па спаконвечных законах ракі, якая абыходзіла пясчаныя водмелі, узгоркі, бары, вёскі. Назаўсёды змаўкаў чыйсьці голас? Але ўсе астатнія галасы прачыналіся ў наканаваны ім час, былі чыстыя і маладыя, поўнілі жыццём лугі, палі, лясы, рэчку.

Там — чуўся тупат коней, паднятых сонейкам на працу.

Тут — у вадзе весела плёскаліся жабы і рыбы.

Там — на ворыве — ужо вёў сваю працоўную песню калгасны трактар. Песню аб хлебе надзённым.

Тут — над ракою — бесклапотна, ■ пустога ў парожняе, пераліваў гукі, нібы ваду, жаўранак.

Па Сажы плыў плыт. На ім каля ўчорашняга, за ноч зусім пасівелага вогнішча сядзеў Ягор Кавалёк. Ён сядзеў на шурпатай бярозавай калодзе, на якой звечара каля вогнішча сядзела Юлька. Упёршы локці ў калені, узваліўшы на рукі цяжкую галаву, ён уставіўся на сукенку ў жоўтых восеньскіх кветках, а ў галаве была яна, адна яна. З думкамі аб ёй яму было ўсё роўна куды плысці, колькі дзён і начэй плысці.

Зноў, ужо блізка, пачуўся гул матацыкла. Калі ён аціх, зусім блізка, Ягор узняў вочы: матацыкл з каляскаю, такі, як у Анкуды, стаяў на беразе рэчкі, каля вады.

З матацыкла злез пажылы мужчына. Дастаў з каляскі вудачкі, узяўся разматваць. Ён не глядзеў на плыт, на Ягора.

Ягор ад яго адвярнуўся, глядзеў на жоўтую сукенку, пад якою ляжала Юлька.

— Што ж ты нарабіла? — шаптаў ён, уставіўшыся на яе пахаладнелымі, быццам шклянымі, вачыма.— Навошта ты лезла пад плыт? Стаяў бы ён колам.

Вочы глядзелі як у туман.

— І хто вінаваты? — думаў Ягор.— Выпадак? Маці заўсёды казала, што чалавек ходзіць пад выпадкам. Гэтак казала, як хавалі бацьку. А ён увесь апошні год хварэў, сам збіраўся на той свет, дошкі на труну ў хляве трымаў. З хаты не выходзіў, і раптам надумаў суседцы франтон зашыць. Памру, казаў, дык спамінаць будзе: жыў побач сталяр, а не пасобіў. Паставіў драбіну, палез на хату, а нага і саступіла з драбіны. Выпадак? Можа быць: вісіць над чалавекам мільён выпад-

каў, а выбірае чалавека які-небудзь адзін. Вось і Юльку адзін выбраў. Магла б учора не плысці. Не, паплыла. Магла б яго пабудзіць — не пабудзіла. Магла б не лезці пад плыт — палезла. Выпадак?..

Не... Сама бяду чула. Яшчэ ўчора. Анкуда, маўляў, не на добрае прыляцеў. Штосьці будзе. Бяда будзе. Адчувала.

У небе, вольна і моцна раскінуўшы крылы, нават не варушачы імі, не робячы ніводнага ўзмаху, плыла вялікая прыгожая птушка. То ўзлятала высока, то знізжалася ледзь не да самай вады і травы, потым зноў набірала вышыню, выпісвала ў паветры круг за кругам, пільна прыглядаючыся да жыцця на зямлі, на рацэ. І раптам, нібы наліўшыся неверагодным цяжарам, яна рынулася з вышыні ўніз, каля самай зямлі спыніла сваё падзенне, падскочыла ўгару, і побач з ёю, крыху ніжэй, затрапятала малая светлая пташачка. Яна хацела жыць, з усіх сіл біла крылцамі, шукаючы паратунку. Але вораг быў мацнейшы, і знясіленая пташка нікуды не магла схавацца ад кіпцюроў, якія віселі над ёю. Зусім страціўшы сілы ў няроўным змаганні, яна раптам успомніла, што акрамя неба ёсць яшчэ і зямля, а на зямлі — таемныя хованкі, і з апошніх сіл, ужо амаль падаючы на зямлю, яна панеслася да блізкага зялёнага куста. Куст мог схаваць яе, малую, мог уратаваць, але было ўжо позна — драпежніца якія два разы ўзмахнула вялізнымі крыламі і каля самага куста знікла разам з малой птушкай. А ў наступны міг яна ўжо ўзляцела над кустом і нізка, над самым лугам, паляцела да лесу. У кіпцюрах яна трымала сваю ахвяру.

Гэта палявала зязюля.

Ягор яшчэ з матчыных слоў ведаў, што ў канцы лета, сытаю для ўсіх — для чалавека і птушкі — парою, бяздомная блудніца і гультайка рабілася драпежніцаю. Нават свае пісклята, пагадаваныя ў цеплыні чужых гнёздаў, здаралася, трaплялі ў яе жорсткія кіпцюры.

Рогам грабёнкі плыт паранаў пясчаную касу, вынес задні рог наперад, перакруціўся другі раз, трэці — пайшоў мераць бераг рагамі, закружыўся. І пабеглі па крузе, закружыліся ў вачах у Ягора зямля, вада, неба.

Жоўтыя кветкі ўспыхвалі і гаслі ўваччу зыркімі плямамі. І таксама кружыліся, кружыліся.



# ДЗЯЛЬБА КАБАНЧЫКА

АПАВЯДАННЕ

Ад аўтобуснага прыпынку Сцяпан не пайшоў на прасёлак, які кругам, паўз магільнік, вёў у вёску, а падаўся выганам, як бліжэй.

Таго выгану трыста крокаў, за ім — і матчын плот.

Нагою адкінуўшы ў плоце штыкеціну, якая вісела на адным цвіку, Сцяпан прасунуў у дзірку сумку, паставіў за плотам, за ёю бокам пралез сам. Штыкеціну прыладзіў на ранейшае месца, быццам веснікі зачыніў.

Снегу і тут, у вёсцы, ані парушынкі, як усю дарогу ад Мінска, ні на выгане, ні ў садзе, хоць пара б ужо легчы. Падумаўшы гэтак, Сцяпан пастаяў пад яблынькаю, агледзеў, галаву задраўшы, чорнае голле, сумнае без лісця і яблык, абвёў вачыма чорную, падшэрхлую, не сагрэтую снегам зямлю, па якой вецер расцягаў бурае пакурчанае лісце, раскатаў дробныя гнілякі-яблыкі. Падышоў да старой грушы-вінёўкі. Яшчэ грушы віселі, вышэй — гусцей, ды буйныя, жаўтлява-зялёныя, нават лісце трымалася, пажоўклае. Паставіўшы сумку на зямлю, Сцяпан падскочыў, груш не дастаў, але галіну зачапіў — дажджом сыпанулі.

Падабраўшы з зямлі ладную, у руцэ ледзь месціла-

ся, самую жоўтую грушу, кусануў, але ні грама не адкусіў — камень каменем. Сок, праўда, лінуў, салодкі. Паглядзеў на яе, падзівіўся, падкінуў у руцэ і схаваў, пашкадаваўшы выкідаць, у кішэню.

Каля хлява, як заўсёды, прывітаў Арсік: выскачыў з будкі, звякаючы ланцугом, стаў на заднія лапы, пярэднімі гроб у паветры, нібы плывец у вадзе, цягнуўся мордаю да Сцяпана, вёрткім пушыстым хвастом, чорным, як увесь сам, мёў зямлю. Сцяпан прысеў ля сабакі, малога, хоць ужо старога — парода такая,— аберуч узяў галаву, лагодна, нібы вінаваты, глядзеў у адданыя сабачыя вочы.

— Ну што? Без мяне тут сумуеш? — Сабака аж калаціўся ад радасці, цёплым языком лізаў рукі, а Сцяпан яго адпіхваў.— Ды пачакай! Вось... прывёз і табе.

З кішэні балоневай курткі выцягнуў кулёк, разгарнуў на калене газетную паперу — падняў над сабакам вараную, са сваёй рабочай сталоўкі, рыбіну.

Сабака падскочыў, схапіў гасцінец і павалок у будку.

Маці выйшла з хаты. Два пустыя вядры ў руцэ — ішла па ваду. Сына заўважыла — спынілася пад акном. У рыжым, старым, кругом палатаным кажусе, у шарсцяной хустцы, якую Сцяпан купляў у Мінску яшчэ да арміі.

— Ну што ты стаіш? — спытала зводдаль і замоўкла, адно вачыма лагодна ўсміхнулася, нібы казала-клікала: ну падыдзі да мяне, сынок...

Вёдры на зямлю паставіла, сама падышла.

Упартая стрыманасць у Сцяпанавай натуры змалку: руку падаў і больш — ані знаку, што рады сустрэчы з домам, з маці. Але гэта — адно першая хвіліна. Потым як глянуў маці ў вочы, малыя, нявінныя, нейкія галубіныя, з самотнай пякучай чырванню, у гусцейшых, як апошні раз, калі бачыліся, маршчынах, сэрца скранулася: сунуўся халодным носам у матчын твар, пацалаваў у шчаку. Ад непрывычкі засаромеўся сваіх раптоўных пачуццяў — адхінуўся, апусціў вочы, быццам не ведаў, як апраўдацца.

Маці сама знайшла словы, ціхія і простыя, нібы не заўважыла сынавай разгубленасці:

— Вось ты, Сцёпа, узяў мяне за руку, і яна ўжо заныла.— Левай памацала правую, пад локцем.— Сёння ноччу была аднялася. Я і ў хустку ўкручвала, і шкіпінарам націрала.

— Да доктара ці хадзіла?

— А што доктар? Кажа, гэта ад нерваў. Ад сэрца. А калі так, то якое лячэнне?

— Як жа ты робіш? — паспачуваў Сцяпан.

— А так і раблю. Пасяджу, пастагну, крыху адпусціць. А пасля зноў. Добра, што прыехаў. А то б і не ведала, як з кабаном управіцца.

— Гэта мне Волька сказала, каб ехаў, што ты кабанчыка біць надумала. Учора б выехаў, ды рабіў позна, у другую змену. А сёння ў мяне выхадны. І заўтра.

— Волька ж прыедзе?

— Абяцала.

— А Вера? Яна ці ведае?

— Волька званіла.

— Каб хоць раз усе сабраліся. А то на каляды вас не дачакаешся. Веру ад самай вясны не бачыла. Гразілася, што сенавацъ прыедзе, і не прыехала. Забываеце на вёску, на матку.

Яна залыпала вачыма, і Сцяпан, ведаючы, якія лёгкія ў яе вочы на слёзы, паспяшаўся загаварыць пра іншае:

— Ідзём, кабана пакажаш.

Яна адчыніла хлеў, і цёплы, густы дух гною чухнуў у твар, выкаціўся на двор, а [redacted] двара святло ўкацілася ў хлеў, высвеціла высокі груд саломы ад сцяны, пад страхою, сячкарню, нацярушаную пад ёю сечку, [redacted] другога боку — загарадзь, слупы і жэрдкі, паабгрызеныя кабанамі, закарэлыя. Кабаны совалі паміж жэрдак лычы, доўгія і шэрыя, нібы ў дзікоў, рохкалі, грызлі жэрдкі, варушачы ружовымі пятакамі,— прасілі есці.

Маці падышла да загарадзі, і Сцяпан падышоў, стаў побач. Глядзелі на кабаноў. Іх было два, не вельмі ўкормленыя, але рослыя, роўныя — як адзін, так і другі, не адрозніць.

Для маці затое не аднолькавыя:

— Вось гэтага вастралычага прыбяром. Вась-Вась!..— злавіла свінячае вуха, пачухала.— Гэты слабей есць. Абодва елі — толькі давай, хапалі, а пасля што з гэтым зрабілася?..

— Ну... пайду па Лёніка.

Сцяпан выйшаў на вуліцу. За веснікамі пастаяў, агледзеўся. Вуліца была пустая: ні людзей, ні сабак, ніводнай жывой душы. Падумаў, што ўжо даўно не раніца, трэба спяшацца, але пачуў, як за спіною звякнулі матчыны вёдры,— схамянуўся: трэба ж вады пры-

несці, каб маці хоць сёння не рвала хворыя рукі. Але яна ўжо заварочвала за хлеў, дзе калодзеж.

Вокны Лёнікавы на тым самым баку вуліцы, што і матчыны, праз тры двары. Сцяпан прасунуў руку між штыкецін, адкінуў зашчапку, прычыніў за сабою веснікі, па раўнюткім, з дошак, тратуарчыку прайшоў да новага ганка. Не спяшаючыся ў хату, агледзеўся, падзівіўся, як Лёнік, малады гаспадар, на якія тры гады старэйшы за Сцяпана, усё ля хаты давёў, панабудаваў хлеўшкоў, нават лазенку. Без памочнікаў, сам. І цесля і сталяр.

Ён і цяпер рабіў: стаяў пасярод сянец ля стала, на якім ляжала шкло, прымерваўся доўгай лінейкаю, трымаючы паміж пальцаў алмаз.

— Здароў, вечны труджанік! — прывеціў Сцяпан.

Той спадылба, праз бялявыя валасы, звешаныя на вочы, паглядзеў на госця, не адрываючы рук ад шкла і лінейкі, бадзёра, Сцяпану ў лад, адказаў:

— Прывет рабочаму класу!

Шаркнуў алмазам уздоўж лінейкі, пасунуў шкло на край стала, лёгенька разламаў напалам. Павярнуў другім бокам, зноў прыклаў лінейку, зноў шаркнуў — шкло хруснула, дзынкнула, вузкі пасак раўнютка адскочыў. І толькі цяпер Лёнік паклаў алмаз, падаў госцю руку.

Пад вялізным, на паўсцяны, акном веранды стаяла такая самая фрамуга, яшчэ жоўценькая, свежая, нядаўна з-пад гэбля.

— Падвойныя ў сенцах? Здаецца, ніхто не ставіць,— заўважыў Сцяпан, здагадаўшыся, што задумаў сусед.

— А я пастаўлю.

— Адзін дома?

— З малым.

— З Віцем?

— Другога пакуль няма. Пад другога яшчэ толькі падмурак завёў,— з годнасцю ўсміхнуўся Лёнік.

— Валя дзе?

— На ферме. Ну заходзь у хату.

Лёнік шырака адчыніў перад Сцяпанам дзверы, але Сцяпан іх зноў зачыніў:

— Пойдзем да мяне.

— А што ў цябе? Чарка? Скварка?

— Трэба кабана закалоць. Швайка ёсць?

Сусед змоўчаў, але па тым, як паглядзеў на свае

брудныя штаны, на далоні, як зняў са сцяны старую фуфайку, ускінуў на плечы, як узяў з падаконніка кепку, хвастануў ёю па калене, выбіў пыл з пілавіннем, ускінуў на галаву, Сцяпан зразумеў, што Лёнік ужо збіраецца, без лішніх слоў. Тут жа, у сенцах, адчыніў дзверы ў клець, зайшоў туды, у цямноту, заляскатаў жалеззем, нештачка шукаў.

— Паяльную лямпу браць? — спытаў адтуль.

— Ёсць у маткі.

— Дзвюма хутчэй. А бензін?

— Можа, ёсць, а можа, няма.

На дне ў каністры плёскалася — вынес з клеці і лямпу і каністру. Паставіў адно і другое ля парога, прынёс шыла не шыла, штых не штых, тую самую швайку, да белага бляску надраеную жывым свіным салам.

— Ох і даўно яна табе служыць!

— Каб жа мне аднаму. Усёй вёсцы. Хто кабана ні б'е, усе да мяне: дай, Лёнік, швайку. Вяртаюць — і свежы кавалак у прыдачу. Можна кабаноў не трымаць, швайка пракорміць.

Ён ужо выйшаў на двор, а Сцяпан не паспеў, затрымаўся ў сенцах, калі хатнія дзверы адчыніліся і на дзвярной ручцы, ухапіўшыся за яе абедзвюма рукамі, павіс Віця, шасцігадовы Лёнікаў атожылак, мурласценькі, як бацька, з абвіслымі ніжэй пупка штанамі — абармот абармотам.

— Здароў, дзядзька Сцяпан!

Дзе ж таму дзядзьку не запыніцца з пляменнікам? Запыніўся, а малы, доўга не думаючы, схапіў за руку, пацягнуў у хату, прыгаворваючы:

— Ідзі-ідзі, не ўпірайся.

Сцяпан малых любіў, з імі часам знаходзіў большае паразуменне, як з дарослымі, з імі ўдавалася палюдску пагаварыць, без хітрыкаў, хованак, і таму, можа, малыя да яго ліплі таксама. А з Віцем дружба асаблівая: нейкі ён не такі, як усе малыя. І сур'ёзны, часам, здаецца, мудры, нібы дзед, і смешны — душою з ім адпачнеш. Вось і цяпер пасадзіў Сцяпана за стол, сам сеў насупраць, падпёр галаву кулаком, пытаецца:

— Ты да каго прыйшоў? Да мяне ці да майго бацькі?

Паспрабуй сказаць, што да бацькі.

— Справа ў мяне, Віця,— пачаў выкручвацца.

— Эх, дзядзька Сцяпан! — пакутліва, нібы стары,

уздыхнуў хлопчык.— Цяжка мне тут жыць. Няма з кім пагаварыць. Думаеш, з бацькам пагаворыш? Маці качку зарэзала, дык ён кажа: дай абсмалю паяльнай лямпаю. Заліў у лямпу салярку і смаліць. Ну, галава старая? Качку тую да носа не паднесці, смярдзіць салляркаю. Во які ў мяне бацька. А маці лепшая? Узяла ды выкінула тую качку сабакам. Пытаюся: навошта ты качку сабакам выкінула? Ужо як-небудзь з'еў бы, давячыся. Не чуе быццам.

Сцяпан здзіўляўся, як Віця гэтак можа гаварыць, хоць з раўнёю, хоць з дарослым, адкуль у яго бяруцца тыя словы, думкі? Малы, а яму дарослы не дакажа.

— Нешта ты на бацькоў вярзеш? — спытаў.

Хлопчык глянуў на яго яснымі разумнымі вочкамі:

— Быў у мяне дзед Ёська, тады жылося весялей. Ці помніш дзеда Ёську? Во гэта быў дружбак!

— Тут ты ўжо загнуў дык загнуў! — не ўтрымаўся, зарагатаў Сцяпан.— Дзед Ёська тры гады як памёр.

— А я і кажу, што памёр. Я і шкадую,— яшчэ мацней, перажываючы, нахмурыўся Віця.

— Адкуль ты яго памятаеш? Табе тады было тры гадкі. Якія ў вас маглі быць размовы, справы?

Віця засоп, скрывіўся, адно вока хітра заплюшчыў, другім уставіўся на Сцяпана — з прыкрасцю, болем:

— Бачу, што і ты не лепшы за майго бацьку. Усе вы... Акрамя дзеда Ёські. То быў чалавек!

Да матчынай хаты Сцяпан бег вясёлы: ну і малы! Прыбег, а кабан ужо ляжыць на баку ля хлява, над ім стаяць маці з Лёнікам, гадаюць, колькі заважыць — пяць ці шэсць пудоў? Маці давала меней, а Лёнік болей. Ён смяяўся, што ўсе жанчыны са сваім вечна хаваюцца, даюць свайму меней, як чужому, а мужыкі, наадварот, сваё перад чужым не зганяць ніколі.

— Дзе ж праўда? — маці дапытвалася ў Сцяпана.— Як па-твойму? Пяць ці шэсць?

— Не ведаю. Во... вам сюды б Віцю.

Лёнік рэзка, аж са злосцю, сунуў швайку ў сцяну хлява, у шчыліну, сумнымі вачыма паглядзеў на Сцяпана, хацеў штосьці адказаць, ды змоўчаў, адно спытаў:

— Дзе твая салома?

Кабана вынеслі за хлеў, паклалі на чыстую саломку, у пашчу ўсунулі камень, як рабілі заўсёды перад смаленнем. Лёнік распаліў паяльную лямпу. Прынёс сваю і Сцяпан.

Маці прытарабаніла вялізны чыгун з цёплай вадою, вядро халоднай — абліць гарачыя кішкі,— чыстыя анучы, нажы.

Лёнік трымаў у кожнай руцэ па лямпе, двума слупамі агню зганяў поўсць, распаленую да чырвані, да залацізны, якая тут жа і гасла, асыпалася шэрым прысакам. Сцяпан трымаў кабана за ногі, падварушваў, каб Лёніку лаўчэй было смаліць, следам за лямпаю абшкрабаў гар і так захапіўся, што не бачыў нічога, акрамя кабана, суседавых рук з лямпамі ды нажа ў сваёй руцэ. Абодва стараліся, як сабе. Абсмалілі і абшкрэблі з аднаго боку, пасля, перавярнуўшы кабана, з другога, паклалі на спіну і абсмалілі жывот, ногі, пахвінне.

Нарэшце Лёнік адставіў лямпы, абшкроб і абмыў вушы, лыч, хвост, капыты. Кабанчык быў гатовы. Ён ляжаў чысты, румяны, быццам пірог, які толькі што дасталі з печы. Сусед млосна разагнуў спіну, у добрым настроі ўсміхнуўся цётцы, рады і сваёй удалай рабоце, і ўдаламу кабану, і памочнікам.

Шырокі стары ўслон, які Сцяпан спусціў з гарышча, аблілі вадою, абцерлі, паклалі на яго кабана, пад бакі, каб не скаціўся, падсунулі паленне. Сцяпан ухапіўся за пярэднія ногі, стаўшы ля галавы, а Лёнік, трымаючы заднюю левую, прыклаў нож да грудзіны.

— Кубак, цётка Ганна! Кроў выбіраць. А куды зліваць? Не выліваць жа дабро?

Яшчэ кроў не выбраў — зноў каманда:

— Чысценькую анучку...

Маці толькі на падачы стаяла ды падказвала як гаспадыня, куды што класці. Праўда, быў яшчэ клопат пільнаваць катоў, каб каторы не звалок кавалка. Двое вусатых сядзелі на плоце, маўчалі, а свой Васіль, здаровы драпежнік, нібы рысь, шэры з белымі лапамі, падбіраўся ўсё бліжэй да свежыны, каўкаў і аблізваўся. Маці зладзюгу ведала — вачэй з яго не зводзіла.

Калі кабана разабралі, расклалі ў тазы, у ночвы, тады прыехала Ніна, малодшая Сцяпанава сястра. Жыла яна блізка, у суседнім раёне, у вялікім рабочым пасёлку, там была замужам, рабіла фельчарыцаю, але ў вёску, хоць і блізка, наведвалася радзей, як старэйшыя сёстры з Мінска. Яе прыезду маці не чакала і таму, відаць, абрадавалася болей, як сыну: кінула і кабана і катоў — бегма насустрач.

Сцяпан у гэты час паліў салому, на якой смалілі.

Падкінуўшы мокрую ў агонь, паглядзеў на сястрыцу ў белым плашчыку, чырвоным берэціку, лакавых чаравічках, таксама падышоў:

— Во... хоць кабанчык прывёў да маці.

Хацеў сказаць жартам, ды атрымалася злосна. Думаў, што і сястра жартам адкажа, а яна ўскіпела:

— Можа, ты яго гадаваў?

Схапіліся, як чужыя, не паспеўшы павітацца. Але маці не дала волі іхняй спрэчцы:

— Збегай, сынок, у магазін. Бутэльку я вам з Лёнікам прыпасла, ды як на ўсіх — мала будзе.

— Не трэба,— запыніла, супакойваючыся, Ніна.— Я таксама прывезла.

— Ну дык... А дзе ж гэта Лёнік дзеўся?

— Пайшоў сваім свінням даць. Пазней прыйдзе.

— Тады, сынок, сечкі нарэж. Трэба запарыць карове, цяляці. Вось ты, Ніна, доктар. Што гэта ў мяне з рукою? Баліць і баліць. Нічога падняць не магу.

— Можа, сячкарняю сарвала?

— А што ты думаеш?..

Пакуль да сячкарні, Сцяпан прынёс суды вады, вядро ўліў у таз з кішкамі, унёс у хату тазы з мясам і салам, у хаце, у зале, на падлозе раскінуў цырату і расклаў на ёй свежыну. У печы маці не паліла, каб свежына астывала. Пазачынялі ад катоў дзверы. І тады Сцяпан пайшоў у хлеў.

Дзе сячкарня, там і салома — кладзі пад нож, раскручвай кола. А яно чыгуннае, цяжкое. Сцяпан знайшоў пад страхою маслёнку, змазаў шасцерні, вал, наклаў у латачыну саломы, падсунуў пад нож, налёг на кола. Гэта адно спачатку, на першых кругах, цяжка, а пасля, як раскруціш, кола бяжыць і бяжыць, паспявай рукою махаць: чах-чах, чах-чах. Аднаму, праўда, нязручна: і круці, і салому падкладай. Спіна пруцянее.

— Дзядзька Сцяпан? — скрозь грукат кола і чаханне нажа пачуўся заклапочаны Віцеў голас.

Азірнуўся:

— Што?.. Пасобіць прыйшоў?

— Хай табе бог пасобіць.

— Бог? — здзівіўся Сцяпан.— Ты гэта ад каго пачуў?

— Ад каго? — Віця пашкроб пяцярнёю цемечка, надзьмуўся, вочы адвёў убок, быццам нялёгкае штосьці думаў.— Бацька казаў...— пасоп у нос, зірнуў спадылба на Сцяпана.— Казаў, каб ты садзіўся за стол,

яго не чакаў. Яму дурна. Учадзеў ад гэтай, ліха на яе, лямпы.

— Ты што кажаш? — не паверыў Сцяпан.

— А што чуеш.

Цяпер ужо Сцяпан чухаў патыліцу — не чакаў такога. Ды і Лёнік не казаў, каб учадзеў, пайшоў, паабяцаўшы вярнуцца, як дасць свінням. Каб на двары, на ветры ўчадзець?

— Ну я да яго збегаю.

Але Віця загарадзіў дарогу:

— Хай стары спіць. Можа, яму палепшае.

І тут Сцяпан убачыў суседа. Той стаяў пасярод двара ўжо ў касцюмчыку, чаравіках — курыў. Сцяпан абрадаваўся, паспяшаўся з хлява, забыўшы на Віцю.

— Што з табою?

Лёнік глядзеў, не разумеючы:

— Ты пра што?

— Ды галава, кажу... Чаго яна раптам хапіла?

Той спахмурнеў, пачаў азірацца:

— Мой шмаравоз тут быў?

А Віця ўжо выскачыў на агарод і паўз плот, сагнуўшыся, краўся ў бок свайго саду. Лёнік заўважыў, схапіў камлюжыну — яна грукнула ў плот за спіною ў хлопчыка, рассыпалася. Віця на момант прыпыніўся, спалохана азірнуўся і памчаў, аберуч трымаючыся за штаны, каб не згубіць.

Сцяпан і Лёнік пасмяяліся, пайшлі ў хату.

У матчынай хаце, як у кожнай вёсцы, гэтак адвеку вадзілася: дзень, калі білі кабана, быў святам, за стол збіралі гасцей. Праўда, цяпер госці не тыя, што некалі, пры бацьку, тады іх прыходзіла болей. І пілі болей, і елі болей. Цяпер каго маці пакліча? Жанчыны па хатах не хадзілі, а мужчын не было каму клікаць. Хіба Сцяпану? Але яго сябры разбрыліся па гарадах, як ён сам, нікога такога, яму роўнага, акрамя Лёніка, не засталося. І ўсё ж — як раней, у сенцах і хаце моцна пахла смажанай свежынаю, гарачай бульбаю, на стале свежына стаяла і ў чыгунку, залітая гарачым тлушчам, і на скавարадзе — еш, хоць расперажыся.

Ледзь селі за стол — вароты рыпнулі. Маці першая пачула, усхапілася да акна, фіранку адкінула:

— Нашы прыехалі! Коля... А з ім гэта хто? Волька, мабыць? Можа, і Андрэйка?..— Выбегла за парог, а следам і Ніна.

